I

Канчалі жніво.

Касілі ячмень у Казіным урочышчы — на стогектарным полі асушанага тарфяніку. Пра гэты ячмень жартавалі, што ён падвёў агранамічную навуку і начальства, якое заўсёды патрабуе сеяць як мага раней. Майскія замаразкі абпалілі ўсходы на тарфяніках, і ўвесь гэты клін перасявалі з невясёлымі прагнозамі галоўнага агранома. Ячмень вырас адменны — намалочвалі па сорак пяць цэнтнераў. Але, загушчаны, палёг. Трудна касіўся ячмень. Складзены планавікамі графік трэскаўся і рваўся.

Камбайнеры з графіка пасміхаліся, бо з яго пасміхалася прырода: то вялікая палегласць на перагноеных участках, то дожджык спыніць працу. Чаго не бывае пад небам, на зямлі, гэта не тое, што пад заводскім дахам, на канвееры. Але людзі, якія складалі графікі, мімаволі пачыналі мысліць і жыць па гэтых графіках. Яшчэ напярэдадні тэлефонныя драты панеслі вестку, што да абеду наступнага дня ў саўгасе «Добрынскі» ўсё зерне будзе на таку. Добрая вестка высока ўзлятае. Яна тут жа даляцела да вобласці, парадавала і тых, хто сапраўды кіраваў уборкай, і тых, хто думаў, што не што іншае, як яго праца ў канторы, памагло камбайнерам у «Добрынскім».

Упраўленне сельскай гаспадаркі і аблсаўпроф вызначылі прэміі і вырашылі, не адкладваючы, уручыць іх пераможцам, тут жа, на полі, як толькі будзе абмалочаны апошні гектар. Прэміі ж узвышаюць не толькі тых, хто іх атрымоўвае, але і тых, хто іх выдае, уручаць іх — найпрыемнейшы абавязак.

Астаповіч, прыняўшы званок аб прыездзе гасцей, выклікаў па рацыі з поля Віктара Кузю, галоўнага агранома, а з суседняга кабінета прымітыўным спосабам — стукам у сцяну — Якава Качанка, прафсаюзнага лідэра. Весела, як бадай заўсёды, калі ўзнікалі «цікавыя сітуацыі», спіхнуў уручэнне прэмій на іх — на сваіх баявых памочнікаў. «Я — у трэцяе аддзяленне, на комплекс. А вы... выкручвайцеся тут». Кузя ўбачыў, што ў дырэктаравых пабляклых вачах пад сівымі-сівымі брывамі скокнулі чорцікі, і яго, асілка, цяжкаатлета, ударыла ў пот ад такой "навукі". Хітруган дзедаган: ён жа добра ведае, як ідзе ўборка ў Казіным. Але хаця б слова выбраў. «Выкручвайцеся»... Ды, яму што асоба, велічыня, член абкома. І пенсійны ўзрост. А ён, Віктар Кузя, без года тыдзень — галоўны. Яго кар'ера толькі пачынаецца. Хораша пачынаецца. Каму з яго равеснікаў пашанцавала праз чатыры гады пасля інстытута стаць галоўным аграномам лепшага ў вобласці саўгаса?!

Віктар — ідэаліст і максімаліст. Марыў жыць па закону і працаваць па закону. А пасада часам вымушае ісці на змову са сваім сумленнем, на самыя нечаканыя хітрасці і камбінацыі. Астаповіч яго часта захапляў творчым размахам, маштабнасцю планаў, смеласцю рашэнняў, а часам абураў, як гэтым вось «выкручвайцеся». Неаднойчы з'яўлялася адчуванне, што дзед, набраўшы моладзі, вучыць яе падзедаўску: штурхне ў бурлівую плынь ракі жыцця, а сам стаіць на беразе і, пасміхаючыся, назірае, хто выплыве, а хто «пусціць бурбалкі». І рукі не падасць, калі ўбачыць, што ты слабак, што цябе закруціла вось такое «выкручванне» — значыцца, дурань, не ўмееш, не за тое ўзяўся.

Малады аграном баяўся, што калі-небудзь і ён апынецца ў такім віры і не выплыве. І Астаповіч не паможа.

Кузя пазайздросціў аптымізму «рабачкома».

Якаў Качанок весела гукнуў:

— Выкруцімся, Хведар Цімафеевіч! Не ў такіх пераплётах былі.

Ехалі ў Казінае на матацыкле. Гнаў аграном што на пажар, асабліва страшнай была такая хуткасць на лясной дарозе. У Качанка халадзела ўсяродку: разаб'е, лайдак.

У саўгасе даўно кпілі: як матацыклетныя пакрышкі вытрымліваюць такога асілка, як Віктар Кузя? А тут яшчэ на заднім сядзенні прымасціўся хоць і нізкі ростам, але добра акруглены на кіруючых пасадах Качанок. Сапраўдны качанок. Горача дыхаў Віктару ў патыліцу, у вуха. Ад «рабачкома» несла цыбуляй, і Кузю, які лічыў сябе чалавекам зямным — аграномам не па навуцы, па прыродзе, упершыню раздражняў гэты зямны дух. Можа, таму і газаваў так, каб на хуткасці цыбульны пах адносіла назад.

Віктар злаваўся на Астаповіча, нерваваўся, таму і раздражнялі дробязі. Хоць, калі паразважаў, яго не так ужо трывожыла, што прыйдзецца «выкручвацца», што ячмень у Казіным не ўвесь убраны, а прэмія едзе: не ён паспяшаўся пасылаць звесткі, няхай пакруціцца той, хто паслаў. А ўрэшце, гэта дробязь. Уборка прайшла добра, і камбайнеры заслугоўваюць прэміі. Не скосяць сёння, скосяць заўтра, невялікая бяда. Непакоіла іншае. Ячмень пасеяны там, дзе яго, згодна з інструкцыяй міністэрства, не варта было сеяць,— па мелкіх тарфяніках. Ён, галоўны, пярэчыў, калі яшчэ зімой утрасалі планы сяўбы, але Астаповіч паслухаў яго вучоныя перакананні, запісаў нават у пратакол, а пасеяў па-свойму — пад ураджай гэтага года. І вось калі туды зараз прыедуць з абласнога ўпраўлення аграномы-спецыялісты, якія стаяць на варце інструкцый, то могуць вывезці ілюстрацыю для чарговага даклада на абласной нарадзе ці нават на пленуме обкома,

Вока ў такіх рэвізораў пільнае. Яны пахваляць ураджаі, вып'юць каньяк, які Качанок вязе ў турысцкім рукзаку, а факцік падчэпяць і абавязкова падкінуць начальству. З дзеда, безумоўна, што з гуся вада, ён недасягальны; апраўдваючыся, на дырэктара нават спаслацца будзе неэтычна, усё роўна паляціць на яго, на галоўнага агранома: маўляў, малады, не ўмее адстаяць свае думкі, ды яшчэ і каверзнік — на заслужанага кіраўніка цень кідае.

Хто там у вобласці такі рамантык, што прыдумаў уручыць прэміі ў полі? Хіба не лепш увечары, у клубе, пад туш духавога аркестра? На ўручэнне прэмій народ сабраўся б і ў летні вечар, такія спектаклі любяць.

— Як жа мы будзем выкручвацца, Якаў Мацвеевіч? — скінуўшы газ, крыкнуў Віктар.

Качанок, які кароткімі рукамі абдымаў асілка-агранома пад пахі, каб не ўпасці, перакінуў рукі таму на жывот, шчыльней прыціснуўся грудзьмі да гарачай спіны і крыкнуў у самае вуха:

— Хэ, бядуеш! Перагонім камбайны ў Галае, дзе скасілі ўчора... дзе не ўбралі яшчэ салому...

Кузя рэзка затармазіў, адарваў руку ад руля, далікатна скінуў са свайго жывата Качанковы рукі, бо лапанне па жываце здалося такім жа брыдкім, як цыбульны дух.

— Ды вы што?! На тры-чатыры гадзіны сарваць уборку?.. У такі дзень!

— А табе хочацца паказаць ім свае тарфянікі?

Во шаман, а не «рабачком»! Як праз патыліцу, убачыў яго, Кузевы, думкі. І так заўсёды, з усімі. Усё бачыць наперад. І нічога яго не здзіўляе, не трывожыць. Любая справа для яго — пусцяковіна, над чым іншыя ламаюць галаву днямі, ён вырашае за мінуту. Кузя часам зайздросціў Качанку: лёгка жывецца такому чалавеку! А часам думаў: а ці не абыякавасць гэта, такая лёгкасць? Здзіўляўся, што Астаповіч памяняў Качанку пяць пасад, кпіць з яго, здаецца, не прымае ўсур'ёз, аднак дваццаць гадоў трымае ля сябе, пад рукой, у кіруючых. За якія якасці? хацелася зразумець Кузю, будучаму кіраўніку. Вось за гэтае ўменне лёгка, як бы забаўляючыся, "выкруціцца" з любой сітуацыі? Ці за яго цвярозасць? Качанок цвярозы ў прамым сэнсе: не п'е, зусім. І ніколі не піў. Гэта шмат каго здзіўляе. Аднак якасць гэтая мае цану.

— Не забывайце, што там Батрак. Што ён вам скажа на такую паказуху? Распячэ не толькі на сваім сходзе — на раённую трыбуну вынесе.

— Не бойся. На Батрака знойдзем кулака,— весела рагатнуў Качанок.

Іван Батрак быў героем жніва. Не першы год. У мінулым годзе за рэкордны намалот атрымаў ордэн.

Мінулае і сёлетняе жніво для Івана было святам. Падрос сын Карней, навучыўся вадзіць і камбайн, і грузавік, і яны ўтварылі «сямейны агрэгат». Не трэба было перадаваць нейкаму маладому няўмеку машыну, каб сесці за камбайн. Сын ёсць сын. Гэта палавіна самога цябе. Бацька ведаў, дзе і калі даручыць яму камбайн, а самому везці хлеб на ток, другі раз Карнея садзіў за баранку, а сам убіраў палеглы ўчастак пшаніцы ці ячменю. Але найбольшая заслуга Іванава, якую асабліва цанілі дырэктар і спецыялісты, была ў тым, што машыны яго, не новыя, ніколі не прастойвалі, быццам яны не зношваліся і нічога ў іх не ламалася, не псавалася. А яшчэ яго прыклад. Член партбюро кіраваў уборачна-транспартнай брыгадай, прымяняў прагрэсіўны метад. Адно гэта як гучала ў райкоме, у газетах! Начальнік з Івана, можа, і праўда быў ніякі, калі мераць па сапраўдных начальніках, такіх, напрыклад, як Качанок. Не любіў чалавек камандаваць, загадваць. Але Астаповіч ведаў: там, дзе робіць Батрак,ніводзін самы гультаяваты камбайнер ці шафёр не стане прахалоджвацца ў спякоту ў цяньку пад бярозкамі ці на беразе возера. Івана як бы саромеліся. Як ты станеш вылежвацца, калі побач з табой так працуюць? Падлетак, школьнік укалвае — дай бог. Ад расы да расы.

Іван узначальваў брыгаду, але сваім камбайнам убіраць стараўся асобна, беручы найбольш цяжкія ўчасткі, каб ніхто не папракнуў. Рабіў гэта з-за сына. Карней — трохі дзіўны хлапчына, несучасны, як называла яго сястра Валя: перайшоў у дзесяты клас, а сарамлівасць проста такі дзявочая нейкая. Нават есці пры чужых людзях саромеецца, па патрэбе бегае за кіламетр. А механізатары, як на падбор, зубаскалы ўсе, жартаўнікі. Ведаючы Карнееву цнатлівасць, не праміналі ніводнага перакуру, каб не сканфузіць хлопца. Асабліва дапякаў Хведзька Шчэрба, вядомы на ўвесь сельсавет камедыянт, крыўляка, чалавек, які, здаецца, ніколі ні да чаго ў свеце не ставіўся сур'ёзна — ні да жонкі, ні да дзяцей, ні да начальства самага высокага. І выгляд у яго быў несур'ёзны, адпаведны характару. Шчэрба — яго сапраўднае прозвішча, і дзед, і бацька былі Шчэрбамі, але ён як загрыміраваў сябе пад прозвішча: шчарбаты, канапаты, руды, шыракатвары... «Не морда, а скаварадка з дзіркамі»,— казаў ён сам пра сябе.

Сыдуцца камбайнеры ля запраўкі, адыдуцца далей ад бензіну пакурыць, на ўзлеску дзе-небудзь прылягуць, пра палітыку пачынаюць гаварыць. У міжнародных справах Карней — найвышэйшы аўтарытэт: дзевяць класаў скончыў і ўвесь час транзістар пры ім. Яму

таксама прыемна, што дарослыя дзядзькі і бацька слухаюць яго, хоць часта не згаджаюцца з яго тлумачэннем фактаў; у іх свая, простая і больш катэгарычная думка пра сусветныя падзеі і палітычных дзеячаў. Карней не саромеецца паспрачацца супраць спрошчанага разумення супярэчлівых падзей у Кітаі ці Ліване. У такія моманты ў Івана ажно ў горле свярбіць ад гордасці за сына. Малайчына Карней, пра Зімбабве расказвае, быццам учора вярнуўся адтуль! Але вялікай порцыі палітыкі механізатары не пераварваюць, ды, відаць, трохі і заядае дзядзькоў, што вучань іх у кут заганяе ў спрэчцы.

— У піраміду яго... Садата вашага! А Сміту каленчаты вал у... і пакруціць добра,— закругляе палітычную дыскусію нецярплівы і грубаваты Васіль Бойка.— Давай, Хведзька, што-небудзь весялейшае.

Рудая фізіяномія Шчэрбы падобна тут, у полі, не на скавараду — на сланечнік, у якім зверху вышчыпалі пялёсткі, такое ўражанне стварала зашмальцаваная смешная кепачка, пад якой гарэлі вушы, шчокі.

— Братка ты мой, шчо ты пад такім сонцам прыдумаеш вясёлае? Вясёлае пад месячнай. Во мне ўчора не наспалася. Выйшаў я ў свае райскія кушчы, у свой вісячы сад са сваёй прынцэсай Любай...

Сад у Шчэрбы дрэнны, недагледжаны, з жонкай ён ніколі разам не ходзіць, таму ўжо ад гэтага пачынаюць смяяцца.

— ...Райскія яблычкі вісяць... Месячык свеціць. Салаўі спяваюць...

— Не брашы. Дзе яны цяпер, салаўі?

— А шчо? Хіба няма? А-а, хлопцы! То мне за салавейку Нюрка Пракопава здалася. Чую, яе галасок заліваецца за кустом парэчкі. «Хі-хі-хі, ха-ха-ха... Ай-вай, Карненка,— чую,— не ціскай ты мае грушы... Не паспелі яны яшчэ». Сяджу я, выкалупваю саломінкай мяса з зубоў,— смех, бо зубоў у Шчэрбы мала засталося.— Люба на вячэру курыцу засмажыла, рогат, бо ўсе знюць пра Любіну скупасць.— І думаю сам сабе: «Хто ж гэта ў нас Карней, шчо можа ціскаць Нюрчыны грушы?»

Карнеі ў нас два. Дзед Карней Маслак. Толькі яму ўжо да Нюрчыных груш не дацягнуцца, рукі трасуцца,

— Дык няўжо ж ета ты, Карней?!— робіць здзіўленыя вочы Шчэрба.

Хлопец, не сцяміўшы, што да чаго, адбіваецца з той жа рашучасцю, як у спрэчцы пра палітыку:

— Трэба мне тыя Пракопавы грушы! Я сваіх есці не хачу.

Камбайнеры і шафёры ад рогату качаюцца па калючым іржэўніку. Тады толькі малады Батрак здагадваецца, якія «грушы» дзядзькі

маюць на ўвазе, і заліваецца чырванню ад макаўкі да пят. Хочацца яму падхапіцца і збегчы ў беразняк ці схавацца ў пшаніцу. Але ён баіцца скрануцца з месца, бо ведае, што ўслед могуць паляцець яшчэ саланейшыя жарты.

Выручае, як заўсёды, бацька:

— Якаў! Ты так і не адрэгуляваў сіта. Сее збожжа твой камбайн.

— Карнеевіч! Тройчы перастаўляў. Чорт яго знае, адкуль яно сыплецца.

— Хадзем паглядзім.

Пасля Карней сарамліва хавае вочы нават ад бацькі, хоць бацька неаднойчы казаў:

— На жарты не крыўдуй, сын. Калі людзі смяюцца, гэта — добра, гэта ад дабраты. Ад зла смяюцца не так. Ды і табе пара ўжо мужчынам станавіцца.

Івана трохі трывожыць, што хлопец такі сарамяжы і ціхмяны. Такая цнатлівасць больш падыходзіла б дачцэ. Дык не ж, усё наадварот.

Карней сам пакутуе ад такога свайго характару, бо тэарэтычна разумее, што яму сапраўды час паводзіць ужо сябе па-мужчынску, як большасць яго сяброў, аднакласнікаў, некаторыя і віно ўжо п'юць, і да «грушы» гэтай спакуслівай, што пад дзявочай кофтачкай, не саромеюцца дакрануцца. Дзяўчаты і тыя цяпер не такія, як ён. Такія толькі ў кніжках, як праўду кажа Валя, сястра яго. Нюрка, напрыклад, гэтая, пра якую ён часта думае то са злосцю, то з нейкім дзіўным трапятаннем, нічога не саромеецца. Яны разам вучыліся, але пасля восьмага класа дзяўчына пайшла працаваць на ферму, за год стала апературам. І не дае яму спакою. Ідучы міма іх хаты, можа крыкнуць на ўсю вуліцу пры бабах, мужчынах, пры сваіх сяброўках і яго сябрах:

— Карней! Калі ў сваты прыйдзеш?

І ўсе яму лепяць у нявесты гэтую дурніцу Нюрку.

Камбайн Батрака і на гэты раз убіраў асобна, за асушальным каналам, дзе ячмень вырас на паўсотні цэнтнераў, але і палёг вельмі. На камбайне рабіў Карней з памочнікам — сваім аднакласнікам Валодзем Качанком. Бацька адвозіў збожжа на ток. Гарачая работка: не паспяваў вярнуцца, як бункеры напаўняліся, дарога з балота нялёгкая, масток цераз канал ненадзейны, які ні ўмелы хлопец Карней, а ўсё ж вопыт не той яшчэ, чаго добрага, пасадзіць машыну — пакукуеш тады. Ды на такой дарозе і збожжа можа губляць — вытрасаць з кузава на ямах ды карэнні. А можа, проста шкадаваў сына: пры ўсёй цяжкасці палеглага ўчастка, дзе трэба было б убіраць самому, усё ж з такой дарогай і разгрузкай на таку на машыне не лягчэй.

Качанок і Кузя прыехалі, калі Іван павёз збожжа. Размінуліся. Відаць, той быў ужо на таку.

Качанок пагаварыў з камбайнерамі па-простаму, па-свойску, шчыра, без дыпламатыі, у гэтым, адзначыў Кузя, напэўна, яго мастацтва арганізатара, ён, галоўны аграном, яшчэ не навучыўся так гаварыць з людзьмі. Прэмію трэба ўзяць, маем права, працавалі па-ўдарнаму, дурнямі трэба быць, каб адмовіцца ад прэміі абласнога значэння, бо гэта не простая прэмія — абласная слава. Але паказваць начальству, што ў нас колькі там гектараў не дакошана яшчэ,— не варта. Камбайнеры пакпілі, пасмяяліся з тых, хто перадае зводкі. Кузю — што пстрычка па носе. У дурацкае становішча, падумаў ён, мы, кіраўнікі, ставім сябе перад рабочымі. Даў сабе зарок, што, калі стане першай асобай у гаспадарцы, пакончыць з любой паказухай раз і назаўсёды. Астаповіч мудры, але не грэбуе — дзеля справы — выкарыстоўваць некаторыя чалавечыя слабасці. Для справы гэта часам добра. А для выхавання людзей?..

Якаў Мацвеевіч разам з камбайнерамі пакпіў са зводак, хоць — здагадваўся Кузя — ініцыятарам рапарта быў не хто іншы, як ён, Качанок. Астаповіч зрабіў выгляд, што не ўсё бачыць са сваёй вышыні, што памочнікам, маўляў, відней, таму і прымусіў Качанка «выкручвацца». Але пры чым тут ён, Кузя?

Нават Качанок, рашучы, упэўнены, не адважыўся зняць камбайны без Батрака. Каб яшчэ вучняў не было, камсамольцаў... А так гэтыя батракоўскія выхаванцы, калі хочаш, у «Комсомольскую правду» напішуць; вельмі ж у наш час любяць пісаць, і ўмеюць. Уліпнеш тады, як муха ў мёд, у гэтую прэмію. Не сваю, не дзеля сябе стараешся, для рабочага класа, для людзей, якія ажно счарнелі за час уборкі ад сонца, ветру і пылу. Вунь у Шчэрбы нават у шчарбіны зубоў мякіна ўелася, у вушы набілася...

Іван доўга не вяртаўся, так, ва ўсялякім разе, здалося таму, хто нецярпліва чакаў яго. Камбайнерам гэта не здалося, яны, перакурыўшы, пажартаваўшы, без каманды падняліся на масткі, павялі свае машыны — каб хутчэй апраўдаць прэмію, якую ім вязуць.

Качанок нерваваўся: з вобласці могуць прыехаць раней, чым ён правядзе свой манеўр. Кузя заняты быў справамі — вывучаў глебу пад іржышчам. Прыходзіў да думкі, што Астаповіч з яго багатым вопытам, як заўсёды, выйшаў пераможцам. На такіх тарфяніках можна сеяць зерневыя! Добра было б яму, маладому галоўнаму аграному, даказаць гэта з лічбамі, з фактамі і смела выступіць на высокай нарадзе. Уяўляў, як сыходзіць з трыбуны пад гром апладысментаў, чуе

галасы: «Хто гэта?» — «Галоўны з «Добрынскага».— «Малайчына! Умее Астаповіч падбіраць кадры».

Машыны нарэшце вярнуліся. На адной машыне малады, толькі з арміі, шафёр. Ён не ведаў правіл перавозкі збожжа ў адкрытым кузаве, часам ліхачыў, вытрасаў хлеб, і Батрак трымаў яго пры сабе, перавучваў салдата на земляроба.

Іван убачыў начальства, падрудіў, не выходзячы з кабіны — кожная мінута на ўліку! — прывітаў Качанка і Кузю па-свойму:

— Буду я вас, начальнікі, крытыкаваць на сходзе. За мост. Гаварыў жа. Дакладную пісаў. Еду і дрыжу. Сяду — чорта два сягоння кончым уборку. Косцю і блізка да моста не пускаю. І камбайн другі баюся пасылаць за канал. Не знаю, ці паднімем адной машынай. Самы палеглы ўчастак.

— Гэта — меліяратары, яны павінны,— сказаў Кузя.

— Меліяратарам — што? Хлеб убіраць? Яны здалі — і з плеч далоў. А вы прынялі...

— Правільна. Клопат наш! — падтрымаў шафёра Качанок, залазячы да яго ў кабіну.— Масток умацуем. Не праблема.

— Калі? Калі скончым уборку?

— Мост не на адзін дзень трэба. Ерунда твой масток. Ёсць справа больш важная. Слухай...

Батрак слухаў нецярпліва. Нецярплівасць сваю выдаваў тым, што спачатку газаваў і разоў колькі ўключаў скорасць, гатовы сарваць машыну з месца. Але тады Качанок клаў сваю руку на баранку, на Іванаву руку, адным гэтым ласкавым дотыкам спыняў шафёра і даводзіў: няхітры манеўр патрэбны не толькі ім — усяму саўгасу, спазніцца са зводкай - прынізіць работу ўсяго вялікага калектыву, таму лепш рапартаваць з апераджэннем, што разумныя людзі і робяць, пакуль дурні варон лічаць.

— А што прэмію твае хлопцы заслужылі — тут і казаць няма чаго! Сам так думаеш!

Кузя стаяў ля кузава, удыхаючы водар ячменю і смурод бензінавых газаў, слухаў Качанкову тыраду, чырванеў, што мусіць удзельнічаць у не вельмі чыстай справе, але захапляўся «рабачкомам»: лоўка ўмее пераконваць, прыроджаны агітатар!

Іван, як бы ўзлаваўшыся на машыну, што ёй не церпіцца паехаць, выключыў газ. Сказаў спакойна, лагодна:

— Храновінай вы займаецеся, хлопцы. Не здыму я камбайны з-за прэміі, хоць вы і вялікія начальнікі. Няхай Астаповіч загадае.

Качанок ведаў, што Астаповіч не загадае такое, таму ўзлаваўся. Паваліўся на баранку, на Іванавы рукі, каб выглянуць праз шыбу дзверцаў і ўбачыць свайго маўклівага напарніка.

— Сяргеевіч! Глянь на гэтага дыктатара! Дай такому ўладу — ні з кім не будзе лічыцца, ніякай дэмакратыі не прызнае. Усіх скруціць у бараноў рог.

Іван уключыў запальванне і выціснуў педаль счаплення. Але Качанок не даў яму скрануцца — націснуў на кнопку сігналу і засігналіў, як на пажар. Закрычаў:

— Не, стой! З народам парайся, як мы параіліся. Паслухай, што народ табе скажа.

Камбайны ішлі ў іх бок.

Батрак нязлосна мацюкнуўся і вылез з кабіны. Нічога дрэннага пра народ — пра сяброў сваіх механізатараў ён не думаў, людзі працавітыя, але добра ведаў, што ні Шчэрба, ні стары праўдзівы Каржоў, ні мацюжнік Бойка, ні малады Кунцэвіч ад прэміі не адмовяцца, і ён са сваёй прынцыповасцю можа сапсаваць адносіны не толькі з начальствам, але і са сваімі хлопцамі — рабочымі. Што пра яго скажуць, калі пазбавяць іх прэміі? Ад прэміі толькі ў кінафільмах адмаўляюцца. Канечне, калі б не заслужылі — справа іншая. Асабліва Іван не перажываў, не псіхаваў, прафесія прывучыла ў любой сітуацыі заставацца спакойным. Ды і жыццё... яно не першы раз вымушае ісці насупраць сваім перакананням. Урэшце, гэта драбяза. Не было б горшага. Але калі ўбачыў, што з-за канала бяжыць Карней, безумоўна, устрывожаны сігналамі і тым, што бацькаў «ЗІЛ» спыніўся перад мастком, сказаў незадаволена, з папрокам:

— Перад хлопцам сорамна... такую вашу...

Ды ўжо побач быў Хведзька Шчэрба, і фізіяномія яго цвіла, што сланечнік, і шчарбіны — што прорвы.

— Хэ... Хлопца твайго я сачас пашлю ў лес па маліну. На закуску. У мяне сягонні зрання нос свярбіць. Я ўсё думаў: што будзе? Ці Люба паднясе дулю, ці Каця чарку? Дык чарка ж будзе, браточкі. Во нос! Усё чуе.

Качанок перамясціўся ў кабіне на месца вадзіцеля, абапёрся на баранку і весела смяяўся са Шчэрбавых жартаў, адчуваючы сябе пераможцам.

Падышоў Карней — Шчэрба да яго:

— Слухай, Батрак. Пакуль мы бункеры запоўнім, шасні ў лес па маліну. Туды, бачыў, Нюрка твая пайшла. Можа, за пазуху злазіш. А то пераспеюць яе грушы.

Хлопец запунсавеўся і, збянтэжаны, нічога іншага не прыдумаў у адказ, як буркнуць:

— Вам толькі грушы і сняцца.

— Братка ты мой, яй-богу ж, сняцца. Ого, такія! Саладота якая!

Камбайнеры схапіліся за жываты. Качанок, узваліўшыся на руль, весела засігналіў. Нават сур'ёзны і паважны, як статуя рыцара, Кузя засмяяўся.

Карней, мінуўшы машыну, пайшоў у другі бок ад свайго камбайна — абы хутчэй куды адысці ад гэтых бессаромных зубаскалаў. Іван хмурна сказаў:

— Сапсуяце вы мне хлопца.

— Чалавекам зробім, дурань! Дзе ён у цябе рос такі? Каб у сям'і шафёра і акушэркі... у сяле такі вырас. Ну хоць на выстаўку яго. Трэба ж такому быць у наш век! Рэвалюцыя ж ва ўсім свеце. Гэтая... як яе?

— Сексуальная,— падказаў учарашні армеец Косця Малашанка.

— Во! Чуў? Салдаты і тыя знаюць. А твой вучыць гэтую, як яе? Ну шкілет дзе... Анатомію! Во! А на цыцку глянуць саромеецца.

— Хлопцы! Прэмія блізка,— перапыніў Шчэрбавы дурыкі Качанок.— Нос у мяне засвярбеў, як у Хведара Хаміча. Торба з грашамі прыбудзе ў Галае. Каб не здзівіліся таварышы з вобласці: дзе камбайны гуляюць?

— А ты скажы: купалі іх у Студзёнай. Работу скончылі — і бултых з камбайнамі ў рэчку.

З вясёлым смехам камбайнеры рушылі да машын.

У Кузі былі складаныя пачуцці. Качанка ён і ўхваляў, і асуджаў. Умее пагаварыць з людзьмі, за гэта, мабыць, і трымае яго Астаповіч. Батрака, упартасці якога пабойваліся, накаўтаваў адным ударам, старым дэмагагічным прыёмам: з народам парайся! А «народу» падыграў, настроіў жартачкамі, з начальства пасмяяўся, сам з сябе, блазна гэтага Шчэрбу ўзняў павагай — Хведар Хаміч, хоць звычайна, як усе, Хведзькам называў. Сам, поўны цвярознік, неаднойчы горача выступаў супраць п'янства, а тут яўна патураў жаданню такіх, як Шчэрба,— замачыць прэмію. Усё пусціў у ход. Камбінатар! А як інакш было выкруціцца? У рабоце, таварыш Кузя, самыя нечаканыя сітуацыі ўзнікаюць. Як у баі, на фронце.

2

Таіса Міхайлаўна прывыкла бачыць мужа і сына пасля працы ўзбуджанымі, вясёлымі. Не дзіва: людзі ўбіралі хлеб. Хіба ёсць другая

такая работа? Можа, адну прыраўняла б да ўборкі — памагчы нарадзіцца чалавеку.

У той вечар Карней вярнуўся адзін. Маўклівы. Змрочны.

Маці ўстрывожылася:

— А бацька дзе?

— Дзе! — іранічна хмыкнуў Карней.— У «Бабскіх слёзах».

Так называлі чайную пры шашы, якую праклінала Шчэрбава Люба ды і некаторыя іншыя жонкі. Таіса Міхайлаўна, наадварот, да ўстановы гэтай адносілася добразычліва, хоць трошкі з гумарам называла чужым словам — кульдзюм. Іван заглядваў туды рэдка і выпіваў хіба кружкі дзве піва, калі прывозілі свежае, бачкавое, з пляшак не любіў. Сама яна па сваёй прафесіі мусіла сачыць за санітарным станам у чайной, і загадчыца сябравала з ёй, забяспечвала фельчарыцу то кілбаскай цвёрдага вэнджання, то селядцамі такімі, якія ў сельмагу рэдка з'яўляліся, то раннімі памідорамі, прывезенымі райсаюзам з Украіны.

— Скончылі ўборку?— спытала заспакоеная Таіса Міхайлаўна. Калі завяршылі такую працу, то чаму мужчынам і не выпіць? Яна зусім не хацела, каб Іван яе стаў поўным цвярознікам, адарваўся ад сяброў. Гэта некалі маладая яна хацела адарваць яго ад трактара, зрабіць інтэлігентам. Не ўдалося — і цяпер не шкадуе.

— Такія работнічкі да снегу будуць убіраць! — узлавана адказаў Карней з юнацкай непрымірымасцю.

Маці зноў насцярожылася: чаго гэта ён такі? Няўжо не паладзілі з бацькам? Працавалі ж усё лета душа ў душу. Іван не мог нахваліцца сынам. Хлопец, убачыўшы недаўменны матчын позірк, растлумачыў:

Паўдня прамію палучалі. А цяпер замочваюць,

— Дзе палучалі? У полі?

— З вобласці прэмію прывезлі.

— Вялікая прэмія? Колькі вы з бацькам атрымалі?

— Не бачыў я іх прэміі. Я хлеб на ток павёз!

Незразумелая была Карнеева ўзлаванасць на прэмію. Не інакш як мужчыны зноў засаромілі яго сваімі скаромнымі анекдотамі. Зубаскал Хведзька знайшоў слабінку, праходу не дае. Трэба Любе сказаць, каб тая ўгаманіла свайго шчарбатага плескуна. А прэмія, напэўна, добрая, калі з вобласці, не павязуць жа адтуль па дзесятцы. Безумоўна, Іван атрымаў больш, чым хто, бо лепш за яго ніхто не рабіў на ўборцы, ды яшчэ ўдвух з сынам.

Іван ашчадны гаспадар, лішняе рэдка калі перабіраў, ва ўсялякім разе, ніколі яна не баялася, што муж не прынясе зарплату дадому. Але скупым ніхто яго не лічыў, і яна не лічыла. Шырокі бывае

мужчына, з размахам. Прэмію гэтую нечаканую, напэўна, усю ў Каці пакладзе, бо ўсіх будзе частаваць, добрая душа, хто толькі не зойдзе ў кульдзюм.

Шкада стала Таісе грошай: патрэбны яны цяпер больш, чым тады, калі яны бедна жылі. Іншыя патрэбы зараз, іншыя расходы.

— Пайшоў бы ты, сынок, прывёў яго, а то баюся: не вы, а сельпо будзе мець прэмію.

— Чаго захацела! Пайду я... П'янага Шчэрбу не бачыў, ці што?

Не пойдзе, гэта Таіса Міхайлаўна добра ведала, так сказала, па нейкай інерцыі. І сама яна не пойдзе. Ні разу яшчэ не ўнізіла ні сябе, ні яго, Івана, не тое што сваркай — папрокам пры людзях, ні разу не спрабавала падвыпітага ўвесці ад кампаніі. Гонар мае, інтэлігентнасць. Кажуць, шляхецкі. Няхай сабе шляхецкі. Няхай сабе — «пані Туся». Але зайздросцяць ёй не толькі вясковыя бабы — інтэлігенткі многія, настаўніцы, аграномы... І яна цяпер ніколькі не шкадуе, што не здзейсніліся яе ружовыя дзявочыя мары...

Дваццаць два гады назад з'явілася ў Добрынцы маладзенькая акушэрачка, маленькая, вяртлявая. Лялечка. Матылёк з чужых краёў. Па тым часе — не бедненькая, два чамаданы сукенак прывезла. Па тры разы на дзень пераадзявалася. І лятала па навакольных вёсках крылатым матыльком, чаруючы хлопцаў незвычайнай яркасцю фарбаў, якія да таго ж так часта мяняліся, што ажно мітусілася ў вачах. Легенды пачалі сачыняць наконт таго, колькі ў акушэркі сукенак. Закруціла акушэрка галаву многім хлопцам. З суседняга сельсавета прыязджалі на танцы, бойкі ўчынялі з добрынскімі. А яна адзін вечар з адным пойдзе, другі — з другім. З ляснічым, які толькі што скончыў ленінградскую акадэмію, з настаўнікам, з лётчыкам, што на пабыўку прыехаў, са студэнтам кінаінстытута, будучым акцёрам... За кожнага з такіх жаніхоў любая дзяўчына зубамі трымалася б. А Тася мяняла іх, што пальчаткі.

Жанчыны спачатку палюбілі акушэрку: у тое першае пасляваеннае дзесяцігоддзе нямала нараджалі, а яна хоць і маладзенькая, толькі з вучылішча, але справу сваю ведала, а галоўнае, уважлівая была, клапатлівая, кожную цяжарную, кожнае дзіцятка патраніравала, як роднае, кожную парадзіху наведвала. А потым абгаварылі — за хлопцаў. Славу нядобрую пусцілі. Пляткарак хапала не толькі сярод вясковых баб, але і сярод тых мужчын-інтэлігентаў, хто заляцаўся да Тасі і каму яна дала адстаўку. Праўда, дзяўчаты, хоць многім з іх яна была небяспечнай канкурэнткай, ды маладзейшыя жанкі абаранялі Таську: а калі і пагуляць, як не цяпер? Ды і дурняў-хлопцаў чаму за нос не павадзіць?

А Тася ўсё прадаўжала здзіўляць сяло. Падвёз яе неяк з Селішча, ад парадзіхі, на трактары Іван Батрак. І ў той жа вечар яна, падняўшы сукенкай вецер ля будучага кінаакцёра, сама запрасіла на польку трактарыста. Іван, як усе хлопцы, хадзіў на танцы, ціскаў дзяўчат, праводзіў часам якую-небудзь з іх, але пэўнай, той, якую б называлі яго нявестай, не меў. Да акушэркі, безумоўна, да таго дня і наблізіцца баяўся. Прапахлы мазутам, бяднейшы ад усіх, адзеты ў самы танны грубашэрсны сельпоўскі касцюм, хіба мог ён падумаць нават, што такая красуня, такая багачка можа звярнуць на яго ўвагу? Сам дагэтуль здзіўляецца, як у яго хапіла смеласці, дагнаўшы яе на трактары па лясной дарозе, спыніцца і прапанаваць падвезці. Яна сказала: «Запылюся я». Ён адказаў: «А ў мяне мяшок ёсць чысты, з-пад гуркоў. Я накрыю вас». Яна засмяялася, уявіўшы, мабыць, як будзе выглядаць, накрытая мяшком. Дастала са свайго саквояжыка бялюткі медыцынскі халат, надзела яго і смела палезла на трактар. Пражыўшы ў вялікай беднасці, Іван ашчаджаў тады кожны шматок тканіны і таму спалохаўся за такі халат: не толькі запыліць, але забрудзіць яна яго. Да таго ж у халаце акушэрка рабілася яшчэ больш загадкавай, далёкай, недасягальнай, як зорка,— для яго, простага трактарыста. А яна прымасцілася побач, не баючыся запэцкацца аб яго зашмальцаванае адзенне, і пачала расказваць, што тут, у Селішчы, яна з ночы прыняла роды, яе пачаставалі віном і ў яе кружыцца галава і хочацца спаць. Але Івана ўразіла не віно, а тое, як яна расказвала пра роды, якое было ўскладненне ў маці і як яна ўправілася з ім. Расказвала, не саромеючыся, і неяк так, што ў яго не толькі не ўзніклі якія-небудзь непрыстойныя думкі, але ажно ў горле сціснула ад нейкага дзіўнага, невядомага дагэтуль захаплення, ад радасці, бадай, ад шчасця, што нарадзіўся чалавек і што пра гэта можна гаварыць вось так, як яна. За тыя паўгадзіны, што ехалі, Іван як бы далучыўся да вялікай тайны, якая напоўніла яго нялёгкае сіроцкае жыццё нейкім асаблівым сэнсам і ачысціла ад бруду, які трохі ўжо быў прыліп да яго юнацкай душы ў тым жыцці, якое выпала на яго долю. Уразіла яго і яшчэ адно: акушэрка не пасаромелася праехаць з ім на трактары па Добрынцы, да самага медпункта, чаго ён не чакаў, лічыў, што перад сялом яна абавязкова злезе. Ён сказаў са шчырым шкадаваннем: «Запэцкалі вы свой халацік». Яна адказала: «Усё адно яго трэба мыць». Ён тады не разумеў: навошта трэба было мыць такое чысцюткае адзенне, якім быў халат? Адзіную яго святочную сарочку цётка мыла, можа, раз у месяц, не часцей. У той вечар, пасля танцаў, уцёкшы ад акцёра, Тася дагнала Івана і сама папрасіла: «Правадзь мяне, а то задавала той ліпне, што смала». Акцёрык з сябрукамі ішоў следам і сказаў непрыстой-

насць. Не пра яе канкрэтна. Нібыта ўвогуле пра дзяўчат — «пра такіх вось». Іван, пакінуўшы Тасю, вярнуўся і ўзяў таго загрудкі так, што затрашчалі не толькі швы моднага касцюмчыка, але і плечавыя сустаўчыкі.

«Слухай, ты, сапляк, яшчэ адно слова — і прыліпнеш да гэтай вярбы так, што заўтра ўсім сялом не аддзяруць».

Сябры студэнта зачапіць трактарыста пабаяліся.

Не верыў, што Тася будзе чакаць яго. Не, стаяла на тым жа месцы, але плакала. Кранула яго моцна, што яна не ўцякла, а яшчэ больш — слёзы яе. Не ўмеў ён суцяшаць. На адно толькі адважыўся — дакрануцца да рукі яе, ласкава сціснуць і паабяцаць: «Не бойцеся, больш вас ніхто не пакрыўдзіць».

У сяле нічога не схаваеш. Назаўтра ведалі, што акушэрка з Іванам Батраком гуляла да самай раніцы, у поле хадзілі. І зноў жа абгаварылі яе: няхай бы круціла мазгі сваім студэнтам ды лясніčаму, а не гэтаму бедаку, які за свае дзевятнаццаць гадоў, акрамя гора ды цяжкай працы, ніякай радасці не знаў. Знайшла з каго смяяцца! Але пасля, танцуючы з рознымі хлопцамі, гуляць яна ішла толькі з Іванам. І паганая слава пра яе пачала затухаць. Увогуле вясковая ўвага з яе пераключылася на іншых людзей, на іншыя падзеі, хапала іх, падзей, і сумных, і вясёлых. А Тася стала дзяўчына як дзяўчына. Звыкліся з яе яркімі сукенкамі, з яе паводзінамі, тым больш што прафесія ў яе такая, што жанчынам трэба было ладзіць з ёй, звяртацца да яе, жаночыя тайны свае давяраць.

Аднак усё роўна громам і маланкай у халодны кастрычніцкі дзень шуганула па сяле вестка, што Іван Батрак і Таіса Міхайлаўна — к таму часу вяртлявае дзяўчо многія называлі ўжо так паважліва — пайшлі ў сельсавет запісвацца. І сяло адразу раскалолася на тры часткі. Адны, старэйшыя бабы, цётка яго, уздыхалі: «Не такая жонка Івану трэба». Івана шкадавалі — сірата. Другія ўхвалілі: «Малайчына Таська, ведала, каго выбраць, за такім мужам будзе што за каменнай сцяной, а ўсе тыя — свістуны». Маладыя, практычныя асуджалі яе: дурніца, магла лесніčыхай стаць, жыла б што пані, а яна выбрала трактарыста мурзатага. Мужчыны-настаўнікі згадзіліся з думкай блізарукага фізіка, які сам не траціў надзеі і ўпотай уздыхаў па акушэрцы: «А трактарыст гэты не промах, вось табе і ціхоня». «Ціхая вада грэблю рве»,— адказала яму «немка», пераспелая дзяўчына, якая ўзрадавалася гэтаму шлюбу больш, чым хто іншы староннi,— з-за фізіка, які да з'яўлення акушэркі клаў вока на яе.

На вяселле прыехалі Тасіны бацькі з кашамі вясельнай ежы і падарункамі, бо былі яны з-пад Слуцка, з добрых зямель, а не з спа-

ленага ў вайну сяла. Бацька ціхі чалавек, а маці ўвішная, гаманкая, ганарыстая, адразу абвясціла, што са шляхты яна, Тасю звала Туськай, таму пасля вяселля выкладчык літаратуры Лаўрэн Клімавіч, начытаны і ўедлівы стары, даў маладой Батрачысе мянушку — «пані Туся».

Падслухалі суседзі, як ганарыстая шляхцянка — Тасіна маці — плакала ў дзень прыезду за хілым хлеўчуком на сядзібе Іванавай цёткі: «За каго ж ты выходзіш, дзіцятка маё дарагое? Хіба пра такога мужа для цябе я марыла? Бядак бедаком. Хаціначка на адно сляпое акенца, ды і тая чужая».

«Мамачка,— пярэчыла ёй Тася.— Хіба шчасце ў багацці? Я кахаю яго, і ён кахае мяне. Во наша шчасце! Не сапсуй нам радасць, мама,— папярэдзіла,— а то пакрыўджуся я на цябе».

Падслуханая размова адразу абляцела ўсё сяло, і тут ужо бадай усе ў адзін голас ухвалілі акушэрку. Вясельную радасць шляхцянка не сапсавала, хоць яе часам і заносіла, каб пахваліцца родам сваім і заможнасцю: маўляў, што вы тут, няшчасныя палешукі, цемра і бядота, вось мы, случакі,— мы сапраўдныя гаспадары! Але хітрыя палешукі адразу сцямілі, што ў случанкі больш фанабэрыі, чым багацця. Вясельныя прысмакі і падарункі новым сваякам сапраўды прывезлі не бедныя па тым часе, але гэта, напэўна, з апошняга, каб гонар шляхецкі не прынізіць. Калі каравай дзялілі, пані Анэта — так звярнуўся да яе хітры гумарыст Лаўрэн Клімавіч, але госця не зразумела іроніі, і такое імя ёй прыйшлося больш даспадобы, чым нязвыклае Ганна Адамаўна,— падарыла маладым цялушку. Але прыехаць, каб забраць падарунак, запрасіла праз паўгода, па вясне. Замест першацёлкі, пра якую так марыла Іванава цётка Хвядора, маладыя прывезлі месячнае цялятка.

Напачатку маладажонам жылося нялёгка. Не, не сказаць, што бедна: трактарысты ў МТС зараблялі няблага, палучалі і хлеб, і грошы, ды і Тасіна праца аплачвалася грашамі ў сельсавеце і натурай — яйкамі, кавалкам сала, галкай масла — ад парадзіх. Спачатку яна дужа саромелася гэтых падаянняў і адмаўлялася, а калі праз год сама нарадзіла, а свая карова яшчэ не вырасла, то ўжо больш не адбівалася ад малака ці яек: не хабар жа гэта — завошта акушэрцы хабар! — удзячнасць людская.

Цяжка было з жыллём. Цяпер маладым нялёгка нават уявіць, якую хацінку можа збудаваць на папялішчы адзінокая жанчына ў першы пасляваенны год. Колькі бярвення — якое там бярвенне — жэрдачкі асінавыя! — прывезлі чырвонаармейцы, а рэшту Хвядора дзве зімы вазіла з лесу сама на санках-самацяжках, і ніводзін ляснік не

адважваўся спыніць, аштрафаваць такую парубшчыцу, бо ведаў: з'ядуць яго бабы, калі ён пакрыўдзіць «манашку». Людзі добрыя памаглі зрубіць хатку, сусед-інвалід уставіў вокны, дзверы, а ўсё іншае Хвядора рабіла сама, нават крыла сама, папрасіўшы ў старшыні калгаса зжаць жыта сярпом і самой абмалаціць; збожжа здала ў калгас, а кулявой саломай накрыла страху. Рабіла ў калгасе, будавала хацінку і людзям плаціла за дапамогу адным, бо іншага нічога не мела,— працай сваёй.

Да таго часу, калі ажаніўся Іван, вёска няблага адбудавалася, і Хвядорына хатка побач з суседнімі выглядала вельмі ўбогай. Нялёгка было рамантычна пастроенай Тасі, якая, чытаючы раманы, дазваляла сабе памарыць калі не пра палацы, то пра высокія гарадскія кватэры, пачаць жыццё ў такой цеснаце. «З мілым рай і ў будане», кажуць у народзе. Сапраўды, толькі таму, што з мілым, думала неаднойчы пасля Таіса Міхайлаўна, яна ўсё стрывала, усё перажыла. Хата, між іншым,— не самае страшнае, не з палацаў яна прыйшла: з такой жа сялянскай хаты, хіба толькі больш прасторнай, багацейшай. Гаспадыня хаты — во дзе было самае цяжкае. Не, Хвядора не паставілася варожа да нявесткі, прыняла яна яе са шчырай ласкай. Але вельмі ж розныя гэта былі характары. Пазней, калі Іван збудаваў свой дом, а Хвядора засталася ў сваёй хаціне, яны жылі душа ў душу. А пад адной, ды яшчэ такой маленькай, страхой ім было не фізічна цесна — духоўна цесна. Натуральна, што ў людзей, якіх раздзяляюць чатыры дзесяткі гадоў, зусім розныя погляды на жыццё, розная філасофія. Але звычайна маткі, якія некалі кахалі, нараджалі, расцілі дзяцей, пры любых адносінах да нявесткі запаўняюць гэты ўзроставы разрыў своеасаблівай мудрасцю, можа, часам і жорсткай, у перадачы свайго матчынага жыццёвага вопыту. Толькі самая дурная нявестка можа не прыняць навукі, якая нараджае тыя душэўныя кантакты, што пры любых, нават сварлівых, характарах усё ж збліжаюць жанчын. Аб'ядноўвае іх і любоў да чалавека, што звёў іх, хоць гэта і розная любоў; праўда, часта з-за гэтай любові ўзнікае і своеасаблівая рэўнасць маці да нявесткі, радзей — нявесткі да маці.

Хвядора замуж ніколі не выходзіла, бо з маленства была кульгавая, дзяцей не раджала. І не гадавала іх. Рана асірацела, бацька загінуў яшчэ ў сусветную вайну. Засталося іх двое: яна, малодшая, і брат Карней — Іванаў бацька. Брат ажаніўся, аддзяліўся. Яна, калека, засталася з маці. Бедна жылі, хоць працавалі, як, можа, ніхто ў вёсцы, але ўсё больш на людзей рабілі. Карней актывістам быў, камсамольцам, за калгасы агітаваў, брыгадзірам у калгасе стаў. А яны з маці доўга супраць калгаса былі, з Карнеем пасварыліся, самыя апошнія

ў арцель прыйшлі. З-за набожнасці сваёй. Вельмі ж у бога верылі, папам верылі. Яшчэ ў маладыя гады Хвядора на маленне ў Кіеў хадзіла, за што ёй і далі мянушку «манашка».

Але толькі ў калгасе і пажылі па-чалавечы колькі гадоў, бо былі яны з маці сумленнейшымі працаўніцамі: маці, хоць ішоў ёй шосты дзесятак, звеннявой па льну стала, а Хвядора на ферме кароў даіла. У клуб пачала хадзіць, кіно глядзець, не баючыся бога. Але нядоўгае было тое жыццё. Парушыла яго вайна. І забрала вайна ўсіх яе блізкіх: маці, брата, братавую, дзяцей іх. Адзін Іванька застаўся, ды і таго, як нашы вярнуліся, партызанскі камандзір у дзіцячы дом завёз за сорак вёрст ад Добрынкі. У вайну, пасля страты родных, Хвядорына набожнасць стала яшчэ большая. Малілася яна за ўсіх, што паклалі свае галовачкі. Малілася за жывых. Пляменніка-сірацінку ледзь не кожную нядзелю наведвала.

Расказаў Іван маладой жонцы сваёй, калі той вельмі ж ужо цесна зрабілася побач з маўклівай, нібыта і пакорлівай Хвядорай ад яе суровай нязгоды з жыццём нявесткі, з яе характарам, імкненнямі. Расказаў... Хоць і перажыў ён вялікае гора і ведаў, што нарабіла вайна, але ў дзіцячым сэрцы раны гояцца. Хлапчук ёсць хлапчук. Маючы славу партызана, ён стаў завадатарам сярод равеснікаў-дзетдомаўцаў. Няблага адзеты, добра накормлены, ён у свае дзесяць ці адзінаццаць гадоў пачаў саромецца перад сябрамі наведванняў кульгавай цёткі. Вельмі ж яна была бедна адзетая — як жабрачка. Даставала з-пад сваіх лахманоў не вельмі чыстую хусцінку, у якой былі загорнуты то піражок, то яйка, то драбок цукру. Плакала, гледзячы, як есць сірацінка, хоць еў ён нехаця, з ветлівасці, нецярпліва азіраючыся. Хрысціла яго на развітанне. Гэта падгледзелі дзетдомаўцы і насмяяліся з яго. Нейкі час не хацелася яму, каб цётка прыходзіла.

Але прыйшла яна неяк аднойчы позна ўвосень. Холадна было. Дождж са снегам сек. Прамокла жанчына. Кранула гэта хлопца. Ён папрасіў у выхавацелькі дазволу грубку ў піянерскім пакоі запаліць, каб абсохла цётка. Абагрэлася Хвядора, абед дзетдомаўскі ёй са сталоўкі прынеслі. Парадавалася яна, што хораша кормяць дзяцей. Расчулілася. І паскардзілася — не яму, пляменніку,— выхавацельцы, але ён пачуў, на жорсткасць людскую: не падвезлі яе шафёры, не ўзялі ў кузаў, бо не было ў яе чым заплаціць. І тады перавярнулася ўсё ў Іванавай душы. Гэта ж яна з хворай нагой сорак кіламетраў пехатой ішла, каб пабачыць яго! І назад, мабыць, пехатой пойдзе ў такую непагадзь. Нічога і нікога ўжо больш не саромеючыся, кінуўся Іван да дырэктара дома, расказаў усё і папрасіў у дырэктара пазычыць... пяць рублёў на дарогу цётцы, зарабіць — аддасць. Дырэктар даў гро-

шы на білет і каня — падвезці жанчыну на станцыю. Пасля Хвядора расказвала суседцы, што не было ў яе пасля вайны больш радаснага дня, як той дзень, калі пляменнік, па-мужчынску нокаючы, па-дарослаunion абмяркоўваючы з сябрам і з ёй надвор'е і дарогу, падвозіў яе на станцыю і купіў білет на цягнік.

З таго дня не толькі Хвядора наведвалася да пляменніка, але і Іван прыязджаў да цёткі, асабліва калі падрос, набыў тую самастойнасць, калі дзетдомаўцаў адпускаюць адных. Памагаў ёй улетку ў калгасе працадні зарабіць, сена казе накасіць. Пасля сямі класаў — скончыў іх Іван на шаснаццатым годзе, бо, як усе дзеці вайны, быў вучнем-перарosткам,— дзетдом хацеў яго ўладзіць на вучобу ў марскі тэхнікум, марыў падлетак чамусьці пра мора, хоць ніколі не бачыў яго. Але Іван нечаспадзявана для дырэктара і выхавацеляў адмовіўся ад сваёй мары і пайшоў... на курсы трактарыстаў. Скончыў курсы — паехаў у сваю МТС, у свой калгас, пасяліўся ў цёткі. Разважыў проста: трактарысты зараблялі ў той час, як ніхто ў вёсцы. А яму вельмі ж хацелася памагчы гаротнай жанчыне, якая за ўсё сваё жыццё не зведала ніякай радасці — адно гора: сіроцтва і калецтва ў маленстве, адзіноцтва ў старасці.

Іванаў расказ памог Тасі вытрываць душэўную цеснату ў цётчынай хаце.

У Хвядоры было дарэвалюцыйнае ўяўленне пра жончыну долю, пра жончыны абавязкі. А яна, Тася, юная інтэлігентка, хацела жыць зусім па-новаму.

Хвядора за ўсё сваё дарослае жыццё спала ў суткі не больш чатырох гадзін, хіба ўжо ў свята дазваляла сабе паляжаць лішнюю гадзіну. А Тася любіла паспаць, на медпункт ёй у дзевяць, дык яна з-за сну часам спазнялася туды. Для цёткі дзевяць гадзін — добрага паўдня працы ўжо.

Хвядора шкадавала з'есці лішні кавалак, а Тася любіла паесці і не мела ніякай ашчаднасці: добрую страву магла ў памыі выкінуць. Былі ў яе матчыны шляхецкія рыскі — жаданне шыкнуць, пафарсіць. А больш было маладога імпэту. На трэці дзень пасля вяселля яна пацягнула мужа ў клуб на танцы. Пасля рабіла гэта часта: не сядзелася ёй дома. Хвядора не вытрымала, папракнула: «Не забывай, якая ў яго работа, гэта ж не твая — укольчык зрабіць...» За сапраўдную працу старая лічыла толькі адзін Тасін абавязак — акушэрскі, калі яна дзіця прымала.

Але, магчыма, самай цяжкай і самай балючай для Хвядоры была іх ідэалагічная вайна. Тася настойліва патрабавала, каб цётка зняла абразы, якіх было поўны кут — Ісус Хрыстос, матка боска, Іван-

хрысціцель, Георгій-пабеданосец і яшчэ нейкія святыя. Сорамна ёй, акушэрцы, камсамолцы, жыць пад абразамі. Можна толькі ўявіць, як нялёгка было «манашцы» скарыцца: у каморачцы павесіла святых і там малілася. Але калі яна малілася, Тася спявала вясёлыя песні ці ўключала радыё. Толькі праз многа гадоў, як Хвядора памерла, Тасі, сталай ужо жанчыне, матцы двух дзяцей, на пахаванні, калі старую адпявалі яе набожныя сяброўкі, упершыню стала сорамна і прыкра за сваю юнацкую жорсткасць і бестактоўнасць — што прымусіла старую вынесці з хаты абразы і што песні спявала, калі тая малілася. Іншыя крыўды, якія свядома ці несвядома, магчыма, зрабіла цётцы — усё магло быць за шэсць гадоў супольнага жыцця! — у хвіліны жалобы развярэдзілі сэрца, і жанчына балюча перажывала, горка плакала над труной.

Як ні кахала Тася свайго Івана, але трохі, мабыць, закранала яе шляхецкі гонар, што ён «трактарыст мурзаты», вельмі хацелася ёй адукаваць яго, хоць як-небудзь наблізіць да свайго кола — да інтэлігенцыі. Вадзіла ў клуб, у госці да настаўнікаў, прымушала чытаць, слухаць радыё і настойліва ўгаворвала, каб ён паступіў вучыцца ў тэхнікум, на завочнае, безумоўна, аддзяленне. Іван спачатку адбіваўся: «Тасечка, родная, нам трэба спачатку хату сваю збудаваць, а пасля ўжо вучыцца».

У той час якраз адсталы калгас іх «Чырвоную ніву» пераўтварылі ў саўгас «Добрынскі» і прыехаў дырэктар Астаповіч, чалавек, які далёка глядзеў наперад. Адразу прыкінуў, хто тыя надзейныя людзі, якія назаўсёды застануцца ў саўгасе і з якімі можна ўзнімаць гаспадарку. Івана Батрака, безумоўна, першага прыкмеціў — працаўнік сумленны. І адразу сцяміў, што трэба маладой сям'і, каб яна затрымалася, не паляцела шукаць шчасця ў горад. З хацінкі, як у цёткі Іванавай, звязе яго такая жонка, у якой зямля гарыць пад нагамі і крылы лёту просяць. Дом ім трэба. Дом! Астаповіч усё ўзважыў, у тым ліку і Тасін гонар, становішча яе, і равёў Івана з трактара на аўтамашыну: чысцейшы муж будзе ў акушэркі, ды і будавацца будзе лягчэй.

Іван намерваўся будаваць звычайную драўляную хату — як усе. Астаповіч запярэчыў, сам начарціў план яго будучага дома. Палаца, па разуменні таго часу! Спалохаўся Іван: «Не выцягну, Хведар Ціма-феевіч».— «Выцягнеш. Паможам».

Памагаў. Добра памагаў. Транспартам. Матэрыяламі, авансамі, калі вельмі ўжо туга было сям'і: раслі дзеці — раслі расходы. Але нялёгкая гэта справа — такую будыніну ўзвесці, на чатыры пакоі, як у горадзе. Тры гады будаваліся. Ды затое пасля людзі зайздросцілі, аднак без злосці, без папрокаў, бо сумленна Батрак будаваўся, машыну

без дазволу ні разу не выкарыстаў, па закону ўсё рабіў і па закону яму памагаў дырэктар.

А калі жылі ўжо ў новым доме, паехаў неяк Іван нібыта ў камандзіроўку ў Мінск, на некалькі дзён. Вярнуўся з падарункамі, вясёлы, гуллівы.

— Каго ты, дарагая жонка, бачыш перад сабой?

Зайшлася ад радаснага смеху Тася.

— Мужа.

— А яшчэ?

— Валюшынага ды Карнейкавага бацьку. На тваё багацце,— трохгадовага пульхненькага, чысценькага, як новая лялька, Карнейку кінула яму ў рукі, што мячык, а Валя сама павісла на шыі і вішчала ад захаплення, ад радасці, ад калючай бацькавай барады.

— А яшчэ?

— Табе хочацца, каб я сказала — шафёра, прапахлага бензінам?

— А яшчэ?

— О божа! — ужо бадай устрывожылася Тася.

— Студэнта сельгастэхнікума! Палучай мужа-першакурсніка.

Вось такія сюрпрызы Іван любіў рабіць жонцы.

Здаецца ж, не вучыў, не было калі, а прыёмныя экзамены вытрымаў. Не, прызнаўся: год падручнікі ў машыне вазіў, кожную стаянку, кожны перакур, адпачынак выкарыстоўваў, каб чытаць.

Скончыў тэхнікум паспяхова. Механікам стаў. Радавалася Тася. Але калі праз год сказаў, што не па сэрцы яму гэтая работа, не можа ён камандаваць людзьмі, заядацца з шафёрамі, з трактарыстамі, ды і з дырэкцыяй, з бухгалтарамі, і што ўвогуле цягне яго за баранку, Тася асабліва не засмуцілася, спрабавала адгаварыць, але без крыўды, без жаночай істэрыкі — спакойна, разважліва, мудра: «Як сам хочаш, Іванка, да чаго душа твая ляжыць».

К таму часу прыйшло да Таісы Міхайлаўны разуменне, што не знешні бляск, не пасада робяць чалавека чалавекам і інтэлігентам. Бачыла яна жыццё некаторых інтэлігентаў, не толькі вясковых. Далёка ім да яе жыцця. Жаночае шчасце яе поўнае. Дом — два такія ў саўгасе: у іх ды ў дырэктара. З году ў год расце ў доме дабытак. У двары гараж мураваны, пакуль што ў ім матацыкл, але неўзабаве «Жыгулі» будуць зіхацець нікелем. А галоўнае — Іван голасу ніколі не ўзвысіў на яе. Дзеці растуць, розныя па характару, але абое па-свойму ўдалыя — і Валя, і Карней.

Праўда, у апошні час зрэдку нападала на яе незразумелая туга па нечым невядомым. Хацелася чагосьці асаблівага, а чаго — сама не знала. Зорак з неба, ці што? Палохалася часам Тася такога смутку, але

знайшла яму тлумачэнне: узроставае гэта, пэўна, у многіх жанчын так здараецца, калі ім мінае сорак. Туга па маладосці, ці што? Ці зайздрасць маладым? Тася радавалася на дачку і трывожылася за яе і трошачкі раўнавала: прыгожа Валя жыве, бестурботна! І хлопцаў гэтак жа перабірае. Мінулай вясной не пасаромелася прывесці ў госці ажно двух сваіх студэнтаў. І з парога са смехам абвясціла: «Мама, мае жаніхі. Выбірай любога». Адзін «жаніх» вельмі збянтэжыўся ад такіх слоў і праз паўгадзіны ўцёк. Толькі яго і бачылі. А другі застаўся, пасмяяўшыся. Ды не спадабаўся ён Таісе Міхайлаўне: піжон даўгагрывы, балбатун, нахабнік.

Сказала Валі рашуча, катэгарычна, здзівіўшы не толькі дачку, але і сына: «Пра гэтага пустабрэха каб і думаць забылася! Знайшла жаніха!» Валя спачатку абурылася: «Гэта ж дэспатызм! Дамастроеўшчына!» А пасля жартавала, што знарок напалохала іх.

Таіса Міхайлаўна парадавалася, што Валя пры ўсёй сваёй упартасці паслухалася яе. Але пасля ўстрывожылася: хто ведае, дзе чыё шчасце? Яе маці таксама пярэчыла: за каго ты выходзіш? За беднага, трактарыста мурзатага. А яно вот як выйшла. Ляснічы той, што некалі заляцаўся да яе, трох жонак памяняў і сам спіўся, лесатэхнікам зараз робіць і кожны дзень у кульдзюме напіваецца. А яе Івана ўсе жонкі ў прыклад ставяць. А можа, Валін жаніх не спадабаўся таму, што апанавала яе ў той дзень вось гэтая дзіўная незразумелая туга? Гэта — усё роўна што прыступ халецыстыту, раздражняльным робішся, злосным.

У апошні час яна ратуецца ад такіх прыступаў думкамі пра новую вялікую пакупку — машыну. Вельмі верыць, што машына зменіць яе жыццё, абмаладзіць яго, ці што. Будуць яны ездзіць не толькі ў Гомель, але і ў Мінск, у Кіеў. У тэатры, У цырк. Яна любіла цырк. Валя смяялася: «У цябе, мама, дзіцячыя захапленні». Няхай дзіцячыя... На курорт паедуць. Як усе тыя, што цэлае лета імчаць па шашы міма Добрына — на поўдзень, да сонца, да мора. Часта ля сельмага яна глядзела на жанчын, якія ехалі назад, з мора, загарэлыя, прыгожыя, і зайздросціла ім. Нікому даўно ўжо не зайздросціла, а ім зайздросціла...

3

Карней што цётка Хвядора — есць, не прысядаючы, усё яму часу не хапае. Адваліў лусту хлеба, памазаў маслам, пасыпаў соллю і — да тэлевізара, да каляровага цуду, якое і яе, маці, часта заварожвае.

— Сыначка, я падам табе вячэру сюды, у залу,— у пакой, дзе стаіць тэлевізар і дзе стол накрывалі ў святочныя дні ці дзеля гасцей,

бо гэта незвычайны пакой: Валька ператварыла яго ў бібліятэку і музей. Падбіла бацьку купіць кніжныя паліцы, накупляла кніг, карцін, прывезла з Кіева гліняныя гаршкі, куманцы, купіла ў нямога пастуха Паўла яго дзівосныя фігуры, выразаныя з карэння дрэў. Павел раздаваў сваю разьбу дзецям як цацкі, і мала хто на іх раней звяртаў увагу. А калі Валя сабрала, развесіла на сценах, расставіла на паліцах побач з кнігамі — сапраўдны музей атрымаўся, добрынцы знарок прыходзілі, каб паглядзець, з горада мастак прыязджаў, пахваліў. Адзін ленінградзец, турыст, што начаваў у іх, добрыя грошы прапаноўваў за гэтыя фігуркі. Тут і звяры, і людзі. Бярозавы карэньчык нагадвае жанчыну, што як бы ідзе насупраць моцнага ветру, і Валя некалі са смехам сказала: «Мама, гэта ж ты!» — і вельмі любіла гэтую фігурку. Таіса Міхайлаўна чым больш углядалася ў карэньчык, тым больш пачынала верыць, што гэта сапраўды яе партрэт: сутнасць не ў знешнім падабенстве — у характары. Яна, маленькая, рухавая, не толькі вось так бегала ў завеі да парадзіх ці хворых, яна заўсёды ішла супраць ветру, і ў гэтым, напэўна, яе шчасце. Знешняга падабенства быццам бы няма і ў чырвоным альховым корані, што нагадвае схіленага над сталом старога чалавека, а шмат хто, убачыўшы гэтую фігуру, адразу жартаваў: «Астаповіч наш». Спакой, мудрасць і стомленасць у гэтай постаці. Такі цяперашні Астаповіч, хоць Таіса Міхайлаўна помніць яго іншым.

— Карнеечка, у мяне блінчыкі з мясам у печы. У масле плаваюць.

— Не хачу. Цыбуліну хіба дай.

Нават у гэтым яны розныя, дзеці яе,— у ядзе. Валя пераборлівая, любіць, каб усё было згатавана самае адмысловае, смачнае, і пры ўсёй сваёй непаседлівасці не хапае кавалак на хаду, а засцілае стол чыстым абрусам, талерачкі ставіць, відэльцы, нажы прыгожа кладзе, адным словам, сервіруе, вучыць не толькі брата, але і яе, маці, культуры.

Таісе Міхайлаўне нейкі час нялёгка было ад такой даччынай акуратнасці і дамавітасці. Сама яна ніяк не магла пазбавіцца аднаго недахопу, які дапякаў цётцы Хвядоры, на які неаднойчы паблажліва бурчэў Іван. Пры ўсім жаданні бліснуць перад людзьмі, пры ўменні трымаць чысціню ў доме была яна, як называла цётка, раскідухай. Магла засунуць некуды на паліцу, за міскі і гаршкі, дарагую ежу і забыцца, ежа псавалася, і Тася без шкадавання выкідвала яе. Два ці тры разы адзетую кофтачку, ліфчык, чаравікі засоўвала куды-небудзь за куфар, пазней, калі яны з'явіліся, у шафы, у якіх парадак быў слабы, і там утвараліся цэлыя завалы пакамечанага адзення.

Валя хоць і была акуратная з маленства, але, мабыць, звыклася з такім ладам у доме і асабліва не кідалася прыбіраць па-свойму, калі вучылася ў школе. А ў культасветвучылішчы як падмянілі дзяўчыну. Прыязджала на выхадныя, на канікулы — і пачынала з таго, што расчышчала не толькі матчыны, але і Карнеевы завалы, наводзіла парадак сапраўды што ў музеі. Спачатку такая стараннасць дачкі закранала матчын гонар «Падумаеш, год у Магілёве пажыла і такая чысцюля стала. Яйка курыцу вучыць». Валя часта паўтарала, што гэтым яна выхоўвае ў першую чаргу сябе, праходзіць практыку, што калі вернецца працаваць у саўгас (стыпендыю ёй плаціць саўгас), то будзе не толькі весяліць людзей спевамі ды танцамі, але і вучыць жыць па-новаму, культурна. Выходзіла, што маці яе, акушэрка, не толькі не вучыла жыць культурна, але і сама не ўмела так жыць. Крыўдна было Таісе Міхайлаўне. Але трохі і сорамна стала, і яна пачала перад прыездам дачкі наводзіць такі парадак, каб той не было чаго рабіць. І Карней падцягнуўся: не кідаў больш свае брудныя кеды ў зале пад сталом, кніжкі на месца ставіў.

Валька казала, што хатні музей будзе яе курсавой работай, а ансамбль песні і танца, які яна ў летнія канікулы пачала ствараць у саўгасе,— дыпломнай, выпускной.

Аднойчы Таісе Міхайлаўне здалося, што туга яе незразумелая з'явілася ад таго, што дачка маўкліва, паводзінамі сваімі такімі, тыцнула ёй, маці: не так ты, маўляў, пражыла, дарагая мамачка. Узлавалася гэтак жа маўкліва на Валю: «Пабачу, дачушка, як ты будзеш жыць»,— і з таго часу больш цеплыні матчынай аддавала сыну, аднак пакутавала ад гэтага няроўнага падзелу любові сваёй.

Па тэлевізары паказвалі «Вечны кліч», чацвёртую ці пятую серыю. Таіса Міхайлаўна не надта любіла ў кіно і ў кнігах жыццё звычайнае, суровае, цяжкае, асабліва трагічнае, больш любіла фільмы лёгкія, з прыгожымі героямі, з незвычайным каханнем, шчаслівым канцом, лепш, безумоўна, чым Валя, разумела, што паказваюць аўтары няпраўду, але ўсё роўна чамусьці цягнула яе да такіх фільмаў. Камедыі любіла, смяялася шчыра, як малая, здзіўляючы часамі Івана і Карнея, якім часта тое, што смяшыла маці, зусім не здавалася смешным. У сэнсе мастацкага густу ў яе больш было агульнага з дачкой: Валя таксама любіла лёгкія фільмы, лёгкую музыку. Аднойчы Таіса Міхайлаўна нават падумала з трывогай: ці не занадта абедзве яны любяць лёгкае? Ды не, хіба яна выбірала лёгкае?

Але ў апошні час тэлевізара яна пачала бадай што баяцца. Ці не яно, гэтае яркае дзіва, прывучае, цягне да лёгкага жыцця моладзь? Ці не ад гэтых карцінак, расквечаных усімі фарбамі вясёлкі, пачалася і

яе незразумелая туга немаведама па чым? Яна, туга гэтая, пачынае здавацца прадчуваннем бяды.

Не надта ўважліва сочачы за героямі — усё адно не ўсе серыі глядзела,— Таіса Міхайлаўна з замілаваннем назірала, з якой асалодай, як смачна сын, не адрываючыся ад экрана, есць чорны хлеб і цыбулю. Уздыхнула:

— Ты хлеба з цыбуляй наеўся. Бацька ў кульдзюме катлет натопчацца, якія хіба толькі пахнуць мясам ды маргарынам, той жа хлеб. А ў мяне такія блінчыкі! З чыстым мясам.

Карней засмяяўся:

— Валька з'есць. Натанцуецца і будзе табе апоўначы сервіровачку наладжваць. Ёй трэба было ў «вобшчапіт» ісці, а не ў «культсвет».

— Прасадзіць бацька грошы.

— А чаго іх жалець? Прэмія,— іншым тонам, чым упачатку, без уедлівасці, паблажлва, зусім з мужчынскай развагай адказаў сын.

Таіса Міхайлаўна даўно прыкмеціла, што каля тэлевізара паюнацку калючы Карней дабрэе, мякчэе, часам сарамліва хавае слёзы на вачах. Падабалася ёй, што хлопца кранае жыццё, лёс далёкіх людзей, можа, нават выдуманы, сачынёны пісьменнікамі. А вось абыякавасць дзяцей да грошай — цаны ім не знаюць! — і радавала, і трывожыла.

З яе мары аб машыне кпяць, дзівакі.

За акном зарыкалі каровы — вяртаўся з пашы статак.

Таіса Міхайлаўна цішком, як хаваючыся ад сына, выслізнула з пакоя, выйшла на вуліцу, стала ля брамкі. Дзеці ўжо прыкмецілі гэтае яе дзівацтва і пасміхаліся: прыватніца. А яе цягне сустрэць вячэрні статак, раніцой ужо адвыкла прачынацца, а ўвечары карціць. Нічога дзіўнага, што ў ёй жыве сялянка. Некалі ў іх з Іванам і ў цёткі Хвядоры адзіная мара была — хутчэй выгадаваць карову. Асабліва калі нарадзілася гэтая цяперашняя вяртуха Валька. Як яны песцілі тую цёлачку, што маці надарыла, як чакалі, калі яна стане каровай! Дваццаць гадоў пасля трымалі карову, свіней. А цяпер у хляве пуста, адны куры. Цяпер мала хто са служачых трымае карову, нават некаторыя маладыя рабочыя пазбаўляюцца ад жывёлы, асабліва тыя, што жывуць у новых двух- і трохпавярховых дамах. Валя, як ніхто, пастаралася, каб яны з бацькам скінулі са сваёй шыі гэтае ярмо — карову, «добраахвотны прыгон», як яна казала. «Колькі вам таго малака трэба на траіх? Грошы не знаеце куды дзяваць, а працуеце, як прыгонныя. Вас Астаповіч залье малаком, абы вашы грошы».

Пасля дажджу ў жнівеньскі адвячорак асабліва востра пахла каровамі, полем і малаком, якое каровы неслі. З агародаў жа пахла

гуркамі, кропам і выкапанай бульбай. А з недалёкага, за сялом, механізаванага тока з сушыльным комплексам, куды звезены з поля сотні тон збожжа, несла непаўторным пахам новага хлеба. Пачуць водар хлеба ў зярнятах можа толькі той, хто вырас на зямлі. Але яна, акушэрка,— сялянка, яе хвалююць і радуюць гэтыя пахі, яны даюць спакой і ўпэўненасць у трываласці жыцця, шчасця дзяцей. Не тэлевізар, не Вальчыны танцы і не машына, якую яны купяць, а вось гэта — пах гною, кароўскага поту, малака, гароднiны і збажыны дае такую ўпэўненасць.

Таіса Міхайлаўна стаяла ля брамкі, прапускаючы міма статак, ацэньваючы знаёмых суседскіх кароў па вымі: якая колькі аддасць малака. Раптам упершыню жанчына падумала, што туга яе, якой яна пачала баяцца,— ад таго, што двор застаўся без каровы, і ў вячэрнія часы, калі часцей за ўсё з'яўляецца такое пачуццё, ёй, гаспадыні, няма куды дзяваць вольны час, не можа яна, нястомная працаўніца, увесь вечар сядзець перад тэлевізарам. Падсвядома пратэстуючы супраць таго парадку, які заводзіць у доме дачка, Таіса Міхайлаўна катэгарычна вырашыла: «Угавару Івана купіць карову».

Але калі статак прайшоў і яна пагаварыла з настаўніцай Кусянковай, якая жыла насупраць цераз вуліцу, трымала карову і праклінала сваё жыццё — набліжаецца настаўніцкая канферэнцыя, у яе даклад па секцыі, а яна не можа сесці за яго, бо сена з мужам ад відна да відна цягаюць,— Таісіна рашучасць купіць карову знікла. Патраціш грошы — адцягнецца пакупка аўтамашыны. Карова яе верне да старога жыцця. А з «Жыгулямі» яна звязвала надзею на новае жыццё — незвычайнае, як у тых фільмах, якія любіла.

Непрыкметна пад'ехала на веласіпедзе Валя.

— Уздыхаем па кароўцы, мамачка?

Во стрэмка! Але залюбавалася дачкой: прыгожая, чартоўка! Вышэйшая за маці ростам, але такая ж гнуткая, рухавая, модная — у джынсавых штанах, белай кофтачцы, з распушчанымі каштанавымі косамі. Ведала, што вясковыя хлопцы круцяцца вакол Валі, як тыя касмічныя караблі вакол Зямлі. Але самазадаволена падумала, што ўсё-такі поспех у дачкі не той, што некалі быў у яе. Не тыя хлопцы. Не той час. Цяпер цяжка быць першай, бо ўсе прыгожыя і ўсе модныя, даяркі адзяюцца, што кінаактрысы.

— А я выбірала, якую купіць можна. Дамовіліся мы з бацькам зноў набыць карову. Слесарэнкавы прадаюць. І заатэхнік...

У Валі ад здзіўлення выцягнуўся твар.

— Ну і дзярэўня! Нічым вас не доймеш. Людзі збываюць, а яны гатовы цэлую ферму завесці. На чорта вам тая карова?

— А мне сумна без яе. Пагаварыць няма з кім... у двары.

— Пагаварыць з каровай? Ну і чудзіш, мама! Гэта ўжо, знаеш, як там у вас, у медыцыне? З паталогіі...

— Дзякую, зарабіла.

— Прабач, мамачка, але ж, далібог, гэта дзівацтва нейкае. Ты ж культурны чалавек.

— А карова, па-твойму, бескультур'е?

— Ды не лаві ты мяне на слове. Комплекс на шэсць тысяч галоў, які будуе Астаповіч,— во сучасная культура. Эканамічная. А не свая кароўка ў сваім двары.

— Нічога — свая бліжэй, малачко свяжэй,— падбівала падражніць дачку. Але падражніць лёгка Карнея, а Валю — не так проста, у яе практычнасць сталай жанчыны.

— А як жа з машынай? Ці ў тваёй панчосе хопіць і на машыну, і на пяць кароў? А на магнітафон для дачкі ў вас няма. Жмоты! Скупярдзяі!

Не на вуліцы гаварыць пра грошы.

— Нешта рана ты сёння.

— Віцька, парасёнак, зноў не з'явіўся. Сарваў рэпетыцыю. Ох дам я яму, ох дам! — ажно кулачком пастукала па рулі веласіпеда.— Во дзеля чаго мне трэба магнітафон. Каб не залежаць ад дурня.

Маці пасміхнулася, можа трохі нават зларадна. Віцька Каржоў, Валін аднакласнік, двойчы паступаў у кансерваторыю і двойчы зрэзаўся. У Добрынцы лічылі, што правальваецца ён з-за таго, што трохі заіка і вельмі саромеецца свайго заікання, маўчун вялікі. Вяскоўцы шкадавалі яго і любілі: добры хлопец, на баяне мастак і ў працы майстра — электрыкам у саўгасе робіць. У Валю закаханы са школы, і Валя камандавала ім, як хацела, бесцырымонна вадзіла за нос. Але нарэшце ў хлопца праявіўся гонар, і ён пачаў бунтаваць. Таісе Міхайлаўне гэта падабалася: мужчына павінен мець характар і ўмець яго паказаць. Пра Віцьку сур'ёзна раней не думала, бо не такога жаніха хацела для дачкі. Але ці мала яна чаго хацела! Напрыклад, вельмі хацела, каб Валя паступіла ў медыцынскі, стала ўрачом, гэта была яе ўласная колішняя мара, няхай жа, думала, яна ажыццявіцца хоць так — у лёсе дачкі. Але Валя і слухаць не пажадала пра медыцыну. Дык калі яна ўжо выбрала сабе прафесію сельскага клубніка, то чым дрэнны быў бы ёй муж Віцька Каржоў? Іграў бы на баяне, а яна няхай бы танцавала. Таіса Міхайлаўна падумала пра гэта ўпершыню, спачатку з маленькай злараднасцю ў адплату за рэзкія Валіны словы, потым — як дакор сабе, што лёгка пагадзілася на культасветвучылішча і як занізіла Валін палёт, спусціла яе шчасце да свайго ўласнага. Але

тут жа зноў як спахапілася: «Дай бог табе, дачка, такога шчасця, як у мяне».

— Бацька заваліўся ў кульдзюм. Прэмію палучылі. Пусціць грошыкі на вецер — душа шырокая. Пайшла б ты, Валя, забрала яго, цябе ён паслухаецца.

Дзейная натура, Валя, бадай, узрадавалася, што знайшоўся цікавы занятак.

— О, гэта мы мігам! На велік,— уручыла маці веласіпед і ўподбег рушыла да шашы.

Таіса Міхайлаўна глядзела праграму «Час». Тут яны як бы памяняліся з Карнеем ролямі. Цяпер з большай цікавасцю глядзела і слухала яна, з меншай — сын. Любоў да лёгкіх фільмаў у яе дзіўна спалучалася з павышанай увагай да перадач сур'ёзных. «Відавочнае і неверагоднае» — самая любімая яе праграма. А яшчэ — «Клуб кінападарожжаў» і «У свеце жывёл».

Навіны яна слухала з асаблівай увагай.

Іван жартаваў: «Тася, давай палітінфармацыю. Дзе там што на зямлі патрэсла?» А яшчэ ён неаднойчы казаў: «Не мой партрэт трэба вешаць на Дошку гонару — твой: ты нас корміш і прасвячаеш».

Газеты ў жыцці сваім яна чытала не надта акуратна, хоць, як і ўсе інтэлігенты вясковыя, лічылася агітатарам. А вось тэлевізійныя навіны не прапускае, асабліва цяпер, калі не стала каровы і ўвечары — ніякай працы ў доме. Спалучэнне слова і вобраза рабіла на жанчыну магічнае ўражанне; з незвычайнай цікавасцю, быццам бачыць упершыню, адкрывае невядомае, глядзела яна, як працуюць камбайны, хоць удзень бачыла ў натуры працу мужа і сына на такім жа камбайне; як льецца сталь — у каляровым тэлевізары гэта яркае відовішча; як дояць кароў, як верталёты перавозяць нафтавыя вышкі, як сустракаюць і прымаюць высокіх гасцей. А кадры міжнароднай хронікі пра забойствы людзей у Лівane, у Ірландыі, у Паўднёвай Афрыцы хвалявалі Таісу Міхайлаўну, як ніводзін фільм, ніводзін спектакль: там зроблена знарок, каб заняць людзей, даць адпачынак, а тут — само жыццё. «З-за чаго людзі рэжуць адзін аднаго? З-за рэлігіі, з-за колеру скуры. Няўжо гэта мы, чалавекі, такія дзікія яшчэ?»

Валя, вялікі палітык, даводзіла, што рэлігія — шырма, сутнасць — глыбей, у сацыяльным становішчы.

«Але ж дзеляцца па рэлігіі».

Іван глядзеў пра вайну, пра забойствы з панурай маўклівасцю, якая заўсёды трывожыла Таісу Міхайлаўну — ведала яго боль, рэдка і скупа гаварыў ён пра сваё мінулае, але яна адчувала, што душэўная рана як адкрытая дагэтуль, і ашчаджала, каб ніхто не крануў гэтай

раны. Пра ваеннае Іван гаварыў зрэдку з Карнеем: яму служыць, быць салдатам. Па-мужчынску, нібыта спакойна, разважліва, абмяркоўвалі зброю і сілу розных дзяржаў — Кітая, Амерыкі... У яе, маці, ад гэтых іх размоў кожны раз ледзянела ўсярэдку.

Карней сумаваў, пакуль ішоў «Час». Паглядзеў у газеце яшчэ раз праграму перадач, пагартаў часопіс, завёў будзільнік, хоць маці прасіла не заводзіць, казала, што не любіць, калі ён звоніць над вухам, але Карней ведаў: шкадуе, што будзіць Валю; паненка гэтая да дзвюх ночы абцасы збівае, а пасля да паўдня спіць. «Дваранскае жыццё вядзеш»,— кідаў ён сястры. А тая ў сваю чаргу кпіла з іх з бацькам і адначасова з маці: «Батракі з'ядналіся. Трымайся, шляхта!»

Карней высунуўся ў адчыненае акно — паслухаць, як пачынае жыць вячэрняя вуліца. Можа, дзе сябрукі адгукнуцца, да якіх яго цягнула і якіх ён трохі баяўся. Пасля дзевятага класа многія з іх як бы забыліся на тэхніку, на космас, на спорт і ўсю сваю ўвагу пераключылі на адно — на дзяўчат, увечары іншай размовы ў іх няма, як пра каханне, пра дзяўчат. Але каб прыгожа хоць гаварылі, а то некаторыя пахабнічаюць. Ён спрабаваў сароміць сяброў — з яго смяяліся. Але і са старым зубаскалам Шчэрбам быць з дня ў дзень абрыдла. Хацелася да сваіх, свае юнацкія навіны паслухаць.

Вуліца ажывала. Ды над усімі іншымі гукамі ўзвышаўся адзін — вясёлы спеў ля шашы.

Карней услухаўся і хмыкнуў зняважліва, сказаў маці, як папракнуў:

— Паслухай, які канцэрт твае любімчыкі завялі. На смех людзям.

Таіса Міхайлаўна адарвалася ад тэлевізара, высунулася ў акно побач з сынам.

Над сялом, у зорнае неба, узлятала песня:

И не могут сбить меня с дороги
Ни туман, ни ветер штормовой.

Песню вялі барытон і маладое лірычнае сапрана. Дачка перад тэлевізарам навучыла ўсіх іх вызначаць галасы і зрабіла вывад, што ўся іх сям'я музыкальная, нават Карней, які «спяваў толькі ў калысцы».

Спявалі Іван і Валя.

Высока і душэўна канчалі песню, якую любіў Іван, паўторам заключных радкоў:

Потому, наверно, отовсюду
Птицы возвращаются домой.

Не, не спалохала Таісу Міхайлаўну, што муж і дачка смяшаць людзей. Наадварот, хораша зрабілася да замілавання, да радасных

слёз, што Валя вядзе бацьку дадому І яны так па-мірнаму, па-добраму зладжана спяваюць. А людзі... ніхто не пасмяецца, бо няма з чаго, людзі зайздросцяць, што дачка ў яе такая пявуння, танцорка, адным словам, талент, і муж — першы працаўнік у саўгасе, выпівае рэдка, а калі і вып'е, то нікому слова дрэннага не скажа, ні з кім не пасварыцца, толькі смяецца ды спяваць яму хочацца вось так.

Песня сціхла. Набліжаліся галасы дачкі і мужа. Валін смех. Слоў Таіса Міхайлаўна не разбірала — іх заглушалі машыны, што ішлі па шашы, але здагадалася, што бацька і дачка абмяркоўваюць, якую песню яшчэ заспяваць.

Зацягнуў Іван сваю любімую — старую ўкраінскую:

Ой, на горы та жанцы жнуць...

Высока ўзяў. Валя засмяялася, перапыніла яго, праспявала першую фразу адна. Іван паслухмяна паўтарыў. І вось зноў зладжана паліліся іх галасы, несучы карціну далёкага мінулага:

А пад-під гарою
Ярам-далыною
Казакы йдуць...

Насупраць адчынілася акно, высунулася ў яркім святле суседка — настаўніца Кусянкова. Таіса Міхайлаўна падумала што не адно акно ў гэты міг адчынілася, шмат хто, пачуўшы яе спевакоў, адарваўся ад вячэры, ад хатняй працы, ад тэлевізараў.

— Вашы, Міхайлаўна?

— Мае,— адказала з гордасцю.

— Весела вам. А мае вунь Лазара заводзяць. Чуеце? — у доме плакалі малыя; занадта ж плаксівыя ў Кусянковай дзеці, ад таго, мабыць, што бацькі нервовыя, часта сварацца. Таісе Міхайлаўне шкада Алену Сяргееўну, памагае ёй — няньчыць «унукаў», прымала ж іх пры родах; між іншым, «унукаў» такіх у Добрынцы і навакольных сёлах у яе больш за трыста, не дзіва — за дваццаць два гады акушэрства!

— Нічога, вырастуць вашы — павесялее ў хаце, павесялееце і вы.

— Калі тое будзе,— уздыхнула Кусянкова.

«Во дурная, па чым уздыхае — па старасці, цяпер бы радавалася — трыццаці маладзіцы няма яшчэ»,— падумала Таіса Міхайлаўна.

Іван змоўк. Можа, таму, што ўгледзеў яе ў акне ці Кусянкову? Але тады пачала новую песню Валя — весела, гулліва, здавалася, спявала і прытанцоўвала, яна і так магла — не саромеецца выкаблучваць, як кажа Карней, у любым месцы,

Как зажгутся звездочки,
В вышине засветятся,
Так мы под рябиною

Под знакомой встретимся.

Ужо перад акном, у святле, з фізіяноміяй, якая ззяла, што месячык, па-змоўшчыцку падміргнуўшы маці, Валя вывела;

Знай, рябина красная,
Знай, рябина спелая.
Все подружки смелые,
Только я несмелая.

— Ога, нясмелая ты,— не вытрымаў — буркнуў, як стары, прастак Карней.

— Я ў любві нясмелая, Карней-дуралей! — крыкнула ў акно Валя са смехам.

Іван недзе ў сенцах жартаўліва загрымеў арыю з «Запарожца за Дунаем»:

А я турак — не казак...

— Туркі так не п'юць, ім рэлігія забараняе,— сказаў пазбаўлены гумару дагматык Карней.

Таісе Міхайлаўне зрабілася да няможнага весела, рагатаць хацелася, як малой, але з натугай стрымлівалася — з-за сына.

У зале Іван адставіў нагу, гопнуўшы ў падлогу, адцягнуў крысо свайго зашмальцаванага рабочага пінжачка, заспяваў басам:

Пілы гарілку, пілы й налівку,
Шчэ й мэд будэм піты,
А хто з нас, братцы, будэ смеятыся,
Таго будэм біты!

— А ну, жы-н-ка! Стаў га-ры-лку! І наліўку!

Валя за спіной у бацькі, у дзвярах, падтрымала іншай песняй:

Прадамо валоў мы сорак,
Яшчэ вып'ем і ў аўторак.

— Добра і так наліліся,— зноў-такі без усмешкі, асуджальна кінуў Карней.

— Сын! Бацьку не крытыкаваць!

— А сам усіх крытыкуеш.

— Не ўсіх. Маму тваю не крытыкую.

— Бо баішся.

— Дурань! Не баюся — люблю,— падышоў, абняў жонку, пацалаваў у шчаку.— Лепшай мамы, чым наша, у цэлым свеце няма.

Таісу Міхайлаўну гэтая нечаканая пахвала п'янаватага мужа кранула, як даўно не кранalі самыя ласкавыя словы, якія Іван казаў ёй адзін на адзін цвярозы. Узрадавалася яна і засаромелася дзяцей, загарэлася, што нявеста.

— А ўсіх іншых — правільна! — крытыкую! — заявіў з п'янай зухаватасцю Іван, аднак і тут застаўся сумленным перад дзецьмі — прызнаўся: — Не, яшчэ аднаго чалавека не крытыкую. Астаповіча.

— Бо таксама баішся.

— Не баюся — паважаю, гэта мужык што трэба, я табе скажу. Шкада, што старэе.

Таіса Міхайлаўна ўзрадавалася ўжо іншаму: што ў размове ні дзеці, ні муж не прыкмецілі яе збянтэжанасці, і дала волю таму свайму смеху, за які, ведала, усім была сімпатычная: прыгажэе яна ад такога смеху — вочы цяплеюць, носік смешна курносіцца, залаты зуб прывабна бліскае...

— Дык я накрыю на стол, Іваначка.

— А як жа! Усё стаў на стол. Яшчэ дзяды нашы на дажынках гулялі.

— А якія ў вас дажынкі? — зноў скептычна хмыкнуў Карней.— Што вы дажалі?

— Дажнём, сын! Заўтра з табой дзесяць гектараў скосім. К абеду і рукі памыем.

— За такія «дажынкі» ў «Вожык» трэба,— ніяк не мог супакоіцца хлапчына, узрушаны недарэчнымі Шчэрбавымі жартамі і тым ашуканствам, якім заняўся Качанок і з якім згадзіліся камбайнеры, у тым ліку чамусьці і бацька яго. Незразумелыя яны людзі, старыя, часта паводзінамі сваімі пярэчаць самі сабе, сваім прынцыпам, як бацька сёння. Ды яшчэ і разгуляўся. З якой радасці?

— Ну і зануда ты, дарагі мой брат,— сказала Валя, пераключаючы праграму тэлевізара — шукае больш вясёлую перадачу: гутарка лысых дзядзькоў аб гандлі садавінай і гароднінай — не для яе святочнага настрою.— Як цябе Нюрка будзе цярпець такога? Яна ж вясёлая дзяўчына.

— Ага ж, трэба мне твая Нюрка! — Карней адразу нахмурыўся, натапырыўся, як вожык, перайшоў да абароны.

Таіса Міхайлаўна заслала на стол чысцюткі абрус, тут, у зале, «у музеі», увішна расстаўляла талеркі, келіхі і ціха смяялася. Яе хараша цешылі і мужава весялосць, і Карнеева праведнасць, і Valіна бяскрыўдная лёгкасць, з якой яна шпіляла брата.

— Мама, тата, як вы яго жэніце, такога нелюдзіма? Во будзеце мець клопату!

— У цябе толькі жаніцьба ў галаве.

— У мяне не жаніцьба, даражэнькі мой, у мяне — замужжа. Але са мной не будзе клопату.

— Ох не знаю, з кім з вас будзе большы клопат,— ужо без смеху, сур'ёзна, падтрымала сына Таіса Міхайлаўна, употай уздыхнуўшы, бо ў той час яе якраз хвалявала Валя, пра будучыню сына рана было думаць.

Карней па-хлапчукоўску даўмеўся нарэшце, як адплаціць сястры:

— Я знаю, чаго ты падлізваешся да бацькі. Магнітафончык захацела? Ага!

— Здраднік ты! Абяцаў памагаць...

— А чаго памагаць? Лічы, дачка, што магнітафон у цябе ёсць. Раз трэба для работы...

Валя крутнулася на адной назе, галёкнула ад радасці.

— Татачка! Колькі разоў цябе пацалаваць? — падскочыла, абхапіла за шыю, цмокнула раз, два, тры...

— А ты запытай, які яна хоча,— сказала маці.— За тры сотні.

— А шчо нам тры сотні!

— Якія багачы! Тры мае зарплаты.

— Твае тры. А мая адна. Прэмію, знаеш, якую мы з Карнеем палучылі?

— Можа, у Каці ўжо тая прэмія,— буркнуў Карней.

— Так ты, чортаў сын, думаеш пра бацьку? Ай-я-яй. Давай аддадзім Валі на магнітафон нашу прэмію? Чаго не хапае — няхай матка дабаўляе. Сагласны?

— А нашто мне тыя грошы,— Карней нават засаромеўся, што бацька пытае ў яго дазволу.

— Дзякую, Карнейка! Я ж казала, што ты даўно ўжо ў камунізме. Зневажай нас, няшчасных спажыўцаў. Мы — з перажыткамі.

Таісе Міхайлаўне было трохі шкада грошай — нечаканы, неплянавы расход можа адцягнуць пакупку машыны, бо пазычаць на такую рэч яна не дазволіць сабе, тут справа гонару — каб людзі не падумалі, што «пані Туся» дзеля шыку за апошнія купіла, чаго добрага, пачнуць пляткарыць, што сям'ю надгаладзь трымала, абы сабраць на машыну. Але разам з тым яе радавалі Іванава шчодрасць, сынава абыякавасць да грошай і Валіна тыпова жаночая хітрасць.

Таіса Міхайлаўна паставіла на стол графін вішнёвай настойкі, артыстычна пакланілася мужу і сыну:

— Прашу да стала, дарагія пераможцы.

4

Іван праспаў на работу, чаго ўлетку ніколі не здаралася. Спалі яны з Тасяй на гарышчы на сенавале, так учора яму, п'янаватаму,

захацелася — успомніць маладосць. Каровы няма, а сена ў двары ёсць, свежае, духмянае: частку гарода ў нізіне ля раўчука ён гады два назад засеяў канюшынай. Трава расце выдатная, двойчы за лета скасіў. Самім не спатрэбіцца — сена цяпер дарагі прадукт, і пакупнікі заўсёды ёсць; працы меней, а выручка большая, як ад бульбы.

Спалася яму соладка. Сніў, што сябры ўжо робяць, што ў Шчэрбы стукаюць падшыпнікі, ірваўся хутчэй да іх, але ўсё роўна ніяк не мог расплюшчыць вочы.

Прачнуўся — пачуў, што па гонтавым даху барабаніць дождж. Во ад чаго, мабыць, сніў стук падшыпнікаў. Прыгадаў учарашняе — і стала нядобра, адчуў сваю віну. Маглі б скончыць уборку, каб не гэтая помпа з прэміяй. Любіць Яшка спектаклі. А ў яго не хапіла прынцыповасці, паламаўся трохі і здаўся. Ад сваёй слабасці, якую праявіў, было нядобра, сорамна.

Гадзінніка на руцэ не было, але адчуваў па знаёмых вясковых гуках, што не рана ўжо. Паспешліва падхапіўся.

Тася на кухні на газавай пліце гатавала снеданне. Гнуткая, як дзяўчынка, у марлевай касынцы, у стракатым фартушку, здалася святочнай і памаладзелай. Іван успомніў тую радасць, якую яна падарыла яму і ўвечары, за сталом, і ўначы. Салодкая ў іх была ноч, мядовая, маладажонская.

— Шчо ета ты не разбудзіла?

Некалі яна адвучвала яго, маладога, ад «шчо» і «ета», але гадоў колькі назад ён злавіў яе на тым, што сама яна, случанка, часам гаворыць «шчо», і яны пасмяяліся і больш не вучылі адно аднаго мове; цяпер гэта рабілі дзеці.

— Дождж жа ідзе.

— А калі нарад на другую работу?

— Карней даўно пайшоў. Каб быў нарад, то прыехаў бы.

— Усё роўна нядобра. Што пра мяне падумаюць? Учора за лайдакамі пацягнуўся...

— Не карай ты сябе. Трэба ж адпачыць. Без выхадных робіце.

Івану захацелася зноў абняць жонку, каб яшчэ раз пачуць яе блізасць. Абняў асцярожна, як бы нясмела.

Яна, ніжэйшая ростам, прытулілася галавой, шчакой да яго грудзей, быццам хацела вухам паслухаць сэрца.

— Іваначка,— і былі ў гэтым адзіным слове жаночая пяшчота і гарачая ўдзячнасць за тое, што ён такі, што яна і праз дваццаць адзін год кахае яго гэтак жа, як і тады, у сваім трохі бяздумным юнацтве, за тое, што ён не даў ёй памыліцца. Ён часта пытаўся на працягу гэтых двух дзесяткаў гадоў: «За шчо ты мяне палюбіла?» Яна не ўмела

растлумачыць — завошта і адказвала жартам: «За тое, што мазутам ад цябе пахла».

За кароткім снеданнем Тася высыпала мяшок навін — урачэбны пункт па часці навін што дыспетчарская; былі навіны вясковыя і некаторыя свае, хатнія,— пра дзяцей, але ўсё лёгкія, вясёлыя. Ёй хацелася гаварыць, хацелася яшчэ чым-небудзь пацешыць яго, парадаваць. Але Іван глядзеў у акно, за якім церусіўся дробны дождж, і думкі яго былі ў Казіным, на нязжатым ячмені.

— Качанку штаны трэба зняць.

— За шчо?

— За ўчарашняе. Тры гадзіны пераганялі камбайны ды прамовы гаварылі. Яму абы парад быў, паказуха.

Але Тасю і гэта рассмяшыла — што малую: можа, уявіла, як «Качанку можна зняць штаны», ці яшчэ раз парадавалася мужавай шчырасці да працы.

Ён не хацеў браць парасон (плашч яго дарожны забраў сын), адбіваўся:

— Пасмяюцца нашы зубаскалы, што я пад зонцікам на работу іду.

Але, калі жонка ўгаворвала ўзяць гэтую папскую накрыўку ад дажджу, выйшла заспаная Валя, пачула яго словы, хмыкнула:

— У якім стагоддзі вы жывяце? Перадавыя механізатары! Рухаючая сіла прагрэсу.

Пасмяяліся ўсе трое.

А з парасонам ён усё ж уліп, праўду дзяды казалі: бабу слухай, а свой розум май. Калі прыйшоў на машынны двор, пад паветкай, дзе слесары, шафёры і трактарысты ў часе перакураў «ганялі казла», сядзела ўся яго транспартна-ўборачная брыгада і... Качанок. Тое, што хлопцы вось так сядзяць, ад варот убачыў — пахмурныя, як раніца, і што на двары ў такі час Качанок, устрывожыла Івана. Ужо адно тое нядобра, што ён, брыгадзір, з'явіўся апошні.

Парасон ён згарнуў яшчэ ля варот, але не шпурнеш жа яго за плот, ды і позна: няма сумнення, што механізатары вялі яго вачамі, як ён выйшаў з сяла, і, безумоўна, добра «праехаліся» ўжо, недарэмна Карней, небарака, сядзіць чырвоны, як спечаны рак,— сорамна за бацьку.

Качанок «прывітаў» Івана здалёк, калі той яшчэ быў пасярод двара:

— Ну, во і яго вялікасць пан Батрак. Дачакаліся! А як жа — яго вялікасць гуляюць пад зантом. А як жа — мы анцілігенты! Жонку праводзілі да медпункта. Галоўку палячылі. А можа, на грыбкі схадзілі?

Хоць дзе там! Вочы не прамытыя. Морда апухлая пасля ўчарашняга. Падставіў бы свой святы лік пад дожджык. Асвяжыла б! А ты пад чорны зонт схаваўся. Нуду наганяеш. Вунь Шчэрбу плакаць захацелася... ад такога жыцця. Бачыш, як скіс чалавек?

Уедлівыя слоўцы кідаў «рабачком». Абразлівыя. Хоць быў ён свой, добрынскі, і адносіны з усімі сваімі былі ў Яшкі панібрацкія, але даўно ўжо не звяртаўся ён ні да каго з такой бесцырымоннасцю — разумеў сваё становішча. А да перадавых рабочых, такіх, як Батрак, увогуле ставіўся з асаблівай пашанай і паказваў гэта і на сходах, і ў побыце.

Іван спачатку моцна абурыўся і хацеў быў паслаць Яшку... Падумаеш — свяціла! Сарваў завяршэнне ўборкі, а цяпер шукае вінаватага! Але ад моцных слоў стрымаў сын: вельмі ж збянтэжаны ў хлопца выгляд. Ды і механізатары таксама як бы папярэдзілі непажаданую сварку: не грымнулі рогатам на ўедлівыя Качанковы словы, толькі нявесела пасміхваліся, адзін Шчэрба хіхікнуў, калі праформг сказаў, што яму плакаць хочацца. Урэшце, вінаваты ён сам, разважыў Батрак: спазніўся на работу... Але ж прастою з-за яго няма — на поле выязджаць нельга. Ды падобна, што не з-за яго спазнення Качанок такі ўедлівы. Здарылася, пэўна, нешта незвычайнае. Але што? Няўжо пасля таго, як ён пайшоў з кульдзюма, хлопцы ўчынілі дэбош, пабіліся? Хто? Калі вып'е, задзірысты бывае Хведзька Шчэрба. Але па фізіяноміі яго не відаць, што ён адчувае сябе вінаватым, наадварот, у Хведзькі, як ні ў каго іншага, фізіяномія блішчыць, што намаслены блінец. І ў вачах — чорцікі як бы ад прадчування добрай весялосці ці новай выпіўкі.

— Няма чаго мітынгаваць! — загадаў Качанок, хоць, акрамя яго, ніхто нічога асаблівага не сказаў, так, кідалі звычайныя словы, бяскрыўдныя кепікі, такім чынам — зразумеў Іван з удзячнасцю да сяброў — хітра разводзячы кантакты, якія яны з Яшкам маглі замкнуць.— Паехалі ў кантору! Дырэктар чакае.

Шчэрба ціхенька свіснуў: сур'ёзная справа, калі сам Астаповіч усіх іх кліча «на кавёр».

Іван ведаў, што Качанок палезе ў кабіну, таму не спяшаўся ісці да свайго ЗІЛа, што стаяў пад шыфернай павеццю. Качанок зразумеў гэта і загадаў шафёру другой аўтамашыны Васілю Бойку, каб той заводзіў.

У кузаве, калі паехалі, Іван спытаў у сваіх:

— Што адбылося, хлопцы?

Пацiснулі плячамі.

— Нейкае чэпэ,— сказаў Косця Малашанка.

— Хведзя, ты ўчора не накуралесіў?

— Шчо ты, Карнеевіч! Ды мяне ўчора да любой раны можна было прылажыць. Дабрэйшага чалавека не тое шчо ў Добрынцы, ва ўсім раёне не было. Люба і тая мяне пацалавала.

— Не знала яна, шчо ты з Кацяй цалаваўся,— трохі змрочна, як заўсёды, пажартаваў Каржоў.

— А братачка, то трэба ж было правесці трэніроўку. А то ж поўная дыскваліфікацыя. Забыўся, з якой стараны да бабы падыходзяць.

Рагатнулі — ажно Качанок высунуўся з кабіны, падазрона агледзеў іх: ці не з яго смяюцца?

Іван зноў падумаў пра жонку, і зноў яму стала хораша, вярнулася адчуванне цеплыні і шчасця. Урэшце, усё астатняе дробязі. Што асаблівае магло здарыцца? Самая большая непрыемнасць — дождж, калі пойдзе надоўга. Але, як жартаваў той жа Шчэрба, «бога на кавёр не паставіш».

Калі пад'ехалі да канторы — двухпавярховага, тыпавога, не ў лепшым сэнсе гэтага слова, будынка, то ўбачыў, што з вокнаў выглядаюць жанчыны — бухгалтары, планавікі, справаводы.

Шчэрба пажартаваў:

— Ты глядзі, як на нас любуюцца канторскія дамачкі. Страчаюць, як касманаўтаў.

Але ніхто не засмяяўся.

Перад уваходам у будынак, на ганку, быццам толькі цяпер успомніўшы, Качанок павярнуўся і сказаў да Івана:

— Вучня не трэба! — Карней, значыцца, які таксама ішоў разам з усімі.

Іван рашуча стаў у абарону сына:

— Ён што — пагана работаў?

— Не за прэміяй ідзеш.

— Ты нас прэміяй не папракай. Мы яе трудом зарабілі, мазалямі. Не знаю, чым ты зарабляеш...

Качанок пазелянеў ад абурэння: так падрываюць яго аўтарытэт тут, у канторы, дзе праз адчыненыя вокны ўсё чуваць!

— Хлопцы, хлопцы, будзьце мужчынамі,— супакоіў іх разважлівы Каржоў.

Пакрыўджаны Карней крута павярнуўся і пайшоў назад. Іван спыніўся на ўсходцах. Каб сын пайшоў пад дажджом у малады тапалевы парк, што быў пасаджаны вакол Палаца культуры, Батрак-старэйшы напэўна пайшоў бы следам за ім, нягледзячы на тое, што ўсю яго брыгаду выклікае сам: Астаповіч. Але Карней — малайчына. Ён

залез у кабіну грузавіка, не мог адарвацца ад людзей, яму хацелася на поле, да камбайнаў.

У калідоры Шчэрба прытворна ўздыхнуў, старанна выціраючы боты аб старую дарожку.

— Заляпаем мы новы кавёр у Хведара Цімафеевіча. Такі кавёрчык! Ажно свеціцца.

Можа, з-за дывана ці так задумана было, але Качанок не павёў іх наверх, у дырэктарскі кабінет, а паказаў на дзверы ў залу, дзе праводзіліся вытворчыя нарады, малыя сходы, бо месц там не многа — паўсотні.

Спачатку яны селі ў першым радзе перад сталом прэзідыума, засланым зялёным сукном. Але тут жа Івану здалося, што селі яны, як падсудныя, а віну ён адчуваў хіба адну — што ўчора рашуча не запярэчыў, каб пераганяць камбайны ў Галае; няхай бы лепш пазбавілі прэміі. Праўда, тады яго напэўна елі б гуляка Шчэрба і скупы і прагны Сяргей Кульга, адзіны, калі не лічыць Карнея, хто не пайшоў учора замочваць прэмію і цяпер скептычна пасміхаўся: маўляў, я мудрэйшы за ўсіх вас. Але павагі да гэтага сквалыгі не было ні ў іх, механізатараў, ні ў кіраўнікоў. Ён не раз лаяўся тут, у бухгалтэрыі, за капейкі нейкія, увесь час яму здаецца, што яго аблічваюць.

Іван падняўся і перайшоў з першага рада на сярэдні. Тады і ўсе іншыя, як па камандзе, разышліся па ўсёй зале, селі па адным у задніх радах. Адзін Кульга застаўся наперадзе.

Праз другія дзверы, што насупраць стала, увайшлі кіраўнікі — уся вярхушка. Першы — з выгляду стомлены і заклапочаны, распаўнелы, лысы, накульгваючы — нядаўна яго апэрыравалі з прычыны тромбафлебіту,— прайшоў і сеў ў цэнтры стала Астаповіч. За ім — зусім юны з выгляду, хоць яму пераваліла за трыццаць, высокі, стройны, у палатняным, спартыўнага тыпу, светлым касцюме, светлавалосы, падобны на Ясеніна (такое параўнанне зрабілі настаўніцы) Аляксандр Пятровіч Забаўскі, новы парторг. Побач з гэтым сучасным інтэлігентам Качанок, як бы падношаны ўжо, выглядаў старым селянінчыкам, хоць адзеты быў у дарагі імпартны касцюм і крочыў пераможцам, выставіўшы пуза і напусціўшы на сябе залішнюю сур'ёзнасць. Шэсце замыкаў, як ахоўнік-гвардзеец, асілак Кузя, чамусьці чырвоны і збянтэжаны, нібы маладога, упэўненага агранома прабралі толькі што за сур'ёзную прамашку, за невуцтва.

Астаповіч правёў далонямі па твары (знаёмы жэст) і як бы сцёр стомленасць. Вочы яго весела бліснулі.

— Галовы не баляць? — спытаў ён у механізатараў.

Шчэрба штурхнуў Івана ў спіну, хіхікнуў:

— Як, брыгадзір? Не баліць?

У Івана галава не балела, была надзіва светлая, і ён адказаў:

— Як у каго.

Астаповіч хітра прыжмурыўся:

— Хіба не пароўну раздзялілі...— зрабіў двухсэнсавую паўзу, у часе якой Шчэрба зноў хіхікнуў,— прэмію?

— Прэмію справядліва раздзялілі,— сур'ёзна, нават як бы пакрыўджаны за такое пытанне, адказаў Качанок.— Пасля прэміі не пароўну дзялілі.

— Ага, вось што, то-та я гляджу па Шчэрбу, у цёзкі майго галава трашчыць. А ў Сяргея Раманавіча,— ківок на Кульшу,— чысцюткая, як лінза.

Камбайнеры засмяяліся. Шчэрба дык добра рагатнуў, як бы задаволены такой пахвалой.

— У мяне галава таксама баліць.— Усе знялі, што дырэктар гады два ўжо не бярэ ні кроплі «праклятай гары», таму смех ураз асекся, бо адчулі, што гэта дальні заход да галоўнай размовы, на якую пакліканы.— Ад дажджу. Калі надоўга пойдзе, відаць, моцна разбаліцца,— і ўздыхнуў.— Старая галава,— і раптам зусім нечакана да Батрака: — Дзе твой сын, Іван Карнеевіч?

— У машыне сядзіць.

— Чаму ж яго не запрасілі? Працуе, як усе...

— Не пусцілі.

— Хто? — здзівіўся Астаповіч, азіраючы сваіх памочнікаў, як бы жадаючы здагадацца, хто з іх зрабіў такое глупства.— Ну-у, так з маладымі нельга, таварышы. Гэта наша будучыня. Запрасіце хлопца!

Добрая цеплыня разлілася ў Іванавых грудзях, ажно заказытала ў горле,— цеплыня радасці за сына і ўдзячнасці дырэктару: чуў Хведар Цімафеевіч з акна свайго кабінета размову на ганку і добра даў па носе Яшку, далікатненька так, культурна.

Качанок кінуў маладому Малашанку:

— Пакліч.

Але калі Косця па-салдацку падхапіўся, Астаповіч спыніў яго:

— Ды не, Якаў Мацвеевіч, схадзі сам.

— Я? — здзівіўся і разгубіўся Качанок.

— Канечне. Будзем рабіць усё салідна.

Вельмі нехаця, трудна адрываўся ад крэсла звычайна рухавы, непаседлівы Якаў Мацвеевіч.

Забаўскі, хаваючы ўсмешку, дастаў з кішэні знаёмую ўсім тоўстую запісную кніжку, з унутранай кішэні ручку, не шарыкавую, якімі ўсе цяпер пішуць,— наліўную, з залатым пяром, і пачаў нешта

запісваць. Так ён запісваў усюды — на нарадах, у полі. Да гэтых яго запісаў адносіліся па-рознаму з павагай, з гумарам, з некаторай бояззю. Ведалі, што Забаўскі надрукаваў ужо дзве свае кніжкі, не тоўстыя, але з жыцця, не выдуманыя, адна — пра будаўніцтва вядомага хімічнага камбіната, другая — пра славуты калгас і яго яшчэ больш славутага старшыню, героя-партызана. Чалавека, які ўмее напісаць кніжку, у народзе паважаюць, бо не кожны мае такую здольнасць. Але трохі і баяцца. «Распіша ён нас так, што дзеці родныя не пазнаюць. На ўвесь свет прагрымім».

Двaіста да Забаўскага адносіліся і як да парторга. Паважалі, што ён працаваў сур'ёзна, па-новаму. Пасяджэнняў бюро, сходаў праводзіў менш, чым праводзілі да яго, але затое ніводнага збору не было пустога, для «галачкі», справаздачы. Пастановы запісваліся канкрэтныя і выконваліся. Забаўскі нічога не забываў і іншым не даваў забывацца. А яшчэ яго любілі за тое, што многа чаго ведаў і ўмеў расказаць.

Аднойчы лектара з таварыства «Веды» Забаўскі перапыніў на сярэдзіне ўзлаваным пытаннем: «За каго вы нас лічыце? За сялян дваццатых гадоў? Тут усе адукаваныя людзі. У кожным доме тэлевізар. А вы нам выкладаеце ісціны, якія ведае кожны чатырохкласнік».

Замужнія жанчыны паважалі Аляксандра Пятровіча за строгасць у жыцці. Малады, прыгожы, знаді — разведзены, сельсавецкія пісаркі ў першую чаргу звярнулі ўвагу на гэты штамп у яго пашпарце, а каб амуры з якой за год завёў — дык не, ніводная пляткарка не мела за што зачапіцца. Усе незамужнія настаўніцы, аператары даення сохлі па «добрынскім Ясеніну», але ніводная не магла пахваліцца, што ён кінуў на яе вока.

А вось другі інтэлігент і фанатык у рабоце Віктар Кузя выказваўся пра Забаўскага непаважліва: «Сухар. Імпатэнт. З-за гэтага і жонка яго кінула». Прызнаваў яго арганізатарскія здольнасці, але даводзіў, што, маўляў, не для саўгаса Забаўскі стараецца — для сваёй кнігі, каб было пра што напісаць і сябе паказаць у лепшым выглядзе. Размовы такія вяліся ў вузкім коле інтэлігентаў, для рабочых важны быў штодзённы вынік чалавечай працы, тое, што яны бачылі, чулі, што давала плён для ўсіх

Дваістасць адносін рабочых да Забаўскага ішла ад іншага.

Астаповіч дваццаць гадоў робіць, прапаноўвалі яму вышэйшыя пасады — адмовіўся; цяпер, калі дзеду сёмы дзесятак ідзе, тым больш нікуды не паедзе шукаць новага шчасця, будзе працаваць, пакуль мае сілы. Тут, на добрынскіх могілках, яго і пахаваюць.

Па-рознаму адносіліся да Качанка. Але гэта таксама свой. Не выберуць яго старшынёй рабачкома, пойдзе брыгадзірам, загадчыкам склада, у сельпо, але нікуды не паедзе: дом свой, сям'я вялікая. Забаўскі ж, з гэтым згаджаліся ўсе, часовы чалавек у саўгасе, год-два папрацуе — і памінай яго якім хочаш словам. А да часовага і любоў часовая. І непрыязнасць таксама кароткая.

Забаўскі пісаў так, быццам застаўся адзін у зале. Астаповіч зірнуў у яго бок з іранічнай, але адначасова і з добрай, як у бацькі да сына, усмешкай: маўляў, пішы, пішы, старайся. Хведар Цімафеевіч ведаў, што некаторыя, не рабочыя яго саўгаса,— канторскія кручкі, чыноўнікі раённыя і яго калегі — старшыні калгасаў, дырэктары саўгасаў — «праязджаюцца» па ім з-за гэтага: хітруган Астаповіч і тут усіх абскакаў — выпрасіў у абкоме летапісца, каб той уславіў яго на ўсю краіну.

— Многа ячменю стаіць? — спытаў Астаповіч у Івана, пакуль Качанок вёў перагаворы на вуліцы з Карнеем.

— Гектараў трыццаць.

Дырэктар пранікліва паглядзеў на галоўнага агранома, і той пад гэтым позіркам успыхнуў полымем. Камбайнеры зразумелі, што Кузя сваю порцыю атрымаў ужо раней, таму і сядзеў, як у водбліску вячэрняй зары. І з гектарамі нешта не сышлося. Будзе яму дабаўка. Дзед вылучае маладых, але і выхоўвае, як строгі бацька.

— Колькі намалачваем?

— Трыццаць восем і шэсць,— паспяшаўся адказаць Кузя.

— Такая дакладнасць? — усумніўся Астаповіч.

— Пазаўчора замяралі.

— За каналам сорак пяць будзе, не менш,— сказаў Іван.

— Чуў? — кінуў дырэктар Кузю.— Значыцца, сярэдняе — добрых сорак. Сорак на трыццаць. Колькі будзе, Шчэрба?

— Сто дваццаць,

— Чаго?

— Тон.

— Табе прафесарам матэматыкі трэба быць, а ты анекдоты сачыняеш.

Пасмяяліся. Сам Шчэрба гучней за ўсіх, быццам атрымаў найвышэйшую пахвалу.

— Не я, Хведар Цімафеевіч. Пра мяне больш.

Вярнуўся Качанок адзін. Абвясціў:

— Не ідзе. Батракоўская натура.

У Астаповіча знаёма перасмыкнулася левая шчака і звузіліся вочы, аплылі нездаровыя мяшкі пад вачамі. Але ён далоняй сцёр усе «іерогліфы настрою» на сваім твары, Сказаў проста, амаль весела:

— Натура як натура. У кожнага з нас свая натура, Аднак не будзем траціць час. Хоць і дождж, а праца ёсць. Кажы, Якаў Мацвеевіч, навошта ты паклікаў нас.

Качанок, які не паспеў сесці на сваё месца і толькі ўзяўся за крэсла, каб адсунуць яго, так і застыў, здзіўлены, разгублены, бадай спалоханы.

— Я?

— Твая ідэя сабраць людзей.

— Мая. Але я думаў, што вы...

— Ды не, на лысага не валі. Запеў ваш, з аграномам. А мы з Пятровічам хіба што падцягнем.

Качанок падсунуў крэсла пад стол, упёрся рукамі ў яго спінку і — відаць было — моцна сціснуў, быццам крэсла вырывалі, ажно напяліся ў чалавека вены на руках, на шыі. Звычайна прамовы ёй гаварыў лёгка, язык падвешаны добра, А тут яўна не ведаў, з чаго пачаць, разгубіўся, як вучань, які сам падняў руку, але адказаць на пытанне не здолеў.

Івану стала весела. З Качанком яны сябравалі з маленства. Нос Яша не задзіраў ні на якой пасадзе, з рабочымі сябраваў, але ўсюды наладжваў парады накшталт учарашняга і неаднойчы ўжо «гарэў» за паказуху. За ўчарашняе, за словы яго ўедлівыя на машынным двары і асабліва за сына Іван моцна ўзлаваўся на Качанка і цяпер не без злараднасці цешыўся з яго разгубленасці.

Забаўскі перастаў пісаць, павярнуўся да «рабачкома», як бы ўстрывожаны за яго ці спачуваючы яму.

Якаў Мацвеевіч лёгка гаварыў пафасныя прамовы з перадовак газет. Але тут такая не падыходзіла ні па колькасці слухачоў, ні па сутнасці справы. Тут лепш Астаповічаў стыль: даверлівай размовы, нібыта з жартачкамі, але з такімі, што моцна колюць.

Качанок падрос — падняўся на насочкі.

— Дык во што я вам скажу, байцы пярэдняй лініі — жніва... Значыцца, так. На вас глядзіць увесь саўгас. Нічога не скажаш — папрацавалі вы добра. Але маркі трымаць не ўмееце. Во так. Чэсць і славу сваю можна ўміг злізаць вось гэтым,— ён паказаў язык.— У вайну, калі хто помніць, старэйшыя людзі добра помняць, усюды вісеў плакат: «Балбатун — знаходка для шпіёна»...

— Якіх гэта шпіёнаў ты выявіў? Амерыканскіх, кітайскіх? — без усмешкі спытаў Астаповіч.

Іван, на здзіўленне сябрам і кіраўнікам, рагатнуў так, як рагатаў хіба ўчора пасля чаркі ў кульдзюме і дома — з Вальчыных жартаў. Успомніў, як засмяялася за снеданнем жонка, калі ён сказаў, што з Качанка варта зняць штаны за ўчарашняе. Вось бы Таську сюды! Няхай бы палюбавалася і пасмяялася, як Астаповіч вымушае Яшку самому раздзецца і высекчы сябе. Ай да мудры дзядуля!

Качанка абурыў Іванаў смех, але запнуўся прамоўца на адзін міг, хіба, можа, для таго, каб падумаць: «Пачакай, чортаў Батрак, я табе прыпомню гэта». А потым сам засмяяўся:

— Кітайскіх не бачыў, Хведар Цімафеевіч, а «кульдзюмскіх» ведаем. І я, і вы. Адны, заліўшы памяць, плешчуць чортведама што, а другія на вус круцяць, каб пасля, перавярнуўшы ўсё дагары нагамі, тыцнуць нам у нос. Во так...

— Слухай,— зашаптаў Шчэрба Івану ў патыліцу,— цяпер я знаю, хто нам свінню падклаў. Ты скажы, як адразу прасвятліліся мазгі. Як пахмяліўся.

— Калі вы перадавыя, то ва ўсім павінны быць перадавыя. І думаць не толькі пра сваё пуза.

— Якаў Мацвеевіч,— дакорліва кінуў Забаўскі.

— Я, Аляксандр Пятровіч, па-інтэлігентнаму не ўмею, каб кругом ды вакол. Я па-рабочаму... Рабочы клас мяне панімае.

— Помніш таго, кудлатага, што за суседнім столікам сухую катлетку жаваў увесь вечар? Вот жа гад! — шаптаў Шчэрба.— Нюх у мяне сабачы: хацелася мне пашкамутаць яму кудлы... Зра вы не далі...

— Пра гонар калектыву трэба думаць! Так во. У век энтээр упраўленне трэбуе аператыўнасці, тэрміновай інфармацыі. І той, хто думае пра дзела, дае яе, такую інфармацыю, як трэба.

Забаўскі пасміхнуўся, паківаў галавой; зноў схіліўся над сваім блакнотам і нешта запісаў.

— Для вас стараліся. На славу вашу! Верылі ў вас — перадавікі не падвядуць! А вы? Што, Шчэрба, хаваешся за спіну Батрака? Сорамна глядзець у вочы?

— Каго мне саромецца? Цябе? Я Любы сваёй не саромлюся.

— Канечне. Калі табе было сорамна? З цябе — што з гусака вада. Але ты, Іван Карнеевіч? Член бюро... Брыгадзір...

Батрак не вытрываў:

— Чакай, Якаў Мацвеевіч. Якраз кругом ды вакол ты ходзіш... Давай прасцей, па-рабочаму, без загадак, а то не петрым мы... Мы што — пагана работалі?

— Як вы работалі — я сказаў. Але чым кончылася ўсё? З-за языкоў вашых. Знаеце? Пшыкам.

— Ну-ну-ну,— пастукаў пальцамі па стале Астаповіч.

— Вінаваты, не тое слова. Але невядома, хто цяпер будзе першы — мы ці... людзі...

— Во калі ўспомніў, то быў шафёр з калгаса «Іскра», мы з імі спаборнічаем. Вот жа гніда! Шпіён! Няхай у другі раз зойдзе ў наш кульдзюм! Я пагляджу, як ён выйдзе адтуль,— шэпт Шчэрбаў казытаў вуха. Івану зноў хацелася засмяяцца, бо ён уявіў карціну таго, што адбылося; стрымала яго пытанне Забаўскага:

— А ці камбайнеры ў гэтым вінаваты?

Качанок змоўк, нядобра паглядзеў на парторга, пасля павярнуўся да Астаповіча, як бы чакаючы падтрымкі ад яго. Але той маўчаў, на твары яго нічога не адбівалася, быццам акамянеў заўсёды рухавы, з жывым выразам дырэктараў твар. Такім маўчаннем Астаповіч змусіў Качанка на нялёгкую для яго самакрытычнасць. Загнаны, як кажуць, у кут, Якаў Мацвеевіч узлавана кінуў Забаўскаму:

— Ты ўсякі раз збоку. Вечна бязгрэшны. Роман пішаш. Што ж, давай валі на нас з Кузей. У яго вунь якія плечы. А я перажыву ўсё.

Качанок махнуў рукой і сеў.

Асілак-аграном сутуліўся, як пад непасільным цяжарам. Нейкі момант стаяла насцярожаная цішыня — ад няёмкасці ці ад чакання далейшых падзей. Ажно пакуль не падняўся Астаповіч — цяжка адарваў сваё грузнае цела ад крэсла, паморшчыўся ад болю. Уздыхнуў цяжка.

— Нядобра, хлопцы, выйшла. Непрыгожа. Тут, трэба прызнаць, вінаваты мы,— ён абвёў вачамі кіраўнікоў.— Я ў тым ліку. Ад таго, што мы перадавыя, у нас галовы закружыліся. Нам хочацца быць самымі-самымі перадавымі. Не трэба лезці ў самыя-самыя,— Астаповіч зажмурыўся, зморшчыўся, пакруціў растапыранымі пальцамі.— Рабіць трэба па-перадавому. Ніхто не спыніў нас з Якавам Мацвеевічам. Лысыя вы, маўляў, дзяды, а надумалі падбрыкнуць, як маладыя бычкі. Кузю — яму можна яшчэ хвост задраць. А нам з табой, Якаў, з нашымі...— ён паказаў жэстам на жывот,— Нам куды? Мы вышэй «гоп» не скокнем.

Шчэрба і малады Малашанка бухнулі рогатам. Іван смяяўся стрымана, хоць яму рабілася ўсё весялей ад гэтай незвычайнай нарады, і ён каторы раз падумаў пра Тасю: шкада, што яна не чуе. Яшчэ больш стрымана пасміхаўся Забаўскі. Качанок натужліва выціскаў з сябе дробны смяшок. Адзін Кузя сядзеў змрочны і ўсё прыкметней палаў, быццам усярэдку ў ім разгараўся агонь.

— І вы — туды ж. Разгуляліся, калі работа не скончана. Учынілі сабантуй на ўвесь раён. Па-гаспадарску гэта, га, цёзка?

— Дык наша работа, Хведар Цімафеевіч, ніколі не канчаецца. З камбайнаў — на сеялкі, потым — на бульбакапалкі. Калі ж і пагуляць? — гукнуў Шчэрба.

— Вялікі ты філосаф, Хведар Хаміч. Спіноза. А ведаеш, пра што я часта думаю, падбіваючы, як кажуць, бабкі? Нейчаму я цябе навучыў. А вось аднаму не навучыў — піць. Ты ведаеш, я ў Францыі быў, гаспадаркі іх глядзеў. Але мяне не каровы цікавілі, людзі, як яны жывуць, колькі і як п'юць. Французы многа п'юць, больш за нас з табой, Шчэрба. Але як? Тут, брат, мудрасць народа...

Шчэрба, хіхікнуўшы, уткнуўся лбом у Іванаву спіну.

— Ускочыў бацька на свайго канька.

Астаповіч нібы пачуў гэты шэпт.

— Але пра французаў пасля як-небудзь. Не да французаў цяпер. Святлее. Распагодзіцца. Ападзе раса — трэба выхапіць гэты ячмень. Мы вам яшчэ адзін агрэгат падкінулі з трэцяга аддзялення. Узнімем к вечару флаг, Іван Карнеевіч?

Батрак падняўся, як салдат:

— Будзе, Хведар Цімафеевіч!

— Іскраўцы хочуць камісію прысладь. Мы іх піўком пачастуем з таго ячменю,— і вочы ў старога так хітрэнна зажмурыліся, што камбайнеры зноў засмяяліся.

Упершыню варухнуўся і прасвятлеў з твару манументальны Кузя.

Іван задумаўся, як лепш арганізаваць работу аўтамашын, каб камбайнеры ні мінуты не стаялі. Машыны і ўчора рабілі з поўнай нагрузкай. Але дарога праз лес выбітая, нельга ісці на павышанай хуткасці, вытрасецца зерне з кузаваў. А сёння лішні камбайн, лішнія рэйсы, а часу менш. Учора а такой гадзіне ён вёз ужо на ток першы намалот. Разам з разлікамі рэйсаў затрывожыўся, як бы, пакрыўджаны Качанком, не збег Карней, хлопец сапраўды натурлівы, а без яго — правал. Дзе возьмем камбайнера ці шафёра?

— ...Вялікі эканаміст Шчэрба, ён сказаў правільна: сеялкі, лічы, ужо запраўленыя стаяць. А сеяць азімых будзем больш. На зялёны корм. На зярно. Перад намі, таварышы, вялікая задача — забяспечыць комплекс сваімі кармамі. Тры тысячы бычкоў паставім. Удумайцеся ў лічбы,— Астаповіч дастаў з кішэні паперы.— Во апошнія разлікі. Што трэба, ад пайшчыкаў. Што ад нас... І што мы будзем мець...

Шчэрба зноў зашаптаў Івану ў вуха:

— Чуў навіну? Шышка вярнуўся.

Іван, звыкнуўшыся з Шчэрбавым шаптаннем, заняты сваімі думкамі і адначасова стараючыся слухаць Астаповіча, не адразу сця-

міў, пра каго гаворыць балбатун Хведзька. Але праз міг — што завадной ручкай знянацку выцялі па галаве. Ён рэзка павярнуўся:

— Які Шышка?

— Той. Паліцай. Цішэй ты. Бацька глядзіць. Лічы, трыццаць пяць гадоў адмагаданіў. Жывучы, гад.

Ударыла кроў. У патыліцу, у скроні, у твар. Зазвінела ў вушах. Калыхнуліся і паплылі ўдалеч усе, хто сядзеў у прэзідыуме.

5

Перастаў ісці дождж. Па-летняму раптоўна. Астаповіч на паўслове перапыніў захапляльны расказ пра комплекс — галоўнае тварэнне свайго кіруючага розуму, пра якое ён мог гаварыць бясконца.

— Усё, хлопцы. Агітаваць адзін аднаго, будзем пасля. А цяпер — за работу. Пакуль прыедзеце ў Казінае — вецер расу абаб'е. Значыцца, дамовіліся цвёрда? Увечары варым піва.

Не чуў Іван дырэктарскай паэмы, пра комплекс і пра бычкоў. І заклік да працы пачуў, як праз глухую сцяну. Не — як з далёкай-далёкай, закрытай густым туманам будучыні. Бо быў ён у мінулым — у сваім маленстве, у вайне.

Вясёлыя ехалі камбайнеры з канторы. Рагаталі ў кузаве — Шчэрба смяшыў. Іван сядзеў у кабіне побач са сваім маўклівым калегам Васілём Бойкам. Прагна курыў, хоць даўно трымаўся правіла — у машыне не курыць, каб менш за дзень выкурваць цыгарак.

— Што ты, Карнеевіч, як не рады? Качанок кругом сам вінаваты, а нам хацеў зрабіць разнос. Падумаеш, ваенную тайну выдалі — паўпаласы не зжалі. Ды бацька пасадзіў яго. Плюхнуўся Яшка задніцай у калюжыну.

Пакуль прыехалі на машынны двор, выглянула сонца. Усё навокал, абмытае ранішнім дажджом, зіхацела вясёлкамі.

Не радавала сонца. Не радавала блізкая праца, за якую ён так перажываў гадзіну-паўгадзіны назад, заклапочана пазіраючы на вокны, ці не сціхае дождж. Не, не тое што не радавала нічога. Як бы разарвалася нешта. Жыццё разарвалася папалам. Было яно адзінае, звыклае, усталяванае і... шчаслівае. Але, шчаслівае, нягледзячы ні на што, ні на якія адхіленні, перашкоды, непрыемнасці, неапраўданыя спадзяванні, расчараванні. Трапляліся на дарозе ашуканцы, махляры. Псаваўся настрой, злавала хітрасць людская, часам вельмі відная, а часам незразумелая, накшталт учарашняй Качанковай — каму і навошта гэта было патрэбна? Крыўдзіла зайздрасць некаторых — што багата ён жыве, што жонка ў яго прыгожая, інтэлігентная, дзеці разумныя, працавітыя. Але ўсё гэта дробязь — усе ўчарашнія, сённяшнія

перажыванні. Не, нават не дробязь — радасць. Але, радасцю былі нават непрыемнасці, бо яны напаўнялі жыццё, яны — само тое жыццё, у якім ён меў шчасце. Было... Самае страшнае, што яно, жыццё гэтае, якім ён толькі што жыў, раптам як бы адляцела ў будучыню, стала туманнай марай. Гэта было жахлівае адчуванне. Тася, Валя, Карней, Астаповіч — хіба яны толькі мара? І яму яшчэ трэба прыйсці да іх ажно адтуль — з вайны, з гора, з небыцця, з сіроцтва? Ды не, якая ж тут мара? Сын — вось ён, побач з ім.

— Карней! Сынок, сыначка!

— Што, тата?

Чаму ў яго трывожны голас, у Карнея? Што яго спалохала?

— Масла не трэба падліць?

— Ды падліў я, як толькі прыйшоў.

— Ага. Падліў,— але ўсё роўна палез у матор па шчуп — на здзіўленне Карнею, якога такі бацькаў недавер пакрыўдзіў. Падышоў Шчэрба.

— Шчо ты корпаешся ўсё? Языком вылізваеш сваю яхту? Яе Карней вылізваў ужо. Зацятыя вы, Батракі! Гэ! Ды ў цябе рукі калоцяцца. Ад чаго ета? Няхай мы, дык мы з салдатам учора добра газанулі. Каб не Люба, то не знаю, дзе начаваў бы. А ты не піў — прычашчаўся. Па-анцялягенцку. Як твая пані Туся.

Шчэрба ведаў, што Карней не любіць, абураецца, калі маці гэтак называюць — якая яна пані? — і не прамінуў зачапіць хлопца лішні раз.

Неспадзявана для бацькі, для Шчэрбы Карней абурыўся.

— Я прашу вас. У мамы ёсць імя: Таіса Міхайлаўна! — сказаў ён ветліва, але цвёрда, а «прашу вас» — пагрозліва, так, што нават нахабны Шчэрба разгубіўся.

— Хіба я што паганае? Я з павагай, дурак. Называй мяне Храпам колькі хочаш.

Храпы — вулічная мянушка Шчэрбаў.

Карней засаромеўся сваёй нечаканай смеласці і гэткай жа нечаканай Шчэрбавай сур'ёзнасці ў размове з ім. А ў бацькі радасна скаланулася сэрца. Ды не, вось яно, тое жыццё, якое так люба яму. Хто яго мог украсці, адсунуць у недасягальную будучыню? Чаму ён спалохаўся? Сын побач. Сын пераступіў яшчэ адну мяжу сталасці.

— Едзьце з Бойкам. Гатоўце камбайны. А я дагледжу прычэп. Паспрабуем з прычэпам. Іначай не падняць нам намалот чатырох камбайнаў.

— Хто табе разгрузіць прычэп лапатамі? Народ стаў вушлы: дай механізацыю!

— Пазваню Астаповічу, каб далі людзей для разгрузкі на таку.

— Чаго ж ты там не сказаў?

— Не падумаў.

«Не мог падумаць. Не мог. Не да таго мне было, Хведзька. Не здагадваешся ты, пра што сказаў. Што твае словы натварылі ў маёй душы».

Яны пайшлі да Бойкавай машыны — Шчэрба і Карней.

Іван паглядзеў ім услед так, быццам яны ад'язджалі далёка і надоўга. І раптам яму зноў зрабілася страшна. Чаму? За каго? За сябе? За сына? Не мог ён асэнсаваць сваіх пачуццяў. Зразумеў хіба адно: не трэба яму заставацца ў такі час аднаму, не трэба, бо страшны ўспамін захлыне яго і можа нарабіць бяды. Паклікаў:

— Карней! Астанься! Паможаш мне.

Хлопец здзівіўся, але паслухмяна вярнуўся.

Далей бацька здзіўляў яго яшчэ больш.

Неба ачысцілася ад хмар. Сонца паднялося над дахам майстэрні і добра ўжо прыпякала. Шугаў лёгкі вецер. Там, на балоце, на ячмені, напэўна, не засталося ні расінкі. Можна выходзіць камбайнам. А брыгадзір не спяшаўся. Доўга затыкаў паралонам шчыліны ў самаразгружальным прычэпе. А калі выехалі, машыну вёў з асцярожнасцю чалавека, які толькі сеў за руль, нават ён, Карней, вучань, водзіць смялей. І аднак усё роўна ў лесе, на ямах і карэнні, тармазіў не ў час, пусты прычэп падкідвала, і ён грымеў на ўсё лясніцтва.

Карней, седзячы побач, затрымаў позірк свой на бацькавых руках і ўбачыў, што яны дрыжаць, яго заўсёды ўпэўненыя, дужыя, умелыя рукі з адмецінамі прафесіі — масла ўелася пад ногці, у маршчыны. Не бачыў ён яшчэ, каб у бацькі так трэсліся рукі — як у старога. Што здарылася? Звалілі на яго ўсю віну за ўчарашняе? Учора і ён асуджаў бацьку за яго слабасць. А сёння пашкадаваў — хіба яго галоўная віна? Абурыўся супраць саўгаснага начальства. Наваліліся на аднаго рабочага чалавека. Няўжо ніхто не падтрымаў? Дарэмна ён не пайшоў, калі Качанок паклікаў яго,— ён не змаўчаў бы! Сам-насам, у думках, Карней быў вельмі смелы, а на людзях — язык прыліпаў да нёба.

— Цябе здорава прабралі?

— Хто?

— Тыя. Тузы.

— За што?

— За дождж.

У іншы час Іван, напэўна, засмяяўся б з гэтай бадай дзіцячай яшчэ сынавай непасрэднасці і наіўнасці: хто гэта будзе лаяць за дождж?

— Што ты, сын! Астаповіч разумны мужык. Ён усыпаў Качанку.

— А што ў цябе рукі... не туды глядзяць?

Іван скалануўся і зноў спалохаўся. За ўсё жыццё ніхто яшчэ ніколі не сказаў, што ў яго «не туды глядзяць рукі». Чаму раптам Карнею такое прыйшло ў галаву? Ён пільна паглядзеў на свае рукі і выявіў хіба адно: што яны мацней звычайнага сціскаюць баранку, але ж дарога такая, не асфальт, дзе можна толькі датыкацца да руля.

— Рукі як рукі. Шчо ты выдумаў?

— Дрыжаць.

— Вібрацыя ад матора.

— Пасля перапою заўсёды такая вібрацыя? Слаба вашага брата ганяе ДАІ. Я такі закон увёў бы! Я чытаў: у адной краіне сеў п'яны за руль — смяротная кара.

— Дурны гэта закон. Дзешава там цэняць чалавечае жыццё. А яно дарагое, сынок, вельмі дарагое. Запомні ета. А перапіў я, можа, за ўсё жыццё адзін ці два разы. Думаеш, увечары я быў вясёлы ад таго, што перапіў? Не. Проста на душы ў мяне было харашо. Сягонні так не будзе.

— Чаму?

Уздыхнуў цяжка Іван.

— Доўга расказваць, сынок. Давай у рабоце забудзем на ўсё.

Сам сабе нагадаў пра тое, аб чым хацеў забыцца. Але ўсё адно размова з сынам у нейкім сэнсе заспакоіла. Яна дала адчуванне, што трывалае яно, яго цяперашняе жыццё, яго шчасце. Ёсць яно. І будзе! І ніякі Шышка яго не парушыць. На камбайне ўвогуле на нейкі час забыўся аб тым, што яго так узрушыла.

Калі напоўніліся зернем кузавы, ён перасеў за руль ЗІЛа, Карнею не даручыў; сам праверыць дарогу і машыну з двайным грузам, арганізуе на таку разгрузку прычэпа; Карней пры сваёй рахманасці можа правалаводзіцца. А трэба эканоміць кожную хвіліну: хлопцы на камбайнах, можа, адчуваючы віну за ўчарашняе, робяць на высокіх скарасцях, без перакураў.

У адзіноце, па дарозе на ток, яно зноў усплыло, усё тое, што адбылося трыццаць шэсць гадоў назад. Ніколі, здаецца, успамін не быў такі блізкі, такі жывы, і ніколі, можа, не балела так, хіба толькі тады ў лесе, калі ён, малы, галодны, знясілены, не знайшоўшы партызан, у роспачы скуголіў і кусаў застылыя пальцы.

Загадчык склада Мікалай Азарыч, інвалід вайны, франтавы шафёр, прыкурваючы ад Іванавай цыгаркі, глянуў яму ў вочы і выказаў здзіўленне:

— Што ета ты сёння... быццам у цябе вось зламалася?

— Зламалася.

— У чым?

— У жыцці.

Азарыч палічыў, што Батрак дасціпна жартуе, і засмяяўся.

— Ну, у жыцці твая вось моцная. Ні ў кога з нас няма такой.

Карнееў памочнік Валодзя Качанок працуе ўсё лета не таму, што не можа не працаваць,— спадзяецца, што саўгас дасць яму рэкамендацыю ў інстытут і будзе выплачваць стыпендыю. Мэты сваёй ён не тоіць, і ніхто яго за гэта не асуджае, Іван таксама ўхваліў Валодзева жаданне працаваць на зямлі. Івана якраз больш трывожыла, што Карней дагэтуль не вырашыў, куды пойдзе пасля школы. А гэта цікавіла не толькі іх, бацькоў, але і Астаповіча — дырэктару хацелася вывучыць маладога Батрака на інжынера, цвёрда замацаваўшы за саўгасам; ён думаў не толькі пра тых, хто будзе кіраваць гаспадаркай пасля яго, але і пра тых, хто зменіць яго пераемнікаў — з якой пароды будуць гэтыя людзі. Валодзя — не Карней, робіць усё з разлікам. Не пайшоў на машынны двор пад дажджом. Навошта? Камбайны ўсё адно будуць стаяць. Выспаўся. А калі распагодзілася, прыйшоў на ток, каб паехаць з чарговым рэйсам у Казінае.

Хлопец павітаўся і палез у кабіну, ніякай віны за сабой не адчуваючы: ішоў жа дождж. Але Іван раптам успомніў, што Валодзька гэты — нейкі сваяк таму, што вярнуўся з небыцця, нейкі стрыечны ўнук ці ўнучаты пляменнік, чорт іх разбярэ. Ні разу пра гэта раней не падумаў. Родны дзед Валодзькі на фронце загінуў, бацька ў вайну хлапчуком быў, гады на чатыры ўсяго старэйшы за Івана, цяпер слесарам на тым жа машынным двары ў майстэрні працуе, і ён, Іван, неаднойчы сядзеў з ім за адным сталом, і, здаецца, ніколі не варухнулася ў ім нядобрае ад таго, што сядзіць з пляменнікам такога... гада... Тым больш што далёка ад таго Валодзька, які нарадзіўся гадоў праз шаснаццаць пасля вайны і пра Шышку хіба краем вуха чуў, бо жылі ў сяле Шышкавы жонка і дачка, але ніхто з імі не радніўся, усе сараніліся. Дальнія сваякі, бадай, радаваліся, што паліцай згінуў бясследна.

А тут Іван раптам адчуў непрыязнасць да хлопца. Відаць, не столькі з-за яго сваяцтва, магчыма, у большай меры з-за яго хітрасці: што гэтак дамагаецца рэкамендацыі ў інстытут ці з-за таго, што спаў да абеду, ажно і цяпер вочы заспаныя, не прамыў добра, а Карней

ужо добра напрацаваўся. Адчуў, што цяжэй яму стане, калі побач будзе гэты хлапчына.

Адчыніўшы дзверцы са свайго, шафёрскага, боку, сказаў жорстка:

— Паедзеш з Бойкам.

Валодзя адчуваў адну віну — праспаў, таму паспрабаваў абараняцца:

— Дзядзька Іван, дык ішоў жа дождж.

— Паедзеш з Бойкам,— паўтарыў Іван так, што хлопец, які паводзіў сябе са сталымі камбайнерамі, як роўны, без пярэчанняў вываліўся з кабіны.

А пасля Івану стала нядобра ад гэтай зусім не ўласцівай яму суровасці: нізашто пакрыўдзіў вучня, непедагагічна гэта. Дакараў сябе і загадаў сам сабе сачыць за сваімі адносінамі з людзьмі, пакуль на душы так пагана, а то так можна пасварыцца з многімі і ў нялёгкі час застацца аднаму.

Аднак, як на ліха, у той дзень шмат што не ладзілася. Бойка «сеў» на мастку цераз капал. Пакуль Іван вярнуўся з тока, Бойкаву машыну выцягнулі, але для таго, каб падважыць яе, не прыдумалі нічога іншага, як разгрузіць кузаў — высыпаць збожжа на дарогу. Праўда, падаслалі брызент, але ўсё адно нейкая частка ячменю трапіла ў пясок і нават асунулася ў канал, у ваду. Можа, мяшок, два, не больш, было страчана ячменю. Але Іван абурыўся, мацюкаў і разяву Бойку, і ўсіх, хто яму памагаў, а яшчэ мацнейшыя словы паслаў людзям, у абавязкі якіх уваходзіла адрамантаваць масток. Хлопцы вінавата прамаўчалі. Але ад іх маўчання яму зрабілася яшчэ цяжэй. Здалося раптам, што таварышы яго па рабоце, як ніколі, пакорлівыя, падазрона пакорлівыя, і занадта добрыя, ціхія, такімі людзі робяцца, калі чалавека напаткала бяда. А ў яго ж ніякай бяды няма. Усё самае страшнае, што можа выпасці на долю чалавека, у яго ўжо было. Больш не можа — не павінна быць! — у жыцці нічога страшнага.

Іван з тока пазваніў самому Астаповічу, каб прыслалі цесляроў — адрамантаваць масток.

У Казінае прымчаў на сваім шматпакутным матацыкле Кузя.

Іван убачыў яго здалёк і завёў сябе на гучную размову: ім не аграном трэба, а цесляры, а галоўнаму трэба не лётаць з касмічнай скорасцю, а пільней глядзець, дзе што як ляжыць, ды мазгамі варушыць. Ды Кузя апярэдзіў яго, даказаўшы, што мае пільнае вока: накінуўся на Бойку, што ў лесе на карэнні дарога ўсеяна ячменем.

— Варон надумалі карміць? Ды Астаповіч з вас паўзаробку зрэжа за такія страты. З «Іскры» дэлегацыю чакаем. Падумайце, што яны

скажуць, калі ўбачаць, што ў нас робіцца на дарозе. Іван Карнеевіч, што ж гэта вы?

— Мая віна, я натрусіў,— сказаў Іван, здзівіўшы і Бойку, і Кузю.

— Твая? — у галоўнага нават думкі не ўзнікла, што марнатраўства мог зрабіць такі ашчадны гаспадар і класны шафёр, як Батрак. А Іван успомніў, як сказаў Карней: «Рукі не туды глядзяць». І нага... нага таксама як бы страціла аўтаматызм, выпрацаваны за два дзесяцігоддзі ваджэння машыны. Лавіў ён сябе сёння на тым, што з-за сваіх цяжкіх думак рэзка тармазіў, нервова, а кузавы і машыны, і прычэпа насыпаў з коптурам.

У чарговы рэйс вырашыў паслаць сына, а самому застацца на камбайне. Але падумаў, што трэба будзе працаваць з памочнікам, і завагаўся. Баяўся свайго нядобрага пачуцця да хлопца, каб не паўтарылася яно. Бо так нельга. Пры чым тут Валодзя? Нават маці яго, пляменніца Шышкі, і тая, відаць, цьмяна помніць дзядзьку, а бацька, які нарадзіўся ў суседняй вёсцы, напэўна, зусім не помніць, толькі хіба па расказах, але наўрад ці сказаў хто пра паліцая добрае слова. Але, так нельга. Так, калі пачаць выяўляць усіх яго сваякоў, можна вакол бачыць ворагаў і жыць з нянавісцю, з вечнай падазронасцю. А так жыць цяжка, ён, Іван, ніколі так не жыў.

Урэшце, Шышка — невялікая шышка. Былі галоўныя каты, у чорных мундзірах, з чужой мовай. Тады іх уваліласяя, можа, дзесяць чалавек...

Колькі немцы гора пакінулі на нашай зямлі! Але людзі нашы разумеюць, што не народ нямецкі, не немцы ўвогуле — фашысты гэта чынілі. Ён, Іван, таксама згаджаўся, што нельга вініць народ. Калі ў саўгас прыехала нямецкая дэлегацыя, ён быў на сустрэчы, апладзіраваў іх добрым словам. Аднак жа на вячэру піць з гасцямі гарэлку не пайшоў. Не мог пайсці. І калі яму прапанавалі паездку ў Германію, адмовіўся, здзівіўшы шмат каго, нават Тася расчаравана ўздыхнула, хацелася ёй і такой славы для мужа.

Не, да Валодзі трэба адносіцца як да Валодзі — да школьніка, камсамольца, суседа, сынавага сябра. Вінаваціць яго можна хіба за адно — гультаяваты бывае. Адолеўшы свае пачуцці, Іван быў уважлівы і ласкавы са сваім юным памочнікам. Валодзя, які звычайна любіў паразважаць на розныя тэмы, спачатку быў насцярожаны, немнагаслоўны: спалохала яго пакаранне — брыгадзір не ўзяў на машыну, моцна, значыцца, Батрак узлаваўся за яго спазненне. Стараўся хлопец загладзіць сваю віну, лавіў кожны рух камбайнера, без слоў разумеў любы загад. Іван падбадзёрваў яго сваёй увагай. Гаварыў з ім, як толькі спыняліся. Ад гэтага самому стала лягчэй: работа і

размова з чалавекам адводзілі страшныя думкі, як громаадвод адводзіць маланку, якая магла б усё спаліць.

— Як там Карней з прычэпам справіцца?

— Карней? Што вы, дзядзька Іван! Ды Карнею хоць чыгуначны састаў прычапі — павядзе. Талент! У бацьку найшоў. Машыну ён водзіць дабрэй за нашага інструктара. Калі здавалі на правы...

Разумеў, што Валодзя трохі падхалімнічае, аднак усё роўна такі водзыў аб сыне школьнага сябра яго было прыемна слухаць. Але, Карней такі! Сам Астаповіч дазволіў, што ў часе ўборкі ён можа падмяняць бацьку і за штурвалам камбайна, і за рулём ЗІЛа. «Сямейны ўборачна-транспартны агрэгат Івана Батрака» — так называўся артыкул у абласной газеце.

Забаўскі сказаў, што назва дрэнная. Можа, для Забаўскага, майстра сваёй, пісьменніцкай, справы, гэта і непрыгожа, а на яго, Іванаву, думку — прыгожа, бо праўдзіва ўсё напісана было, усё праўдзівае — прыгожае, а хлусня, хоць у залатыя словы яе загарні, усё адно будзе брыдкая.

— Абед прывезлі,— паведаміў Валодзя і пракаўтнуў сліну: прачнуўшыся, калі маці была ўжо на рабоце, дрэнна паснедаў. Іван як і не пачуў пра абед, толькі прыбавіў камбайну скорасць. Невысокі, але густы, што шчотка, ячмень зрэзаны жаткай, роўна і прыгожа клаўся на шнэк і, падхоплены транспарцёрам, падымаўся ў барабан. Нагрузка такая, што малатарня, здавалася, вось-вось захлынецца ад натугі, разляціцца барабан пад напорам калосся, заб'юцца сіты. Не, нейкі міг — і малатарня зноў весела звінела, рытмічна стукалі сіты. Іван чуйна лавіў кожны гук, кожную змену рэжыму работы камбайна. На кожным дзесятку метраў ходу ён па нагрузцы мог дакладна вызначыць ураджай: тут усе пяцьдзесят цэнтнераў, а вось тут упала да трыццаці. Чаму? Менш папала мінералкі? Ці мелкі тарфяны пласт?

Праз усе грукаты і шумы машыны з асаблівай асалодай слухаў самы слабы, самы пяшчотны шум — збожжа, якое транспарцёр падымаў у бункер. Вернецца Карней, прышвартуецца побач, сапраўды як караблі, пра якія ён, Іван, некалі марыў, і ячмень — жывое золата зямлі — пальецца з бункера камбайна ў кузаў. Разумна прыдумалі людзі. Так ён перажываў заўсёды, так думаў. Хацеў і сёння захапіцца працай, радасцю таго, што па ўсім участку ўраджай не падае ніжэй сарака, і забыцца на ўсё. Не атрымлівалася. Быў нейкі момант ранейшай радасці, калі ён пазбавіўся непрыязнасці да Валодзі і хлопец, адарваўшыся ад капніцеля, крычаў пахвалу яго сыну. А крыкнуў пра абед — і ў Батрака зноў як бы парвалася нешта ўсярэдку, сувязь нейкая парвалася — паміж часам, падзеямі, пачуццямі сваімі, сувязь

у адносінах з людзьмі. Ён чытаў у разумнай кніжцы, што калі ёсць лад ва ўсім — гэта называецца гармоніяй. Душэўнай гармоніяй. Дык вось расстроілася яго гармонія.

Бачыў ён сам, што прывезлі абед, але зусім не хацелася есці, а галоўнае, што зноў-такі амаль спалохала: што трэба абедаць разам з людзьмі. А раней ён любіў калектыўныя абеды ў полі, дзе можна добра пагаварыць пра сур'ёзнае — як ідзе работа, і пажартаваць, пасмяяцца ўволю. Ды і стравы прывозілі смачныя. Даўняя завядзёнка Астаповіча: камбайнераў, шафёраў у жніво карміць па вышэйшай норме і такімі абедамі, якіх і ў сталічных рэстаранах не бывае.

Абеды гатаваліся ў тым жа сельпоўскім кульдзюме. Але якая розніца была паміж тымі, якімі кармілі праезджых шафёраў, турыстаў і сваіх выпівакаў, і тымі, якія вывозіліся ў тэрмасах на поле. Гэтыя абеды варыліся ў асобных катлах з прадуктаў саўгаса. Сам старшыня сельпо трымаў пад кантролем іх прыгатаванне, дастаўку, бо ведаў: калі камбайнеры паскардзяцца, гандлёвая кар'ера яго бясслаўна скончыцца — Астаповіч не даруе парушэння ўмовы, якую заўсёды выпрацоўваў і падпісваў сам, як самае высокае міжнароднае пагадненне. Так ужо было з некаторымі сельпоўцамі. А між тым, не дзеля жарту казалі, Якаў Качанок, калі быў старшынёй сельпо, прыйшоўся даспадобы Астаповічу якраз за тое, што карміў механізатараў адменна, з добрымі прыдумкамі.

За каналам заставаўся яшчэ добры лан, гектары на тры, а Іван ганяў камбайн так, быццам трэба было зжаць апошні лапік перад дажджом ці каб, як кажуць, перад абедам «памыць рукі».

Камбайны па той бок канала стаялі ў рад на краі гоня, ля купкі бярозак, якія нехта з добрых меліяратараў пашкадаваў, пакінуў для прыгажосці, і яны пасля асушкі балота добра разрасліся на сваім грудку. Там, пад бярозкамі, Каця накрывала «стол». Іван ведаў, што яго чакаюць, без яго не будуць абедаць, бачыў, як прагна пазірае ў той бок Валодзя, і ўсё ніяк не мог спыніцца, бо з'явілася адчуванне, што як толькі ён сыдзе з запаветнага мосціка камбайна, з залітага сонцам поля ячменю, то адразу ступіць у тое чорнае, абвугленае мінулае, нечаканы напамінак пра якое прычыніў такі боль. Шчэрба ды і іншыя не могуць у абед не гаварыць пра зварот Шышкі, для вёскі гэта падзея — з «таго свету вярнуўся», і ён страшыўся іх размовы, баяўся, што будуць разважаць спакойна, паблажліва, можа, нават весела,— ім не баліць, жахі вайны пазнаў хіба франтавік Каржоў.

Шчэрба, закасаўшы штаны, «фарсіраваў» абмялелы канал і стаў у ячмені перад Іванавым камбайнам, распяўшы рукі. Іван мусіў спыніцца.

— Чаго лезеш пад машыну, дурань шчарбаты?

Хведзька выстаўляе сваю шчэрбу, што іншая модніца залаты зуб — смяецца, калі трэба і не трэба, абы паказаць золата.

— Ляпей скасі мяне, чым памерці ад голаду. Кішка кішку даганяе. Чуеш, як вурчыць? Як матор. Хацеў Кацю абняць, а шлунак мой, як на грэх, пачуў боршч і загрукатаў усё роўна шчо мінамёт. Фыркнула, зараза. Во паняй стала!

Валодзя заліўся смехам, уміг апынуўшыся побач са Шчэрбам.

— Абедайце без мяне.

— Гэта ты для кулажцаў стараешся? Пайшлі яны! Задавакі! Калісь етая Кулага, што стала «Іскрай», старцоў пастаўляла... Пагарэльцамі прыкідваліся — аглоблі смалілі і ездзілі ажно на Украіну... А цяпер у першыя лезуць. Ардзяноў начаплялі да пупа — і ўсё ім мала. Не прыедуць. Не бойся. Бацька прыдумаў пра камісію, каб нас завесці на поўны разгон і Яшку з Кузем страху нагнаць. Добра ён іх адчыхвосціў. Так і я не сумеў бы. Далікатненька так, культурненька лазінай па венцілятары...

Хведзькава балбатня мёртвага прымусіць усміхнуцца.

— Не хочацца мне есці.

— Не дуры! Усім хочацца. Пайшлі, а то адаб'еш хлопцам апетыт. Ты ў нас — шчо сто грамаў. Убачым цябе — весялей пашчэнкамі работаем.

Есці сапраўды не хацелася. Больш таго, калі памыў рукі і прылёг на брызент, пасярод якога на белым абрусе Каця прыгожа, як на вячэры з замежнай дэлегацыяй, расставіла талеркі з ярка-чырвонымі, як налітымі крывёй, памідорамі, гуркамі, свежымі і маласольнымі, халоднай цяляцінай, пляшкі з напіткамі, Іван адчуў нязвыклую стомленасць, расслабленасць, хацелася выпрастацца, заплюшчыць вочы і правaліцца ў ратавальны сон. Але хіба заснеш пад Шчэрбаву балбатню? Затрывожыўся, што доўга няма Карнея, хоць здагадваўся, што сын мог заехаць на абед дадому, каб не абедаць з назолам Шчэрбам, які сваімі дурнымі жартамі не дае хлопцу спакою. З Валодзі не кпіць, бо гэты ўмее пасмяяцца з самога сябе, падыграць Хведзьку, а часам і агрызнуцца.

Нешта пераблытала Тася: Карнею варта было нарадзіць дзяўчынкай, а Валю, наадварот, хлопцам. За Карнея ён доўга трывожыўся: як будзе жыць з такой сарамлівасцю? Ажно пакуль сын не пачаў рабіць у саўгасе. Тады пераканаўся: добра будзе жыць, не толькі ж тыя жывуць, што языком ўмеюць мянташыць.

— Прашу вас, мужчынкі, ачысціце маю скацерць-самабранку,— ветліва запрасіла Каця.

— Ачысціш тут, калі нутро — шчо нязмазаная перадача. Ажно скрыгоча. Змазачку б якую. Салідольчык. Хоць ягадны. Эх, ты, не магла прывезці! Падруга юнасці суровай!

— Ну не, дулю табе.

— І ты — дулю? Мала з мяне Любіных?

Учарашні салдат, які яшчэ не звыкся са Шчэрбавым бязлітасным самавыкрыццём, пакаціўся па брызенце.

— Раз прывезла і закаялася. Не знала, куды вочы дзяваць перад Астаповічам.

— Баішся месца страціць? Цёпленькае?

— А што ты думаў? Баюся. У мяне дзеці яшчэ малыя. Без бацькі кармлю.

Да Івана галасы даходзілі, як з далечыні, не з мінулага — з будучыні, да якой яму трэба доўга ісці. І ён баяўся гэтай дарогі, бо яна вядзе праз тую ноч. Але разам з тым невядомая страшная сіла цягнула яго туды, у мінулае, пра якое ў сённяшнім жыцці ён пачаў забывацца і якое ва ўсёй сваёй жахлівай яве ўсплыло раніцой. Сіла гэтая быццам ціснула на павекі, і яму цяжка было расплюшчыць вочы і паглядзець у светлы блакіт неба. Не хацелася чуць і вясёлых галасоў. Не, так нельга, ратунак у яго цяпер адзін — быць заўсёды з людзьмі, а гэта значыць — быць у сённяшнім жыцці.

— Іван Карнеевіч, ешце, калі ласка.

Іван сеў, усміхнуўся Кацi. Яго смяшыла і трохі бянтэжыла, што яна пачала звяртацца да яго на «вы». Жартаваў з гэтага. Яны ж равеснікі. Разам некалі гулялі, на вячоркі хадзілі. Каця ў МТС яшчэ абеды трактарыстам варыла. Дзяўчына яна была нецікавая — худзенькая, мізэрненькая, да таго ж рудая, твар — што вароніна яйка, у крапінках увесь. Замуж доўга не выходзіла, гадоў да дваццаці васьмі, ужо ў векавухі яе залічылі. Выйшла — абы за каго. Нейкага прыблуду, прымака ўзяла. Пакутавала з ім гадоў пяць. П'янюга быў, хуліган, з кулакамі лез, часта Каця насіла сінякі. Учыніў бойку ў клубе — і яго пасадзілі на два гады. Каця засталася з дзвюма дзяўчаткамі. І як бы раптам перарадзілася кабета. Сядзеў у ёй чорт, як ва ўсялякай бабе, казалі старыя. Пайшла працаваць у чайную. Распаўнела, папрыгажэла, прывабнай жанчынай зрабілася, бойкай, вясёлай. Тыя яе сяброўкі, прыгажосці якіх некалі дзяўчынай зайздросціла яна, цяпер зайздросцілі ёй. Зайздросцілі і раўнавалі. Мужа, калі той вярнуўся, Каця не прыняла, развод аформіла. А жаданні жаночыя ў яе набіралі сілу, кіпелі. І хоць нікога са сваіх, добрынскіх, яна не спакусіла, падгульвала ціха, скрыта, з чужымі, каторыя з раёна прыязджалі, жонкі ўсё адно ставіліся да яе насцярожана і раўніва. Шчэрбава Люба скандал не-

аднойчы ўчыняла. Кацярына неяк крыкнула ёй: «Ды мне на твайго Шчэрбу плюнуць брыдка, дурная ты, не толькі што... Знайшла мужчыну!»

Хведзька, які сам сябе высмейваў і мала за што крыўдзіўся, за гэтыя словы моцна пакрыўдзіўся. Доўга мацюкаў Кацю. Але выпіць хацелася, і яны памірыліся. Здаралася, што Каця пры людзях цалавала Шчэрбу — на злосць Любе. Абвяшчала неаднойчы ў кульдзюме: «Хведзька, ты адзіны мужчына ў гэтым добрынскім манастыры». Люба ад такіх жартаў сінела, а сяло рагатала, праўда, іншыя жонкі смяяліся, але пільнасці не трацілі, лічылі, што ад Кацькі ўсяго можна чакаць. Адна Тася ніколі не раўнавала Івана. Памагала Каці, калі той было дрэнна, п'янюгу яе неаднойчы ўшчувала, дзяцей выхадзіла, бо малыя, недагледжаныя, яны часта хварэлі. Каця была ўдзячная Таісе Міхайлаўне і, можа, праз гэта з асаблівай павагай адносілася да Івана, бянтэжылася перад ім, як перад Астаповічам, не дазваляла пры ім лішніх жартаў.

Іван адкусіў хлеба і пачуў, што кавалак захраснуў у горле. Падумаў: праўда, што не змазана, як кажа Хведзька. Наліў квасу, выпіў. Больш нічога не хацелася. Нават блага стала ад думкі, што трэба есці.

— Іван Карнеевіч, гурочкі маласольныя. Свае прынесла, не сельпоўскія. Ведала ж, што свята ў вас — дажынкі.

— Добра святкуем, хлопцы! П'ём квас, закусваем гуркамі маласольнымі. Любата! — зарагатаў Шчэрба.

— Ты зноў — за рыбу грошы.

— Не за рыбу... За гуркі твае. Ты нам етыя гурочкі на вечар схавай.

— Дзякую, Каця,— сказаў Іван.— Няма апетыту... пасля ўчарашняга.

— Няўжо перапіў? Мала ж піў. Ці табе Тася паднесла? Во шчаслівы! А мая, зараза... дзесятку схаваў... у бот, у самы насочак засунуў, дык і там знайшла. Сабачы нюх на грошы мае. Во парода! Хто яе такую вывеў? Бацька ж быў чалавек як чалавек.

— Бо пахнуць, Хведзя, твае грошы, таму Люба і знаходзіць,— пазмоўшчыцку падміргнула Каржову і Краўчанку Каця.

— Чым ета яны пахнуць?

— Чужымі бабамі. На баб у Любы нюх.

Каця крутнула бёдрамі, пахілілася над тэрмасам, наліваючы боршч, ад якога запахла на ўсё Казінае, агаліліся вышэй падкаленак белыя прыгожыя ногі, на іх апетытна зірнуў учарашні салдат. Пажартавала яна ўедліва: усе ведалі, што Хведар можа бясконца часаць язык, часта абнімае жанчын, але каб здрадзіць сваёй Любе, то такой і думкі ў яго, мабыць, не з'ўлялася ні разу. Камбайнеры весела смя-

яліся, а Шчэрба нават трохі збянтэжыўся, ва ўсялякім разе, не знайшоў адразу, што адказаць.

— Каця, баршча мне не палівай.

— Чаму, Іван Карнеевіч? Такі боршч!

— З жыватом у мяне нешта.

У іншы час Шчэрба, напэўна, не прамінуў бы пажартаваць з яго жывата. Але знайшлася прычына адпомсціць Каці, і Хведзька ажно ўзрадавана закрычаў:

— Во як вы травіце людзей у сваіх праклятых «Бабскіх слёзах»! Няхай бы травілі кулажскіх шпіёнаў. Так не ж — сваіх. Лучшых людзей! Накарміла ўчора ванючымі катлетамі.

У кожнага ёсць свая прафесійная гордасць, у Каці, якая любіла сваю працу — карміць людзей, яна, гордасць гэтая, была асабліва развітая, чайная лічылася адной з лепшых у райсаюзе, і нават устарэлыя кпіны наконт «Бабскіх слёз» крыўдзілі жанчыну, якая вырасла ў чайной ад падавальшчыцы да загадчыцы і працавала шчыра, так, каб людзі не лаялі. Не абавязкова ёй было самой везці абед у поле. Павезла. З-за павагі да тых, хто хлеб убірае. Ды і ведала, што мужчыны любяць, калі прывозіць яна,— і накорміць лепш, не казённа, па-хатняму, і пажартуе па-свойску, навіны раскажа; у прыдарожную чайную навіны прыплываюць адусюль. Таму на Шчэрбаў напад на харчэўню Каця адказала як бы жартам, але злосна:

— Мне, Хведзька, даўно хочацца накарміць цябе так, каб ты тры дні штаны не зашпільваў.

Смяяліся маладыя. Івану было не да смеху. Дарэчы, яго панурасць стрымлівала і Кацю, і хлопцаў, а то, здаралася, разыходзіліся так, што калі ўбіралі ў Баравым, то ўсе ягадніцы вылезлі на ўзлессе, прыцягнутыя іх смехам.

Стары Каржоў, які ўвогуле рэдка калі ўсміхаўся з самых дасціпных жартаў, паморшчыўся гідліва:

— Знайшлі пра што гаварыць за абедам.

Каця зардзелася. Хлопцы таксама асекліся.

Іван і ад другога адмовіўся, зусім засмуціўшы Кацю, якая больш за ўсё старалася дагадзіць абедам яму.

Каржоў, чалавек далікатны, як бы адчуў віну, што нагнаў на вясёлую кампанію нуду і, жадаючы паправіць — жартаваць ён не ўмеў,— вырашыў павярнуць размову на сур'ёзнае — на тое, што ў той дзень было навіной нумар адзін.

— І хто яго бачыў?

— Каго?

— Шышку.

Іван сцяўся, адчуваючы, што вось-вось нешта смяртэльнае зваліцца на яго, як шматтонны груз з пад'ёмнага крана, а ён не мае сілы перашкодзіць гэтаму падзенню ці хаця б адскочыць убок і мусіць бездапаможна чакаць удару. Іншыя таксама прыціхлі, чакаючы незвычайнага.

Іван мімаволі зірнуў на Валодзю, і здалося яму, што хлопец пабялеў: ці не з-за стрыечнага дзеда спазніўся на працу? Няўжо страчаўся? А Каця яшчэ больш пачырванела. Тады Іван прыгадаў, што яна таксама нейкая сваячніца Шышкі. Дзіўна, што дагэтуль ён ніколі не думаў пра гэта, можа, таму, што бацька яе загінуў на фронце, як і родны дзед Валодзі. Былі ў вёсцы дзве сям'і Шышкавых сваякоў, з якімі ён стараўся разам ні працаваць, ні гуляць, ні ўвогуле мець якуюнебудзь справу.

Адзін Шчэрба замармытаў, як кот, разжоўваючы нямногімі ўцалелымі зубамі ладны кавалак мяса. Справіўшыся ўрэшце з мясам, сказаў:

— Люба мая бачыла. Морда, кажа, во — што ражка. Цагліны просіць. Быццам з курорта прыехаў, а не з Магадана. Толькі шрам на шчацэ, як у разбойніка.

— Няможна пускаць такіх назад у свае сёлы. Закон трэба,— сурова і пераканана сказаў Каржоў.

Словы былога франтавіка як бы адвялі той удар, якога Іван баяўся. Але вярнулася ранейшая стомленасць. Перамагаючы яе, Іван падняўся і пад маўклівымі недаўменнымі позіркамі хлопцаў усяе брыгады пайшоў хуценька па ржышчы да лесу.

6

Ён сустрэў мяне на вуліцы. Я нёс малако, казінае, ад цёткі Хвядоры. Анька хварэла, кашляла. А карову нашу немцы застрэлілі яшчэ ў тое лета, калі пачалася вайна. Прыехалі на двух грузавіках, сталі ў канцы сяла, на выгане, і, калі чарада вярталася з пашы, пачалі страляць па выбару, каторая гладчэйшая, наша ялаўка была, таму гладкая. Застрэлілі кароў дзесяць, узвалілі на грузавікі, старасту, кульгаваму Пракопу, сказалі, каб растлумачыў людзям, што мяса патрэбна нямецкім салдатам, і квітанцыі далі, сказалі, што па тых квітанцыях недзе ў Гомелі можна атрымаць будзе за каровы грошы. Маці па грошы не пайшла, казала, ніхто не пайшоў. Адзін малады Шышка пайшоў. Вярнуўся паліцэйскім і прывёў дадому пародзістую карову, такія да вайны толькі ў саўгас былі завезены; па вядру малака давала. Людзі казалі, што ён атрымаў грошы за ўсіх, а таму і купіў сабе новую карміцельку. Але некаторыя інакш гаварылі: за тое, што пайшоў

служыць немцам, далі яму карову. Напачатку Шышку моцна ўзненавідзелі, а пасля неяк прымірыліся, што ён паліцэйскі. Пайшла чутка, што Рыгор не дае чужым паліцаям крыўдзіць сваіх, добрынскіх, людзей. І ад немцаў абараняе. На Кулагі, казалі, як наляцелі аднойчы, дык вымелі ўвесь хлеў і палавіну жывёлы пагналі. А на Добрынку больш так не наляталі. Збожжа і мяса здавалі па развёрстцы старасты, а Пракоп быў чалавек справядлівы, старастам яго абралі свае, бо ён яшчэ ў тую вайну, на якой загінуў наш дзед, у палоне быў у Нямеччыне і знаў іх мову. Мы, дзеці, у сем-восем гадоў добра зналі жыццё, настрой людзей, адносіны паміж імі, хто за каго і хто чым дыхае і што на вайне, дзе былі нашы бацькі, робіцца, цяпер сямікласнікі так не знаюць пра сваё сяло, пра тое, чым хто жыве. Цяпер слухаюць радыё, глядзяць тэлевізар. А мы лавілі кожную размову, кожнае слова. Мы былі паўсюдныя, як птушкі. Прыляталі ў любую хату. Прысутнічалі на вяселлях і на памінках, там, дзе смяяліся і дзе плакалі, і, безумоўна, там, дзе варажылі. У вайну хадзіла па сёлах багата варажбітак. Варажылі яны па-рознаму: адны прадказвалі канец свету, другія, наадварот, радавалі нашых матак, што скора адбудзецца тое, чаго ўсе чакалі,— вернуцца свае, вернуцца мужы, бацькі. Адну такую варажбітку, старэнькую бабулю, арыштавалі паліцаі, пайшла чутка, што яна ад партызан прыходзіла. Пасля гэтага мы, дзеці, у кожнай чужой жанчыне стараліся разгледзіць партызанку. І калі новая варажбітка заходзіла да каго ў хату, мы ляцелі туды, як вераб'і на проса. Часам нас выганялі. Але часцей не звярталі ўвагі: дзеці былі ў кожнай хаце, ад іх нікуды не дзенешся, ды і няма ад іх чаго таіць, няхай ведаюць, якое яно, жыццё і што іх чакае наперадзе. Можа, ад таго, што ведалі ўсе клопаты, усё матчына гора і на плечы нашы ўзвальвалася нямала недзіцячай работы, мы рана сталелі.

Бедна мы жылі без каровы. Галадалі. Не, галадалі мы па вясне. А тады наступала восень і можна было жыць — выраслі бульба, гуркі, капуста, у лесе грыбоў было многа; мы з маткай кожную раніцу хадзілі па грыбы і насушылі ажно два мяшкі, адных добрых — баравікоў — мяшок, а яшчэ наперадзе маглі быць маслюкі і апенькі, на іх мама надзеялася, баравікі яна мелася занесці ў Гомель на рынак, каб прадаць іх і купіць солі, бо соль тады была даражэй за сала, а без солі з самымі лепшымі грыбамі суп усё роўна што з травы. Анечка, калі хварэла, вельмі прасіла солі: «Мамачка, адну крупіначку».

Так, гэта было на пачатку восені, бо незадоўга перад гэтай сустрэчай мама сказала, што каб не вайна ды не немцы, то я пайшоў бы ў школу. Мне вельмі захацелася пайсці ў школу. Паліцаяў я не любіў, як і ўсе добрынцы, але ў той дзень, калі можна было ісці ў

школу, я іх узненавідзеў асабліва, бо яны займалі нашу школу, а цётка Маланка, якая прыбірала там, казала: ператварылі ў свінушнік.

Але, сустрэўшы Рыгора Шышку, я пачціва саступіў са сцежкі ў гразь (прайшоў дождж, і на вуліцы было гразка) і павітаўся з ім, зняўшы шапку: «Добры дзень, дзядзька Рыгор».

Так вучыла маці — з усімі вітацца. Не хацелася мне гэта рабіць. Я быў настроены сваім сябрам Яшкам Качанком і асабліва яго дзедам: стары мацюкаў паліцаяў і немцаў на чым свет стаіць, а аднаго разу пабіўся з італьянскім салдатам, які хацеў забраць парсючка; з гэтай прыгоды смяяліся, але казалі, што каб там былі немцы ці мадзьяры, старому Качанку быў бы капут, застрэлілі б яго без суда, а італьянцы сабраліся на крык і, убачыўшы, як дзед качаецца ў двары ў пяску, счапіўшыся з адным з іх, смяяліся, пляскалі ў далоні і крычалі: «Бравісіма!» Вясёлы народ італьянцы!

Я сказаў неяк маме, што не хачу здаровацца з паліцаямі і немцамі. Каб яна пачала сварыцца, я заўпарціўся б і рабіў бы па-свойму, але яна прасіць мяне пачала, як бацьку некалі пра нешта прасіла, калі ён адыходзіў на вайну: «Іваначка, родненькі, трэба здароўкацца з усімі. Няможна табе праходзіць міма іх ваўчанём. Няможна, сыночак мой. Яны бываюць што звяры... Як табе, маломý, паясніць?»

Разжоўваць мне не трэба было, сам усё знаў і паабяцаў вітацца. Але трэба пражыць сорак гадоў, трэба мець сваіх дзяцей, каб да канца зразумець маці і ўсё, што яна перажывала тады, як баялася за нас, за дзяцей. За мяне, відаць, асабліва. Анечцы ўсяго пяты гадок ішоў, яна дзяўчынка, заўсёды трымалася пры маці, сама нікуды не хадзіла. А я шастаў па ўсёй ваколіцы, страчаўся з рознымі людзьмі, хацеў паказаць сябе дарослым, дасведчаным ва ўсім, мог, наслухаўшыся ад дзеда Качанка, нагаварыць такога... Матка кожны дзень вучыла, каб я нічога нідзе не казаў пра вайну, пра немцаў, пра партызан.

Шышка на маё прывітанне не адказаў, прайшоў міма, задраўшы нос. Ішоў ён у сваім чорным паліцэйскім мундзіры, падпяразаным шырокай папругай, на якой вісела жоўтая кабура. Раней у яго не было кабуры, ён хадзіў з карабінам, і стары Качанок перадражніваў яго, казаў, што нават да ветру за хлеў Шышка ходзіць са сваёй ламачынай, а потым, калі садзіцца па патрэбе, не знае, куды яе дзяваць. Нас з Яшкам гэтая дзедава перадражніванне смяшыла да слёз. А матка Яшкава лаялася са свёкрам: «Пустамол ты стары! Чаму ты вучыш малых? На дзіцячы розум, яны пачнуць перадаваць твае фінцілі-вінцілі, дак калі дойдзе да тых гадаў, то яны, калі хочаш, перастраляюць дзяцей».

Чаму маткі лічылі, што мы такія неразумныя?

Раптам Шышка павярнуўся да мяне, гукнуў: «Эй! Ты Карнееў?»

Я сцяўся, як ад удару.

«Ага, Алёнін»,— нас з Анечкай рэдка называлі Карнеевы, на вуліцы нашай часцей на маці — Алёніны.

«Хочаш паглядзець кулямёт?»

Хацелася мне паглядзець кулямёт. Якому хлапчуку ў сем гадоў не хочацца палюбавацца на такую цацку? Але яшчэ больш хацелася зайсці ў школу, дзе я мог бы вучыцца ўжо, паглядзець, як паліцаі пераварылі яе ў свінушнік. Аднак і боязна было. Не, я не думаў, што Шышка можа завесці і не выпусціць назад. Была сярэдзіна дня. Хадзілі па вуліцы людзі. А Шышка ўсё ж свой чалавек, лічы, што сусед, на адной вуліцы жыве. А зімой, калі ён жаніўся, мы, дзеці, набіліся ў яго хату, і нас там частавалі — пшанічнымі пампушкамі з мёдам.

Не, што Шышка можа арыштаваць мяне, малога, гэтага я не баяўся. Але нейкая несвядомая перасцярога з'явілася, матчын наказ падзейнічаў — быць ад іх далей, ад усіх тых, хто пайшоў служыць да немцаў.

«Мне трэба малако занесці. Анечка хварэе»,

«Не скісне тваё малако».

Ён вярнуўся і ўзяў мяне за руку.

«Пайшлі, пайшлі, не бойся. Хочаш, я навучу цябе страляць з кулямёта? Пойдзеш у партызаны — будзеш умець страляць. Хочаш у партызаны?»

Гэта мяне насцярожыла. Бач, куды закідае вудачкі, падумаў я, але не на дурня наскочыў. Так я табе і скажу, чаго я хачу, а чаго не хачу,

«Не, не хочу. А што мне там дзелаць? Мне і дома добра».

«А ў паліцэйскія хочаш?»

«Не возьмуць мяне. Малы».

Шышка спыніўся і паглядзеў мне ў твар.

«Вунь ты які! Малайчына! А што ета ў цябе за пазухай?»

«Пляшка з малаком. Анечка хварэе, Кашляе і кашляе. Яе казіным малаком матка поіць».

«А я думаў — граната ў цябе там».

«Што вы, дзядзька! Адкуль я вазьму тую гранату? Хіба яны валяюцца?»

«А каб меў гранату, то шчо ты зрабіў бы з ёй?»

«А нічога. Я ў рукі яе не ўзяў бы. Шчоб матка лупцоўкі дала».

«Добры ты хлопец, бачу. Як ета я цябе раней не прымеціў? Мы з табой маглі б падружыць, Хочаш, я патронаў табе дам? Ад рускай вінтоўкі. Цэлую скрынку. Цынкавую. Бліскучую»,

«А нашто яны мне?»

«Гуляў бы».

«Каб малыя ў агонь кінулі ды пастраляла іх. Матка сказала: хоць адзін патрончык убачу — шкуру спушчу».

Ён зноў спыніўся, зноў вельмі пільна паглядзеў на мяне.

«Ну, брат, ты мудрэйшы за Цавеньку,— такая мянушка была ў дзеда Яшкі Качанка.— У таго, старой падлы, дрысня з бяззубага рота свішча. Заткнуць няма каму».

Шышка ажно пабуракавеў — ад злосці, і я сцяміў: знае ён, што гаворыць пра паліцаяў дзед. Можа, і пра тое перадалі яму, як мы з Яшкам рагочам, калі дзед перадражнівае кульгавага старасту, і Шышку, і бясштанніка Куляшонка, і чужых паліцаяў, каторыя не з нашага сяла, але дзед і тых знаў — хто адкуль, з якога роду; Качанок калісь выrabляў аўчыны і хадзіў па сёлах, знаёмых у яго было — цэлы раён. Тут мне зрабілася страшна. А ці не за гэта Шышка хоча затрымаць мяне і распытаць, пра што гаворыць дзед Захарка? Я пакляўся сабе: нічога не буду гаварыць, няхай хоць катуюць, хоць агнём паляць. З надзеяй, з маленнем глядзеў на людзей, якія страчаліся, так глядзеў, каб тыя сцямілі і сказалі матцы, што не па сваёй ахвоце пайшоў я з Шышкам, што мяне трэба выручыць. Мама — яна нешта прыдумае. Яна заўсёды выручыць.

Школа наша тагачасная была драўляная, аднапавярховая, мне, малому, здавалася вельмі вялікая, заблудзіцца ў ёй можна, большага дома тады ў сяле не было. Школу збудавалі перад вайной. Бярвенне сасновае не пацямнела яшчэ нават так, як у хатах, сукі зусім жоўценькія былі, смала на іх выступіла, напэўна, у першае ваеннае лета, пасля якога не было ўжо заняткаў, і вучні не скалупвалі смалы, так яна і свяцілася прыгожымі наплывамі — дзе жоўтымі, дзе пабялелымі. Смала гэтая кінулася ў вочы і запомнілася, бо захацелася пакалупаць яе.

Шышка не павёў мяне на ганак, за школу павёў, на двор, густа зарослы палыном і быльняком. На хляве, дзе некалі стаяла дырэктарава карова, а ў другой палавіне з вялікімі варотамі, праз якія магла заехаць машына, складалі школьныя дровы, былі прыбіты дзве вялікія фанеры: на адной намалявана звычайная мішэнь — чорныя і белыя кругі, на другой — чырвоны чалавек — галава, грудзі, рукі, ногі. Кругі былі прадзіраўлены кулямі па ўсім полі мішэні, і дзірачкі абведзены вугалем. Чалавеку стралялі толькі ў лоб і ў грудзі, у той бок, дзе сэрца. Кулі парвалі фанеру, утварыліся шырокія рваныя проймы, праз якія, як белае цела, прасвечвалася пашчапаная сцяна хлява.

Мне стала страшна, што чалавека так расстралялі.

«Хочаш пастраляць?» — спытаў Шышка.

Хто з нас хлапчукоў, не хацеў пастраляць у той час? Але там, у школьным двары, мне не хацелася страляць, аднак адмовіцца не адважыўся. Шышка дастаў пісталет, агледзеў яго, дзьмухнуў у дула, выняў абойму, назад паставіў яе і перадаў зброю мне.

«Цэлься яму ў лоб, етаму бандыту».

Пісталет быў цяжкі для мяне, але не толькі ад цяжкасці задрыжала мая рука. Я не мог стрэліць у чалавека. Папрасіў:

«Дзядзечка, я ў яблычка хачу».

«У партызана, значыцца, не хочаш? — нядобра ўхмыльнуўся паліцай.— Та-ак. Ну, давай у мішэнь. Калі пацэліш у дзесятку — будзеш мець прэмію, добры гасцінец ад мяне. Мушку падвадзі знізу, пад яблычка. І ціха націскай».

«Я знаю».

«Знаеш? — здзівіўся Шышка.— Калі ж ета ты страляў? Дзе?»

«Я не страляў, так знаю».

Стрэл ляснуў нечакана для самога мяне, пісталет трохі не вырвала з рук. Куля не пацэліла нават у самы вялікі круг, прабіла фанеру ў левым чыстым кутку.

Шышка задаволена засмяяўся:

«Эх ты, стралок! А яшчэ ў партызаны хочаш ісці. Хочаш?» — другі раз спытаў Шышка. Але я, хоць і аглушаны стрэлам, вуха трымаў востра.

«Нашто яны мне здаліся, тыя партызаны!»

Шышка ўзяў у мяне пісталет.

«Страляць трэба так. Партызану б'ю ў левае вока. Глядзі!» — ён як бы падкінуў пісталет угору і, бадай жа не цэлімшыся, стрэліў. На шчацэ «чалавека» пад вялікай прорвай засвяцілася новая маленькая дзірачка.

На ганак, на той малы, што з боку хлява, з дзвярэй, праз якія некалі хадзілі дырэктар і настаўнікі, выйшаў другі паліцай, чужы, які і гаварыў не па-нашаму — па-гарадскому. Добрынцы далі яму мянушку Лапай. Дзед Качанок, можа, болей за ўсіх лаяў гэтага Лапая, бо ён з акружэнцаў, у Чырвонай Арміі служыў, а перайшоў да немцаў. У дзеда яму былі іншыя мянушкі — юда, хрыстапрадавец, фашыст.

Лапай агледзеў мяне з насмешкай і як бы з грэблівасцю, ад чаго мне зрабілася нядобра, крыўдна, злосць апанавала, хацелася крыкнуць яму ў твар усе мянушкі адразу. Не глядзі так на людзей, гад паўзучы!

Лапай сказаў Шышку таксама насмешліва:

«А я думаў, ты партызана ў палон узяў і расстрэльваеш без нас... А ты змену сабе рыхтуеш. Доўга чакаць. Не працягнем...»

«Не каркай. Мы з Іванкам старыя дружбакі. Суседзі. Гэта сын Карнея Батрака».

Лапай свіснуў так, быццам ён добра ведаў бацьку майго і ўзрадаваўся, што сустрэўся з сынам. І паглядзеў на мяне зусім інакш — з цікавасцю.

«І як? Умее страляць?»

«Навучыцца. Хлопец разумны. На ляту хапае. Прыходзь, Ваня, кожны дзень. Навучым».

«Ты пачаставаў бы такога дарагога госця»,— сказаў Лапай.

«А во ета правільна ты кажаш, Кузьміч! — як бы ўзрадаваўся Шышка, што яму падказалі добрую справу.— У нас такі гасцінец ёсць! Угу, пальчыкі абліжаш. Хадзем».

Наконт яды быў я сарамлівы, як і многія дзеці таго часу, так нас выхоўвалі, так наказвала маці: не лезці ў чужой хаце за стол. Калі заходзіў да суседзяў, а яны абедалі ці вячэралі і запрашалі з'есці дранік, зацірку, кулагу, я заўсёды адгаварваўся, што еў ужо гэтае ж самае, хоць каўтаў сліну. Нават у сваякоў, акрамя бабы і цёткі Хвядоры, я ніколі не садзіўся за стол, хіба яблык ці грушу мог узяць. Тым больш няма чаго частавацца ў паліцаяў! Што скажа дзед Качанок, і ў хату не пусціць. Ідзі, скажа, нюхайся са сваімі паліцаямі.

Але як адмовіцца, калі ты ўсё роўна як пад арыштам апынуўся? Ды і не пачастунак галоўнае. Нават пазней ужо, калі стаў падлеткам, у дзіцячым доме быў, мне заўсёды было лягчэй зайсці да каго-небудзь, куды-небудзь — у хату, у кантору, у кабінет дырэктара — і павітацца, чым развітацца і выйсці, здавалася, што раблю я гэта не так, не ў час, не па правілах.

Пра гэта я думаў, пераступіўшы парог школьных варот: як выбрацца адтуль?

Паспрабаваў адцягнуць іх увагу ад пачастунку — напомніў Шышку:

«А кулямёт?»

«Які кулямёт?» — здзівіўся Лапай.

«Я кулямёт хацеў яму паказаць»,— сказаў Шышка і ўкрадкі падміргнуў другому паліцаю. Але я ўсё бачыў і здагадаўся, што кулямёта ў іх няма, што Шышка выхваляўся знарок, мабыць, каб заманіць мяне сюды.

«Кулямёт — ваенная тайна».

«Ага. Адразу такія штукі не паказваюць. Заслужыць трэба. А калі ты партызанам скажаш, дзе ў нас што стаіць?»

«Не скажу».

«Не скажаш? А калі папытаюць?»

Тут я зноў пачуў хітрасць — жаданне злавіць мяне на слове.

«Дзе я ўбачу іх, тых партызанаў!»

«А калі б убачыў, то сказаў бы?»

«Чаго ты прычапіўся да хлопца?»

Разам усе трое мы ўвайшлі ў школу. Я здзівіўся: на свінушнік там не было падобна. Выходзіць, Маланка маніла, але ж ніхто тую жанчыну брахлівай не лічыў, верылі ёй. У вялікім пакоі з шырокімі вокнамі, за якімі раслі маладыя, зялёныя яшчэ клёны, пасаджаныя некалі вучнямі, было не па-вясковаму чыста, стаяла пяць белых ложкаў — як у раённай бальніцы, дзе лячылася перад вайной наша бабуля і мы ездзілі туды з бацькам. Ложкі былі аднолькава засланы шэрымі коўдрамі. Такой жа коўдрай быў засланы і стол.

У кутку па драўлянай падстаўцы стаялі вінтоўкі, не пяць — дзевяць. Што паліцаяў у школе дзевяць — пра гэта я знаў, кожнаму з іх мянушкі далі.

На сцяне вісеў партрэт Гітлера. На яго я стараўся не глядзець. Баяўся, што, калі пагляджу, паліцаі прымусяць зрабіць ці сказаць нешта такое, чаго нельга рабіць, гаварыць, чаго не даруюць дзед Качанок, сяльчане. Штось падобнае было ўжо з абразамі, якія віселі ў бабінай хаце. Калі я разглядаў іх, бабуля прымушала мяне хрысціцца, а мне сорамна было хрысціцца, бо бацька мой у бога не верыў, смяяўся, калі малілася маці, і тая пры бацьку перастала маліцца. Праўда, калі прыйшлі немцы, зноў малілася і Аньку вадзіла да папа, каб пахрысціў. А я ўсё роўна і тады, у вайну, калі прыходзіў да бабулі, рабіў выгляд, што не бачу іх, абразы тыя.

Так і там, у школе, стараўся не бачыць Гітлера. Вельмі трэба было вылупліваць вочы на такога гада, якога ўсе людзі праклінаюць!

Ды паліцаяў Гітлер таксама не цікавіў. Яны хадзілі ля мяне, як некалі да вайны матка ля гасцей, якіх прыводзіў бацька.

Лапай выставіў перада мной міску з мёдам, соты там ляжалі горкай, і мёду паўміскі нацякло, у ім плавала колькі закураных, пачарнелых пчолак. Мёд пахнуў салодкасцю, кветкамі і дымком. Праўда, такога ласунку я не бачыў з зімы, з яго, Шышкавага, вяселля. Але там яго намазвалі на пампушку і давалі дзецям. А тут паставілі цэлую міску, хлеба пшанічнага паўбуханкі раскроілі і драўляную лыжку паклалі перада мной. Еш ад пуза. І добра так запрашалі, ласкава, як дарагога госця:

«Еш, еш, малец».

«Еш, Іванька, не саромейся. У нас мёду цэлая бочка. Прыходзь, кожны дзень будзеш есці. Дома, нябось, на адной бульбе седзіце? Каровы ж няма».

Хацеў сказаць, што бяром малако ў бабулі, казінае, але ўспомніў, што пляшка малака ў мяне за пазухай, Шышка пра яе забыўся і Лапай не звяртае ўвагі, што адтапыраны світка, і змаўчаў. Толькі падумаў, што хараша было б разам з малаком прынесці Анечцы мёду, хоць маленькі кавалачак сотаў. Во радасць была б малой, бо яна ўжо, можа, і не помніць, што такое — мёд і цукар. Калі яна ела гэтыя прысмакі?! Калі зусім маленькая была.

Хіба папрасіць у іх трохі мёду? Для Анькі. У іх жа цэлая бочка.

«Сала хоць калі бывае ў хаце?» — спытаў Шышка.

Сала нам з Анькай маці часам давала па маленькім скрылёчку, заўсёды на вячэру, але наказвала, каб на вуліцы мы не хваліліся што елі сала, бо, маўляў, цяпер многа галодных, а галодны нехаця робіцца злодзеем: залезуць у камору — апошняе ўкрадуць.

«Не, дзядзечка, сала няма».

«І ніколі ты яго не еў?»

«Еў. Даўно».

«Калі даўно?»

«Калі вайны не было».

Лапай пакруціў галавой, дзіўна неяк пасміхнуўся, але пахваліў:

«Разумны малец».

«О брат, Батракова парода! Бацька яго — галава!»

Не спадабалася мне, што іх так цікавіць, ці ямо мы сала. І што Шышка бацьку пахваліў, таксама не спадабалася. Каб паліцай хваліў майго бацьку! Адчуў лавушку ў частаванні, хітрасць. Мёд той лізнуў разы два — для прыліку.

«Што ты так мала ясі? Еш. Хочаш — соты смакчы, хочаш — лыжкай чэрпай, глядзі толькі, каб пчала не ўджаліла ў язык».

«А на пузе не выступіць?»

«Што, што?» — спытаў Лапай.

«Ён баіцца, што мёд выступіць на жываце».

Лапай зайшоўся ад смеху, паўтараючы:

«Мілыя дзікуны! Вось дзе глуш!»

Яны хадзілі вакол мяне, як каты ля гарачай скваркі, прымушалі есці мёд, гаварылі ласкавыя словы. Хацелі, каб я размяк ад мёду, каб я падружыўся з імі, каб мне захацелася заходзіць у школу часцей. Ды ім перашкодзіў трэці паліцай — Куляшонак, таксама наш, добрынскі, самы малады, перад вайною сямігодку скончыў. Дзед Качанок называў яго «свінячы хвост», казаў, што гэты дурачок першы наскочыць

на кулю, можа, нават на сваю. Так яно і здарылася: перад прыходам нашых яго расстралялі карнікі, за што — так ніхто і не даведаўся, бацькі спрабавалі, даказаць, што ён быў звязаны з партызанамі, але не знайшлося ніводнага партызана, які пацвердзіў бы гэта.

Куляшонак ускочыў у пакой як апантаны.

«Дзе ён?»

«Хто?»

«Цьфу ты! Во гад Лубок — збрахаў, што вы партызана злавілі. Я думаў — праўда. Ляцеў, як на пажар. Чый ета такі бандыт? Алёнін?»

Добра ён мяне знаў, Куляшонак той, бо жыў напроціў, цераз вуліцу. Пакрыўдзіўся я моцна і ўзлаваўся, што ён бандытам мяне назваў. Падняўся з табурэта, выцер рукавом ліпучыя губы. Куляшонка гэтага я баяўся менш, чым каго з паліцаяў. Зусім не баяўся. Сціснуў кулачкі, гатовы біцца.

«Я табе не бандыт!»

«Ты скажы, дзе твой бацька?»

Я асекся. Змоўк. І ўсе адразу змоўклі. Я зразумеў: чакаюць, што адкажу. Але матка ні ад каго не ўтойвала, што бацька на фронце, у Чырвонай Арміі; калі пачалася вайна, амаль усіх маладых мужчын прызвалі. Маці казала, дзе бацька, і варажбіткам, і тым, гарадскім, што мянялі рэчы на крупы і бульбу, і нават італьянскім салдатам, якія нікога не зачапілі, але пакралі многа курэй.

Таму я адказаў смела, з гордасцю:

«На фронце мой бацька. У Краснай Арміі».

«А хто да вас па начах ходзіць?»

«Ніхто не ходзіць».

«Ад чаго ж ета ў тваёй маткі пуза расце? А-а?» — і зарагатаў.

Вясковы хлопец, я ўжо ведаў тыя таямніцы, якія доўга хаваюць ад дзяцей. Ведаў, што дзяцей не носяць буслы. Ведаў, што без бацькі матка не народзіць мне брацікa ці сястрычку. Нарадзіць можа толькі Верка Макуха: да яе паліцаі ходзяць і немцы, і ўсе бабы плююць у яе бок, не здароваюцца і праклінаюць, бо муж яе таксама на фронце. Дык каб гэты «свінячы хвост» раўняў маю матку з Веркай!

Ад страшнай абразы кроў ударыла ў галаву, затахкала сэрцайка, і я, відаць, кінуўся б з кулакамі на Куляшонка ці, можа, шыбнуў бы ў яго міску з мёдам, каб Лапай не апярэдзіў мяне. Падскочыў і даў Куляшонку кулаком у жывот так, што той адляцеў да сцяны, сагнуўся ў тры пагібелі, заскуголіў, як сабака:

«Зашча?»

«Навучыся размаўляць з дзецьмі, малакасос!»

Нягледзячы, што «свінячаму хвасту» далі пад дыхала за абразу маёй маткі, не паверыў я ў шчырасць і ласкавасць да мяне тых двух, Шышкі і Лапая. Чуў хітрасць, хоць не мог уцяміць дзіцячым розумам, у чым яна, тая хітрасць, дзеля якой карысці сваёй паліцаі яе задумалі.

Куляшонак брыдка мацюкаўся, і Шышка адразу вывеў мяне на двор, праводзіў да варот, сказаў, каб я прыходзіў, што другім разам пакажа мне кулямёт.

З нядобрай трывогай у душы, з сумяціцай думак і пачуццяў ішоў я дадому. Павольна ішоў, не спяшаўся, бо не радасць нёс — пакутліва вырашаў: сказаць матцы, што паліцаі завялі мяне ў школу, ці не гаварыць? Адчуваў: трэба сказаць, бо ёсць тут штосьці такое, пра што можа здагадацца толькі маці. Але як скажаш ёй пра паганыя словы «свінячага хваста»? Ды мяне каб рэзалі і палілі, то я не паўтарыў бы тыя словы пры маці. Гэта ж ад сораму можна згарэць. Праз зямлю праваліцца.

Анька прыліпла носікам да шыбкі — выглядала, чакала малачка. Калі ўбачыла мяне, заўсміхалася, замахала худзенькімі ручкамі. Але я не пайшоў у хату, бо ўбачыў, што матка на гародзе — перабірала бульбу, драбнейшую — на насенне, каб было па вясне пасадзіць, буйнейшую — на харч, не многа было ў нас бульбы, бо мы не мелі каня, прыходзілася прасіць старасты, каб даў каня пасеяць, абагнаць тую бульбу. Маці не раз плакала перад тым, як пайсці да старасты.

Матка сядзела на нізкім услончыку на мяшках, перад кучай бульбы і кашамі, што стаялі ўзбоч. Была яна адзета ў старую бабуліну шэрую світку з саматканага сукна з аборкамі ззаду. Казалі, што каб да вайны маладзіца надзела такую світку, то з яе пасмяяліся б. А цяпер, у вайну, усё старое, нажытае яшчэ пры цару, выцягнулі са скрынь, і ніхто не смяяўся не толькі з маладзіц, але і з дзяўчат, бо ў краму не пойдзеш, не купіш; праўда, хто меў лішні хлеб, крупы, сала, то вымяньвалі ў гарадскіх, як Шышкі тыя ці Куляшонкі. Але ў нас на мену не было чаго, самім бы дажыць да вясны. Я стаў з другога боку бульбяной кучы напроціў маці. Яна з натугай разагнулася, быццам у яе балела спіна, малымі пальцамі — якія чысцейшыя — паправіла хустку, засунула пад хустку валасы.

«Прынёс малачка, сынок?»

Я памацаў світку, пад якой была пляшка.

«Налі, Іванька, белагубачку Аньцы і сабе трошачкі, а што застанецца — пастаў на паліцу, на вячэру ёй».

Сказала і нахілілася над бульбай. А я не адыходзіў. І тады яе як ударыла ў грудзі — так яна хіснулася і выпрасталася, паглядзела на мяне пільна-пільна.

«Што, Іванька? Што ты хочаш сказаць?»

«Паліцаі ў школу мяне завялі. Шышка».

Матка хутка паднялася, устрывожана спытала:

«Пра што яны ў цябе пыталіся?»

«Дзе мой бацька. Я сказаў, што на фронце. Так я сказаў, мам? А як ім скажаш, калі яны самі знаюць»,— я хітраваў, я хацеў размовай пра бацьку сам адысці і матку адвесці ў бок ад таго, пра што спытаў Куляшонак. Але матку нельга было падмануць, адчула яна, што не дагаварыў я ўсяго».

«А яшчэ што... што яны пыталіся?»

Я не знаў, што адказаць, засаромеўся. І мімаволі вочы свае з матчынага твару перавёў на жывот і ўпершыню ўбачыў, што світка старая, бабуліна, цесная ёй. Ад такога адкрыцця мне зрабілася яшчэ больш сорамна, напэўна, я моцна пачырванеў. Маці ступіла да мяне, абняла, прытуліла.

«Іванька, сыночак, пра што паліцаі пыталіся? Скажы мне, скажы, не бойся».

Я ўткнуўся тварам у світку, ад якой пахла зямлёй, бульбай, але мацней за ўсё нечым матчыным, родным, хатнім, трывалым. Я не бачыў яе вачэй, і ў такой паставе мне не было ўжо так сорамна, я мог сказаць яшчэ штось.

«Хто да нас ходзіць уначы. Я сказаў: ніхто не ходзіць. Яны мёду мне давалі, але я толькі лізнуў, каб адчапіліся. Трэба мне іх мёд! А, мам? Праўда? Выдралі чужы мёд. Накралі».

Я зноў адводзіў вочы ўбок. А маці зяхнула так, быццам ёй заціснулі рот і нос і яна не мела як дыхаць. Мацней прытуліла мяне, пачала цалаваць. Шаптала горача:

«Сыночак! Не хадзі да іх! Не хадзі! І нічога не бяры ў іх. Не трэба нам. І нічога не кажы. Нікому нічога не кажы. Нікому нічога не кажы. Ты маленькі яшчэ, ты нічога не знаеш».

— Ів-а-ан! Іван! — гукаў голас.

Іван чуў яго, гэты голас, пазнаў — Шчэрбы! Але як бы не адразу сцяміў, што шукаюць, клічуць яго. Ён быў далёка — там, у маленстве сваім, у вайне. Схамянуўся толькі тады, калі пачуў другі голас, другі кліч:

— Ба-цька!

Карней з нейкага часу рэдка казаў яму тата, асабліва на людзях, больш па-даросламу — бацька.

Азваўся не гучна, сам сабе:

— Чую, сын. Чую. Іду. Іду, сынок. Чакай.

Але гэта быў яшчэ не голас Івана Батрака да сына Карнея, гэта быў голас Карнея, бацькі яго, да маленькага Іванькі.

Адарваны ад думак сваіх, Іван агляну́ўся, дзе ён апынуўся, куды забрыў. Устрапянуўся, здзіўлены, уражаны. Але, гэта было тое месца. Яно добра запомнілася. Толькі тады вось тут, дзе канчаўся сасновы маладняк, пачынаўся дубовы гай. Дубы былі тоўстыя, высокія — волаты, з іх падалі буйныя жалуды, трахне які па галаве, то, калі без шапкі, гузак ускочыць. Яны прыходзілі з маці сюды раней. Збіралі жалуды. Іншыя збіралі іх, каб карміць свіней. У маці таксама была мара набыць парася. Але пакуль тое будзе, жалуды можна спажыць самім — змалоць у ручным млыне і дабаўляць у хлеб. Маці казала, што, калі ён, Іванька, яшчэ не нарадзіўся, у адну галодную вясну яны так рабілі, і хлеб быў нічога, трошачкі хіба гарэліў, ды гэта не бяда, калі чалавек галодны, то ён і не чуе той горкасці.

Так, дубы раслі тут асаблівыя. Цяпер ва ўсім наваколлі няма такіх дубоў.

Івану да болю зрабілася шкада таго гаю, які высеклі пасля вайны. Што-што, а дубы трэба было захаваць. Праўда, выраслі сосны. Якія высокія, гнуткія, прыгожыя сталі! Як нявесты. А тады быў хвойнік, па якім лазілі, нагнуўшыся, калі збіралі маслюкі. За дубамі раслі вольхі на высокіх чырвоных каранях, пад імі заўсёды стаяла зялёная вада, нават у летнюю спякоту, калі сюды прыходзілі па маліну. За вольхамі пачыналася балота — Казінае, далей — Гнілое.

— Ба-ацька!

— Іду-у! — адгукнуўся нарэшце на поўны голас. Але не пайшоў насустрач сыну і Шчэрбу, якія шукалі яго. Кружыў у бары, у асінніку; там, дзе раслі дубы, выгнала густы асіннік, над якім узвышаўся, можа, дзесятак старых дубоў, і ўсе яны былі пакалечаныя, абпаленыя маланкамі, абламаныя вятрамі. Натуральна, калі іх мала і яны так узвышаюцца над падлескам, то мусяць, як бацькі, прымаць на сябе ўсе ўдары лёсу.

Як бацькі. Як маткі.

Так, гэта было тут. Але дзе? Дзе яны стрэліся? Вельмі хацелася знайсці менавіта тое самае месца, быццам там маглі застацца яшчэ яго сляды.

У тую восеньскую раніцу матка разбудзіла яго яшчэ ў прыцемку. Яны спалі з Анькай на печы, там было цёпла, утульна, таму прачынаўся ён з неахвотаю. «Січас, мамачка, січас»,— падхопліваўся, праціраў кулачкамі вочы і зноў валіўся на падушку. Матка давала яму паспаць яшчэ мінутку, ён спрасонку чуў, што стаіць яна над ім, не адыходзіць, і зноў нахіляецца, цалуе ў цемечка, шэпча ў вуха: «Іва-

начка, сыночак, прачніся, мой галубок, па апенькі пойдзем. А то пабяруць людзі, пакуль мы дойдзем».

Доўга ён прачынаўся, але ўсё роўна, калі выйшлі на вуліцу, вельмі здзівіўся, што выбраліся так рана. Над сялом навісаў густы туман, і было зусім яшчэ цёмна, мала ў каго і свяцілася — лучына гарэла. І ніхто яшчэ па тыя апенькі не выходзіў. Праўда, яны ішлі не па вуліцы, па-за гародамі. У такую рань ды яшчэ ў такім тумане і заблудзіцца можна, згубіць адно аднаго. Чаму маці так спяшаецца? Так рана яны выбіраліся толькі аднойчы, на пачатку восені, калі пайшлі «дабракі», і матка перад тым палучыла мясціну і набрала поўны кош такіх наглядных чырвонагаловых, што Анька вішчала ад захаплення, цалавала кожны грыбок, а суседка, Куліна Шчэрба, ажно пасінела ад зайздрасці. Дык вось, каб людзі не апярэдзілі, не знайшлі тае мясціны, не прасачылі, куды яны ідуць, тады яны выбраліся ў лес яшчэ зацемка. А па апенькі ніхто так ніколі не выходзіў. Падумаеш, дабро такое — апенькі!

«Мам, а мам, і апенек тых не ўбачым яшчэ»,— сказаў ён, ледзь паспяваючы за маці, спатыкаючыся на карэнні, бо маці не ішла, бегла, пазнаючы лясную вузкую дарожку хіба толькі таму, што хадзіла па ёй тысячу разоў. Вобмацкам бегла.

«А мы ў Казінае пойдзем, сынок. На старую дзялянку. Там, кажуць, апенек насыпана».

«Ого! — выказаў Іванька сваё незадавальненне, бо падумаў, як цяжка будзе несці з такой далечы поўны кош сырых апенек, лазовы кош, які цяпер, пусты, весела скрыпеў у яго за плячыма.

Маці цяжка ўздыхнула. Сыну здалося: незадаволена яна, што ён такі гультай — чуць дабудзілася і далёка ісці лянуецца, і яму захацелася сказаць ёй што-небудзь прыемнае. Але што маці магло парадаваць? І раптам прыгадаў сон, быў ён невыразны, цьмяны, але галоўнае запомнілася. Дагнаў яе, узяў за руку.

«Мам, а мам! Знаеш, шчо мне снілася? Шчо да нас прыходзіў бацька. Яй-богу. Толькі знаеш, як яно ў сне бывае. Я чую голас і кажу сабе, што трэба прачнуцца і пабачыць бацьку, пагаварыць з ім. Але ніяк не магу прачнуцца. І ад таго я заплакаў, што прачнуцца не магу».

Мама спынілася, абняла яго галаву ў цёплай шапцы, пацалавала ў лоб, у вочы.

«Санулечка ты маё мілае. Як жа крэпка ты спіш! Але нікому пра сон, сынок, не расказвай. Не ўсе і сны трэба расказваць».

«Што я, дурны? Я толькі табе».

Апенек на той дзялянцы праўда было многа. Не адыходзячы ад аднаго пня, наразалі паўкаша. Але мама доўга кружыла, быццам шу-

кала нейкія асаблівыя грыбы. А потым, калі апусцілі кашы на зямлю і пачалі рваць з-пад пнёў цэлымі гронкамі маладыя, пругкія яшчэ, як гумка, з цёмнымі кружочкамі на светлых шляпках апенькі, маці неяк непрыкметна адышла ўбок і пасля ціха гукнула:

«Іванька! Дзе ты?»

Ён адказаў гучна, як пераклікаліся ў лесе ўсе грыбнікі.

«Ау! Я тут, мама!»

Тады яго паклікаў іншы голас, мужчынскі, ціхі, але выразны:

«Іванька!»

Ён замёр, стоячы каленкамі на мокрым імху. Яму здалося, што ён на міг заснуў перад пнём і зноў сніць той жа сон, што і ўначы, бо ён адразу пазнаў голас — бацькаў.

«Іванька! — зашамацеў побач арэхавы куст, атрос пажоўклае лісце на яго рукі. І ўсё роўна баяўся ён павярнуцца, паглядзець, бо не паверыў у такое шчасце: адкуль мог узяцца тут бацька, калі ён на фронце? А фронт вунь дзе — пад далёкім Сталінградам, пра горад гэты казаў дзед Качанок і бедаваў, засумаваў ажно, што немцы дайшлі так далёка — да Волгі.

Толькі калі пачуў зусім побач: «Сынок», Іванька падхапіўся і адразу кінуўся да чалавека, што быў у кажуху, хоць вяскоўцы кажухоў яшчэ не насілі — восень, дождж, у сваёй зімовай шапцы, якую малы адразу пазнаў, бо неаднойчы сам надзяваў.

«Тата! Татачка!» — кінуўся да бацькі, і той лёгка, як зусім малога некалі даўно, падхапіў яго на рукі.

Ён прыціснуўся шчакой да калючай бацькавай шчакі і задыхаўся ад шчасця, сэрцайка так грукацела ў худых грудках, быццам ён прабег ад самага сяла да Падказінага, бо даведаўся, што тут бацька, і бег, каб не спазніцца, каб пабачыць яго.

«Як ты жывеш, сынок?»

«Добра, тату»,— шэптам адказаў Іванька.

«Аньку не крыўдзіш?»

«Яна ж малая. І хварэе».

«Шкадуй яе, сынок, беражы. Ты ж мужчына».

«А ты хто? Партызан?»

«Партызан».

«Ой, татачку, родненькі. Які ж я шчаслівы! Ні ў каго з нашых хлопцаў няма бацькі партызана. Ні ў Яшкі, ні ў Хведзькі».

«Пра гэта нікому нельга казаць».

«Знаю. Не дурны».

«І нос не задзірай,— бацька апусціў яго на зямлю і пальцам задраў носік, жарт такі рассмяшыў хлопца так, што ён забыўся на пера-

сцярогу і засмяяўся гучна, галасіста.— Каб ніхто ні аб чым не здагадаўся па тваім носе. Не будзеш задзіраць?»

«Хіба я маленькі?»

«Так, сынок, ты не маленькі ўжо, таму я і прыйшоў да цябе».

«А тут са мной мама. Мы апенькі збіраем. Ау, мама!»

А маці быццам чакала, калі ён скажа пра яе,— выйшла з-за дуба, выціраючы рогам хусткі слёзы, радасна і сумна ўсміхаючыся бацьку. Не кінуліся яны адно да аднаго, не пачалі цалавацца. Тут хлопец здагадаўся, што не сніў уначы бацьку, а спрасонку чуў яго голас. Больш таго, здагадаўся, што бацька прыходзіў і раней, таму той Куляшонак і спытаў, хто да іх ходзіць уначы. Спачатку ўзрадаваўся, што калі маці сапраўды павінна нарадзіць дзіця, то не будзе ёй ніякай ганьбы і яму не будзе сорамна, бо калі якая жанчына нараджае, маючы мужа, то гэта лічыцца нармальным, да яе з пашанай у адведзіны прыходзяць, з гасцінцамі. Але тут жа сэрца яго, якое яшчэ не супакоілася, сціснулася, стаілася ад страху.

Пра тое, што бацька партызан, нельга сказаць. Што ж скажа матка людзям? І яшчэ большы страх ад думкі: а што, калі паліцаі сапраўды знаюць, што бацька прыходзіць, і падпільнуюць яго, застрэляць?

Мабыць, ён змяніўся з твару ад такіх думак, бо бацька заклапочана спытаў:

«Што з табой, сынок? Чаго ты азіраешся?»

«А дзе тваё ружжо?»

«Ёсць ружжо. Харошае. Аўтамат».

«Дзе?»

«Тут мае таварышы недалёка».

«А ты можаш пастраляць бобікаў?»

«Пастраляем, сынок, пастраляем... усіх фашыстаў, усіх здраднікаў...»

«А «свінячы хвост» пра цябе пытаўся. Дзе, кажа, твой бацька? Я сказаў: на фронце» — і зноў не хапіла рашучасці сказаць усё, пра што пыталіся паліцаі, зірнуў на маці, засаромеўся, і маці цяжка ўздыхнула.

Бацька сеў на пянёк, прыцягнуў яго да сябе.

«Слухай, Іванька. Ты ўжо вялікі. Гаспадар у хаце. Ты павінен усё знаць. Можа здарыцца, што мама... ну, як гэта кажуць, купіць табе брата ці яшчэ адну сястру. Дык ты знай... Панімаеш?.. Пра мяне нікому ні слова. Няма мяне. На фронце я. Калі пра матку пачуеш што паганае — маўчы, каб не вырвалася ў цябе непатрэбнае слова, у бо-

йку не лезь, не задзірайся. Няхай пагавораць — чорт з імі. Добрыя людзі разбяруцца, а гадам — рот заткнём. Дагаварыліся?»

Іванька згодна кіўнуў галавой, яму стала хораша, лёгка, бо высветлілася тое, ад чаго ён пакутаваў ужо два тыдні пасля наведвання школы, пра што ён нікому не мог сказаць. А бацька ўсё сказаў яму, як вялікаму.

Маці ўсхліпнула.

«Алёна, Алёна,— супакоіў яе бацька і зноў звярнуўся да яго: — Маму жалей, сынок, беражы. Ёй будзе цяжка. Памагай. Слухайся. Мама ў нас адна. І харошая. Самая добрая».

Тады маці закрыла вочы хусткай, і плечы яе задрыжалі — яна заплакала.

Бацька падняўся з пня, абняў яе за плечы.

«Не трэба, Алёна. Не трэба. Усё будзе добра. Яй-богу, усё будзе добра».

«Мамачка, не бойся. Я ж буду з табой. Няхай хто што скажа, дык я яму!»

«Ну во, бачыш! Такі мужчына з табой. Арол! А ты плачаш, як малая Анька»,— засмяяўся бацька.

— Ба-а-цька!

— І-ду-у, сынок! І-ду-у!

— Іван! Дзе цябе чэрці носяць? — першы вынырнуў з-за кустоў Шчэрба, выскаліўся: — Ета цябе Кацінь катлеты так носяць па лесе? Во зараза! Трэба Астаповічу сказаць. Помніш, я кансервамі атравіўся, дык чуць не загнуўся. Ну і пагана ж было! Сэрца заходзілася. Ціў-ціў — і маўчыць. Добра што доктарка ўколам падагнала. А то хацела ўжо, дурное, складваць лапкі, як мышка. Ды я яму крыкнуў: не смей, дай пажыць Хведзьку! Паслухалася, як бачыш. І зноў — «і жысць хараша, і жыць харашо».

Іван слухаў Шчэрбаву балбатню без усмешкі.

— Усё-такі нядобра табе? Фізіяномія ў цябе скісла, як малако Любіна. «Шчо ў мяне малако так скора скісае?» — перадражніў ён жончын голас.— Гладышкі, зараза, ляніцца памыць. А дзесятку ў боце знайшла. Прэміяльную. Не з зарплаты. Сам бог і прафсаюз наказвалі, шчоб я спажыў тую дзесятку як трэба. Але ўсё роўна пахмелімся сёння! А, Іван?

Падышоў Карней.

Іван убачыў сына і адразу як бы ажыў, радасна заўсміхаўся, пайшоў яму насустрач. Нясцерпна захацелася абняць сына, прытуліць тут, на тым месцы, дзе некалі, абняў бацька яго, малога. Але мусіў спыніцца. Не зразумеюць яго парыву, а растлумачыць немагчыма.

Каб Карнею было сем год, як тады яму. А так збянтэжыцца хлопец са сваім характарам. Хведзька, безумоўна, не змоўчыць — змарозіць што-небудзь наконт такіх «інтэлігенцкіх нежнасцяў».

— Як справіўся з прычэпам, сын?

— А што там спраўляцца.

— На разгрузцы?

— Памаглі.

— На таку ж дзяўчаты-аднакласніцы. Знаеш, як яны завіхаюцца ля яго. «Карнейка, Карнейка, наш салавейка». Ета калі ты прыязджаеш, дык яны разбягаюцца, як мышы, ніводнай спадніцы не ўбачыш. Вельмі, думаеш, ім хочацца глядзець на тваю посную морду? Карней — джыгун! Ета ён прыкідваецца цішэй вады, ніжэй травы,— і Шчэрба заспяваў: — «А ўбачыла джыгуна — трохы я не ўмэрла».

— Астаповіч прыязджаў,— сказаў Карней, каб перапыніць Шчэрбава блазнаванне наконт дзяўчат.

— Ага, я забыўся сказаць. Прыязджаў бацька наш родны. Круціў пальцамі на пузе, як поп, благаслаўляў нас...

— Прасіў, каб сёння абавязкова скончылі ўборку,— вельмі сур'ёзна перадаў дырэктаравы словы Карней, нават з адценнем дакору бацьку: такая задача стаіць, сам Астаповіч турбуецца, а ён, брыгадзір, добрую гадзіну па лесе гуляе, знайшоў час для прагулак.

Шчэрба засмяяўся.

— Не быў бы ён мой цёзка, каб не абдурыў кулажцаў. Попусту стараліся іх шпіёны. Заўтра ажно прыедзе камісія з «Іскры» на праверку спаборніцтва па жніву. Няхай панюхаюць у Казіным казінае...

Іван раптам адчуў, як яму хочацца за штурвал камбайна, як ён засумаваў па рабоце, быццам перапыніў яе не на гадзіну, а на многа дзён. Ажно рукі засвярбелі. Але, праца — лепшы лекар ад любых нядобрых думак, хвалявання. Узяўшы сына за руку і моцна, з удзячнасцю сціснуўшы яе, весела сказаў:

— Пайшлі! Паработаем з аганьком! Дзе будзеш, сын,— на камбайне, на машыне?

— На машыне.

— Правільна! На таку можна і кофтачку якой памяць. Ого, каб мяне разгружалі аднакласніцы! Ды мае аднакласніцы, заразы, могуць толькі нагрузіць. Ды і шчарбатыя пасталі, як я. Гідка цалавацца.

Іван пасміхнуўся са Шчэрбавай нястомнасці і невычэрпнасці: б'юць з яго жарты, як вада з прарванай трубы. Не заткнуць. З усяго чалавек жартуе. З любой нагоды. Вясёлай. Сумнай. А часцей — з самога сябе.

«Мабыць, лёгка жыць так»,— падумаў Іван.

Не. Ведаў ён Хведзькава жыццё і ніколі не верыў, што яму так весела жывецца, як ён жартуе. Бестурботна жывуць толькі дзеці. Але тут жа не згадзіўся: «Якія дзеці?»

7

Пасля двухмесячнай гарачай работы — сенакос, сянаж, жніво, калі каму-каму, а механізатарам ніяк нельга было выкраіць выхаднога дня, у саўгасе была абвешчана нерабочая нядзеля. Для ўсіх. Акрамя хіба даярак. Адпачывалі ўсе адразу, і гэта падало сялу святочны выгляд, святочны рытм. Мужчыны пазней звычайнага спалі, прачнуўшыся, больш акуратна галіліся. Каля цырульні з самага ранку ўтварылася чарга, чаго даўно ўжо не было. Адзявалі выхадное. Дзяцей убіралі, як у госці, хаця малых прыйшлося хутка пераадзяваць — уначы прайшоў дождж і на вуліцы стаялі калюжыны. А якому карапузу не хочацца хоць хвіліну пабыць мараком ці рыбаловам? Гаспадыні тых двароў, дзе не многа трымалі жывёлы, не палілі печаў, гатавалі снеданне на газавых плітах, што таксама надавала раніцы пэўную своеасаблівасць, новы рытм і інакшы выгляд тым жанчынам: ля газу — не ля печы, дзе трэба выграбці попел, накласці не абы-як дровы, залезці па пояс у печ, каб распаліць дровы лучынай, добра яшчэ, калі яны сухія. Недарэмна моцна даставалася тым мужам, якія з-за сваёй сялянскай недальнабачнасці не ўстанавілі ў свой час газ, а цяпер мусілі стаяць у чарзе, бо не хапала пліт. Нават старыя бабулі, якія да многіх змен адносіліся з недаверам, лічылі, што без газу не жыццё. Без газу і без водаправода ў доме. Але вада была праведзена яшчэ не ва ўсе хаты. Звычайна замужнія кабеты выбягалі да калонак і калодзежаў у тым адзенні, у якім палілі ў печы ці кармілі свіней, убіраліся больш-менш дзяўчаты, вучаніцы старэйшых класаў, гэтыя сваім выглядам даўно сцерлі мяжу паміж сялом і горадам. У тую нядзельную раніцу мала якая жанчына выскоквала на вуліцу абы ў чым. І гэта асабліва надавала дню святочнасць.

Магчыма, тон задалі Астаповіч і Качанок: толькі адчыніўся сельмаг, як яны з жонкамі, убранымі, як для паездкі ў тэатр, прайшлі па галоўнай вуліцы, да магазіна — з пустымі торбамі, назад — з поўнымі. Такое здаралася рэдка — каб кіраўнікі саўгаса хадзілі з жонкамі ў магазін, ды яшчэ з самай раніцы. На такі паход не маглі не звярнуць увагі, асабліва жанчыны. На дырэктаравай жонцы ацанілі новы гарнітур, але наконт яе маўчалі — у бяднейшым ці неахайным убранні яе не бачылі: інтэлігентка, настаўніца. А вось па Клаве Качанковай, па яе крымпленавай сукенцы, «праехаліся», бо Клава свая, як усе іншыя,— гародняя звенавая, цыбулю вырошчвае; уводзячы спецыя-

лізацыю, Астаповіч пакінуў адну гароднюю культуру — цыбулю, бо здаўна Добрынка славілася сваёй цыбуляй, а выйшла, што ён і тут перахітрыў суседзяў, бо ў апошнія гады моцна падскочыла цана на цыбулю.

Абгаворвалі Клаву нязлосна, так, з гумарком, бо жанчына яна працавітая, больш едка пасмейваліся з Яшкі, што ён дырэктаравым ценем стаў, бач, нават у магазін суправаджае, як ахоўнік. А ўвогуле паход іх хораша ўзняў настрой рабочых, бо разважалі так: калі ўжо Астаповіч і Качанок зрабілі сабе выхадны, то і ўсім не толькі можна, але і трэба абавязкова пагуляць па-святочнаму.

Таіса Міхайлаўна ў вокны не глядзела, нікога не бачыла, але выхадному радавалася. У яе нядзеля была акурат нерабочым днём. Ды якое для яе магло быць свята, калі трэба было праводзіць па працу мужчын? Для яе свята — калі дома Іван, Карней, Валя. Як сёння. Раніцой Іван і яна берагалі сон адно аднаго. Прытуліўшыся шчакой да цёплага мужавага пляча, яна баялася паварушыцца, каб не разбудзіць яго, няхай паспіць даўжэй. А ён думаў, што яна спіць, і таксама ляжаў моўчкі, заплюшчыўшы вочы. І хоць, можа, здагадваліся, што кожны з іх не спіць, але прыемна было праяўляць такі клопат. Магчыма, была і другая прычына: слухалі, як асцярожна, на насочках, ходзіць у зале і па кухні сын, таксама аберагаючы іх сон, радаваліся яго чуласці. Адначасова пырснулі смехам у коўдру, калі са сваёй спальні шумна выйшла Валя і Карней зашыпеў на яе:

— Цішэй ты! Старыя спяць.

У Валі чуласці менш, Валя, нахабніца, адказала на поўны голас:

— Старым сорамна так позна спаць.

Засмяяўшыся, Іван абняў жонку.

— Чула, якое табе званне далі дзеці? Старая. Згодна?

Яна, смеючыся, пацалункам заціснула Івану вусны.

— Не! Не хачу быць старой. Чортава лялька гэтая Валька. Распусцілася. Даўно папругу нюхала.

— Ух ты, граза! — пасміхнуўся Іван, радуючыся, урэшце, і таму, што ніколі ні ён, ні Тася не білі дзяцей, самае большае, маці магла наравістую гарэзу Вальку, калі тая малая была, пляснуць ручніком ці фартухом, ад чаго дзяўчынка часцей смяялася, чым плакала.

Валя ў тую раніцу магла сапсаваць маці настрой — пачала вышукваць, дзе ў доме беспарадак. Таісу Міхайлаўну раней гэта крыху крыўдзіла. Але паступова яна навучылася да Валінага «чыстаплюйства» адносіцца з гумарам, са смехам. Ды і Карней падтрымаў — цыкнуў на сястру:

— Дай ты пажыць людзям без тваіх указаў, указчыца!

Таіса Міхайлаўна ласкава сказала дачцэ:

— Сама ж ты казала, што ў кожнага чалавека свой стыль. У мяне ён такі, стыль. І ты, Іван, лічыў мяне дрэннай гаспадыняй?

— Няхай яна будзе такой гаспадыняй.

— З'ела. Аблізніся.

— Калі ўжо батракі і шляхта спаяліся разам — уцякай,—засмяялася Валя.

Пасля снедання яна паляцела ў свой клуб. Мужчыны засталіся дома. І Таісе Міхайлаўне гэта было прыемна. Мужчыны не лезлі ў яе жаночыя справы, прысутнасць мужа і сына напаўняла дом ціхай добрай утульнасцю, святлом, радасцю, ля якой грэецца кожная маці.

Іван і Карней глядзелі тэлевізар, ранішні паўтор учарашняга фільма «Любоў зямная».

Фільм быў з тых, якія Іван любіў — усё праўдзіва. Як у жыцці. Не бачыў першай серыі, аднак глядзеў з цікавасцю. Карней, які чытаў кнігу, тлумачыў, што да чаго, з чаго што пачалося. Карней умеў расказаць коратка, пра самае істотнае, гэта адразу прасвятляла карціну жыцця людзей. А людзі такія ж, як ён, Іван, можа, таму і даходзіць так лёгка, такое жыццё можна дадумаць за пісьменніка, за акцёраў. Цешыўся з сынавага ведання — прачытвае ўсе новыя кнігі, хоць любіць тэхніку, і ўмее неназойліва, па-даросламу стрымана, тактоўна навучаць іх, бацькоў. Такая абыходлівасць, пачцівасць вельмі дарагая. Валька, нахабніца, дык тая можа кінуць ім і такое: «Во, дзярэўня!» Быццам сама не з вёскі. Карней такога сабе ніколі не дазваляе, хоць, калі трэба, адстойвае свае перакананні, прынцыпы з не меншай настойлівасцю. «Натурлівы конь»,— кажа пра яго маці. Не, у яго не дурная натурлівасць — мужчынская цвёрдасць.

Іван адарваўся ад экрана, паглядзеў на сына, каб той растлумачыў вобраз Анісімава. І раптам, упершыню так, з такой сілай, з такой выразнасцю, падумаў, не, не падумаў — адчуў усёй істотай, розумам і кожнай часцінкай цела — вачамі, вушамі, рукамі: якое гэта непараўнальнае ні з чым іншым шчасце — сядзець у добрай хаце, перад такім цудам, як тэлевізар, з сынам, з дарослым ужо сынам, і вось так коратка, з узаемным разуменнем перагаворвацца з ім. Ад пачуцця такога ажно заняло дыханне. Але тут жа следам за шчасцем, за радасцю, як абвал у гарах, імгненна абрушылася цяжкімі ледзянымі смяртэльна страшнымі глыбамі тое — яго мінулае, маленства яго. І зноў стаў перад ім Шышка. Як прывід.

Як бы жадаючы ратавацца ад абвалу ўспамінаў, Іван паклікаў жонку — крыкнуў ёй на кухню:

— Тася! Дамаўляліся ж, што выхадны будзе выхадным. Хадзі будзем глядзець фільм.

Таіса Міхайлаўна выглянула ў дзверы.

— Трэба ж дзецям згатаваць абед.

— Мама! — з папрокам сказаў Карней.— Хіба ў нас саміх рукі адваляцца?

Але, па Карнею можна і без абеду, з яго даволі скібкі хлеба і шклянкі малака. А Валька і сябе, і ўсіх іх прывучае да «культуры», патрабуе, каб абед быў абедам, не менш як з чатырох страў. Каб стол быў засланы чыстым настольнікам і ўсім былі талеркі, відэльцы, нажы. Яна ўжо сароміла маці, што тая часам ва ўласным доме перакусвае, як на вакзале. А з Карнеем, з яго «мужыцкасцю», Валя вядзе цэлую вайну, паставіўшы сабе за мэту «абчасаць брата». Валя, безумоўна, папракне: самі пайшлі ў госці, а ім не згатавалі, маўляў, звычайнага абеду.

Івану, вельмі захацелася, каб жонка села побач. За пяць дзён, як разнеслася чутка аб звароце Шышкі, ён пераканаўся, што толькі дома, калі ён разам з Тасяй, яно, мінулае, як бы адступае ад яго і ён жыве сваім звычайным жыццём з яго клопатамі, скіраванымі на тое, каб усім было добра — яму, дзецям, усяму саўгасу, усім людзям, для якіх ён стараўся найлепш убраць ураджай, а заўтра павязе ў Гомель памідоры і гуркі. Але, калі ён застаецца адзін у кабіне аўтамашыны ці на полі, яно зноў наступае, завалодвае ім. Пяць дзён ён змагаецца з жаданнем пайсці і паглядзець на прышэльца з нябыцця. Але кожны раз стрымлівае сябе. Магчыма, баіцца, што ад стрэчы гэтай стане яшчэ цяжэй; магчыма, надзеецца, што Шышка толькі наведаўся і зноў знікне, і на яго забудуцца, і ён, Іван, таксама забудзецца, і ўсё жыццё пойдзе па-ранейшаму.

Тасі пра свае пакуты сказаў глуха і быў трохі расчараваны, што яна не зразумела яго, як звычайна, з паўслова. Але потым падумаў, што, можа, і не трэба, каб і яна так блізка прыняла гэта да сэрца і пакутавала разам з ім. Навошта?

Тася, выглянуўшы, зацікавілася фільмам. Стаяла ў дзвярах, глядзела.

Іван падняўся, уступіў ёй сваё крэсла:

— Сядай, паглядзі. Ну яе, кухню! Трэба ж нам адпачыць.

Жанчыну кранула мужава ўважлівасць.

— Ванечка, рада была б, але, яй-богу, не магу, каб дзеці былі без абеду.

— Ты нам па сосцы дай,— хмыкнуў Карней.

— Не разумее,— з жалем сказала Таіса Міхайлаўна мужу, кіўнуўшы на сына.

А ён, бацька, вельмі нават зразумеў гэтае матчына жаданне зрабіць дзецям свята. І раптам яму захацелася застацца на ўвесь дзень з дзецьмі і пастарацца сапраўды зрабіць ім свята. Не ісці ў госці. А ўчора ўзрадаваўся запрашэнню: забыцца на ўсё ў добрай кампаніі, у гульні! У Якава Карнеева малодшы сын вярнуўся, адслужыўшы на флоце. Якаў, хоць і старэйшы па гадах,— даўні верны таварыш, яшчэ ў МТС разам рабілі. Андрэй, чырванафлоцец гэты, равеснік Валін, разам хрэсьбіны гулялі, кумілісся. А потым, сам ён, Іван, некалі марыў пра мора, пра флот. Хіба ж не цікава паслухаць такога хлопца? Плаваў у Міжземным моры, пабачыў і Грэцыю, і Егіпет, і Францыю...

А тут расхацелася слухаць і пра мора, і пра далёкія краіны. Падумаў, што трэба будзе піць, і, напэўна, нямала, бо ўмеюць яго сябры пагуляць з такой нагоды, і амаль спалохаўся, упершыню ў жыцці. Невядома, які ён будзе, калі вып'е, пры цяперашнім сваім душэўным стане. Можа зрабіць ці нагаварыць такога, чаго нельга рабіць, чаго цвярозы ніколі не сказаў бы. Але ведаў, што Тасі хочацца пайсці ў госці. Учора ўвечары неўзнарок падгледзеў, як яна прымярала новую сукенку, нядаўна пашытую, як любавалася на сябе ў люстры. Жанчына ёсць жанчына. Некалі цётку Хвядору спалохалі дванаццаць сукенак нявесткі. «Трэба ж, ажно дванаццаць плаццяў! Разорыць яна Іваньку»,— казала цётка суседкам. Не разарыла. Сама горшая не стала ад захаплення ўборамі. Наадварот, Івану ўсе дваццаць два гады сумеснага жыцця было прыемна, што жонка яго выглядае прыгажэй за ўсіх у Добрынцы. Радасна такой жонцы дарыць абноўкі.

Тася ціха зачыніла дзверы, каб звонам каструляў не перашкаджаць мужчынам. Адарваўшыся ад тэлевізара, Іван парваў тую нетрывалую нітку падзей фільма, якую скруціў кароткі Карнееў расказ аб папярэдняй серыі. Ён павярнуўся да сына, каб той зноў растлумачыў. Але Карней так захапіўся фільмам, што не бачыў маўклівай бацькавай просьбы. Ад нецярплівага чакання — што ж далей? — хлопец ажно цёр калені. Іван глядзеў на яго і напаўняўся дзіўным пачуццём, бадай, ніколі яшчэ не было, каб вось так нахлынула ўсё адразу — бацькоўская любоў, замілаванне, гонар, радасць і... трывога, страх — за тое, якія небяспекі могуць напаткаць сына. Яго сына. Найстрашнейшая з іх тая, праз якую прайшоў зусім малым ён сам — вайна. Але чаму вайна? Адкуль вайна? Ага, у фільме людзі ідуць да вайны, усё адбываецца перад вайной. Ён страсянуўся, крутнуў галавой, каб адагнаць цяжкія думкі. Нясцерпна захацелася абняць

Карнея, прыхінуць да сябе, як малога... Ведаў, што гэта збянтэжыць хлопца, ды і сам ён, напэўна, ніякавата адчуе сябе. Не заведзены ў іх такія пяшчоты паміж мужчынамі, маці з дачкой могуць цалавацца, гэта натуральна. А ён даўно ўжо не абнімаў сына. Намагаўся ўспомніць, калі гэта было апошні раз. Калі яшчэ насіў Карнея на руках? Ды не. Калі завёз яго ў піянерскі лагер. Там, пакідаючы сына аднаго, горача абняў яго. Не, было яшчэ пазней — калі Карнею споўнілася пятнаццаць. Ён нарадзіўся ў студзені, і Тася прыдумала, каб ён, Іван, з нагоды сынавых імянін, пракаціў іх не на грузавіку сваім, а папрасіў у Астаповіча каня. Тася і Валя — прыдумшчыцы. Яны па чарзе трымалі лейцы. А ён трохі п'яны ад выпітага віна, ад шчасця, ад марозу і лесу, сядзеў у задку і абнімаў прыціхлага, шчаслівага, але збянтэжанага імяніnніка.

Не, ён усё ж не рэдка меў гэтую радасць — абняць сына. Чаму ж не абняць і сёння?

Падняўся, падышоў да Карнея, паклаў руку на плячо. Сын зірнуў на яго і сказаў;

— Бацька, ніякіх баявых заданняў, пакуль не дагледжу фільм! Хіба табе нецікава?

«Цікава, сын. Цікава. Але не баявое заданне я хачу табе даць. Не трэба, каб я даваў табе баявое заданне. Я проста хачу пачуць тваю блізасць, як хацеў мой бацька, калі нёс мяне... Калі нёс...»

Паліла гарачка, але былі ўжо прасвятленні. Быў момант, калі я пазнаў чалавека, які паіў мяне цёплым малаком. Вусы яго пазнаў, вялікія, пышныя, як у Будзённага. Да вайны лесніка Шмыгу так і называлі жартам — Будзённы. У вайну не называлі, бо ён служыў немцам, гэтак жа пільна ахоўваў лес, гэтак жа строга караў парубшчыкаў. Штрафаваў сваіх людзей, каб дагадзіць немцам, паліцаям. За гэта яго ўзненавідзелі. Казалі, сын яго малодшы, кульгавы Цімох, які рабіў у лясніцтве рахункаводам, з-за гэтага сышоў ад бацькі ў белы свет, а следам і жонка пайшла шукаць сына. Маўляў, праз гэта вусаты Шмыга зрабіўся асабліва лютым. Біў парубшчыкаў кіем. Пазнаўшы лесніка, я спалохаўся. І калі трызніў зноў, то сярод тых, ад каго я ўцякаў, хто гнаўся за мной, выючы па-воўчаму, з воўчымі аскаламі зубоў, быў і Шмыга. У хвіліны прасвятлення я стараўся ўспомніць, як трапіў на цёплую печ. Дзе яна, гэтая печ? У школе, дзе паліцаі, няма печы. Не, печ ёсць і там — у дырэктаравай кватэры. Але там не такая. Сцяміў нарэшце, што я ў леснічоўцы. Колькі часу я тут? Чаму гэты вусаты, што служыць немцам, поіць мяне малаком? Як я трапіў да яго? Успомніў, як мне хацелася знайсці на асеннім пустым

пераараным гародзе бульбіну, бурак ці турнэпс: на гародзе нешта заўсёды застаецца. Не, відаць, не толькі голад прывёў сюды: бульбіну хутчэй можна было знайсці ў полі, там выбіралі не так чыста, як на гародах. У першую ноч у Падказіным, там, дзе я сустрэўся з бацькам, вылі ваўкі, і я залазіў на дуб і дрыжаў ад холаду, бо быў босы, а ўжо марозіла, напратка ж у мяне была адна — старая струхлелая світка, якую я зняў на сваім гародзе з плота, з яе мама зрабіла пугала вераб'ям, каб не выпівалі семечкі са сланечнікаў, так тая світка і вісела, калі прыйшла восень. Дзіўна, што ў такі час, калі гарэла хата, я дадумаўся, уцякаючы, захапіць гэтую світку. Але, можа, яна мяне ратавала, без яе я напэўна скачанеў бы ў першую ж ноч.

Цяпер немагчыма ўспомніць, растлумачыць, што мяне прывяло да хаты лесніка. Напэўна, усё разам — і голад, і боязь ваўкоў. Але ж больш, чым ваўкоў, я баяўся немцаў, паліцаяў. А Шмыга ж з імі. Відаць, ужо моцна падступіла хвароба, змучылі нервовае патрасенне і прастуда — і мяне падцягнула да бліжэйшага чалавечага жытла. Ці іншыя страхі адступілі перад голадам? Наўрад ці так ужо хацелася есці, хоць добра помню, што намерваўся штосьці знайсці на агародзе. Але гарод, хату і ўсё навокал пільнаваў сабака, ён няспынна брахаў. Сабак я не баяўся, аднак высунуцца з лесу не адважваўся — па іншай прычыне. Але і адысці ад хаты не мог, асабліва калі там запалілі ў печы, пацягнула дымком, засвяцілася акно. Можа, тады я пачуў, што акалеў зусім, што ўсё ва мне застыла — ногі, рукі, нават язык, але, і язык, бо я паспрабаваў заплакаць — не плакалася, паспрабаваў паманіць сабаку — і не здолеў вымавіць ніводнага слова. Але думка яшчэ цяплілася і раптам скіравалася на іншае, не на турнэпс, бо ўжо цямнела, у цемры не знойдзеш нічога,— на стог сена, што стаяў ля хлява. Во дзе мой ратунак! Наскубці сена. Накрыцца сенам. Прыгадалася, як цёпла ў сене. Нават смак сена ўспомніў. Ёсць травінкі салодкія, і іх можна жаваць, яны смачней за горкія жалуды, якія я еў удзень, блукаючы ў Падказіным, чакаючы бацьку, хоць добра разумеў, што партызаны не маглі быць так блізка, іх адразу знайшлі б, што той раз бацька апынуўся тут таму, што ўначы прыходзіў дадому і дамовіўся з маткай. Я разумеў, што адбылося ў нашай хаце, чаму яе запалілі, але розум дзіцячы не мог прыняць, асэнсаваць страшэнны факт, што маці ўжо няма. Для мяне яна жыла. Я звяртаўся да яе. Я і хворы, у хаце лесніка, клікаў яе. А пасля, калі вярталася прытомнасць, я палохаўся, што пры гэтым вусатым клічу матку. Хвораму, мне здавалася, што гэта найвялікшая тайна, дзе цяпер матка. Я даў сабе слова маўчаць, ні слова не гаварыць, калі мяне будуць пытаць, няхай хоць агнём паляць. Але Шмыга нічога не пытаў, ён паіў мяне

малаком і цяжка ўздыхаў. Часам вусы яго здаваліся страшнымі, і я заплюшчваў вочы, правальваўся ў чорную яму. Але, вяртаючыся адтуль, з ямы, са страшнага хворага сну, я ведаў, бо часам чуў самога сябе, што, калі трызню, я гавару і пра матку, і пра бацьку. Ад гэтага апаноўваў новы страх. Я не мог дараваць сабе, калі аднавіў у памяці, як трапіў да лесніка. Сена! Яно падвяло.

Але як мне хацелася тады ў тое сена! Ды сабака бегаў вакол двара, абнесенага парканам з бярвення, падбягаў пад самы стог і ажно заходзіўся ад злосці. Чуў мяне, што я стаіўся ў кустах за гародам. Я дачакаўся, калі ляснік выйшаў на ганак і паклікаў сабаку, упусціў яго ў хату. Тады я кінуўся да стога і пачаў скубці сена. Але стог быў нечапаны, зляжалы, скубці сена было цяжка, яно рэзала рукі. Я задыхаўся, тады здавалася — ад сяннога пылу; калі вясной на гарышчы паварушыць сена, таксама пачынаеш кашляць і задыхацца. Грудзі разрываў кашаль, але я ведаў, што кашляць нельга, можа пачуць вусаты Шмыга, таму я сунуў у рот жмут сена...

І больш нічога не помню. Да першага прасвятлення, калі ляснік паіў малаком. Так і дагэтуль не знаю, колькі праляжаў у яго на печы. Дзень? Два? Тыдзень? Пра гэта неяк ніхто тады не сказаў, бо я доўга яшчэ хварэў у атрадзе.

У тую ноч я прачынаўся колькі разоў, бо чуў, як шумеў лес, брахаў сабака, хроп Шмыга, і я стараўся ўспомніць, як трапіў сюды, і, здаецца, думаў, як уцячы адгэтуль, таму і прыслухоўваўся да храпу вусатага. Можа, нават спрабаваў падняцца, бо зноў правальваўся ўсё ў тую ж чорную яму, дзе вылі ваўкі, шыпелі змеі і скалілі зубы страшныя вусатыя морды ці то людзей, ці то звяроў.

Прачнуўся я зноў ад таго, што запалілі святло. Колькі таго святла ад газнічкі, а разбудзіла, ударыла па вачах, ажно балюча было глядзець. Але не святло прыцягнула ўвагу — галасы людзей. Я стаіўся, як звярок, бо бліснула думка, што гэта прыйшлі па мяне. Немцы. Паліцаі. Але што гэта? Чый гэта голас? Хрыплы, быццам бы і чужы, але знаёмы, не, не знаёмы — родны, адзіны ў свеце. Голас бацькі! І я крыкнуў колькі хапіла сілы: «Тата!» Сціхлі галасы. Потым бацька сказаў — гэта я пачуў і запомніў на ўсё жыццё:

«Хлопцы, пагана мне, я чуў Іванькаў голас. Ён заве мяне. Усе етыя дні заве!»

Тады я зноў крыкнуў;

«Тата!»

А ляснік сказаў:

«Тут твой сынок, Карней Іванавіч. У мяне. Пад стогам знайшоў».

Бацька кінуўся на печ, схапіў мяне, гарачага, на рукі, пачаў цалаваць.

«Сыночак! Сыночак мой! Жывы! Жывы! А я ж цябе пахаваў, родненькі ты мой, крывіначка мая».

Я хацеў расказаць:

«Татачка, яны маму...»

«Не трэба, сынок, не трэба. Не ўспамінай. Я ўсё знаю».

«Пачуў я, што шукаюць душагубы хлопца. Шышка шукае. Па сёлах шныраюць, сваякоў вашых трусяць. Падумаў я: заглянуць да мяне — будзе бяда. Куды ты малога хворага схаваеш? Таму і перадаў вам, каб прыйшлі. Трэба забіраць хлопца, Карней Іванавіч. Вельмі хворае дзіця, але аставіць тут нельга»,— бубніў побач Шмыга.

«Дзякую табе, Пракоп Селівонавіч. У ногі кланяюся. Вярнуў ты мне жыццё. Вярнуў. Сыночак мой! Дорага яны заплоцяць за наша гора, за кроў...»

Загорнутага ў коўдру, бацька нёс мяне па лесе. Было вельмі цёмна і ветрана. Лес шумеў, галлё ажно трашчала. Але на бацькавых руках я нічога не баяўся. І больш не правальваўся ў цёмную яму. Усё чуў. Усё разумеў. З бацькам было яшчэ двое партызан. Яны ішлі наперадзе, бацька за імі, каб не спатыкнуцца са мной на якога пня, бо нічога ж не было відаць. Ішлі доўга. Але я не засынаў. Толькі нос у мяне мёрз. Адзін нос. У тую ноч моцна падмерзла, боты грукалі па зямлі.

Партызан сказаў бацьку:

«Цяжка, Карней Іванавіч? Давай я паднясу!»

Але бацька не аддаў.

«Не, не цяжка, Пеця, не цяжка. Ты малады, ты не знаеш, што такое несці сына. Свайго сына. Адзінага... пасля таго, калі лічыў, што ты страціў усіх...»

У сяле я засаромеўся б, каб бацька ўзяў мяне, такога вялікага, на рукі. Але там, у лесе, уначы, мне было радасна, што бацька нікому не аддае мяне, мне было хораша на яго дужых руках, адступіў страх, адступала, здаецца, і хвароба, вярталася жыццё...

8

Іван не пачуў, калі падышла жонка. Тася паклала гарачую далонь яму на галаву.

— Ты што — заснуў? Ваня! Ты дрыжыш. Божа! І вочы мокрыя. Што ты сніў?

— Бацьку.

— Свайго? — чамусьці ўстрывожылася Тася і па-свойму, пажаночы, заспакоіла: — Гэта — на дождж, калі нябожчыкі сняцца.

Карней павярнуўся да іх, папракнуў:

— Ну і даеш ты, бацька! На такім фільме — заснуць! Трэба ўмець. Скажы дзякуй, што Валька не бачыла, а то прачытала б табе такую мараль. Як павінен паводзіць сябе культурны чалавек,— ён трохі перадражніў сястру. Маці гэта рассмяшыла.

Рукі Тасіны пахлі свежымі булкамі.

Іван прагна, як пасля ўдушлівага скляпення ўдыхаюць свежае паветра, удыхаў гэты гаючы пах жончыных рук — пах жыцця і шчасця. І толькі пасля гэтага вярнуўся ў сённяшні дзень. Ласкава паглядзеў на сына. Што Карней смешнае сказаў? Ага, што бацька заснуў перад тэлевізарам... Няхай думае так. Удзячліва ўсміхнуўся Тасі.

— Пайду паўцюжу твой святочны касцюм,— сказала яна.

Мільганула ў акне постаць мужчыны. Не свайго, не саўгаснага: сваіх мужчын ён пазнаваў адразу. Нямала тут у летні час праходзіць гараджан — піянерскія лагеры вакол. Але Івана што токам ударыла. «Ён! Шышка!» Падхапіўся. Надзеў пінжак і — за дзверы. Тася ўгледзела яго ў двары. Крыкнула ў акно:

— Куды ты, Іван?

Ён не спыніўся, не адказаў. Выскачыў на вуліцу. Убачыў воддаль спіну таго, хто прайшоў міма яго дома, і адразу пераканаўся: ён! Чуццё, нутраное нейкае, таемнае, не ашукала. Са спіны відно было: мужчына ў добрых гадах, пенсійнага ўзросту, спіна ссутулена пастарэчы. Але ішоў чавек хоць і павольна, не спяшаючыся, паважна, аднак па-маладому бадзёра, спружынячы нагамі, як ва ўрачыстым маршы на парадзе. Толькі што не махаў рукамі ў такт крокам — замінала вялікая гаспадарчая торба, якую нёс у левай руцэ.

Івана зноў ударыла да звону ў галаве — што Шышка так урачыста, так святочна, у выхадны дзень, як і тыя, хто ўчора рабіў на полі, у канторы, на шашы, у лясніцтве, ідзе ў іх новы сельмаг. Па пакупкі ідзе.

Іван разумеў, што не можа крыкнуць яму ў твар: не маеш права на ўсё тое, што зроблена нашымі рукамі, нашай працай! Не маеш! На машынным двары, напэўна, крыкнуў бы так, каб Шышка з'явіўся там. Але сельмаг ёсць сельмаг, ён для агульнага карыстання, у ім купляюць не толькі добрынцы, але тысячы чужых людзей, якія праязджаюць па шашы. Дарэчы, пра гэта гаварылі ўжо на рабочым сходзе: пакуль свае працуюць у полі, падарожнікі не толькі забіраюць лепшыя прамтавары, але часам ачышчаюць і хлебныя паліцы. Але ў райспажыўсаюзе свае меркаванні: яму трэба план, якая розніца, хто плаціць

грошы, усе савецкія людзі, ва ўсіх аднолькавае права. «Ва ўсіх. Але не ў Шышкі! Няма ў яго гэтага права! Няма!» — пратэставалі Іванава душа, розум, уся яго істота.

Перад дзвярамі сельмага, куды адразу ўпэўнена ўвайшоў той, з торбай, Іван спыніўся. Раптам зрабілася боязна. Праз вітрыны было відно, што ў магазіне многа людзей, як заўсёды ў нядзелю. І ён спалохаўся гэтага мнагалюддзя, бо не ведаў, што зробіць, калі сутыкнецца з Шышкам тварам у твар, як павядзе сябе і як да ўсяго, што зробіць ён, Іван, паставяцца людзі. Ён баяўся за сябе. За свой настрой. Трэба ж якраз перад гэтым успомніць, як ён ратаваўся, бацьку ўспомніць, як той забіраў яго ад Шмыгі. Тут ён зноў падумаў пра лесніка; яго забілі ў лесе. Паліцаі абвясцілі, што забілі партызаны. Ён, Іван, можа, адзіны з добрынцаў ведаў яшчэ тады, у атрадзе, што гэта правакацыя,— усе партызаны зналі, што Шмыга іх сувязны, а чужыя атрады ў той час у іх зону не заходзілі. Забілі паліцаі. Можа, гэты ж Шышка. Калі будавалі помнік, на якім павінны былі высечы імёны ўсіх добрынцаў, хто загінуў у партызанах і на фронце, ён, Іван, сам напісаў пісьмо ў абком партыі, і з партархіва прыслалі даведку, што ляснік Шмыга Пракофій Селівонавіч сапраўды быў сувязны атрада імя Чапаева, і прозвішча яго выбіта побач з прозвішчам Карнея Іванавіча Батрака. Усё гэта бліснула ў галаве разам з мноствам іншых думак, самых нечаканых, нават далёкіх ад таго, чым ён жыў у той міг. Ён у нерашучасці стаяў перад ганкам, хоць праз вітрыны на яго маглі глядзець, і чуў, як шалёна грукае сэрца. Чаму раптам? Быццам не ішоў павольна, а бег. Але каб і прабег нейкія паўкіламетра ад свайго дома да сельмага, то хіба магло яно так часціць, яго сэрца? Выходзіць, ёсць іншая нагрузка, і яна цяжэй за любую фізічную. Эмацыянальная, кажа Тася. Ён пашкадаваў, што не расказаў жонцы, як узбунтаваў яго душу зварот Шышкі. Трэба было сказаць так, каб яна зразумела, як яму цяжка, і тады б яна напэўна нешта параіла, неяк супакоіла б — яна заўсёды ўмела супакоіць. Так, яна абавязкова прыдумала б нешта, што не дало б яму зрабіць ніякага глупства. Не хлопчык ён — бацька дарослых дзяцей. А ён сказаў пра Шышку як бы між іншым, да Тасі яўна не дайшло, наколькі яму балюча.

Можа, не заходзіць у сельмаг, вярнуцца і расказаць ёй, хто яго адарваў ад тэлевізара, чаму як апантаны выскачыў з дому?

Не, не зайсці ён не мог ужо.

Магазін універсальны: справа — прадуктовы аддзел, ля яго стаяла чарга, куплялі хлеб, віно, цукар — у разгары было кансерваванне яблык, груш; злева — прамтавары, аддзел большы па плошчы, хоць менш прасторны, бо застаўлены радамі металічных вешалак, на якіх

вісела верхняе адзенне — паліто, плашчы, курткі, штучныя футры, касцюмы, сукенкі для дарослых і дзяцей. Тканіна ляжала на прылаўках, усе дробныя тавары — на паліцах. Аддзелы былі адгароджаны адзін ад аднаго звычайнымі сталамі, паміж сталом і прылаўкам — вузкі праход. З гэтага прымітыву пасміхаліся, казалі, раённае начальства крытыкавала кіраўнікоў сельпо. Рыхтавалася перабудова магазіна. Але пакуль што было так. Свае, добрынцы, нязручнасці ад гэтага не адчувалі, ведалі, чаму з'явілася такая перагародка. У магазіне заўсёды не хапала прадаўшчыц, і дзяўчатам, якія рабілі там, такім чынам — прапускаючы людзей з аднаго аддзела ў другі паўз самы прылавак і выпускаючы іх праз адны дзверы — лягчэй было кантраляваць пакупнікоў. Магазін пры магістральнай шашы, і хто толькі сюды не заглядвае! Здаралася, што дробныя рэчы «сплывалі», аднойчы нават імпартнага плашча не далічыліся, і, хоць укралі яўна праезджыя, добрынцы перажывалі.

Іван, увайшоўшы ў магазін, спыніўся ля стала-перагародкі, акінуў хуткім позіркам тыя два дзесяткі людзей, што стаялі ля прадуктовага прылаўка. І, здалося, зваліў з сябе непасільны цяжар, той, ад якога так білася сэрца. Хацелася рукавом выцерці пот з ілба. Ды ці быў ён, пот? Сэрца калацілася, але чало і спіну як вецер астуджваў, той, лістападаўскі, калі пасля страшнай ночы ён, босы, у світцы, знятай з пудзіла, шукаў у лесе бацьку, са страхам падбіраўся пад стог лесніка, каб сагрэцца. Ён доўга адчуваў той вецер.

У чарзе ўсе свае, добрынцы. Двое толькі чужых, але гэта яўна перагоншчыкі МАЗаў, бо ля шашы стаялі два новыя МАЗы з надпісамі крэйдай на бартах «Мінск — Крывы Рог». Як кажуць, рыбак рыбака пазнае здаляка, так і шафёр шафёра, даволі Івану было глянуць на рукі тых двух чужых.

Як жа ён мог так абазнацца? Не пазнаў свайго чалавека? Аднак у каго з мужчын вялікая жоўтая саква? Няма? Дзе ж яна? Іван павярнуўся да прамтаварнага аддзела, дзе, калі ўвайшоў, не ўбачыў ніводнага чалавека, і можа нават быць, што адхіснуўся, бо на міг здалося, што ў яго стрэлілі, у самы твар... З зімовых паліто, з поўсці футравых каўняроў, вылезла морда Шышкі. У старых раманах ён чытаў, што за дзесяць — пятнаццаць гадоў чалавек так зменьваецца, што ніхто яго не пазнае. Прайшло трыццаць шэсць, а ён уміг пазнаў былога паліцая. Ён пазнаў бы яго не толькі тут, ведаючы, што той вярнуўся, настроіўшы сябе на сустрэчу, але ў любым іншым месцы, у любым натоўпе, спаткаўшы знянацку. Для яго Шышка не змяніўся, такім яго ўяўляў з малай папраўкай на гады, на пастарэнне. Той жа шырокі вуглаваты лоб, толькі яшчэ шырэйшы, бо, напэўна, галава па-

лысела, з-пад клятчастай кепкі не відно валасоў, а некалі выбіваліся бялявыя пасмы з-пад чорнай паліцэйскай фуражкі. Тыя ж вочы, як бы хітра прыжмураныя, але праніклівыя, нядобра калючыя; ён, Іван, хлопчык, тады, у школе баяўся гэтых вачэй, якія свідравалі яго пасля запытання, дзе бацька; Шышка быў добры тады, частаваў мёдам, але Іван па вачах бачыў, што не ад шчырасці ён частуе — ад хітрасці. Толькі адна шчака ў паліцая змянілася непазнавальна — яе перасякаў ад вуха да падбародка глыбокі фіялетавы шрам. Але злавеснага выгляду ён не надаваў, дарэмна Шчэрба казаў «пірат», наадварот, шрам рабіў твар дабрэйшым, на ім як бы застыў боль; так крывяцца, недаўменна, плаксіва-пакрыўджана, дзеці, калі іх б'юць па твары.

Позіркі іх сустрэліся, і ў вачах Шышкі Іван убачыў — не, не спалох, не трывогу, а напружанае намаганне ўспомніць. Не ўспомніў, не пазнаў? Ці ўмела прытварыўся? Адвярнуўся спакойна, пачаў разглядаць тавары на паліцах.

А Іван сціснуў рукамі дошку стала і пачуў, што сэрца яго б'ецца ажно там — у пасінелых пальцах. Найбольш уразіла, што Шышка сапраўды, як казаў Шчэрба, быццам з курорта вярнуўся — дужы, дзябёлы, на выгляд маладзейшы за свае гады. Яму, Івану, было б лягчэй перажыць яго зварот, каб убачыў хворага, змарнелага, знясіленага старога — атрымаў, значыцца, сваю кару. А так не відно, што паліцай прайшоў праз сібірскія руднікі. Праўда, адбыў ён свой тэрмін даўно; калі і ўсе дваццаць пяць гадоў, то ўжо добры дзесятак жыў вольна, на пасяленні недзе. З'явілася злосць на мяккасць закона да такіх, як Шышка. «Няньчыліся там з такой сволаччу. Ахова працы, відаць, пастаўлена не горш, як у нас. Ва уранавыя руднікі яго трэба было, гада». І сам спалохаўся сваёй жорсткасці.

Далоні сталі мокрыя ад халоднага поту. Іван адарваў рукі ад стала, выцер далоні аб штаны. Так яны пацелі, калі, здаралася, на дарозе ўзнікала аварыйная сітуацыя; пры сваім вопыце і сваіх нервах ён заўсёды выходзіў, як кажуць, з гонарам — за дваццаць гадоў ніводнай аварыі. Але далоні вось так пацелі, і прыходзілася церці рукі аб калені, бо пот як бы ствараў ізаляцыю, і ён траціў кантакт з машынай; ён ніколі не браўся за руль у пальчатках, ні ў які мароз, голыя рукі яго чулі машыну, як жывую істоту, кожны такт матора, кожную няроўнасць дарогі. Было колькі разоў, калі ён траціў здольнасць зліваецца з машынай у адно цэлае. Калі Карней на велагонках зламаў руку — і ён, бацька, гнаў, парушаючы ўсе правілы, у бальніцу, куды завезлі сына. Тады машыны не існавала. Тады былі адзін яго страх і боль за сына. Раптам Іван адчуў і цяпер такі ж страх за

Карнея, быццам той пайшоў на небяспечнае заданне. Чаму толькі за сына? А Тася? А Валя?

— Дзеушка, есць у вас кто в этом аддзелу?

Не, голас не таго Шышкі, голас моцна змяніўся, па голасу пазнаць яго немагчыма.

— Прыйдзе. На склад пайшла,— абыякава адказала прадаўшчыца прадуктовага аддзела, важачы цэлую навалачку цукру.

Шышка цярпліва чакаў, падышоўшы бліжэй і разглядаючы на паліцах цацкі і кнігі. Мабыць, адчуў, што за ім сочаць, бо азірнуўся на Івана, глянуў міма, быццам на паліцу з буханкамі хлеба, але ад Іванавых вачэй не схавалася, што яго расслабленая раўнадушнасць змянілася насцярожанасцю. Іван за колькі крокаў угледзеў, як напяліся Шышкавы мускулы, бы ў звера, які падрыхтаваўся да абароны. Івана ажно закалаціла, зноў у пот кінула, калі адчуў, што не ўцякаць намерваецца гэты звер — абараняцца, нападаць. Ён можа яшчэ нападаць? Ён вярнуўся, каб нападаць? На каго? Ах ты, гад! Але пастараўся супакоіць сябе: няхай панервуецца, было б дзіўна, каб ён заставаўся спакойны.

Упершыню выйшаў у Добрынцы на людзі. Не можа не думаць, як яго стрэнуць. У пэўным сэнсе, безумоўна, рыхтуецца да абароны. Не толькі сёння. Даўно, мабыць, падрыхтаваўся, раз адважыўся прыехаць. Але спалоханы яўна. Бач, як успамінае яго, Івана! Утаропіўся ў кнігі, быццам ніколі іх не бачыў — школьныя падручнікі, зборнікі вершаў. Кніг увогуле не многа, раманы адразу разбіраюць, адзін яго Карней абярэмкамі носіць, на кнігі Тася грошай не шкадуе, «Повестей о любви» ажно тры экземпляры купіла, даўшы Валі прычыну для жартаў: «Маладзее наша мама».

Не толькі ў сувязі з кнігамі думкі Іванавы пераключыліся на сям'ю. Не, яны ўвесь час, як чаўнок, снавалі паміж домам і сельмагам. Але часцей у цэнтры быў Карней. Чамусьці Карней. А яшчэ не пакідаў успамін, які ўсплыў дома, перад тэлевізарам,— як нёс яго бацька ад Шмыгі ў атрад; гэта далёка, ажно за Ніўкі, у Студзёную пушчу, да раніцы ішлі, і бацька нікому не аддаў яго ні ў паходзе, ні на прывалах і ўвесь час шаптаў: «Сыночак мой! Крывіначка мая! А я цябе пахаваў разам з маткай і Анькай».

Ён чуў цяпер гэты бацькаў голас, і ў яго кружылася галава, падступала слабасць, ён раптам са страхам падумаў, што можа ўпасці. Такое адчуванне было толькі двойчы: тады, у лесніка Шмыгі, калі ён многа разоў траціў прытомнасць, і гадоў колькі назад, калі захварэў на крупознае запаленне лёгкіх. На рабоце захварэў. Але пра тое, каб пазваніць на ўрачэбны пункт Тасі, не падумаў і не папрасіў падвезці.

Ішоў праз гароды дадому па снезе, у завею, калі ўсё навокал ахутала белая каламуць. І раптам у нейкі міг адчуў страх, што ідзе не туды, што не дойдзе, упадзе і ніхто не пачуе крыку, ніхто не знойдзе. Самая недарэчная смерць была б — за гародам сваім.

— Однако ж,— уздыхнуў Шышка ці то ад таго, што прадаўшчыца не з'яўлялася, ці ад іншай цяжкасці.

— Ні-нка! — гучна паклікала прадаўшчыца з прадуктовага аддзела.— Ідзі пальто адпусці!

Знала, што з-за дробязі Нінка не прыйдзе, а паліто — гэта выручка.

Іван ведаў гэтую Нінку. Гультаяватая і юрлівая дзяўчына, адны хлопцы ў галаве. Мабыць, цалуецца недзе на складзе з сельпоўскім шафёрам, інакш чаго ёй так доўга там сядзець. Ніна — не добрынская, з «Іскры», і Хведзька Шчэрба, які чамусьці не любіў суседзяў, не прызнае новай прыгожай назвы сяла, па-старому называе — Кулагі, кулажцы, звычайна тыцкае пальцам: «Усе яны там, як Нінка етая,— гультаі і задавакі». Яго аспрэчваюць: «Як жа гэта яны калгас зрабілі лепшым у раёне?» — «Пашчаслівіла. Ды і папрашайкі вялікія. Дзяды іх ездзілі са смаленымі аглоблямі».

Іван пашкадаваў Тамару, якая адпускала прадукты. Тамара яго суседка, сяброўка Валі, пасля школы выйшла замуж, муж усё яшчэ з такімі, як яго Карней, футбол ганяе ці са старэйшымі ў кульдзюме піва цэдзіць, а яна ўзваліла на свае худзенькія плечы клопаты пра хворую свякроў, немалую гаспадарку — карова, куры — і працу ў сельмагу не пакідае, не працавала, пакуль у дэкрэтным была, ды і то хварэла — масціт за масцітам, Тася штодня хадзіла рабіць ёй масаж. Мабыць, баючыся масціту, яна ў цёплым закрытым світэры. Ёй горача. На бледным ілбе — пацеркі поту. Нездаровы пот. Звычайна іх працуе трое, прадаўшчыц, ды яшчэ часам і загадчыца памагае. А сёння ўсяго ўдзвюх. А працы ў нядзелю больш: паўгорада адпачываць прыязджае. Сапраўды горача будзе шчырай працаўніцы Тамары, маючы такую напарніцу. Каб гэта дзе ў іншым месцы — на полі, на таку, ён, Іван, абавязкова памог бы ёй. Дзіця. Ды і не зусім здаровая яшчэ. А дзяцей трэба берагчы. Ах як трэба берагчы!

На гэты раз перад вачамі стала маці. Яго маці, зусім маладая, ёй не было і трыццаці яшчэ; ён пачуў яе голас, як яна прасіла Аньку схавацца з ім, з Іванькам, пад печчу. Гэтага ўспаміну Іван асабліва баяўся.

Можа, ён застагнаў, можа, скрыгатнуў зубамі ці так узяўся за стол, што той са скрыгатам пасунуўся па падлозе. Не помніў. Але

ўспамінаў пасля, што на яго зноў азірнуўся Шышка, на яго паглядзелі з чаргі.

Ніна выйшла з-за парцьеры, што засланяла дзверы на склад, як актрыса, не працаваць — сябе паказаць: модная прычоска, падмаляваныя губы, бровы. Добрынцаў яна ігнаравала, ведаючы іх думку пра сябе, як бы помсціла ім, незнаёмых абслугоўвала акуратней, найбольш старалася перад сваімі, кулажцамі, дрэннай славы вельмі ж у роднай вёсцы баялася-такі.

— Якое вам паліто? — спытала Ніна і пазяхнула, убачыўшы, што пакупнік стары і незнаёмы.

— Мне не паліто, дачка. Мне розны тавар...

— Які розны?

— Платочкі розныя, касынкі. Маців'яльчыку рознага. Туфелькі. Шчоб падарыць... Шчоб не хадзіць да радні з пустымі рукамі. Падарачкі ўсе любяць. І малыя, і старыя. Сама, нябось, любіш, каб табе дарылі?

Шышка загаварыў мнагаслоўна, весела, даверліва. І не па-руску, не па-сібірску, не так, як пытаў, ці ёсць хто ў аддзеле,— па-іхняму, па-добрынску; у кожнай вёсцы ёсць сваё адметнае вымаўленне, тыя ж кулажцы, жывучы за нейкія шэсць кіламетраў, пасміхаюцца з іх добрынскага «шчо», называюць іх «шчокаламі».

Івана і гэта непрыемна ўразіла, што паліцай, якога трэць стагоддзя назад назаўсёды выкрасілі са спісаў сяла і з памяці людской, загаварыў па-добрынску. Быццам дражніўся, здзекаваўся. Але тут жа ўразіла іншае — як Шышка купляе. З купецкім размахам. Яўна выстаўляе сваю грашавітасць, плюе ўсім у твар: во, маўляў, вам, вы мяне пахавалі, а я тут як тут, і не калекам вярнуўся, не з працягнутай рукой — з тугім кашальком, і грошы гэтыя не ўкраў, зарабіў, таму нікога не баюся.

Шышка адлажыў з дзесятак розных хусцін, некалькі шалікаў, чаравікі... Ніна ўбачыла, што пакупнік сур'ёзны, і прыветліва завіхалася ля яго: кідала на прылавак новыя рэчы, тканіну. Пачала размашыста, засланяючы сябе квяцістымі палотнішчамі, адмяраць штапель, паркаль...

— Чыя ты, дачка?

— Я — з Іскры,

— Адкуль?

— З Іскры.

— Кулажачка,— засмяяўся нехта з хлопцаў у прадуктовай чарзе.

— Не разяўляйся, шчокала няшчасны,— груба кінула яму Ніна, бо быў гэта адзін з яе паклоннікаў, якому яна дала адстаўку.

Шышка весела засмяяўся:

— А-а, кулажская? То-та, я гляджу, ты вясёлая. Кулажцы ўсе вясёлыя.

— А вы, дзядзька, адкуль?

— Я? Я тутэйшы. Я свой. Божы страннік. Пахадзіў па свеце... Паглядзеў людзей.

«Чаму я маўчу? — падумаў Іван з нейкім незразумелым страхам.— Нельга маўчаць! Тут маладыя. Яны не знаюць. Сказаць ім! Сказаць, хто ён, дзе і чаму хадзіў. «Божы страннік...» Ах ты!..» Але тут жа пахаладзеў ад думкі, што і прадаўшчыцы, і добрынцы, што стаяць у чарзе, ведаюць, хто гэта. Занадта многа было гаворкі ў апошнія дні аб звароце Шышкі, каб не здагадацца, хто завітаў у сельмаг і робіць такія пакупкі. Ведаюць — і маўчаць? Ніхто — ні слова. Больш таго: вось так увішна, зычліва, культурна абслугоўваюць; Нінка гэтая дзеля каго іншага, дзеля таго, хто прыйшоў з поля, з фермы, лянуецца лішні раз паварушыцца. Што ж гэта такое? «Ніхто не забыты, нішто не забыта». Выходзіць, забылі, даравалі? Засталася адна цікаўнасць. І паліцай зразумеў гэта, пакуль сядзеў тыдзень у нары. Не адзін, значыцца, сядзеў, меў дарадцаў. Няўжо ёсць такія? А жонка? А дачка? Сваякі. Ёсць! Ёсць! Няўжо ты, Іван, думаў, што ўсе праклялі яго? Не прыехаў бы ён сюды, каб яму не пісалі. Прыехаў, пасядзеў стоена, і вось смела вылез, смела выстаўляе сябе. І што яму зробіш?

Іван выцер мокрыя далоні аб штаны. Пры любой аварыйнай сітуацыі мозг яго, вочы, рукі, ногі дзейнічалі, як адладжаныя аўтаматы — імгненна, рашуча. А тут як бы нешта застапарылася, загасцілася, як поршань у маторы, і ўся машына замерла. Якая тут сітуацыя? Аварыйная? Для каго? Недарэчна ён застыў пасярод магазіна, учапіўшыся, як п'яны, у стол. Здалося, што людзі ў чарзе глядзяць не на Шышку, а на яго: што здарылася з Батраком? Ён як бы пераняў занятак Хведара Шчэрбы: той у вольны час гадзінамі аціраецца ў сельмагу, кажа, што вельмі любіць такім чынам вывучаць «пакупную здольнасць народа» — хто што купляе са сваіх, што купляюць украінцы і малдаване, якія прадалі памідоры ці віно ў Мінску, Рызе і вяртаюцца дадому, а заадно ўзяць ад людзей з розных краёў тыя навіны, якія не перадаюць ні радыё, ні тэлевізар.

Пераступаючы самлелымі, як не сваімі, нагамі, Іван адышоў да акна, у канец чаргі, да прадуктовага прылаўка.

Тамара прыветліва ківала яму яшчэ тады, як ён увайшоў. Цяпер яна, збянтэжаная, спытала:

— Вам што, Іван Карнеевіч?

Тамары было ніякавата ад таго, што такі чалавек, муж акушэркі, якая ратавала яе і якой яна была вельмі ўдзячная, стаіць у чарзе. Да таго ж яна ведала, што са сваіх ніхто слова не скажа, калі яна адпусціць яму хлеб ці віно без чаргі. Па-першае, на час уборкі было ўказанне: механізатараў абслугоўваць без чаргі і прапаноўваць усе лепшыя дэфіцытныя тавары; па-другое, супраць Батрака ўвогуле ніколі ніхто нічога не сказаў бы, бо нікому ён не пераступіў дарогу, усім рабіў дабро. Ён і жонка яго.

— Нічога, Тамара. Я пастаю з людзьмі. Выхадны. Няма чым заняцца.

— Праўда, дайце чалавеку на людзей паглядзець. А то ў яго ад камбайна ды машыны ў галаве гудзіць, як у мяне ад веялкі. Бензінам прапах,— сказала Іванава равесніца Вольга Даніленка, якая ўвесь прыпар рабіла на таку, прымала збожжа, сушыла і веяла.

Тамары ўсё ж хацелася зрабіць Івану Карнеевічу нешта прыемнае. Яна адарвалася ад вагаў, падышла да яго і не вельмі прыцішана сказала:

— Перадайце Таісе Міхайлаўне: прывезлі тое, што яна прасіла для Валі.

Што прасіла Тася, Іван не знаў. Ды наўрад ці дайшлі да яго свядомасці гэтыя словы. У галаву ўдарыла новая хваля крыві. Шышка!.. Ён паказаў пальцам, і Ніна зняла з верхняй паліцы... ляльку. О, якая лялька! З паўгадовае дзіця, з бялюткімі, як натуральнымі, касамі, з блакітнымі вочкамі, у яркай блакітна-ружовай сукенцы, у чырвоных чаравічках са шнурочкамі. Імпартная лялька гэтая доўга стаяла на паліцы на спакусу і зайздрасць дзецям, не адна малая ўчыняла тут «канцэрт», патрабуючы ў маці гэтую радасць. Але лялька «кусалася» — каштавала ажно васемнаццаць рублёў. Яе не купілі нават украінцы і малдаване, везучы з поўначы па торбе грошай. Яе купляў Шышка, каб падарыць нейкаму дзіцяці, паказаць сваю дабрыню і шчодрасць.

Іван увесь абліўся потам. Хацелася крыкнуць: «Не прадавайце яму лялькі! Не мае права адорваць дзяцей! Ён жа забіваў дзяцей! Людзі! Няўжо вы не знаеце? Ці забыліся?»

Але хіба закрычыш такое? Сапраўды, гэтыя людзі могуць не знаць. Забыліся. Не, такое нельга забыць! Нельга не знаць! Вольга, напрыклад, хіба яна не помніць, яна ж яго равесніца? У першыя пасляваенныя гады пра расстрэл партызанскіх сем'яў многа гаварылі. Настаўнікі на ўроках расказвалі. У дзетдомаўскай школе на ўроку літаратуры ім далі сачыненне: апісаць фашысцкія зверствы, якія яны, дзеці-сіраты, помняць. Ён нічога не папісаў, аддаў чысты сшытак.

Маладая настаўніца вельмі здзівілася: «Ты, Батрак, нічога не помніш?» Але адзнакі не паставіла. Можа, ёй хто сказаў, што Ваня Батрак помніць залішне многа. Можа, здагадалася сама, што помніць ён такое, пра што не можа напісаць.

Пасля таго як Шышка сунуў ляльку ў сваю жоўтую торбу, быццам забіў яе, жывую, і пахаваў, каб не бачылі людзі. Іван зусім знясілеў і толькі выцер аб штаны далоні, якія цяпер пацелі ўвесь час, бы бясконца працягвалася аварыйная сітуацыя. І дыхаць яму было цяжка; Вольга Даніленка павярнулася, сказала:

— Ты, Карнеевіч, прастуджаны, ці што? Пыхціш, як кавальскі мех. Каньячку купі, з чайком памагае. Не скупіся. Куды табе грошы дзяваць? Кажуць, твая Міхайлаўна на машыну збірае. На чорта табе тая машына? На саўгасных не наездзіўся?

Тут, завяршыўшы пакупкі ў прамтаварным аддзеле, падышоў Шышка і стаў у чаргу, абвясціў усім, хто ўвайшоў пазней:

— Я занімал за этой дзевушкай.

І чарга насцярожана змоўкла, рассунулася, адны падаліся ўперад, другія адступілі назад, даючы яму месца прасторнае; тыя, хто апынуўся побач, яўна не жадалі датыкацца да яго.

Іван убачыў гэта, зразумеў, што людзі ведаюць, хто ўціснуўся паміж імі, помняць мінулае, і яму зрабілася лягчэй ад такой людской салідарнасці, удзячнасць да іх сагрэла яго захаладалае нутро.

Чарга на нейкі час змоўкла, як змаўкае любая кампанія блізкіх людзей, калі ў ёй з'яўляецца чужак. А пасля чарга як бы ўзлавалася, так часам злуюць хаўруснікі парушанай бяседы, і часта злосць скіроўваюць не на таго чужака, што завітаў няпрошаны-нязваны, а на каго-небудзь са сваіх.

Унучка старога Дубадзела, глуханямая Наташа, купляла ажно пятнаццаць кілаграмаў цукру. Не хапала гіраў, і Тамара пайшла з навалачкай на склад, каб зважыць там на вялікіх вагах. Магчыма, гэта і абурыла чаргу.

— Куды ета людзі па стольки цукру бяруць?

— Праўда. Трэба норму ўстанавіць. А то некаторыя мяшкамі цягаюць.

— Вам цукру шкада? Дзякуй богу, хапае.

— Падвозіць не паспяваюць. У сельпо адна машына, а колькі магазінаў...

— Тут эшалона не хопіць, калі па стольки будуць браць.

— Украінцы кажуць: буракі ў гэтым годзе не вельмі ўрадзілі.

— Фідэль падкіне. Трасніку хапае, яго ні садзіць, ні палоць не трэба. Сам расце.

— Думаеш, з трасніку цукар сам сыплецца? Бачыў па тэлевізары, як сякуць той траснік. У нас з такімі шаблямі ніхто не пайшоў бы ўжо. Да машын прывыклі людзі. Ета, можа, цяжэй, чым касой памахаць.

— Наташка! Шчо ты будзеш дзелаць з цукрам?

Наталка глядзела вялікімі прыгожымі вачамі і ківала галавой, што не разумее.

— Стары Дубадзел знае, што дзелаць. Дзедуган-хітруган. Пчол корміць. Цукар па семдзесят восем капеек, а мядок — па шэсць рублёў. Еты ж цукар ты ў яго і купіш, толькі перамешаны з пчаліным г... За г... і заплаціш шэсць рублікаў.

Засмяяліся.

Смех даў зразумець нямой, што гавораць пра яе і пра дзеда, якога яна любіла, смяюцца з іх. Таму пачала па-свойму, жэстамі, горача тлумачыць, што цукар трэба, каб зварыць варэнне, выраслі во такія грушы — Наталка склала два кулакі — і гніюць.

— А нашто табе тое варэнне? У твайго дзеда мёду бочкі. Мёду, кажу, во якія бочкі! Глядзі, засахарыцеся,— выразна і смешна даводзіла нямой Вольга.— А потым пад дажджом растанеце. Ці абліжуць вас. Ага! А што ты думала? Во так возьмуць і абсмокчуць мядовага дзеда...

У чарзе паблажліва смяяліся з Вольгінай размовы з нямой.

І раптам знайшоўся абаронца — Шышка:

— Не обижайте калеку. Ее бог обидел.

Змоўкла чарга, як стаілася. Ніхто — ні слова. Нават вострая на язык Вольга Даніленка нічога не сказала, толькі вачамі бліснула, на Івана зірнула, як бы спытала: пляснуць мне гэтага гада ці лепш не чапаць падлу, каб не смярдзела? Зразумела, мабыць, што лепш не чапаць, хоць Іван нічога не адказаў вачамі, хіба толькі падзякаваў за яе гнеў да Шышкі.

Ніхто нямую крыўдзіць не думаў і ніколі не крыўдзіў. І Дубадзела старога паважалі. На мёдзе ён, праўда, добра зарабляе. Але не жмот, не скупярдзяй. Заўсёды пачастуе гэтым мёдам, а калі ў каго дзіця захварэе — сам нясе мёд, асобы, ліпавы, лекавы. Памагае іншым пчолы разводзіць, часам бясплатна аддае адсаджаныя раі. Праўда, кажуць, Астаповіч яму прэміі выплачвае за пчолы і за тое, што ўгаворвае добрынцаў разводзіць іх, вучыць даглядаць. А яшчэ Дубадзел лепшы пячнік, можа, адзіны такі майстар на ўсё наваколле. Такіх заўсёды шануюць. Безумоўна, былі такія, што зайздросцілі даходам старога, але гэта з тых, каторыя самі мала што ўмеюць. Вольга да іх не належала. Вольгіны словы — звычайная мешаніна вясковых жартаў з

добразычлівай суседскай крытыкай; такія адносіны паміж добрынцамі, чужому чалавеку іх нялёгка зразумець бывае.

Івану хацелася зайсці наперад і глянуць у твар усім іншым, хто стаіць у чарзе, маладзейшым: ці ведаюць яны? ці помняць? ці адносяцца да паліцая гэтак жа, як Вольга? А можа, яны змоўклі проста з-за павагі да старога незнаёмага чалавека?

У сельмаг уваходзілі новыя людзі, колькі чалавек, чужых, падарожнікаў, прайшло ў прамтаварны аддзел, свае, добрынцы, станавіліся ў чаргу, за Іванам. Увайшла Адарка Канаплёва, па-вулічнаму — Пліска. Павіталася па-старому, па-вясковаму, што мала ўжо хто рабіў, калі заходзіў у грамадскія будынкі. Адарка рабіла гэта не без хітрасці: каб потым папрасіць прапусціць яе, старую, без чаргі. Сапраўды, яна прайшла наперад, агледзела паліцы — што там ёсць, быццам намервалася купляць вельмі многа, хоць купляла яна, адзінокая, не многа: буханку хлеба, паўлітра алею... Некалі Іван не любіў гэтую жанчыну. Ды не толькі ён. Маладзейшая — была яна сварлівая, брахлівая, пляткарыла многа. Калі ён ажаніўся, Пліска плёткі пра Тасю распускала, і яму прыйшлося пагразіць ёй. Але лёс яе быў цяжкі: муж — неўдалюга, сухарукі з маленства, алкаголікам зрабіўся і, п'яны, трапіў пад машыну, тут жа, на шашы, каля кульдзюма. Сын Сяргей нішто хлопец быў, ціхмяны — не ў маці, здзіўляў сваіх аднагодкаў, што ў рот не браў ні гарэлкі, ні віна, жартавалі: «Яго норму бацька выпіў», электрыкам у саўгасе рабіў, на здароўе сваё нікому не скардзіўся, а гады тры назад трапіў у бальніцу і не выйшаў адтуль — памёр ад нефрыту. Пасля такой страты Адарка заняпала, пастарэла і... аглухла. Ад гэтага яна зрабілася яшчэ больш шумная: не гаварыла — крычала і была бесталковая — часта пляла бязглуздзіцу. Некаторыя казалі, што Пліска хітруе — спекулюе глухатой, але большасць шкадавала небараку. Тая ж Тася, якая некалі плакала ад дурных Плісчыных плётак, цяпер абараняла яе: «Божа мой, якая там ужо хітрасць! Пра што вы кажаце!»

Сквапна агледзеўшы прадукты на паліцах, Адарка павярнулася да людзей, каб вызначыць, хто можа запярэчыць, калі яна пачне купляць без чаргі, а хто, добры і аўтарытэтны, падтрымае яе. Убачыла Івана — здзівілася, як бы ўстрывожаная:

— Іваначка, і ты стаіш? — усё ведала.— Тамарачка, Астаповіч жа загадаў механізатарам без чаргі адпускаць.

Але тут жа ўбачыла Шышку, доўга ўзіралася ў яго, ажно пакуль той не ўсміхнуўся ёй і сам не азваўся:

— Не пазнаеш, кума Адарка?

І яна як бы ўзрадавалася, што яе пазналі праз столькі год — быццам вярнулі ў маладосць, пляснула ў далоні, войкнула:

— Рыгорка! Чы ты, чы не ты ета? А божачка мой! А мне кажуць: кум твой вярнуўся. А я — не веру. З таго свету, думаю, не варочаюцца.

Цяпер уся чарга глядзела на іх. Маладзейшыя, хто ведаў Пліску, глядзелі з усмешкамі, чакаючы вясёлага прадстаўлення. Іван — зноў са страхам. Няўжо гэтая старая стрэне паліцая па-чалавечы, ласкава? Кум. Кума. Ёсць і такія, выходзіць, акрамя блізкіх сваякоў. А ён і не знаў, што Канаплёвы куміліся з Шышковічамі. У вайну, безумоўна. Хто ж у каго хрысціў? Яна, Пліска, у Шышкі? Што магло звязаць такіх розных людзей у той час?

— Дай жа, Рыгорка, я цябе пацалую.

Шышка паставіў на падлогу торбу і ступіў насустрач Адарцы, з радасцю расставіўшы рукі.

Іван глядзеў яму ў спіну, але і са спіны ўбачыў яго радасць, яна і на спіне адбілася. Яшчэ б! У такім людным месцы яго, катаржніка, так сустракае прадстаўніца старых добрынцаў — тых, якія ўсё бачылі, усё помняць. Значыцца, не лічаць яго злачынцам.

У Івана зноў захаладала ўсярэдку, і зноў яму зрабілася страшна — за самога сябе.

Яны абняліся і тройчы, крыж-накрыж, пацалаваліся. Нехта з маладых пажартаваў:

— Не развучыліся.

У чарзе засмяяліся. Але ні Шышка, ні Пліска не звярнулі на гэта ўвагі. Яны глядзелі адно аднаму ў твар, перажывалі радасць сустрэчы да слёз, якія затуманілі іх старыя вочы.

— Як жа ты, Рыгорка?

— Нічога, кума, жывы, як бачыш. Бог літасцівы.

— А мы ж цябе, Рыгорачка, было пахавалі. Я, грэшная, сама ў царкве свечачку за ўпакой ставіла.

— Бог літасцівы,— зноў паўтарыў Шышка.— Не даў загубіць бязвінную душу.

«Бязвінную? Гэта ты бязвінны?» — Івану здалося, што ён не вытрымаў — закрычаў на ўвесь магазін.

— Калі жывеш з богам у душы, то ўсявышні не дасць цябе на расцярзанне... Як сказана ў евангеллі: «Призову достопоклоняемого господа и от врагов моих спасусь».— З гэтымі словамі Шышка вярнуўся да сваёй жоўтай торбы, нахіліўся, дастаў адтуль хустку-гаруску, спрытным, умелым рухам кінуў яе на плечы Адарцы.

— Табе, кума, ад мяне...

Пліска ажно заружавелася, як маладуха. Даўно не атрымоўвала такіх падарункаў.

— Спасібачка табе, Рыгорка, такі падарак! Спасібачка, даражэнькі!

Івану вочы засланіла сінім туманам. Чаму сінім? Пасінелі твары. Пасінеў хлеб на паліцы... Што гэта? Так страчваецца адказнасць за свае ўчынкі? Але ж ён можа нарабіць бяды дзецям, Тасі. Тасі! Задыхаючыся, быццам вакол яго не стала паветра, ён рушыў за дзверы, на вуліцу, дзе ззяў жнівеньскі дзень і ішло звычайнае жыццё. Чалавечае.

Іван не чуў, што Вольга Даніленка не вытрымала — сапсавала кумам сустрэчу, сурова і злосна сказала Шышку!

— Ты хаця б бога не чапаў.

— Я яго не чапаю, дачка. Бог у мяне ў душы. Цвярдыня мая і ізбавіцель мой...

— Каб я не знала тваю дачку, то сказала б, хто твая дачка. Дачка! Крый божа мець такога бацьку!

Адарка абурылася была:

— Чаго ета ты дзікай кошкай кідаешся на людзей? Ігнат над рэбры надаваў, ці шчо?

— А ты, старая кайстра, памаўчы, калі табе анучкай мазгі закрылі!

Сварлівая, крыклівая Пліска, убачыўшы, як сцяўся, згорбіўся кум, адвярнуў морду ад людзей на пляшкі з алеем, слова не сказаў на Вользін наскок, таксама змоўкла, адышла ў прамтаварны аддзел, магчыма, паглядзела, колькі каштуе хустка, якую падарыў Шышка, і непрыкметна, нічога не купіўшы, выслізнула з магазіна.

9

— ...Пасля сустрэчы з бацькам я пазбягаў паліцаяў. Я іх баяўся. Не таму баяўся, што яны паліцаі, фашысты, тады яны яшчэ нікога не застрэлілі. Я баяўся добрынскіх. Панімаеш? Мне здавалася, што калі яны зноў павядуць мяне ў школу і будуць добрыя, будуць вучыць страляць з пісталета і частаваць мёдам ці нямецкімі цукеркамі, то я... як бы табе сказаць?.. разгублюся, ці што, і па вачах маіх, па тым, як я буду хаваць іх, вочы свае, яны здагадаюцца, што я знаю, дзе бацька. Што біць будуць — не баяўся, па-дзіцячы верыў, што — як бы мяне ні лупілі — нікому не выдам тайны, якую даверылі мне, як вялікаму, роўнаму сабе, бацька і матка. А ласкавасці юдавай, як казаў дзед Качанок, баяўся. Угледжу Шышку ці Лапая і, што кот ад сабак, кідаюся ў любую падваротню, у чужы двор, залажу ў якую хочаш шчыліну...

Яшка Качанок смяяўся з мяне, называў зайцам, яшчаркай, удодам. Чаму ўдодам — не знаю, удод не больш палахлівы, чым іншыя птушкі. Можа таму, што ўдод ванючы, мянушка гэтая крыўдзіла. Мне, сыну партызана, слухаць такія папрокі? Яшка, як дзед яго, выстаўляў сваю смеласць, нарошна праходзіў міма школы, дражніў паліцэйскага сабаку, свістаў у два пальцы. Было, што паліцай пацягнуў яго шомпалам, і Яшка пасля гэтага зусім задраў нос, хадзіў, што герой, лаяў немцаў і паліцаяў на поўны голас. Усё знаў і пра ўсё ўмеў пагаварыць так, як дзед яго. Ты што?

— Нічога, Ваня. Я, відаць, усміхнулася. Так? Я падумала пра Качанка — што і тады ўжо ён быў Качанком. У сем гадоў.

— А-а. Не. Ён быў таварыскі хлопец. А пагаварыць любіў. Гэта ў яго ад дзеда. Адзін раз не сцярпеў я, калі ён назваў мяне трусам, і змазаў яму па мордзе. Закрычаў: «Да ты знаеш, хто...» Ды тут жа прыкусіў язык і разроўся, як малы. Не ўсміхайся, калі ласка. Гэта так: ніхто з нас не лічыў сябе малым — бацькі былі на вайне, а мы гаспадарылі. Асабліва я. У яго, у Яшкі, у хаце ўсё ж дзед быў хоць і хворы, але наравісты, крыклівы, усімі камандаваў. А я — адзіны мужчына на два двары: на свой і на бабін, якая жыла з цёткай Хвядорай. Баба ў нас была разумная, яна наўмысля раілася са мной, як з вялікім, частавала, як мужчыну. Мама, канечне, абыходзілася, як з малым, цяжэйшую працу старалася зрабіць сама, смачнейшую ежу аддавала нам. Раней мама магла паганяць мяне, ручніком шлёпнуць, накрычаць... А ў тую вось... у тую восень... Не глядзі на мяне так. І не смейся, калі я заплачу. Я магу заплакаць...

— Што ты, Ваня! Як я магу смяяцца?

— Ты ніколі не бачыла, як я плачу. Калі прыйшла ты, я ніколі не плакаў. У мяне ўсё было добра. Дома. На рабоце. Не, ты знаеш, я плакаў. Ад радасці. Калі выпіваў і п'янеў ад шчасця... ад таго, што ты са мной... што дзеці ў нас харошыя... Калі Карней зламаў руку на велагонках, я так гнаў машыну, а ён, ён нічога... ляжыць вясёлы. «Нахіліся, кажа, тата...» І пацалаваў. Ты ж знаеш, Карней — не Валя, скупы на ласку, на словы. Во тады я заплакаў і спужаў яго, яму здалося, што здарылася другая бяда. Але пачакай. Аб чым я гаварыў?..

— Пра Яшку.

— Ах да... У яго добрае сэрца... Балбатлівы, як дзед. Задавака. Такі ён і тады быў. Але калі я, даўшы яму па мордзе, заплакаў сам, ты знаеш, ён пачаў прасіць, каб я прасціў яму. І мы пакляліся, што будзем дружыць вечна. Ён хацеў паліць на агні руку, каб даказаць сваю дружбу. Гэта я запомніў. Мы сядзелі ля вогнішча ў глінішчы за ветраком, пяклі ў прыску бульбу. Качанок, можа, забыўся, а я дагэ-

туль помню, як мы кляліся. У нас у абодвух вочы былі поўныя слёз. Калі цяпер рассярджуся на Качановы штучкі, на яго балбатню, хочацца пляснуць яго на партыйным бюро, але кожны раз я ўспамінаю тую нашу дзіцячую клятву. А ён, свінтух, папракае, што я ліберал, беспрынцыповы, добранькім з усімі хачу быць... Але што гэта я пра Качанка? Ты яго і так добра знаеш. У мяне ў галаве ўсё роўна як пакрышыліся зубцы шасцярон счаплення і ўключаецца не тая перадача. Скачу думкамі, што белка тая,— з яліны на бярозу. Не бойся. З галавой у мяне нармальна. Проста ўзбунтаваў мяне гэты гад. Усё ўзбунтаваў. Усё перамяшалася. Жыццё маё. Хаджу па хаце перад табой. Тэлевізар, камод, гардзіны прыгожыя. Ты... маці маіх дзяцей... А сам — там, у той хаце, у нашай старой. І ты — мая матка, і ты бароніш мяне ад іх... Ты знаеш, яна — што птушка, але ёй не было куды адляцець, каб адвесці іх ад нас, ад дзяцей. Ці яна не ўмела гэтага зрабіць? Слухай, яна ж была вельмі маладая, ёй не было і трыццаці... Нам ужо па сорак з гакам.

— Супакойся, Ваня.

— Ты не думай... Я спакойны. Мяне ажно страшыць, што я такі спакойны. Я магу заплакаць, успомніўшы матку, але ты не глядзі на гэта. Ад гэтага мне будзе лягчэй. Знаеш што? Давай не пойдзем сёння да Каржова. Мне не хочацца туманіць галаву гарэлкай.

— Не пойдзем.

— Дык было так. Я пазбягаў паліцаяў, баяўся, што яны зноў пачнуць выпытваць, дзе бацька. Але калі ўбачыў, што Шышка пайшоў у наш двор... Не, я не ўбачыў. Я гуляў ў Даніленкаў, было нейкае свята, Мікола, ці што, у акупацыю пільнаваліся свят, не работалі. Мне сказала Вольчына маці, што да нас пайшоў Шышка. У мяне пахаладзела ўсяродку, і я кінуўся дадому, каб абараніць матку, Аньку... Цяпер, можа, гэта смешна, але ў сваім двары на дрывотніку я схапіў калун. Цяжкі такі для той маёй сілы. Смешна, праўда? Што б я зрабіў тым тупым калуном узброенаму паліцаю? Ускочыў у сенцы... Але дзверы ў хату былі няшчыльна зачынены, і я пачуў галасы, маткі і Шышкі. Яны гаварылі спакойна, здалося, што матка жартавала. Каб не тая жартаўлівасць у матчыным голасе і не словы яе, якія я адразу пачуў, каб у хаце крычалі ці, наадварот, маўчалі, то, відаць, я, распалены, уваліўся б туды з калуном у руках. Але матка сказала як бы са смехам:

«Хіба мала вас, ахвотнікаў, да чужых баб? Вон, кажуць, І ты ад маладой жонкі да старой кулажанкі ездзіш».

Я ўжо знаў, якія размовы дарослыя нам, малым, не даюць слухаць. Таму стаіўся... Сорамна, ты знаеш, зрабілася. І з панталыку я

быў збіты такімі словамі і такой матчынай... як гэта назваць?.. весялосцю, ці што. Каб на цяперашні розум, то, канечне, за гэтай весялосцю пачуў бы другое — і страх, і трывогу... усё, з чым яна жыла тады. Як чуў гэта ў тваім голасе. Ты смяешся, а я чую, што табе хочацца плакаць.

— Калі гэта было, Ваня?

— Было, Тася, было. У жыцці ўсё бывае. Даводзілі цябе і я, і дзеці, і людзі. Ты не помніш етага, каб я чуў, што табе хочацца плакаць, і я не хацеў... я не хочу, штоб ты плакала. Я знаю, што гэта такое, калі маткі плачуць. Канечне ж, маме хацелася плакаць. А яна смяялася. Шышка сказаў:

«Не распускай плётак, Алёна».

Матка адказала:

«Я іх не распускаю, Рыгорка. Я маўчу».

«Ты маўчыш, гэта праўда. Ты сядзіш цяпер, што мыш над веткам. З такім пузам. Але людзі... ты знаеш нашых людзей... калі б яны і бачылі, што хтось хадзіў да цябе, усё роўна не паверылі б, што ты нагуляла. Не тая ты баба, Алёна. Цябе твая залоўка, манашка, пракляла б. Ого! Яна на парог не ступіла б. А так ходзіць да цябе кожны божы дзень. Памагае. Мы з тваёй хаты вока не спускаем».

Гэта ён пра цётку Хвядору. Калі бацька сказаў, што ў мяне будзе брацік ці сястрычка, я таксама здагадаўся, чаго часта прыходзяць баба і цётка. У мяне гарэлі вушы, што я слухаю такія сакрэты. А Шышка вёў сваё:

«Ад народу, Алёна, не схаваешся. Ого, каб да цябе хто хадзіў, як бы загудзелі ўсе, уся Добрынка».

Матка сказала:

«А чаго яму хадзіць? Магу я хадзіць. Кажуць, не толькі ты ездзіш, але і Кулажанка прыбягае сюды. Павыдзірае ёй калі-небудзь косы твая Марына».

Мне ажно страшна стала, што матка так задзіраецца з паліцаем,— рэжа яму ў вочы праўду: аб тым, што Шышка дрэнна жыве са сваёй маладой жонкай,— пра гэта гаварылі бабы, калі збіраліся разам. Я баяўся, што Шышка ўзлуецца і пачне калі не біць матку, то лаяцца паганымі словамі. Што тады рабіць мне? Але паліцай неспадзявана для мяне рагатнуў. А тое, што ён сказаў, прымусіла мяне замерці:

«Во ета праўда. У ета я паверу, што не ён ходзіць да цябе, мы яго даўно б злапалі. А ты ходзіш да іх у атрад. А за табой, чортавай бабай, хіба ўгледзіш?»

Матка рассердзілася, ды тут і я пачуў у яе голасе страх:

«У які атрад? Што ты пляцеш, Рыгорка? Адумайся».

Шышка сказаў:

«У партызанскі. Дзе твой Карней. Як ён завецца?»

«Хто завецца?» — здзівілася матка.

«Атрад іх, у які ты ходзіш».

«Не ў той бок я хаджу».

«Чорт іх знае, у якім яны баку. Ого, штоб мы зналі! А як завецца — знаем. Атрад Сталіна. Во якія верныя Сталіну. Як богу. І тут без яго не могуць жыць. Да хана ім усім скора будзе разам са Сталіным. Гітлер вон куды дабраўся. Да Волгі. Да Сталінграда. Пад корань сячэ вашага Сталіна».

Пра Сталінград я чуў. Крычалі гэтыя ж паліцаі, тайна гаварылі паміж сабой людзі, старыя мужчыны. Дзед Качанок цяжка ўздыхнуў, што немцы так далёка ўглыбіліся ў матухну Расію, праніклі ў самае сэрца, бедаваў так моцна, што ажно пацішэў, не лаяўся.

Можа, як нішто, бедаванне старога перадало і мне, малому, трывогу за далёкі горад. Я думаў, што там, у тым горадзе... у Сталінградзе... ёсць нейкае вялікае-вялікае сэрца, яно б'ецца, і ад таго жывуць усе гарады, сёлы, усе людзі, жыве і ваюе Чырвоная Армія... Я знаў: калі сэрца прабіваюць, чалавек адразу памірае; усё жывое памірае, калі ўдарыць у сэрца. Ты знаеш, я помню той страх, які перажываў, калі ў тыя дні гаварылі пра Сталінград. У вачах у мяне, у галаве стаяла, як нямецкія танкі, такія, што ішлі па шашы міма Добрынкі, усе машыны і ўсе салдаты лезуць на гару, на якой ляжыць сэрца. Чаму на гары, з чаго з'явілася гара — не знаю. Гэта як сон. Можа, гару я прыдумаў, штоб немцам было цяжэй дабрацца туды. Шышка таксама сказаў матцы пра Сталінград. Але яго словы не спалохалі. Ён не сказаў пра сэрца, што вось-вось ударацъ у сэрца. Ён сказаў, што там «сякуць Сталіна пад корань». Дурное, на мой розум, сказаў. Я знаў, што Сталін у Маскве, пра гэта шапталіся мужчыны. І чалавек не дзерава, ніхто яго пад корань не падсячэ, у нас гаварылі гэтыя словы проста так, часцей — каб пастрашыць. «Падрэжу я цябе пад корань» — калі мужчыны ў карты гулялі, так гаварылі. Таму я падумаў, што не так ужо добра ўсё ў немцаў, калі Шышка так гаворыць. І матка яму добра сказала, гэта я запомніў, знаеш, калі падслухоўваеш пад дзвярмі, усё запамінаеш; яна сказала, што ніхто не знае, дзе той корань, які трэба падсекчы, і што глыбокі ён, корань, не дакапацца да яго. Шышка ажно свіснуў:

«Вунь ты, кажа, як! Адразу відно; набралася партызанскага духу. Камісаркай стала!»

Голас матчын задрыжаў, гэта я пачуў... Больш яна не жартавала.

«Рыгор, што гэта ты ўцяльмяшыў сабе ў галаву? Дзе я магла набрацца такога духу? Ад каго?»

«Ад каго! Ад Карнея свайго!»

«Пра што ты кажаш! З таго дня, як у ваенкамат правяла, то я яго толькі ў снах бачыла. Няхай не сыду з гэтага месца. Божухна мой! За што ты мяне караеш? Ну саграшыла дурная баба. Слабая наша сястра перад вамі, чарцямі. Вы — што мёд... Салодкія, таму ліпнеш да вас».

«Скажы, хто ён, можа, тады паверу. Ці са мной саграшы».

«Пабойся бога, Рыгор. І ў таго чорта жонка ёсць. Яна мяне са свету зжыве. І яго. Матцы роднай не прызнаюся. Аднаму Карнею скажу, калі, дасць бог, вернецца, не пакладзе галовачкі сваёй. У ногі ўпаду, пакаюся. Можа, даруе... Я ўжо і так пакарана за грэх свой».

Пад цяжкімі крокамі зарыпелі масніцы. Шышка ішоў да дзвярэй. Я схаваўся за бочку, што стаяла ў сенцах, усё яшчэ трымаючы калун. Каб паліцай крануў матку, я ўдарыў бы яго гэтым калуном. Я дрыжаў увесь ад напружання, уяўляючы, як секану па галаве, як пырсне кроў... Але ці рассячэ тупы калун Шышкаву галаву ў шапцы? Крыві я баяўся з малых гадоў. Апаноўваў двайны страх: ад думкі, што я раскалю чалавеку галаву, трохі не рабілася млосна, але дух і сілу даваў другі страх — што не хопіць у мяне сілы зрабіць гэта, і я збіраў яе, сваю сілу, дрыжучы і млеючы, перабіраючы пальцамі слізкае тапарышча, каб узяць яго лаўчэй, каб ударыць з размаху.

Не, Шышка не зачапіў матку. Ён загаварыў ад дзвярэй. Голас яго быў пагрозлівы, злосны:

«Во што, Алёна. Дурыць галаву ты можаш каму хочаш, толькі не мне. Сыну свайму раскажы, што яму бусел прынясе брата ці сястру. Так і ён не паверыць. А мне... мне ты скажы дзякуй. Каб не я, даўно б ты была ў горадзе ў камендатуры. Там цябе прымусілі б сказаць — і хто, і дзе. Але больш на мяне не надзейся. Нада мной начальства ёсць. І такія, як Лапай. Ён усё знае, што творыцца ў сяле. Адно табе скажу. Перадай свайму Карнею... Калі даражыць роднымі дзецьмі, няхай кідае банду. На што яны, ідыёты, надзеюцца? Немец вон дзе!.. Скажы яму; пяройдзе да нас — даруюць яму і парцыйнасць, і парцізанства. Начальнік наш таксама быў парцейны... Тут я слова даю — не зачэпяць яго. Жывіце, сейце, раджайце... Так і перадай яму».

«Каб было каму перадаваць. Можа, яго даўно на свеце няма»,— матка ўсхліпнула.

Шышка па-конску гагакнуў і злосна сказаў:

«Не прыдавайся, Алёна. Чула, як раней казалі: Масква слязам не верыць? Яны з табой не будуць гаварыць так, як я.

Ён выйшаў у сенцы, дзвярмі не стукнуў, прычыніў іх ціха і пастаяў ля іх. Мне здалося, што ў прыцемку сенцаў ён шукае мяне, і я сціснуўся ў камячок. Не ад страху — ад бяссілля, бо тут толькі сцяміў, што даволі мне падняцца з-за бочкі, як ён злапае мяне і задушыць, як кот мыш. І не толькі мяне, але можа забіць і матку, і Аньку. Не, відаць, не гэта я сцяміў у той міг, гэта я зразумеў пазней, калі Шышка пайшоў, а я доўга яшчэ сядзеў за бочкай. Тады я адчуў, што не магу ўдарыць сякерай. Страшна было падумаць, што я... я, малы, магу забіць чалавека, свайго вяскоўца, суседа... Ад страху, ад бяссілля, ад усяго разам хацелася зараўці на ўсе сенцы, на ўсю хату. Каб прыбегла матка, узяла на рукі, як брала яшчэ нядаўна. Я не супраціўляўся б, хоць ужо з год саромеўся лашчыцца да яе, узлазіць на прыпол, як Анька. А як жа — мужчына, гаспадар! Я хацеў быць мужчынам. У сем гадоў. Але я быў дзіця. Як усе дзеці. Ты помніш, якім быў Карней у сем гадоў? Як яны запалілі салому пад Мацвеевым хлявом. Помніш?

— Ага.

— Чаму ты такая маўклівая?

— Я слухаю цябе.

— Ты ніколі так не слухала.

— Мне сорамна, што я слухала не так, як трэба, калі ты расказваў пра трагедыю тваёй сям'і. Я была маладая, дурная. Я не ведала гора. Бацькі мае жывыя былі. Я жыла сваім шчасцем. А пасля... калі я паразумнела, ты мала расказваў пра маці. Больш пра бацьку, пра партызан, пра атрад...

— Гэта я для Карнея. Ён ганарыцца, што дзед яго і бацька партызанілі. Я магу лічыць сябе партызанам. У атрадзе я здорава навучыўся страляць з кулямёта. Калі была блакада і раніла Васю Мігая, яго ў плячо раніла, і ён не мог страляць, я ўсю раніцу біў па грэблі ў Свішчах, а ён, Вася, зараджаў дыскі. Убачыў я, як кульнуліся ад маіх стрэлаў два матацыклісты, яны хацелі дагнаць наш абоз... Астатнія залеглі, не адважыліся ехаць па грэблі, там не разгонішся, насціл з бярвення, стары, выбіты... А мы з-за балота білі, з маёнтка. Ды ты не была там. Я цябе звязжу. Там многае змянілася, і балота таго няма. Але я пакажу табе, адкуль я страляў. Ты знаеш, гэта была найбольшая радасць мая, калі я ўбачыў, як фашыст кульнуўся і матацыкл паляцеў у канаву. Я помсціў. Бывае радасць і ад таго, што ты забіў. Для мяне была. Гэта было вясной сорак трэцяга. Яшчэ жывы быў бацька. Бацька і забраў нас з Васем адтуль. Ён хапіўся, што мяне няма ў атрадзе, і вярнуўся шукаць, чалавек пяць партызан прыехала на конях. Каб не бацька, нам туга было б: немцы абышлі ля Гарнастаяў і акружылі нас. Мы да ночы хаваліся ў чароце пад Рослякамі,

завязаўшы коням храпы, каб не заржалі. Толькі ўначы прарваліся да сваіх. Ты знаеш, Вася Мігай... ён быў, як Карней, яму было семнаццаць. І ты знаеш, ён жартаваў, калі мы адбіваліся з ім, быццам не ваяваў, а гуляў у вайну, як цяпер малыя гуляюць. Калі бацька прыехаў і ўзяў нас у маёнтку і мы хаваліся ў балоце, ён таксама байкі расказваў, пра дзяўчат усё, бацька, помню, асек яго, каб пры малым не распускаў язык. Лічылі, што рана ў Васі пусцяковая, каб сур'ёзная, то не да дзяўчат яму было б... Цяпер я знаю, што ўсё ён сачыняў, што нікога ў яго не было... ці пацалаваў ён хоць адну дзяўчыну?.. Я ж кажу, як Карней наш, дзіця — як на цяперашнія нашы з табой гады, проста хацелася хлапчыну паказаць сябе бравым партызанам, таму і прыпісваў сабе ўсё, што чуў ад другіх, што вычытаў у кніжках. Слухай, а можа, ён чуў смерць і яму хацелася сказаць людзям пра сваё жаданне палюбіць? Ты знаеш, калі мне бывае цяжка, я думаю пра яго, пра Васю Мігая. Яшчэ ў балоце ён смяяўся... Мяне вёз бацька, трымаў перад сабой на холцы каня. А Вася сеў ззаду ў партызана, абняў яго, каб не зваліцца. Там, на краі балота, былі яго апошнія словы: «Эх, дзядзька Мацвей, каб замест цябе сядзела мая Манька, хіба так я абняў бы яе». Мацвеў яго мацюкнуў. А калі мы вырваліся, за Рослякамі нас абстралялі, праскакалі галопам да Каранёўскага лесу, то там, калі спыніліся, каб даць коням астыць, Вася абмякла ссунуўся з каня ўжо без памяці. Так, не прыходзячы да памяці, і памёр пад вечар таго дня. Калі Васю хавалі, бацька плакаў. Туліў мяне да сябе, казаў: «Вось так, сынок, а мы на яго цыкалі...» Але што гэта я пераскочыў, лічы, на год наперад? Пра Васю я расказваў. Ты помніш? Калі Валька прыехала са сваімі сябрамі. І ў школе я расказваў. У Дзень Перамогі. Ты мне седуксен давала, штоб я там не хваляваўся...

— Табе вельмі цяжка сёння?

— Я не знаю, як гэта назваць. Я ўсё, здавалася, перажыў, і тады, і ў дзетдоме, і калі ў цёткі жыў да цябе, да ўсяго быў гатовы, да любых удараў судзьбы. Мне думалася, што іншым яно і не можа быць, чалавечае жыццё. Але яно стала зусім іншым. Цяпер я знаю, што такое шчасце. Але ў шчасці таіцца небяспека. Я пачаў забываць перажытае. Я рэдка ўспамінаў тых, хто застаўся там, у вайне. А тут усё нахлынула. Я казаў ужо табе: для мяне быдта час перавярнуўся.

Я стаяў у сельмагу, глядзеў, як ён купляе... багата купляе, нарочна, сволач, паказвае: во, які я жывучы, вы мяне пахавалі, забыліся на мяне, а я — во я, і жыву не бядней за вас. Адных хустак, можа, дзесятак купіў. Дуры етай Плісцы там жа падарыў. Ты знаеш, як мяне ўдарыла, калі яна пацалавалася з ім. Аглушыла проста. Страшна

стала. А калі ўсе так забылі і даравалі? Не з паліцэйскіх жа гэтая Пліска. Не з кулакоў. Кума. Хто ў каго хрысціў?

— Усе не маглі забыць, Ваня.

— Я чаму ўспомніў Васю? Я яго і там успомніў, у сельмагу. Мне там захацелася легчы за кулямёт. Ад таго такжа стала страшна, Тася, што захацелася за кулямёт... Пасля вайны мне ні разу не хацелася страляць. Мяне крыўдзілі. Я сварыўся. Біўся. Злаваў... Каюся, часам хацеў крыўдзіцелю нядобрага. Але ніколі мне не хацелася легчы за кулямёт. А яшчэ мне страшна ад думкі, што мы роўныя з ім... перад законам. Я — роўны з Шышкам? І ты? І дзеці нашы? Ты знаеш, як цяжка згадзіцца з такой думкай? Таму мне і захацелася расказаць табе ўсё па парадку. Не так, як раней, абрыўкамі. Калі мы сустрэліся з табой, я ўсё яшчэ не мог расказаць усяго. А потым — помніш — у нашу першую вясну, калі ты ўжо хадзіла Валькай, я павёў цябе ў Падказінае, на тое месца, дзе я тады сустрэўся з бацькам... Калі я быў у дзетдоме і прыязджаў да цёткі, я туды нярэдка хадзіў... Садзіўся на пянёк і... плакаў. Ад свайго сіроцтва. А з табой я перастаў лічыць сябе сіратой. Я доўга не быў у Падказіным. А ў той дзень мяне пацягнула туды. І я павёў цябе. Я хацеў там пра ўсё расказаць, што я перажыў. Але лес звінеў птушынымі галасамі. Ты была як птаха. Вялікая. Радасная. Знайшла гняздо драздоў. Там былі галышы. Яны шырока раскрывалі дзюбкі. Ты ўзяла аднаго, пацалавала ў дзюбку і сказала: «Хадзем. Не будзем пужаць матку. Няхай корміць іх, галодненькіх».

— А я не помню. Мы столькі разоў хадзілі з табой у лес.

— Ты прымала роды, а сама баялася сваіх першых родаў. І я хацеў расказаць так, каб ты зразумела, з якім страхам жыла мая матка і як мужна яна паводзіла сябе. Але дразды тыя, галышы... Ты пацалавала птушанятка, і я падумаў, што нельга табе ў тваім становішчы расказваць... У дзетдоме я нікому не расказваў, як ратаваўся. Пісьменнікі прыязджалі, распытвалі мяне, я і ім не сказаў... дзе сядзеў у тую ноч... Я караў сябе, што не кінуўся ратаваць матку, Аньку. Гняло гэта мяне, малога. О, як гэта мучыла мяне! Аднаму бацьку я сказаў пра ўсё. Ён сціснуў мяне ў абдымках... «Сыночак, пра што ты думаеш, дурненькі! Што ты зрабіў бы ім? І цябе не было б, адзінай радасці маёй». Цяпер я панімаю... Праўда, што я зрабіў бы ім? Іх увалілася ў хату чалавек восем, не менш, немцы-жандары, паліцаі... Лапай... Шышка гэты. Чалавекі? Хіба яны чалавекі? Тася! Цяпер я магу... я хачу пра ўсё расказаць. Табе, дзецям сваім. Усяму сялу... Пачакай. На чым я спыніўся?

— Ты сядзь. Супакойся. Я дам табе напатол.

— Навошта, Тася? Навошта мой мозг глушыць таблеткамі? Яму трэба быць гарачым. І светлым. Мы не пойдзем да Каржова?

— Не пойдзем.

— А можа, пойдзем? Я расказаў бы там... Усяму застоллю...

— Не трэба, Ваня. У людзей свята. Вярнуўся сын.

— Так, так. Твая праўда. Гэта свята, калі вяртаецца сын! Якое шчасце, калі ёсць сын, калі ён з табой. Я адчуў сёння, калі мы сядзелі тут з Карнеем, глядзелі тэлевізар. Ты прыйшла з кухні, і рукі ў цябе пахлі булкамі. Наш сын побач з намі, і рукі... твае рукі... пахнуць булкамі. Я падумаў: так пахне шчасце. А чым пахне гора? Сырой зямлёй? Не. Я столькі араў яе, зямлю. Яна таксама пахне шчасцем. Згарэлым порахам? Калі ён страляў з аўтамата пад печ, як там пагана і страшна смярдзела порахам, я чуць не задыхнуўся, не закашляўся. Порахам пахне смерць. Але калі я страляў з кулямёта, гільзы, якія выляталі з магазіна, пахлі тады для мяне шчасцем.

Нянавісць наша... яна нараджалася па-рознаму. У аднаго яна спела доўга і роўна, што той яблык, у другіх з'яўлялася ў адзін міг, сляпая, страшная. Было, што, такая, яна спальвала самога чалавека. Пакуль я не знаў, што бацька ў партызанах, не скажу, што я ненавідзеў паліцаяў, да немцаў больш, можа, было дзіцячай цікавасці — якія яны, што ў іх? З таго, як лаяў іх дзед Качанок, мы з Яшкам часцей смяяліся, чым загараліся гневам; канечне, дзедава нянавісць патроху перадавалася і нам... Усё перамянілася, калі я ўбачыў бацьку. Тут, знаеш, адразу ў дзіцячай душы, у мазгу маім была прарыта глыбокая мяжа. Калі я лічыў, што бацька ў войску, на фронце — гэта было адно, туды найшлі многія, і ніводная сям'я не ўтойвала, дзе іх бацька. Небяспека, якая пагражала бацьку на фронце, уяўлялася мне цьмяна. І раптам — бацька тут, у нашым сяле, партызан. Я адразу сцяміў, якія страшныя ворагі для бацькі Лапай, Шышка, усе тыя, што сядзяць у нашай школе, у раёне.

Я дрыжаў за бочкай ад страху, пакуль Шышка стаяў у цёмных сенцах. Чаго ён чакаў? Можа, слухаў, ці няма каго на гарышчы? Але не толькі ад страху я дрыжаў — ад нянавісці, ад жадання забіць яго. Гэта страшна, Тася, калі хочацца забіць. Даросламу страшна падумаць... А калі такая нянавісць у малога!.. Ета, можа, самае вялікае шчасце, што нашы дзеці нічога такога не перажылі. Я не хачу, каб яны пазналі нянавісць. Я думаў пра ета, калі стаяў у сельмагу, хадзіў па лесе. Ты знаеш, я, відаць, зноў бы апынуўся ў Падказіным. Сіла якаясь цягне туды. Ды знаеш, што мяне спыніла? Леснікова хата, тая, дзе жыў Шмыга. У ёй даўно ніхто не жыве — не хочуць цяпер жыць у лесе... Без электрыкі, без тэлевізара, дзецям далёка ў школу... Я колькі

праязджаў міма — нічога ніколі не думаў. А тут убачыў забітыя аполкамі вокны і дзверы... як красты... І ажно ў сэрца ўдарылі. Усё роўна як тыя красты загарадзілі мне дарогу туды, у вайну... І мне вельмі захацелася дадому. Да цябе. І да дзяцей. Штоб расказаць ім... Яны павінны знаць. Праўда?

— Праўда. Яны павінны знаць.

— Але, мажа, добра, што Карней пайшоў, што ты адна. Мажа, мне трэба праверыць самога сябе. Перажыць зноў усё і паглядзець, што ж там, у маёй памяці засталося. Што не стлела. Калі чалавек робіцца шчаслівы, ён забывае пра гора.

— Цяпер я знаю: ты не забыўся.

— Не, я таксама забываўся. Але, мажа, так і добра. З такой памяццю страшна жыць, Тася. А мне хацелася жыць, як жывуць людзі. Я люблю працаваць, люблю пагуляць. Мой бацька быў такі — танцор, пявун, балалайка ў яго руках як не гаварыла чалавечым галасам. Валька ў дзеда пайшла. Але, знаеш, чаго я баюся? Ці зразумее Валя? За Карнея не баюся. Валя хмыкае, калі ёй пачынаеш гаварыць, як мы жылі, што перажылі... Для яе мы старамодныя.

— Не бойся. У Валі чулая душа.

— Толькі мала сарамлівасці. Пра ўсё яна можа гаварыць, як старая.

— Цяпер маладыя — усе такія.

— Карней не такі. Я ўспомніў, як мне было сорамна, што я пачуў матчыны словы, якія яна казала Шышку. Знаў, што яна нарошна пра другіх мужчын, штоб даказаць, што бацькі няма паблізу, што не вяртаўся ён, як пайшоў на фронт. Але ўсё роўна было сорамна. Не хацелася, каб матка ўзнала, што я чуў яе словы. Доўга я сядзеў у куточку за бочкай са сваім страхам і са сваёй нянавісцю да Шышкі. Не асмельваўся ўвайсці ў хату, бо матка магла пачуць, што дзверы з сенцаў на двор не рыпнулі, і здагадацца, што я быў у сенцах і чуў, як яны гаварылі. І на вуліцу не выходзіў — матка магла сядзець ля акна на двор і ўбачыць, што я выйшаў з сенцаў. Не помню, як я выбраўся. Здаецца, матка выйшла і не ўбачыла мяне, пайшла да суседзяў. Помню, што калі вылез з-за той бочкі, то на вуліцу да людзей не пайшоў, ні то я баяўся іх, ні то саромеўся, праз гарод пайшоў у поле... Дзе цяпер сасняк, тады поле было, Кузьмовай гарой звалася. Там некалі стаяў вятрак, але ў вайну ад яго мала што засталося, адзін шкілет, старыя пачарнелыя бэлькі, шалёўку ўсю абадралі... Ды дзецям гэта было месца гулянак. Усярэдзіне ляжалі жорны, а кругом ветрака — валуны. Добрыя схованкі. І на бэлькі ўзлезці, ажно туды, дзе яшчэ можна было павярнуць драўляны вал з рамай крылляў,— было храб-

расцю. Маткі ганялі за гэта, баяліся, што каторы з нас разаб'ецца. Каб у той дзень там былі дзеці, я, канечне, не пайшоў бы туды. Але дзень быў халодны — восень! — і нікога не было. Я доўга прасядзеў там адзін. Мучыла мяне адчуванне якойся віны. Чаго, за што — сцяміць не мог. Можа, там я пачуў адзіноту, тую, якой пасля ўсё жыццё баяўся. Тую адзіноту, калі нікому не можаш сказаць, што ў цябе на душы. У мяне была тайна — бацька, пра яе ніхто не знаў, акрамя маткі, і мы маглі пашаптацца з ёй... Мы шапталіся пасля сустрэчы з бацькам, кожны вечар, калі Анька засынала ўжо, я пытаўся штонебудзь такое пошапкі, з апаскай пазіраючы на вокны: «Мам, а дзе яны спяць?» — «Хто, Іванька?» — «Партызаны»,— «Спі, дурненькі. Не думай. У зямлянках спяць». У другі вечар: «Мам, а дзе яны патроны бяруць?» Больш матка не пытала — хто. «З арапланаў ім скідаюць».— «Ух ты!» У якую сілу выраслі ў маіх вачах партызаны, калі патроны ім возяць на самалётах! Так, не называючы бацькі, але разумеючы адно аднаго, мы з маткай успаміналі яго кожны вечар. І бачыў я, што яна ажно харашэла ад гэтых напамінкаў, але часам і палохалася і зноў папярэджвала: «Іваначка, ты ж нікому...» — «Што я, маленькі, мама?» І вось выходзіць, што нашу з ёй тайну знаюць паліцаі. За бацьку я не спалохаўся: кароткія ў іх рукі дастаць яго, няхай паспрабуюць. Але як мне цяпер гаварыць з маткай? Нельга ж выдаць, што я чуў, як яна гаварыла з Шышкам.

Доўга я сядзеў у тым ветраку, на абед не прыйшоў. Матка спалохалася, пачала шукаць, дзе я. Знайшла там. Узрадавалася. Але я не глядзеў ёй у вочы, саромеўся, здавалася, як гляну — так яна адразу пра ўсё здагадаецца. Як тады, калі Шышка завёў мяне ў школу. Я толькі апусціў вочы на яе жывот, а яна тут жа здагадалася, пра што паліцаі пыталіся. Бацьку сказала... Яна вяла мяне за руку, я ішоў, панурыўшыся, у зямлю глядзеў. Матка затрывожылася: «Што ты натварыў, што ў вочы баішся глянуць?» — «Нічога».— «Не, па табе бачу, што натварыў. Што? Іванька, скажы!» А што я мог сказаць? Я ад сораму згараў. Каб яна не казала пра чужых мужчын! Матка прасіла: «Іваначка, не дуры хоць ты. На маю няшчасную галаву і без тваіх фокусаў хапае ўсяго».

У той вечар яна адаслала мяне начаваць да бабулі і цёткі Хвядоры. Я там начаваў колькі начэй. А потым упёрся: не пайду. Хвядора вучыла мяне маліцца, і я ваяваў з ёй. Каб я маліўся! Яна не знае, дзе мой бацька, думаў я. Бацька партызан, няйначай — камандзір партызанскі, а я буду маліцца ёй!

Баба ў нас была вясёлая, разумная, яна смяялася з нашай «вайны». Я і цяпер не знаю, адкуль у цёткі Хвядоры такая набожнасць. Ад калецтва, ці што?

Калі прыйшлі немцы, Хвядора вазіла мяне ў Гарнастаі, каб перахрысціць: я быў няхрышчаны — бацька, уступіўшы у партыю, не дазволіў хрысціць свайго першынца. Аньку не вазілі, яе перахрысцілі маленькую, тайна ад бацькі, калі той на нейкія курсы ездзіў. Хрышчэнню я не супраціўляўся, бо ў той першы ваенны год быў яшчэ малы, дурны — абы паехаць куды. Помню папа: вясёлы, з чорнай, што ў цыгана, барадой, пасля ў Добрынцы казалі, што немцы арыштавалі таго гарнастаеўскага папа за сувязь з партызанамі. Я дрыгнуў нагой, калі ён памазаў мне пятку. Поп смяяўся. Хвядоры поп не падабаўся: маўляў, несур'ёзны і не па канону хрысціць...

Матка з маёй настойлівасцю згадзілася лёгка: не хачу хадзіць нанач да бабы — не трэба. Сказала, што са мной весялей, усё-такі ў хаце мужчына. А калі ўвечары Анька заснула, ціха сказала: «Іванька, я пакажу табе штосечкі». І пачала завешваць вокны раднамі і посцілкамі. Я згараў ад нецярплівасці: што яна можа паказаць? Можа, бацька нешта перадаў?

Перад вайной мы гадавалі трусоў, тады многія гадавалі, модна было, як цяпер у Добрынцы індыкоў. Адну нейкую зіму ці восень трусы жылі пад печчу. І пад фундаментам печы прарылі нару ў падполле ў сенцы. Помню, як тады здзіўляліся мужчыны: трусы сталі што барсукі.

Матка ўспомніла пра гэтую трусіную нару. Пакуль я начаваў у бабулі, яна вырыла пад печчу яму, прыкрыла яе старой дошкай, а з ямы па той трусінай нары, расшырыўшы яе, зрабіла ход туды ж, у падполле сенцаў, шырокі ход — каб чалавек пралез.

Матка запаліла свечку, дала яе мне і сказала: «Лезь, не бойся, я палезу за табой». Я не баяўся. Я і адзін мог бы палезці. Але матка, цяжка дыхаючы, нібы несла нас з Анькай на плячах, вылезла ў падполле следам за мной. Там, пад сенцамі, прашаптала: «Патушы свечку».

Пад сенцы забіраліся куры, там было нямала памёту і пагана смярдзела курамі, мышамі, струхлелым дзеравам. Мы прапаўзлі да задняй сцяны сенцаў, матка адсунула чурбак, гэтага лаза раней не было, і мы вылезлі пад паветку, дзе складалі дровы, паміж шуркамі наколатых дроў.

Мне вельмі падабалася такая схованка. Якая гульня, думаў я, каб хлопцам паказаць! Ні ў каго такога лаза няма.

Але, калі ўвайшлі ў хату, матка, усё яшчэ цяжка дыхаючы і дрыжучы, прытуліла мяне да сябе і сказала: «Іваначка, навучыш

Аньку лазіць. Каб яна не баялася. І калі што... Калі яны прыйдуць калі-небудзь уначы... Немцы, паліцаі... Я вас разбуджу... Пакуль яны будуць стукаць, схаваецеся там, пад сенцамі. А калі яны пойдуць і я вас не пазаву, вылезьце пад паветкай... Да бабы не хадзіце. Чуеш ты? Не трэба тудыісці. У Скіток ідзі... да цёткі Аўдоцці». Быў за рэчкай, за Шумілінскім лесам, пасёлачак невялічкі — хат на дзесяць...

— Я помню. Яго пры мне ўжо знеслі.

— Праўда... Я забыўся, калі што знеслі. Там, у Скітку, жыла матчына сястра... Ды ты помніш Аўдоццю, яна пры табе памерла. Яна старэйшая была за матку. У яе не вярнуліся з вайны муж і два сыны. Пасля вайны ў яе было нядобра з галавой.

— Яна сядзела на прызбе і чакала сыноў.

— Я жалеў яе. Але хадзіў да яе рэдка. Яна ўзнавала мяне і пыталася, як жыве Алёна, і наракала, што да яе не прыходзіць, забылася на сястру, і хлопчыка свайго маленькага не пакажа, матка, відна, сказала ёй, што чакае дзіця, і гэта засталося ў памяці. А смерць сястры чамусьці правалілася. Яна чакала сыноў і чакала сястру. Я баяўся, калі яна пачынала гаварыць пра матку, як пра жывую. Да яе хадзіла цётка Хвядора. Хвядора казала, што з ёй яна ўсё ўспаміналa... «Светлы ангел да яе прылятае»,— гаварыла Хвядора.

Пасля тых матчыных слоў мне стала страшна. Успомнілася Шышкава пагроза, як ён сказаў, каб матка перадала бацьку, што калі яму дарагія дзеці... І я здагадаўся, што матка такім чынам хоча нас ратаваць. Але самае страшнае, можа, было ў тым, што я... як табе сказаць... з нейкай халоднай мужчынскай разважлівасцю не паверыў у такую схованку. Яна здалася мне больш прыгоднай для нашых дзіцячых гульняў, чым для таго, каб схавацца ад Шышкі, ад Лапая. Штоб не з Анькай — дзела другое. Адзін я схаваўся б... Але Анька... Матка наказала, каб я навучыў Аньку не толькі лазіць, але і настрашыў яе так, штоб яна слова нікому не пікнула. Не верыў я ў гэта: дзіця ж зусім, пяты гадок.

З таго дня ночы для мяне сталі трывожныя, поўныя страшных сноў. Матка сама казала, што я вельмі неспакойна стаў спаць. Тады, помню, я сказаў ёй: «Мамачка, хадзем да бацькі ў партызаны». Яна спалохалася такой маёй прапановы. «Што ты пляцеш, дурненькі! Каму мы там трэба такія?» Якія такія — я сцяміў: з дзіцяткам грудным, якое мусіць з'явіцца на свет, ды і Анька яшчэ малая. Праўда, хто такіх возьме ў партызаны? Пасля, у сорак трэцім, у брыгадзе быў сямейны лагер, у яго пасля смерці бацькі адаслалі і мяне, але я вярнуўся назад, у баявы атрад, і да самага вызвалення быў пры камандзіры і камісары.

Анька ўдзень лёгка згадзілася лезці следам за мной у падпечча і ў нару, пад сенцы, ёй падабалася такая гульня. Я нагаварыў ёй розных казак наконт гэтага падкопу, што, маўляў, яго пракапаў зайчык і што пра гэта нікому — ні дзецям суседскім, ні бабулі — няможна казаць. І штоб матка не знала. Тады зайчык наробіць многа другіх схованак, а калі расказаць, то ён рассердзіцца і перабярэцца да Манькі Цімашковай; падружка ў яе была, суседка.

Матка ўсцешылася, што Анька так лёгка лазіць у падпечча і па нары — у падполле і ў дрывотню. Можа, матка супакоіла сябе хітрай схованкай. Мне ж яна не здавалася хітрай і надзейнай. А можа, па другой прычыне матка як і забылася на яе, ды і мы з Анькай забыліся, добра ў тое падполле, дзе смярдзела, злазіць раз-два, а пасля — чаго туды лазіць, хапала ў нас іншых забаў. Матка, здавалася мне, ажно павесялела, быдта знайшла паратунак ці абарону ад тых Шышкавых пагроз. Я падумаў: ці не прыходзіць на ноч бацька, і колькі начэй стараўся не засынаць, штоб падсцерагчы. Ад думак, што бацька можа быць з намі, у хаце, было і радасна, і страшна. Успаміналіся Шышкавы словы, што паліцаі пільнуюць, ці не ходзіць ён дадому, і што каб хадзіў, то даўно злапалі б. Слова якое выдумалі, у нас так не гаварылі, мабыць, той, чужак, прынёс яго, слова гэтае, таму і мянушку яму далі Лапай. Радасна было мне ад таго, што думалася: не баіцца іх бацька, смелы ён, дужы, як багатыр з казкі, і не адзін ходзіць, з атрадам: бацька ў хаце, а ля хаты партызаны стаяць, і паліцаі баяцца іх, дрыжаць у сваёй школе, як цюцікі.

Па маім дзіцячым уяўленні, доўга было ціха, ніхто нас не чапаў, і бацька, канечне, не прыходзіў. Можа, мне так здавалася, таму што была восень, поле ўсё ўбралі і гарод, дажджы ішлі і час цягнуўся нудна. Рана мароз прыціснуў, дзеці коўзаліся ў «стараку». Памерзлі апенькі, і ў лес хадзілі толькі па дровы. У нас не было свайго каня, стараста прымацаваў нам каня старога Кульгі. Скупы быў стары, як і сын яго цяпер, сварлівы, прыдзіраўся: не так запрэглі, холку каню намулялі, супоню падмянілі, атосу згубілі... Матка не любіла прасіць у яго каня, і мы насілі дровы на сабе, вязанкамі, матка, я і цётка Хвядора. Я лічыў сябе мужчынам, і мне хацелася накласці ў вязанку болей, ды матка не давала, а цётка ёй не давала насіць вялікія вязанкі. Я знаў — чаму. Я ўсё знаў... Цяпер часта гавораць па тэлевізары, па радыё аб гэтай... як яе?

— Акселерацыі.

— Ты, як Валька, усе мудрыя словы помніш. А я слухаю і часта думаю: не тое гэта, ніякая гэта не акселерацыя. Канечне, калі глядзець кожны дзень тэлевізар, кіно, за каровамі хадзіць з транзіс-

тарам, то само сабой... дзеці будуць знаць тое, чаго мы не зналі не толькі ў іх узросце, а можа, і тады, калі на вячоркі ўжо хадзілі. Але мы знал і другое. Я табе скажу, што мы ўзнавалі ў вайну... пра самую вайну, пра людзей і пра ўсё кругом, пра жывёлу, напрыклад... як яна целіцца, коціцца, як што ў прыродзе нараджаецца... як я ўсё гэта знаў у свае сем гадоў, то цяпер таго і сямікласнікі не знаюць... гарадскія, то ручаюся, што не знаюць.

Успомніў я пра сваю вучобу і ўспомніў яшчэ адно, што паказвае нашу матку. Яна вучыла мяне па вечарах. І з буквара таго, па якім вучыла, яна не выдрала партрэты Леніна і Сталіна. У суседзяў, у каго засталіся даваенныя кнігі, усё наша савецкае было павыдзірана. Матка, канечне, хавала буквар за абразы і наказвала, каб я ўдзень не браў яго. Знаеш, гэтых тайных вячэрніх урокаў я чакаў, як свята, бо матка прызналася, што гэта бацька ёй наказаў, каб яна вучыла мяне. Мне здавалася, што ўжо тым, што я разглядаю Сталіна і Варашылава, ужо гэтым я раблю шкоду Гітлеру і паліцаям і памагаю нашай арміі і бацьку-партызану.

Словам, доўга было спакойна. Паліцаі і то неяк рэдка кідаліся ў вочы і нічога такога не зрабілі, штоб размова пра іх ішла. Толькі пра Сталінград мужчыны гаварылі. Дзед Качанок павесялеў, казаў, што Сталінград — цвёрды арэх, зломіць там Гітлер зубы. Яшка па сакрэту сказаў мне, што ў дзеда ёсць савецкая газета і ў ёй партрэт Сталіна. На такі давер вельмі ж хацелася пахваліцца, што ў мяне ёсць кніжка з партрэтамі і Сталіна, і Леніна, і Варашылава. Але я ўсё ж стрымаўся, не сказаў, хоць і грызла мяне, што раблю не па-таварыску: не толькі Яшка, але і дзед яго расказвае мне пра такое, чаго нікому не трэба знаць, а я ім — ні слова. Я баяўся, што, сказаўшы пра адно, менш важнае, захочаш сказаць і пра самую тайную тайну — пра бацьку. Стары Качанок, канечне, мог чуць, што Карней Батрак у партызанах, аднак мне пра бацьку ніколі не гаварыў.

Было ціха ў нашай Добрынцы. Але ў адну ноч матка асцярожна пабудзіла мяне, яна будзіла дзяцей вельмі асцярожна, каб не напалохаць; часта расказвала, што яе дзядзька крыкнуў на соннага сына і той з таго крыку захварэў на падучую. Эпілепсію, так? Матка чагось вельмі баялася такой хваробы. Яна мяне пабудзіла, пацалаваўшы ў вуха: «Прасніся, Іванька». Хоць нямала часу прайшло ад сустрэчы з бацькам, ад наведвання Шышкі, але спаў я чутка, трывожна. Падхапіўся спалохана, і яшчэ больш спужаўся ад чырвані, што заліла шыбы, звычайна чорныя ўначы, лажылася водбліскам на сцены, на абразы. «Не бойся, Іванька,— супакоіла матка.— Гэта пажар. Ад нас далёка. Здаецца, калгасны свіран гарыць».

Ноч была светлая, месячная. Поўная. На стрэхі іней асеў і ў водбліску пажару блішчэў, што золата. Гарэў-такі свіран. Ён стаяў за Кудлаеўкай, чуць далей, дзе цяпер сельпоўская грыбаварня. Ад нас праз гароды не так далёка. Але ноч была ціхая, без ветру. Полымя шугала ўгору, іскры ляцелі ў неба і, як зоркі, гаслі там. Пажар не пагражаў сялу. Таму ніхто туды не бег. Суседзі моўчкі, як бы не бачачы адзін аднаго, стаялі на сваіх гародах і глядзелі, як палае свіран. Ля пажару мітусіліся адзінокія постаці, паліцэйскія, ды тыя, хто жыў блізка. Ні гоману, ні звону, як бывае на пажарах. Адзін трэск агню. Ды сабакі вылі, у школе, паліцэйскія, і тут, ля шашы ў старасты, у другіх дварах сабак звялі яшчэ ў першую ваенную восень, такі загад быў. Чаму яны баяліся сабак?

У свірне тым ляжала збожжа, сабранае на падатак, які плацілі з раздзеленай зямлі. Не ўсё збожжа, большую частку немцы вывезлі яшчэ ў пачатку восені, але казалі, што заставалася нямала грэчкі, ячменю, проса, там жа былі воўна, пер'е, скуры — падатак быў на ўсё, што расло ў полі, на гародах, у хлявах. Я адразу падумаў, што падпалілі партызаны, можа, бацька мой, і радаваўся. А матка прытуліла мяне да сябе, усё роўна як баялася, што я сарвуся і пабягу туды, на пажар, і дрыжала сама. Ад чаго? Ад холаду? Ад страху, канечне, бо, помню, шаптала: «Ой не трэба было ім ета рабіць! Ох не трэба». Не разумеў я тады, што матка шэпча. Каму рабіць? Што рабіць? Не здагадваўся, чаму яна дрыжыць уся. Мяне, можа, таксама трэсла, але мяне — ад узбуджанасці. Пажар любы хвалюе, я пасля бачыў, як людзей калоціць на пажарах, а той асабліва мяне хваляваў, быдта гэта я падпаліў свіран з нямецкім дабром.

Уранні прыехалі немцы, цэлая машына, такіх яшчэ ў нас не бачылі — з чарапамі на шапках. Адзін выгляд іх напужаў людзей. Сяло прыціхла. Рэдка хто выходзіў са сваёй хаты. Толькі наша матка завяла нас з Анькай... Да каго, ты думаеш? Не да бабы, не да цёткі Аўдоцці. Не да суседзяў. Праз гароды, крадучыся, завяла на другі край сяла да Паліводы. Да настаўніка. Я табе расказваў... Гэты Яўлампій Міканоравіч да рэвалюцыі яшчэ настаўнічаў у нас, пры Савецкай уласці ўсё сяло навучыў чытаць, пісаць, лікбез вёў. Калі стала сямігодка, ён і тады малодшыя класы вучыў. Яго любілі не так, як тых, што з інстытутаў прыязджалі, верылі, што Яўлампій Міканоравіч самы вучоны. Гаварылі: адзін Палівода ўсё знае, усе прадметы, толькі не хоча брацца за ўсё. Ён не толькі вучыў, але і лячыў. За гэта яго не любілі некаторыя даваенныя кіраўнікі. І за тое, што за праўду ваяваў. Кажуць, яго арыштоўвалі ў трыццаць сёмым. Але стары ён ужо быў, гадоў семдзесят меў, а можа, сын памог — к таму часу вучоным стаў,

у маскоўскім інстытуце выкладаў. Помніш, гадоў дзесяць назад прыязджаў акадэмік Пятро Яўлампіевіч Палівода? Мне так хацелася запрасіць яго ў госці да нас, ды я не асмеліўся. Астаповіч яго павёў да сябе. А што яму мог расказаць Астаповіч? Я мог бы расказаць пра бацьку яго...

Гадоў колькі перад вайной стары ўжо не рабіў у школе, на пенсію яго паслалі. Жонка ў яго памерла, і ён жыў адзін, бабылём. Бабы нашы памагалі яму памыць, прыбраць, гарод дагледзець — пасадзіць, прапалоць. За гэта ён лячыў іх і дзяцей. Ды ён і сам усё ўмеў, толькі сілы не хапала. Ён вучыў тых жа жанчын такім жаночым справам, як згатаваць ежу такую, якую ў Добрынцы не ўмелі гатаваць. Ці там вепрука разабраць, каўбасы асобыя зрабіць, капчонасці, пірог спекчы такі, што купленыя тарты не дакажуць...

Вельмі я здзівіўся, што матка павяла нас з Анькай да гэтага чалавека. Ніколі мы ў яго доме не былі, і матка туды не помню, штоб хадзіла. Дом яго па тым часе, можа, быў найдабрэйшы ў сяле, ажно на чатыры акны на вуліцу, як у нас цяпер. Пад бляхай. У доме было многа кніжак, фігурак фарфоравых, карцінах на сценах у прыгожых рамках, талерак розных, чарак, белагубак. Мяне, канечне, усё гэта мала цікавіла. Хіба толькі кніжкі. Не разумеў я, чаму ў Паліводы выстаўлена столькі кніжак. Мне здавалася, што ўсе кніжкі савецкія, таму, каб не было бяды ад немцаў, іх папалілі некаторыя людзі, а наша матка хавала тую кніжку, па якой вучыла мяне чытаць. А тут раптам — цэлая шафа кніжак. Што ж гэта за кніжкі такія, што паліцаі і немцы не чапаюць іх? Ці, можа, яны баяцца прыходзіць да старога?

Ого, пабаяцца яны! Значыцца, выходзіць, ёсць кніжкі, за якія можна не баяцца? Але, папраўдзе, і кніжкі нядоўга займалі маю ўвагу. Анька плакала, калі матка пайшла. Але стары хутка забавіў яе цацкамі ды казкамі, да смеху давёў. Малая, што ты хочаш, думаў я. Ён і мяне стараўся рассмяшыць, але я хоць і не глядзеў ваўчанём, аднак і смехам не заліваўся: не чуў я казак, ці што! Так я думаў. Матка строга наказвала: пакуль яна не прыйдзе па нас, каб я адзін — нікуды з настаўнікавай хаты, толькі калі нас павядзе сам Палівода, тады трэба ісці і без яе, без маткі... Але я ўсё ж меркаваў, як бы ўцячы, збегчы да Яшкі Качанка і разам з ім паглядзець, што робяць на сяле немцы. Шкада, праўда, было Аньку: гэта пры мне яна слухала казкі, а без мяне такога рову наробіць, што старому не саўладаць з ёю.

На шчасце, матка скора вярнулася. Не такая спалоханая, як раніцой, паспакайнелая, здалося мне, нават павесялелая. Хоць потайкі, але не тоячы ад мяне, сказала Паліводу, што свіран той з хлебам

спалілі браты Казарскія, а самі ў партызаны пайшлі. Ды не адны — і матку, выходзіць, павялі з сабой. Немцы і паліцаі матку іх шукаюць, усіх суседзяў і сваякоўператрэслі, загад абвясцілі: хто хавае бандзітаў ці іх матку, той будзе расстраляны на месцы, без суда. Немцы і паліцаі вельмі злосныя яшчэ і таму, казала матка, што Казарскі Сяргей... ён цяпер загадчыкам райана на Віцебшчыне, перад вайной у Мінску вучыўся, дык гэты Сяргей, можа, за тыдзень перад пажарам у паліцыю паступіў і ў тую ноч каравуліў свіран. Палівода нічога такога не сказаў, але я пільны быў — убачыў, як ён узрадаваўся, ажно пасвятлеў і руку аб руку пацёр. Тады ўжо я здагадаўся, чаму матка прывяла нас да яго — з партызанамі звязаны настаўнік. Пасля ў атрадзе бацька расказаў, што Яўлампій Міканоравіч быў тым чалавекам з Добрынкі, з кім ён адразу ўстанавіў сувязь, як толькі прыйшоў у свой раён, у атрад Сталіна. Бацька быў абучаны ў спецыяльнай школе. Высадзілі на парашутах іх групу ў Чачэрскіх лясах, а пасля рассылалі ў атрады камандзірамі дыверсійна-падрыўных груп. Праз Паліводу ён і матку першы раз пазваў у лес. У архівах няма прозвішча Паліводы, што ён сувязным быў. А хіба ж не? Я так і кажу ім. Хіба не можа лічыцца партызанам чалавек, якому так паверыў бацька і які, канечне ж, знаў, дзе атрад? Бацька казаў мне: матка павяла нас да Паліводы таму, што калі б яе арыштавалі пасля пажару, то ён, стары Палівода, павёў бы нас, дзяцей, у атрад. Бацька ёй сказаў, штоб не пасылала нас да цёткі. У цёткі адразу знайшлі б. То хіба ж гэта не сувязны? Сяргей Казарскі таксама пацвярджае, што Палівода падказаў яму пайсці ў паліцыю і спаліць свіран. Сяргей кажа, што ён прыйшоў да свайго настаўніка і папрасіў таго параіць, як знайсці партызан. А Яўлампій Міканоравіч, кажа, спытаў у яго: «А з чым ты пойдзеш да партызан?» — «Як, кажа Сяргей, з чым? З рукамі. З галавой». Аружжа ў іх ніякага не было. Шукалі, не знайшлі — другі год вайны, усё падабралі. «А ці не мала гэтага?» — папытаў стары, а потым, кажа, быдта неўзнарок кінуў, што вельмі ж ціха добрынская паліцыя жыве, морды нажралі, што ражкі, ад сну пухнуць. Во тады, кажа Сяргей, і цюкнула яму ў галаву, што трэба зрабіць, каб мець права пайсці к партызанам. Ды такому чалавеку, скажу табе, трэба асобны помнік паставіць, калі па-разумнаму паглядзець. Настаўніку таму, Паліводу. А мне Хведарцоў кажа: хто сваёй смерцю памёр, таму помнікаў не ставяць. Дурное гаворыць. Галоўнае — як чалавек пражыў, што зрабіў людзям. Канечне, усім не паставіш, але такому, як Палівода... Каб усе помнілі добрага чалавека і што ён людзям зрабіў. Аднак і пра такіх, як Шышка, каб не забываліся. Калі Пліска пацалавалася з ім...

— Не карай Пліску. Старая неразумная жанчына. У яе вылецела з галавы...

— Яна — старая. Забылася. А маладыя не бачылі вайны, не помняць... Ім усё роўна, хто адкуль вярнуўся. Хто як ваяваў.

— Не, ім не ўсё роўна. Карнею, Валі...

— Я кажу не пра сваіх дзяцей.

— Я таксама думаю не толькі пра сваіх. Пра іх пакаленне.

— А я думаю пра іх бацькоў, пра нашых з табой равеснікаў і хто маладзейшы за нас, але жыць навучыўся ўжо — абы ціха. На сходзе ні адзін не хоча слова сказаць. Ці на таварыскім судзе. Усе знаюць, а сведак не знойдзеш. Ніхто не бачыў, ніхто не чуў. А калі такія пачнуць цалавацца з Шышкам?

— Ваня! Адна справа — нейкі самагоншчык. Зусім другое — забіць дзяцей. Забойства людзі ніколі не даруюць.

— Ты вельмі верыш людзям.

— А як жа інакш, Ваня. Ты сам верыш. Не трэба, Ваня, з-за адной дурной бабы кідаць цень на людзей. Ты ж не такі. Прабач. Я ўвесь час перапыняю цябе.

— Не, я сам. Мне страшна адразу падступіцца да той ночы.

— Ты, можа, іншым разам? Можа, сходзім да Каржова?

— Не, не расказваць страшна. Мне страшна ад таго, што да сённяшняга дня я рэдка ўспамінаў пра тую ноч. Я, можа, сам стаў у нечым падобны на Пліску.

— Што ты, Ваня!

— У яе, можа, ад гора і ад старасці розум аслаб. А ў мяне? А я забыўся ад шчасця. Жонка, дзеці — людзям завідкі. На кожнай дошцы партрэт мой. У хаце — хіба толькі птушынага малака няма. Таму і не хацелася ўспамінаць усё перажытае. Не, да Каржова мы не пойдзем. Я сёння — там, Тася! Там, у вайне. Я — малы. Уранні, калі сядзелі тут з Карнеем, я, адзервянелы ад холаду, падбіраўся да Штыхавага стажка. А цяпер я — пад печчу, і мяне слепіць, глушыць агонь яго аўтамата, засыпае пабітая кулямі цэгла... Ты знаеш, у тую ноч ім далі аўтаматы. Да таго ў паліцыі былі вінтоўкі, нашы, рускія. Калі ён прывёў мяне ў школу, каб распытаць пра бацьку, вінтоўкі стаялі ў пірамідзе. Па сяле яны рэдка хадзілі з вінтоўкамі. У Шышкі быў пісталет, я казаў табе: ён хацеў мяне купіць тым, што вучыў стрэліць з яго. А калі яны ўваліліся з эсэсамі ў нашу хату, у яго быў аўтамат. Не помню, казаў я табе, што гэта было перад святам, перад Акцябрскай рэвалюцыяй, у перадсвяточную ноч. Канечне, яны нарошна выбралі такую ноч. Я чаму запомніў гэта? Калі мы ляглі з Анькай спаць... яна абняла мяне рукамі... Калі мы лажыліся, яна часта во так абнімала.

Калі я заплачу, ты не глядзі на мяне, мне так будзе лягчэй. Я сягоння малы. Можна і заплакаць. Не кажы нічога, калі ласка. Памаўчы. Я, было, крыўдзіў сястру, мог шлёпнуць, падмануць, уцячы, каб не гуляць з ёй, калі матка куды ішла. А Анька ўсё роўна лашчылася да мяне, цалавала. Я, знаеш, дурачок быў — саромеўся, калі яна так абнімалася пры чужых, пры хлопцах, равесніках маіх. А калі Анька цалавала мяне толькі пры матцы, я — нічога, мне такая яе ласкавасць падабалася, бо я знаў, што матка цешыцца і радуецца, гледзячы, як мы, сястра і брат, любім адно аднаго. Анька маленькая, а любіла больш верна, па-жаночаму... Ты знаеш, сягоння ў мяне ўвушшу той яе радасны шэпт. Дыханне яе... Яна шаптала, што заўтра мамка спячэ булак... белыхбелых і смачных-смачных. У мяне ажно слінкі пацяклі — калі я еў тыя булкі, на вялікадня хіба! Я адразу не паверыў проста так, Анька была выдумшчыца, як Валька наша, малая. Помніш, як яна выдумляла?.. Ды Анька зашаптала, што заўтра свята вялікае, таму мамка спячэ булкі, але каб я пра булкі і пра свята нікамусенькі не казаў, бо прыйдуць немцы і ўсё забяруць... Тады і я ўспомніў пра савецкае свята. Пра яго нам з Яшкам расказваў дзед Качанок і мамка ў буквары чытала. Ды і сам я помніў, як перад вайной хадзілі са сцягамі па вуліцы, ля сельсавета была чырвоная трыбуна, з яе гаварылі прамовы, і бацька паднімаў мяне на плечы, каб я ўсё бачыў: тады я быў, як Анька, трохі хіба большы. Я радзіўся ўвосень, на Акцябрскае свята, у саракавым мне было роўна пяць, а Анька, казала цётка Хвядора, перад Пятровым днём нарадзілася, улетку, ёй ішоў тады пяты гадок. Анька і я доўга шапталіся, не засыналі. Так доўга, што мама насварылася на нас, чаму не спім. Яна быдта сердзілася, але мы... мы па голасу чулі, калі мамка сердзіцца па-сур'ёзнаму, а калі — абы папужаць трохі нас, каб «на галовах не станавіліся». Тады яна пасварылася проста так, з матчынай радасцю за нашу радасць, за шаптанне, за смех. Мы гэта пачулі і, каб зрабіць матцы прыемна, прыціхлі. Сцішаная, Анька скора заснула, малая, што ты хочаш; а я доўга не засынаў. Керасіну, канечне, не было, палілі капцілку, мазут нейкі ванючы, ад якога цётка Хвядора пляваласся, казала, што ад яго нячыстай сілай смярдзіць, Гітлерам,— у самое яе гарэла перад абразамі лампадка з пахучым маслам. Дзе яна даставала тое масла? Капцілка ў той вечар стаяла на прыпечку, і матка поркалася там ля печы. Мне здалося, што яна рашчыняла цеста з белай мукі, можа, і праўда рашчыняла, відаць жа, нешта гатавала да свята, бо позна не лажылася. Я падумаў, што пячы булкі яна будзе не ўранні, а ноччу, каб ніхто не бачыў. І не засынаў — хацеў пачуць, як пахнуць гарачыя булкі. А яшчэ думаў, што не толькі для нас з Анькай матка напячэ булак — для

бацькі, для партызан, яны ж, канечне, будуць святкаваць, як да вайны. Добра помню, што вельмі хацелася ўзнаць, ці будуць партызаны хадзіць са сцягамі па лесе. Убіў сабе ў галаву, што бацька абавязкова прыйдзе ў такую ноч, каб забраць булкі, не можа не прыйсці, недарэмна матка так позна поркаецца, недарэмна яна цыкнула на нас, каб мы засыналі скарэй. Я прытварыўся, што сплю, але сам рашыў, што не буду спаць усю ноч. Так захацелася пабачыць бацьку! Але што ты хочаш — дзіця! Набегаўся за дзень, натаміўся... Даволі было сцішыцца, сагрэцца пад коўдрай, Анька побач у носік сапла, як іграла тоненька на дудачцы...

Ты знаеш, ніхто так і не помніць, калі яны ўварваліся. Адны суседзі казалі, што акурат апоўначы. Старая Каржова, Паўлава матка, ходзікі быдта схапіла са сцяны, калі пажар пачаўся, і ходзікі паказвалі роўна дванаццаць. А цётка Хвядора, якой не спалася ў тую ноч: чула, кажа, сэрца бяду, балела,— так яна ні з кім не згаджалася, сцвярджала, што хата наша загарэлася пасля другіх пеўняў, калі пеўні двойчы прапелі, дык гэта ж, лічы, пад ранне ўжо.

Я прачнуўся ад таго, што матка тармасіла мяне не так, як будзіла на грыбы. На ўсю сілу: «Іванечка, Іванечка, родненькі, прачніся, сыночак». Анька прачнулася раней за мяне, можа, таму, што матка схапіла яе на рукі. Анька, спалоханая, спрасонку, залівалася ад плачу.

У дзверы сенцаў моцна грукалі. У вокны свяцілі.

Матка схапіла мяне другой рукой, пацягнула да печы. Ды я прачнуўся ўжо, ачухаўся і здагадаўся, хто грукае. Матка прасіла, шаптала: «Іванечка, сыночак, у падпечча, у падпечча лезь. І Аньку... Аньку! Пад сенцамі паляжыце. Калі яны пойдуць, назад у хату не вылазьце, туды, туды... Ты знаеш — куды. Да бабы не хадзіце... Да Яўлампія...»

Ды мне не трэба было загадваць. Я ўсё сцяміў сам... І адразу палез у падпечча. Акно напроціў печы матка кожны вечар завешвала радном, ды і на другія вокны парабіла высокія занавескі. З вуліцы свяцілі ў столь. Не знаю, чым яны свяцілі, можа, фарамі. Крычалі панямецку... Па-нашаму не чуваць было.

Але Анька... сястрычка мая, малая ж, дзіцятка неразумнае, са мной калі лазіла, смяялася, забаўлялася, не баялася ні цемнаты, ні тхароў, ні мышэй. А тут учапілася ў мамку і закрычала на ўсю хату. Я вылез назад, каб забраць яе, угаворваць пачаў. Але яны ўдарылі прыкладм якраз у гэтае акно, што напроціў печы, зазвінелі шыбы, холадам пацягнула. Матка, балюча схапіўшы мяне за плячо, запіхнула назад у падпечча. Сама закрычала сярдзіта: «Чую, чую! Каму там не церпіцца? Адзенуся і адчыню! Акно разбілі, ірады!»

Іх увалілася многа. Адзін за адным... адзін за адным... У бліскучых чобатах. Я бачыў гэтыя чобаты, ад іх пахла па-чужому, незнаема. Я ўсё жыццё чую той гуталін. Неяк я пачуў яго ў цягніку, калі ехаў у Мінск, і мяне ажно закалаціла. Яны прынеслі святло з сабой. Многа святла. З цёмнага падпечча відно было святло. І чобаты. Адны чобаты бліскучыя. Многа пар іх спынілася напроціў падпечча. Гаварылі па-нямецку, здалося мне, упачатку нязлосна. Але я пачуў голас маткі, яна сказала некаму сярдзіта: «Не хапай! Дай дзіця адзець, ірад! Не панясу ж яе во так, голую».

Ёй адказаў знаёмы мне голас па-руску, адказаў быдта са смехам: «Можаш не спяшыць. Адзенуць без цябе. Афіцэр пытае, дзе твой муж». Лапай так гаварыў. «А то ты не знаеш, дзе мой муж. На фронце, адкуль ты ўцёк!» — «Пагавары! Пагавары болей! Дагаворышся, сучка партызанская!» — «Ад сабакі паганага чую».

Тады пачуўся голас Шышкі, ён мацюкнуўся, закрычаў на матку, папракаючы, быдта яна была ва ўсім вінаватая, у тым, што яны так уварваліся:

«Алёна! Што ты сабе думаеш! Упадзі пану афіцэру ў ногі. Папрасі! За дзяцей папрасі».

Не пачуў я, што адказала матка, бо вельмі ж злосна закрычаў Лапай:

«А сын дзе? Сын дзе? Куды сына дзявала, шлюха?»

«У радні хлопец»,— ціха сказала матка.

«У якой радні? У якой радні? Дзе?» — ажно шалеў Лапай, і немцы лапаталі ўсе адразу, і чобаты іх пайшлі міма печы, заскрыпелі, засмярдзелі гуталінам.

«Ды ў старой Батрачыхі, канечне. Знойдзем. Нікуды не дзенецца».

«Пад печчу паглядзі! Пад печчу! Шышка! Не лаві варон!»

Сцяміўшы, што яны будуць свяціць ліхтаром пад печ, я апусціўся ў тую ямку, што выкапала матка, з якой вяла нара пад сенцы, ямка тая была злева ля сцяны, прыкрытая лёгкімі шалёўкамі, да іх матка прыклеіла якіясь лахманы; калі б хто заглянуў пад печ, то ўбачыў бы толькі тыя лахманы пыльныя, матка попелам іх пасыпала, курыным памётам запэцкала, быдта пад печчу трымалі курэй ды так і не падмялі пасля таго. Мне трэба было насунуць гэты шчыток з лахманамі, як вучыла матка, каб закрыць ямку. Не помню, ці то я з пераляку не закрыўся, ці неакуратна закрыўся. Ды Шышка не стаў свяціць ліхтаром, ён сунуў пад печ дула аўтамата і... пачаў страляць. Доўгімі чэргамі...

— О божа!

— Ты знаеш, я не помню, ці было страшна. Можа, ад таго, што пасля было страшней, той страх не застаўся ў памяці. Адно і цяпер стаіць у вачах: яркія-яркія, як маланкі, успышкі выстралаў перад вачамі, аўтамат біў перад самым тварам, во так, ля самых вачэй. Я глядзеў угору. Яны асляпілі, тыя маланкі, аглушыў грукат, пад печчу біла, што з пушкі. Ён, канечне, вадзіў аўтаматам ва ўсе бакі, кулі крышылі цэглу. Мне здалося, што абвалілася ўся печ. На спіну балюча сыпаўся град камення, таму я, відаць, прыгнуўся, галаву схаваў у нару. Калі стрэлы пад печчу сціхлі, я, можа, не адразу падняў галаву ці, можа, вельмі аглушаны быў. Чуў, што страляюць недзе далёка, як бы ўсё роўна на вуліцы. А потым стала ціха-ціха. Ні галасоў. Ні скрыпу чобатаў. І тады я пачуў Аньчын голас... І ў іх не адразу паднялася рука на дзіця. Анька не плакала. Яна прасіла. Як маленькая. І не як маленькая. Які гэта быў голас, Тася! Яна прасіла: «Дзядзечка, не страляй у мяне, мне будзе больна». Не глядзі на мяне. Я памаўчу. Не, ты не ўхадзі...

— Я прынясу табе вады.

— Дзякую, Тася.

— Не трэба больш расказваць, Ваня.

— Не бойся, цяпер ужо ўсё. Самае страшнае было пабыць у падпеччы і пачуць... яшчэ раз пачуць яе голас... Аньчын. Малому, мне здавалася, што каб я выскачыў у той міг, кінуўся на іх, грыз зубамі, то мог бы ратаваць сястрычку. Я лічыў сябе трусам, паганым баязліўцам. І доўга нікому ні ў партызанах, ні ў дзетдоме, ды і тут, у Добрынцы... нікому не мог сказаць, што я ўсё чуў. Толькі бацьку сказаў. Цётцы Хвядоры гаварыў, што вылез праз нару і ўцёк адразу.

Толькі калі пачалі падрастаць свае дзеці, калі я паглядзеў на іх, сямігадовых, то, можа, тады толькі зразумеў, які я быў наіўны ў гэтых сваіх дзіцячых мучэннях. Што я мог зрабіць, хлапчанятка няшчаснае?

Я хацеў вылезці, калі яны пайшлі, калі прагрукалі міма печы іх чобаты. Але ўжо там, у падпеччы, мне ўдарыў у нос смурод керасіну і дыму. А калі я высунуў з падпечча галаву, то ўбачыў: ад стала коціцца клубок агню. Я не адразу сцяміў, адкуль, нашто такі агонь, і зноў злякаўся. Тады я ўспомніў матчын наказ і быстра палез у нару. Пад сенцамі было ўжо дымна, я чуць не задыхнуўся, чуць знайшоў той завал у дрывотню. Дровы не гарэлі яшчэ. Гарэла страха хлява. Яны падпалілі ў розных месцах, каб хутчэй загарэлася. Яны, мабыць, вельмі спяшаліся, бо нікога не пакінулі... не, відаць, упэўнены былі, што нікога жывога не засталося, што калі я хаваўся пад печчу, то ад такой страляніны... І з падполля не вылезу — яны аблілі газай і якраз запалілі тыя масніцы, што адчыняліся. Некаторы час я стаяў на

гародзе і глядзеў, як гарыць хата, помню, бачыў, як выскоквалі суседзі, каб ратаваць свае хаты. Я схаваўся ад суседзяў. І да настаўніка не пайшоў. Я пайшоў шукаць бацьку. Мне трэба было скарэй знайсці бацьку. Як можна скарэй. Расказаць яму пра матку і Аньку. Мне здавалася, што трэба бегчы ў Падказінае, на тое месца, дзе мы стрэліся. Знайсці б толькі ўначы тое месца! Што ты хочаш — дзіця! У такім няшчасці старыя трацяць розум, не тое што хлапчанятка сямігадовае.

У тую ноч яны забілі сястру Казарскіх, Маню, і траіх яе дзяцей. Сяргей і Пятро, ідучы ў партызаны, матку паслалі ажно на Украіну, а сястра асобна жыла, удава, яе Андрэй на чыгунцы работаў качагарам, там і пры немцах застаўся, і паравоз іх падарваўся на партызанскай міне. Дык Казарскія палічылі, што такую сям'ю гітлераўцы не зачэпяць. Іх таксама спалілі. А яшчэ старых Атроха і Марыну Кулажанкаў забілі, за што іх — так і дасюль ніхто не знае, бо сыноў у іх не было, з блізкай радні нікога не было ні ў партызанах, ні ў арміі. Але ж, відна, зналі душагубы прычыну, памыліцца Шышка не мог, каб не ў тую хату патрапіць. І бабу пашу застрэлілі ў тую ноч. Хвядора кажа, што страляў немец, яна на судзе была, калі судзілі Лапая і Шышку... Лапая — да расстрэлу. Чаму яны не зачапілі Хвядору? Цётка да канца жызні наракала на бога, што не даў ёй смерці разам з маткай, братавай, з пляменніцай. Яна раздзірала мне душу, калі малілася за Аньку. Я не мог слухаць. Ты знаеш, я вельмі жалеў яе, цётку, а другім разам ненавідзеў... за малітвы гэтыя, за святасць... Па сяле тады хадзіла, сярод баб... ды і ў другіх сёлах... што Хвядора ўцалела таму, што святая, бог адвёў ад яе руку зладзеяў. У сорак другім яны яшчэ часам каралі так — толькі партызанскія сем'і знішчалі па выбару. Потым пачалі паліць цэлыя сёлы, як Хатынь, Боркі, Беразнякі. Я збіраўся ўсё звазіць вас у Хатынь. Але калі я пабыў там, тыдзень сам не свой хадзіў. Я баяўся. За дзяцей. За сябе. Я памяці сваёй баяўся. Хацеў уцячы ад яе... ад памяці, схавацца ў шчасці... Во яна і адплаціла! Не ўцякай! Не хавайся! Помні! А то заплывеш салам. На ўсё забудзеш, акрамя жывата свайго...

— Не трэба, Ваня. Ты ніколі не забываўся.

— А як я расказваў табе пра смерць маці, Анькі? Штоб не забалела ні мне, ні табе, штоб не патрывожыць шчасця нашага.

— Гэта не ты, гэта я не ўмела слухаць.

— Перад вяселлем цётцы Хвядоры наказаў, штоб пры табе не аплаквала іх. Яна тайна ад нас малілася... Яна малілася... да самай смерці сваёй...

— Не карай ты сябе, калі ласка... Яна малілася... А ты рабіў... Як ты рабіў!.. Як апантаны. Для дзяцей. Хіба твой бацька, твая маці не

стараліся так? Ты зрабіў за іх і за сябе. Ты знаеш, спачатку я паддалася твайму настрою. А цяпер не падабаецца мне, што ты такі. Нельга, Ваня, так. Не хапала яшчэ, каб той жа гад, Шышка, і цяпер паламаў наша жыццё. Можа, усё ж пойдзем да Каржова? Табе трэба развеяцца.

— Тася!

— Добра, не пойдзем. Гэта я так. Думаю, як лепш. Калі не пойдзем, то хавайся: Хведзька ідзе. Прыліпне што смала.

Іван падняўся з крэсла, зрабіў крок да дзвярэй у спальню, але спыніўся ў задуме.

— Не хаваўся я ад людзей.

10

Кажуць, пад старасць людзі робяцца кансерватыўнымі — баяцца ўсялякіх змен, любой навізны. Няпраўда. У наш час філасофская выснова гэтая страціла сваю ўсеагульнасць. Па-першае, змясцілася само разуменне старасці. Хто ў наш час стары? Хто не робіць, хто сам сябе абвясціў старым. Таго ж, хто працуе, хто кіруе, само жыццё вымушае быць маладым, бо доўгі вопыт навучыў: не адставай! Адстанеш — спіхнуць. Худзей, скідай штаны, чаравікі, заставайся ў адных трусах, але ганіся за НТР. Па-другое, кансерватыўнасць стала шматаблічнай. Хто цяпер кансерватар? Хто не адразу надзяе вузкія ці шырокія штаны, не хоча слухаць поп-музыку, не прымае ў паэзіі верлібра? Ці той, хто не хоча ўводзіць новую тэхніку, ЭВМ, АСК і г. д.? Людзі, якія любяць Пушкіна і не любяць Вазнясенскага, ёсць, і такія старыя нават не крыўдуюць, калі іх называюць кансерватарамі, ціха пасміхаюцца сабе ў пасівелыя вусы: маўляў, вы пагаварыце, а мы паслухаем. Але скажы такому, што ён супраць НТР, супраць кібернетыкі, электронікі,— на сцяну палезе. Не, такіх кансерватараў можам выдумаць толькі мы, пісьменнікі. У жыцці іх амаль няма. Дзе вы бачылі сёння кіраўніка, якому давалі б ЭВМ, а ён адмовіўся б ад яе? Ніколі, нізавошта! Нават калі чалавек не ведае, з якога боку падступіцца да гэтай ЭВМ, а падлікі ў яго гаспадарцы лёгка і проста ўкладваюцца ў чатыры дзеянні арыфметыкі і на звычайных дзедаўскіх лічыльніках рэдка даходзяць да пятага раду костачак.

Ды размова не пра кіраўнікоў, якім уяма чаго лічыць,— у такіх кансерватызм асобага тыпу, яны — што племя канадскіх эскімосаў, якое вымірае, бо ў іх не засталося ніводнай жанчыны; такіх варта пашкадаваць.

Сённяшні кіраўнік, у якога ёсць што лічыць, у першую чаргу дбае пра навукова-тэхнічны прагрэс. І чым большыя ў кіруючай

асобы маштабы дзейнасці, чым гучнейшая ў яго вядомасць, чым большы вопыт, а ён, вопыт, прыходзіць з гадамі, тым смялей такі кіраўнік падхоплівае самыя перадавыя ідэі часу, стараецца ўвесці ў сваёй галіне, у сваёй гаспадарцы самыя-самыя... адным словам, найнавейшыя дасягненні навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, метады кіравання. АСК — аўтаматычная сістэма кіравання — вось мара кіраўніка апошняй чвэрці дваццатага стагоддзя. Часам здаецца, што людзі пачынаюць верыць: даволі ўвесці АСК — і самі яны памаладзеюць, бо пасівелыя галовы перастануць балець ад напружаных думак — што, як, адкуль, куды? У гэтым усёабдымным руху за АСК, у самым дзейсным спаборніцтве часу, здараецца, што не старыя, а, наадварот, маладыя робяцца кансерватарамі. Парадокс? Не. Старыя даюць ідэі, а маладыя павінны іх ажыццяўляць. А пры вялікім попыце на новы тавар яго заўсёды не хапае. Паспрабуй дастаць тое, чаго на ўсіх не хапае! Толькі па знаёмству, толькі з-пад прылаўка. А ў маладых знаёмствы не такія шырокія яшчэ, ды часам і ўстарэлыя прынцыпы, выхаваныя бацькамі, не дазваляюць даставаць такім спосабам. Дык вось такі малады напэўна трапіць у кансерватары.

Нешта падобнае адбылося ў саўгасе «Добрынскі». Хведар Цімафеевіч Астаповіч, па агульным прызнанні нізоў і вярхоў — рабочых і начальства,— быў добрым гаспадаром, недарэмна дырэктарстваваў чвэрць стагоддзя, гэтую самую чвэрць, калі НТР дасягала свайго апагея, і недарэмна на пінжаку ў яго высокі ордэн і дэпутацкі значок. Але раней Астаповіч быў гаспадаром дбайным, разумным, аднак «сярэднеўмераным» — не адставаў ад усяго новага, што ўводзілася ў сельскай гаспадарцы, ва ўсялякім разе, у іх вобласці, але і не вельмі стараўся апярэдзіць час, не гнаўся апынуцца на белым кані наперадзе прагрэсу. Увогуле, часцей жыў па старой сялянскай філасофіі: лепш прыбядняцца трохі, чым выхваляцца, выстаўляць свае здабыткі і наваўвядзенні. І — дзіўная рэч — праз гэта часам саўгас недабіраў прэмій і ўзнагарод, але рабочыя шчыра падтрымлівалі такую тактыку свайго дырэктара. Жывучая старая філасофія!

І раптам гэты памяркоўны чалавек — Астаповіч — як бы намерыўся сапраўды перагнаць усіх лепшых «бегуноў» — сваіх калег, чэмпіёнаў НТР. Здарылася гэта пасля таго, як Хведар Цімафеевіч пераступіў пенсійную мяжу. Усё, здаецца, чалавек атрымаў за сваю сумленную доўгую працу. А спакою, задаволенасці не меў. Ці то адчуў, што цяперашняе яго становішча дазваляе зрабіць больш, чым мог раней? Ці сапраўды, як часта казаў публічна, збіраўся на адпачынак, а таму, пакуль ёсць сілы, спяшаўся залажыць цвёрдую аснову для новага ўздыму гаспадаркі, каб той, хто зменіць яго, не папракнуў, што

Астаповіч перад пенсіяй «спачываў на лаўрах»? Ці, можа, лічыў, што ўзнагародзілі яго ў пэўнай ступені авансам, і стараўся апраўдаць узнагароду? Ці з вышэйшым становішчам яшчэ вышэй паднялася адказнасць? Ці ўсё разам? Відаць, найбольш верагодна, што ў такім узросце і ў такіх абставінах дзейнічае комплекс, мноства прычын, самых разнастайных, нечаканых, часам супярэчлівых, што пацвярджае старую ісціну, якая, відаць, доўга яшчэ будзе новай: чалавек — загадка.

Цяпер галоўная функцыя дырэктара заключалася ў тым, што ён «выдаваў на-гара» новыя ідэі. Аднак не проста па-манілаўску выказваў іх, а тут жа пачынаў энергічна ажыццяўляць, абы толькі пераконваўся, што яна дасць карысць.

Само сабой зразумела, што галоўны цяжар па выкананні клаўся на плечы памочнікаў дырэктара па розных службах. Таму Астаповіч, напэўна, і падабраў сабе ў памочнікі маладых — галоўнага агранома, заатэхніка, інжынера, эканаміста. Усе галоўныя і ўсе маладыя. І парторг малады. Што гэта — хітрасць ці мудрасць старога Астаповіча? Зноў-такі, як усё ў свеце, так і амаладжэнне кіруючых кадраў — з'ява супярэчлівая, са сваімі плюсамі і мінусамі. Маладыя — што маладыя коні: бяруць з месца порстка, шпарка, шчыра, але хутка выдыхаюцца і часам спатыкаюцца. Спецыялісты спатыкаліся часцей за ўсё на «матэрыяльным забеспячэнні ідэй» усё з-за таго ж злашчаснага разрыву паміж попытам і прапановай. Ідэй у наш час перавытворчасць, а машын, прыбораў, інструменту, металу, цэменту, дрэва не хапае. Але Астаповіч як бы перастаў разумець, што такое не хапае і што такое планавыя ліміты. Што ёсць у краіне і што прызначана для сельскай гаспадаркі (не цацкі робім — кормім народ!) — усё павінна быць здабыта!

Ідэя комплексу па адкорму жывёлы супала з агульнай ідэяй канцэнтрацыі і спецыялізацыі, таму параўнаўча лёгка была матэрыялізавана ў сэнсе ўключэння ў план, хоць само будаўніцтва штодня ставіла перад кіраўніцтвам саўгаса задачы, якія маладым часам здаваліся непераадольнымі. (Во дзе яшчэ выяўляўся кансерватызм маладых — у разгубленасці перад цяжкасцямі!) Але два чалавекі не адступалі ні перад якімі перашкодамі — сам Астаповіч і яго верны «збраяносец» Яша Качанок, з якога Хведар Цімафеевіч часта кпіў, часам балюча пстрыкаў па носе, але трымаў пры сабе — за аптымізм, за веру, што няма такіх крэпасцей, якіх нельга ўзяць, за пастаянную гатоўнасць узваліць на сябе любую работу, часта вельмі далёкую ад яго абавязкаў прафсаюзнага арганізатара.

Чаго не маглі выбіць маладыя ўладальнікі высокіх дыпломаў, тое даручалася Качанку, які некалі, будучы ўжо старшынёй сельсавета, скончыў вячэрнюю дзесяцігодку і ў трыццаць тры гады атрымаў атэстат сталасці (аб тым, як ён здаваў экзамены, добрынцы расказвалі анекдоты) і які меў паўтузіна дыпломаў аб сканчэнні розных кароткіх курсаў — па лініі Саветаў, кааперацыі, прафсаюзаў; дарэчы, на курсах гэтых ён вучыўся заўсёды на «выдатна», прывозіў пахвальныя граматы і тыцкаў імі ў нос настаўнікам сваёй школы, якія вучылі яго ў вячэрніх дзевятым і дзесятым класах, ставілі чацвёркі, а пасля, лайдакі, распускалі анекдоты, што ён Індыю шукаў у Паўднёвай Амерыцы.

Астаповіч смела кідаў Яшу ў любы прарыў і не баяўся, што той скампраметуе яго, кавалера ордэнаў, дэпутата. Качанок цвёрда трымаўся дэвізу: «Не крадзі, не хабарнічай, не пі, не хадзі да чужой жонкі — і не бойся Абкома». Безумоўна, без прынцыпу «паслуга за паслугу», «ты мне — я табе» — не абыходзілася. Але калі ўжо без гэтага нельга было, то Яша Качанок заўсёды раіўся са сваім дырэктарам, і разам, абодва вопытныя, разумныя, хітрыя, асцярожныя, яны знаходзілі такую форму аплаты, матэрыяльнага заахвочвання, падзякі, да якой не мог прычапіцца ніводзін кантралёр ці рэвізор.

Галоўны талент Качанка — «арганізатара матэрыяльнага забеспячэння дырэктаравых ідэй» — праяўляўся ва ўменні ў патрэбны час знайсці патрэбнага чалавека. Чалавекі такія часта не мелі ніякага дачынення да той машыны, матэрыялу, насення, гербіцыду, якія тэрмінова належала дастаць, але мелі подступы да тых, хто размяркоўваў гэтыя дэфіцытныя каштоўнасці ў аблплане, валодаў імі на заводах, на базах, складах.

«Іўняк» — так Качанок ахрысціў гарачых і няўмелых маладых спецыялістаў; слова з'явілася проста — ад скарачэння Кузевага любімага «наіўняк», але ў Качанка яно набыло нечаканую вобразнасць — адразу прыгадваліся маладыя вербачкі,— дык вось гэты «іўняк» Кузя некалі гучна рагатнуў, калі Якаў Мацвеевіч сказаў, што прыстаўкі да камбайнаў — для ўборкі палеглага збожжа, навінку, якую вынайшаў нейкі ўмелец і якую тады рабіў толькі адзін украінскі завод, можа дастаць галоўны ўрач Хамоўніцкай сельскай бальніцы. Але Астаповіч не засмяяўся. Астаповіч дзелавіта спытаў:

— Што хоча?

— Сантэхніку.

— Якую?

— Трубы, радыятары.

Астаповіч узлаваўся:

— Ты што, Якаў, таго? — пастукаў сабе па лбе.— У нас што — свой трубны завод? Мы саўгас мяснога профілю.

— Ёсць у нас трубы, Цімафеевіч,— даводзіў Качанок.

— А самім пасля? Вылятаць у трубу?

— Каб мы не дасталі труб?!— хітра націскаў на дырэктараў гонар.

— Трышкаў кафтан! Хітруга твой урач.

— А мы што, хіба лыкам шытыя? Не з прыватных рук купім. На заводзе. Усё па закону, Цімафеевіч. І бальніцы паможам. Людзі дзякуй скажуць.

— Але як ён, урач твой, дапяў ажно ў Бярдзічаў?

— Гомель і Бярдзічаў здаўна параднёныя гарады.

Так было часта. «Іўнякі» Кузя і Астравец — галоўны інжынер — не толькі перасталі рагатаць, але нават ухмыляцца з неверагодных Качанковых камбінацый. Цяпер часта самі хадзілі на паклон да «рабачкома». У Качанка быў добры характар: ён нікому не адмаўляў у дапамозе, калі гэта ішло на карысць саўгасу. Прыватнаўласніцкія просьбы Якаў Мацвеевіч ігнараваў і ўвесь свой прапагандысцкі пафас скіроўваў супраць «сучаснага акулачвання». На свой дом і на сваю гаспадарку забываўся, хоць не сказаць, што ў двары яго было запусценне, але дабрабыт і парадак у доме, пераконана лічыў ён сам і даводзіў іншым,— не яго заслуга, Клавіна. Сапраўды, Клава — жанчына руплівая, гаспадарлівая; і на саўгасным гародзе, дзе яна кіравала звяном, расла найлепшая ў раёне монакультура — цыбуля, і яе ўласны гарод з рознай гароднінай быў лепшы ў Добрынцы, і карова лепшая, індычак — поўны двор... Між іншым, індыкоў Качанок не любіў, называў іх «гібрыдам страуса з барсуком». Чаму з барсуком? — ніхто дапяць не мог. Але на кожным сходзе ці нарадзе «рабачком» «праязджаўся» па гэтых індыках. Рабочыя ў задніх радах пасміхаліся: «Цішэй, Яшка індзюшак пачынае кляваць». І ён кляваў. Яго «каньком» было: раней добрынцы вырошчвалі гусей — любіў гусей (высакародная прыгожая птушка!),— а цяпер, маўляў, настолькі акулачыліся, зажырэлі, што гусяціну і есці не хочуць, індычаціну ім падавай. Але асабліва яго абурала, што самі ўсё з'ядаюць; закупшчыкі райспажыўсаюза як прыязджаюць з пустым фургонам, так і ад'язджаюць з пустым, рэдка калі якога старога кныра купяць, таму ў сельпоўскай чайной беф-строганаў — адно сухажылле. З чаго ты яго настругаеш, бефа таго?

Астаповіч ужо гады тры на кожнай нарадзе даводзіць, што кіраваць па-старому нельга, не той час, не тыя маштабы. Усе стараліся кіраваць па-новаму. Але чамусьці лічылі, што без АСК усё

новае — не новае, толькі па форме падноўленае старое. З набліжэннем уводу буйнейшага комплексу ідэя АСК завалодала розумам не аднаго Астаповіча. Дырэктар, які раней рэдка прыспешваў час і падзеі, цяпер як бы баяўся спазніцца, адстаць. Але калі комплекс быў унесены ў дзяржаўны план і меў поўнае матэрыяльнае забеспячэнне, будаўніцтва яго вёў магутны па сваіх тэхнічных сродках трэст, то тое, што пакуль што ў дакументах не называлася гучнай абрэвіятурай АСК, а сціпла — «рэканструкцыя вузла сувязі» (ёсць тут хітрасць, вядомая як гаспадарнікам, так і фінансавым кантралёрам),— запісана было хіба толькі ў абавязацельствах па спаборніцтву, пад што не даюць фондаў і лімітаў; узяў — выконвай, як умееш. Але раз ідэя не была пустой фантазіяй (нават у Астаповіча з'яўляліся ідэі, якія, як кажуць, павісалі ў паветры, і ён у такім разе стараўся хутчэй забыцца на іх), яна аб'ядноўвала і вяла людзей. Не ўсе, безумоўна, добра ўяўлялі, што такое АСК увогуле і ў прыватнасці — у гаспадарцы, якая будзе даваць мяса. Не толькі інжынеры і аграномы, але і рабочыя разумелі, што мець добрую сувязь — заўсёды добра. Як на вайне. Ды і асноўная работа была зроблена, самыя дэфіцытныя матэрыялы выбіў сам Астаповіч. Але была ў яго адна слабасць: калі справа набліжалася да канца, ён як бы астываў да яе, відаць, пачынаў жыць новай ідэяй. Завяршэнне ж старой цалкам ускладваў на памочнікаў.

Вузлом сувязі займаўся Якаў Качанок, жыў ім так, быццам ад таго, якая будзе тая АСК, залежалі яго лёс, кар'ера. Аб тым, што сапраўдная аўтаматычная сістэма можа зрабіць непатрэбнай значную частку той яго дзейнасці, якая напаўняла жыццё радасцю ад адчування сябе вельмі патрэбным, незаменным,— ён не думаў. Між іншым, пра гэта мала хто задумваецца — кім яны могуць стаць, калі іх заменяць ЭВМ, АСК, кібернетыка, аўтаматыка. У гэтым шчасце людзей!

— Праўдамі — толькі праўдамі! — хоць і без лімітаў, быў зроблены праект, здабыта ўсё, што каштавала немалыя грошы. Затрымка выйшла з-за «дробязі» (па разуменні недасведчаных, хто вартасць апаратуры вымярае яе цаной) — з-за нейкіх рэле, назва якіх вызначалася дзвюма літарамі і ажно пяццю лічбамі, таму запомніць яе не маглі нават спецыялісты. Яша Качанок пакляўся, што ён будзе не ён і пойдзе з высокай сваёй пасады ў пастухі «быкам хвасты круціць», калі не дастане гэтыя злашчасныя рэле.

У звычайныя дні, калі не было няўпраўкі, як у жніво, дыспетчар пакідаў адну машыну пры сабе, на ўсялякі выпадак: у вялікай гаспадарцы такія непрадбачаныя, няспланаваныя перавозкі бывалі бадай штогадзіны. То трэба перавезці людзей, а аўтобус у дальнім

рэйсе, то нечакана прыйшоў груз на станцыю і вагоны трэба хутчэй разгружаць, каб не плаціць за прастой, то аварыя на лініі электраперадач, то ў некага асабістая тэрміновая патрэба ў машыне. Ды ці мала што бывае! Сем тысяч гектараў зямлі. Дзве тысячы людзей!

Іван не любіў гэтых дзяжурстваў: безуліковая праца, а яшчэ горш, што, здараецца, гадзінамі нудзішся на машынным двары, чакаючы нейкай патрэбнай, але мізэрнай перавозкі — са склада на ферму, рэйса ў два кіламетры. А то бывае такіх рэйсаў дзесяткі, тузаюць бясконца, а пад вечар вяртаешся дадому з нярадасным адчуваннем, што нібыта нічога карыснага і не зрабіў за дзень. Іншая рэч — паездкі дальнія ці перавозкі грунтоўныя,— дзесяткі, сотні тон збожжа, угнаення, травы на сянаж, тут ёсць дзе разгарнуцца, а ўсім уменнем папрацаваць не толькі рукамі і нагамі, але і галавой.

Не любіў Іван «кабатажнага плавання» — так, помнячы юнацкую мару, ён называў гэтыя ўнутрысаўгасныя паездкі. А дыспетчар якраз любіла, каб заставаўся ён. Дыспетчарам рабіла жонка Віктара Кузі — Ліяна, жанчына, як знарок дзеля кантрасту са сваім мужам, маленькая, прыгожая, як лялька, далікатная, дзіва хіба — дачка прафесара Горыцкай акадэміі. Кузя сарваў яе з Мінска, з радыётэхнічнага інстытута, і яна паехала за ім у сяло. За гэта яе любілі, хоць мужчыны трохі пасміхаліся: нехта бачыў, што волат-аграном насіў жонку на руках.

Ды, урэшце, гэта іх асабістая справа.

Пэўны час і сам Кузя, і Астаповіч не маглі падабраць працу для завочніцы факультэта радыёсувязі. У клуб яна не захацела, планавіком паспрабавала — не атрымалася, радыёсувязь не мела штатнай адзінкі. На дыспетчара папрасілася сама, калі ў Астаповіча кончылася цярпенне і ён звольніў інваліда вайны Дзяніса Батрака, па-вулічнаму Кружаля, за яго «неразлíўнае» сяброўства са Шчэрбам. Тады, пры Кружалю, Хведзька выпрошваў гэтыя дзяжурствы, бо часта можна было працаваць на палявых дарогах і не выязджаць на магістралі, дзе, «не проціў ночы кажучы», хрысціўся Шчэрба, можна напаткаць «страшнейшых ворагаў роду чалавечага» (шафёры, у Шчэрбавым разуменні, увасаблялі ўвесь род чалавечы) — інспектараў ДАІ.

Ліяна стала такім дыспетчарам, пра якога, звыкшыся з Кружалём, і не марылі. Нават шматвопытны Астаповіч не ўяўляў, што саўгасны дыспетчар можа ператварыцца ў такую значную фігуру — у арганізатара працы ўсяго калектыву, нават саміх кіраўнікоў у пэўным сэнсе.

— Ды гэта ж «залатая галоўка!» — цэлая ЭВМ! — не пераставаў захапляцца жанчынай Астаповіч і чамусьці часцей хваліў яе пры Качанку.— За паўгода яна вывучыла гаспадарку і людзей лепей, чым

мы з табой, Якаў. І ўсё помніць! Чаго і мы не помнім. А якія задачы дае! Якія камбінацыі! Нам з табой трэба вучыцца.

Качанок маўчаў. Качанок раўнаваў Ліяну. Раней, калі дзе рвалася ці чаплялася і машына пачынала буксаваць, звярталіся да яго, і ён кідаўся на дапамогу, званіў, шумеў. Цяпер без шуму, спакойна, ветліва, без яго, без дырэктара, робіць гэтая «калібры», і ўсе звяртаюцца да яе: «Ліяна Альбертаўна, сеялкі выбіваюцца з графіка — нерытмічпа падвозяць насенне», «Ліяначка, дзіцятка, цяляткам на выпасе не хапае вады». І гэтак далей, і гэтак далей. Яна як бы ў нечым абакрала яго, незаменнага Качанка. Добра яшчэ, што не яе справа гаварыць з раёнам, з вобласцю, выбіваць, узгадняць, даставаць, а то, чаго добрага, не толькі яго, але і Астаповіча яна замяніла б.

Дыспетчар пазваніла пасля таго, калі Іван завёз на дальняе бульбяное поле студэнтаў.

— Іван Карнеевіч, трэба ехаць у горад.

— Трэба — паедзем,— весела адказаў Іван, задаволены, што не будзе цэлы дзень снаваць па сяле ці, яшчэ горш, сядзець, як прывязаны, у бытоўцы механізатараў каля тэлефона, чакаючы новага нарада, у горад — хоць маленькі, але рэйс.— З кім ехаць? Па што ехаць?

— Прывезці рэле,— Ліяна поўнасцю, з літарамі і лічбамі, назвала іх, гэтыя рэле.— Возьмеце Рыгора Ксенафонтавіча Шышковіча. Ён знае, дзе іх палучыць.

У Івана перахапіла дыханне:

— Каго?

— Шышковіча. Па-мойму, гэта той, што вярнуўся з Сібіры. Я не ўсіх людзей яшчэ знаю.

У Івана сэрца збілася з рытму і балюча, да спазмы, ударыла ў горла, не даючы вымавіць слова.

— Алё! Іван Карнеевіч! Вы чуеце мяне? Алё.

— Хто распарадзіўся?

— Якаў Мацвеевіч. Прыязджайце, я запішу рэйс у пуцёўку.

Калі адну трубку клалі, стары саўгасны камутатар выдаваў не кароткія гудкі, а нейкі дзіўны свіст, з якога кпілі. Іван доўга слухаў гэты свіст, ажно пакуль не пачалі зноў наплываць успаміны, іншы свіст — свіст ветру ў голых асенніх дрэвах, калі ён, галодны, хворы, блукаў па лесе вакол хаты лесніка.

Доўга ён стаяў так.

Урэшце кінуў трубку, выскачыў з бытоўкі, як на пажар. І ехаў, як на пажар — ніколі так не гнаў па сяле. Куры не паспявалі адлятаць

ад колаў. Затармазіў ён каля саўгаснай канторы так, што воблака пылу абдало ўвесь двухпавярховы будынак.

Не бачачы на ганку людзей, што віталіся з ім, сігануў праз пяць усходцаў на другі паверх, з ходу рвануў дзверы Качанковага кабінета.

Якаў сядзеў за сталом і, спацелы ад разумовай натугі, сачыняў умовы спаборніцтва жывёлаводаў на лепшае правядзенне зімоўкі. Самае цяжкае ў гэтым сачыненні было выдумаць нешта новае хаця б па форме, не паўтарыць мінулагоднія пункты. Разам з тым ён адпачываў за гэтай інтэлектуальнай работай — пасля гаспадарчых клопатаў і шматдзённых пошукаў рэле.

Зірнуў на Івана незадаволена — што той так непаважліва, з такім грукатам, увайшоў: распусціліся людзі, карыстаюцца яго дабрынёй. Але Івану незадаволенасць не выкажаш — сябры з пялёнак. Таму, наморшчыўшыся ад глыбокай задумлівасці, Качанок утаропіўся ў паперу. Падумаў, што калі з Іванам па-добраму, то галавасты Батрак мог бы падкінуць разумную думку, у прыватнасці, Якаў Мацвеевіч ніяк не мог прыдумаць, з якім новым пачынаннем выступіць даяркам. А вельмі хацелася прыдумаць такое пачынанне, якое падхапілі б уся вобласць, уся рэспубліка. Во слава была б саўгасу! Мяркуючы па тым, як Батрак уварваўся, яго нешта абурыла, нейкі непарадак. Які? Дзе? Чаму ён так доўга маўчыць?

Іван сапраўды доўга не мог слова вымавіць — не знаў, што сказаць, у галаве як заела нешта, заклініла. Успомніў Яшкавага дзеда — як гнеўна той лаяў фашыстаў. Так з дзеда і пачаў:

— Дзед твой быў чалавек, а ты... г... сабачае,— і дадаў такія словы...

Пакуль што нічога не зразумеўшы, Качанок ніводным рухам не выдаў свайго абурэння, толькі сцяўся, уціснуў галаву ў плечы, як бы чакаючы новага ўдару.

— Касцей майго дзеда не варушы.

— Мне твае косці хочацца паварушыць. Мазгаўню тваю пустую праветрыць. Ты з кім цалуешся, сукін сын? З Шышкам?

Нарэшце ўсё прасвятлілася, і Качанок падняўся амаль заспакоены, упэўнены, задаволены, што не ўнізіў сябе лаянкай, хоць гэтаму нахабніку Батраку варта было адказаць яго ж словамі, бо распусціўся чалавек. Але не дазваляе пасада, кабінет гэты.

— Я адзіны чалавек, хто можа цябе паняць. І я панімаю. Злосць тваю...

— Гэта не злосць. Гэта...

— Ты як дзед мой — бескампрамісны. Правільна, Іван! За ета цябе ўсе паважаюць. Але справа ёсць, брат, справа, яна часам нас

прыніжае, топча пашы прынцыпы. Цалавацца я ні з кім не цалуюся. Аднак каб мне сказалі, што праклятыя рэле гэтыя можа дастаць чорт лысы, я пакланіўся б і чорту.

— І фашысту? І бандыту? Ты! Лідзер наш!

Качанок паморшчыўся, быццам раскусіў журавіну.

— Мяне ты можаш мацюкаць. Пасады маёй не чапай! Не смейся!

— Мне не да смеху. Не круці баранку ў другі бок. У кювеце будзем, Яша. Ты мяне знаеш. Я не пабаюся, што разам з табой у той жа кювет вылечу.

— Стоп! Стоп! Не кіпі. Табе не хочацца ехаць з етым гадам? Я шчо, прынукаю цябе? Я не знаў, хто з вас дзяжурыць. Падмяні каго на вывазцы бульбы. Любы з'ездзіць. Ты ж знаеш, рэле нам трэба во так! — Якаў разануў сябе далоняй на шыі.— А еты тып мае дружка...

— Эх ты! — толькі і сказаў Іван, зразумеўшы, наколькі сябра яго маленства далёкі ад тых перажыванняў, якія вось ужо месяц не пакідаюць яго і якія з гэтай паездкай ударылі асабліва балюча, можа, больш балюча, чым сустрэча з паліцаем у сельмагу. Выходзіць, не адна Пліска забылася... Крыўдна стала за Качанка. Безумоўна, не перажыў ён таго... Хоць што значыць — не перажыў? Бацька яго загінуў пад Кёнігсбергам, у канцы вайны, батарэяй камандаваў. Дзед кіпеў нянавісцю да Шышкаў. А ты, Яша? Атупеў? Лоем мазгі заплылі?

Іван выскачыў з Качанковага кабінета апантана, не заўважаючы здзіўленых людзей — ніколі Батрак не праходзіў так міма! Збег па лесвіцы, ускочыў у кабіну свайго «ЗІЛа». Але не адразу павярнуў ключ запальвання. Рука павісла, як нежывая, ён замёр на сядзенні, нейкі час бяздумна глядзеў праз ветравое шкло на шарэнгу электрычных слупоў, прасмоленых, пракураных, на бетонных пасынках — як дзіўна скарачаецца адлегласць паміж імі ў перспектыве: недзе там, у канцы вуліцы, слупы, здаецца, стаяць, адзін пры адным.

Спачатку ў галаву палезла пабочнае.

Успомнілася чамусьці, як Шчэрба паспрачаўся з маладымі практыкантамі ПТВ, што «прыняўшы поўную меру». аб'едзе на камбайне кожны слуп і не зачэпіць. Зачапіў, паламаў касілку. Толькі жніво і недахоп камбайнераў уратавалі Хведзю ад цяжкага пакарання — пазбаўлення правоў. Ён, Іван, быў бязлітасны, калі Шчэрбу разбіралі на сходзе. Але Хведар не пакрыўдзіўся, застаўся сябрам.

Пасля такога ўспаміну падумаў з халоднай разважлівасцю: «А чаго я баюся сустрэцца з ім? Хто каго павінен баяцца? Трэба сутыкнуцца лоб у лоб. Глянуць у вочы. І ўзнаць... узнаць, чым ён жыве, якім стаў... Як гэта так, што за месяц усяго ўжо мае такія сувязі, што можа дастаць дэфіцытныя рэле? Качанок, Астравец не маглі, а ён можа.

Выходзіць, разбіраецца ў тэхніцы. Праз каго ўзнаў, што трэба саўгасу? З кім знюхаўся?.. З добрынскім, з чужым? Трэба знаць! Мне ўсё трэба знаць! Калі з рэле гэтымі нячыста, то я іх выведу на чыстую ваду. І Яшку не пашкадую, бязмозглага дурня». Але тут жа ўдарыла ў сэрца: «Сядзець з ім у адной кабіне? Везці яго?» Што гэта — нянавісць? боль? жаданне адплаты? страх за сябе, за сям'ю? Але адно адчуваў: гэта страшнае, яно адводзіла яго цэлы месяц ад такой вось сустрэчы — з вока на вока. Але ад такой няўпэўненасці ён пакутаваў яшчэ мацней. Нельга, каб страх — перад кім! цяпер перад Шышкам? — авалодаў ім, пазбавіў волі, рашучасці і годнасці — партызанскай годнасці. Ён жа — партызан!

Іван вылез з кабіны, вярнуўся ў кантору, у дыспетчарскую, яна размяшчалася на першым паверсе ў маленькім пакойчыку, палавіну якога займаў стол-скрынка, на якім быў змантіраваны пульт — самадзейная сістэма сувязі з усімі службамі вялікай гаспадаркі.

Ліяна сустрэла яго радаснай усмешкай - у яе, інтэлігенткі, была асаблівая павага да такіх, як Іван, простых, але дужых, моцных, умелых людзей, яна баялася толькі грубых, такіх, як Шчэрба.

— А мне здалося, што вам не хочацца ехаць.

— Паеду.

Больш павольна, чым звычайна, робячы запіс рэйса ў пуцявым лісце, жанчына нясмела спытала:

— Праўда, што ён... гэты... забіў вашу маці?

— Праўда,— адказаў Іван з незразумелай самому сабе суровасцю.

Ліяна паглядзела на яго спалоханымі вачамі:

— Можа, не трэба, Іван Карнеевіч?

— Што?

— Ехаць вам.

— Паеду. У мяне нервы крэпкія. Калі Качанок не можа абысціся без Шышкі...

Разам з пуцёўкай Ліяна перадала яму дакументы на атрыманне рэле. Іван зазірнуў у іх і трохі расчараваўся: аплата афармлена праз банк па рахунку ўпраўлення сувязі. На д'ябла ж у такім разе паліцай? Але што цёмнай здзелкі няма — гэта неяк дзіўна супакоіла і надало яшчэ большай рашучасці ехаць.

11

Маці Рыгора Шышкі — Просю добрынцы не любілі, асуджалі, лічылі, што праз яе нялюдскую сквапнасць, ганарыстасць — заўсёднае жаданне паказаць сябе, узняцца над іншымі, адзецца лепш, з'есці

смачней,— Рыгор пайшоў у паліцыю. Да вайны ён праславіўся хіба толькі тым, што за непаспяховасць яго адлічылі з другога курса аўтадарожнага тэхнікума. Аднак ён пайшоў рабіць майстрам на шашы. Працаваў непрыкметна, нічым асаблівым не вызначаўся. Хіба толькі ў пачатку вайны здзівіліся: чаму Шышку разам з іншымі не прызвалі ў армію? Няўжо работа на шашы давала вызваленне ад арміі?

Марыну, жонку Рыгораву, асуджалі толькі тады, калі яна выходзіла замуж за паліцая. А пасля жанчыны спачувалі ёй: несалодкае ў яе жыццё было з Шышкам, так зладзюга распіўся, разгуляўся — жах, здраджваў ён на вачах, і яна маўчала, бо скажы слова — лез з кулакамі; насіла Марына абноўкі з нямецкай крамніны, але часцей насіла сінякі, «ліхтары». Калі Шышку асудзілі, яе таксама пашкадавалі: засталася з дзіцем ля разбітага карыта, бо ўсё канфіскавалі: вялікі дом, які паліцай збудаваў — валок лесу, колькі хацеў,— і ўсё, што нарабаваў у людзей. Марына пакінула дачку ў старой маці і сама паехала невядома куды, гадоў шэсць працавала недзе на будоўлі, пасля вярнулася, папрасілася ў калгас, купіла сабе хацінку і працавала шчыра ў калгасе, пасля ў саўгасе. Разам з дачкой, якая рабіла ў лясніцтве, нешто зараблялі, але хаціна ў іх была самая нікчэмная, адна такая на ўсё сяло — як з мінулага стагоддзя, хоць ставілася пасля вайны. Большая палавіна Добрынкі згарэла; адступіўшы, немцы дзве гадзіны білі па сяле з гармат, як помсцілі, хоць ніводнага савецкага байца яшчэ не было. Дык тыя, у каго хаты згарэлі,— як яны будаваліся ў тыя гады, калі не было ні коней, ні валоў, ні машын! — на санках-самацяжках цягалі з лесу бярвенне. Мабыць, каб лягчэй пілаваць, секчы, тралякаць, першы гаспадар хаты стары Даніленка зрубіў хаціну не з сасны, а з асіны. «На мой век хопіць»,— казаў ён.

На яго век хапіла. А на век Марынін, а тым больш Ганнін яўна не хапала, як Марына не латала свой «палац», як не затыкала шчыліны.

Астаповіч разы два ўжо казаў, што трэба знесці гэтую «дагістарычную хароміну», бо псуе выгляд усяе вёскі. Але хто мог адважыцца даць кватэру ў новым саўгасным доме сям'і паліцая? Ды наўрад ці пайшла б гэтая сям'я ў такі дом. Марына жыла, як крот,— увесь час у зямлі, на сонца баялася глянуць, ні разу не папрасіла лягчэйшую, чым у полі на бураках ды на бульбе, работу. У пяцьдзесят сем гадоў — бабуся, зморшчаная, што печаны яблык. Шышка пасля Сібіры ў параўнанні з ёй — жаніх.

Іван сустракаў Марыну часта — у адной гаспадарцы рабілі, здаралася, падвозіў з поля ці на поле, і сустрэчы з ёй ніколі не ўзбунтоўвалі памяць, рэдка калі мільгала: «Няўжо ён жывы яшчэ, бандыт?»

Неяк хацеў спытаць, ці не піша яе паліцай, бо па сяле хадзілі розныя чуткі, але падумаў, што старой будзе балюча, ды і яму не лягчэй, калі яна скажа, што ён жывы, здаровы.

«Аднак жа прынялі. Узрадаваліся, відаць?» — упершыню з нядобрым пачуццём да Марыны і яе дачкі Ганны падумаў Іван, рэзка затармазіўшы ля сляпой, на адно акенца, урослай у зямлю, замшэлай хаціны.

Шышка чакаў машыны, бо выйшаў з двара адразу, апрануты ў новае драпавае паліто, з той жа вялікай гаспадарчай торбай, з якой Іван бачыў яго ў сельмагу. Убачыў за рулём Івана — і на нейкі міг у нерашучасці спыніўся каля брамы з гнілымі шуламі. Па твары яго, што мыш, шмыгнуў цень страху, амаль няўлоўны, толькі ён, Іван, мог убачыць гэты цень, нешта такое — быццам у момант з'явіўся шрам, усё роўна як ад парэзу брытвай, якой паласнуў яму па шчацэ, падбародку... Ці, можа, Івану так здалося? Не, што спыніўся ўсё ж — то гэта факт, бо не кароткі быў той міг: у Івана сцяло дыханне, як спынілася сэрца, бо спачатку сціснула ў горле, а потым балюча штурхнула туды ж, у горла, быццам сэрцу зрабілася цесна і яно хацела вырвацца: ударыла ў горла, у галаву, ажно зазвінела ў вушах, і боль аддаў у патыліцу. А ў жываце стала горача, усё роўна што кіслаты хапіў. Нядаўна ён паскардзіўся Тасі на галаўны боль, яна прынесла з бальніцы танометр, памерала крывяны ціск і ўстрывожылася, што ціск высокі, ні на адной камісіі не падскокваў.

Тася корміць яго таблеткамі раўнаціну, і ён нікому не кажа пра свой ціск, а то, глядзі, пенсіянерам зробішся ў сорак тры гады.

Няўжо так адразу, як толькі ўбачыў Шышку, падскочыў ціск? Як жа ён павядзе машыну, калі той сядзе побач у кабіне?

Іван націснуў педаль счаплення і ўключыў скорасць, каб сарваць машыну з месца, паехаць і... кінуць Качанку дакументы: на, цалуйся з паліцаем! Але Шышка як бы разгадаў яго намер, у няўлоўны міг апынуўся ля машыны, адчыніў дзверцы, паставіў нагу на падножку, павітаўся. Цяпер ужо правіла бяспекі не дазваляла скрануцца з месца: саб'еш чалавека. Колькі іх, правіл, якія ахоўваюць жыццё чалавека! Усюды. На дарозе, у полі, на заводзе, у доме... Колькі іх, правіл! Добрых, мудрых...

На прывітанне Іван не адказаў, засяроджаны пераключэннем рычага перадач, хоць у новай машыне перадачы ні разу не «заядала».

Шышка звыкся, што не ўсе добрынцы адказваюць на яго прывітанне, і не настройваў сябе супраць гэтых людзей, яго мэта была: дамагчыся, каб віталіся ўсе. Цярплівасцю, пакорлівасцю, паслугамі, праведным жыццём. Верыў, што даможацца. У людскую дабрыню

верыў, на няпамятлівасць людскую спадзяваўся. Тут таксама зрабіў выгляд, што не заўважыў Іванавага маўчання, было больш важна, што не хто іншы — Батрак згадзіўся ехаць з ім. Нічога, у дарозе загаворыць. Івана Шышка баяўся, хоць думаў, што, паколькі малога ў тую ноч дома не было, ён мала што знае пра яго ўдзел у расстрэле сямей. Нават на судзе яўных доказаў яго ўдзелу ў гэтай акцыі не было. Лапай пагарэў за знішчэнне Хатак, дзе спалілі сорак чалавек, а ён, Шышка, ад той экспедыцыі ўхіліўся, хворым прытварыўся, бо было гэта ўжо ў сорак трэцім, улетку, калі немцам далі па карку пад Арлом і Курскам і фронт набліжаўся да Гомельшчыны. Немцы ўсё рабілі, СД. Увогуле, едучы дадому, ён баяўся помсты. Але, пажыўшы ў Добрынцы, пераканаўся, што, пры ўсёй непрыязнасці да яго многіх аднасяльчан, на забойства ніхто не пойдзе: хто захоча ламаць такое жыццё? Батрак гэты жыве, як пан, жонка — прыгажуня, доктарка, дзеці вучацца. Раней, чым на што адважыцца, пра дзяцей падумае.

Іван неўзнарок націснуў на газ. Матор фыркнуў, кабіна задрыжала. Шышка спрытна, па-маладому, ускочыў на сядзенне, ляпнуў дзверцамі, пажартаваў:

— Добрая кабыла. Ажно не стаіцца ёй.

Іван не адразу скрануўся з месца, момант нейкі збіраўся з сіламі, чакаў, калі адхлынуць гарачыня ў жываце і боль у патыліцы. А калі паехаў урэшце, то адчуў тую боязь, якая дагэтуль з'яўлялася аднойчы — даўно-даўно, на курсах трактарыстаў, дзе ён першы раз сеў за руль палутаркі,— боязь наехаць на чалавека. Ехаў па сяле вельмі асцярожна, як гэта робяць стажоры, да болю сціскаў баранку, упёршыся ў яе грудзьмі, ад чаго чуў удары ўласнага сэрца. І яшчэ было адно дзіўнае адчуванне: зноў-такі, як упершыню ехаў па родным сяле — незнаёмым яно здалося, чужым, І людзей, што страчаліся на вуліцы, не пазнаваў. Наблізіўшыся да ўрачэбнага пункта, падумаў, што Тася можа ўбачыць у кабіне побач з ім Шышку і, безумоўна, спалохаецца. Што яна зробіць у такім разе? У жанок бываюць учынкі, якія немагчыма прадбачыць. Калі шчыра, то недзе ў глыбіні душы хацелася, каб Тася нейкім чынам умяшалася і сарвала гэтую паездку. І ў той жа час ён як бы саромеўся ці баяўся той сцэны, якую можа зрабіць жонка на вуліцы, на людзях, у прысутнасці гэтага гада. Баяўся, каб яна не ўнізіла сябе.

Пры выездзе на шашу чуць не зрабіў аварыю, як самы няўважлівы вучань. Выезд быў пад вуглом, так, што злева шаша адкрывалася, а направа трэба было добра паварочваць галаву, каб пераканацца, што не ідуць машыны. Пра тое, каб спрасціць вугал, шафёры неаднойчы гаварылі на нарадах.

Іван крута не павярнуў галавы, бо ў такім разе мімаволі прыйшлося б убачыць Шышкаву морду, і выехаў залішне павольна. І тут пачуў, як ззаду, злева, на выездзе, загаласілі тармазы, загрукацела, заляскала жалеззе.

Іван адчыніў дзверцы, азірнуўся назад. Шафёр грузавіка, які трохі не наскочыў на яго, таксама высунуўся з кабіны, пагражаў кулаком, слаў праклёны і мацюкі. Але пасля гэтага здарэння Іван як бы выйшаў са здранцвення. Аслабіў рукі, адхіліўся ад баранкі, даў большы газ, адчуў набытыя з гадамі ўпэўненасць, аўтаматызм у кіраванні машынай. Усё роўна што выйшаў з вузкай гразкай вулачкі на шырокую роўную дарогу. І страхі розныя засталіся там, у вулачцы.

Аднак не для таго ж ён згадзіўся раптам, нечакана для самога сябе, ехаць з Шышкам, каб прамаўчаць усю дарогу, добрую гадзіну. Дарогу назад выключыў, бо з самага пачатку падумаў, што з горада Шышка з ім ехаць не будзе. Даволі адной паездкі. Але дзеля чаго? Што яму хацелася? Глянуць зблізку паліцаю ў вочы? Дык цяпер зусім не хочацца глядзець яму ў вочы, ды і за рулём — не за сталом: не вельмі паглядзіш. Паглядзець трэба так, каб у яго мурашкі па спіне папаўзлі. А ці папаўзуць у такога бандыта, у якога душа, напэўна, мохам абрасла? Сказаць яму... Што? Не, сказаць ёсць што! Няхай знае, што нішто не забыта, няхай не думае, што даўнасць сцерла з памяці людской, з яго, Іванавай, памяці страшнае злачынства. Але ўспомніў свае думкі ля канторы, калі выскачыў ад Качанка. Хто ён, Шышка, што месяц пажыў і ўжо мае такія сувязі? Так, менавіта гэта — узнаць, хто ж ён цяпер,— вымусіла яго паехаць. І абурэнне, што Шышка робіцца патрэбным чалавекам. Прызнанне Шышкі за роўнага ўсім добрынцам — рабочым, пенсіянерам — было б абразай не толькі для яго, Івана, але для ўсіх, хто загінуў. Не толькі для маці, Анькі, бабулі, Мані Казарскай і яе дзяцей, але і для тых, хто на фронце лёг. Затым ён і паехаў, каб узнаць, хто ж тыя, што прызналі ці хочуць прызнаць Шышку.

Нялёгка было пачаць размову. Будучы чалавекам далікатным, Іван нават на міг задумаўся, як звяртацца да Шышкі — на «вы» ці на «ты». Па ўзросту дык трэба на «вы», але замнога павагі...

— Хто гэта ў цябе такі друг, што можа даць такі дэфіцыт?

Шышка яўна ўзрадаваўся, што Іван загаварыў, ажно стоена, з палёгкай уздыхнуў, павярнуўся ўсім корпусам да шафёра, ахвотна пачаў расказваць:

— Начальнік наш былы... Інжынер па сувязі. Цяпер начальнік базы. Мы з ім на Магадане лінію сувязі цягнулі. Асобую. Уся ў зямлі. Я брыгадзірам быў. Ад смерці яго ратаваў, Пятра Пятровіча. Яго ў кар-

ты прайгралі. І хацелі ўзарваць у кар'еры. Трасу ў сопках дынамітам высякалі. Прайгралі проста так, ад нуды, ад бесчалавечнасці. Там законы якія? Воўчыя законы. Каго захацелі, таго і з'елі. Але... вы, канечне, парційны, няверуючы, вы можаце не паверыць старому... А я вам скажу... калі бога ў душы мець, то бог адвядзе і руку забойцы, і завею палярную, холад, голад, цынгу. Як сказана ў бібліі? Спакойна лажусь я і сплю, бо ты, госпадзі, адзін даеш мне спаць у безапаснасці. Пятро Пятровіч з богам у душы быў. І я тады ўжо бога пазнаў... Я з адным чалавекам пазнаёміўся, прафесарам быў, біблію апраўяргаў, а там... там святым стаў. І мяне прасвяціў, грэшнага... Як толькі пачуў я бога ў сабе, змянілася мая жызня. Голубам я стаў у лядоўні той. Раней я проста маліўся богу, бяздумна словы паўтараў. А трэба, шчоб бог у душы быў. Як сказана ў свяшчэнным пісанні: «И будут уповать на тебя знающие имя твое, потому что ты не оставляешь ищущих тебя, господи».

Рэфрыжэратар засланіў усё неба, белая, як гіганцкая труна, скрынка кузава пачарнела ў Іванавых вачах і, здалося, не ехала па зямлі, а ляцела ў паветры, падкінутая туды невядомай сілай, гатовая вось-вось абваліцца ўсім невымерным цяжарам. Упершыню насустрач ішла не машына, сотні тысяч якіх за шафёрскае жыццё прамільгнула міма — кожная са сваім характэрным, знаёмым гукам, удараючы праз адкрытую шыбу кабіны хваляй гарачага паветра ўлетку, халоднага — зімой. Ляцела смерць з гатовай трунай — з маразілкай. Ніколі не думаў, што смерць можа напаткаць на дарозе, за рулём, хоць бачыў сотні аварый. Але ў кожнай аварыі была свая прычына; рэдка, вельмі рэдка вінавата машына, амаль заўсёды — шафёр, адзін ці другі: выпіў, парушыў правілы, недаспаў і г. д. У яго такіх прычын быць не магло: у сабе, у сваёй вытрымцы, вопыце, у сваіх руках, вачах ён заўсёды быў упэўнены.

А тут здарылася нешта страшнае — быццам у беспрасветна-цёмную ноч раптоўна выключыліся фары і ў яго машыне, і ў рэфрыжэратары і яны ў поўнай цемры збліжаюцца са скорасцю паўтараста кіламетраў. Але што яшчэ ўразіла: шафёр рэфрыжэратара яўна не бачыць гэтай небяспекі, ідзе, заняўшы ўсю вузкую паласу асфальту.

У апошні міг Іван кінуў свайго «ЗІЛа» на ўзбочыну.

Што гэта з ім? Хіба так можна? Нядоўга і да аварыі, ды яшчэ да якой! За нейкія дзесяць мінут двойчы так напыліў. Зняў фуражку, выцер ёй лоб, хацеў пакласці побач на сядзенне і ўбачыў павернуты да сябе Шышкаў твар, таксама пабялелы.

— Рызыкоўна ты ездзіш,— сказаў Шышка.

— А я цябе, гада, угробіць хацеў.

Шышка як адсунуўся ад яго далёка і не глядзеў больш — глядзеў на шашу, дзе ішла наступная сустрэчная машына. Спытаў не адразу; здалося Івану, пасля бясконца доўгай паўзы, пасля таго, як размінуліся з машынай ужо без усялякага зацямнення, небяспекі — звычайна.

— За што ж ета... угробіць мяне?

— За што? Ты не знаеш, за што? — Іван крутнуў рулём так, што машына выпісала васьмёрку.— Бога пачуў у душы? Святым стаў? Біблію чытаеш? А тады ў цябе, фашысцкай морды, бог быў, калі ты ў матку маю і ў сястрычку маю малую страляў?..

— Не страляў я ў іх!.. Не страляў! — па-бабску танклява завішчаў Шышка.— Не было мяне там!

— Но было? — Іван раптам адчуў сваю звыклую шафёрскую ўпэўненасць, сустрэчныя машыны больш не палохалі, але чамусьці затармазіў так рэзка, што шыны загаласілі і запахла гумай, аднак тут жа зноў даў газу, рыўком.— Не было? На гэта ты рабіў стаўку, што няма сведкаў. Ёсць сведка! Я! Я сядзеў пад печчу, куды ты страляў з аўтамата, кат, каб забіць мяне... каб не засталося сведкі.

Можа, Шышка не думаў выскокваць, можа, адхіснуўся ад страху перад помстай ці варухнуўся няёмка, злоўлены ў капкан, але дзверцы правыя, што каля яго, адчыніліся.

Іван даўно навучыўся лавіць і пазнаваць кожны гук у машыне, здаровы і нездаровы, рабочы і выпадковы, таму адразу пачуў: шчоўкнуў замок — і ўміг, з размаху, сцапаў Шышку загрудкі, скамечыў пінжак, сарочку, рвануў на сябе.

— Ну не! Ты так не памрэш! У турму я за цябе не пайду.

Шышка цяжка наваліўся на Іванава плячо, перашкаджаючы весці машыну, каўкнуў ціха, па-кацінаму, як захлынуўся сваёй макротай, пасля захроп, драпнуў пальцамі шчыток. Іван затармазіў, з'ехаў на ўзбочыну, спыніўся. Грэбліва адпіхнуў ад сябе Шышку, той адкінуў галаву на сядзенне, закаціў пад павекі вочы. Але Івану было брыдка глядзець на яго. Па руках, па-ранейшаму жывых колерам і — дзіўна — чыстых, як у інтэлігента (даўно цяжкай фізічнай працай, катаржнік, не займаўся), Іван здагадаўся, што сардэчнага прыступу ў Шышкі няма, прытвараецца хітра, навучыўся ў калоніях. Не без таго, вядома, што ўдарыла ў сэрца. Яшчэ б не ўдарыла — пачуць такое! Безумоўна ж, вяртаючыся, меў надзею, што, паколькі сведкаў забойства няма, то за трыццаць пяць гадоў наўрад ці хто ўспомніць, якія злачынствы ён рабіў, будучы ў паліцыі. Каму цяпер да таго, што карову ў некага забраў, свінню ці шомпалам каго агрэў? Дзяўчат лавіў на работу ў Германію... Але яны ўсе вярнуліся, ніводная не за-

гінула, расказвалі, што Маня Дунайка па дабраце на судзе выгараджвала Шышку, «свойскім паліцэйскім» называла.

Шышка перастаў храпці, расплюшчыў вочы, але дыхаў цяжка. Ды Іван тут жа пачуў, што і сам ён дыхае не лягчэй, быццам яны толькі што доўга біліся, не на жыццё — на смерць. Здзівіўся і нават узлаваўся на такую сваю нервовую слабасць. Нельга дапускацца, каб рэфрыжэратары сляпілі, засланялі неба! У цябе — дзеці. І Тася. Тася... У той міг яна стала перад ім са спалоханымі вачамі, з папрокам у іх: «А пра нас ты падумаў?»

— Валідол даць? У аптэчцы ёсць.

Шышка крутнуў галавой.

— То годзе прытварацца! Паехалі. Без рэле вярнуся — Качанок з'есць. Як гэта вы знюхаліся? Дзеда яго на цябе няма. Ён табе ў морду плюнуў бы. Ды яшчэ як плюнуў бы. Жалка — не дажыў.

Шышка маўчаў.

Іван скрануў машыну, выехаў на асфальт, ехаў ціха, кіламетраў пяцьдзесят трымаў, не больш. І маўчаў таксама. Было адчуванне нейкай спустошанасці, тупіка: а што далей? Што яшчэ ён можа зрабіць гэтаму забойцу? Выходзіць, нічога. Завязе ў горад. Прывязе назад. Не, назад ён не будзе сядзець побач. Ну і што? Вельмі ты яму насоліш? Вернецца аўтобусам.

Мінут праз колькі сказаў, растлумачыў — няхай знае:

— Матка схованку ад вас, фашысцкіх звяроў, выкапала для нас, дзяцей. Толькі Анька не палезла ў яе, пабаялася. Ход пад сенцы быў. Праз тую нару я вылез. Вы ж керасінам аблілі і запалілі, душагубы.

Шышка прашаптаў так, быццам не чуў Івана — размаўляў з богам:

— Госпадзі, не ў ярасці тваёй аблічай мяне і не ў гневе тваім карай мяне,— і палажыў на сябе крыж.

— Лоўка ты дагаварваешся з богам! Не ў гневе... Не, я судзіць буду ў гневе! Я! А не бог твой добранькі!

— Пачуе гасподзь голас плачу майго.

— Плакаць ты навучыўся. А ты праўду скажы богу. І людзям!

Шышка змоўк, апусціўшы галаву на грудзі — як самлеў.

Іван падумаў, што замнога гонару гаварыць з паліцаем, успамінаць пра тое, што самому яму, Івану, так баліць. Змоўк.

Здалося, што супакоіўся ці амаль супакоіўся, ва ўсялякім разе, кіраваў машынай з ранейшай прафесійнай упэўненасцю, не баючыся сустрэчнага транспарту, не заўважаючы яго. Урэшце тое, пра што думаў цэлы месяц, адбылося: сутыкнуўся з Шышкам тварам у твар і сказаў яму ў вочы, што ён жывы сведка яго злачынства. Ён «пракру-

чваў» у сваім мазгу, можа, сотню самых розных варыянтаў такой сустрэчы. У большасці выпадкаў даводзіў да таго, што канчалася іх «вочная стаўка» помстай паліцаю, зноў-такі самай рознай — ад маральнага асуджэння яго перад усёй грамадой, перад усімі добрынцамі да фізічнага знішчэння гада. Калі думаў пра сустрэчу адзін на адзін, то, трацячы на нейкі момант развагу, даходзіў да самага страшнага. І сам палохаўся. Таму і баяўся такой сустрэчы, пазбягаў. Спадзяваўся на час: ён, час,— самы мудры дарадца. Сапраўды, у апошнія дні ён часцей абдумваў варыянты ўсенароднага асуджэння Шышкі, грамадскага суда над ім.

І вось нечакана адбылася сустрэча. Ён, бадай, можа быць задаволены сабой, сваёй вытрымкай — не ўнізіў сябе ніякай угалоўшчынай. Але тут жа пачаліся новыя душэўныя пакуты — ад адчування тупіка, у які ён як бы загнаў самога сябе. З'явілася брыдкае і цяжкае адчуванне, што, пры ўсім гнеўным напале, размовай сваёй ён як бы прымірыўся з існаваннем Шышкі. Вязе яго далей. Разам пойдуць на базу. Убачыць чалавека, якога Шышка ратаваў ад смерці. Шышка ратаваў!.. Што ж, выходзіць, на гэтым усё? Канечне, можна асуджаць яго завочна, можна настроіць людзей, каб усё сяло, за выключэннем хіба сваякоў Шышкавых, байкатавала паліцая. Але гэта ўжо не тое. Што яму да сяла? Плюне і паедзе. Што яго трымае? Так, размова, якая толькі што адбылася ў цеснай кабіне,— не тая помста, пра якую ён думаў. Усё не тое. Незадаволены сабой, Іван зноў занерваваўся, зноў у галаву лезлі цяжкія думкі. Натуральна, што ў такім стане ў яго не магло быць патрэбнай увагі да абстаноўкі на шашы.

На пад'ездзе да горада наперадзе апынулася «Пабеда», машына — без малога яго равесніца, але добра дагледжаная, нядаўна пафарбаваная, з выгляду зусім новая, так зберагаюць свае машыны дзве катэгорыі прыватнікаў: ашчадныя ад скупасці, якія дзьмухаюць на каляску і выязджаюць хіба толькі па святах, дзеля прэстыжу, або тыя, якім неяк пашчаслівіла набыць машыну, якія любяць яе, як добрую жонку, і знаюць, што шчасце бывае толькі аднойчы: па даходах сваіх ім новай машыны не купіць да канца жыцця.

«Пабеда» ішла павольна, гаспадар ашчаджаў усё, хоць па «почырку» Іван не сказаў бы, што за рулём сядзеў няўпэўнены навічок. Прафесіяналізм адчуваўся. Івану хацелася яго абысці, каб хутчэй пазбавіцца ад Шышкавага суседства. Але абысці перашкаджалі то пост ДАІ, то знакі, то няспынны паток сустрэчных машын, які гусцеў па меры набліжэння да горада.

Сустрэчная паласа аказалася вольная на пад'ездзе да запраўчнай станцыі. Іван шчоўкнуў рычагом паваротаў, каротка прасігналіў

— на ўсякі выпадак — і пайшоў на абгон. І раптам прыватнік, не паказаўшы павароту, парушаючы правілы, павярнуў налева, да бензакалонкі, прычым раней, чым дазваляў бакавы з'езд. Іван бачыў сітуацыі з падобнымі нечаканымі паваротамі і звычайна праяўляў пэўную пільнасць і насцярожанасць. А тут, заняты сваімі пакутлівымі думкамі, прамаргаў, упусціў нейкі міг. Канечне, інстынктыўна ціснуў на педаль тормаза, але зразумеў, што на абгоннай скорасці тармазнога шляху не хопіць, каб не сутыкнуцца.

Прыватнік падставіў пад удар свой бок, самога сябе.

Іван маланкава ацаніў, што такі ўдар можа быць трагічным, і, убачыўшы, што на заднім сядзенні пасажыраў няма, рэзка кінуў паслухмяны «ЗІЛ» направа, зрэзаў «Пабедзе» багажнік.

Удар быў аслаблены тармажэннем, але ўсё ж моцны. «Пабеду» развярнула на шашы і паставіла побач з «ЗІЛам», так што шафёры апынуліся тварам у твар. Левае крыло сплюшчылася, багажнік адчыніўся, і на шашу пасыпаліся спелыя чырванабокія яблыкі.

Першае, што Іван успомніў: у момант удару Шышка схапіў яго за руку, вышэй локця — ад страху, мабыць, баіцца падлюга смерці! — і ўсё яшчэ трымаўся. Іван грэбліва страсянуў яго руку і, задаволены, бадай узрадаваны, што ўласнік «Пабеды» сядзіць жывы, не ранены, толькі збялелы, змахнуў рукавом пот, што абліў твар, і ўсміхнуўся добразычліва сябру па няшчасці. Але той раптам выскачыў з машыны і, груба лаючыся, палез да Івана з кулаком, намерваючыся тыцнуць у твар. Іван злавіў яго руку і ціха, з усмешкай сказаў:

— Уключы паварот.

Уласнік пракаўтнуў лаянку, анямеў. Потым кінуўся да сваёй машыны і сапраўды шчоўкнуў рычажком паваротаў, але, разгублены, не ўлічыў, што машыну развярнула, і паказаў паварот туды ж — на бензакалонку, направа. Высунуўся з кабіны, тады, відаць, успомніў, што зрабіў не тое, і палез, каб павярнуць налева. Але ўжо з абодвух бакоў спыніліся машыны, зацікаўленыя аварыяй шафёры вылазілі з кабін і, безумоўна, пільныя да такіх дэталяў падчас аварыі, убачылі маніпуляцыі «Пабеды» з паваротамі. Магчыма, што ўбачыў гэта і інспектар, які, не спяшаючыся, ішоў ад бензакалонкі, ён знаў, што часам бывае карысна даць вінаватым разабрацца самім, тады лягчэй высветліць ісціну. Уласнік «Пабеды» зразумеў, што робіць глупства на вачах у сведкаў, што шафёр «ЗІЛа» хітруга: параіўшы такое, прымусіў яго выкрыць сваю памылку перад людзьмі. Ён палез у кабіну трэці раз і выключыў павароты зусім.

Шышка сказаў Івану:

— Я пасведчу, што ён не даў сігнал павароту.

Тады Іван, уміг успомніўшы ўсё, што было дагэтуль, крута павярнуўся да Шышкі; твар Іванаў зрабіўся страшны, перакошаны, ён працадзіў праз аскаленыя зубы:

— Пайшоў прэч, гніда! Каб духу твайго не было, забойца! Не табе ратаваць мяне!

Шышка, уціснуўшы галаву ў плечы, выкаціўся з кабіны, не забыўшы, аднак, торбу, і непрыкметна, пакуль збіраліся шафёры, шмыгнуў за кустарнікавыя прысады. Разважыў, што так лепей для яго, на ліха яму мець справу з міліцыяй. Лішні пратакол, лішні напамінак, хто ён, адкуль вярнуўся.

Іван не адразу пасля гэтага вылез з кабіны, схіліўшыся, доўга зацягваў ручны тормаз, так доўга, што нехта з шафёраў, здзіўлены, што ён застаецца пры такой сітуацыі ў кабіне, паспеў спытаць:

— Цябе там, друг, не прыціснула?

Іван вылез, агледзеў памятае крыло і разбітую фару свайго грузавіка.

Уласнік «Пабеды» пасля выпадку з паваротамі страціў сваю злосць, ваяўнічасць і сачыў за Іванам з падазронай насцярожанасцю, схіліўшыся і расціраючы калена: можа, стукнуўся пры ўдары машыны ці пасля, калі мітуслівa лазіў уключаць паказчык паваротаў.

— Ударыла? — спачувальна спытаў Іван.

— Відаць. А можа, ад нерваў. Яно ў мяне прастрэленае.

Чалавеку было пад шэсцьдзесят. Нядаўні адстаўнік: пад цывільным пінжаком — яшчэ не надта паношаная вайсковая гімнасцёрка, а на пінжаку — тры рады ордэнскіх калодак. Убачыўшы іх, Іван цвёрда рашыў, што возьме віну на сябе. Ды як і не ўзяць? Хіба можа ён даравáць сабе такую прымітыўную аварыю?!

З багажніка на асфальт усё яшчэ падалі яблыкі — лопнуў мяшок. Івану зрабілася шкада яблык, захацелася сабраць іх, каб прыгажосць такую не трушчылі ботамі, коламі. Але падышоў інспектар, на хаду выцягваючы з планшэткі рулетку — мераць яго, Іванаў, тармазны шлях.

12

Прозвішча начальніка раённай аўтаінспекцыі — Драмака. Але шафёры са спагадлівай іроніяй ахрысцілі яго Недрамакай. Мясцовыя шафёры капітана любілі. Сапраўдны ахоўнік парадку на дарогах, адданы сваёй справе. Сустрэць яго можна было ў самых нечаканых месцах, там, дзе, як жартавалі, не ступала нага аўтаінспектара. За гэта і празвалі яго Недрамакам і нязлосна, жартаўліва мацюкалі. А любілі за культурнасць, карэктнасць, ніхто не пачуў ад яго паганага

слова, за весялосць — у любой сітуацыі жартуе. І яшчэ за акуратнасць. Раён не абы-які, самы складаны па аўтамабільнай часці — вакол абласнога цэнтра, гэтакае вялізнае кола, жалезная калодка якога — зона гарадской ДАІ, а спіцы і шына — раённай. Складанасць узаемаадносін з суседзямі — з горадам, з іншымі раёнамі сваёй вобласці і братняй рэспублікі, а галоўнае — наяўнасць магістральнай шашы, што звязвае Карэлію, Ленінград, Прыбалтыку, Беларусь з паўднёвымі абласцямі, чарнаморскімі курортамі. У такім раёне не задрэмлеш.

Драмака бясконца лётае па дарогах на сваёй «канарэйцы». Але калі скажа шафёру быць у ДАІ а такой-та гадзіне, то, самае большае, можа прымусіць пачакаць якую гадзіну, не так, як іншыя начальнікі — з відна да цямна вытрымліваюць парушальнікаў у калідоры сваёй цеснай установы, лічаць такое «томление духа» за метад выхавання. Капітан Драмака такога метаду не прызнаваў. З шафёрамі свайго раёна ў яго былі асаблівыя адносіны, ён лічыў, што яны павінны быць лепшымі памочнікамі ДАІ, без іх, са сваім невялікім штатам, парадку не навесці. Актыў свой, грамадскіх інспектараў, дружыннікаў, ён высока цаніў, часта з імі сустракаўся, кожнага ведаў у твар. З такімі вадзіцелямі, як Іван Батрак, даўно сябраваў, хоць ад Іванавага запрашэння заглянуць у госці нязменна адмаўляўся. А саўгасны машынны двор ніколі не мінаў. Прывязе плакаты, раскажа пра сумныя і вясёлыя дарожныя здарэнні, папярэдзіць каго-нікага з саўгасных, часцей — Шчэрбу, здзіўляючы таго да захаплення сваёй дасведчанасцю.

Адпусціўшы Савелічава, уласніка «Пабеды», капітан Драмака затрымаў Івана:

— А цяпер, Іван Карнеевіч, давай пагаворым неафіцыйна, патаварыску. Скажы мне: на якога д'ябла ты ўсё бярэш на сябе? Не даў жа ён павароту! Мне сорамна стала за маёра! Чаго ён баіцца? Што забяруць правы? Ці што самому прыйдзецца рамантаваць сваю калымагу? Праклятая прыватная ўласнасць! Раз'ядае душы людзей!

Дзяжурны інспектар запісаў у пратакол усё, як паказвалі Іван, Савелічаў, сведкі. Але з'явіўся, як усюдыісны анёл, капітан на сваёй «канарэйцы», каротка глянуў на сляды аварыі, зазірнуў у пратакол і загадаў абодвум аварыйшчыкам з'явіцца ў аўтаінспекцыю. Івану таксама зрабілася ніякавата, калі на Драмакава пытанне адстаўнік адказаў, што ён не помніць, ці ўключыў сігнал павароту, маўляў, як усялякі вопытны вадзіцель, ён, напэўна, зрабіў гэта аўтаматычна, не было яшчэ выпадку, каб ён не ўключаў; помніць адно: пасля аварыі выключыў паварот — каб не замкнула, не згарэла рэле.

Іван тады з прыкрасцю падумаў: «Эх, маёр, маёр, што ты свішчаш?»

Але выдаваць яго не стаў, не сказаў, як параіў адстаўніку ўключыць паварот і як той рабіў гэта. Не хацеў, не мог проста наносіць чалавеку яшчэ адну траўму: даволі з яго перажыванняў, па ўсім відаць, несуцешным горам здаецца маёру аварыя любімай машыны.

Хацеў праявіць велікадушнасць, дабрыню, а яго за гэта Драмака паставіў у кут, як вучня, які зманіў. Няёмка было перад капітанам. Разумеў, што той са сваім вопытам вельмі дакладна ўявіў карціну аварыі. І такому чалавеку, які хоча табе памагчы, трэба маніць? У імя чаго?

— Павел Паўлавіч! Не ён мне рассадзіў машыну, я — яму. Я не хачу апраўдання.

— Я цябе не апраўдваю. Я хачу яснасці.

— Паказаў ён паварот ці не паказаў — для такога вадзіцеля, як я, гэта не апраўданне. Зяўнуў, як кажуць.

— Хто ў цябе быў у кабіне? Жанчына?

Іван адчуў, што кроў прылівае да твару: капітан падбіраецца да першапрычыны. Але прычына гэтая такая далёкая і такая доўгая, што не тут яе расказваць.

— Не бойся, жонцы не скажу. Я хачу знаць, пра што ці праз каго ты так зяўнуў. Я дакопваюся да псіхалогіі аварыі. Калі так капнеш, часта адкрываеш прычыну больш глыбокую. Тут на днях добры хлопец падбіў чалавека. Выдатны вадзіцель. І так недарэчна. Пачаў я з ім па душах гаварыць. Аказваецца, у той дзень неразумная ўрачыха з неразумнымі намёкамі паслала яго ў анкалагічную бальніцу... А яму, дурню, здалося, што, калі ў анкалогію пасылаюць, значыцца, канец, адгуляў Валодзя па белым свеце, збірайся ў апошнюю дарогу. Дык хто з табой быў?

— Ды падабраў каля РТС нейкага старога.

— Што ж гэта ён так скрыўся, твой стары? Два словы не сказаў.

— А што б ён сказаў? Павел Паўлавіч, хіба трэба сведкі? Я адмаўляюся хіба?

— Ды не, ты робіш горшае: бярэш на сябе больш, чым трэба. Я юрыст па адукацыі, вучыў і законы, і псіхалогію...

— Правоў вы не думаеце мяне пазбавіць?

— Я цябе на паўгодзіка паслаў бы ў слесары, каб не знаў, які дэфіцыт на вашага брата. Пазбаўляем правоў больш, чым рыхтуем вадзіцеляў. А я добра ведаю, чаго каштуе прастой машыны. І ты ведаеш... Кожны з нас павінен быць перш за ўсё гаспадаром, а пасля ўжо інспектарам. А го не будзе чаго інспектаваць.

— Судзіцца я з маёрам не буду. Машыну яму аднаўлю. Сказаў жа: хоча — грошы заўтра ж прывязу, хоча — няхай прыганяе машыну

да нас у майстэрню, хлопцы мае памогуць. Дык чым вы незадаволены, таварыш капітан?

Драмака падняўся з-за стала, паморшчыўся, як ад радыкуліту.

— Ну, Батрак, лічыў я цябе за разумнага чалавека. Сур'ёзнага. А ты — што хлапчук. Калі ў цябе лішнія грошы, аднаўляй маёру машыну, хоць новую купляй. Урэшце, вашы рахункі — не мая справа. Але дай мне зразумець цябе. Навошта табе браць аварыю на сябе, калі ўсё было не так, як мы запісалі? Я не працэнт хачу ўменшыць. Працэнт ўсё адно будзе, ён агульны... Я пра раён думаю. Пра саўгас. І пра цябе. Пра тваю добрую славу. Мне твая слава даражэй за ўсе раскрытыя аварыі. І сам ты павінен даражыць сваім добрым іменем. Во чым я незадаволены, Іван Карнеевіч! Не люблю я ні евангельскую пакорлівасць, ні хрысціянскае ўсёдараванне. Мы з табой матэрыялісты і камуністы, і ў нас павінна быць выразна ўсё размежавана: дабро і зло, праўда і мана.

— Маняць, калі хочуць выгарадзіць сябе, выгаду мець. Я не выгараджваю... ні сябе, ні яго... маёра. Ён, канечне, разява...

— Дзякуй хоць за гэтае прызнанне,— іранічна хмыкнуў Драмака.— Хоць у душы не бяры ўсю віну на сябе. Спаць не будзеш...

— І так не спіцца,— сумна прызнаўся Іван.

— Пра гэта начальніку ДАІ не кажы, а то забяру правы. Каб была магчымасць, то ў першую чаргу я пачаў бы правяраць, як вы, вадзіцелі, адпачываеце. Прыборчык бы такі вынайсці, які паказваў бы, колькі вадзіцель спаў. Накшталт таго, які паказвае, што ён піў — квас ці «чарніла».

— Гэта не нам, гэта міжгароднікам трэба.

— Не пашкодзіла б і вам. Маладыя да світання дзяўчат ціскаюць, а ўдзень за баранкай засынаюць.

Драмака, інспектар-псіхолаг, як тонкі сейсмограф, злавіў нейкую дзіўную ўнутраную Іванаву ўзбуджанасць, якая, разумеў, наўрад ці была вынікам аварыі, хутчэй, наадварот, была яе прычынай, таму яму вельмі хацелася, каб даўні знаёмы, адзін з лепшых шафёраў раёна, раскрыўся перад ім. Яго нават крыўдзіла, што Іван так зацята, недаверліва замкнуўся. Адцягнуць яго ўвагу ад дарогі магла толькі жанчына. Капітан добра ведаў гэтых небяспечных спадарожніц, якіх міжгароднікі называюць «плечавымі» і з якімі ён, начальнік ДАІ, вёў барацьбу. Але ад Добрынкі такая «плечавая» не магла падсесці, такія садзяцца ў Адэсе, Кіеве, у Рызе. Ехала свая, саўгасная? Але такой не было б патрэбы знікаць. Ды і Батрак не той чалавек, не ў тым узросце, каб за рулём фліртаваць з жанчынай. Драмака добра ведаў яго

жонку, іх жыццё, якому шмат хто зайздросціў. Між іншым, сам ён, жаніх-перастарак, таксама зайздросціў шчаслівым сем'ям.

Чалавек настойлівы, упарты, Драмака не адпускаў Івана, не трацячы надзеі, што вось у такой размове, то аддаляючыся, то набліжаючыся да сутнасці, ён прымусіць усё ж вадзіцеля пэўным чынам раскрыцца, выявіць прычыну сваёй унутранай узбуджанасці. Гэта быў яго, Драмакаў, псіхалагічны эксперымент, адзін з эксперыментаў, якія ён часам ставіў знарок ці якія ўзнікалі нечакана, як гэты.

Перашкодзіў прыход пракурора Міхалеўскага.

Пракурор быў у раёне новым чалавекам, але Іван яго ведаў — слухаў на апошняй сесіі райсавета і падумаў тады: занадта малады для такой пасады. Магчыма, ён, Іван, накшталт некаторых старых, заражаны на пэўную інерцыю, усё яшчэ ніяк не можа змірыцца, што да кіраўніцтва прыходзяць людзі, якія парадзіліся пасля вайны. Чамусьці яму здавалася, што пасляваенныя — яго дзеці, хоць у год Перамогі самому было ўсяго дзесяць. Але дзетдомавец Ваня Батрак адчуваў сябе зусім сталым чалавекам, больш сталым, чым выхавацелькі, што прыязджалі з настаўніцкіх інстытутаў. Дарэчы, да яго выхавацелькі адносіліся інакш, чым да іншых дзяцей,— як бы баяліся яго панурасці. Маладзеў і весялеў ён пасля — калі ў жыццё яго прыйшла Тася.

Пракурор быў падобны на кінаакцёра: высокі брунет, модна падстрыжаны, без капелюша, у новым гарчычнага колеру імпартным плашчы, у чырвонай сарочцы, з яркім чырвона-сінім гальштукам, які хораша дапасоўваўся і да сарочкі, і да сіне-карычневага касцюма, і да плашча.

На сесіі ён быў адзеты больш проста — у чорны гарнітур, сарочка была звычайная, белая, і гальштук няяркі, не запомніўся Івану. Цяпер ён падумаў, што пракурору ў рабочы дзень не варта так адзявацца, стары пракурор некалі хадзіў у пакамечаным мундзіры. Але тут жа ўспомніў, як з падобнага яго выказвання — наконт маладога старшыні райспажыўсаюза — пасмяялася Валя: «Табе хочацца, каб ён быў у дыяганалевым галіфэ, з палявой сумкай? Во гэта быў бы аўтарытэт для цябе!»

Пракурор павітаўся з Драмакам за руку, Івану кіўнуў галавой, але паглядзеў падазрона, насцярожана — па-пракурорску: бачыў каля ДАІ яго грузавік з разбітай фарай, з пакамечаным крылом. Спытаў:

— У што ўрэзаўся?

— Пацалаваў адстаўніка ў багажнік,— адказаў жартаўліва капітан.— Банальная аварыя, а разабрацца не магу, хто з іх вінаваты.

— Бо не тыя пытанні задаеш. Ты спытай, колькі ён учора сцёбнуў: дзвесце, трыста, семсот?

— Тысячу,— іранічна кінуў Іван, зусім не пакрыўджаны абразлівым падазрэннем, здалося натуральным, што такі піжоністы пракурор сказаў менавіта гэта, наўрад ці варта было ад яго чакаць што іншае: па-першае, прафесія, па-другое, відаць, выхаванне. А Драмаку зрабілася няёмка. Перад Іванам. Капітан, які быў надзіва спакойны ў любых сітуацыях, ажно пачырванеў, як дзяўчына. Згладзіў няёмкасць нечаканым для Івана знаёмствам:

— Між іншым, пазнаёмцеся, Леанід Аркадзьевіч. Іван Карнеевіч Батрак, з саўгаса «Добрынскі». Лепшы вадзіцель. Дэпутат райсавета.

Сумеўся пракурор.

«Увагнаў-такі цябе, піжон, у краску наш Недрамака»,— падумаў Іван.

Міхалеўскі, згладжваючы сваю бестактоўнасць, паціснуў Івану руку і ўжо добразычліва сказаў тое ж слова, якое толькі што Іван казаў сам:

— Як жа гэта вы зяўнулі?

— Задумаўся.

— Пра што?

— Пра баб.

Пракурор здзівіўся, незадаволена нахмурыў бровы.

Драмака сказаў, дакорліва паківаўшы галавой:

— Не слухай, Леанід Аркадзьевіч. Гэта ён мне помсціць. Я пад гарачую руку спытаў, ці не жанчына з ім ехала. Іван Карнеевіч — добры сем'янін, у яго дачка — нявеста. Сын школьнік, разам з бацькам на ўборцы рабіў. Помніш, газеты пісалі пра сямейны агрэгат Івана Батрака?

Івану не хацелася, каб Драмака пачаў хваліць яго. Здалося, не да месца гэта, і ён падняўся з табурэта.

— Мне можна ісці?

— Ідзі. Але май на ўвазе: задаў ты мне загадку.

— Вы ўмееце іх разгадваць,— пасміхаўся Іван, развітваючыся кіўком галавы.

Міхалеўскі і Драмака хвіліну памаўчалі, быццам ім было няёмка аднаму перад адным. Адносіны паміж імі былі ўжо бадай сяброўскія. Яны сышліся адразу, як толькі Міхалеўскі паўгода назад заняў сваю пасаду. Спрыяла іх дружбе многае. Па-першае, блізасць прафесій, частыя сустрэчы па рабоце, потым узрост: яны былі амаль равеснікі. Драмака гады на два старэйшы. Розніца была хіба толькі ў тым, што Міхалеўскі ўжо гадоў сем жанаты на сваёй жа выпускніцы, юрысце,

якая, прыехаўшы з ім, працуе цяпер у райміліцыі следчым. Абодва многа чыталі і сярод раённых работнікаў лічыліся эрудытамі, кнігалюбамі. Дарэчы, сам Міхалеўскі лічыў, што менавіта адукаванасць, прафесійная, палітычная, агульная, памагае яму ўзыходзіць па службовай лесвіцы хутчэй за яго калег, з якімі канчаў універсітэт. Ведаў, што нядобразычліўцы, зайздроснікі лічаць, што памагае іншае: бацька — вядомы юрыст, доктар навук, узначальвае юрыдычны аддзел у высокай установе і чытае на юрыдычным факультэце. Але Леанід ведаў, што бацька яго з тых людзей, якія слова не скажуць за сваіх дзяцей. У бацькі цвёрдыя прынцыпы, ён вораг усялякіх пратэкцый. Сыну памог хіба тым, што са школьных гадоў стараўся зацікавіць сваёй прафесіяй, хацелася яму, каб з чацвярых дзяцей хоць адзін стаў юрыстам, зрабіў прафесію сямейнай. Праўда, стары Міхалеўскі больш расказваў пра высокае і пачэснае прызванне юрыста старэйшаму сыну, лічыў, што вясёлы, добры, чулы да чужой бяды і радасці Валодзя лепш падыходзіць да прафесій следчага, суддзі, пракурора. Але старэйшы сын, нягледзячы на бацькоўскае супрацiўленне, пайшоў у тэатральны і стаў пасрэдным акцёрам, незадаволеным сваім лёсам, ролямі, жыццём. А рацыянальны, не па-дзіцячаму стрыманы Лёня, якому прадказвалі матэматычную будучыню, бо лягчэй за ўсё ў школе яму давалася матэматыка, нечакана ў дзесятым класе аб'явіў аб сваім намеры пайсці на юрыдычны. І нішто яго не спыніла. Трэба стаж — пайшоў на завод, пасля ў армію, там уступіў у партыю, стаў чэмпіёнам акругі па плаванні. Абітурыент з такой характарыстыкай праходзіў першым нумарам, да бацькі, каб дапамог, не было патрэбы звяртацца. Калі вучыўся, быў камсоргам факультэта. Атрымаў дыплом — выбралі сакратаром гаркома камсамола. Але адтуль сам папрасіўся на юрыдычную работу — паслухаўся бацьку. І вось — пракурор раёна, між іншым, самы малады ў вобласці, чым Леанід Аркадзьевіч ганарыўся, хоць, калі пра гэта нагадваў нехта іншы, адказваў, што ў яго ўзросце ёсць прэзідэнты дзяржаў, а прэм'ераў дык нямала, і называў прозвішчы, здзіўляючы слухачоў памяццю, эрудыцыяй. Увогуле, паказаць сябе ўмеў і любіў, чаго, між іншым, не ўмеў Павел Драмака, чалавек, як ён казаў, з празаічнай біяграфіяй: басаногае галаднаватае маленства ў палескай вёсцы, курсы шафёраў, вадзіцеляў танка, курсы інспектараў ДАІ, вышэйшая школа міліцыі, завочная. «Вечны курсант,— жартаваў капітан,— Ажаніцца не было калі».

Пры ўсім тым, што іх цягнула аднаго да другога і яны даўно перайшлі на «ты», здаралася і раней такое вось — як бы няёмкасць нейкая, як бы бар'ерчык нейкі вырастаў паміж імі, часам зусім нечакана ў самай звычайнай размове, напрыклад, аб фільме, які напя-

рэдадні паглядзелі. Павел Драмака перажываў з-за такіх замінак у размове, баяўся, што яны — ад прымітыўнасці яго разважанняў: маеш справу не з шафёрам — з адукаваным чалавекам. У Міхалеўскага такой самакрытычнасці не было, замінкі такія ён стараўся не заўважаць, як не заўважае выхаваны чалавек чыху (не кажа «Будзьце здаровы»), ікаўкі ці няўмення суседа па стале трымаць відэлец у левай руцэ.

А тут упершыню капітан выявіў, што няёмка яму не за сябе — за пракурора. Каму-каму, а яму ні ў якім разе нельга так глядзець на людзей, як ён паглядзеў на Батрака. Апраўдваючы гэта маладосцю, нявопытнасцю, Драмака адчуў сябе намнога старэйшым, больш навучаным работай з людзьмі і палічыў за абавязак свой сказаць:

— Самае небяспечнае, Леанід Аркадзьевіч, у нашай рабоце — глядзець на чалавека, як на патэнцыяльнага злачынцу.

Міхалеўскі засмяяўся.

— Гэта ж словы нашага прафесара Акуліна! Ён любіў паўтараць іх. Ты яго ведаеш?

— Не. Я мог прачытаць... Але думаю, што іх магла сказаць і мая маці са сваімі чатырма класамі... Гэта аснова маралі і права. Нашай маралі...

Міхалеўскі насцярожыўся.

— Ты пра што? Што я сказаў гэтаму твайму шафёру пра грамы? Вырвалася. Урэшце, не магу ж я заставацца заўсёды ў мундзіры. Як бачыш, я скінуў яго. А проста чалавеку неабавязкова гаварыць артыкуламі кодэксаў. Я — проста чалавек. Дазволь мне гаварыць усё, нават глупства.

— Але ж Батрак ведае, што ты пракурор.

— Цяжкая пасада. Выходзіць, бойся сказаць, бойся ляпнуць неўпапад. Нарэшце, як у кожнага, у мяне ёсць пэўныя эмоцыі, і я не магу іх пераадолець. Некалі вось такі... лепшы вадзіцель аўтобуса... падбіў маю маці... чалавек, па сутнасці, застаўся інвалідам... І цяпер з кіёчкам ходзіць. Следства ўстанавіла, што напярэдадні шафёр гуляў на вяселлі... Во адкуль у мяне недавер да гэтых тваіх анёлаў. Увогуле, я здзіўляюся з цябе. Яны табе кожны дзень падкідваюць аварыі, а ты кожнага з іх няньчыць гатоў.

— Навошта няньчыць? Проста паважаць. Узаемна. Я — іх. Яны — мяне. А калі я ў кожным з іх буду бачыць ворага парадку, а ўсе яны ва мне — свайго ворага... што ж тады будзе? Я — арганізатар руху на дарогах, а яны мае памочнікі. Толькі так. Нельга думаць, што ёсць хоць адзін вадзіцель, які супраць правілаў руху, як нельга думаць,

што людзі ўсю сваю энергію накіроўваюць на тое, як бы парушыць законы.

— Але нельга і забываць, што нямала такіх, якія хочуць,— Міхалеўскі папісаў у паветры пальцам зігзаг,— абысці закон. А наш абавязак — ахоўваць іх, законы. Давярай, але правярай — усёабдымны лозунг. Што мы з табой і робім — правяраем. Правяраем, як захоўваюцца правілы руху, як захоўваюцца законы. Паўсюдна. Усімі. Згодзен?

— З табой нельга не згадзіцца. Але, знаеш, я часам пачынаю баяцца, як бы правілы не засланілі ад мяне чалавека. Правілы, як інфармацыя, нарастаюць лавінай. А чалавек усё той жа. Я ўсё яшчэ думаю, што не мог такі вадзіцель, як Батрак, зрабіць такую аварыю. У яго была нейкая асаблівая прычына. Якая? Добра, што абышлося добра. А каб ахвяра?

— Табе трэба быць пісьменнікам, а не начальнікам ДАІ. Дапусцім, ён паскандаліў з жонкай ці з цешчай. Што ж ты будзеш рабіць, мірыць іх? Усіх не памірыш. Між іншым, я заглянуў да цябе наконт Караткова. Твая версія, канечне, падобная на праўду. Накіраванне ў анкалогію магло даць рассеянасць, задумлівасць, якая паслужыла прычынай наезду. Па-чалавечы — я разумею яго. Але куды я здагадкі падшыю, пад які параграф падганю? Увогуле, смешна ўключаць факт яго мніцельнасці ад размовы з урачом у абвінаваўчае заключэнне як змякчальную акалічнасць. З такой лірыкі пасмяецца любы граматны юрыст.

— А мне, знаеш, не смешна. Мне шкада хлопца.

— Думаеш, мне не шкада? Але калі я буду даваць волю сваім эмоцыям — дрэнны з мяне будзе пракурор. Уласна кажучы, ніякі. Лепш адразу мяняць прафесію.

Капітан сядзеў за сваім заплямленым чарнілам сталом. Стары стол, з цяжкімі тумбамі, набітымі папкамі са справамі аб дарожных здарэннях. Калі гэты ж моднік Міхалеўскі неяк сказаў, што стол варта замяніць, Драмака пажартаваў:

— Сучасныя сталы не вытрымаюць нашых спраў. З чаго яны, гэтыя модныя сталы? З ДСП. А мой — з натуральных дошак. Гадоў праз трыццаць — сорак мы будзем плаціць грошы ў музеях, каб паглядзець на стол з натуральных дошак.

Міхалеўскі ацаніў жарт, падтрымаў, але і развіў:

— А праз сто гадоў і нашы з табой прафесіі стануць музейнымі.

Драмака тады не згадзіўся. Яны на колькіх сустрэчах спрачаліся на тэму — як будзе арганізавана будучае грамадства. Безумоўна, пракурор тэарэтычна заганяў капітана ў кут, і таму гэта падабалася, падабалася, што з'явіўся чалавек, з якім можна пагаварыць не толькі

пра вузка практычныя, будзённыя справы, але і пра такія вось высокія матэрыі.

Сёння спрачацца не хацелася, хоць Міхалеўскі «чапляў» пытанні, якія хвалявалі, над якімі ён, «дарожны філосаф», як называў Драмаку яго непасрэдны начальнік, часта думаў.

Павел Паўлавіч злавіў сябе на тым, што пракурор раздражняе яго. І амаль спалохаўся. Чаму раптам? Нядобра, калі сябра пачынае раздражняць. Небяспечны сімптом. Падумаў: ці не таму, што Леанід Аркадзьевіч адзеўся, як на вяселле, і, яўна не жадаючы пакамечыць свой элегантны плашч, не садзіцца, а ходзіць па пакоі? Ад таго гаворыць — як дыктуе. Прапанаваў яму распрануцца, але госць адмовіўся, сказаў, што ён на хвілінку. Аднак не спяшаўся развітвацца.

Паўлу Паўлавічу зрабілася па-сапраўднаму няёмка, калі Міхалеўскі папрасіў за сына нейкага ўрача — «даўняга сябра іх сям'і»: у хлопца адабралі правы за ліхацтва.

Капітан не любіў падобных просьб — калі прасіла начальства, людзі, з якімі штодня сутыкаешся па рабоце, ездзіш разам на рыбалку, ходзіш на футбол. Чалавек мяккі і добры, ён не ўмеў адмовіць, а пасля пакутаваў ад сваёй слабасці, ад таго, што прыходзіцца, па сутнасці, уступаць у тайную змову з уласным сумленнем. Са злосцю падумаў, што Міхалеўскі выдае сябе за вялікага законніка, а яго штурхае на парушэнне закона, на зігзаг, які ён напісаў пальцам. І нечакана нават для сябе самога адмовіў, хоць парушэнне і невялікае — хлопец быў не п'яны і абышлося без аварыі.

— Ты прабач. Але няхай твой пратэжэ паўгодзіка паходзіць пехатой. Яму карысна. Будзе мець час надумаць.

Міхалеўскі весела свіснуў. Павел Паўлавіч ведаў ужо гэты свіст: пракурор робіцца вясёлым, калі вельмі здзіўляецца ці злуецца. Акцёр! Пераблыталі яны з братам, відаць, свае прызванні.

Але Драмаку не хацелася, каб Міхалеўскі пакрыўдзіўся. І ён пачаў апраўдваць сваё рашэнне дзіўным для Леаніда Аркадзьевіча тлумачэннем:

— У Батрака — гэта прафесія. Сям'ю чалавек корміць. Аднак не пабаяўся віну ўзяць на сябе. Хоць вінаваты не ён. Адстаўнік, у якога не хапіла сумлення... Разумееш?

Зразумець логіку начальніка ДАІ было цяжка нават пракурору.

13

У канцы верасня дзень пераходзіць у вечар, у ноч адразу, нечакана. Няма сельскіх адвячоркаў, якія бываюць улетку. А ўлетку яны чароўныя і сваёй прыроднай асаблівасцю — мяккасцю адценняў бяз-

воблачнага неба, непаўторнасцю яго фарбаў ад полымя доўгага захаду, незвычайнай цішыні ў паветры, калі нават пыл, узняты статкам, доўга не асядае, і доўгай неўгамоннасцю людзей; сяло поўніцца гукамі — рыканнем кароў, што просяцца ў свае двары, галасамі дзяцей, музыкай тэлевізараў, што ляціць з адкрытых вокнаў, трэскам матацыклаў, адразу многіх, у розных баках... У летнія адвячоркі выразней адчуваюцца калектывізм і дабрыня людзей, іх спакой, іх добрая стомленасць, якая не заганяе ў хаты, у ложкі, а, наадварот, трымае ўсіх на вуліцы — мужчын, жанчын, дзяцей, старых. Улетку сяло заціхае павольна. Слабеюць усплёскі мужчынскага рогату, узлятае ў зорнае неба дзявочая прыпеўка, рассыпае свае гуллівыя акорды баян.

Увосень усё інакш. Каровы не просяцца дадому, іх пільнуюць і заганяюць, інакш прыйдзецца шукаць на саўгасным гародзе, дзе ўбіраюць капусту. Адразу знікаюць з вуліцы дзеці: школа, урокі. Моўчкі, па адным, разыходзяцца механізатары, нават у «Бабскія слёзы» заходзяць па адным, кампанія можа ўтварыцца хіба там.

У хатах, у дварах, здаецца, тая ж работа, але і яна нечым непадобная на летнюю, нейкі інакшы рытм у яе, не тая напоўненасць. Гэта адчувала Таіса Міхайлаўна. Жыла першую восень без каровы, і ў яе, увішнай, руплівай, на стыку дня і вечара, калі канчалася работа на ўрачэбным пункце і не надыходзіў час адпачынку перад тэлевізарам, як бы ўтвараўся провал, які не знала чым запоўніць. Хіба згатаваць вячэру на траіх можна лічыць работай? Ды яшчэ ў такіх умовах, калі ёсць і руская печ, выпаленая раніцой, і газавая пліта, на якой усё можна падагрэць, пакуль Іван памые рукі.

У той дзень заставаўся яго абед: Іван ездзіў у горад. Затрымка мужа на машынным двары ці ў канторы Таісу Міхайлаўну не хвалявала. Не ўпершыню. Дакладна ў адзін і той жа час сям'я снедала, вячэрала ж часта паасобку. Карней, напрыклад, павячэраў ужо і сядзеў у зале за ўрокамі. Бацькоў радавала, што ў дзесятым класе хлопец пачаў займацца вельмі сур'ёзна, «па-батракоўску ўедліва», як сказаў Шчэрба, падганяў матэматыку і фізіку, па якіх у дзевятым класе меў чацвёркі.

Таісу Міхайлаўну асабліва ўсцешыла, калі Карней даверліва прызнаўся ёй, што, хоць бацька раіць яму пайсці ў інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, ён марыць пра радыётэхнічны. Пакуль што гэта была іх тайна — ад бацькі. Але Таіса Міхайлаўна была ўпэўнена, што Іван не стане пярэчыць — які бацька будзе супраць радыётэхнічнага! Ёй проста прыемна мець з сынам такую харошую, радасную тайну, яна як бы душэўна збліжала іх.

Заглянуўшы ў залу і ўбачыўшы, што Карней ламае галаву над задачай, уяўляючы, якія яны складаныя, яго задачы,— за сёмы клас яна ўжо не ўмела рашыць, бо ўсё было не так, як тады, калі вучыліся яны,— Таіса Міхайлаўна хадзіла па кухні на насочках, каб, крый божа, не загрымець, не перашкодзіць сыну. Гэта абмяжоўвала яе працу. Сапраўды ўтвараўся нейкі правал, і яна адчувала сябе непатрэбнай у хаце. Не, да трагічнага адчування сваёй непатрэбнасці не даходзіла, а нешта такое... раздвоенасць нейкая. Напрыклад, вельмі хацелася, каб хутчэй прыйшоў Іван, з ім і без працы хораша, з ім — заўсёды свята, і ў той жа час лічыла: добра, што ён затрымліваецца,— Карней можа падумаць над сваімі трыганаметрычнымі ці лагарыфмічнымі функцыямі — ці што там у яго? — у поўнай цішыні, пры Івану такой цішыні не бывае, у таго не хапае цярпення сядзець моўчкі на кухні. Каторы ўжо раз Таіса Міхайлаўна падумала, што дарэмна прадалі карову, з каровай усё ж весялей. Івану здалося, што гаспадарка запрыгоніла яе, Тасю. Ды і самой ёй хацелася нейкага іншага жыцця — таго, інтэлігентнага, пра якое, магчыма, марыла яшчэ ў вучылішчы. Ну вось, набыла яго, такое жыццё. А, выходзіць, радасці ад яго мала. Позна, ці што? Ці кожнай лягушцы сваё балота? А што будзе, калі вылеціць з гнязда Карней, а Валя не вернецца ў саўгас? Жаночая доля такая — выйдзе замуж і апынецца з якім-небудзь лейтэнантам на Курылах.

Таіса Міхайлаўна пачула халадок пустаты і больш выразна, чым калі раней, свае гады. Думка пра старасць спалохала яе. З талеркай у руцэ, з ручнікам па плячы яна не без страху наблізілася да невялічкага люстэрка, павешанага на касяк акна,— перад гэтым люстэркам Іван галіўся; сама яна заглядала ў яго рэдка, сама любіла ўбачыць усю сябе ў вялікім трумо ў зале. Постаць у яе маладая, адзенне моднае, а маршчынак вось гэтых здалёк не відаць. Яна пагладзіла пальцам веер праменьчыкаў, што ішлі ад вачэй па скронях. Але асабліва не падабаліся ёй зморшчынкі на шыі, чамусьці яны здаліся самай яўнай прыкметай старасці. Яна бачыла іх і раней, але старалася не звяртаць увагі, быццам спадзявалася, што праз дзень-два яны знікнуць, як вяснушкі, як адзёравы сып ці фурункул. Ва ўсялякім разе, бадай ні разу яшчэ не думала так безнадзейна, што вось яна, невылечная хвароба — старасць. Але здалося, што вінаватая ў тым не яна, а тая, што глядзіць на яе з люстэрка, сумна і разгублена. І Тася паказала той, у люстэрцы, язык: во табе, чортава бабуля! Ты старэй, а я не буду! І засмяялася па-дзіцячы, як бы ўзрадаваная, што ашукала тую. Не, яна яшчэ маладая, бо ў яе так многа жаданняў, самых розных!

Карней неўзабаве перад тым засяроджана сядзеў над задачай, а тут выглянуў з залы

— З кім ты тут?

— З кошкай.

— Мне здалося — ты смяялася.

— Старэю, сын. А старыя размаўляюць самі з сабой. І смяюцца на адзіноце. І плачуць. Нешта бацькі доўга няма.

— Залізвае, відаць, раны.

— Якія раны?

— На машыне. Ён жа ў аварыю трапіў.

У Таісы Міхайлаўны памлелі ногі і, можа, на міг спынілася сэрца, бо як маленькія абцужкі сціснулі горла.

— У якую аварыю?

— Думаеш, я знаю? Прыехаў, кажуць, з пагнутым крылом, без фары.

Таіса Міхайлаўна замітусілася, пачала спешна апранацца, дакарала сына:

— О божа! Што ты за чалавек! Што ты за чалавек! Праклятая парода! Бацька ў аварыі, а ён сядзіць — задачкі рашае. І хоць бы слова.

Карней сумеўся, не разумеючы сваёй віны і прычыны, чаму маці так устрывожылася.

— А што, яго прывезлі, ці што? Сам прыехаў. Падумаеш — аварыя! Фару разбіў. Новую паставіць...

Але Таіса Міхайлаўна не чула сынавых слоў, бо была ўжо за дзвярыма.

Асеннія вечары цёмныя, ды яшчэ такія хмарныя, калі імжыць. На вуліцы гарэлі ліхтары. Было бязветрана, а ліхтары, здавалася, гайдаліся — пучкі імжыстых жаўтаватых промняў як бы пульсавалі, то скарачаліся, то выцягваліся, як бы жадаючы дацягнуцца да святла суседніх ліхтароў.

Па вуліцы ліхтары былі да самага машыннага двара. Але па вуліцы далёка. Таіса Міхайлаўна пабегла напрасцяк, праз гарод, хоць сцежка там была гразкая, а па слізкай кладцы на раўчуку за гародамі і ўдзень нялёгка пераходзіць. Але гэта была яго, Іванава, сцежка, ён штораніцы ішоў па ёй на працу, штовечар вяртаўся. Калі ёй ніхто нічога не сказаў, нават Карней, думала яна, значыцца, сапраўды нічога не здарылася, інакш людзі загудзелі б. Але яе спалохала само слова «аварыя». Ніколі Іван не быў у аварыі. Знала, што ён жывы, здаровы, і, аднак, усё роўна яе апанаваў страх. Ці не таму, што па невядомай логіцы яна чамусьці падумала пра Шышку. Таму і бегла так апантана, задыхана, спачатку па гародзе, дзе на слізкай сцежцы

ногі ў гумавых ботах коўзаліся і з'явіўся страх, як у сне, калі сніш, што бяжыш да шалёнага сэрцабіцця, да знямогі, а ногі коўзаюць на адным месцы. Так і ёй здалося — што па такой сцежцы яна ніколі не дабяжыць і... не паможа Івану. Хоць у чым яму трэба памагаць і чым яна можа памагчы — не ведала.

Трохі супакоіла роўнае святло на машынным двары, асабліва яркае святло ў майстэрні. Значыцца, там працуюць.

Брамка ў вялікіх варотах была адчынена, і Таіса ўбачыла на яме Іванаў «ЗІЛ». І ногі мужа. У стаптаных чаравіках, у старых рабочых штанах ногі тырчалі з кабіны. Хоць для шафёра гэта натуральная поза, Тасю яна спалохала: ногі тырчаць, як нежывыя. Але супакоіла постаць вартаўніка — Мацвея Рапяха. Той, абапёршыся на аднастволку, сядзеў на вялікай, з-пад «БелАЗа», шыне і смактаў люльку. А яшчэ супакоіў голас Хведзькі Шчэрбы, як заўсёды, вясёлы, гулліва-гарэзлівы, ён чуўся з-пад машыны, з ямы, як з таго свету:

— Вялікі ты брахун, Мацвей.

Мацвей гадоў на дваццаць пяць старэйшы за Шчэрбу, але Хведзька ні з кім не цырымоніцца — і на яго мала хто крыўдзіцца.

— Калі папытаць у народа, хто ў Добрынцы большы брахун, на каго пакажуць пальцам, як думаеш? — памяркоўна гугнявіў Рапях, выпускаючы дым праз нос.

— На мяне. Але я брахун бескарыслівы. Іван, як твая Валя мяне ахрысціла? Фантазёр! Во! Сачыніцель. Як пісацель — усё аддаю людзям задарам. А ты ж... растакую тваю... Рапях ліпучы!.. За кожнае слова хочаш калым мець.

Тася пераступіла парог брамкі і стала, трохі збянтэжаная, як бы згубіўшыся ў пустой вячэрняй майстэрні з цяжкім кранавым кручком, што вісеў перад яе тварам, паміж варотамі, ля якіх яна стаяла, і Іванавай машынай.

— Не лайся, словаблуд, трапло. Жанчына прыйшла.

— Каго там чорт прынёс?

— Іванава.

— А-а, кума! Вечар добры, куманька. Куды йдзеш? Раскажы мне праўдачку... Дорага табе, кума, абыдзецца етая аварыя. Прэміі нам не будзе з-за твайго віртуоза. У каго, ты думаеш, застаўшыся з Любінай дуляй у кішэні, я буду піць?

— Калі ты ўжо нап'ешся? — спытаў Мацвей.

— Ты колькі жонак памяняў? Трох законна? Так? А колькі незаконна? Ага, баішся прызнацца! Ды я табе скажу, старая ўключына: каго на што цягне. Як ты да баб астыў, так я да сіе жывіцельнае влагі астыну. Іссякну. І буду расказваць унукам, які я правільны быў. Як

ты, Рапях. Іван, крутні руль. Палец я табе паставіў залаты! Калі яго яшчэ замачыць, сто гадоў будзе хадзіць.

Іван, пачуўшы пра жонку, вылез з кабіны. Быў ён у чорным зашмальцаваным халаце, без шапкі, ускудлачаны, з масленай плямай на шчацэ, якая надавала твару нейкі дзіцячы выраз. Стаяў, як школьнік, які правініўся перад настаўнікам, апусціўшы рукі, у адной трымаў гаечны ключ, у другой — нейкі провад. Глядзеў на Тасю без усмешкі, збянтэжана, устрывожана і вінавата. Спытаў ледзь не шэптам:

— Ты што?

Тася падышла бліжэй.

— Цябе доўга няма...— як бы просячы прабачэння, сказала яна.

— Во баба! — радасна закрычаў з ямы Шчэрба, нібы гэта яго Таіса Міхайлаўна ашчаслівіла сваім прыходам.— Мужыка няма — і яна ўжо тут! Ты хоць адну такую жонку меў, Рапях?

— Што ў цябе? — не чуючы Шчэрбу, не бачачы з-за машыны Мацвея, спытала Тася.

— Ды во... пацалаваўся з адным...

— Не слухай яго, Тася! — блазнаваў пад машынай Хведзька.— З адной, а не з адным. Такая, знаеш, з круглым задам. Стараватая, праўда. Іван твой у зад яе і цмокнуў. Ні чорта ты, Рапях, такой жонкі не меў. Крутні ты мне руль!

Таіса Міхайлаўна за многа гадоў звыклася са Шчэрбавым пустаслоўем, блазнаваннем, але на гэты раз па-дзявочаму зачырванелася. Можа, ад яго слоў, а хутчэй — ад радасці, што Іван побач з ёй і што сапраўды нічога асаблівага не здарылася, толькі крыло машыны другога колеру — жоўтае.

Чаму Іван, дзівак, глядзіць на яе вінавата? Няўжо думае, што яна можа папракнуць яго за аварыю?

Іван палез назад у кабіну, павярнуў баранку ў адзін, у другі бок.

— Так! Зэр гут! — гукнуў з ямы Шчэрба.

Мацвей на Шчэрбавы словы пра Тасю і пра яго жонак кінуў:

— Аблізніся на чужое сала,— шпільнуў, што, маўляў, не такі і ты ўжо шчаслівы муж.

Але Шчэрбу лепей не чапай, маўчы, бо зачэпіцца ён, як за добры кручок, за любое слова і будзе раскручваць бясконцы шматколерны клубок сваіх досціпаў.

— Ты, стары мяшок,- скажаш, што ў калюжу... Прабач, Тася. Табе цяпер адно сала наўме. Раўняеш чалавека з салам! У чалавека — душа. Знаеш ты, шчо такое душа? Нічога ты не знаеш. Дзе ты яе мог пабачыць? Калі ў бабы ёсць душа, такая пабяжыць шукаць мужа сярод ночы, у слату і хлюпату, і пойдзе за ім куды хочаш, хоць на вайну,

хоць на смерць. Мая, зараза, не пабяжыць. Толькі ў дзень палучкі да канторы бегае. А каб так во... увечары — шчо ты! I не падумае. А можа, я дзе пад плотам акалеў?

Тася прайшла да кабіны і, не зводзячы вачэй з Івана, бо і ён глядзеў на яе, думаючы пра сваё, але ловячы краем вуха Шчэрбавы словы, засмяялася — не ад слоў яго, ад радасці сваёй, што Іван перад ёй у звыклай паставе — у кабіне, за рулём, і, па ўсім відаць, яму прыемна, што яна прыйшла, і прыемна ад таго, што кажа пра яго жонку Хведзька.

Старому Рапяху, хоць і не быў ён крыўдлівым і сварлівым, хацелася адплаціць Шчэрбу за яго непаважлівыя мянушкі і здзеклівыя выказванні, насаліць неяк яму, але не хапала не толькі дасціпнасці, але і звычайных слоў, бо на працягу ўсяго гультаяватага свайго жыцця ён ужываў іх, слоў, нямнога, хоць аб'ездзіў паўсвету і хваліўся, што ўмее гаварыць па-кіргізску.

— А ты не валяйся пад плотам, як...— і асекся.

Шчэрба цярпліва пачакаў, з кім параўнае яго Рапях. Не дачакаўся.

— Як хто?

— Сам знаеш, як хто.

— Не, ты скажы. Баішся, канакрад? Іван! Скажы етаму попаўзню, шчоб поўз з масцярской, а то як вылезу з ямы... Не, нос я табе не раскрывяню. Карнеевіча падводзіць не хачу: судзіць яму прыйдзецца мяне. А самае цяжкае — судзіць сваіх, з кім дружыш. Але, запомні, Рапях, заўтра недалічышся пяці трактараў, і адзін будзе стаяць у цябе на печы.

Манументальны стары, што сядзеў на шыне ў дагістарычным кажуху і ў такой жа аблезлай шапцы, з дапатопнай бярданкай, як каменны, якога, здавалася, нішто ўжо но хвалявала і не абурала, як і таго курганнага ідала, нечакана злосна плюнуў:

— Цьфу, нячыстая сіла! Пустабрэх! — па-маладому спрытна падняўся і, ускінуўшы аднастволку на плячо, пашыбаваў да варот.

Шчэрба праз свае шчарбіны свістаў у яме смехам — сіпеў, быццам выпускаў паветра адразу з усіх шын.

Іван прыціснуўся грудзьмі да баранкі, не даючы смеху вырвацца: няёмка смяяцца са старога.

Таіса Міхайлаўна закрыла рот рогам хусткі.

— Нельга так, Хведар.

Рапях узлаваўся па дзвюх прычынах: за канакрада і за трактар. Канакрад — адзіная мянушка, якую ён не зносіў. Гадоў паўсотні назад, малады, ён украў у суседнім сяле каня; яго злавілі, моцна пабілі,

пасля чаго ён з'ехаў з Доббрынкі, і з таго часу жыццё яго ішло па раздарожжы: ездзіў, прыставаў у прымы, пасвіў коней у кіргізаў, вартаваў прыстані і склады, бо фізічнае работы не любіў. З трактарам — прыгода зусім нядаўняя, калі старога Рапяха, які меў мізэрную пенсію, для матэрыяльнай падтрымкі Астаповіч паставіў вартаваць машынны двор. Мацвей хоць і не вельмі гаваркі, але, як усе вандроўнікі, манюка; расказаў ён неяк механізатарам, пасля работы ў хатцы вартаўніка яны бралі па чарцы, нейкую гісторыю, у якой ён, вартаўнік, нібыта праявіў проста такі гераічную пільнасць. Паслухалі яго, хто паверыў, хто паўсміхаўся. А раніцой наступнага дня — скандал: на машынным двары недалічыліся аднаго трактара. Укралі. Астаповіч не паверыў, калі яму далажылі. Усё было за час яго работы. Але каб укралі трактар!.. Не верыў. Не сумняваўся, што гэта жарт. Загадаў шукаць. Аблазілі ўсё наваколле — задворкі, лес, луг. Як у ваду канула машына. Слядамі трактарнымі спісана ўся зямля. Дажджу не было. Не разабраць, дзе стары, дзе новы след. Мусілі званіць у міліцыю. Падзея раённага маштабу: укралі трактар! Начальнік міліцыі, безумоўна, паслаў лепшых сваіх дэтэктываў. Адзін са следчых доўга і пільна вывучаў сляды на машынным двары, на выездзе з яго і раптам пайшоў на адным следзе і прыйшоў да хаты Рапяха, дакладней кажучы, да хаты ўдавы, да якой Мацвей колькі гадоў назад, вярнуўшыся з вандровак, прыстаў. І пайшоў міліцыянер у двор Рапяха і далей — у хлеў з шырокімі гнілымі варотамі, у хлеў гэты гаспадары рэдка заглядвалі, бо па старасці і ленасці не трымалі ні каровы, ні свінні, толькі курэй. І стаяў у гэтым хляве трактар «Беларусь», здзіўлена зіркаючы фарамі, як бы пытаючыся: «Куды я трапіў?»

Рагатала ўся Добрынка. Такога рогату, казалі, не было з таго часу, як людзі навучыліся смяяцца. Рагаталі ўсе — маладыя, дзеці, старыя, кіраўнікі, хоць Астаповіч і пагражаў пакараць жартаўнікоў, але не стаў з дапамогай трохі сканфужанай і ўзлаванай міліцыі даследаваць, хто яны, гэтыя вясёлыя зладзеі. Усе, канечне, адразу падумалі на Шчэрбу: такое толькі Хведзька мог прыдумаць.

Рапях моцна пакрыўдзіўся: гэта ж трэба пад носам у яго выкаціць трактар, пад носам у жонкі закаціць у двор і ў хлеў ды яшчэ і след пясочкам засыпаць. Але асабліва крыўдзіла, што жарт быў злосны — як бы напамінак пра яго колішняе няўдалае канакрадства. Казалі, што хацеў Рацях ад ганьбы зноў з'ехаць, ды баба не пусціла. Змірыўся. Астаповіч пашкадаваў старога — не звольніў. Але вельмі не любіў Мацвей, калі пра гэта пры ім успаміналі. А калі яшчэ пачынае выскаляцца Шчэрба, без якога, усе лічылі, не абышлася такая прыгода, то тут і нежывога злосць пераверне.

— Нельга так, Хведар,— зноў паўтарыла Таіса Міхайлаўна.

— Чаго там нельга?

— Смяяцца са старога...

— Стары еты смех заслужыў сваёй жызняй. З мяне ж таксама смяюцца. І ты смяешся. І я з кулакамі ні на каго не лезу. Заслужыў — ем і аблізваюся.

Словы гэтыя — звычайная вясёлая Шчэрбава балбатня, на якую ў любы іншы час Іван не звярнуў бы ўвагі,— скаланулі, бо тут ён падумаў: «Заслужыў... За тое, што некалі няўдала каня ўкраў. А што ж тады заслужыў той?»

Прыціх у кабіне. Даўно ўжо заўважыў: як падумае пра Шышку, так быццам дранцвее, як паралізуе думка яго фізічную сілу, зрок, цвёрдасць рукі. Ад таго і рэфрыжэратар ляцеў насустрач дзікім горным абвалам, вернай смерцю. Праўда, там сядзеў другі чалавек, які трымаў руль, надзейна кіраваў машынай. І аднак... Бяспека на дарозе — гэта пільнасць дзвюх пар вачэй, цвёрдасць і ўменне дзвюх пар рук. Даволі адной пары аслабнуць, як аслаблі ў той міг у яго...

Іван пахаладзеў, уявіўшы, як ён страціў адчуванне бяспекі перад рэфрыжэратарам. Як асляпіла. Не, сапраўды, як адразу ў дзвюх машынах патухлі фары і яны імчалі адна на адну, што сляпыя. Як ён мог пасадзіць Шышку да сябе ў кабіну? На святое месца. Дзе сядзелі Тася, Карней... часцей за ўсіх Карней...

Цяпер яму здавалася, што ён зрабіў нешта непапраўна недаравальнае, ганебнае. Праз гэта, безумоўна, не сказаў Драмаку, хто быў з ім у кабіне. Не сказаў пра гэта і тут, у саўгасе, калі вярнуўся на свой машынны двор. Расказваў залішне нават мнагаслоўна пра аварыю, але ні слова пра Шышку. Гэта было зусім ужо недарэчна, бо ў канторы ведалі, з кім ён паехаў. І калі па сяле ехаў, маглі бачыць; напэўна, бачылі, нельга пасярод дня праехаць незаўважаным, ды яшчэ з такім пасажырам. Ужо тады, удзень, яму здавалася, што механік, слесары, шафёры, трактарысты — усе знаюць, з кім ён ехаў, але далікатна маўчаць, не пытаюць, бо ім таксама няёмка, сорамна за яго — што ён пайшоў на такое. Ці даўно ён з гневам расказваў ім, як Шышка страляў пад печ, дзе ён сядзеў? І — на табе, пасадзіў забойцу побач з сабой. Цяпер, увечары, мніцельнасць яго абвастрылася. Не, людзей ён не дакараў, наадварот, дзякаваў ім, што яны так глядзелі на яго. Ён папрасіў слесара Паўла Мазаева памагчы яму адрамантаваць машыну. Каму-каму, а яму, Івану, Павел ніколі ні ў чым не адмаўляў. А тут сказаў, што паабяцаў цесцю накрыць хлеў: работа такая, што трэба зрабіць завідна. Тады Іван паверыў, а цяпер думаў, што Мазаеў не застаўся па іншай прычыне.

Хведар ахвотна застаўся. Хведзька мог нічога не знаць, вазіў бульбу ў бурты, напэўна, не знаў, інакш не вытрымаў бы — сказаў. Але што ён падумае пра яго, пра Івана, калі заўтра даведаецца, з кім ён ехаў. Чаму ў яго не хапіла мужнасці сказаць праўду? Але, урэшце, можа быць і тлумачэнне: гаварыць пра Шышку — як бы апраўдваць сваю аварыю, а ён апраўдання не хоча. Не трэба яму спагады, жаласці. Аднак Хведзьку трэба сказаць. І, безумоўна, Тасі.

Іван адчуў, як пільна глядзіць на яго жонка: злавіла яго задумлівасць. На колькі часу ён паглыбіўся ў яе, у задумлівасць? На міг? На мінуту? На пяць мінут? Ва ўсялякім разе, не на мала, бо Шчэрба вылез з ямы і бубніў ужо над вядром з керасінам — мыў рукі.

Іван вінавата, не разумеючы, што палохае гэтым жонку, усміхнуўся Тасі, сказаў:

— Ідзі дадому. Нам трэба яшчэ пакрасіць крыло. Работа невялікая, але някароткая — пакуль пачысцім, загрунтуем...

— Хадзем дадому. У цябе стомлены выгляд. Заўтра даробіце.

— Што ты! Кінуць на заўтра — дзень прастою. Пакуль высахне. А так за ноч высахне, і заўтра мы будзем гатовы ў рэйс. Мы цяпер усе эканамісты, знаем, у што абыходзіцца прастой.

— Не спакушай, кума! Тут ужо і ў мяне прынцып: кончыў дзела — гуляй смела.

— Я буду з вамі,— сказала Тася.— Дайце мне работу.

— Дай ёй, Іван, работу, Без работы яна самлее.

— Якую табе работу? Ідзі дадому. Згатуй вячэру. Прыйдзем з Хведарам,— але ні рашучасці, ні ўпэўненасці ў Іванавым голасе не было, ён добра знаў сваю жонку, разумеў, што яна чуе яго душэўны неспакой і, безумоўна, нікуды не пойдзе, не выганіш жа яе сілай.

— Я табе, кума, прынясу крэсла з канторкі механіка, ты сядзеш і будзеш расказваць нам казкі. Умееш? Калі забылася, то лекцыю прачытай пра гэтую самую... як яе?.. пра гінекалогію сваю. Усё хачу ўзнаць, як я на свет з'явіўся. А то ўсё яшчэ веру, што мяне бабка ў Казіным знайшла. Чорт яго знае, можа, такіх, як я, і праўда ў балоце знаходзяць? Ад таго яны трохі не кожны дзень мокрыя да самага скону. Дзе твая наждачная папера, Іван? Пачысцім іржу. Самога сябе таксама было б не лішне падраіць наждачком.

Работу сабе Таіса Міхайлаўна знайшла — вычысціла ў кузаве, працерла да бляску шыбы, шчыток прыбораў, ручкі дзвярных замкоў, люстэрка. Па-жаночаму, па-гаспадарску, бадай па-медыцынску — як працірала свае акушэрскія інструменты. Хацела падмесці ў кузаве, але Шчэрба не даў: нельга перад афарбоўкай узнімаць пыл, сядзе пасля на свежую фарбу.

Яны перакідваліся лёгкімі, несур'ёзнымі, бяздумнымі, у Шчэрбавым стылі, словамі, жартамі. Яна і Хведар. Іван маўчаў. Іван не слухаў і не чуў іх. Тася бачыла, што ён не чуе, і яе ахоплівала незнаёмая трывога, амаль страх. Ёй хацелася хутчэй застацца з Іванам адзін на адзін, без сведкі, і спытаць, што з ім. Калі яго так засмуціла аварыя, то сказаць, каб не перажываў: не было б бяды большай, а гэта глупства, чаго ні бывае на дарогах, сам жа казаў. Характар у яго такі, у Івана. Гэта не Шчэрба, які пяць разоў абдзіраў бакі сваёй машыне, яго на трактар перасаджвалі, правоў пазбаўлялі не адзін раз і цяпер трымаюць на старой трохтонцы, музейнай, як жартуюць маладыя механізатары. І ён, Шчэрба, смяецца з сябе разам з другімі, ні з чаго не рабіў трагедыі. Ці, можа, яго жарты — ахоўны панцыр, афарбоўка, мімікрыя?

Прыйшоў Карней. Тасю хораша крануў сам яго прыход. Значыцца, не абыякавы хлопец да таго, што адбылося, толькі паказаў звышмужчынскую абыякавасць. Не вытрымаў, усхвалявала яго, чаму так доўга няма бацькоў.

Івану таксама спадабалася, што прыйшоў сын, няхай сабе і на завяршэнне рамонту, калі пачалі распыляльнікам фарбаваць крыло. Карней павітаўся са Шчэрбам, хоць відно было: не надта ён узрадаваўся прысутнасці суседа-зубаскала.

— Прывет, хрэснічак! Ты чаго прыходзіш на разбор шапак? Памог бы бацьку свайго залатаць.

Карней з сур'ёзнасцю гаспадара і вялікага знаўцы агледзеў машыну. Спытаў па-даросламу з неспадзяванай для бацькоў практычнасцю, падрабляючыся пад Шчэрбаву манеру размовы:

— І ў які пятак табе ўляціць такі гузак?

Іван здзівіўся: ніхто пра гэта не спытаў — ні сябры-шаферы, ні Тася. Растлумачыў не столькі сыну, колькі Тасі і Хведару:

— Каб ён прыгнаў сваю «Пабеду» сюды, то дорага не абышлося б, самі ўсё зрабілі б, хіба крыло ды верх багажніка прыйшлося б купіць. Але маёр, відаць па ім, свайго не ўпусціць. Здзярэ ён з мяне па вышэйшаму тарыфу. І за рамонт, і за свае перажыванні.

Карней хмыкнуў, як бы пацяшаючыся:

— Плачуць твае «Жыгулі», мама. То Валька тваю панчоху патрэсла, то бацька...

На яго словы, якія дома, у сямейнай размове, бацькі прынялі б без усялякіх эмоцый, нечакана для ўсіх узлаваўся Шчэрба, якога, здавалася, ніколі не кранали адносіны іншых людзей і які сам кпіў з жадання пані Тусі перагнаць прагрэс на «Жыгулях».

— А чаго ты хмыкаеш, парасёнак? Думаеш, матка хоча для сябе купіць машыну? Нашто ёй? Ездзіць роды прымаць, ці шчо? Дык раджаць не хочуць, усе разумныя дужа пасталі. Яна стараецца для цябе, ёлуп цара нябеснага.

— Не трэба мне тая машына,— агрызнуўся Карней, адступаючы ад Шчэрбы, бо той раптам павярнуўся да яго і наканечнікам распыляльніка напісаў па бетоннай падлозе васьмёрку, трохі не пафарбаваў Карнею чаравікі і штаны.

Таіса Міхайлаўна, усё яшчэ поўная радаснай удзячнасці сыну за тое, што прыйшоў, пакрыўдзілася за «парасёнка» і «ёлупа» і тут жа, як птушка, кінулася на абарону птушаняці.

— Карней у нас такі... яму нічога не трэба, адны кнігі кўпляе.

— Ты глядзі! — прытворна здзівіўся Шчэрба.— А я думаў: адзін такі дурань у Добрынцы, якому нічога не трэба,— я. Можа, і мне пачаць кніжачкі купляць? Якась адзін хахол на склад сельпо заваліўся, перабраў увесь кніжны завал, два мяшкі кніжак набраў. Я — да яго: хіба ў вас, кажу, на Украіне, кніжак не хапае? Паглядзеў на мяне, як на першабытнага чалавека — таго, што згорблены яшчэ, з доўгімі рукамі. Такім я здаўся таму хахлу. Кніжкі, кажа, сёння самы дэфіцытны і самы цэнны тавар, даражэй за золата. Во! Так шчо хрэснік мой не дурак — знае, у што капітал свой улажыць. Глядзі, і будзе гэты самы... як яго?.. прыбавачны прадукт. Шчо ты, кума, глядзіш на мяне? Лічы, што адкрыццё зрабіў. Як Карл Маркс. Ад чаго, ты думаеш, наш чалавек можа палучыць прыбавачны прадукт? Ад «Жыгулёў» тваіх? А дулю не хацела? Адно разарэнне ды клопаты будзеш мець ад «Жыгулёў». Ад кніг! Ад іх, глядзі, штось і прыбавіцца. У галаве. А будзе ў галаве — будзе і ў кашальку.

— Дарэмна вы баранку круціце,— шпільнуў Карней суседа.— У прафесары можна ісці, ведаючы так палітэканомію.

— Батракі! Чулі, куды ваш сын мяне пасылае? У прафесары. Во бандыт! Пастой жа, зараза. Я табе прыпомню! Гэта ж усё роўна, каб сказалі: ідзі ў свінапасы...

У любы іншы час Іван пасмяяўся б са Шчэрбавых «дурыкаў», так называлі ў сяле яго кепікі з любой нагоды — з нараджэння, вяселля, са смерці, паступлення ці непаступлення на вучобу, з прэміі, з Астаповічавага партрэта ў газеце; не толькі чужыя людзі, але і свае, хто працуе і жыве з ім побач, не заўсёды разумелі, калі Хведар жартуе, а калі гаворыць сур'ёзна. Можа, толькі ён, Іван, гэта заўсёды адчуваў і ўмеў падыграць яму скупым словам ці стрыманым смехам.

Але сённяшняе старанне Шчэрбы пасмяшыць прападала марна. Івану было не да смеху. Ён думаў, што Карнею таксама трэба рас-

казаць, як узнікла аварыйная сітуацыя. І нельга не сказаць, хто быў у кабіне. Кожнаму прыйдзецца тлумачыць, чаму ён паехаў з паліцаем. Але ці кожны зразумее? Напэўна ж не, бо і сам ён не разумее, сам сабе не можа вытлумачыць свой учынак.

Карней са смехам прымаў амаль усе Шчэрбавы жарты, акрамя аднаго — наконт яго, Карнеевых, адносін з дзяўчатамі.

Мабыць, баючыся, што, завёўшы на поўныя абароты сваю «бра-халку» (так называе Шчэрбаву балбатню яго цешча), Хведар дабярэцца і да гэтай тэмы, бо так было заўсёды — калі завядзецца, то ўсё перабярэ! — Карней непрыкметна знік, як толькі Шчэрба і бацька адвярнуліся, шукаючы нейкі інструмент. Маці ўбачыла, як ён нырнуў у брамку, але змаўчала: магчыма, здагадалася, ад чаго ён уцякае, а можа, проста звыклася, што сын вось так жа нечакана выходзіць з дому; бывала, глядзіць па тэлевізары фільм і раптам з палавіны фільма — шусь за дзверы. Івана гэта здзіўляла і засмучала, яе — не, маладая яна сама такая была: нечаканая думка, жаданне перамагалі цікавасць да размовы, да фільма, да ўрокаў.

Туманная імжа ахутала свет, згусціла ноч... Відзён быў толькі бліжэйшы ліхтар — вялікі жаўтаваты шар, скупое святло ледзь цадзілася на зямлю. А за ім — чорная бездань: ні агеньчыка, ні абрысаў лесу, ні будынкаў. Здавалася, што імжа, як вата, нават гукі прыглушыла. Бязгучна ступалі па мяккай зямлі боты. Далёка-далёка, як у іншым свеце, гучала ціхая, незямная музыка. Шум адзінокай машыны на шашы таксама здаваўся ненатуральна далёкім, як гул карабля, што імкліва аддаляўся ў глыбіні космасу.

На машынным двары яны паспрачаліся, як пайсці,— па вуліцы, дзе гарэлі ліхтары, ці па запаветнай сцежцы цераз гароды, як Іван і Шчэрба хадзілі заўсёды, акрамя хіба ранняй вясны, калі разліваўся ручай.

Хведару захацелася пайсці па вуліцы, і Тася згадзілася з ім: цяпер ёй усё роўна, гэта сюды яна выбірала найкарацейшы шлях, каб даляцець хутчэй. Цяпер яна супакоілася, хоць настрой Іванаў усё яшчэ не падабаўся ёй. Сапраўды, чаму ён заўпарціўся — ісці толькі па сцежцы? У такую цемень! Праўда, у яго ёсць ліхтарык — «лягушка», але не вельмі асветліш сцежку такім святлом. Ніколі з-за такой дробязі не спрачаўся. І Шчэрба таксама. А тут уперліся, як наравістыя казлы. Не ўступаюць адзін аднаму — дый годзе! Шчэрба махнуў рукой і пайшоў на дарогу. Іван не пайшоў следам за ім, але запрасіў:

— Заходзь жа, павячэраем разам.

— Не хачу,— адказаў Хведар.

Таісе Міхайлаўне зрабілася няёмка — быццам за дабрыню, за падмогу чалавека пакрыўдзілі.

— Чаго ён, Ваня?

— Чорт яго знае. Блыха ўкусіла. Хведзькі не знаеш?

Адказаў жонцы амаль весела, а думка была невясёлая: чакаў Шчэрба, што ўрэшце ён скажа пра Шышку, пра аварыю ўсю праўду, не дачакаўся — таму пакрыўдзіўся. Гэта ж калі было, каб Хведзька пасля работы адмовіўся ад чаркі!

Ішлі моўчкі. Іван наперадзе. Націскаў і адпускаў рычаг «лягушкі». Назойліва пішчала дынамка; ліхтарык свяціў няроўна, то ярка, то цьмяна, а то зусім згасаў — мабыць, млелі пальцы.

Таіса Міхайлаўна думала пра Шчэрбу: якая блыха яго ўкусіла? Чым больш яна думала, тым больш ёй рабілася няёмка перад даўнім Іванавым сябрам, суседам, з якім яны, як кажуць, з'елі не адзін пуд солі.

Іван таксама думаў пра Хведара, але ў іншым плане — пра сябе: што перашкодзіла яму сказаць таварышам па рабоце пра Шышку — што ён быў побач у кабіне ў часе аварыі?

Перайшоўшы ручай, Іван павярнуўся, асвяціў кладку, падаў Тасі руку. Правёў і не выпусціў яе рукі. Перастаў націскаць рычаг ліхтарыка. Трымаючыся за рукі, яны замерлі ў цемені, слухаючы і ўгадваючы настрой, пачуцці адно аднаго праз рукі, па іх цеплыні.

— Тася! — ціха і трывожна, быццам згубіў яе ў цемры, паклікаў Іван.

— Што, Ваня? — і гэтае «што» было як адказ хвораму: «Я тут, я з табой».

— Са мной ехаў *ён.*

— Я так і падумала,— ціха ахнула яна.

— Качанок яго паслаў. Я ўзяў... Я хацеў паглядзець яму ў вочы. Я сказаў яму... І пасля... у мяне пацямнела ў вачах, я чуць не наляцеў на рэфрыжэратар. Мне хацелася забіць яго!

Тася адняла руку і абшчапіла яго галаву, правяла далонямі па калючых халодных шчоках, горача зашаптала:

— Што ж гэта такое, Ванечка, родны? Што ён робіць з намі?

— Пасля аварыі ён кінуўся ў кусты, як заяц. Пачуўшы, што я сядзеў пад печчу, што ўсё знаю, ён хацеў выскачыць з кабіны. Больш ён не прыедзе ў Добрынку. Пабаіцца. І мы забудземся на яго. Выкінем з памяці...— Ён не верыў, што можа забыцца на перажытае зноў, як забыўся быў да з'яўлення Шышкі, і зноў набудзе шчаслівы спакой, але яму хацелася супакоіць жонку, бо ён адчуў, як спалохала Тасю яго

жаданне забіць.— Будзь ён пракляты! Няхай здыхае сваёй смерцю. Не бойся. Во дурная! Ажно дрыжыць уся. Супакойся, кажу табе.

14

Не, Шышка не знік. Ён вярнуўся ў Добрынку. Праўда, не адразу, не ў той дзень — дні праз тры. Гэтыя дні ён правёў у Гомелі, у сваёй пляменніцы.

Батракоў гнеў — кіпеў чалавек, ажно аварыю зрабіў,— яго словы, што сядзеў ён пад печчу ў тую ноч, спалохалі былога паліцая, бадай, больш, чым арышт у сорак чацвёртым, калі прыйшлі з асобага аддзела і ўзялі яго з акопаў, з баявой аховы на беразе Віслы. Тады, апынуўшыся ў Савецкай Арміі, Шышка лічыў сябе амаль уратаваным: баязліва хаваючы за брустверам галаву, ён, аднак, часта выстаўляў рукі, жадаючы лёгкага ранення, каб крывёю акупіць сваю віну. Спалохаўся ён пасля, на вочнай стаўцы з Лапаем. Лапай адступіў з немцамі, і ён, Шышка, радаваўся гэтаму: знікне бясследна яго хаўруснік недзе ў Германіі, а калі і трапіць у рукі савецкіх разам з гітлераўцамі, з уласаўцамі, то іншых правінак яго «Смершу» даследаваць не будзе патрэбы: кокнуць як здрадніка, без доўгага суда. Але ўсе Шышкавы разлікі рухнулі. Сабралі многіх, хто служыў акупантам, у тым ліку начальніка раённай паліцыі, бургамістра. Быў суд, доўгі — ажно два тыдні. Можа, тое, што судзілі адразу многіх і былі сярод здраднікаў сапраўдныя «шышкі», ратавала яго, радавога паліцая. Не, хутчэй за ўсё да такой думкі ён пасля прыйшоў, ратавалі яго самі ж добрынцы, бо ў паказаннях на судзе ўвесь свой гнеў абрушвалі на Лапая. Пра яго ж казалі між іншым. Старая Даніленкава на пытанне суддзі ці пракурора пра яго, Шышку,— як ён сябе паводзіў, так адказала: «Еты больш самагонку глушыў ды па чужых бабах лазіў».

З пахаладзелымі рукамі і нагамі, анямелы, слухаў ён тады прыгавор. Не пачуўшы свайго прозвішча сярод тых, бясконца доўгі пералік імёнаў якіх і іх злачынстваў канчаўся страшнымі словамі «да вышэйшай меры — пакарання смерцю цераз павешанне», Шышка адчуў сябе шчаслівым. Усё іншае яго тады не палохала — абы жыць. У калоніі ён зусім супакоіўся і, перакопваючы іншых асуджаных, што ўся яго віна толькі ў тым, што ён пад «п'яную лавачку» паступіў у паліцыю, патроху і сам сябе пераканаў, што сапраўды віны за ім ніякай няма. Аб расстрэле партызанскіх сем'яў навучыўся ўспамінаць так, каб зноў жа апраўдаць сябе. Правёўшы ў калоніі гадоў пятнаццаць і сустрэўшыся там з чалавекам, які пачаў «далучаць яго да бога», Шышка паверыў, што «бог прыняў яго», бо двойчы ўратаваў ад вернай смерці, а калі бог прыняў, то, значыцца, няма на ім граху, а калі і

быў, то пакутным катаржным жыццём сваім і малітвамі ён даўно «искупил» свой грэх і цяпер чысты душою, як агнец бязгрэшны. Апошнія дзесяць гадоў, ужо вольны, на залатым промысле, ён ні разу і не ўспомніў аб той ночы, калі яго прымусілі (ён з самага пачатку апраўдваў сябе тым, што яго прымусілі) страляць у вяскоўцаў. Калі няма граху, калі сам бог адпусціў грэх, то навошта ж яго ўспамінаць, навошта вярэдзіць душу сваю?

Аднойчы толькі ён успомніў пра тую ноч са страхам — калі, атрымаўшы пісьмо ад дачкі, вырашыў вярнуцца ў Добрынку: падводзіла здароўе, балелі ногі, не тыя гады, каб рабіць у сібірскіх рудніках. Але да таго часу ён сапраўды такі паверыў у бога і цалкам спадзяваўся на яго. Жывучы два месяцы ў Добрынцы, перажыўшы і адкрытую варожасць, пагрозу цвярозага настаўніка Багаценкава, у якога таксама расстралялі сям'ю недзе ў Рэчыцкім раёне, і п'янага Шчэрбы, які патрабаваў, каб паліцай «ачысціў свет» ад сваёй прысутнасці, і здзіўленне некаторых, недаўменне і дзіўную цікаўнасць маладзейшых, Шышка ўсё больш пераконваўся, што бог нідзе, ні ў чым не пакідае яго,— і ўсё больш упэўніваўся у сваю бязгрэшнасць.

І раптам — як гром з яснага неба. Шчэрба, праўда, тыдзень назад спалохаў яго словамі, што «кроў дзяцей яму не забудуць», але да п'янага мала хто прыслухоўваўся.

Ад месца аварыі Шышка сапраўды шуснуў у кусты, што заяц. Паўдня прасядзеў у прыгарадным лесе. Упершыню з крыўдай падумаў пра свайго бога. Дзе ж ён дзеўся, чаму адступіўся ад яго, хто дваццаць гадоў шле яму сваю хвалу, свае малітвы, хто ведае на памяць увесь псалтыр, увесь новы запавет? Рэфлекс самаахові, страх смерці адразу падказалі самае простае, самае прымітыўнае: уцячы, знікнуць, згубіцца ў людскім моры і пражыць дзе-небудзь ціха астатак жыцця. Але занадта многа ён перажыў, занадта многа чуў розных гісторый, занадта добра ведаў і законы, і практыку крыміналістыкі, каб доўга несці такую недарэчную, павярхоўную, проста хлапчукоўскую, як у тых «кარманшчыкаў», думку. Знікнуць — значыцца, прызнаць сваю віну. І тады яго пачнуць шукаць. А такіх, хто ідзе пад грыфам «ваенныя злачынцы», шукае не міліцыя — следчыя іншай установы, якія зубы на гэтым з'елі. Сустракаў ён такіх — былых паліцаяў, салдат зондэркаманд, уласаўцаў, якіх знайшлі і праз дзесяць, праз пятнаццаць і праз дваццаць гадоў. Не многім з іх далі тэрмін. Яны схаваліся яшчэ ў вайну, калі людзей кружыла, як у віры. І не было ў органаў ні іх фотаздымкаў, ні адбіткаў пальцаў, ні асаблівых прыкмет. А ў яго апісаны кожная радзімая плямка, кожны зуб, свой і ўстаўны, замераны рэўматычныя скрыўленні пальцаў ног. Увесь ён апісаны, сфата-

графаваны, з усіх бакоў прасвечаны рэнтгенам многа разоў, узважаны і цалкам, і па частках. Дзе ён такі можа схавацца? Не такія ў яго сувязі, каб раздабыць дакументы. А пра пераход граніцы то цяпер, напэўна, і вопытны шпіён не марыць, не толькі яму думаць.

Два дні ён прагасціў у пляменніцы ў Гомелі, задобрыўшы яе падарункамі. Але пляменнічынаму мужу, рабочаму нейкага завода, вельмі не спадабаўся такі госць, мабыць, ён чуў пра яго раней, і Шышка ўначы пачуў, як муж шыпеў на жонку: «Каб заўтра духу яго не было. І шмотак гэтых каб я не бачыў!»

І Шышка вярнуўся дадому, аддаўшы сябе на волю бога: «Обратись, господи, избавь душу мою, спаси меня ради милости твоей, ибо в смерти нет памятования о тебе: во гробе кто будет славить тебя?»

Адным словам, прыгразіў богу: і так цябе мала ўжо хто славіць, не страць таго, хто яшчэ славіць цябе.

Але не толькі спадзяванні на бога прывялі яго назад, нягледзячы на страх. Былі іншыя прычыны, больш зямныя. Да яго прыхінулася дачка. І ў яго таксама абудзіліся бацькоўскія пачуцці, упершыню і так позна. Раней ён гаварыў многа біблейскіх і сваіх слоў ад любові да бліжняга. Але, можа, толькі цяпер Шышка зразумеў, што словы не падмацоўваліся пачуццём, не адчуваў ён сапраўднай любові да каго-небудзь з людзей. Ды і каго ён мог палюбіць там, У трудавых калоніях? Ён ненавідзеў і тых, хто спаў з ім на адных нарах, асуджаных за тое ж, што і ён,— за ваеннае злачынства, і тых, хто пільнаваў іх,— начальнікаў. З-за боязі, што гэтая нянавісць магла б прывесці да злачынства, за якое была б «вышка», ён і пацягнуўся да бога, да евангельскіх запаветаў, да вучэння Ісуса Хрыста. Гэта давала нейкае суцяшэнне, як бы адпачынак стомленай ад нянавісці душы. І раптам — любоў, чалавечая, зямная, якая па-сапраўднаму сагрэла яго.

З Марынай, з жонкай, як не было душэўнай блізасці ў маладосці, так не было яе і цяпер, больш таго, Марына сустрэла яго хоць з рабскай пакорлівасцю, але яўна насцярожана і, бадай, не надта прыхоўвала сваю незадаволенасць яго зваротам. А Ганна, якая гадоў пятнаццаць апошніх пісала яму пісьмы, спачатку, пакуль ён быў у калоніі, тайна нават ад маці і рэдка, пасля, калі ён працаваў па пасяленні, яўна і часта — адразу ж, сустрэўшы бацьку ў Гомелі на вакзале, пацягнулася да яго з адкрытым сэрцам; так перад ім ніхто не адкрываўся, усе так ці інакш хітравалі, а яна, дачка,— без усялякай хітрасці. Так, прынамсі, здалося Шышку, і ён паверыў у сілу сваяцтва, у родную кроў, у даччыну любоў, і ўсё гэта яго моцна кранула, усё гэта ён прыняў як божую міласць за яго малітвы. «Ты не оставляешь ищущих тебя, господи».

Ганна была загадкавая істота, ва ўсялякім разе, мала кім разгаданая, бо сапраўдныя свае пачуцці яна хавала нават ад роднай маткі. Мабыць, па генетычнаму закону спадчыны ёй нямала чаго перадалося ад бабулі, ад бацькі — з таго, што прывяло Рыгора Шышку на службу да фашыстаў. Сярод гэтых якасцей — разумовая прытупленасць, няўменне ўзняцца над сваімі эгаістычнымі жаданнямі і асэнсаваць падзеі часу не з пункту гледжання свайго «я» і свайго «сёння», а з улікам інтарэсаў усіх людзей, з улікам будучыні народа і сваёй, ні на міг не аддзяляючы сябе ад народа, Гэтага не ўмеў малады Шышка. Гэтага не ўмела і яго дачка, хоць яна была на дзесяць гадоў старэйшая за бацьку таго часу, калі бясслаўна, на лаве падсудных, скончылася яго кар'ера.

У Ганны было цяжкае маленства. Яна засталася з бабуляй, якую ў вёсцы ўсе не любілі, ненавідзелі ў тыя першыя пасляваенныя гады. Гэтая нянавісць, калі не проста, то ўскосна, пераходзіла і на яе, часцей праз адносіны дзяцей, яе равеснікаў, аднакласнікаў. Яна скончыла ўсяго шэсць класаў і была аддадзена сваякамі ў нянькі ў горад. Служыла ў інтэлігентнай сям'і выкладчыкаў музычнага вучылішча. Была стараннай, паслужлівай, яе цанілі... А яна ненавідзела гаспадароў, іх дзяцей з самага пачатку, яшчэ падлеткам: расла і гадавала сваю нянавісць. Гаспадыня, піяністка, жанчына як бы «не от мира сего» з-за сваёй любові да Чайкоўскага, да Шапэна, жахнулася, калі пачула выпадкова, што гаворыць з сяброўкамі іх паслужлівая Ганна. Яе выгналі.

Тады памерла ўжо старая Шышчыха, і Марына з далёкіх будоўляў вярнулася ў хацінку, пачала працаваць у саўгасе, які толькі арганізавалі. Ганна прыехала да маці, але ў саўгас не пайшла. Былы ляснічы, выпівака, нячысты на руку, залічыўшы яе ў штат лясніцтва, зрабіў хатняй работніцай. Гаспадарка ў ляснічага была кулацкая — каровы, свінні, індыкі, і рабіла Ганна за траіх. Даравала яна ляснічаму ўсё: што эксплуатуе яе, залазячы ў казну, што бывае часам грубы, лаецца, напіўшыся, лезе з кулакамі. Узненавідзела яго Ганна за адно: ведала, што ахвочы да чужых баб, а на яе, хоць яны часта заставаліся адзін на адзін і ў лесе, і ў доме, і ён быў пад градусам, ні разу не пасягнуў, быццам яна і не жанчына зусім. За гэта яна ненавідзела не толькі ляснічага, але і ўсіх добрынскіх хлопцаў, бо ніводзін з іх вока не кінуў на яе, не памацаў нават дзе-небудзь за вуглом.

Не ведала Ганна кахання, хоць смак яго адчула: калі рабіла ў горадзе, пазнаёмілася ў парку з салдатам і разы тры, у нядзелі, калі яе адпускалі гаспадары на цэлы дзень, страчалася, з хваляваннем чакала

кожнай новай сустрэчы, прагна цалавалася. Але салдат больш не з'явіўся. Ці то звольніўся і паехаў дадому, не развітаўшыся, ці расчараваўся, а можа, даведаўся, чыя яна дачка.

У семнаццаць — дваццаць год Ганна была нішто з выгляду, дзяўчына як дзяўчына. А пасля, хоць і працавала ў лесе, і піла сырадой, неяк хутка пачала блякнуць, марнець. Стала худая, пласкагрудая, жылістая, вузкабёдрая, з мужчынскай паставай, з мужчынскай сілай: хапіла неяк у лесніка бадлівага быка за рогі і крутнула так, што бык зароў ад болю і кінуўся ўцякаць.

Новы ляснічы — малады, вучоны, жонка настаўніца — адаслаў Ганну ў цэх шырспажыву, дзе выраблялі тапарышчы, ручкі для лапат, чаранкі для нажоў. Ганна пайшла пакорліва, асвоіла прафесію, рабіла старанна. Але праз нейкі час сама прапанавала свае паслугі новай гаспадыні — памагчы па дому. Не ад шчырасці. Ад жадання праверыць, ці такія яны правільныя, ляснічы і яго жонка, як паказваюць сябе. Яны прынялі яе паслугу, але не ведалі, колькі ёй плаціць, бянтэжыліся, што яна не гаворыць, колькі ж ёй трэба за працу. Заплацілі так шчодра, што Ганна здзівілася, але не адмовілася, ад грошай яна ніколі не адмаўлялася. Абірала сваіх дабрадзеяў і ненавідзела іх... за шчодрасць, за прыстойнасць, за чысціню іх. І рабіла не так сумленна, як у былога ляснічага, які разлічваўся з ёй за дзяржаўны кошт.

Страціўшы надзею выйсці замуж, мець сям'ю, яна пачала шукаць душэўнай блізасці з людзьмі, якія, здалося ёй, не шукаюць радасці ў гэтым жыцці, а думаюць пра жыццё іншае, вечнае. Гэта прывяло яе ў секту баптыстаў. Хадзіла яна на маленні ажно ў Гарнастаі, за сем кіламетраў, дзе жыў прэсвітэр. «Святое пісанне» падабалася ёй, але самі баптысты расчаравалі, асабліва прэсвітэр, стары грахаводнік. П'яны ляснічы ніколі не дакрануўся да яе, а гэты, падла, слізняк, палез з лапамі. Ганна плюнула яму ў морду і больш не пайшла ў секту, хоць старыя павучыхі, ажно тры, яшчэ доўга прыходзілі да яе і пялі павуціну, каб ублытаць яе, як муху. Не ўдалося ім.

Бацька, як толькі ўвайшоў першы раз у хаціну, упаў на калені перад абразамі і доўга маліўся. Ганну кранулі такая шчырая яго набожнасць і гарачая малітва, словы, якіх яна не чула і ў баптыстаў: «Иные — колесницами, иные — конями, а мы именем господа, бога нашего, хвалимся»,

Ганна слухала і плакала, шкадуючы бацьку: так шчыра маліцца можа толькі чалавек, які многа і цяжка пакутаваў і якому цяпер нічога не трэба — ні коні, ні калясніцы, адна толькі вера ў бога.

Можа, сапраўды на гэтай глебе прарасло семя духоўнай блізасці паміж бацькам і дачкой. Але расло яно ненатуральна хутка на гнаі грэшнага жыцця, грэшных жаданняў і намераў.

Не Марьне, жонцы, а ёй, дачцэ, Рыгор Шышка прызнаўся, што прыехаў не з пустымі рукамі, што, акрамя шчодрых падарункаў, да якіх Ганна зусім не была абыякавая, не так, як маці, прывёз ён даволі круглую суму грошай. І не думаў сядзець на гэтых грашах, як сабака на сене. Пра сям'ю падумаў: «Дом, дачка, пабудуем такі, шчоб людзям зайздросна стала». З гэтым, уласна кажучы, і вяртаўся Шышка: паказаць, што ён не толькі выжыў, але жыве не горш за многіх з тых, хто пракляў яго, выкрасліў са сваёй памяці. Няхай зайздросцяць гады! — во чаго хацеў «святы».

Ганна сама даўно марыла пра лепшую хату, асабліва калі зразумела, што нікуды яна не пойдзе з гэтай, матчынай, ніхто яе не возьме замуж.

Выпісвала патроху лес, па два-тры кубаметры, больш ляснічыя, без нарада сельсавета, выпісваць не адважваліся. Але лес цямнеў, гніў, маці пазычала яго суседзям, бо — куды яго дзенеш, калі не хапае нават на зруб.

Цяпер Ганна жыла новай хатай... не, не хатай — домам, лепшым, чым у дырэктара саўгаса, у Івана Батрака; бацька нават чарцёжык зрабіў — якім ён будзе, іх дом. Бацька — за цагляны. Але яна ўсё роўна хадзіла па лесе і выбірала найлепшыя сосны — карабельныя. І ўяўляла, як будуць сінець ад зайздрасці добрынцы, як будуць шыпець ад злосці. Зайздрасці іх яна не баялася, ад уяўлення пра яе ёй рабілася весела, амаль радасна. Хоць такім чынам хацелася адплаціць людзям за сваё ўніжэнне, за беднасць, за цяжкую працу, за няўдалае жыццё, якое не дало ёй нават простага жаночага шчасця.

Ганна спалохалася, калі бацька, паехаўшы ў горад, не вярнуўся ў той дзень і назаўтра, для яе было б цяжкім ударам, каб, пагасціўшы дома нейкія два месяцы, ён знік бясследна, ашукаўшы ўсе яе надзеі — на дом, на новае жыццё. Яна амаль узненавідзела маці, калі тая на трэці дзень адсутнасці бацькі прыкметна павесялела — не ад чаго іншага, зразумела Ганна, ад думкі, што чалавек, з якім яе звязвала адно — што ён Ганнін бацька, кануў у невядомасць, з'ехаў гэтак жа нечакана, як і вярнуўся, і цяпер, відаць, назаўсёды.

Але пад вечар таго ж дня, на радасць Ганне і на засмучэнне Марыне, Шышка вярнуўся. На пытанне, дзе быў, адказаў, што гасціў у пляменніцы. Гэта была яго пляменніца, дачка ягонай сястры. Марына пасля смерці Рыгоравай маці, з якой мусіла нейкі час жыць у адной хаціне, даглядаць яе, нямоглую, па сутнасці, парвала ўсялякія

адносіны са сваякамі па мужавай лініі: пляменніцу гэтую яны з Ганнай не бачылі гадоў дваццаць, забыліся пра яе існаванне, бо жыла яна з маладых гадоў у горадзе, у Добрынку амаль не наведвалася, мабыць, не вельмі хацелася, каб ёй нагадалі пра дзядзьку-паліцая.

Рыгор сказаў пра гасцяванне быццам бы з задавальненнем: пагуляў, маўляў, павесяліўся. Але пасля ў той вечар маліўся даўжэй, чым звычайна, і ў малітве Ганна адчула «смятение духа», трывогу, страх і пашкадавала бацьку: няўжо гэтак ён пражыў увесь час, усе трыццаць пяць гадоў? Ды такім жыццём можна скупіць любыя грахі!

«Посмотри на врагов моих, как много их и какою лютою ненавистью они ненавидят меня».

У Ганны ад слоў такіх захаладала ўсяродку.

«Не удаляйся от меня: ибо скорбь близка, а помощника нет».

«Я твой памочнік, я!» — хацелася закрычаць Ганне, яна моўчкі паўтарала за бацькам словы малітвы.

«Не предавай на произвол врагам моим, ибо восстали на меня свидетели лживые и дышат злобою».

Марына гатавала вячэру, паліла ў печы, такой нізкай, што для таго, каб паставіць ці выняць віламі чыгунок, станавілася наўколенкі. Яна яўна знарок грымела вёдрамі, чыгунамі. Не любіла яна мужавых малітваў, бо не верыла ў іх шчырасць.

Ганна колькі разоў кідала на маці гнеўныя позіркі, але Марына рабіла выгляд, што не бачыць яе незадаволенасці, і грымела яшчэ больш, раптам пачала перасоўваць ражку. Хоць куды яе ў той хаце можна было перасунуць?

Рыгор толькі ўздыхаў на гэты жончын шум, аднак малітвы не спыняў, наадварот, пачаў вымаўляць больш выразна.

«Суди меня, господи, по правде моей и по непорочности моей во мне».

Пры гэтых словах Марына засмяялася. Натуральна. Гучна. Як камсамолка якая.

Рыгор уздыхнуў і перайшоў на шэпт. А Ганна абурылася на маці:

— Ты чаго ета? Шчо табе смешна? Шчо чалавек моліцца?

— Многа ж ён награшыў, калі так моліцца, калі так просіць бога.

— Прасці ёй, госпадзі, бо сама не знае, што гаворыць,— знешне спакойна, але падкрэслена, з унутраным звонам ад гневу, сказаў Рыгор.

А Ганна істэрычна закрычала:

— Як табе не сорамна! Як табе не сорамна! Старая жанчына! А нічога ў цябе святога няма. Ні любові, ні жаласці, ні бога. За ета мы і мучыліся... Дай нам пажыць! Дай!

Марына павярнулася да іх, наставіўшы вілы, як бы заняўшы пазіцыю для абароны. Сказала сурова, жорстка, рэдка калі гаварыла так з Ганнай, адзіным такім блізкім чалавекам:

— Не, дачка, не ад таго мы мучыліся. Не ад таго! Не з-за мяне. Жаласць у мяне ёсць. Да цябе. Да людзей.— Змоўкла, падумала: Рыгор уцяў галаву ў плечы, чакаючы ўдару ад жонкі, ад каго не чакаў такога ўдару — занадта пакорлівай была Марына ўвесь час; калі ехаў, быў упэўнены — не выганіць, даруе. Але Марына і тут не ўдарыла — гаротна ўздыхнула: — Да сябе ў мяне толькі няма жаласці. Да сябе... Сябе караю. А жыць — жывіце. Я вам не мяшаю,— і, з грукатам кінуўшы вілы ў качарэжнік, пайшла з хаты.

15

Іван любіў партыйныя сходы, бо размова на іх, за рэдкім выключэннем, ішла пра справы сур'ёзныя, канкрэтныя, якія мелі непасрэднае дачыненне да яго работы, да работы і жыцця ўсіх добрынцаў. Нямала важных пытанняў абмяркоўвалася і на іншых сходах. Але на прафсаюзных было мнагавата бытавізму, канфліктнасці, шуму, на вытворчых нарадах — тэхналогіі, цякучкі, штодзённшчыны. У стылі партыйнага сходу адчуваліся дырэктыўнасць і некаторая ўрачыстасць. У прэзідыум абавязкова выбіралі Астаповіча і парторга. Часта прысутнічалі прадстаўнікі райкома, а зрэдку — і з вобласці. Яго, Івана, таксама часам выбіралі ў прэзідыум. Таму з'яўляўся ён на партыйныя сходы ў святочным касцюме, пры гальштуку. Ды і не адзін ён. Хіба толькі ў пасяўную ці жніво, калі на ўліку кожная хвіліна і калі сход збіраўся экстранна, механізатары з'яўляліся ў спяцоўках, прапахлых саляркай і бензінам.

Сход меўся быць справаздачна-выбарны. Асаблівы. Вынікі за год. Кастрычнік — самы час для падрахавання здабыткаў сельскагаспадарчага года. Ды і аб новым годзе не рана думаць; таму, хто робіць на зямлі, далёка трэба глядзець наперад.

На гадзіну раней скончылі працу, каб даць людзям памыцца, пагаліцца. У саўгасе хіба толькі канторскія робяць ад званка да званка. Работа ўсіх іншых залежыць ад шмат якіх прычын: тых, хто ў полі,— ад надвор'я; на ферме — ад падвозу кармоў і нават нораву кароў: адзін дзень карова доіцца лёгка, другі — з фокусамі; у шафёраў — ад працы іншых: не пакінеш у полі выбраную бульбу, буракі, тым больш збожжа; сёння на мясакамбінаце ён прастаяў гадзіны чатыры: чарга на кіламетр і спрытнюгі развяліся, якія навучыліся ўсюды пралазіць без чаргі. Астаповіч, напрыклад, ні разу не паехаў на мясакамбінат «прабіваць сваю жывёлу», ездзіў часам Качанок. А не-

каторыя прадстаўнікі гаспадарак — Іван ведаў іх у твар — круцяцца там з тоўстымі партфелямі — ажно «замочкі трашчаць». Але ці вяртаюцца шафёры тых гаспадарак дадому раней? Каб хто праверыў, думаў Іван, ці меншыя ў іх затраты на аплату звышурочнай работы? З Кузі вырасце добры кіраўнік, ён усё падлічвае ў рублях і ўсіх прымушае лічыць, планавы аддзел і бухгалтэрыя ажно стогнуць ад ягоных падлікаў. У Астаповіча быў іншы стыль — ён браў энтузіязмам. Але Астаповіч падтрымлівае Кузю, хоць аграном па маладосці сваёй часам «ламае дровы». Дырэктар узяў пад абарону і галоўнага інжынера, калі яго пачалі былі кляваць. Парторг Забаўскі разы два добра «праехаўся» па Астраўцу. Тады Іван у душы падтрымаў парторга. У інжынера, не ў прыклад Кузю, зусім іншы стыль, дзіўны для нашага часу: менш перамен, новаўвядзенняў, эксперыментаў, асабліва ў арганізацыі працы, менш тузання — інструкцый, нарад, больш самадзейнасці саміх механізатараў. І нават філасофія свая, пра якую Астравец неафіцыйна, не на сходзе, неяк сказаў: «Усё лепшае адбіраецца эвалюцыйным шляхам». Івану здавалася, што адсталая гэтая філасофія і ўвогуле ўсе разважанні Астраўца — апраўданне ўласнай ляноты. Але мінуў год — і наўрад хто назаве інжынера гультаём: па-свойму ён кіруе машынным паркам, ва ўсялякім разе, працаваць механізатары сталі не горш — лепш. Але інжынер ні разу не пахваліўся работай свайго ўчастка. Забаўскаму не падабаецца такое маўчанне. Аднак, бадай, ёсць у гэтым свая мудрасць: меней слоў — болей дзела. І людзі прынялі гэтую, магчыма, яшчэ дзедаўскую мудрасць.

Забаўскі напэўна будзе крытыкаваць інжынерную службу. Прыйдзецца выступаць, бо сорамна ім, механізатарам, будзе, калі іх інжынера зноў пачне абараняць Астаповіч, а не яны.

Іван думаў пра ўсё гэта, пакуль галіўся перад люстэркам над умывальнікам. Думаў бегла, непаслядоўна, трохі сумбурна, без засяроджанасці на чымсьці адным. Урэшце, усё ў жыцці істотнае — дзяржаўнае, саўгаснае і сваё, асабістае, бо ўсё звязана. На такім сходзе будуць гаварыць пра ўсё: пра набліжэнне свята Кастрычніка, пра барацьбу народаў Паўднёвай Афрыкі, пра завяршэнне будаўніцтва комплексу і пра тую бульбу, якую пакінулі на полі без аховы і нейкі механізаваны падарожнік «прывёў да ладу», у яго хапіла часу падабраць яе; з брыгадзіра і трактарыста вылічылі кошт украдзенай бульбы; у дадатак атрымаюць яны і добрую порцыю крытыкі.

У спальні Іван адчыніў шафу, зняў з вешалкі новы касцюм, пачаў расшпільваць папружку на рабочых штанах і раптам застыў, бо падумаў, што яго таксама могуць крытыкаваць — за аварыю. Качанок ужо скланяў на партыйным бюро. Дзеля чаго ж ён адзенецца, як

жаніх,— пад крытыку? Каб на яго глядзелі людзі і ў душы пасміхаліся? Не, ён пойдзе ў тым жа касцюме, у якім водзіць машыну, дарэчы, касцюм зусім неблагі, толькі што пакамечаны. Гэта Тасіна выдумка, каб ён адзяваўся, як інтэлігент. Змяніў толькі сарочку, скінуў байкавую, клятчастую, і надзеў нейлонавую, сінюю. Але рабіў гэта ўжо механічна, без таго як бы святочнага ўздыму, з якім галіўся і думаў пра сход, пра размову, якая можа быць на ім. Успомніў пра аварыю — і адразу ўсё адышло туды, у мінулае, усё засланіў Шышка — назойлівы, нахабна-неадчэпны злосны прывід.

Івана не проста здзівіла, бадай спалохала, як пасля таго, што ён сказаў Шышку ў машыне, той усё ж вярнуўся ў Добрынку: дарэмна ён суцяшаў сябе, Тасю, што паліцай больш не вернецца і яны назаўсёды забудуцца на яго. Не, немагчыма, выходзіць, забыцца, бо цяпер усё... праца, жыццё звязана з ім. Тая ж аварыя... Іван адчуў, што, калі яго раскрытыкуюць у справаздачным дакладзе, гэта будзе не проста балюча, гэта прынізіць яго, загоніць, як кажуць, у кут і... пазбавіць права гаварыць пра іншыя справы, у якіх — яго жыццё, яго шчасце.

З'явілася раптам злосць на Качанка, нават на Астаповіча — быў чалавекам, таварышам, а стаў богам, з вышыні сваёй не бачыць, што робіцца вакол! Але тут жа засаромеўся гэтай злосці: не было ніколі, каб ён так настройваў сябе супраць сваіх таварышаў па рабоце.

Убачыў праз акно, што бяжыць Тася. Бяжыць, безумоўна, каб сабраць і правесці яго на сход. Падумаў спачатку з паблажлівай іроніяй: «Будзе збіраць, як у Маскву на з'езд». Пасля падумаў, што, безумоўна, стане прымушаць надзець лепшы касцюм, і пачуў раздражнёнасць і супраць жонкі, упартую нязгоду з ёй.

Тася ўскочыла ў хату, задыханая, з парога растлумачыла, чаму затрымалася:

— Камісія ў нас з аблздрава. Такая занудлівая баба. Не тое што цётка Дуся. Для гэтае няважна, як мы работаем, а як запісваем гісторыі, планы. Не спадабаўся ёй мой план патранажу дзяцей. А што тут запісваць? Патраніраваць трэба. Часцей глядзець, вучыць жанок.

Іван бачыў: расказваючы пра занудлівую правяральшчыцу, Тася пільна аглядае яго — як ён сабраўся. Адным выглядам сваім жонка супакоіла яго, так было неаднойчы. Але ён, гатовы паказаць свой характар, чакаў, калі яна скажа пра касцюм. Ды Тася, скончыўшы расказваць аб сваёй нязгодзе з метадам праверкі, стоена ўздыхнула, як засмучаная тым, што ёсць такія правяральшчыкі, і спытала заклапочана:

— Еў?

Івану зрабілася сорамна за сваю раздражнёнасць супраць яе, але па-новаму трывожна ад таго, што жонка здагадалася, чаму ён не захацеў убрацца па-святочнаму. З'явілася тое маўклівае ўзаемаразуменне, якое збліжае мацней, чым любыя самыя высокія і ласкавыя словы. Ён уздыхнуў гэтак жа стоена, як яна, расказаўшы адным уздыхам, з якім настроем ідзе на сход.

— Не хочацца мне.

— Паеш, Ваня. Да поўначы ж будзеце засядаць.— І паспрабавала пажартаваць: — Пагаварыць вы ўмееце. Адзін Яшка можа на ўвесь вечар завесці пласцінку.— Але ўбачыла, што пры ўспаміне пра Качанка Іван нахмурыўся, асеклася.— Паеш, Ваня. Я табе яечню спяку.

— Не, не хачу. Давай, можа, сыраквашы вып'ю. Сушыць штось у роце. Калі абедаў у горадзе, сялёдку з'еў.

Тася, не скінуўшы моднага плашча, кінулася ў пограб і ўміг вярнулася з запацелай гладышкай. Драўлянай размаляванай лыжкай скінула ў шклянку смятану (са смятанай Іван не любіць) і налажыла ў вялікі кубак сіняватай, густой сыраквашы.

Іван адрэзаў акраец хлеба і, не прысядаючы, еў.

Тася стаяла з другога боку стала і сачыла, як за школьнікам, каб ён выпіў усё. Заахвочвала ўсмешкай. Але Іван бачыў, што ўсмешка не проста заахвочвае яго есці,— у ёй адбівалася значна большае.

— Ваня, давай купім карову.

Ён шчыра здзівіўся:

— Ты што ета? Нудна табе стала? А машына?

— Машына пачакае. Ты знаеш, я не магу прывыкнуць да чужога малака. Не магу піць сырое.

— Чысцюля! Шляхецкая ў цябе кроў. Праўду Валя кажа, што ты з роду Радзівілаў.

— Пустамолка твая Валя. Распусціў ты яе,— яна ўпікнула яго, а сама засмяялася радасна з даччынай весялосці і дасціпнасці.

Іван здагадаўся, што пра карову Тася сказала не проста так, а з хітрасцю — адцягнуць яго думку ад таго, праз што ён ідзе на сход не з такім настроем, як заўсёды.

Плашч яму падала ўсё ж новы, і ён не запярэчыў, паслухмяна апрануўся. Калі ўжо ўзяўся за клямку, Тася ціха паклікала:

— Ваня!

Ён павярнуўся:

— Што?

Яна збянтэжылася, як дзяўчына:

— Нічога. Проста хацела паглядзець на цябе.

— Ну ты... як на фронт праводзіш.

Пра фронт не трэба было гаварыць — пра гэта ён падумаў ужо на двары, успомніўшы цень страху, які на міг упаў па Тасіна аблічча, мільгнуў у яе чыстых вачах.

Ішоў Іван на сход супакоены, але як бы абяззброены. Раней ён перад такімі сходамі адчуваў прыліў сілы, энергіі, і ўсё яго цікавіла: які будзе даклад, якая крытыка? І сам іраваўся ў бой — некага пакрытыкаваць, нешта прапанаваць, што магло б пайсці на карысць гаспадарцы, людзям. Цяпер ішоў як бы стомлены, знясілены. Што ён можа сказаць? Не, сказаць хочацца, але зусім пра іншае. Аднак ці да месца гэта будзе? Ці зразумеюць яго?

Звыклы стан вярнуўся, калі ўліўся ў гушчу камуністаў, што стаялі на ганку, у калідоры, курылі, весела гаманілі, жартавалі. Знаёмыя твары людзей блізкіх, з якімі штодня разам працуеш. Праўда, у жыццёва-практычным плане, не палітычным, не ўсіх іх Іван мог бы назваць сваімі аднадумцамі. Ёсць сярод іх такія, якіх ён любіць, як родных, а ёсць і хітрунчыкі, як гэты яго «сябра з пялёнак» Яшка Качанок, што круціцца тут, чырвоненькі, узбуджаны. Але ці трэба, каб людзі былі аднолькавыя і аднолькава думалі? Напэўна, некаторыя і з ім таксама шмат у чым не згаджаюцца. Справа не ў тым, хто пра каго што думае, важна, што гэта свае людзі, робяць адну вялікую справу, завешчаную Леніным, спланаваную партыяй, і за справу гэтую гатовы пайсці ў любы бой, на любога ворага, як у сорак першым. Калі падумаеш так, маштабна, то тады даруеш людзям іх слабасці.

Зала клуба для сотні чалавек завялікая, няўтульна, калі пуста, таму сход збіраўся ў зале сесій сельсавета, будаўніцтва якога скончылі сёлета, улетку, у памяшканні яшчэ пахла фарбай. Усё тут было новае — сталы, крэслы, наглядная агітацыя. Віселі партрэты Леніна, членаў Палітбюро. Гэта стварала пэўны настрой.

Іван адразу пайшоў у залу, каб да пачатку сходу заплаціць узносы. На ганку яго затрымлівалі. Жартавалі:

— Карнеевіч прыйшоў — можна пачынаць.

— Ён як міністр — з'яўляецца за пяць мінут да адыходу поезда.

— Яго жонка без вячэры не адпусціла, не тое што твая.

— Бачыш, аблізваецца, як кот.

З кім не бачыўся ўдзень, з тым Іван вітаўся за руку. Качанок першым падскочыў да яго і, вельмі ўзрадаваны, цісНУў руку так, быццам не бачыўся год. Іван стоена пасміхнуўся: Яшкава хітрасць заўсёды — як па далоні. Гэта, між іншым, часта шкодзіць яму, але часта і памагае, выручае — прастата яго такая, непасрэднасць. Пры тайным галасаванні Яшку заўсёды кідалі нямала галасоў супраць, хоць

заўсёды столькі, што ён праходзіў у прафком, у партбюро і рэпутацыя яго як дзелавога чалавека не зніжалася ў вачах начальства. Разважалі так: хто актыўна працуе, у таго, маўляў, заўсёды будуць нядобразычліўцы — камусьці пуцёўку не даў, кагось пакрытыкаваў, камусь выдзеліў не лепшы ўчастак сенакосу. Маглі б спытаць: а хіба Астаповіч менш займаецца ўсім гэтым? Аднак жа выбіраецца аднагалосна ці мае супраць адзін-два галасы. Не гэта было тлумачэнне: тут асобы выпадак, аўтарытэт настолькі высокі, што нават яўныя непрыяцелі не адважваюцца галасаваць, бо знаюць, што іншыя ў душы асудзяць іх. А за галасы супраць Качанка пахваляць. Таму перад кожным тайным галасаваннем Якаў дрыжаў, баяўся, як бы «чорныя шары» не дасягнулі той небяспечнай колькасці, якая прымушае вышэйшае кіраўніцтва задумацца: а чаму супраць яго столькі членаў партыі галасуе? Ці не варта прыслухацца да гэтых людзей? Калі такая думка з'явіцца ў тых, у чыіх руках кадравыя лейцы,— дабра не чакай. Вось чаму Качанок, бяскрыўдны па натуры, перад галасаваннем рабіўся найдабрэйшы.

Рабочыя пасміхаліся не ў спіну яму — у твар:

— Якава сёння хоць да раны прыкладвай.

— Не. Лепш на хлеб намазаць. Мёд! Саладзейшы, чым у старога Дубадзела.

Зласлівы загадчык фермы Пятро Краўцоў, калі трохі збянтэжаны Качанок перайшоў да другой группы камуністаў, заключыў:

— Мёд-то мёд, ды свінушнікам ад яго патыхае.

Па смеху Качанок зразумеў, што па ім «праехаліся». Здагадаўся — хто. З Краўцовым у яго старыя рахункі. Але Краўцова ён не баяўся: той можа груба пажартаваць — няхай жартуе! — але не стане падбіваць людзей галасаваць супраць. Галоўнае — не дапусціць змовы перад сходам. Змова — во што страшна, яна нараджае калектыўны псіхоз, анархічную стыхію пратэсту дзеля пратэсту, пазбаўляе людзей прынцыповасці. Так, ва ўсялякім разе, Якаў Мацвеевіч тлумачыў тыя выпадкі, калі супраць таго ці іншага работніка, нечакана для кіраўніцтва, якое ўсё ведае і не павінна памыляцца, раптам галасуе больш людзей, чым планавала кіраўніцтва.

Тым, што ён, Качанок, не сядзіць у такі час, перад самым сходам, у кабінеце старшыні сельсавета і не глядзіць у рот сакратару райкома, якая прыехала на сход, а знаходзіцца сярод радавых членаў партыі,— гэтым самым ён дбае не пра сябе, а пра тое, каб сход прайшоў з партыйнай прынцыповасцю, каб людзі былі настроены па-дзеламу і не трапілі пад уплыў якога-небудзь дэмагога ці пакрыўджанага бытавой дробяззю, такія заўсёды бываюць, нават у самым згур-

таваным калектыве. Адным словам, Качанок лічыў, што, праяўляючы пэўную пільнасць і актыўнасць, ён як член партбюро дзейсна працуе па арганізацыі сходу. Крыўдна, што не ўсе гэта разумеюць. Беларучка Забаўскі лічыць, што ўсё робіцца само сабой, дзякуючы высокай свядомасці, Жыве чалавек як бы не ў рэальным жыцці, а ў нейкім выдуманым.

Якаў Мацвеевіч трохі недалюбліваў маладога парторга: прышэлец, больш думае пра сваю кнігу, зарабляе ганарар, а ён, Качанок, мусіць цягнуць і сваю, і яго работу, бо работу іх, партыйную і прафсаюзную, размежаваць амаль немагчыма. Але незадаволенасць сваю Качанок нідзе не выказваў, бо, па-першае, ніякай работы не цураецца, чым больш яе, тым ямчэй сябе адчувае, а па-другое, лічыць: каму ж і цягнуць яе, гэтую работу, гаспадарчую, партыйную, прафсаюзную, як не яму — ён тут свой, каранямі ўрос у гэтую зямлю, і нікуды яму не дзецца, вышэйшай пасады яму не прапануюць, сам ён не стане шукаць шчасця дзесьці. Са сваімі людзьмі бывае нялёгка, але ўсё ж свае ёсць свае, яны — што строгі бацька; і адлупцуюць, і пашкадуюць.

Якаў Мацвеевіч аднойчы хіба выдаў свае адносіны да парторга: залішне весела зарагатаў, калі старэйшы камуніст, з дваццатых гадоў, персанальны пенсіянер Клімовіч, дзед уедлівы, скептычна настроены да ўсяго сучаснага, назваў Забаўскага культуртрэгерам.

Як толькі Іван заплаціў узносы, Якаў Мацвеевіч тут жа падхапіў сябра маленства, заціснуў у куток залы.

— Ніколі не думаў, што ты ўмееш так мацюкацца. А злосці колькі было! Адкуль у цябе столькі злосці? Знайшоў з-за каго псаваць адносіны з даўнім другам. З-за Шышкі. Хе!.. Ды я на яго плюнуць не хачу. Паліцэйская морда! Думаеш, мне ён трэба? Мне рэле трэба было дастаць. Між іншым, і рэле тыя больш не патрэбны, інжынер з НДІ замяніў схему на прасцейшую. Галавасты хлопец! Малады, а схему тую, у якой сам чорт нагу зломіць, разбірае — што семачкі лускае. Во, брат, кадры пруць. Моладзь цяпер — сіла! Твой куды думае пасля дзесяцігодкі? Мая — дык у музыкальнае. Клава бядуе. А я не адгаворваю — няхай ідзе. А можа, ета яе прызванне. Праўда?

Хітры Качанок ведаў, чым лягчэй за ўсё замазаць трэшчыну ў адносінах: пра дзяцей Іван любіў пагаварыць. Але цяпер не адгукнуўся. Яшчэ адзін напамінак пра Шышку зісім узбунтаваў пачуцці. Ён слухаў Яшку з маўклівай насцярожанасцю, глядзеў на яго... не сярдзіта, не варожа, а быццам пазнаючы яго сутнасць; ён як бы з некаторым шкадаваннем развітваўся з гэтым чалавекам, як з прывычнай рэччу,— яе і зберагаць ужо няма чаго, і выкінуць яшчэ шкада.

Гэтая Іванава пагардлівая, як падумаў пра яе Якаў Мацвеевіч, маўклівасць і гэтае, здалося яму, грэблівае разглядванне — быццам ён, Яша, ужо нішто і ніхто — і спалохалі яго, і збянтэжылі, і абурылі. «Падумаеш, шафёр, а глядзіш, як міністр! Скажы дзякуй, што мы табе за аварыю не запісалі... Няхай пройдуць выбары — я табе прыпомню».

Але цяпер мусіў гаварыць інакш:

— Чаго ты набычыўся?

— Нічога.

Паспрабаваў атакаваць у лоб:

— Рашыў галасаваць процiў Качанка?

— Болей у мяне клопату няма.

Выходзіць, і да выбараў абыякавы? Гэта ўжо зусім нешта незразумелае і сапраўды абразлівае: поўнае ігнараванне яго.

Якаў Мацвеевіч выказаў крыўду адкрыта, без пятляння:

— Абараняеш, абараняеш вашы інтарэсы... такую вашу... нерваў не жалееш, а вы наравіце як бы ўкусіць...

Іван раптам сцяміў, чым жыве ў гэтыя хвіліны чалавек, што яго хвалюе, і, на міг забыўшыся на сваю душэўную буру, пашкадаваў сябра, не без іроніі, праўда, заспакоіў — сказаў нечакана для Качанка весела, добразычліва:

— Не бойся, Яша, падтрымаем, Рабочы клас — апора надзейная.

Забаўскі ў сваёй рабоце шукаў новыя формы. Не ўсё яму, безумоўна, удавалася — не хапала вопыту партыйнай работы, ведання людзей і вытворчасці, хоць і быў ён сын калгасніка, у юнацтве рабіў на зямлі. Вялікая розніца ва ўзроўні яго роднага калгаса таго часу — пятнаццаць гадоў назад — і саўгаса «Добрынскі», гаспадаркі высокаразвітай у аграноміі і тэхніцы. А вось у сацыяльных дасягненнях, лічыў ён, у духоўным жыцці рабочых Добрынка ненамнога вышэй за яго роднае сяло. А якраз гэтыя праблемы хвалявалі Аляксандра Пятровіча. Ён пісаў дакументальную аповесць з увагай да духоўных працэсаў. Яму патрэбны быў пэўны эксперымент. Некаторыя яго навінкі, бясспрэчна, даўно закрылі б інструктары райкома, каб не аўтарытэт члена абкома Астаповіча, якому яўна падабалася работа Забаўскага: не лезе ў яго, дырэктарскія, функцыі, у работу галоўнага агранома, інжынера, а займаецца сваёй справай — ідэалогіяй, якую ён, няма сумнення, ведае лепш за іх. Але не ўсе трымаліся такой думкі, як Астаповіч, і ў райкоме, і ў саўгасе. Той жа Якаў Качанок лічыў, што Забаўскі сапраўды вынайшаў новую форму, як адгарадзіць сябе ад самай цяжкай работы — гаспадарчай. Больш таго, Якаў Мацвеевіч гатовы быў да абгрунтавання доказу, што пры такім

метадзе не доўга да прыніжэння ролі партарганізацыі ў галоўным — у вытворчасці хлеба і мяса. Але тэзіс гэты трымаў у запасе як самую надзейную зброю. Ім лёгка біць, гэтым тэзісам, у выпадку няўдачы, бо ідэалагічная работа не мае свайго вымярэння, яна ўзважваецца на тых жа вагах, мераецца тым жа аршынам, што сталь, нафта, тканіна, хлеб, мяса, тымі ж тонамі і метрамі. Што засталося ад тваёй работы ў чалавечых душах — таго не відаць, таго не выставіш, не пакажаш, нават у статзводцы не запішаш, бо няма такой графы, ды ніхто і не ўмее гэта запісваць, хіба пісьменнік здолеў бы паказаць, як змянілася псіхалогія людзей, але яму трэба гады працы і стос паперы.

У справаздачных дакладах ёсць жалезная форма, адступаюць ад яе або людзі няўмелыя, навічкі, ды і то дзе-небудзь у невялічкай пярвічнай арганізацыі, або — калі вышэй — работнікі смелыя, з творчым размахам, такія «сякуць па вузлах», адмятаючы ўсё другараднае. А звычайна сакратары трымаюцца адной схемы: вытворчасць, лічбы і працэнты росту, спаборніцтва, хвала перадавікам, крытыка адстаючых, партработа, палітвучоба, работа камсамольскай, прафсаюзнай арганізацый, задачы.

У Забаўскага даклад быў незвычайны, ва ўсялякім разе, мала падобны на тыя, якія тут чулі многа разоў.

Забаўскі не справаздачу рабіў — разважаў, нязвыкла, неафіцыйна, аб людзях, аб іх працы, узаемаадносінах, выхаванні дзяцей, аб культуры, побыце — што купляюць, чаму залішне п'юць... Нават пра могілкі сказаў: нядобра, што там жывёла ходзіць, дагледзець могілкі трэба, абгарадзіць, памагчы людзям помнікі паставіць, ушанаваць не толькі тых, хто загінуў на вайне, але і тых, хто шчыра працаваў у калгасе, у саўгасе і памёр сваёй смерцю. Адным словам, гаварыў пра жыццё. Ставіў пытанні. Ці ўсе ў саўгасе жывуць па-новаму? Ці разумеюць, што такое савецкі ўклад жыцця? Ці не выцясняе імкненне да большага дабрабыту духоўнасць? Ці не знікаюць лепшыя сялянскія традыцыі?

Натуральна, што слухалі яго з асаблівай увагай: упершыню на справаздачным сходзе такі даклад!

Сакратар райкома Тамара Фёдараўна Кашуба, нядаўні камсамольскі важак, вяла ідэалогію і сама з маладой настойлівасцю шукала новыя формы работы, горача заклікала да такіх пошукаў усіх іншых. Спачатку яна слухала Забаўскага з той жа цікавасцю, што і ўсе. Але потым пачала трывожыцца: ці не занадта па-новаму? Усё было б да месца, каб гэта быў звычайны сход, з адпаведным парадкам дня — ідэалагічным. А справаздачна-выбарны мае свае ўсталяваныя нормы, законы, якія наўрад ці варта парушаць. Будзе ёй наганяй ад першага.

Дарэмна яны спадзяваліся на Забаўскага, на яго адукаванасць, трэба было даклад пачытаць перад сходам, урэшце, гэта абавязак прадстаўніка райкома, які курыруе арганізацыю і адказвае за перавыбары.

Астаповіч з другога канца стала прэзідыума з хітрай прыжмуранасцю сачыў, як рэагуе Кашуба. Адзначыў, што Тамара пачынае коўзаць на крэсле. Пацешыўся з гэтага. Ён, бадай, адзін быў знаёмы з поўным тэкстам даклада, бо на бюро Забаўскі дакладваў тэзісна, каб сэканоміць час. Астаповіч, калі чытаў, таксама спачатку здзівіўся і насцярожыўся: вельмі ж нязвыкла. А потым вырашыў: калі ўжо ён мае славу добрага апекуна ўсіх новых пачынанняў у аграноміі, тэхніцы, арганізацыі працы, то чаму яму быць супраць новай формы партсходу, супраць даклада, які не падобны на іншыя? Усё гаворыцца па-партыйнаму — і пра могількі, і пра п'янства, і пра сквапнасць некаторых, пра духоўнасць і бездухоўнасць. Ён, Астаповіч, нярэдка думаў пра гэта, але ніколі не выступаў вось так — каб усё аб'яднаць, спалучыць і праверыць усе колы, падшыпнікі, усе звёны складанай перадачы ад матэрыяльнага да духоўнага і наадварот. Ён дбаў, па сутнасці, пра адно: каб людзі сумленна працавалі і каб ім добра жылося. А выходзіць, што на ўсё можна — і трэба! — глянуць глыбей. Астаповіч радаваўся за сябе, што не старэе ён у думках, у поглядах, не ператвараецца ў замшэлага кансерватара, умее знайсці не толькі насенне і машыны, але і людзей.

Забаўскі — яго знаходка. Шмат хто сумняваўся: часовы, маўляў, работнік, гастралёр, шукальнік сюжэтаў. Няхай сабе часовы, думаў цяпер Хведар Цімафеевіч, такі часовы даражэй за пастаяннага, свежым вокам на ўсё глядзіць. Бач, як слухаюць людзі, рэдка якога дакладчыка слухалі з такой увагай!

Але і Астаповіч не бачыў, што адзін чалавек слухаў не проста зацікаўлена, а так, што ажно ліхаманіла яго. Іван Батрак.

У прэзідыум яго не выбралі. Ніхто з сяброў-механізатараў не назваў яго прозвішча. Ён быў удзячны ім за такую тактоўнасць: не хацелі хлопцы, каб які-небудзь нядобразычлівец, зайздроснік успомніў пра аварыю і зрабіў яму балюча. Але, бадай, сам ён не здагадваўся, што менавіта гэтае маўчанне іх і стала самым выразным напамінкам аб аварыі, аб тых, хто, без сумнення, стаў прычынай, хто пазбавіў яго душэўнай раўнавагі. Некалі, пасля першай сустрэчы з Шышкам у сельмагу, расказваючы Тасі аб трагедыі свайго маленства, ён запэўніваў яе, што раскажа пра гэта ўсім людзям, усяму сялу. Але пасля зразумеў, што расказваць не так проста. Не вылезеш жа на сходзе са сваім болем. Ды і сходу такога не было. Спрабаваў расказваць у часе перакураў на машынным двары, але ўбачыў, што некаторыя, мала-

дзейшыя, слухаюць без гневу, без абурэння, бадай раўнадушна, хоць і не без цікавасці,— яшчэ адзін эпізод далёкай вайны. Слухалі так, як глядзяць фільмы па тэлевізары. І ён амаль спалохаўся, што яго не разумеюць. Разгубіўся яшчэ і таму, што не ўмеў ён другім расказваць так, як Тасі, гаварыў коратка, суха, чамусьці змоўчаў, што маці была цяжарная, быццам перад ім былі дзеці, якім няёмка пра такое гаварыць, ці, наадварот, сам ён усё яшчэ малы, той дзетдомавец, і гэтак жа, як тады, нікому не можа сказаць, што маці мелася нарадзіць яму браціка ці сястрычку. Адразу пасля вайны яму здавалася, што лепш, каб людзі пра гэта не зналі. Здавалася, што, адкрыўшы такую тайну людзям, ён скажа пра маці нядобрае, зняславіць нябожчыцу. Можа, такое перадавалася ад цёткі Хвядоры, яна таксама нікому не расказвала, што братавая Алёна была цяжарная, толькі на адзіноце ў малітвах сваіх успамінала «нерадзіўшагася младзенца, убіеннага ірадамі».

Цяпер, сталы чалавек, сам бацька, ён разумеў, што пра дзіця тое, якое забілі ў чэраве маці, трэба расказаць усім, усяму свету. Хто страляў у маці, у Аньку? Немцы, Лапай. А можа, ён, Шышка? Пад печ страляў ён! У яго руках быў гарачы аўтамат. Іван пасля перажываў, што не здолеў расказаць людзям усю праўду, выпраўляў сваю памылку: дапаўняў свой расказ паведамленнем пра цяжарнасць маці, але зноў-такі неяк не так, як думаў, як трэба,— чамусьці гаварыў паасобна кожнаму з тых таварышаў па рабоце, каму найбольш давяраў, і не сказаў нікому з маладых. Між іншым, Карнею расказала Тася, а не ён. Думаў неаднойчы, каб пайсці ў школу і расказаць вучням старэйшых класаў, няхай панясуць па ўсіх навакольных вёсках. Аднак не адважыўся. Ці лёгка напрасіцца самому на выступленне ў школе, ды яшчэ дзеля таго, каб расказаць пра такое? Хіба проста так ён маўчаў трыццаць пяць гадоў? Аднак маўчаць цяпер — значыцца, думаць не пра і х, памяць пра каго павінна жыць не толькі ў яго, а пра сябе, пра свой спакой. Можа, раней ён меў права на такі спакой. Цяпер — не, не мае. Спакой яго парушаны, і невядома, калі вернецца, як яго можна вярнуць.

Іван дакараў сябе і шукаў выпадку ўсё ж расказаць неяк інакш, шырокай грамадзе. Расказаць так, каб не было Шышку апраўдання ад людзей! Каб загарэліся яны гневам. Каб маладым не здавалася наша вайна далёкай гісторыяй, накшталт Пунічных войнаў, каб яны адчулі, як доўга ў бацькоў не гояцца раны, як яны баляць, як блізка вораг, каб трэск матацыклаў і шум джазаў не аглушыў іх, не ачарсцвіў душы да таго, што яны стануць абыякавыя да чужой смерці, бяды.

Падумаў неяк у дарозе за рулём, каб выступіць на гэтым сходзе, але тут жа адмовіўся ад свайго намеру, бо ўспомніў, пра што звычайна гавораць на справаздачным сходзе: пра ўраджай, пра надоі і прыбаўленне жывёлы, пра эканамічную эфектыўнасць работы трактараў і аўтамабіляў, пра палітвучобу. Як жа сярод лічбаў уставіць такі расказ? Могуць перапыніць: не вечар успамінаў тут! А калі і дадуць давесці да паездкі з Шышкам, то каб хто-небудзь, хоць бы і адзін чалавек, не падумаў, што такім чынам ён хоча апраўдацца за аварыю — смерцю маткі, бацькі, сваім сіроцтвам.

Неразуменне, няпоўнага нават разумення таго, чаму яму абавязкова трэба на людзях успомніць пра ўсё, Іван асабліва баяўся. Боязь рабіла яго насцярожана недаверлівым: заўсёды верыў таварышам сваім, а тут пачаў сумнявацца: а калі не зразумеюць?

І раптам — нешта незвычайнае. Сход незвычайны. Даклад. Забаўскі, коратка сказаўшы пра вынікі года, гаварыў пра тое, як людзі жывуць, чым яны жывуць. Пра духоўнасць. Што ў дабрабыту — халадзільнікаў, матацыклаў — ёсць іншы бок. Што не ўмеем выхоўваць моладзь на гісторыі роднага сяла, на жыцці людзей, якія ваявалі, якія загінулі, якія працавалі ў самы цяжкі час. Забываемся пра тых жанчын, што пасля вайны аралі на сабе і палучалі на працадзень па дзвесце грамаў. Некаторыя з іх, у каго не засталося сыноў ці выехалі яны ў горад, цяпер сена носяць на сабе, а мы глядзім і лічым, што так і трэба, што пры аўтаматычнай сістэме кіравання не да гэтых жанчын. Пашана да ветэранаў, да тых, каго няма ўжо, любоў да продкаў, да мінулага, да гісторыі і ёсць аснова той духоўнасці, якой не стае часам...

Некаторыя члены партыі былі здзіўлены: малады парторг, па сутнасці, б'е па Астаповічу; ён жа даказвае, што не ўсё ў праслаўленым саўгасе так добра, як пра тое колькі гадоў пішуць у газетах. Качанок кіпеў ад абурэння: распеўразаўся парторг, наводзіць цень на светлы дзень. Кідаў позіркі на дырэктара: спыні! Але Астаповіч, унурыўшыся, маўчаў. Ніхто не ведаў, што ён не толькі свядома пайшоў на такую крытыку, але падкінуў Забаўскаму факты. Стары разважаў мудра: я працаваў, каб людзі смачна елі, прыгожа адзяваліся, цяпер нехта, разумнейшы за мяне, больш адукаваны, павінен папрацаваць, каб зрабіць людзей лепшымі, навучыць правілам высокага кодэкса новага ўкладу жыцця.

Іван, які справы саўгасныя прымаў блізка да сэрца, не думаў, што Забаўскі прыніжае іх, крытыкуе зробленае да яго. Не, Івану здавалася, што Забаўскі знарок гаворыць аднаму яму, адказвае на яго балючыя думкі, але тут жа яшчэ больш заблытвае іх. Забаўскі

проста такі прымушае яго выступіць, пасля такога даклада немагчыма не выступіць.

Іван, слухаючы Забаўскага і адначасова думаючы, як сам выйдзе на трыбуну, як раскажа, ажно спацеў увесь; сэрца як разарвалася, разляцелася па ўсім целе, і кавалкі яго балюча біліся ў скронях, у горле, у руках, у жываце, ад чаго рабілася да млоснасці горача, гарачыня хвалямі каціласа ў грудзі, у патыліцу.

Спрэчкі, здаралася, і раней пачыналіся трудна — пакуль раскачаюцца. Незвычайны даклад зусім збіў людзей з панталыку. Калі хто і рыхтаваўся выступіць, то рыхтаваўся па-старому, па прывычнай схеме, і цяпер быў разгублены: як састыкаваць сваё выступленне з дакладам?

Доўга ніхто не адгукаўся на настойлівыя заклікі Якава Качанка, які старшынстваваў.

Першым выступіў загадчык другога аддзялення гарнастаеўскага, былы старшыня тамашняга калгаса, партызан-падрыўнік, інвалід, без левай рукі, Восіп Гарнастай. Добры гаспадар-практык, але з нізкай адукацыяй — даваенныя сем класаў, Восіп адчуваў, што такія «прахвесары», як Кузя, наступаюць на яго сваімі ведамі, і абараняўся своеасабліва: лавіў аграномаў, інжынераў на памылках і амаль на кожным сходзе каго-небудзь з іх «раздзяваў да трусоў і пускаў голенькім у поле, на вецер» — так ён называў сваю ўедлівую крытыку.

«Раздзець» Забаўскага ён не адважыўся, але катэгарычна заявіў, што даклад яму не спадабаўся: не пра тое трэба гаварыць: як жыць — людзі самі знаюць, а вось як даць большую прываЖку бычкоў, як арганізаваць зімоўку жывёлы — во галоўны клопат на данным этапе. Пачаў рабіць справаздачу аб справах свайго аддзялення. Вынікі года ў яго былі добрыя, і Восіп хваліў сваіх людзей, а значыцца, і самога сябе.

Івана яго выступленне расхвалявала яшчэ больш — нязгода Гарнастая з дакладам, але нязгода не ў тым, у чым не згаджаўся ён, Іван.

Загадчык першага аддзялення Сямён Дражневіч, былы інструктар райкома, былы парторг саўгаса, меў дзве вышэйшыя адукацыі — інстытут і партшколу, але раўнаваў свайго калегу, бо ў таго справы ішлі лепей, а яны спаборнічалі. А Гарнастай раўніва адносіўся да адукацыі Дражневіча і таксама лавіў яго, як усіх «прахвесараў», але публічна ніколі не крытыкаваў, прымаўся своеасаблівага этыкету. Аднак не было яшчэ выпадку, каб, калі выступіў адзін, не выступіў другі. З такога іх «спаборніцтва» кпілі, сам Гарнастай кпіў, маючы больш вострае пачуццё гумару.

Сход весела варухнуўся, калі Дражневіч следам за Гарнастаем папрасіў слова. Чалавек адукаваны, ён сказаў, што яму даклад спадабаўся — свежыя думкі, хоць не стаў тлумачыць, у чым іх свежасць. Гаварыў жа, як і Гарнастай, пра справы гаспадарчыя, па-навуковаму дакладна, эканамічна адукавана, але слухалі яго з меншай цікавасцю. Пачаўся «рабочы шумок», ішло абмеркаванне даклада не з трыбуны — у зале.

Якаў Каржоў, самы стары з механізатараў і самы скупы на словы, павярнуў да Івана галаву, яны сядзелі побач, і глуха сказаў:

— Правільныя ён думкі выцягваў. Але так будзе, можа, толькі ў яго кнізе. Разумны хлопец, ды, відаць, з-за кніг не ўсё бачыць. Жызня, брат Саша, не па кнігах ідзе,— і ўздыхнуў, памаўчаў, бо Яшка Качанок настукаў алоўкам па стале, заклікаючы да цішыні. Але хацелася Каржову, які ніколі не выступаў, хоць Івану выказацца,— Канечне, хазяйства наладзілі. Астаповіч — дзелавы мужык! А пра памяць ды пра душу — то Саша ў самае яблачка папаў. І памяці не хапае. І пра душу забываем. Учора была ў мяне ўдава майго дружка франтавога Матрона Салодкая, з Гарнастаяў. Знаеш? Два гады чакае шыферу, каб хату накрыць. А Шышка...

Качанок зноў пастукаў — і Коржоў змоўк. Але яго напамінак пра Шышку як выцяў Івана, ён ажно ўціснуўся глыбей у крэсла і не адразу спытаў — раптам перасохла ў роце, як пасля ваты, калі зубы лечаць,— счакаўшы, прашаптаў:

— Што Шышка?

— Дом купляе,— нечакана гучна сказаў Каржоў.— За дванаццаць тысяч! У «Міжкалгасбудзе». Можа, той, што на выстаўцы паказвалі. Помніш? Дом для калгаснай сям'і на чатыры комнаты. Лукашоў даў даведку на пакупку!..

Усё роўна што борт грузавіка прыціснуў Івана да сцяны — не было чым дыхаць: такое перажываў некалі ў сне, хварэючы на запаленне лёгкіх — сніў, што яго расціскае машына.

Лукашоў, старшыня сельсавета, сядзеў у прызідыуме, старанна пісаў на маленькіх лістках, пэўна, рыхтаваўся да выступлення, перагортваў лісткі з хуткасцю друкарскай машыны.

Лукашоў — прыезджы, але працуе ў Добрынцы не адзін год, добры дзесятак гадоў. Знае людзей і не мог не знаць, хто такі Шышка. Што ж гэта такое? Качанок не знайшоў нікога іншага, хто раздабыў бы тыя непатрэбныя рэле... Лукашоў дае даведку...

Дражневіч не скончыў яшчэ гаварыць — Іван падняў руку. Кашуба ўсцешылася, што слова просіць радавы камуніст, лепшы шафёр, камбайнер, герой жніва, і падказала Качанку, калі Дражневіч адарваўся ад трыбуны:

— Таварыш Батрак просіць слова.

— Давай, Іван, крыцікні нас,— з фамільярнай свойскай жартаўлівасцю сказаў Качанок, не без хітрасці, аднак: пачне яго крытыкаваць — няхай людзі помняць, што ён загадзя знаў, што будзе гаварыць Батрак, быў гатовы да гэтага і заставаўся спакойным, аб'ектыўным, па-сяброўску добразычлівым. Але, успомніўшы пра абавязкі старшыні і аб прысутнасці сакратара райкома, паправіўся, сказаў сур'ёзна:

— Выступае таварыш Батрак Іван Карнеевіч.

Іван ішоў да трыбуны, і ў яго цямнела ў вачах, шумела ў галаве, як у асеннім лесе. І ў грудзях балела, быццам праўда ціскванула бортам, як у тым сне. Узлёг грудзьмі на трыбуну і гэтым як бы прыдушыў боль. Угледзеўся ў твары камуністаў, сваіх таварышаў, з якімі штодня побач робіць. Невялічкая зала, залітая яркім святлом, а твары спачатку вырысоўваліся быццам праз туман. Наблізіўся адзін твар — Якава Каржова, маршчыністы, цёмны, як не адмыты яшчэ ад летняга пылу, што ўзнімаўся, калі жалі ячмень на тарфяніках, суровы твар, але і добры сваёй спакойнай мудрасцю, засяроджанасцю, маўклівай увагай да ўсяго, што робіцца навакол. Валя, калі была яшчэ ў дзесятым класе, неяк сказала, што па твары дзядзькі Якава можна вывучаць гісторыю, і пасля напісала сачыненне пра Каржова і пра іншых франтавікоў-аднасяльчан. Лепшае сачыненне ў класе, на рэспубліканскі конкурс пасылалі. Спакойны твар старэйшага таварыша і ўспамін пра дачку дадалі пэўнасці, рашучасці і трохі супакоілі, на нейкую хвіліну. Хацелася глянуць яшчэ ў адзін твар — Астаповічу, дырэктар заўсёды падбадзёрваў яго, але павярнуцца да прэзідыума не хапіла сілы ці адвагі. Ашаламіла раптам, што ён не ведае, з чаго пачаць сваю прамову. І сумненне зноў апаліла: а ці дарэчы ўсё гэта, пра што ён надумаў гаварыць?

Мабыць, ён доўга маўчаў, бо ўбачыў раптам здзіўленне на твары Каржова, які вельмі рэдка чаму здзіўляўся. І Качанок пастукаў алоўкам па стале, як бы заклікаючы да цішыні, хоць цішыня была поўная.

— Я пра што, таварышы, хачу сказаць... Я тут часта выступаў аб нашай рабоце, аб сяўбе, аб уборцы... аб аўтатрактарным парку... аб парадках і непарадках. Усё ў нас ёсць. Гэта жыццё наша — работа і памылкі... усё ў рабоце бывае... Але сягоння я буду гаварыць не аб

гэтым,— Іван як бы папрасіў прабачэння ў кіраўнікоў, што не спраўдзіць іх спадзяванні на выступленне аб справах саўгасных.— Я буду гаварыць пра другое наша жыццё. Цётка мая Хвядора называла яго жызняй душы. Успомніў во яе, паташную. Я многа чаго ўспомніў... Сёння, калі слухаў Аляксандра Пятровіча... І раней... Я гэтыя тры месяцы, можа, тым і жыў, што ўсё ўспамінаў. Дзень і ноч успамінаў. За рулём. Чаго ўспамінаў? Я вам скажу — чаго. Я ўсё скажу! — ён як пагразіў некаму.— Я слухаў Аляксандра Пятровіча і думаў, зноў жа ўспамінаў... Вы знаеце каго я ўспамінаў? Бацьку свайго, Карнея Батрака... Пра яго я думаў... як ён жыў... тыя месяцы... пасля... як яны сям'ю нашу пагубілі... пастралялі... матку, сястру маю Аньку... І дзіцятка тое, якое не нарадзілася.— Іван як бы задыхнуўся і памаўчаў. Цяпер ужо ўсе, не зводзячы вачэй, глядзелі на яго і з залы, і з прэзідыума; Іван не бачыў усіх гэтых вачэй, але адчуваў іх усёй істотай сваёй, быццам агаліўся, здзёр з сябе скуру, і яму балела нават ад дотыку позіркаў.— Можа, я толькі цяпер зразумеў, як бацька жыў тыя месяцы... зіму тую і вясну... Тады я быў малы... восьмы год мне ішоў. У малых раны гояцца лягчэй. Хоць і я, помню, абіраю на партызанскай кухні бульбу, а потым успомню матку і зальюся слязьмі. Уцяку ў шалаш-кашошню, зіма была лютая, зашыюся ў сена пад конскія морды. Ім, коням, свой дзіцячы боль выплакваў. Бабы... партызанкі давалі мне паплакаць, а потым вялі ў сваю зямлянку, суцяшалі. Разумна жалелі сірату, каб не жаласціць лішне. А бацька... Бацька чорны хадзіў. Страшна кашляў усю тую зіму. Піў многа, але ніколі не п'янеў. Не на людзях, калі адны заставаліся, абнімаў мяне, прыціскаў, ажно балела мне, і адно шаптаў: «Сынок! Сынок!» Мала калі яшчэ што гаварыў. Адзін раз папрасіў: «Ты запомні іх, сынок, запомні». І назваў прозвішчы немцаў... каменданта раёна і камандзіра атрада... зондэркаманды і нашых паліцаяў... Бацька часта хадзіў на заданне. Калі хадзіў, а калі ездзіў на кані, у сядле. Тады... прыкмеціў я... ён і прыходзіў абняць мяне, калі на кані ехаў. Тады я не здагадваўся, а цяпер знаю... Сюды ён ездзіў, у Добрынку! На папялішча тое. Ці на магілу... Была магіла. Пахавалі людзі добрыя матку маю і сястру. Бабу ж Ульяну не спалілі, толькі застрэлілі. Старыя... самыя старыя добрынцы, нягледзячы, што карнікі стаялі яшчэ ў сяле, пахавалі забітых. Са свяшчэннікам Ігнатавым, ён з партызанамі быў звязаны. Мне цётка расказвала. Ды старыя яшчэ і помняць. Лукер'я, матка Качанкова... Вон Мар'я Каржова сядзіць... У адну дамавіну з бабай Ульянай сабралі людзі абгарэлыя костачкі...— Іван захлынуўся, змоўк.

У вялікавокай Тамары Кашубы ўсё больш і больш акругляліся вочы. Яна колькі разоў пераводзіла позірк з Івана на Астаповіча. Але

Хведар Цімафеевіч сядзеў, паклаўшы рукі на стол і ўтаропіўшы позірк на вузлаватыя ад артрыту пальцы, і ні на міг не падняў галавы, не глянуў на сакратара райкома, на залу, на прамоўцу. Астаповіч, можа, першы зразумеў, што перажывае Іван Батрак і пра што ён хоча сказаць. Думаў ён раней пра магчымасць разных сітуацый у сувязі са зваротам былога паліцая, з начальнікам раённай міліцыі раіўся, але нават ён, пранікLівы, уважлівы, не ведаў, што некага закрануў гэты зварот вось так...

А Якаў Качанок, як добры радар, злавіў здзіўленне Кашубы і быў у вялікай разгубленасці: баяўся папроку, што ён дрэнна кіраваў сходам, і не меў рашучасці перапыніць Івана, калі той гаворыць вунь пра што. Чакаў, што гэта зробіць нехта іншы, з вышэйшага кіраўніцтва.

— Ездзіў бацька... На папялішча хаты. На могілкі. Бачыў яго на папялішчы сусед наш, патайны дзед Яўцех Крупяной. Расказваў... Выйшаў, кажа, на досвітку, летам гэта ўжо было, на папялішчы бур'ян парос, а там, у бур'яне, як стогне хто. Як стогне... Легенда хадзіла па сяле, што кожную ноч на папялішчы хаты нашай дзіця з'яўляецца... У белай сарочачцы да пят... Анька... сястрычка мая... мамку шукае...

Старэйшая сярод жанчын — даярка Мар'я Каржова, якая сядзела ў першым радзе, бо прыйшла са спазненнем, гучна ўсхліпнула.

Тады Качанок адважыўся, ціха пастукаў алоўвачкам і далікатна папрасіў:

— Іван Карнеевіч, можа, пагаворым аб справах...

Але зала калыхнулася, што бор ад парыву пераднавальнічнага ветру, і ў адзін голас гукнула абурана:

— Дай чалавеку сказаць!

— Што ты яму рот затыкаеш?

Качанок спалохаўся абурэння, ён добра ведаў стыхію сходу: перад галасаваннем не тузай, не пярэч, інакш схопіш лішнія шары. Тамара Фёдараўна разгубілася яшчэ больш: што ж ёй, раённаму ідэолагу, рабіць у такой вельмі нечаканай, незвычайнай сітуацыі? Такога і ў раманах не чытала, у фільмах не бачыла, не чула. Расказвае чалавек такое, што не перапыніш. Але чаму тут? Дзіўна паводзіць сябе Астаповіч, з яго вопытам і мудрасцю мог усё ж неяк адгукнуцца, рэплікі ён любіць кідаць, калі размова ідзе пра гаспадарчыя справы. Ды і Батрак гэты самым свядомым рабочым быў, з паўслова ўсё разумеў. Чула яна, што сям'ю яго фашысты знішчылі, але неяк не дайшла яшчэ да таго, каб пацікавіцца, як гэта адбылося. А ўрэшце, можа, так і трэба ўшаноўваць памяць тых, хто загінуў,— вось такім успамінам на партыйным сходзе. Але каб сход быў не справаздачны...

— Гаварыце, таварыш Батрак.

Ды наўрад ці трэба быў Івану чый бы ні было дазвол, ён, можа, не вельмі нават пачуў і Качанка, і Кашубу, бо, па сутнасці, не перапыняў успаміну, ён захліпнуўся разам з усхліпам Каржовай: яму ўявілася здань Анькі на папялішчы. Быў той, можа, адзіны ў жыцці, міг, калі ён паверыў, што сапраўды можа блукаць там. А можа, ён заўсёды верыў у гэта? Бо згадзіўся некалі з Тасяй, што не трэба новую хату будаваць на месцы спаленай фашыстамі. Так яно і засталося незабудаваным, тое іх дворышча. І выраслі там чатыры ліпы-самасейкі. Цяпер магутныя ўжо ліпы, узвышаюцца над усім сялом.

— Паліцаі білі людзей, хто распускаў чуткі пра дзіця. Дзед Крупянок быў не з баязлівых, а спужаўся таго стогну. Аднак стаіўся за вуглом хлява, паглядзеў і ўбачыў, як з папялішча пайшоў па гародзе чалавек. Дзед кажа, то быў Карней... З аўтаматам. Тады ж... у тое лета, сорак трэцяга, людзі помняць, як у адну ноч пачалася страляніна са школы. Аднаго паліцая насмерць... аднаго ранілі. Бацька гэта страляў! Бацька! Атрад тады стаяў далёка — у Грудзянскім лесе, за трыццаць вёрст. Яны высачылі яго. Паліцаі. Бацьку майго. Здагадаліся, што ён абстраляў школу. Ці, можа, яшчэ хто яго бачыў. Стары Крупянок тож не вельмі ўмеў дзяржаць язык за зубамі. Некаторыя помняць, што гэта за дзед быў — вечна з бабамі сварыўся. Зрабілі паліцаі засаду ля Фадзеевага броду... Па рэчцы каня не пагоніш. На гэта разлічвалі. Стралялі яны па ім тут, людзі чулі. Але бацька вырваўся. Цэлы ці ранены — ніхто не знае. У засадзе былі пешыя і конныя. Усё разлічылі, гады. Да Хутаранкі гналі. Вунь ажно куды! На хутаранскім полі пад бацькам забіла каня. Ён адступаў да лесу, але паліцаі абкружылі яго, ён залёг у глінішчы, у ямах, дзе гліну капалі... Можа, быў ранены. У яго патроны кончыліся. Можа, ён сам кончыў сваю жызнь паследняй куляй, штоб у фашысцкія лапы не папасці. Ніхто не знае. Калі я яшчэ ў дзецкім доме быў, прыходзіў туды хутаранскі дзядзька Арцём Калодзежны. Да мяне прыйшоў, узнаўшы што я там. Ён пахаваў бацьку. Пачуў Арцём на досвітку, што страляюць там, на глінішчы. Усхапіўся чалавек, у сад выйшаў. Калодзежны быў звязаны з атрадам Бруя, да яго прыходзілі з атрада. Дак ён падумаў, што хтось з іхніх напароўся на засаду. Ці не ад яго хаты адыходзіў? Падняў чалавек жонку, дачку, штоб, калі што, схавацца маглі. Калі ўжо развіднела, прыехала трое незнаёмых паліцаяў. Да старасты. Стараста праз вуліцу ад Калодзежнага жыў. На поўны голас пахваліліся, што прыкончылі Батрака. Калодзежны, канечне, чуў, чые сем'і ўвосень зніштожылі ў нас, і адразу здагадаўся, пра каго гаворац, пра якога Батрака. Паліцаі загадалі старасту запрэгчы каня і прывезці

труп у Добрынку. Але пакуль стараста прывёў з поплаву каня ды запрог, Калодзежны з жонкай пабеглі ў глінішча і перанеслі цела ў лес, там і пахавалі. Паказаў ён мне магілу пад дубамі. Нас дырэктар дома на машыне вазіў туды. А потым я з цёткай Хвядорай хадзіў. Потым, вы знаеце, яго перавезлі сюды, у брацкую магілу, разам з чырвонаармейцамі пахавалі. Мы з вамі, Хведар Цімафеевіч, ездзілі ў Хутаранку... Калодзежны расказваў: добра, кажа, сынок, што не бачыў ты бацькавай смерці. Глуміліся бандыты пад ім, усяго пасеклі кулямі, можа, сотня ран была на целе... вочы выкалалі. Калодзежны на судзе быў, калі іх судзілі, фашысцкіх службакоў... Двух ён пазнаў з тых паліцэйскіх, што прыязджалі да старасты хутаранскага. Лапая і Свірыдава з Хамоўкі. Іх павесілі... А Шышку далі дваццаць пяць. Не было яго, калі ў Гарнастаях людзей спалілі ў царкве. Не паехаў ён на тую аперацыю, хворым прыкінуўся і тым апраўдаўся. А на судзе гэта было галоўным абвіненнем добрынскім паліцаям. Ніхто не даказваў, што нашы сем'і стралялі паліцэйскія. Тады зондэркаманда наляцела, і ўсё нібыта яны ўчынілі... карацелі з батальёна СД... Але быў... быў адзін сведка, калі сям'ю нашу знішчалі. Я! Я пад печчу сядзеў... І ён... Шышка шукаў мяне там... аўтаматнымі чэргамі. Чэргамі! Калі б матка лаза таго не зрабіла... А можа, ён свой гарачы аўтамат і на Аньку перавёў? Каму яна крычала: «Дзядзечка не страляй у мяне!» Каго знала, таго магла так прасіць.

Мар'я Карпава, мабыць, уявіўшы, што сусед яе (праз два двары жыве Шышка цяпер) страляў дзяцей, войкнула:

— Ах божачка!

Уся зала зноў калыхнулася, і людская хваля як бы прыбілася да самай трыбуны, сучаснай, паліраванай, за якой Іван Батрак зноў як захліпнуўся следам за старой жанчынай, якая сваю прыналежнасць да партыі, вельмі сумленную працу на ферме спалучала з тайнай верай у бога.

— Ніхто, канечне, не знае, ці быў там, у Хутаранцы, Шышка, ці страляў у бацьку майго. Але ніхто мне і не дакажа, што не сядзеў ён у засадзе, не гнаўся за ім. Можна ўявіць, як яму хацелася ўбраць Батрака, які прыходзіў адплаціць за сям'ю, які ніколі б не дараваў... знайшоў бы забойцу і ў Еўропе, і ў Сібіры... Шышка сваё палучыў, хоць чорт яго не ўзяў. Вярнуўся праз трыццаць пяць гадоў. Здаровы. З грашамі. Я знаю, за адно і тое ж другі раз не судзяць. І я свае рукі не замараю. Але... дыхаць з ім адным паветрам мне цяжка, таварышы! Не магу!.. Пайміце...

— Панімаем, Іван! — гукнула з залы Вольга Даніленка.

— Я, калі слухаў Аляксандра Пятровіча... Харашо ён гаварыў пра гісторыю, пра памяць нашу да тых, хто не толькі пад абеліскамі ляжыць, але і на могілках нашых... хто на трудавым фронце жызнь сваю кончыў, я, канешне, таварышы, пра сваіх думаў... пра бацьку... А яшчэ я думаў, таварышы, пра надпіс той на самых вялікіх у свеце могілках у вялікім горадзе-героі. Помніце? Ніхто не забыты, нішто не забыта! Нішто! Дык чаго ж мы забываем, таварышы? Некаторыя гатовы ўжо цалавацца з гэтай сволаччу, фашысцкай... Як мой дружок, сын салдата, што дзесь на Вісле ляжыць, Яша Качанок...

Людская хваля як бы адхлынула ад трыбуны, разбілася, гайданулася ў розныя бакі.

Качанок спачатку ўнурыўся, спалохаўшыся людскіх вачэй, бо ўсе позіркі скрыжаваліся на ім, потым падскочыў з выглядам задзірыстага пеўня, пагрозліва кінуў Івану:

— Думай, аб чым гаворыш. Не развадзі... — але не даказаў, чаго не развадзіць, бо адчуў, што зала настроена супраць яго.

— Я думаю, Якаў Мацвеевіч, думаю. Ты знаеш, колькі я перадумаў, калі ты паслаў мяне з Шышкам па якіясь рэле. Шышка памочнікам тваім стаў, даставалам, леваком. Няхай бы народны кантроль праверыў — як вы даставалі тыя непатрэбныя, як ты сам сказаў, рэле. Я не апраўдваюся, але, можа, з-за думак тых я аварыю зрабіў, першы раз за ўсе гады работы на трактары, на машыне. А ты кажаш: я не думаю. Не, Якаў, я думаю. Во яшчэ табе факт. Можа, і тут ты хацеў памагчы свайму памочніку... Праўда, ужо рукамі Лукашова. Гэты наш прэфект, як яго настаўнік Багаценкаў называе...

— Не чарпі людзей! — сіпла крыкнуў Качанок.

— Якое ж тут чарненне? Шутка... Ну да ладна, Ларыён Пятровіч няхай ізвініць, ён сам любіць пашуціць... Толькі яму з гэтай трыбуны ўжо казалі, не я першы. Да яго ўдовы па два гады за шыферам ходзяць, вон як Матрона Салодкая з Гарнастаяў. А некаторыя з маладых, пралазлівыя, адразу палучаць і лес, і шыфер. Ды я не пра іх... Калі добры чалавек строіцца, рабацяга — не жалка, няхай палучае. Я — пра яго... пра Шышку... Добранькі наш старшыня сельсавета выдаў паліцаю даведачку на пакупку дома ў калгасбудзе. За дванаццаць тысяч! Дай яму, Лукашоў, сядзібу Крупянкову. Каб напроціў мяне... Каб я глядзеў на яго дом, любаваўся. Да чаго мы дайшлі, таварышы? Дзе наша запаведзь: «Ніхто не забыты, нішто не забыта»? Я і вам скажу, Аляксандр Пятровіч. Вы тут харашо гаварылі, правільна ўсё. А ці падумалі вы, калі пайшлі па вуліцы з Шышкам... Быў такі факт, і людзі загаварылі пра гэта. Не знаю, можа, вам хацелася паглядзець на яго зблізку, можа, папытаць што... для кніжкі сваёй... у душу яму

залезці... вобразы ж вам усякія трэба... Я вас панімаю... А што маглі падумаць старыя, якія помняць Шышку? І маладыя, якія так... краем вуха чулі пра расстрэл сем'яў... Думаеце, мне раней хацелася расказваць, што я перажыў?.. Я так жа стараўся забыцца. Пакуль... А некаторыя так і падумалі: калі сам парторг гуляе па вуліцы з былым паліцаем, значыцца, прасцілі яму, значыцца, штось і забыць можна... не ўсё трэба помніць вечна. Хіба не так?

— Так, Іван Карнеевіч,— нечакана гучна сказаў Забаўскі.— І я прашу прабачэння. Не падумаў.

Распаліўся Іван. Спачатку хваляваўся — ажно твары людзей расплываліся і ў самога да млоснасці горача рабілася ў жываце. Потым хваляванне перайшло ў злую рашучасць давесці ўсё да канца, выказаць усё, што набалела ў душы. Няхай пры такой яго рашучасці нехта паспрабаваў бы запярэчыць яму, перапыніць — стаптаў бы, што трактарам, самога Астаповіча не пабаяўся б і не пашкадаваў бы. Але нечаканае для яго і, бадай, для ўсіх парторгава прабачэнне збянтэжыла. Як на самую неспадзяваную перашкоду наскочыў. Змоўк. Павярнуўся да прэзідыума. Убачыў, што ўсе, хто сядзіць за сталом, глядзяць на яго ні то са здзіўленнем, ні то са спачуваннем, і разгубіўся яшчэ больш. Падумаў, што яму варта неяк адказаць на прабачэнне. Але што трэба гаварыць у такім выпадку? Як? Не было ў яго такіх слоў, бо не думаў ніколі, што нехта можа папрасіць у яго прабачэння за свае ўчынкі. Вырашыў, што самае разумнае — больш нічога не гаварыць. Галоўнае сказаў, досыць! Адно сказаў:

— Во і ўсё маё слова сягоння.— І, ужо выйшаўшы з-за трыбуны, у праходзе паміж радамі крэслаў таксама папрасіў прабачэння: — Выбачайце, што не аб хазяйстве гаварыў.

Кашуба шапнула Качанку, каб абвясціў перапынак. Трэба даць разрадку, паўзу, няхай астынуць людзі. Ды і самой сабрацца з думкамі, выпрацаваць тактыку далейшага вядзення сходу. Сітуацыя нялёгкая. Пачуцці ў сакратара райкома, у жанчын, у маці былі супярэчлівыя. Яна зразумела Батрака. Але што ёй скажуць, калі справаздачны сход вялікай арганізацыі звядзецца да таго, пра што гаварылі Забаўскі і Батрак? Ідэалагічныя праблемы — важна, але ўсё ж гэта другаснае. Галоўнае — базіс, вынікі гаспадарчага года, увядзенне комплексу, які прыйдзецца запаўняць жывёлай, асвойваць у зімовы сезон, што, безумоўна, створыць цяжкасці. Такі наказ даваў ёй першы сакратар: сур'ёзна абмеркаваць з камуністамі саўгаса ўсе аспекты завяршэння і асваення комплексу.

З душнаватай залы мужчыны ўсе высыпалі на вуліцу — пакурыць. А хто не курыў — паслухаць, што будуць гаварыць «у кулуарах».

Адна Мар'я Каржова засталася ў нерухомасці сядзець у першым радзе. Іванаў успамін пра смерць бацькі нагадаў ёй сыноў, дваіх, што не вярнуліся з фронту. Іван хоць знае — як памерлі матка яго і бацька, а яна і гэтага не знае — як паміралі яе сыночкі, на Пятра, праўда, прыйшло паведамленне, што загінуў смерцю героя ў баях за венгерскі горад Дзьёр і пахаваны ў брацкай магіле ў тым жа горадзе, а на Паўла і пахавальнай няма; дзе ён паклаў сваю светлую галовачку, калі — ніхто не знае, відаць, тады яшчэ, як іх Добрынка пад немцамі была, і пахаронкі не было куды пасляць.

Кашуба, Астаповіч, Забаўскі, Качанок, Лукашоў пайшлі ў кабінет старшыні сельсавета.

Тамара Фёдараўна, наблізіўшыся да століка ў кутку, спытала ў Лукашова:

— Ваду ў цябе хоць мяняюць, гаспадар?

— Свежанькая, Тамара Фёдараўна, сам наліваў перад сходам.

Прагна выпіла поўную шклянку. Па тым, як яна спытала пра ваду, з якой інтанацыяй, як піла, Качанок здагадаўся, што сакратар райкома незадаволена. Не дзіва: куды сход павярнуўся! Але на каго яе гнеў? На Батрака? Не, наўрад, не стане яна валіць віну на простага шафёра, баба разумная, хітрая. На яго, Качанка? Але хто задаў тон? Хто захацеў паказаць сваю арыгінальнасць?

Маўчалі. Не глядзелі адно на аднаго, як вінаватыя. Толькі Астаповіч, седзячы за сталом старшыні, шумна дыхаючы, быццам яго сціснула грудная жаба, аднак робячы выгляд, што заняты тым, што рысуе бочкі ці колы (усюды, дзе сядзеў дырэктар пакідаў рысункі бочак або колаў з узорнымі ступкамі, з гэтай яго любові да круглага кпілі), з хітрай прыжмуранасцю сачыў за кожным з прысутных, хацеў убачыць твар кожнага і здагадацца, хто пра што думае. Раздражняла яго трохі, што Забаўскі схітраваў: узяў з паліцы кніжку, гартаў яе, стоячы да стала спіной. А яшчэ не падабалася, што маладая прыгожая жанчына не па-жаночы, па-мужчынску шырока крочачы, хадзіла па кабінеце, ад стала да дзвярэй, залішне яўна выдаючы сваю незадаволенасць.

Першы пачаў апраўдвацца Лукашоў:

— На хату іх колькі мне пальцамі тыцкалі. Усю вуліцу псуе. А як інакш яе можна знесці? Во я і падумаў... Не дзеля яго. Жонка ў саўгасе рабіла... пенсію мае...

Кашуба не стала яго слухаць, спынілася перад сталом:

— На чорта вам гэты Шышка?

— Каму? — здзівіўся Хведар Цімафеевіч.— Мне? На чорта ён усяму сялу, раёну. Але куды яго дзенеш? Адсядзеў сваё — вярнуўся да сям'і. Мае права.

— Па закону,— дапоўніў Лукашоў.

— Па закону! Законнікі! — абурылася Тамара Фёдараўна па-жаночы шчыра.— Сволач гэтая таптала нашы законы. А цяпер законы яго ахоўваюць,— і спынілася ля Забаўскага, сказала без той ветлівасці, з якой заўсёды звярталася да такога незвычайнага сакратара — журналіста, пісьменніка: — Выступіў Батрак — чалавеку набалела, можна зразумець яго. Але не трэба, каб прадаўжалі гэтую тэму. Павярніце сход!

Забаўскі адарваўся ад паліцы, куды асцярожна, як крышталёвую, паставіў кнігу — збор законаў, і выразам твару, вачэй выказаў маўклівае здзіўленне такім загадам.

Тут не стрымаўся Качанок:

— Куды ён паверне цяпер сход, Тамара Фёдараўна? Ён яго павярнуў дакладам. Які даклад — такія выступленні. Жызняй праверана.

Як стары конь, які пачуў незнаёмае ржанне, ускінуў галаву Астаповіч, не дарысаваўшы бочку. Здзівіўся дырэктар. Ведаў, што хоць Яшка і не раз прымяраўся да пасады парторга, але, бадай, даўно зразумеў, далі яму зразумець, што ў яго, як сказаў адзін кіруючы таварыш, «не тот потолок», што пры ўсёй кіпучай энергіі не хапае ў яго таго галоўнага, што патрэбна для партыйнага кіраўніка новага тыпу. Гадоў дваццаць назад мог быць і Качанок, але цяпер не той узровень.

У Качанка меліся іншыя якасці, і хітры Астаповіч умела выкарыстоўваў іх. На дваццаць гадоў старэйшы, Астаповіч па поглядах лічыў сябе маладзейшым за Качанка і неаднойчы ўпікаў таго: «Кансерватар ты, Якаў Мацвеевіч». Ва ўсялякім разе, Хведар Цімафеевіч лічыў, што Качанок урэшце зразумеў свой «потолок» і працуе без прэтэнзій, задаволены сваім становішчам: Забаўскага Качанок сустрэў насцярожана — прышэлец! — але змірыўся з яго выбраннем год назад.

І вось прарваўся Яшка Качанок, як стары мяшок з бульбай. Сыпануў — ажно загрукацела. Калі толькі з-за таго, што атрымаў па носе ад Івана Батрака, то гэтая кароткая ўспышка, жаданне хоць на кім спагнаць злосць — яшчэ нічога, гэта нават на карысць можа пайсці і яму, Качанку, і эксперыментатару Забаўскаму — няхай зразумее, што не кожны эксперымент удаецца. Але калі Качанок хоча паказаць сябе самым правільным, выслужыцца перад сакратаром райкома,

ачарніць Забаўскага, выбіць з раўнавагі — то дурань ты, Яшка, вытрасаеш з сябе самае горшае.

Не адказаўшы на Качанкоў наскок, чым яшчэ больш узлаваў таго — так ігнараваць! — Забаўскі спытаў у сакратара райкома:

— А куды, уласна кажучы, яго трэба паварочваць,— сход наш? І навошта? Што ў ім няправільнага?

— Вы не разумееце? — здзівілася Тамара Фёдараўна.

— Не разумею.

— Ну, знаеце...

— А шчо ён разумее! — амаль крыкнуў Качанок, ужо бадай палохаючы Астаповіча нечаканай ваяўнічасцю.— Шчо яму да нашых планаў? Да нашага хлеба, мяса? Яму — мараль давай. Шчоб быў матэрыял для кнігі! Канфлікты шчоб былі. Шчоб мы за чубы счапіліся. Я табе магу падкінуць канфлікты. Я не святы, але і ты не архангел. У нас з табой — кожны дзень канфлікт. Пішы! Не бойся!

Нечаканая Качанкова зласлівасць збянтэжыла ўжо і Тамару Фёдараўну. Яна пакутліва зморшчылася: не любіла сваркі.

Кругленькі чырванашчокі Лукашоў выкаціўся на сярэдзіну кабінета і стаў паміж імі — Качанком і Забаўскім, як бы сапраўды баючыся, што яны счэпяцца за чубы.

— Таварышы, таварышы... Ну, што вы, як дзеці. З-за чаго?

З-за чаго — Качанок, напэўна, не здолеў бы растлумачыць, проста выплеснулася раздражнёнасць, якая набіралася цэлы год, на Забаўскага, на Астаповіча: яны — кіраўнікі, яны заўсёды правільныя, чысценькія, а ён — рабочы вол. Пра рэле тыя Астаповіч кінуў на нарадзе адну фразу: «Ніхто не можа дастаць такога пусцяка? Няўжо мне самому займацца?» І ён, Качанок, зрабіў усё, каб дастаць гэты пусцяк.

Забаўскі, якога ашаламіў такі раптоўны наскок, вельмі ціхім голасам папрасіў:

— Калі ласка, не чапайце маю кнігу,— так просяць за хворае любімае дзіця: не чапайце яго.

Просьба такая збянтэжыла Качанка, ён адступіў у кут і, як знясілены, апусціўся ў крэсла, пачаў гладзіць калені, быццам па іх ударылі.

Падняўся Астаповіч, падраў ліст з нарысаванымі бочкамі, кінуў шматкі ў кошык, важка сказаў:

— Нікуды нічога не трэба паварочваць. Няхай людзі выкажуцца. Каму што набалела. Як Івану Карнеевічу... А ты, Якаў, не кідайся на людзей, не гыркай, уляпіў табе Батрак за праўду. За такога даставалу

мы ў цябе спытаем па другой лініі. Дзе нашы партыйныя прынцыпы? Нельга іх разменьваць, яны — не сто рублёў.

Кашуба змоўчала. Навошта ёй спрачацца з членам абкома? Няхай за свой калектыў адказвае сам. Хочацца яму паслухаць пра ўсе болі і крыўды — няхай слухае. Стары залішне самаўпэўнены, аб гэтым неаднойчы гаварылі работнікі райкома, аднак апошнім часам ліберальна заігрывае з людзьмі, перад пенсіяй так робіць шмат хто.

Лукашоў ціха спытаў у яе:

— Мне трэба выступіць?

Яна адказала пытаннем, незадаволена:

— А як вы думаеце?

А як яму думаць, калі сакратар райкома толькі што загадала «не прадаўжаць гэтую тэму». А другі туз, з якім нельга не лічыцца (у каго эканоміка — у таго ўлада), з якім штодня разам працаваць, здаецца, гне ў другі бок. Апынешся паміж двума жорнамі. А ў яго — стэнакардыя, дактары раяць асцерагацца адмоўных эмоцый, і ён, Лукашоў, навучыўся наладжваць сабе толькі добрыя эмоцыі, радасныя, вясёлыя.

Таіса Міхайлаўна з незразумелай для самой сябе нецярплівасцю чакала мужа з партсходу. Згатавала на вячэру «жаранку» — так тут называюць бульбу з салам, смажаную не па газавай пліце, а ў грубцы, «у духу», дзе бульба набывае асаблівую духмянасць і смак, пратлушчаныя тонкія скрыгалі не прыгараюць да чыгунка, а толькі падрумяньваюцца. Іван вельмі любіць такія «прыгаркі», выскрабае чыгунок, як малы.

Так смажыла бульбу цётка Хвядора, калі яны жылі разам у яе хацінцы, рабіла яна гэта на святы, а ў будні хіба ў пасяўную ці ўборачную, калі Іван з цямна да цямна рабіў у полі. Для маладога трактарыста, які з работы і з гульні вяртаўся заўсёды згаладалы, простая страва была найлепшым ласункам. Тася вырасла на заможнай Случчыне, у заможнай сям'і, і ёй здавалася, што любоў такая да бульбы з салам — ад беднасці, ад доўгага галадання ў вайну і пасля яе. Але калі добра пабагацелі і мелі з чаго згатаваць любыя стравы, калі хапала, як кажуць, і смажанага, і паранага — жаранка па-ранейшаму заставалася сямейным ласункам. На свініну ў любым іншым выглядзе дзеці глядзець не хацелі, асабліва перабіруха Валя, а жаранку з салам выскрабала з чыгунка так жа, як бацька.

Але страва гэтая не павінна перастаяць, перасмажыцца. Усе ў доме па асаблівым паху чулі, калі яе сама трэба падаць на стол. Во тады гэта смаката! Дзеля ўласнага заспакаення, каб не думаць аб чым

другім, Тася лічыла, што нецярплівасць яе ў чаканні Івана менавіта ад таго, што перастойвае жаранка. Але нават Карней здагадаўся, што гэта не так.

Карней рыхтаваў урокі, а гэта — святое. Тэлевізар у такім выпадку не ўключаўся. А без тэлевізара Таіса Міхайлаўна не ведала, чым заняцца ў доўгі асенні вечар. На насочках, каб не перашкаджаць сыну, хадзіла па доме, прыбірала дзе-што раскіданае Карнеем ці Іванам, як заўсёды пры такой рабоце з гумарам думаючы пра дачку, якая ўсіх іх вучыць парадку.

Спынілася за спіной сына, заглянула цераз плячо ў яго сшытак: уся старонка спісана адмысловымі формуламі. Захацелася пагладзіць сына па разумнай галаве, па яго ўсё яшчэ выгаралых за лета жытнёвых валасах, ад якіх і пахла яшчэ, здалося, саломай і сонцам. Але ведала, што яршысты Карней не любіць пяшчот — узрост такі.

«Скора, сынок, ты палюбіш жаночую руку»,— падумала і стоена ўздыхнула ад таго, што гэта будзе не мацярынская рука — тая, якая будзе гладзіць яму валасы, і яму гэта будзе прыемна.

Карней пачуў яе стоены ўздых, спытаў:

— Ты што, мам?

— Нічога. Гэта — адна задача?

— Адна.

— Цэлая старонка формул! Як ускладнілася навука!

— Гэта яшчэ нічога. Тут у мяне варыянты. Штось не выходзіць,— і пацягнуў носам.— Паху ты парабіла на ўвесь дом. У галаве — жаранка, а не алгебра.

— Я пакладу табе верхніх прыгарачкаў, яны сама падрумяніліся.

Карней засмяяўся, трасянуў галавой, рассыпаўшы валасы на лоб, на вочы. Маці прыбрала з ілба яго валасы, прыгладзіла іх. Ад дотыку да сынавай галавы, бадай, ад таго, што ён не запярэчыў, не крутнуў галавой, Таісе Міхайлаўне зрабілася хораша, радасна.

— Так даць жаранкі?

— Пачакаем бацьку.

— Пачакаем,— згадзілася яна, яшчэ больш узрадаваная, што сын думае пра бацьку. Увогуле, за мінулае лета Карней прыкметна пасталеў, нават перастаў саромецца і лаяцца на Нюрчыны жарты пад вокнамі: «Карней! Калі ў сваты прыйдзеш?» У нядзелю на гэты яе крык засмяяўся і сказаў: «Во ліпне, дурная».

— Штось яго доўга няма, бацькі нашага.

Карней зноў засмяяўся і тым выдаў, што, заняты ўрокамі, пачуў матчыну нецярплівасць.

— Ты яго чакаеш, як з далёкага рэйса. Чаго ты, мам, такая неспакойная? Не ў кульдзюме — на сходзе сядзяць. Пагаварыць, знаеш, як любяць! Нашы вунь таксама навучыліся. Пазаўчора камсамольскі сход быў, дык Івета Качанкова, можа, паўгадзіны барабаніла, што ў бубен. Во ў бацьку пайшла!

Карней не вытрымаў-такі: адолеўшы алгебру, сам палез у грубку па прыгаркі, бо пахлі яны так, што астраномія, якую трэба было чытаць, яўна не палезла б у галаву. Хіба да тэорый будовы сусвету, калі цёплая ўтульнасць дому дапоўнена простым, знаёмым, смачным пахам смажанай бульбы з салам. Тут і аскет Капернік не вытрымаў бы!

Карней так і сказаў. Таіса Міхайлаўна, упершыню пачуўшы пра аскетызм вучонага, радасна пасмяялася з Каперніка і з Карнея — што ў яго пасля зацяглай хлапчукоўскай вуглаватасці і сарамлівасці раптоўна з'явіліся мужчынская разважлівасць і гумар да самога сябе. Радасна маці адкрываць прыкметы сталасці ў дзяцей. Але праз нейкі момант ёй трохі стала сумна — ад думкі: растуць дзеці — старэе яна. Не, палохала не набліжэнне старасці — усе старэюць! — а нейкае неасэнсаванае, незразумелае адчуванне, што яна не паспела зрабіць ці праявіць... прапусціла ў жыцці па няведанні — ніхто не падказаў! — нешта асаблівае, самае цікавае, незвычайнае і прыгожае.

Што гэта такое магло быць — не знала, а спытаць пра такое немагчыма, бо не можаш растлумачыць гэтае сваё адчуванне. Калі няма яму назвы, то як ты яго растлумачыш? Ды і сорамна ёй, калі лёс, па агульнаму прызнанню, адсыпаў шчасця поўнай меркай, выказваць як бы сваю незадаволенасць жыццём. Ды і каму скажаш? Чужыя, напэўна, падумаюць: ад раскошы бабе дур у галаву лезе. Самага блізкага чалавека — мужа такое можа пакрыўдзіць ці засмуціць: выходзіць, не так ёй добра з ім... А ёй добра, добра!

«Загадкавыя мы, бабы,— падумала Таіса Міхайлаўна ўжо з грубаватым гумарам.— Не толькі мужчыны нас не могуць пазнаць да канца, але і самі мы сябе не знаем».

Карней прачытаў у падручніку па астраноміі і сказаў маці, што жыццё на зямлі ахоўвае азон, без яго ўсё жывое было б спалена ультрафіялетавымі промнямі. Таісу Міхайлаўну гэта не ўразіла так, як сына. Яна з тых людзей, якіх немагчыма здзівіць адкрыццямі чалавечага розуму, яна верыць, што чалавек усё зможа зрабіць, пазнаць. Але ў той жа час яе могуць моцна ўразіць, да болю, да глыбокай усхваляванасці, звычайны побытавы ўчынак, праява чалавечага высакародства ці нізасці.

Кранула яе не тое, што людзі вывучылі будову атмасферы, а тое, што сын ёй сказаў пра гэта. Некалі ў пачатковых класах ён расказваў прачытанае, а потым доўга маўчаў — у падлеткавым узросце; у дзесятым класе не першы раз паведамляе ёй і бацьку цікавыя факты, вычытаныя з падручнікаў ці іншых кніг.

— Напісаў бы ты, сына, Валі. Тры тыдні ні слова ад яе. Забывае, ветрагонка, на бацькоў, на Добрынку нашу.

— Не забудзе! — адказаў Карней з упэўненасцю, якая таксама парадавала, не за Валю, за яго: сын і думкі не дапускае, што можна забыцца на бацькоў, на роднае сяло. У Валі характар іншы, жаночы. Карней — у бацьку. А Валя — у яе, у маці, шляхетнасці яшчэ больш, і фантазіі ў яе хоць адбаўляй, таму і жаданне ляцець у невядомасць. Такой і яна была маладая. Ды і цяпер... усё яшчэ здаецца, што нечага недадало ёй жыццё. А на Случчыну сваю забылася: калі наведаецца часам — сумуе. Па чым? Па людзях тутэйшых? Па лесе? Па шашы блізкай, на якой і ўночы не заціхае гул машын і па якой як бы само жыццё імчыць з тымі навінамі, што не перадаюцца ні па радыё, ні па тэлебачанні і не друкуюцца ў газетах?

— Не выскачыла б яна замуж у тым Магілёве,— усё яшчэ думала пра Валю, раптам устрывожыўшыся яе маўчаннем, хоць дагэтуль асабліва не хвалявалася: тры тыдні назад, пасля таго як вярнуліся з бульбы, Валя прыязджала дадому.

— Не выскачыць,— зноў жа вельмі ўпэўнена адказаў Карней.

Такая яго ўпэўненасць раптам здалася Таісе Міхайлаўне падазронай: сын як бы ведае нейкую сестрыну тайну. Але маці пэўна знае: няма ў Валі тут, у Добрынцы, хлопца, ды і хлопцаў, равеснікаў яе, не засталося. Астаповіч неяк у застоллі адным бедаваў: столькі стараўся, усё зрабіў, Палац культуры, урачэбны пункт, магазіны, кватэры маладажонам гарантуе не праз дзесяць гадоў, як у Гомелі ці ў Мінску, а праз год-два, а маладыя ўсе роўна адлятаюць. Чым іх толькі прыцягвае той горад?

Карней колькі разоў раіў маці класціся спаць: устае ж раней за ўсіх. Яна прылегла, не раздзяваючыся. Але заснуць не магла. І адразу ж падхапілася, як толькі пачула галасы мужчын на вуліцы.

Апоўначы вярталіся са сходу.

Іван адчыняў дзверы ціха, асцярожна, хоць па святле ў вокнах бачыў, што ў доме не спяць. Гэтак жа ціха распрануўся на кухні, скінуў чаравікі. У адных шкарпэтках, ступаючы на насочках, зазірнуў у «залу» і як бы здзівіўся:

— Вы не спіце?

— У Карнея многа ўрокаў.

— Нагружаюць вас,— пашкадаваў сына.

— Нічога. Цягнем,— бадзёра адгукнуўся Карней.

— Трэба цягнуць — рашаючы год,— сказала Таіса Міхайлаўна.

— Мама і ў сне бача мяне студэнтам,— Карней засмяяўся.

— Думаеш, я не бачу? Розніца хіба тая, што мы бачым цябе ў розных інстытутах.

— Вы ж далі мне права выбіраць...

— Да. Падумай, куды хочаш. Выбірай. Цэлы год наперадзе. А мы табе толькі сны будзем расказваць: хто з нас дзе цябе бачыў. Калісь цётка Хвядора, калі прыходзіла ў дзетдом, сны мне расказвала — як яна бачыла мяне, дзе. А я, дурак, саромеўся... Думаў: ад цёмнай набожнасці — сны такія. І вера такая яе ў гэтыя сны...

Таіса Міхайлаўна прынесла са спальні мужавы тапкі і тут жа пачала збіраць на стол, рашуча пералажыўшы сынавы кнігі на этажэрку: цяпер самае важнае — накарміць бацьку, перад сходам адзін кубак сыраквашы выпіў.

Па тым, як ён ходзіць па зале, не сядае, як гаворыць з сынам, як пра цётку Хвядору ўспомніў, бачыла, чула, што Іван неяк дзіўна ўзбуджаны і адначасова заспакоены нечым важным.

Назірала яна ў яго і раней такое дзіўнае спалучэнне адразу розных душэўных станаў — спакою і ўзбуджанасці. Значыцца, адбылося нешта незвычайнае. Што?

Еў Іван перастаялую ў грубцы жаранку з апетытам касца, які добра намахаўся касой. Таіса Міхайлаўна ніколі не пыталася, пра што гаварылася на сходзе, калі сход быў закрыты. Здаралася, што Іван пра некаторыя канфлікты ці дакументы не расказваў, і яна не крыўдзілася, хоць на другі дзень ад іншых жанок узнавала пра ўсе сакрэты.

Цяпер яна сядзела насупраць, маленькімі глыткамі піла маладую сыраквашу — абы муж не вячэраў у адзіноце — і глядзела на яго так, што Івану стала зразумела, што яна чакае, каб ён расказаў пра сход.

Адкалупнуўшы відэльцам са дна чыгунка і паклаўшы на талерку свой ласунак — добра падсмажаныя, пратлушчаныя бульбяныя скрыгалі, Іван сказаў:

— Яшку Качанка пракацілі на вараных,— і як бы здзіўлена хмыкнуў.

Карней засмяяўся. А Таіса застыла з кубкам каля вуснаў.

— Ты выступаў?

— Выступаў.

— Не трэба табе заядацца з людзьмі, Ваня.

— Ты лібералка, мама! А лібералы — згоднікі. Качанка правільна пракацілі. Дачка менш задавацца будзе.

— Натуру не пераробіш. Такія яны людзі, Качанкі. Шумныя...

— Я толькі сказаў, з кім ён знюхаўся, каго даставалам зрабіў... Хіба я мог маўчаць? Тася! У мяне на душы гарэла ўсе гэтыя дні. Можа, цяпер толькі адлягло.

Сыну ён дагэтуль не сказаў, з кім ехаў, калі здарылася аварыя.

Карней слухаў, не ўсё разумеючы. Іван растлумачыў яму:

— Качанок у памочнікі сабе Шышку ўзяў. Мне загадаў у горад з ім ехаць,— але да канца не даказаў — калі гэта было, зноў звярнуўся да жонкі, больш за ўсё хацелася, каб зразумела яна і ўхваліла: — Я гаварыў — чаго мы не можам забываць, штоб папраўдзе гэта было і навечна: ніхто не забыты... Штоб у людской памяці ўсё жыло. Я расказаў, як бацька мой паміраў. Цяпер я знаю, як ён паміраў. Я не раз паміраў разам з ім...

— Не трэба, Ваня.

— Чаму не трэба? Я і ў глінішча тое хадзіў пад Хутаранкай... Там парос лес, вялікі ўжо беразняк. Як помнік. Гэта там, сын, дзе дзед твой адбіваўся ад паліцаяў да апошняга патрона. Ранены... Я яшчэ ў гэтага гада... у бандыта гэтага недабітага, папытаю, як яны гналіся за бацькам. Быў ён там!

Таіса Міхайлаўна знала цяпер усё. Да гэтага лета пра ваенныя падзеі ў Добрынцы, пра Іванаву трагедыю ўсе расказвалі як бы буйным планам, самую сутнасць — і нябожчыца Хвядора, і муж, і вяскоўцы. Іван када, што шанаваў яе, маладую, бо то цяжарная была, то карміла дзяцей, а потым шчасце не хацеў азмрочваць. Ды і сам хацеў забыцца, не катаваць сваю памяць. Два месяцы назад пакляўся, што пра ўсё, што расказаў ёй, раскажа людзям. Але ніколі яна не падумала, што ён можа расказаць на партыйным сходзе, ды яшчэ на такім — справаздачна-выбарным.

Іван забыўся на ежу, адсунуў талерку. Узбуджанасць яго нарастала, ён ажно цёр далонямі калені.

— Знаеш, для мяне важна, што людзі панялі мяне. Ніхто нічога не гаварыў, а галасаваннем гэтым паказалі, што панялі. Качанка ты не жалей... Дурак ён, а дуракоў трэба вучыць. Я сам яго пажалеў, характар такі мой дурны. Сход закрылі, усе выходзяць, а ён сядзіць... адзін за сталом прэзідыума. Такога яшчэ з ім не было. На ганку хлопцы пачалі смяяцца з гэтага — што ён застаўся сядзець у прэзідыуме, а мне жалка яго стала. Мы з ім, лічы, у адной люльцы раслі...

Тут у шыбу пастукалі — з вуліцы, ціхенька, ветліва. Але Таісу Міхайлаўну спалохаў гэты стук у такі позні час. Карней першы сарваўся

з крэсла, адхінуў фіранку, пазнаў праз шыбу чалавека, здзіўлены, шапнуў бацькам:

— Забаўскі.

— А я падумаў — Яшка,— Іван пасміхнуўся нейкай сваёй думцы.— Ідзі адчыні, сын, я зачыніў фортку.— Калі Карней выскачыў, усё роўна як узрадаваны госцю, моцна грымнуўшы аднымі, другімі, трэцімі дзвярамі, Іван сказаў жонцы: — Я па ім таксама праехаўся. За тую яго праходку з Шышкам, пра якую ты казала. Але ён харашо гаварыў. У дакладзе. І ў заключным слове.

Таіса падхапілася і прыбірала ўсё, што, здавалася ёй, ляжала не на месцы. Не часта заходзіць парторг, ды яшчэ пасярод ночы. Нагаварыў, відаць, Іван там — бог ведае чаго. Але не ўпікнула мужа і ў думках. Балела яму — таму гаварыў. Гатова была абараняць яго, калі Забаўскі прыйшоў з прэтэнзіямі.

Аляксандр Пятровіч спыніўся ў дзвярах з прыхожай у залу, зняў капялюш, павітаўся з Таісай Міхайлаўнай.

— Прабачце, што так позна. Ішоў міма, бачу — свеціцца. І вы седзіце за сталом. Праз фіранкі відно.

— Ды вы распранайцеся, Аляксандр Пятровіч. Сядайце. Я вячэру збяру. Не вячэралі ж.

Таіса Міхайлаўна, прыбраўшы перад уваходам у дом нечаканага госця са стала талерку, чыгунок, паспела цырату, на якой Карней рабіў урокі і вячэраў Іван, накрыць ільняным абрусам, сіне-белым, у клетку, пакрухмаленым да шамацення. Яна падавала знакі мужу: запрашай чалавека! Але Іван сядзеў нахмураны, як бы насцярожаны: што табе трэба? Гэта палохала Тасю і, напэўна, бянтэжыла госця. Бянтэжыў Забаўскага і Карней: хлопец, раней сарамлівы і надта ветлівы, стаяў ля тэлевізара і неяк залішне фамільярна, з дзіўнай скептычнай усмешкай агладаў сакратара з галавы да ног.

Няўжо пра яго тут толькі што гаварылі штосьці дрэннае? Таму і знікла ў вучня павага. Але адступаць няма куды. Добра, што гаспадыня гасцінна запрашае.

Прызнаўся:

— Не вячэраў. Дзе мне, халасцяку, павячэраць у такі час!

Ад такога прызнання пацяплеў Іван — усміхнуўся, сказаў жонцы:

— Знайдзі там якое энзэ. Ёсць прычына.

Таіса пырхнула на кухню. Але пачула, што гаворыць Забаўскі, і тут жа вярнулася, стала ў дзвярах, на парозе.

А Забаўскі, паклаўшы плашч і капялюш на спінку канапы, як бы падкрэсліваючы гэтым, што доўга не затрымаецца, гаварыў да Івана:

— Я пасля сходу па вуліцы хадзіў. На шашу выйшаў... І ўсё думаў пра ваша выступленне, Іван Карнеевіч. Паверце, я разумею вас.— Павярнуўся, убачыў Тасю, сказаў: — Тут, перад вашай сям'ёй, я хачу паўтарыць сваё прабачэнне. Пацягнула мяне ўзнаць: што ж гэта за чалавек, Шышка гэты? Чым ён дыхае? Тым больш што дайшлі чуткі, што ў Лукер'і Багачовай збіраюцца на малітвы старыя і ён за папа там ці за прапаведніка. Трэба было паклікаць яго ў сельсавет. А я не падумаў. Прафесійнае, можна сказаць,— гаварыць з людзьмі ўсюды, дзе выпадае, дзе прыходзіцца. Я сабе не магу дараваць і па другой прычыне. Чуў я ад людзей, краем вуха, як кажуць, пра вас... пра бацькоў вашых і ўсё не мог выбраць часу, каб пачуць пра ўсё ад вас... як яно было... Можа, тады і з Шышкам па вуліцы не пайшоў бы, падумаў бы раней, што пра гэта скажуць людзі. Мне ўдвайне недаравальна. Як сакратару... І як чалавеку, які нешта піша... збіраецца напісаць. У мяне нібыта другая тэма, і я адарваў вас, цяперняга, ад вашага мінулага, ад вашага бацькі, героя-партызана... ад маці — святой пакутніцы... У слова святая я ўкладаю не царкоўны сэнс. Не. Самы высокі, чалавечы. Вы правільна гаварылі на сходзе: не на словах мы павінны нічога не забываць... І нікога. Нядаўна нас збіралі ў райкоме. Разумныя людзі далі ідэю стварыць летапіс народнай славы. У кожным сяле, у кожным раёне. А я год жыву, год кірую партарганізацыяй, знаю, як вы працуеце, як Таіса Міхайлаўна працуе, дзеці вашы... А самага галоўнага, па сутнасці, так і не ўзнаў. Пра тое, як загінуў бацька, напрыклад, толькі сёння ад вас пачуў. Якія мы няўважлівыя бываем адзін да аднаго. Недаравальна. Мне недаравальна. Астаповічу. Качанку. Усім Нам. Але знаеце, пра што я падумаў, ходзячы па вуліцы? А дзеці вашы ўсё знаюць? Карней, Валя? Так, каб ім хацелася расказаць пра дзеда, бабулю, пра бацьку ў школе, у інстытуце, у вагоне. Усюды. Я разумею, што вам не проста расказваць... нялёгка. Але гэта трэба, Іван Карнеевіч. Трэба!

— Вы сядайце,— запрасіў нарэшце Іван.— У нагах праўды няма.

Тады Тася з палёгкай уздыхнула і, заспакоеная, пайшла на кухню. Забаўскі сеў да стала, насупраць Івана. І адразу ж збоку сеў Карней, ужо без усмешкі, уважлівы.

Была вячэра. Гаспадыня наліла віна. Але гаспадар і не прыгубіў нават. Забаўскі многа гаварыў. Іван маўчаў, зацята маўчаў, быццам увесь выгаварыўся на сходзе. Скажа два словы: «Ешце, калі ласка». «Ды ўжо ж». «А чаго мне не згаджацца? Усё праўда».

Гэтае яго маўчанне трывожыла Аляксандра Пятровіча. Гаспадынiна ветлівасць не знімала трывогі. А яму вельмі важна было, каб Іван

Батрак не думаў пра яго блага. Акрамя ўсяго іншага, была ў яго асабістая прычына, тайная, каб дамагацца прыхільнасці гэтай сям'і.

17

Сход быў у пятніцу. А ў панядзелак нечакана прыехала з Магілёва Валя.

Таіса Міхайлаўна проста спалохалася, калі настаўніца, якая прыйшла ў амбулаторыю са сваімі вечна хворымі дзецьмі, паведаміла: «А ў вас, Міхайлаўна, госці. Дачка прыехала».

«Валя? Што яе прынясло? У пачатку тыдня»,— і сэрца задрыжала ў прадчуванні незвычайнага: пасля з'яўлення гэтага праклятага Шышкі і асабліва пасля аварыі яна пачала баяцца невядомай бяды, якая можа зваліцца раптоўна.

Прыезду сястры не здзівіўся толькі Карней. Дарэчы, ён першы і сустрэў Валю: ішоў са школы і ўбачыў, як яна выскачыла з адным партфельчыкам з экспрэса Ленінград — Кіеў. Узрадаваўся. Калі Валя дома, яны часам сварацца: Валя задзіраецца, дражніць яго дзяўчатамі. А паедзе яна — і ён, добрая душа, сумуе па сястры.

Безумоўна, цалавацца яны не кінуліся адно да аднаго, нават не павіталіся як мае быць, толькі чамусьці памяняліся партфелямі: ён узяў яе лёгенькі, а яна — яго цяжкі, напакаваны падручнікамі. Калі апынуліся ў двары свайго дома са шчыльным парканам, Карней, хітра прыжмурыўшы вока, спытаў:

— Прыляцела?

— Прыляцела.

— Ён табе званіў ці тэлеграму адбіў?

— Хто?

— Хто-хто! Я табе яшчэ тады сказаў: калі ты хочаш рабіць тайну ад мяне, то ніякай тайны не будзе. Адзін я ўсё знаю. Больш ніхто.

— Ніхто?

— Ніводная душа.

Валя, дастаўшы з-пад ганка ключ, цмокнула брату ў шчаку. Увайшлі ў дом. Валя засмяялася.

— Чаго ты?

— Хораша дома. Ты чытаў апавяданне Чэхава пра злога хлопчыка?

— Не.

— Прачытай.

— А што там?

— Прачытай,— яна зноў засмяялася.

Карней здагадаўся, што апавяданне мае дачыненне да яго, і калі хлопчык злы, значыцца, нешта нядобрае, таму трохі пакрыўдзіўся на гэту круцёлку, сястру сваю, якая не паспела зайсці ў залу, як пачала ўжо наводзіць парадак: прыбіраць з падаконнікаў, з тэлевізара, з канапы кнігі, якія ён накідаў. Сваім «чыстаплюйствам» яна часам крыўдзіла маці: прыязджала і, пакуль маці прыходзіла з работы, усё перастаўляла.

Карней вырашыў ёй адпомсціць і за злога хлопчыка, і за гэтае маўклівае прыбіранне, якое было што тыцканне: якія, маўляў, вы неахайныя!

— Ну і што ён табе сказаў?

— Хто?

— Зноў — хто?

— Нічога ён не сказаў. Ён тэлеграму прыслаў.

— Дык ты нічога не знаеш? — зрабіў выгляд, што вельмі здзівіўся, Карней.

— А што? — Валя застыла з ручнікам на плячы, якім хацела сціраць пылок, што шарэў ужо на паліраванай мэблі.

— Ды тут, знаеш, што было!

— Што? — голас Валі як сарваўся.

— Каб ты толькі знала! — Карней ажно за галаву схапіўся.

— Не наганяй на мяне страху. Я нічога не баюся,— Валя, лепшая актрыса, адчула, што брат іграе, але не надта ўмела іграе.

— Бацька на партыйным сходзе разнёс твайго ў клочча. Ажно пух з яго ляцеў.

— За што?

— Пагана работае.

— Саша пагана работае? — Валя павольна, але пагрозліва пачала наступаць на брата. Помнячы яе наскокі яшчэ ў маленстве, Карней перасцярожліва адступіў за стол.— Забаўскі ім дрэнна працуе? Што яны разумеюць? Няшчасныя эканамісты! Чэрствыя практыкі! Ім толькі быкам хвасты круціць. Далей гэтых хвастоў ніхто з іх нічога не бачыць! Што яны чытаюць? Што яны знаюць пра сучасныя метады партыйнай работы? Ім усё новае — што камень над бок. Забаўскага — крытыкаваць!

Валя кіпела гневам, расчырванелася. Каб не называць бацьку, яна скіроўвала свой гнеў на іх — на ўсіх, хоць сама не ўяўляла, на каго канкрэтна.

Карней ажно залюбаваўся ёю, задаволены, што хоць раз добра «разыграў» сястру, а то ўвесь час яна жартавала з яго, кпіла, досціпы ўсялякія чыніла.

Увайшоўшы ў ролю, Карней падліваў масла ў агонь:

— Не бог твой Забаўскі. Скажы, калі ласка, яго ўжо і крытыкаваць нельга! Усіх трэба крытыкаваць! Крытыка і самакрытыка...

— Дагматык няшчасны! Што ты разумееш, дурань? Крытыкаваць можна. Але бацьку... бацьку завошта крытыкаваць Сашу? Бацьку проста падгаварылі зайздроснікі. А ён даверлівы, што дзіця. Не разабраўся... Чым яму дрэнны Забаўскі? Што ён выстаўляў супраць яго? У чым вініў?

— Я на сходзе не быў. Не чуў. Але пасля сходу ён прыйшоў сюды.

— Хто?

— Хто! Саша Забаўскі.

— Для цябе ён — Аляксандр Пятровіч.

— А я наперад закідваю. Можа, ён стане нашым зяцем? Хіба — не?

Валя здзівілася: ніколі брат раней не быў такім гаваркім, дасціпным і... незалежным. Ніколі не ўмеў так паддражніваць. Яна здагадвалася, што Карней дражніцца. Аднак разумела, што не бывае дыму без агню, нешта ж здарылася, калі Саша папрасіў яе тэрмінова прыехаць. Прыдумаць усё Карней не мог, не хапіла б у яго фантазіі, значыцца, нешта сапраўды адбылося.

— І што?

— Што — што?

— Прыйшоў Забаўскі...

— У дванаццаць гадзін ночы. Мы ўжо спаць кладліся. Кулаком у грудзі біў. Кляўся. Прабачэння ў бацькі прасіў... Я, кажа, Іван Карнеевіч, ва ўсім вінаваты. Даруйце...

— У чым вінаваты?

— Ва ўсім. Работу заваліў. З Шышкам цалаваўся...

— З кім? — пабляднела Валя.

— З Шышкам. З паліцаем.

Валя скамячыла ручнік і зноў ступіла да брата, сказала гнеўна:

— Брашы — ды знай меру! За такую абразу чалавека... Ты знаеш, што табе... знаеш!.. Я табе вочы выдзеру!

Карней сцяміў, што перахапіў цераз край, перабраў, як у карцёжнай гульні, і што далей жартаваць з Валяй так нельга; сястра даведзена да шаленства. Пачаў «спускаць на тармазах».

— Ну, «цалаваўся», канечне, у пераносным сэнсе. Яны з Качанком хату хацелі купіць Шышку. Качанка ўвогуле пракацілі на сходзе...

Валя злосна кінула скамечаны ручнік у твар Карнею.

— Дурань! Дурань! Я думала, ты чалавек, а ты... трапло... свінтух! — кінулася ў спальню і зачыніла дзверы на кручок.

Карнею здалося, што сястра плача там, і ён адчуў сябе вінаватым і сапраўды такі дурным: не разумеючы дзявочай душы, нагарадзіў немаведама чаго і раніў яе ў сэрца; яна ж, безумоўна, кахае Забаўскага. Калі яшчэ ў жніўні ён выпадкова ўбачыў, як яны цалаваліся ў клубе, Валя вельмі прасіла яго тады нікому не казаць. Ён выканаў сваё абяцанне. Але чаму раптам захацелася так злосна пажартаваць з яе? Добры душою, Карней моцна перажываў. Гукнуў сястру — яна не адазвалася.

— Прабач, Валя. Я, праўда, лішняе нагарадзіў. Усё было не так. Ён прыходзіў, але гаварылі яны добра. Мірна. Мама яго вячэрай накарміла.

— Пайшоў прэч! — крыкнула з-за дзвярэй Валя.

Карней збянтэжана патаптаўся, пакудлачыў валасы перад люстрам, даў сабе пстрычку па носе, пастукаў пальцам па лбе і пайшоў збіраць абед: сястра з дарогі, можа, абедам добрым можна яе ўлагодзіць і загладзіць сваю віну.

Тут увайшла маці. Прыбегла, задыханая.

— Валя прыехала?

— Прыехала.

— Дзе яна?

— У спальні. Плача.

— Плача? — у маці спалохана расшырыліся вочы; каб супакоіць яе, Карней прызнаў сваю віну:

— Я пакрыўдзіў яе.

— Ты? — не паверыла маці.— Карнейка!

— Нічога я не плачу! — адазвалася з-за дзвярэй Валя.— Брахун ён!

Карней па-мужчынску не звярнуў увагі на яе словы, толькі перад маці трохі збянтэжана і паблажліва пасміхнуўся.

Валя выйшла са спальні не адразу: нос у яе быў чырвоны, хоць вочы сухія.

Не павітаўшыся, папракнула маці:

— Вырасцілі сынка! Выпаілі соскай. Ён вам яшчэ пакажа, цялёнак гэты!

Але і на гэта Карней велікадушна змоўчаў. А Таісе Міхайлаўне стала горка, што дачка не кінулася да яе, не пацалавала, як рабіла заўсёды, калі прыязджала на пабыўку. Яна сама абняла Валю і сказала да абаіх, так, быццам яны пакрыўдзілі яе:

— Ну як вам не сорамна! Месяц не бачыліся — і на парозе пасварыліся. З-за чаго? Што ў цябе там?

— У мяне? — Валя на міг задумалася, як бы ўспамінаючы, што ў яе магло здарыцца.— Нічога. А ў вас што?

— І ў нас нічога. Хіба толькі бацькава аварыя. Стукнуў аднаму машыну...

— Бацька? — як бы не паверыла і ўстрывожылася Валя.

— Тры сотні прыйшлося выкласці.

— Ну, грошы — глупства,— зазначыла Валя.

— Канечне, глупства,— згадзілася Таіса Міхайлаўна, але, стоена ўздыхнуўшы, дадала: — Калі яны ёсць. Абедала?

— Не.

— Я збяру.

— Мам!

— Што?

— Няхай гэты шпіён,— кіўнула Валя на брата,— пойдзе куды. Нам трэба пагаварыць.

Карней вырашыў стрываць ад сястры любыя наскокі, грубасць, бо лічыў, што ён пакрыўдзіў яе мацней, але шпіёна дараваць не мог, бо ў чым, у чым, але ў шпіёнстве яго ніхто ніколі не западозрыў, ніводзін сябра.

— За кім гэта я шпіёніў? За табой? Дык цалуйся ты з кім хочаш! Мне напляваць!

— Дзеці, дзеці! — расставіла рукі маці,— Во не думала, што вы такія пеўні. Чаго вы не падзялілі?

Пакрыўджаны Карней грымнуў дзвярыма, схапіў у прыхожай куртку, шапку і выскачыў на двор.

Таіса Міхайлаўна здагадалася, пра што так таямніча, без сведкаў, хоча пагаварыць Валя; па-свойму, па-мацярынску ўсхвалявалася — вось набліжаецца яно, непазбежнае! — і адначасова ўзрадавалася даччынай даверлівасці, што яна, як блізкай сяброўцы, расказвае маці свае сардэчныя тайны. Значыцца, яна добрая маці, правільна выхоўвала сваіх дзяцей і, галоўнае, па поглядах сваіх не адарвалася ад іх, не пастарэла. Некалі ў Валіным узросце яна гэтак жа моцна любіла сваю маці, але чамусьці лічыла, што маці старая, жыве старым сялянскім, уяўленнем пра адносіны маладых людзей, і таму ніколі не расказвала ёй пра свае захапленні; здаралася, калі яна прасіла грошы на новую сукенку ці чаравікі, маці пыталася: «Тасечка, хлопца ты там у горадзе не завяла яшчэ?» Яна адмахвалася: «Ат, мама, выдумаеце! Не да хлопцаў мне, вучыцца трэба!» — хоць хлопцы ў яе былі, галаву яна ўскружыла не аднаму і ў Бабруйску, і тут, у Добрынцы, пакуль не сустрэла Івана. Між іншым, тады толькі бацькам сказала, што мае жаніха і збіраецца замуж. Маці плакала, убачыўшы, які ён бедны,

Іван. Нядаўна, калі гасціла ў іх і радавалася даччыному шчасцю, цяпер ужо сапраўды старэнькая маці прызналася, што вельмі хацела, дурная, запярэчыць тады супраць Тасінага замуства, ды бацька не дазволіў; Міхалу будучы зяць спадабаўся з першага знаёмства.

Валя не саромелася расказваць пра сваіх «жаніхоў» і рабіла гэта заўжды з гумарам. Калі прывезла «жаніхоў» з Магілёва на агледзіны, адразу двух, рагатала з бацькавай маўклівай іранічнасці і Карнеевай варожасці — брат па-хлапчукоўску не мог прымірыцца, што нехта чужы можа забраць яго сястру, раўнаваў.

Але ніколі Валя так не хвалявалася, як на гэты раз. Натуральна, хваляванне яе перадалося маці. Нешта ж, мабыць, сур'ёзнае прыйшло. Ці не такое, як у яе да Івана некалі?

Размова з дачкой палохала. Можа, праз гэта ці, хутчэй, дзеля таго, каб даць супакоіцца самой Валі — вунь як запунсавелася, і рукі ажно калоцяцца! — Таіса Міхайлаўна адцягвала размову: зрабіла выгляд, што цалкам занятая тым, каб сабраць на стол, што ўвесь яе клопат пра адно — хутчэй і смачней накарміць нечаканую госцю, хоць Валя даволі рашуча сказала: не хоча яна есці! Ды маці на такія заявы ніколі не зважала. І Валі прыйшлося скарыцца. Звычайна яна актыўна памагала маці накрыць стол, бо любіла гэты занятак. Цяпер яга стаяла ля акна, глядзела на вуліцу, як чакала кагось, камечыла гардзіну, здавалася абыякавай да таго, што робіць маці. А Таіса Міхайлаўна адчыніла дзверы на кухню, і па ўсім доме пайшлі такія пахі, якія і ў таго, хто толькі што добра паабедаў, маглі абудзіць апетыт. Яна дастала з пограба гліняную бочачку; з зімы, калі закалолі вепрука, у ёй хаваліся залітыя чуць пажаўцелым тукам кружкі хатняй кілбасы, выкалупала нажом адзін такі кружок і кінула на патэльню, што нагрэлася на газавай пліце. Кілбаса сквірчэла і пускала апетытныя пахі.

Знала, што любіць дачка, чым можна нагнаць ёй апетыт пасля студэнцкай сталоўкі, у якой, па яе даўніх успамінах, заўсёды нясмачна пахла прыгарэлай аўсянай кашай.

Не спяшаючыся, па адной талерцы носячы з кухні ў залу на стол хлеб, гуркі, салёныя памідоры, масла, Таіса Міхайлаўна расказвала дачцэ ўсё пра тую ж прыгоду — пра бацькаву аварыю:

— Маёр той адразу згадзіўся, каб яму ў нашай майстэрні адрамантавалі машыну. Танней было б, бацька сам усё зрабіў бы. Але прыехаў ён да нас... пабачыў, як мы жывём, і перадумаў... Давайце, кажа, тры сотні, сам буду рамантаваць. Шчэрба помніць яго, на лузе бачыў. Ён там, пад Хутаранкай, лета жыў у палатцы і, кажа, цэлы завод наладзіў, усё кансерваваў — грыбы, ягады, рыбу, дзічыну. Ка-

жа, сам хваліўся, што дзве тысячы банак закатаў. Нашто яму столькі, скажы ты мне? Браканьер. Кулак якісь, а яшчэ маёрам быў.

Валя не адзывалася. Не вельмі ўважліва яна слухала маці. Маёр, грыбы, аварыя... Як звязалася аварыя з грыбамі?

Таіса Міхайлаўна адчувала, што Валіны думкі далёка ад таго, што яна расказвае, хоць звычайна, прыязджаючы дамоў, Валя сама настойліва і прагна выпытвала пра ўсе добрынскія навіны: заўсёды ж у такім вялікім сяле пры вялікай дарозе нешта адбываецца — ці трагічнае, ці смешнае. А цяпер яе мала клапоціць свая, хатняя, навіна.

Парадкуючы на стале так, як любіла гэта дачка, Таіса Міхайлаўна падступіла бліжэй:

— Раіса Іванцова замуж выходзіць. На Акцябарскія вяселле будзе.— Райка — Валіна аднакласніца, цяпер робіць у Чарнігаве на фабрыцы.

Тут Валя не вытрымала, азірнулася, пільна паглядзела на маці. Валі здалося, што маці ўсё ведае і спачатку далікатна адводзіла размову, а цяпер хітра падводзіць яе да таго, пра што трэба сказаць ёй і што сказаць не так лёгка, хоць яна і не з сарамлівых і ўвогуле дзяўчына ва ўсіх адносінах сучасная, без перажыткаў і забабонаў. Каб глянуць маці ў вочы! Але маці, мабыць, знарок апусціла вочы на стол, на прысмакі, якіх хапіла б на пяцярых галодных студэнтаў. Валя некалі ваявала і супраць гэтага — «матчынага шляхецкага марнатраўства»: трэба прыняць трох-чатырох гасцей, а закусі гатуецца на пятнаццаць. Цяпер таксама — такі стол дзеля яе адной! Жах! Але падумала яна пра гэта, між іншым, без ранейшага абурэння, наадварот, з удзячнасцю да маці, з замілаваннем да яе слабасці.

— Каго ты там выглядаеш? — спытала маці, не паднімаючы вачэй і, мусіць, не бачачы, што дачка адарвалася нарэшце ад акна; Валя ажно здрыганулася ад такога пытання.— Сядай перакусі.

Валя засмяялася.

— Харошанькае — перакусі! — Валя рашуча села за стол, пачакала, пакуль прымасцілася маці насупраць, узяла скібку хлеба, пераламала яе і, трымаючы па палавінцы ў кожнай руцэ, смела і нават дзёрзка гледзячы маці ў вочы, сказала: — Мама! Слухай. І каб ніякіх ахаў і охаў. Не памогуць. Заўтра да мяне пасватаецца адзін чалавек. І я пайду за яго!

— О божа! — Таіса Міхайлаўна закрыла твар рукамі: ёй захацелася засмяяцца ад таго, што яна правільна здагадалася, ад матчынай радасці і, можа, нават ад матчынага смутку; але яна разумела, што смяяцца нельга — Валя можа не зразумець і пакрыўдзіцца. Вунь і так — ад таго, што яна закрылася, Валя бадай спалохалася:

— Ты чаго, мам?

— А я думала, немаведама што ў цябе здарылася, што ты прыляцела так... такая... Еш, калі ласка.

— Ты што, думаеш, гэта несур'ёзна?

— Не, не думаю. Я выйшла замуж маладзейшая. І гэта, як бачыш, вельмі сур'ёзна.

— Чаму ж не пытаеш, хто ён?

— Ты сама скажаш, раз ужо так...

— А ты не знаеш?

— Адкуль жа мне знаць! — Таіса Міхайлаўна перасмыкнула плячамі і, адрэзаўшы ладны кавалак кілбасы, паклала на Валіну талерку. Дачка, не кранаючы ежы, прагна лавіла матчыны вочы.

— Хто ён? — і раптам, паклаўшы адзін кавалак хлеба, падчапіла відэльцам увесь кавалак кілбасы, адкусіла і хлеба, і кілбасы, пачала смачна жаваць, але пракаўтнула так, быццам страва была вельмі сухая і перасядала, хоць кілбаса на патэльні плавала ў туку. Зноў спытала: — Хто ён? — зноў адкусіла і з набітым ежай ротам адказала: — Ён — Забаўскі.

Таіса Міхайлаўна, якая нехаця, абы заахвоціць дачку, ела гурок, папярхнулася.

— Хто?

— Забаўскі.

— Наш? Аляксандр Пятровіч?

Цяпер ужо дзяўчыне хацелася зарагатаць на ўвесь дом — ад таго, што маці так моцна здзівілася; не спадзявалася, што для бацькоў гэта будзе нечаканасцю. Хораша падумала пра брата: малайчына Карней! Усё ведаў і нікому не сказаў, дарэмна яна яго пакрыўдзіла, шпіёнам назвала, трэба будзе папрасіць прабачэння, памірыцца, брат — надзейны саюзнік.

— Калі ж гэта вы...— Таіса Міхайлаўна шукала самыя далікатныя, самыя мяккія і добрыя словы,— так блізка пазнаёміліся?

— Мы ж усё лета разам працавалі? Калі ансамбль стваралі.

Але Таісе Міхайлаўне зрабілася неяк па-новаму трывожна ад таго, што ніхто ў Добрынцы не заўважыў збліжэння іх дачкі з парторгам, бо каб заўважылі, то загудзелі б на ўсё сяло. Ці добра такая скрытнасць? Ці трэба так хавацца? Яму. І ёй. У Таісы Міхайлаўны некалі было ўсё на вачах ва ўсіх, любое захапленне; адзін вечар з хлопцам пройдзе — і ўсе ведаюць. І з Іванам так было. Назаўтра па здзіўленай Добрынцы ляцела навіна: «Доктарка з Іванам Батраком гуляла».

— Ты чаго, мам? Як не радая. Ён добры. Каб ты знала, які ён!

Цяпер Таіса Міхайлаўна адчула, што ёй хочацца заплакаць. Спалохалася: як старая, як маці яе, тая таксама заплакала, калі яна прыехала і сказала, што выходзіць замуж. Яна забылася, што маці яе ненамнога тады была старэйшая за яе цяперашнюю; уявілася маці такая, якая яна цяпер, пасля смерці бацькі,— сапраўды залішне слязлівая. Таму, пэўна, і спалохалася свайго жадання заплакаць: няўжо і яна ўжо так пастарэла? Каб неяк скрыць сваё хваляванне, згадзілася з дачкой, хоць трохі з іншым сэнсавым адценнем:

— Ён добры.

Валя падхапілася, абняла і горача пацалавала маці.

— Мамачка! Ты разумніца! Я знала, што ты не будзеш процiў. Але скажы, калі ласка, бацьку. А то я баюся чагось. Знаеш, як я хвалявалася, калі ехала. А тут яшчэ Карней, дурань, пачаў дражніцца, ён адзін усё знаў... Кажа, яны пасварыліся, бацька і Саша. Выдумаў, праўда?

— Выдумаў.

— Вот жа шпанюк! Не знае, што гэта такое — палюбіць чалавека. Толькі мы з табой гэта знаем. Праўда, мамачка? Дык скажаш бацьку?

— Скажу.

Пасля гэтага Валя села на сваё месца і пачала есці з вялікім апетытам, усё «ўмалола» — і кілбасы, і гуркі, і тварог.

Маці глядзела на яе, паружавелую ад ежы і шчасця, сама поўнілася радасцю, і яны ўжо спакойна, па-жаночы, абмяркоўвалі, што трэба набыць да вяселля, якія абноўкі і як адсвяткаваць само вяселле, каб было прыгожа, па-сучаснаму, з выдумкай: яны ж з Сашам — людзі з мастацкім густам.

Пасля абеду Валя адзелася па-святочнаму, пакруцілася перад люстрам, абвясціла маці:

— Палячу да яго.

— Можа, нядобра, дачка, так адразу,— паспрабавала спыніць яе Таіса Міхайлаўна.

— Усё добра, мамачка. Не хвалюйся. Ніхто пагана пра нас не скажа.

Такое перакананне, напэўна, заспакоіла б любую маці.

Таіса Міхайлаўна засталася адна. Прыбірала ў доме больш старанна, чым звычайна, і адчувала, што радасць яе расце, што ў душы як бы пачынае гучаць, ціха яшчэ, незвычайная, прыгожая музыка. Яна паступова асэнсоўвала тое, што адбылося. Не адразу зразумела ўласную радасць. У нейкі момант нават засаромелася яе, сваёй радасці. Большасць матак сумуюць, плачуць, калі дачка збіраецца

замуж. І сама яна часам са страхам думала аб Валіным замустве, аб тым, што яна можа выскачыць там за якога-небудзь лейтэнанта і паедзе за ім далёка-далёка, на якія-небудзь Курылы, і будуць яны бачыцца адзін раз у два-тры гады.

Чаго ж яна радуецца цяпер? Што ён, будучы Валін муж, блізка, тут, у сваёй вёсцы, што дачка цяпер напэўна будзе працаваць у саўгасе і жыць заўсёды побач, можа, нават пэўны час у бацькавым доме? Не. Якраз ёй, насуперак Івану, не надта падабалася, што Валя можа закіснуць тут, у сяле. Сяло ёсць сяло. Як кожнай маці, ёй хацелася дачцэ нейкага большага шчасця, большага свету, узлёту. Не хацелася ёй, каб Валя займалася каровай, свіннямі, індыкамі ці была апанавана, зацюкана хворымі дзецьмі, як суседка іх — настаўніца Кусянкова. Сама яна, Тася, мае бадай поўнае шчасце — па яе ўласнаму ўяўленню і па ўяўленню ўсіх знаёмых жанчын, не толькі вясковых, але і гарадскіх. І аднак жа часам ёкне сэрца, засмокча ў грудзях, як лёгкім ветрам, павее смуткам па нечым невядомым, неспазнаным, нязгаданым, неадчутым, нездабытым. У аднае яе так бывае? Ці, можа, кожны чалавек марыць аб тым, чаго няма і наўрад ці можа быць? Аднойчы яна ўсё ж паспрабавала спытаць у мужа, ці бывае ў яго так. Як умела, растлумачыла, што яна мае на ўвазе, тлумачыла блытана, са стоеным хваляваннем.

Іван спачатку слухаў уважліва, здалося ёй, нават насцярожана, а пасля засмяяўся, прытуліў яе да сябе: «Бывае Тася, бывае. У чалавека ўсё бывае — і радасць такая, што цераз галаву хочацца куляцца, і нуда, ад якой — каб быў воўкам, то завыў бы».

Хутка Тася зразумела, чаму ёй так радасна. Не ад таго, што ён блізка. Не. Ад таго, што ён — Забаўскі. Шмат хто гаворыць, Іван таксама пра гэта гаварыў, што не застанецца Аляксандр Пятровіч; назаўсёды ў саўгасе, што прыехаў ён сюды дзеля таго, каб сабраць матэрыял на новую кнігу, дзве ў яго ўжо выйшлі, адну з іх Тася сама чытала, сумнавата, праўда, ёй здалося, але яна разумее, што нялёгка адразу напісаць цікавую кнігу. Калі ён так сур'ёзна ставіцца да збору матэрыялу, з такой увагай да саўгасных спраў і да людзей, то напэўна напіша добрую кнігу. Праславіцца на ўсю краіну. Будзе жыць у Мінску. І ў яе дачкі будзе зусім іншае жыццё. У Валі будзе ўсё тое, чаго, магчыма, не хапіла ёй, маці. І можа здарыцца, што гэта пэўным чынам напоўніць новым, можа, тым невядомым, нязведаным, і яе ўласнае жыццё. У іх будзе машына. Яны часта будуць ездзіць у Мінск, да зяця і дачкі. З такімі шафёрамі, як Іван і Карней, яна можа ездзіць туды хоць на кожную суботу і нядзелю…

Сталая жанчына, маці дваіх дзяцей, марыла, як дзяўчына; у маладосці ў сваіх фантазіях так высока не ўзлятала. Што ж, не дзіва, тады не было такой узлётнай пляцоўкі, такіх крылаў і сілы!

Прыгожыя мары нарадзіла нецярплівасць: хутчэй бы ўсё адбылося! Хутчэй бы наступіў заўтрашні дзень, калі Забаўскі прыйдзе ў сваты. Яна ажно гарэла ад цікаўнасці: як ён гэта зробіць? Як будзе сватацца такі чалавек? Хутчэй бы вярнуўся Іван, каб сказаць яму нечаканую навіну, падзяліцца радасцю і абгаварыць, што трэба да вяселля.

Разы са два Таіса Міхайлаўна спынялася перад вялікім каляровым Валіным партрэтам, які вісеў на сцяне, і, смеючыся, з захапленнем думала: «Вот жа, чортава лялька, такому чалавеку галаву закружыла. Ды яшчэ так, каб ніхто не знаў! Трэба ж!»

Іван не прыходзіў, хоць, яна знала, у далёкі рэйс не ездзіў. Таіса не вытрымала — пайшла сустракаць яго праз гароды, па сцежцы, па якой Іван часцей за ўсё вяртаўся дадому, апошнім часам — амаль заўсёды, хоць ля раўчака было ўжо гразкавата. Дайшоўшы туды — даўно не хадзіла за гарод,— Таіса Міхайлаўна ўбачыла, што муж намасціў у гразкім месцы цагліны і абрэзкі дошак, каб можна было прайсці ў любое асенняе надвор'е.

«Чаму ён не хоча хадзіць па вуліцы?» — з лёгкай трывогай падумала яна.

Не сустрэўшы мужа, яна пайшла да машыннага двара. Па дарозе ўспомніла, што быў дзень палучкі — ён меўся быць яшчэ ў суботу, таму яна забылася, што палучка перанесена, на панядзелак. Падумала, што можа трэба шукаць Івана ў кульдзюме. Але туды яна ніколі не хадзіла. Іван — не Шчэрба, і яна — не Шчэрбава Люба. Увогуле дні палучкі яе цяпер не цікавілі, таму яна забывалася на іх. Цяпер Іванаў заробак саўгасная каса пераводзіла на ашчадную кніжку, і ні яна, ні сам Іван ніколі не правяралі, колькі пераведзена, пакуль не з'яўлялася патрэба зняць з кніжкі нейкую суму. Яна атрымоўвала сваю зарплату наяўнымі, і яе хапала на штодзённыя расходы, на дапамогу Валі.

Мужчын — шафёраў, трактарыстаў — Таіса Міхайлаўна захапіла ў майстэрні. Яны якраз вырашалі «праблему куфля піва», так гэта даўно называў Хведар Шчэрба — па загалоўку артыкула ў газеце. Уласна кажучы, праблема вырашалася проста: у дзень палучкі на яе не траціў слоў нават Шчэрба — усё арганізоўвалася само сабой. Але раптам у іх «згуртаванай шарэнзе» апынуўся адзін «несвядомы». Гэтым «несвядомым» быў Іван Батрак. Урэшце, каб ён адмовіўся пайсці з таварышамі «на куфель піва» толькі на гэты раз, то яго не

сталі б угаворваць; ці мала якія неадкладныя справы бываюць у кожнага па гаспадарцы, у сям'і! Гвалтам ніхто нікога не цягнуў, ва ўсім, як гаварыў Шчэрба, «вышэйшая свядомасць». Але Іван адмаўляўся ўжо каторы раз, і не толькі ад кульдзюма — ад запрашэння таварышаў па рабоце, сваякоў зайсці да іх у госці. А ў некаторых былі такія прычыны для застолля, што адмову яго, чалавека сяброўскага, кампанейскага, не маглі зразумець, крыўдзіліся. Словам, як сказаў Хведзька Шчэрба: «Быў чалавек як чалавек, а стаў чортведама хто, ні вядучы, ні вядомы, ні аўтамабіль, ні прычэп».

Івану балела ад такіх папрокаў. Раней ён ахвотна хадзіў з сябрамі. Нават калі не вельмі хацелася, ішоў, бо яго прысутнасць ўносіла пэўную арганізаванасць, святочнасць, ён умеў стрымаць ад перабору Шчэрбу і некаторых другіх, умеў ператварыць выпіўку ў культурны адпачынак. Яго нават Люба Шчэрбава прасіла: «Карнеевіч, прыгледзь там за маім». І Каця пры ім абслугоўвала «па вышэйшаму класу», не як забягалаў, а як сур'ёзную кампанію сваіх людзей. Хлопцы ўсё гэта ведалі, таму яшчэ адну адмову Іванаву не прынялі, пайшлі на яго сцяной, у атаку, на чале са Шчэрбам.

Іван стаяў, блакіраваны шафёрамі, трактарыстамі, слесарамі, і вінавата пасміхаўся, трымаючы даланю на правым баку жывата.

— Яй-богу, хлопцы, не магу. Баліць пячонка.

— Плюнь ты на яе, на пячонку.

— На яе не плюнеш.

— Пляваць не трэба, а прамыць можна.

— Прапаласкаць святой вадзіцай.

Смех.

— Мы табе, Карнеевіч, благароднага напітку паставім, са знакам якасці. Хочаш — каньяку, хочаш — Шампані.

— На пячонку — лепш чыстая, без дубільнасці.

— Не на пячонку, а пад пячонку.

— А сёння ў Каці і пячоначка можа быць. Таго бычка, што зламаў нагу ўчора, сельпо забрала. Коля наказаў Каці, каб чакала нас.

Наганялі апетыт адзін аднаму, хітруганы.

— Мы ад цябе не адстанем, пакуль ты не скажаш папраўдзе, чаго ты не хочаш ісці з намі,— не адступаў Шчэрба.— Бо я знаю, што нічога ў цябе не баліць. Прыдумаў сабе хваробу! Ці твая Тася прыдумала. Ты — як Кузя. Той вады без сваёй мурашкі не вып'е.

— Во, брат, сіла! Такая маленькая, а такога слана прывязала да спадніцы.

— На руках яе па лесе носіць. Камедыя!

— На руках? Яна ў яго на шыі сядзіць.

— Няпраўда, хлопцы. Ліяна — талковая баба.

— Хлопцы, трэба яго ўсё ж хоць адзін раз напаіць, Кузю.

— Не ідзе ж, зараза.

— Анцялягенты, такую іх!.. Ламаюцца, як капеечныя коржыкі. Чаго ты ламаешся? З гною ж вылез, як усе мы. Я быў у яго сяле. У Кузевым.

«Сказаць ім прычыну?» — думаў Іван. Не, цяжка гэта растлумачыць, нават сваім хлоцам. Ды і прычына не адна. Іх дзве, а можа і больш. Цяпер, пасля звароту Шышкі, робіцца яму горш, калі ён хоць трошкі вып'е. Правяраў ужо сябе. Напльваюць, што хмары, самыя чорныя ўспаміны, нядобрыя думкі ўзбуджаюць так моцна, што аднойчы ён не заснуў да самай раніцы. На другі дзень было цяжка весці машыну. Другая прычына з'явілася пасля аварыі. Дваццаць гадоў сядзеў за рулём і ніколі не думаў, хоць бачыў нямала самых страшных аварый, што сам ён можа наехаць на пешахода, падбіць дзіця. А цяпер толькі сядзе ў машыну — і думкі такія, дурныя, адразу лезуць у галаву, ён са страхам едзе ў далёкі рэйс, у горад; часам страх гэты працінае да халоднага поту. Таму ён даў сабе зарок: не піць увогуле, каб галаву туманілі хіба адны думкі, больш нічога, каб у выпадку чаго не мучыла пасля сумленне, што напярэдадні выпіў. Як пра гэта раскажаш? Размовы непажаданыя, чуткі ўсялякія пойдуць па сяле. Да Астаповіча дойдуць. Да Забаўскага. Качанок цяпер зуб на яго мае, а Яшка што хочаш можа перавярнуць дагары нагамі, навесці цень на пляцень.

— Так пойдзеш?

— Не. Не пайду.

— Катэгарычна? Шчо з табой стала? Луччыя людзі гібнуць на маіх вачах.

— Давайце звяжам. І панясём.

— З песнямі.

— Во шэсцвіе будзе!

— Міма канторы пранясём. Няхай дзед паглядзіць па свае кадры.

Рагочуць, лайдакі. Івану таксама весела ад іх весялосці: любіць ён гэтых людзей з усімі іх слабасцямі.

— Не дурыце, хлопцы. Выпіце за маё здароўе.

— Многа ты захацеў! А дулю не хочаш? Калі табе будзе ікацца, то знай: ета мы цябе скланяем, тваю пячонку памінаем.

Тут і ўвайшла ў майстэрню Тася. Маладзейшыя механізатары трохі сумеліся: ці не чула акушэрка за варотамі тыя салёныя словы,

якімі яны аздаблялі свае жарты? А Хведар Шчэрба адразу пайшоў у наступ на нечаканую госцю:

— А-а, кума! Цяпер усё ясна! Ходзь, ходзь бліжэй! І адчытайся перад рабочым класам, як ты папорціла нам чалавека.

— Я? Каго? Івана? — на момант разгубілася ад нечаканасці Таіса Міхайлаўна, але, ведаючы, як трэба гаварыць з гэтымі зубаскаламі, гарэзліва бліснула вачамі: — А я, як ні аглядаю, як ні нюхаю, не чую, што ён сапсаваўся. Свежанькі. Такі ж, як быў заўсёды. Сама ў сіле.

Маладыя рагатнулі. Але Шчэрба не ўсміхнуўся, ён не жартам, а зусім сур'ёзна накінуўся на жанчыну:

— Быў чалавек як чалавек... А шчо ты з яго здзелала? Торбу з грашамі! Машына табе свет засціла. Кулачка!

— Гэта я кулачка? — Тася пабялела ад крыўды, але ўсё яшчэ жартавала: — Ах ты, даражэнькі мой кумок! Скажы людзям, колькі ты маёй гарэлачкі папіў! Я за тыя грошы тры машыны купіла б!

Што Хведзька часта ласаваўся ў спагадлівай «кумы» — пра гэта ўсе ведалі, таму цяпер весела смяяліся, слухаючы яго сварку з акушэркай.

Таіса Міхайлаўна, здагадаўшыся, што тут адбылося перад яе прыходам, узрадаваная за мужа, за цвёрдасць яго характару, узлаваная на Шчэрбу — папрок у скупасці крануў яе гонар,— зрабіла «шырокі жэст»:

— Ану, п'янчужкі, хадземце да нас. Я напаю і накармлю вас не так, як ваша Каця.

Ад такога павароту некаторыя мужчыны збянтэжыліся, пачалі па адным знікаць за малакавозам, што стаяў на яме, на рамонце.

Нават Шчэрба сумеўся, сказаў прымірэнча:

— Накарміць ты можаш. Але не ўшчамляй свабоду чалавека. Усе вы, бабы, расісты, а мы ў вас негры. Люба мая — гэта ж Сміт, браточкі.

Таіса Міхайлаўна, у якой запрашэнне вырвалася не толькі ад палемічнага задору, але і ад шчодрай натуры, ад добрага настрою пасля размовы з Валяй, не адступала ад сваёй задумы: а чаму, праўда, у такі дзень не зрабіць маленькае свята Іванавым таварышам па рабоце, «рабочай гвардыі», як называе механізатараў Астаповіч? Даўно ўжо ў іх доме не было гасцей.

— Чаго гэта вы разбягаецеся, як мышы? — і тут жа секанула па Шчэрбу: — Ты — негр? Я гляджу, ад чаго ты пачарнеў? Ад Любінага прыгнёту ці ад «чарніла»?

За малакавозам хіхікнулі хлопцы — з «чарніла».

— Ну ты, разышлася! — хмурна, без усмешкі, упікнуў жонку Іван.— Хадзем дадому.

Таісе Міхайлаўне зрабілася крыўдна, што Іван не падтрымаў яе запрашэння, нават не павярнуў яго на жарт, і паставіў яе ў няёмкае становішча перад людзьмі. Ніколі яна не кідала словы на вецер, калі гаварыла, то рабіла. Як ёй цяпер адмовіцца ад сваіх слоў?

— Вядзі свайго святога. Паі малачком. Соску яму дай. Быў чалавек, а стаў...— Шчэрба не даказаў, кім стаў Іван, толькі безнадзейна махнуў рукой.

Успомніўшы, з чым ішла, Таіса Міхайлаўна ўзрадавалася, што мужчыны не прынялі яе запрашэння, што яны пойдуць дадому з Іванам удваіх, ім ёсць пра што пагаварыць, і пагаварыць ёй хочацца хутчэй, а так прыйшлося б чакаць, пакуль завадзягі гэтыя разыдуцца. Няхай сядзяць у Каці. Што іх цягне туды? Дзіўная псіхалогія ў мужчын! Нават такі ўпарадкаваны дом, як іх, і стол, які мог бы ламацца ад закусі, яны заўсёды гатовы прамяняць на пракураны кульдзюм, на сельпоўскія перасоленыя гуркі і на катлеты, што мясам і не пахнуць.

Выйшаўшы з майстэрні, Тася засмяялася, у яе было адчуванне, што яна абыграла шафёраў і слесараў у карты, пакінула ў дурнях. Іван здзівіўся:

— Ты чаго?

Яна, як маладуха, павісла ў мужа на руцэ, прытулілася шчакой да яго пляча.

— Шчо я табе скажу, Іванка! — за дваццаць гадоў жыцця на мяжы з Украінай яна, случчанка, часам казала «шчо» — у размове з блізкімі, як бы падкрэсліваючы роднасць. Цяпер ужо Валя і Карней кпілі з яе добрынскай гаворкі.

— Што ты мне скажаш? — Іван адазваўся як з-за плота сваіх невясёлых думак.

— Прыехала Валя.

— Што яе прынесла ў панядзелак?

— Да яе сватаецца адзін чалавек.

Іван хмыкнуў:

— Адно сватаўство ў вас у галовах. Канчала б вучобу, а пасля ўжо сваталася б.

Тася зноў засмяялася:

— Ваня, любоў не чакае. Ей дваццаць гадоў. Але каб ты знаў, хто ён!

— Хто?

— Ніколі не адгадаеш! Ой здзівішся! Я, знаеш, як здзівілася...

— Не самлела ж. І я не самлею.

— Забаўскі.

— Наш?

— А што я табе казала!

Іван спыніўся, адхіліў ад сябе жонку, як намерваючыся лепш яе разгледзець.

Узбуджана-расчырванелая, у чырвоным берэціку, з-пад якога выбіваліся светлыя пасмачкі валасоў, з гарэзлівым смехам у вачах, якія ён так любіў за іх нейкую асаблівую яснасць і глыбіню, Тася выглядела зусім маладой — што дзяўчына. Можа, таму Івана абурыла, што яна з такой лёгкасцю і весялосцю гаворыць пра замуства дачкі.

— І ты, бачу, радуешся? Дурная! Да ты знаеш, на колькі ён старэйшы за Валю?

— На колькі?

— Гадоў па пятнаццаць.

— На адзінаццаць усяго.

— Усяго! Ты што ета гаворыш? Куды ты дачку піхаеш? Ты папыталася: дзе яго першая жонка?

— Ён развёўся.

— Чаго ён развёўся?

— Ваня! Усякае бывае ў жыцці.

— Усякае! У нас з табой магло быць усякае?

— Валя любіць яго.

— Не веру я ў такую любоў! Чаго яны ад людзей хаваліся? Ускружыў дзеўцы галаву. Ці ёй першай? Канечне, такі ўскружыць. Пагаварыць умее. А тая, дурная, начытаўшыся раманаў, развесіла вушы, разявіла рот. Свістун! — Іван раптам як сарваўся з месца, засігаў па сцежцы такімі шырокімі крокамі, што Тасі, каб не адстаць, прыйшлося ісці ўподбег; ён як спяшаўся разбурыць усё тое, што яе так парадавала. Пачуўшы за спіной жончына дыханне, Іван сцішыў крок і пачаў кідаць ёй словы, паварочваючы галаву: — А я гляджу, што гэта ён пасярод ночы заваліўся? Прашчэння просіць... Пайшоў ты са сваім прашчэннем!.. Памагай людзям хлеб расціць, мяса... ці займайся сваёй пісанінай... А то прыехаў... дабраволец, панімаеш, такі!.. Народнік... усе, моў, для яго роўныя... Шышка яму тож прынадзіўся... Ганарар паможа зарабіць... І ён яшчэ мне пра памяць герояў гаворыць!

— Ваня! Ну памыліўся чалавек. Ён жа сам прызнаў сваю памылку.

— Глядзі, ён так памыліцца з тваёй дачкой. Што ты тады запяеш? Дзе ета яны знюхаліся?

— Разам жа рабілі ўсё лета.

— Рабілі! Нарабілі! «Мы аралі»... Глядзі, каб яны табе ўнука не зрабілі, што так усхадзіліся з жаніцьбай.

— Як табе не сорамна так — пра сваю дачку!

Абразілі яе, маці, апошнія мужавы словы. Увогуле не чакала яна, што Іван так катэгарычна не прыме сватаўства Забаўскага, больш таго, так груба, не паглядзеўшы нават як мае быць ёй у вочы, не адчуўшы яе настрою, растопча яе радасць. Ніколі так не рабіў. Здаралася, у апошнія гады вельмі рэдка, што ён мог успыліць, але праз пяць-дзесяць мінут адыходзіў і перапрошваў. Яна, не ў прыклад некаторым жонкам, тут жа прабачала, і паміж імі ўсталёўвалася заўсёднае ўзаемаразуменне.

Тут Таіса Міхайлаўна таксама яшчэ спадзявалася, што Іван адыдзе і пачне спакойна абмяркоўваць іх сямейную нечаканасць. Але Іван яўна ніяк не мог супакоіцца і ўсё больш абураўся супраць чалавека, якога, яна ведала, паважаў раней — за розум, за тое, што добраахвотна прыехаў у сяло і працуе без фармалізму, без паказухі; пра гэта ўсе рабочыя гаварылі. Куды ж дзявалася Іванава аб'ектыўнасць? Нельга ж так! — хацелася ёй сказаць. Калі ты не хочаш аддаваць за яго дачку, то не аблівай чалавека граззю; ніколі ж ты такім не быў, умеў разбірацца ў людзях, умеў цаніць кожнага па яго рабоце. Але ў самой Таісы Міхайлаўны як бы знікла рашучасць, смеласць. І згасала радасць. Ёй зрабілася нават сорамна, што яна ўзрадавалася замуству дачкі. Добрыя маці раней плакалі з такой нагоды.

Таму Таіса Міхайлаўна маўчала, пакорліва ідучы следам за мужам.

Іван, мабыць, адчуў нешта нядобрае ў гэтым нязвыклым жончыным маўчанні. Спыніўся, павярнуўся да яе. Яна вінавата ўсміхнулася яму. Усмешка такая пакарыла яго і нават расчуліла. Ён успомніў, як яна ззяла ўпачатку і як панурылася цяпер. Можа ён праўда не разумее, якая гэта важная падзея для яе, маці,— замуства дачкі? Можа, раней і ён наставіўся б да гэтага інакш, ну можа не так легкадумна, але і не так адмоўна? Але цяпер яму проста прыкрая любая ўрачыстасць. Не толькі ад боязі, што назаўтра будзе цяжкая галава, ён адмаўляецца пасядзець з сябрамі. Ад боязі весялосці таксама.

Трэба даць Тасі нейкую надзею.

— Ну чаго ты зажурылася?

— Я? Нічога. Думаю, што сказаць Валі.

— Што ёй не церпіцца так? Скажы, трэба хоць прыгледзецца, што ён за чалавек. Узнаць. Што мы пра яго знаем? Ты ж на яго яшчэ і не паглядзела як на жаніха. Скажы сваёй круцёлцы: няхай не пад-

ганяе ні сябе, ні нас. Няхай добра паглядзіць. Не такое ета дзела, шчоб спяшыць.

Не, ён разумны, ён добры яе Іван: пашумеў трохі і разважыў па-мужчынску. Прыгледзецца сапраўды такі не пашкодзіць.

Валя вярнулася позна. Праўда, Карней яшчэ сядзеў над урокамі. Бацька лёг раней звычайнага, але па тым, як ён варочаецца за сцяной, па дыханні яго, Таіса чула — не спіць, думае, і ёй было шкада яго. Мала, што пракляты Шышка пазбавіў чалавека сну, дык яшчэ гэты клопат, такі ж неспадзяваны,— гэтае сватаўство; ён, напэўна, баіцца, што яно можа адбыцца паміма яго волі, і думае, безумоўна, думае, як яму павесці сябе, калі Забаўскі ўсё ж прыйдзе. Яна, як ніхто, ведае, што пры знешняй строгасці і некаторай грубаватасці — яўна знарокавай, каб не выдзяляцца сярод механізатараў, каб не сказалі, што, маўляў, жонка акушэрка, дык і ён у інтэлігенты лезе,— Іван па натуры мяккі, добры, далікатны, сапраўдны інтэлігент — па прыродзе, па духу; ад таго так і перажывае і за свае злыя прыгоды, і за людзей, за іх крыўды і няшчасці.

Валя ўляцела, што вецер. З шумам, грукатам. Гукнула з парога:

— Дзе бацька?

Маці замахала на яе рукамі.

— Спіць.

— Спіць?!

— Цішэй ты. Крычыш на ўвесь дом!

Выраз твару ў маці быў іншы, чым удзень, калі яна сказала ёй, з якой мэтай прыехала. Але яшчэ больш, чым матчын твар, ёй расказала братава скрыўленая фізіяномія, прыплюснутае вока, панурая, як у старога летапісца, схіленасць над сталом, над кнігамі.

Карней падслухаў размову бацькоў, калі яны вярнуліся, хоць гаварылі яны пры ім намёкамі, рэбусамі, як некалі, калі яны з Валяй былі малыя, мама расказвала пра сваю акушэрскую работу, але і тады ён пра ўсё здагадваўся, і цяпер усё зразумеў па нейкіх дзвюх-трох туманных фразах. Дрэнныя яны, бацькі, шыфравальшчыкі. Смешна, што яны ўсё яшчэ лічаць яго малым. Карацей кажучы, ён адразу зразумеў, што Валя прыехала, каб выйсці замуж за Забаўскага, а бацька супраць, і хоць маці быццам бы яшчэ ўгаворвае яго, але падобна на тое, што ў нялёгкім слоўным баі, які можа адбыцца паміж бацькам і Валяй, маці, выступаючы суддзёй, будзе ўсё ж на бацькавым баку. У Валі няма ні моцнага тылу, ні флангаў. Карней пашкадаваў сястру. Хоць яна, канечне, няўдзячная зануда і моцна пакрыўдзіла яго, назваўшы «злым хлопчыкам» (ён схадзіў у школьную бібліятэку і прачытаў апавяданне Чэхава) і шпіёнам, аднак ён усё ж выра-

шыў падтрымліваць яе, бо інакш вельмі ж няроўныя сілы будуць; з яго боку было б недаравальна не памагчы слабейшаму.

Таму Валя не ўбачыла на братавым твары злараднасці ці насмешкі. Выразнае спачуванне і выразнае папярэджанне: «Справы твае дрэнныя, трымайся. Але не рабі глупства, не напсуй яшчэ больш».

Валя адразу патухла, як запалка на тым жа ветры, які сама ўзняла. Даўно незалежная і раўнапраўная ў сваёй дэмакратычнай сям'і, яна можа ўпершыню разгубілася перад бацькавай воляй, перад яго аўтарытэтам. Больш таго, яе апанаваў страх: а што, калі бацька так і не згодзіцца на іх шлюб? Бацька бывае ўпарты. Страх быў не столькі за сябе, колькі за яго — за Сашу. Безумоўна, бацьку можна не паслухацца — не стары час, не дамастрой. Але як гэта нядобра — без вяселля, без радасці. Якія размовы пойдуць па саўгасе! І як ім пасля працаваць разам, Сашу і бацьку?

Сцішаная, засмучаная, Валя пайшла на кухню, маці прапанавала ёй павячэраць там, каб не разбудзіць бацьку. Есці ёй расхацелася, хоць, бегучы дадому, думала, з якой прагнасцю накінецца на матчыны прысмакі, папросіць вішнёвай настойкі ці віна — у мамы заўсёды ёсць запас — і прапануе ўсім выпіць за... Выпіла! Захацелася плакаць. Стрымліваючыся, бадай злосна кіўнула ў бок спальні:

— Чаго ён?

— Дачка мая, чаму табе так не церпіцца? — адказала Таіса Міхайлаўна словамі мужа і як папракнула; — Не падганяй ні сябе, ні нас. Няможна так, адразу. На ўсё жыццё выбіраеш. Дай хоць прыгледзецца да яго.

— А то вы яго не бачылі?

— Як мы яго бачылі? На трыбуне? Мужа і зяця на трыбуне не выбіраюць, Валечка. Цяпер, калі ты сказала, я на яго іншымі вачамі буду глядзець. І ўзнаю, што трэба...

— Даведачкі не наводзьце, калі ласка. Ён мне ўсё расказаў сам. І я веру яму.

— Чалавека трэба знаць не толькі па яго словах.

— Чалавеку трэба верыць. Хіба ты бацьку не верыла? Даведачкі наводзіла?

— Бацька твой быў увесь на віду.

Таіса Міхайлаўна падумала пра сваё каханне да мужа і нечакана для сябе радасна ўсміхнулася. Валю, якая пільна і насцярожана, нехаця едучы тварог, сачыла за выразам матчынага твару, абурыла такая яе ўсмешка.

— Чаму ты радуешся?

— Падумала, як я люблю твайго бацьку! — прызналася маці, упершыню не пасаромеўшыся сказаць пра гэта дачцэ.— Каб ты свайго так любіла!

— Ты знаеш, як я яго люблю? — Валя кінула лыжачку на стол, тая падскочыла і паляцела на падлогу.— Эгаісты вы! Сябелюбцы! Думаеце, што вы самыя лепшыя... А вы... вы, акрамя сваёй панчохі з грашамі, больш нічога не бачыце.

Таіса Міхайлаўна падняла лыжачку, выцерла ручніком, паклала на Валіну талерку і, ужо радуючыся за дачку, сказала ёй:

— Калі ты так любіш, то чаго ты злуеш? Калі так любіш, то ўсё добра, Валечка. Усё будзе добра. Я бацьку твайго як палюбіла...

А потым прыйшоў на кухню Карней і, са смехам перадаўшы змест «Злога хлопчыка», паказаў, што не злуе на сястру і што гатовы быць яе саюзнікам у барацьбе з «бацькоўскім кансерватызмам». Пры маці яны даўно ўжо не саромеліся пакпіць са старых.

Яна хацела пагаварыць з Іванам у ложку, помнячы народную мудрасць: начная зязюля заўсёды перакукуе... Але Іван адвярнуўся.

— Спі. Мне заўтра ў Мазыр ехаць.

І хутка заснуў побач з ёй. А яна доўга не спала і чула, як за перагародкай у дзіцячай спаленцы варочаецца Валя, уздыхае.

Раніцою, кормячы Івана, Таіса Міхайлаўна асцярожна, не без жаночай хітрасці, спытала:

— Дык што рабіць Валі?

— Няхай едзе вучыцца і выкіне дур з галавы.

— Гэта не дур, Ваня. Гэта любоў. Хіба ты забыў, якая яна бывае?

— Да ну вас! Не да вашых бабскіх выдумак мне.

Таіса Міхайлаўна ўздыхнула:

— Скажы ёй добрае слова. Няхай супакоіцца,

— Няхай яна мне скажа добрае слова.

— Упартыя вы, Батракі. Не забывай: яна твая дачка.

— Патурай, патурай. Глядзі, каб послі локаць не кусала.

Іван адказваў гэтак жа, як учора, але без абурэння, бадай абыякава да таго, што можа адбыцца ад яго і Валінай упартасці, як бы думаючы зусім пра іншае, больш істотнае, і такая перамена ў яго настроі спалохала Таісу Міхайлаўну мацней, чым учарашняя катэгарычная нязгода на сватаўство Забаўскага.

Валя паехала так жа нечакана, як прыехала, калі маці была на працы, а Карней у школе.

На разгорнутым сшытку вялікімі літарамі чырвоным алоўкам напісала: «Старыя абухі вы! Вы мяне яшчэ папросіце!»

Каб Валя напісала гэта з іншай нагоды, Таіса Міхайлаўна пасмяялася б з таго, што яны з Іванам — старыя абухі. А тут моцна такі абурылася. Вырвала лісты са сшытка, падрала, каб Іван не ўзнаў пра даччыну пагрозу.

18

У прыёмнай раённага пракурора іх было толькі двое — ён, Іван, і поўная жанчына, якая ўвесь час уздыхала. Але чакаць прыйшлося доўга. Яны сядзелі перад сакратаркай, маладой жанчынай, прыгожай, проста, але модна адзетай, з густам, без лішняга, падмалёванай, знешне ветлівай, стрыманай на выяўленне якіх-небудзь эмоцый — ні разу не ўсміхнулася ні тады, калі звярталася да іх, наведнікаў, ні тады, калі адказвала па тэлефоне. Сакратарка чытала тоўстую кніжку, але, відаць было, не раман, хутчэй падручнік. «Завочніца»,— падумаў Іван і нейкі час разглядаў жанчыну, нават трохі залюбаваўся яе прыгажосцю, яе ўменнем сачыць за сваёй знешнасцю. Яму падабалася ў жанчынах такая акуратнасць, такая была Тася, за што раней, у маладосці, добрыпскія бабы з яе пасміхаліся, але цяпер не толькі дзяўчаты, але і яе, Тасіны, равесніцы пераймаюць яе моднасць. Хацелася ўявіць, якая гэтая па-пракурорску строгая жанчына ў хатніх умовах, якая яна жонка, маці, якія ў яе муж, дзеці. Ён даўно заўважыў, што жанчыны на рабоце зусім не такія, як дома, мяняюцца ў большай ступені, чым мужчыны.

Мабыць, яна адчувала яго цікаўнае разглядванне, бо колькі разоў адрывалася ад кнігі і сярдзіта кідала на Івана позіркі-маланкі, якія, падумаў ён, маглі б спапяліць, каб былі сапраўднымі маланкамі. Гэтак жа яна адрывалася ад кнігі, калі ўздыхала поўная, друзлая жанчына, але на тую глядзела інакш — як бы несур'ёзна, насмешліва, безумоўна, добра ведала яе справу.

Урэшце Івану абрыдла разглядаць сакратарку. Ён быў рабочы чалавек, пад акном пракуратуры стаяў яго грузавік, у «Сельгастэхніцы» трэба атрымаць новы электрычны млын і дэталі для рамонту трактараў. За сваё жыццё ён рэдка калі сядзеў падоўгу ў прыёмных, ды і то заўсёды па справах саўгасных, калі недзе нешта трэба было купіць, атрымаць, падпісаць. Асабістых спраў ва ўстановы, дзе ў прыёмных збіраюцца чэргі, у яго ніколі не было. У райкоме, абкоме, куды ён звяртаўся па пытаннях ушанавання памяці партызан і тых, хто загінуў, яго заўсёды прымалі адразу, бо папярэдне ён туды пісаў ці званіў. Злослівая нецярплівасць яго расла па іншай прычыне — ад таямнічасці нечаканага выкліку да пракурора. Павестка прыйшла пазаўчора. Строгая. «За няяўку будзеце прыцягнуты да адказнасці па

закону». Ніколі ў жыцці яны такіх павестак не атрымоўвалі, таму Тася бадай спалохалася. Ды і ён дзве ночы спаў яшчэ больш трывожна. Не ведаючы ніякай іншай прычыны, каб яго выклікалі з такім папярэджаннем, Тася лічыла, што наскардзіўся «праціўны маёр», які спачатку згадзіўся, каб машыну яму адрамантавалі ў саўгаснай майстэрні, а пасля перадумаў і патрэбаваў грошы, цяпер, мабыць, захацеў больш здзерці — праз пракуратуру.

— Я яму, паразіту, яшчэ два кашы лепшых яблык усыпала, пачаставаць хацела, на, не гневайся толькі,— абуралася Тася.— Дарэмна ты з яго распіскі не ўзяў, цяпер ён з цябе яшчэ раз злупіць, і, глядзі, ужо не трыста рублёў. Кулак нейкі, а не маёр,

Іван не згадзіўся з жонкай, бо не мог падумаць, што такі салідны чалавек так непрыстойна абыдзецца. Але паколькі іншай прычыны не было, згаджаўся, што выклік нейкім чынам звязаны з той аварыяй. Гэта яго супакойвала. Калі сапраўды маёр патрабуе большай кампенсацыі — няхай будзе сорамна яму, хоць, канечне, плаціць пяцьсот-шэсцьсот рублёў за тое, што сам ён адрамантаваў бы за дзень-два,— крыўдна.

Калі нешта іншае, то крыўдна за другога чалавека — за Драмаку, без яго справа не магла пайсці у пракуратуру, а ён жа начальнік ДАІ, усю карціну аварыі ведаў да драбніц — больш таго, што расказаў сам ён, Іван, і што гаварылі ўласнік «Пабеды», сведкі. Хіба мала ў «друга вадзіцеляў» сваёй улады пакараць яго, што спатрэбіўся пракурор? Ні ў каго ж з людзей і драпіны не было. «Эх, Павел Паўлавіч! Хаця б папярэдзіў. Мы ж з табой пуд солі з'елі на гэтых дарогах».

— Што там у пракурора, нарада, ці што? — спытаў Іван у сакратаркі, выдаўшы сваю нецярплівасць.

Жанчына адарвалася ад кнігі і паглядзела на гэты раз са здзіўленнем, быццам ён спытаў пра нешта непрыстойнае.

— Чакайце, грамадзянін. Вас паклічуць.

Івана непрыемна ўразіў зварот — грамадзянін. Не любіў ён чамусьці гэтага слова. Неяк спрачаўся з Валяй, тая даказвала, што слова добрае, што ў час вялікай французскай рэвалюцыі, калі адмянілі дваранскія тытулы, усе звярталіся адзін да аднаго так — грамадзянін. Ён прызнаў правамернасць множнага ліку — грамадзяне, што ж датычыць звароту, то яму здавалася, што слова гэтае не яднае, не збліжае людзей, а раздзяляе іх, аддаляе адзін ад аднаго, таму ён сказаў тады Валі: «Наша рэвалюцыя, дачка, усіх, хто за яе ішоў на катаргу, у бой, зрабіла таварышамі. Так звяртаўся да ўсіх Ленін».

Ніякага сігналу, здаецца, не прагучала, а сакратарка падхапілася і пайшла ў кабінет. Вярнулася адтуль мінут праз пяць, села на сваё месца за сталом, закрыла кніжку, як падрыхтавалася да сур'ёзнай працы, агледзела іх дваіх, як бы выбіраючы, каго прапусціць першага, кіўнула Івану:

— Заходзьце.

Увайшоўшы, Іван убачыў, што пракурор сядзіць адзін за далёкім сталом; кабінет у гэтым новым будынку чамусьці быў зроблены вузкі і доўгі, таму здаваўся як бы часовым, куды чалавек перасяліўся на час рамонту. Але на гэта Іван звярнуў увагу пазней. Адразу ж падумаў, што ніякай нарады не было, аднак яму прыйшлося мала не гадзіну чакаць. «Напускае пракурор строгасці».

Міхалеўскі яўна здзівіўся, пазнаўшы яго, і ў адказ на прывітанне выгукнуў:

— А-а, аварыйшчык!

Іван ад такой сустрэчы ажно спыніўся на паўдарозе да стала.

Ён быў спакойны, разважлівы чалавек, яго цяжка было раней вывесці з раўнавагі, а тут абурэнне ўдарыла гарачай хваляй у галаву: «Чаго ж ты мяне так сустракаеш? Хіба я злачынца?»

Пракурор паказаў яму на цвёрдае крэсла, што стаяла воддаль ад стала, і запрасіў ужо зусім іншым голасам — афіцыйна-ветлівым:

— Сядайце, калі ласка.

Іван сеў, сціснуты, што спружына; яму трохі нават страшнавата стала за такі свой стан, і ён збіраў усе сілы, каб расслабіцца, каб да любой нечаканасці аднесціся спакойна, з гумарам; так ён сабе загадваў і па дарозе, і ў прыёмнай. Але, палажыўшы рукі на калені, пачуў у далонях пульс. Дзіўна, ніколі не чуў пульсу ў далонях.

Пракурор нейкую хвіліну гартаў паперы, знайшоўшы, мабыць, патрэбную, узняў галаву, спытаў афіцыйна, каб пераканацца, што мае справу з тым, хто яму патрэбны;

— Грамадзянін Батрак?

Івана ажно скаланула гэтае «грамадзянін», другі раз пачутае. Калі там, у прыёмнай, сакратарцы, ён змоўчаў, то тут, перад пракурорам, з якім напэўна сустрэнецца і на пленуме райкома, і на сесіі райсавета, змоўчаць не мог.

— Вы член партыі, таварыш пракурор?

Міхалеўскі вельмі здзівіўся на такое нечаканае пытанне і паблажліва ўсміхнуўся з наіўнасці гэтага чалавека.

— А вы як думаеце?

— Я таксама член партыі. І дэпутат райсавета. І вы мяне не арыштавалі...

Тады малады пракурор зразумеў сваю памылку і пачырванеў. Успомніў, як высока атэставаў Батрака начальнік аўтаінспекцыі, а таксама ўспомніў бацькаву параду: што ў рабоце юрыста мае значэнне не толькі сутнасць спраў, якія належыць вырашыць, але і форма іх, у тым ліку і форма размовы з людзьмі. Выходзіць, не падумаў ён аб форме размовы з гэтым чалавекам. Маладая самаўпэўненасць у Міхалеўскага пакуль што сумяшчалася з самакрытычнасцю, ён умеў аналізаваць свае ўчынкі і прызнаваць памылкі, нават бацьку пісаў больш пра свае памылкі, чым пра поспехі.

Леанід Аркадзьевіч падумаў, што і пра гэты свой промах абавязкова напіша. Думкамі пра сваё ўменне прызнаваць памылкі і пра бацьку, які заставаўся для яго высокім юрыдычным аўтарытэтам, Леанід Аркадзьевіч зняў хвілінную збянтэжанасць і ўжо неафіцыйна і амаль весела сказаў:

— Прабачце, Іван...— пашукаў у паперы імя па бацьку.

— Карнеевіч,— падказаў Іван.

— Прафесійная інерцыя, Іван Карнеевіч. Аўтаматызм. Як і ў вашай рабоце. Ведаеце, я ўсяго два гады ваджу машыну. Але калі цяпер еду на службовай і сяджу побач з шафёрам, то ўвесь час націскаю на «тормаз». Шафёр смяецца...

— Гэта ад маладосці,— сказаў Іван.— Я калі еду з кім, то не цісну на тормаз. Нага мая спакойная. Веру ў таго, хто за рулём.

Твар у Міхалеўскага зноў выцягнуўся. Словы ранілі самалюбства больш моцна, чым тады, калі Батрак нагадаў пра сваю партыйнасць і дэпутацтва. Там Міхалеўскі прызнаў сваю памылку. Але не прызнаваць жа яму, што ён малады і нявопытны! Такія намёкі яго заўсёды раздражнялі. Лічыць маладым чалавека, якому трыццаць? Абсурд!

«Уедлівы мужык. З ім трэба вуха востра трымаць»,— падумаў пракурор пра Батрака і глянуў на ручны гадзіннік, даючы зразумець, што для пабочных размоў у яго няма часу. Зноў глянуў у паперу.

— Скарга на вас паступіла, Іван Карнеевіч.

— Ад каго? — спытаў Іван і ўзлаваўся на самога сябе за голас свой і за тое, што перасохла ў роце: чаго ён хвалюецца, як хлапчук?!

— Ад Шышковіча Грыгорыя Ксенафонтавіча.

— Ад Шышкі?!

— Пагражалі вы яму... самасудам. Забіць пагражалі.

Неяк гады два назад на высокім насыпе перад мостам цераз Сож, наперадзе Іванавай машыны незразумела чаму занесла «рафік», і ён, збіўшы загараджальныя слупы, паляцеў пад адхон, чамусьці дзіўна, як у запаволенай кіназдымцы, куляючыся па схіле. Івана вельмі ўразіла тая аварыя, больш, чым любая іншая, якія яму прыйшлося

бачыць, хоць, на шчасце вадзіцеля і пасажыраў і на здзіўленне шафёраў, што першыя кінуліся да дапамогу, усе ў «рафіку» былі толькі раненыя, але жывыя. Пасля Іван часта сніў, што не хто іншы, а сам ён куляецца з таго насыпу разам са сваім «ЗІЛам», і ён прачынаўся абліты халодным потам. Дык вось, пракуроравы словы па сваёй неспадзяванасці былі што нечаканы, па невядомай прычыне, зрыў пад той адхон: такое ж адчуванне, калі не ведаеш, што зрабіць, за што схапіцца, калі не памагаюць ні твая галава, ні рукі, ні ногі, ні надзейны тормаз, ні паслухмяны руль, толькі раптоўна б'е кроў у сэрца, у галаву, і ўсё цела абліваецца брыдкім, ліпучым потам. Так і тут яно аблілося, зазвінела ў вушах. Шышка! Шышка скардзіцца на яго! І ён сядзіць перад пракурорам, як вінаваты, недарэмна той так звярнуўся да яго — грамадзянін.

— Пагражалі?

Не адразу да Івана дайшло, што пракурор чакае адказу на сваё пытанне. А што яму адказаць? Урэшце, ён нават не помніць, як пагражаў, бо і тады, калі Шышка сядзеў побач у кабіне, у яго гэтак жа бурліла кроў, звінела ў вушах, можа і не пагражаў, але сказаў, дзе ён сядзеў у тую крывавую ноч, і Шышка адчыніў дзверцы, відаць, памкнуўся выскачыць, але ён, Іван, схапіў яго за каўнер.

— Дык пагражалі ці не? — голас у пракурора зрабіўся пракурорскім, і ён, гэты голас, вывеў Івана з утрапення.

— А вы знаеце, хто такі гэты Шышковіч? — і, намерыўшыся расказаць, хто ж такі Шышка, Іван падняўся, пераставіў сваё крэсла бліжэй да стала і сеў тварам у твар з пракурорам. Міхалеўскаму гэта не вельмі спадабалася, ён адкінуўся на спінку свайго крэсла, каб быць далей ад Івана, і адказаў усё тым жа, пракурорскім, голасам:

— Так, я знаю, што Шышковіч служыў у фашысцкай паліцыі. Асуджаны савецкім судом на дваццаць пяць гадоў зняволення. Адбыў у калоніях строгага рэжыму васемнаццаць гадоў і дзесяць — на пасяленні без права выезду. Цяпер адноўлены ў правах грамадзяніна СССР. Я разумею, у вас могуць быць свае адносіны да Шышковіча. Але нікому не дадзена права самасуду, што б ні здарылася паміж грамадзянамі. Ёсць закон. І ёсць суд. Мой абавязак вас папярэдзіць: не толькі само забойства, але і пагроза забойства... пагроза прымянення сілы... чым бы яно ні матывавалася, караецца па закону. Вось артыкул кодэкса, паслухайце,— Міхалеўскі працягнуў руку, узяў тоўстую кнігу, разгарнуў на закладцы.

Іван не даў яму чытаць артыкул.

— Не трэба, таварыш пракурор. Кодэкс у мяне ёсць. Я два гады быў народным засядацелем.

Міхалеўскі спачатку здзівіўся, і твар яго, рухомы, як гумавы, зноў выцягнуўся, але ўміг набыў звычайны выраз, і ён як узрадаваўся.

— Тым больш, тым больш,— і, закрыўшы кнігу так, што на Івана шугануў вецер, нахіліўся над сталом, наблізіўся да Івана і ўжо зусім прыязна зазірнуў у вочы.— Вы ж — разумны чалавек, Батрак. Вядомы ў раёне чалавек. Навошта вам кампраметаваць сябе пагрозамі гэтаму здрадніку? Вайна даўно скончылася, і здраднікі панеслі пакаранне. Некаторых і цяпер яшчэ знаходзім. Судзім. Але любы самасуд — караецца. Зразумейце мяне правільна. Мой абавязак папярэдзіць вас і тым самым ратаваць ад... У вас ёсць дзеці?

Іван не адказаў. Яму расхацелася расказваць, хто такі Шышка, хоць пракурор і пачаў гаварыць зусім іншым голасам, неафіцыйна, даверліва.

— Думаю, вы не падведзяце ні сваю сям'ю, ні нас. Гэта была б пляма на ўвесь раён. Перадавік вытворчасці...

— Не бойцеся. Не зачаплю я вашага Шышку.

Міхалеўскі дакорліва паківаў галавой, спахмурнеў:

— Зацяты вы чалавек. «Наш». Не наш. Закон — наш. Савецкі. І я нічога не баюся, таварыш Батрак. Я стаю на варце закона. На заяве Шышковіча я пішу рэзалюцыю: гаварыў з вамі, папярэдзіў вас, і вы далі слова, што не толькі дзеянняў якіх-небудзь не будзе, але і пагрозы больш не паўторыце. Магу так запісаць?

— Пішыце.

Пракурор схіліўся над сталом і пачаў пісаць,

— Мне можна ісці? — спытаў Іван.

Міхалеўскі як збянтэжыўся, зноў адкінуўся на спінку крэсла, і твар яго на гэты раз быццам сплюснуўся.

— Да, канечне. Жадаю вам усяго добрага.

— Дзякую.

Міхалеўскі правёў Івана як бы недаўменным позіркам. А калі за тым зачыніліся дзверы, падняўся, адставіў пастаўленае Іванам крэсла на ранейшае месца і адтуль, дзе павінен сядзець паддопытны, прайшоўся да дзвярэй, як бы ўпершыню праверыўшы, наколькі доўгі шлях ад яго стала да парога, за якім нярэдка міліцыянеры чакалі таго, каго ён дапытваў. Пасля спыніўся каля шырокага акна і ўбачыў, як Батрак, перайшоўшы вуліцу, адчыніў ключом дзверцы кабіны свайго грузавіка і раптам застыў, трымаючыся за дзверцы, як бы не меў сілы падняцца на сядзенне. Стаяў доўга, можа мінуты тры, у задуме. Потым азірнуўся на будынак, на вокны другога паверха, дзе размяшчалася раённая пракуратура, магчыма, убачыў яго, Міхалеўскага, бо

адразу ўскочыў у кабіну, моцна ляпнуў дзверцамі і газануў яўна злосна — начадзіў на ўсю вуліцу, развярнуў машыну на вузкай вуліцы, дзе разварот не дазволены, з ліхасцю і спрытам цыркача.

Міхалеўскі падумаў, што не такі ўжо гэта дысцыплінаваны вадзіцель, як пра яго гаварыў начальнік ДАІ. І яшчэ падумаў, што людзі Батраковага ўзроўню ды яшчэ такой прафесіі часта не вытрымліваюць славы — зазнаюцца, зрываюцца, пачынаюць лічыць, што ім усё дазволена.

«Во тэма для чарговай дыскусіі з народнікам Драмакам».

Але калі сеў за стол і ўзяў ручку, каб дапісаць рэзалюцыю на заяве Шышковіча, уласна, не дапісаць, а толькі распісацца і паставіць дату, то раптам застыў у нерухомасці, што знясілены. З'явілася адчуванне, што ён нешта зрабіў ці робіць не так, як належыць пракурору. Ён задумаўся, прайшоўся яшчэ раз па сваім дзеянні, успомніў свае словы. Ды не, усё, здаецца, правільна. Нават тое, што ён палічыў за сваю памылку — зварот да Батрака са словам «грамадзянін»,— цяпер здалося правамерным. Ён, новы работнік, мог і не ведаць, што Батрак — дэпутат райсавета. Урэшце, тут, у тым крэсле, усе роўныя перад законам.

Аднак адчуванне незадаволенасці сабой не знікала.

Ён грэбліва адсунуў заяву былога паліцая і зноў падняўся, пачаў хадзіць па кабінеце.

У Міхалеўскага было абвостранае пачуццё адказнасці за сваю работу, ён баяўся памыліцца. Можа, ад гэтай боязі ён пісаў бацьку пра свае дробныя памылкі, часам уяўныя, а то і зусім выдуманыя, каб лішні раз праверыць сябе і не зрабіць сур'ёзнага зрыву.

Яшчэ ў інстытуце ён даў сабе клятву, што ў будучай рабоце юрыста заўсёды і ўсюды будзе няўхільна захоўваць законнасць. Некаторыя яго калегі даказвалі, што гэта проста ў тэорыі, а практыка падкідвае часам такое, што селі прафесараў не разбяруць, дзе ж законна, а дзе незаконна, асабліва ў сферы вытворчай. Ён з гэтым не згаджаўся. Закон ёсць закон, лічыў ён, і толькі ў тым разе, калі пільна ахоўваць і выконваць яго, Асноўны Закон, і ўсе законы, толькі тады не можа быць ніякіх шчылін для парушэнняў законнасці. Ён больш балюча, чым хто з яго аднакурснікаў, перажываў парушэнні законнасці ў мінулым. Па-першае, ён быў нашчадак юрыстаў і з малых гадоў рос у юрыдычнай атмасферы, дзе вялося нямала размоў на такія тэмы; у сем'ях рабочых і сялян у гады яго маленства гаварылі пра іншае, там больш жылі мінулай вайной і пераадоленнем пасляваенных цяжкасцей. Па-другое, тое даўняе парушэнне ўвайшло ў яго біяграфію: да вайны быў беспадстаўна рэпрэсіраваны яго дзядзька,

старэйшы бацькаў брат Мікалай, гісторык, дацэнт універсітэта; пасля XX з'езда партыі ён рэабілітаваны, вярнуўся, стары, хворы, адзінокі, і жыў у іх сям'і. Дзядзька-пенсіянер праяўляў паблажлівы скепсіс да братавай навукі. «Якая гэта навука! Народ даўно казаў: «Закон — што дышла: куды павярнуў, туды і выйшла».

Інтэлігенты Міхалеўскія ашчаджалі хворага брата і асабліва з ім не спрачаліся, пасміхаліся, як з дзівака. Мікалая гэта раздражняла, і вучань Лёня, поўны спагады і жаласлівасці да дзядзькі, абараняў яго; яны сябравалі. Пад уплывам дзядзькі ён таксама некаторы час супраціўляўся бацькаваму жаданню, каб хоць ён пайшоў на юрыдычны. А калі быў студэнтам, сам спрачаўся з дзядзькам. «А ваша гісторыя — навука?» Дзядзька быў непахісны: «І гісторыя — тое ж дышла... Фізіка, матэматыка, механіка — во сапраўдныя навукі. Я шкадую, што бог не даў мне матэматычных здольнасцей».

З гэтым Леанід не згаджаўся. Юрыдычныя навукі яго захапілі, ішоў ён круглым выдатнікам. Даўгія пісьмы з апісаннем розных фактаў сваёй пракурорскай практыкі ён сачыняў цяпер, адрываючы час ад сну, не толькі для юрыста-бацькі, але магчыма, больш для антыюрыста-дзядзькі, каб пераканаць старога, наколькі важная і патрэбная дзяржаве і людзям яго работа.

Карацей кажучы, Леанід Міхалеўскі быў з таго пакалення маладых юрыстаў, якія добра ведаюць тэорыю і ў рабоце праяўляюць высокую прынцыповасць і пільнасць. З такімі пракурорамі раённаму кіраўніцтву бывае нялёгка. Такім, часам, кідаюць папрок, што яны забываюць, што савецкі закон мае класавую сутнасць.

У Міхалеўскага, магчыма, была другая слабасць: па маладосці і з-за выхавання (усё ж ён рос у цяплічных умовах заўсёды добра забяспечанай сям'і) ён не мог ведаць жыцця, асабліва жыцця ў сяле, так, як яго трэба ведаць пракурору сельскага раёна.

Так ён і не мог зразумець, чаму з'явілася незадаволенасць самім сабой ад размовы з Батраком, хоць адчуванне такое на працягу дня з'яўлялася колькі разоў і трохі замінала займацца іншымі справамі.

З'явілася яно і дома ўвечары. Леанід Аркадзьевіч любіў сваю жонку і лічыў, што яму пашанцавала і тут, у сям'і: добрая па характару, па-народнаму простая, клапатлівая, адданая маці — калацілася над сваім першынцам, дбайная гаспадыня. Адным словам, мела ўсе лепшыя жаночыя якасці. Але, аднакурсніца, юрыстка, следчы раённага аддзела ўнутраных спраў, яна сама займалася тым жа, што і ён, часта яны вялі адны і тыя ж справы, і таму, відаць, яе так мала цікавіла яго работа, яго думкі, развагі, сумненні. Магчыма, гэта чыста жаночая рыса — сумленны і старанны работнік на службе, дома Лена жыла

толькі домам, сынам, мужам і начыста вымятала з галавы ўсе службовыя турботы. Леанід Аркадзьевіч часта проста зайздросціў такой здольнасці адключацца ад службы. У яго так не атрымоўвалася. У яго і ў адпачынку з'яўлялася патрэба пагаварыць аб справах, паспрачацца на юрыдычныя тэмы. Самым цікавым субяседнікам быў Павел Паўлавіч Драмака. Магчыма, зближала іх не толькі любоў да кнігі: у начальніка ДАІ, сына селяніна, было тое, чаго не хапала гараджаніну, прыроджанаму інтэлігенту Міхалеўскаму,— веданне вясковага жыцця, сялянскай псіхалогіі.

Лена не пярэчыла супраць іх сяброўства, Драмака ўвогуле падабаўся ёй, але не падабалася, што ў трыццаць пяць гадоў ён усё яшчэ халасцяк, да такіх мужчын яна ставілася з пэўным недаверам і насцярожанасцю, таму не хацела, каб муж часта наведваўся ў халасцяцкую Драмакаву кватэру, якая ёй чамусьці не падабалася, нягледзячы на нязвыклыя для адзінокага мужчыны чысціню і парадак і багатую бібліятэку. Рэдкія кнігі, якімі хваліўся Павел Паўлавіч, здаліся Міхалеўскай прынадай для жанчын, якія іграюць інтэлектуалак і шукаюць прыгод. Гэта было, можа, адзінае яе дзівацтва: яне не любіла жанчын-інтэлектуалак.

Ведаючы, што Лена не ў захапленні ад яго вячэрніх паходаў да Драмакі, Леанід Аркадзьевіч не кожны раз казаў, куды ідзе ці дзе быў; у жонкі хапала тактоўнасці не рабіць допытаў. Ці мала дзе мог затрымацца пракурор!

У той вечар ён шчыра сказаў, што яму хочацца пагутарыць з Паўлам Паўлавічам. Безумоўна, яна не запярэчыла.

— Калі ласка, ідзі, я буду вязаць Андрэйку касцюмчык. Касцюмчыкаў было звязана ўжо добры дзесятак, але яна працягвала вязаць іх бясконца, і Леаніда кранала гэтае яе жаночае захапленне: Лена не магла не вязаць, калі даставала ніткі і ў часопісах знаходзіла новы фасон. Леанід Аркадзьевіч прыгадаў адно выказванне Драмакі, той даводзіў, што як нельга жанчыне рабіць шахцёрам, гэта забаронена міжнароднай канвенцыяй, так нельга ёй асвойваць і некаторыя, здавалася б, лёгкія прафесіі. Драмака назваў сярод гэтых прафесій аўтаінспектара, але не назваў следчага, з далікатнасці, безумоўна.

Гледзячы, як жонка займаецца гаспадаркай, з якім задавальненнем гуляе з сынам і вяжа, Міхалеўскі заўсёды думаў, што, магчыма, начальнік ДАІ мае рацыю — не на сваім яна месцы, трэба было б ёй куды-небудзь у юрыдычную кансультацыю ці ў дзіцячы пакой. Але калі паспрабаваў загаварыць на гэтую тэму, Лена здзівілася: чаму? Ёй добра і ў міліцыі.

Пазваніў Драмаку. Той быў дома. Міхалеўскі не спытаў, ці можна зайсці, бо такое пытанне, заўважыў, насцярожвала Лену, значыцца, бываюць сітуацыі, калі да халасцяка нельга заходзіць — так, пэўна, яна разважала. Сказаў: зайду.

Павел Паўлавіч «грыз» раман Азімава. У яго былі розныя кнігі, але, як даўно заўважыў Міхалеўскі, перавагу ён аддаваў навукова-фантастычнай літаратуры, гэтыя кнігі ён вазіў з сабой у планшэце і чытаў усюды: на дарогах, у службовым кабінеце, калі была вольная хвіліна. Таіў ад староннiх сваё захапленне, і ў гэтым было нешта кранальна-наіўнае, хлапчуковае. Калі жончынаму хобі — вязанню Леанід Аркадзьевіч амаль зайздросціў, то з сябравага хобі хацелася пасмяяцца. Але стрымліваўся, бо вельмі сур'ёзна Драмака гаварыў аб прачытаным — аб самых неверагодных фантазіях і гіпотэзах; гаварыў толькі з ім адным, больш ні з кім, і Міхалеўскі гэта прымаў як найвышэйшую адзнаку сяброўскага даверу.

Адчыніўшы сябру з кнігай у руках, Драмака тут жа ў калідорчыку, пакуль госць распранаўся, дачытаў раздзел. І тут жа пачаў выказваць сваё захапленне:

— Здорава, я табе скажу,— ласкава пагладзіў ён мяккую вокладку кнігі.— Тут, разумееш, вучоныя выдумалі міжпланетны насос для перакачкі энергіі з далёкай-далёкай, не ў нашай галактыцы, планеты-зоркі на нашу Зямлю, якая растраціла ўсю сваю энергію. Слухай, якая трэба фантазія, каб апісаць разумных істот там, на той планеце. Толькі дарэмна ён іх зрабіў медузападобнымі — адна разумная плазма, па-нашаму — адзін мозг, такая, маўляў, эвалюцыя высокага розуму. Усё адмерла, застаўся адзін мозг, які служыць ужо не ім, гэтым істотам, а касмічнай цывілізацыі. Шкада. Мне хацелася б, каб істоты, якія падарылі нам энергію, былі прыгожыя.

Драмака гаварыў так, быццам гэта ўжо адбылося — перакачка энергіі аднекуль з космасу.

Міхалеўскаму зноў захацелася пасмяяцца.

— Значыцца, па логіцы твайго Азімава, і мы некалі ператворымся ў разумны кісель?

— Мы не ператворымся. Тут,— зноў пагладзіў Драмака кніжку,— вучоны-землянін, амерыканец, бязбожна эксплуатуе розум гэтых няшчасных істот для сваёй выгады, для сваёй славы. І топча сваіх калег, не дае ім ходу.

Міхалеўскі зарагатаў.

— Нішто прыладзіўся твой вучоны! Вунь куды дабраўся, каб украсці! Але, падобна на зямлян. А галоўнае — хто асудзіць за тое,

што злямзіў з другой планеты? Пампуе не энергію для ўсіх, так? Праўда, мудры гэты Азімаў. Узбек?

— Амерыканец.

— Мудры. Па яго логіцы, так будзе ў далёкай будучыні, як было ў далёкім мінулым. Толькі ў касмічным плане. Бедаку якому-небудзь галоднаму адсякалі руку, а то і галаву за тое, што ён краў кавалак хлеба, а цэзар, кароль, імператар, які ўвёў такі жорсткі закон, ішоў вайной на другую краіну, абрабоўваў цэлы народ да ніткі, і яго славілі як героя: маўляў, ваяваў дзеля дабра свайго народа, хоць народ, як правіла, меў фігу.

— Азімаў мае на ўвазе мараль таго ладу, які цяпер у Амерыцы. Калі меркаваць па раману, чалавецтва пайшло далёка ў навуцы і засталося на месцы ў сацыяльным развіцці. Так не будзе!

Міхалеўскі зноў засмяяўся.

— Друг мой, табе трэба быць літаратурным крытыкам.

— Скончыўшы міліцэйскую школу? — усміхнуўся Драмака.

— У нас ёсць знаёмы — вядомы крытык. Дык бацька мой неяк даводзіў яму, што крытыка спаўзае з сацыяльных і класавых пазіцый, робіцца абстрактнай. А ў цябе моцная марксісцкая платформа. Ты навучыў бы іх, гэтых інжынераў душ.

— Не смейся, пракурор, з міліцыянера.

— Не смяюся. Агітую вучыцца, пакуль не позна.

Павел Паўлавіч цяжка ўздыхнуў.

Міхалеўскаму заўсёды хораша ў Драмакі. У сваёй новай трохпакаёвай і яшчэ пуставатай кватэры ён не адчуваў такой утульнасці, як у гэтым загрувашчаным кнігамі пакойчыку. Так хораша яму некалі было ў бацькавым кабінеце, сярод мора кніг, толькі там кнігі былі ў прыгожых шафах, за халодным шклом, а тут, у Драмакі, на самаробных паліцах, адкрытыя, і праз гэта самыя розныя кнігі, нават тыя, якія ён ніколі не чытаў, здаваліся знаёмымі, блізкімі: як бы грэлі ў асенні вечар. Але яшчэ больш грэлі размовы з Паўлам Паўлавічам. Не сказаць каб яны былі глыбока інтэлектуальнымі, але пагаварыць з гэтым чалавекам можна было аб усім — аб палітыцы, эканоміцы, юрыспрудэнцыі, літаратуры, кіно, а літаратура і кіно — гэта і каханне, і выхаванне дзяцей, і ўсе іншыя праблемы грамадства. Са сваімі памочнікамі ў пракуратуры на такія тэмы не пагаворыш.

У той вечар у Леаніда Аркадзьевіча нават трохі варухнулася сумленне, ён як бы адчуў сябе вінаватым перад жонкай, што ў кампаніі з начальнікам ДАІ яму весялей, цікавей, чым з ёй.

Пра ранішнюю размову з Батраком і пра незразумелае цьмянае адчуванне незадаволенасці сабой, якое, па сутнасці, і пацягнула яго ў

госці, Міхалеўскі зусім забыўся. Толькі калі ў сувязі з нейкім дарожным здарэннем Драмака загаварыў пра сваіх шафёраў, пракурор успомніў Батрака.

— А гэты твой лепшы шафёр з «Добрынскага» цаца, я табе скажу.

— Хто?

— Аварыйшчык, якога ты выручаў.

— Батрак?

— Але. Гусь лапчаты, як кажуць. Па-мойму, ён з тых, хто бярэ нахабствам.

— Ну не! Батрак не такі.

— Ён пачаў мяне вучыць... не спадабалася яму, што я звярнуўся да яго «грамадзянін Батрак». Прозвішча — што для маскіроўкі прыдуманае. Я, кажа, член партыі, дэпутат. З апломбам гэтак.

— А дзе вы стрэліся?

— Я афіцыйна выклікаў яго і, сам разумееш, павінен быў трымацца афіцыйна. Пракуратура ёсць пракуратура.

— З якой прычыны ты выклікаў яго?

— Ён пагражаў забіць чалавека.

— Батрак? Каго?

— Былога паліцэйскага.

— Шышку?

— Ты ўсіх знаеш? Каго ты не знаеш у раёне? Табе трэба мець іншую пасаду, раённага папа, ці што?

— Пачакай. Не жартуй. Што здарылася?

— Нічога, дзякуй богу, не здарылася. І, думаю, пасля майго папярэджання не здарыцца. Ва ўсялякім разе, я запісаў яго афіцыйнае абяцанне. Батрака. Ты чаго на мяне глядзіш такімі вачамі? Думаеш, я не разумею, што Шышка гэты... дарэчы, прозвішча яго Шышкевіч... — сволач апошняя? Але ён адбыў пакаранне. Дваццаць восем гадоў, калі лічыць і пасяленне. Гэтага, як кажуць, па завязачку хопіць за ўсе яго злачынствы. Мы ахоўваем жыццё любога чалавека. І законы. Але ў дадзеным выпадку... я ахоўваю твайго лепшага шафёра. Яго сям'ю.

— Дзе ён пагражаў? Калі?

— Шышкевіч не піша — дзе, і я не ўнікаў у такія дэталі. Якое гэта мае значэнне?

Драмака, які дагэтуль сядзеў на канапе супраць госця, падняўся і прайшоўся па пакоі, шырока, як на палубе карабля, расстаўляючы свае дужыя, трохі касалапыя ногі.

Міхалеўскі глядзеў, як у Драмакі пад спартыўнымі шараварамі напружваюцца моцна мускулы ног, ды і на плячах, на грудзях мускулы таксама як напяліся, гатовыя разарваць цеснаватую тэніску.

«Мядзведзь»,— з некаторай зайздрасцю да сябравага здароўя падумаў пракурор.

Драмака спыніўся перад госцем; звычайна спакойны твар яго выдаваў незразумелае хваляванне.

— Дарэмна ты не ўнікнуў у дэталі. Шышка гэты ехаў з Батраком, калі здарылася аварыя.

Міхалеўскі засмяяўся.

— Можна падумаць, ты лічыш, што ў любым іншым месцы пагражаць чалавеку нельга, а ў машыне можна.

— А ты такую хоць «дэталь» знаеш, што гэты гад забіў Іванаву матку, малую сястру, бабулю і, здаецца, пасля бацьку-партызана... Паліцаі падпільнавалі яго, калі ён прыйшоў на магілы сваіх...

Не, ён, пракурор, гэтага не ведаў. А павінен быў ведаць. Ці, ва ўсялякім разе, абавязаны быў весці размову так, каб Батрак расказаў яму пра ўсё. Але Батрак зачапіў яго самалюбства сваёй заўвагай, і ён не здолеў пагаварыць даверліва, як чалавек з чалавекам, таварыш з таварышам. Залішне ён адчуваў свой мундзір.

Толькі тут Міхалеўскі пачынаў разумець прычыну незадаволенасці сабой. Але ў справу гэтую яму належала ўнікнуць глыбей, калі не перад тым як гаварыць з Батраком, то хаця б пазней. А ён паспяшаўся «закрыць» яе.

Міхалеўскі прызнаваў свае памылкі перад самім сабой, любіў распісаць іх бацьку. Перад іншымі рабіў гэта не так ахвотна, нават перад жонкай і Драмакам.

— Гэта што — даказана?

— Кім?

— Судом.

— Не знаю, што даказана судом. Але гэта бачыў сам Іван, яму было сем гадоў.

— Я ў цябе бачыў кнігі па псіхалогіі. Ты не чытаў, як трансфармуецца факт па меры аддалення ў часе? За такое была б «вышка». За расстрэл жанчын, дзяцей... Ваенны трыбунал не ліберальнічаў.

— Маглі не ўнікнуць у дэталі...

— Не ўпікай, калі ласка.

— Я не ўпікаю. Але тады, адразу пасля вызвалення, сапраўды такіх спраў было многа. Іх судзілі разам. Агулам. Усю раённую паліцыю. Хлопец не быў на судзе. Хапала сведкаў дарослых.

— А хіба дарослыя не зналі пра такую акцыю?

— Яе праводзілі немцы, зондэркаманда. Паліцыя памагала... Івана маці схавала пад печчу. Шукаючы яго, Шышка страляў з аўтамата пад печ. Баяўся, што застанецца сведка. Паліцай быў іх суседам, і хлопец не мог памыліцца. Між іншым, падзеі, якія мы перажываем у дзяцінстве, ніяк не трансфармуюцца, яны застаюцца ў памяці такімі ж, толькі мы іх асэнсоўваем інакш. Я ўяўляю, як мог асэнсаваць Батрак трагедыю свайго маленства, калі вярнуўся віноўнік. Паспрабуем паставіць сябе на месца Батрака.

У пракурора расла незадаволенасць сабой, але разам з тым з'явілася і раздражнёнасць ад таго, што гаварыў Драмака, ці, можа, ад таго, як ён гаварыў. Быццам усё ведае, усё чуў і цяпер робіць аналіз, тыцкае ў яго памылку, павучае, як студэнта. Скажы, калі ласка, які прафесар! Скончыў два «універсітэты» — школу сержантаў у арміі і міліцэйскую школу.

— Ты што, даказваеш права Батрака на самасуд? Я, можа, ўратаваў яго ад самага страшнага.

— Не, я не даказваю такога права. Але мне расказвалі, як Батрак выступіў на партыйным сходзе. Гэта быў крык душы.

— Можна зразумець яго крык душы. Але я паўтараю: наш з табой абавязак — ахоўваць жыццё кожнага чалавека. І захоўваць законнасць.

— Ты так гаворыш, быццам я супраць законнасці. Не. Я — за законнасць. Але менавіта таму я не хачу, каб справа закончылася тваім папярэджаннем Батраку, тым больш што, як я зразумеў з твайго расказу, размова ў вас атрымалася з перакосам. Між тым Батрак не такі, павер мне. Я хачу, каб ты змяніў думку пра яго, а ён — пра цябе.

— Мне ўсё роўна, што ён думае пра мяне.

— Дарэмна, Леанід Аркадзьевіч. Дарэмна, Вось у гэтым твая галоўная памылка — ігнарыраваць думку людзей... Чыя думка табе дарагая? Начальства?

Пракурор пачырванеў. Зноў гэты народнік злавіў яго на слове. Сапраўды ён ляпнуў не тое. Але няўжо ў сяброўскай размове трэба ўзважваць кожнае слова?

Драмака зразумеў, што сябра пакрыўдзіўся; гэтую яго слабасць — інтэлігенцкую ганарыстасць — ён даўно адкрыў у пракурора і раней далікатна абыходзіў яе, каб не зачапіць. Але гісторыя з Батраком, думка Міхалеўскага пра Івана як пра магчымага забойцу моцна ўсхвалявала. Яму было крыўдна за добрага чалавека, лепшага работніка, яго грамадскага памочніка. Але калі раней, пачуўшы пра партыйны сход у «Добрынскім», пра Іванава выступленне, начальнік ДАІ не

падумаў, што зварот паліцая можа прывесці да новай трагедыі, то цяпер ён бадай згаджаўся з пракуроравай перасцярогай. І яму, чалавеку, які бачыў нямала смерцяў на дарогах, зрабілася страшна. Яго раптам абурыла, што Міхалеўскі гаворыць пра гэта так абстрагавана, з прафесійнай абыякавасцю і ўпэўненасцю, што, пагаварыўшы з Батраком, ён зрабіў усё, што яму належала зрабіць па абавязку службы. Па абавязку... Не! Тут трэба рабіць не па абавязку, а па чалавечаму сумленню! Але што? Пракурор не баіцца памыліцца? Але гэта якраз той выпадак, калі памыліцца нельга, калі памылка можа паламаць, скалечыць жыццё добрых людзей.

Міхалеўскі глянуў на гадзіннік і сказаў:

— Засядзеўся ў цябе. Лена, знаеш, раўнуе. Сапраўды, мы — эгаісты. Жанчыне трэба ўвага.

Драмака падумаў: «Непрыемная табе гэтая размова. Але я не магу так спыніцца. Тут так нельга: пагаварылі, пабавілі час — і разышліся. Ты — да жонкі, я — да Азімава. Не. Тут нешта трэба рабіць».

Ён зноў спыніўся перад Міхалеўскім.

— Ты прабач. Я не вучу цябе... Я прашу... знаеш, што зрабіць?..

— Што?

— Запатрабаваць судовую справу Шышковіча. І паглядзець: што там у абвінаваўчым заключэнні? Ці ўсе яго злачынствы выяўлены?

Міхалеўскі зморшчыўся.

— Справа амаль трыццаціпяцігадовай даўнасці. Хмару архіўнага пылу трэба падняць.

— Хіба не чытаў ты пра працэс над карнікамі мінскага гета, Хатыні? Некаторыя з іх таксама былі асуджаны і адбылі пакаранне, але, як высветлілася, не за галоўнае злачынства.

— Я не толькі чытаў, я прысутнічаў. Мой бацька...— але, мабыць, палічыў нясціплым спасылацца на бацьку і, напэўна, каб скончыць размову, якая залішне зацягнулася і часам рабілася непрыемнай, паабяцаў: — Добра, я параюся.

Драмака не адступіў:

— Леанід, дарагі. З кім раіцца? Ды і няма калі. Трэба дзейнічаць, калі ты хочаш памагчы Батраку не на словах.

— Можна надумаць, што гэты Батрак — твой сваяк.

— Сваяк.

— Сур'ёзна.

— Ён мой таварыш і брат.

— А-а,— і пакрыўджана падумаў: «Не многа ў цябе інтэлігентнасці, кніжнік. Сячэш ты па вачах, брат і таварыш».

Па дарозе дадому — ішоў пехатой, каб прагуляцца перад сном,— Міхалеўскі самакрытычна аналізаваў і сваю размову з Батраком, і — не мог не згадзіцца — даволі цвярозыя разважанні Драмакі, і яго нечаканую прапанову. Умеў ён узняцца над сваім самалюбствам, ганарыстасцю, дробнымі крыўдамі, скінуць іх, як лішні баласт, што замінае аналізу ўласных учынкаў.

Спачатку ён унутрана запярэчыў супраць таго, каб запатрабаваць справу Шышковіча. Па-першае, атрымаць такую справу, відаць, не так лёгка, прыйдзецца пісаць нямала папер з тлумачэннем прычыны. Якой? Па-другое, яму, маладому чалавеку, выхаванаму ў зусім іншых умовах, здавалася залішняй жорсткасцю караць чалавека двойчы, чалавека ўжо старога, хворага: Шышкевіч піша пра гэта ў сваёй заяве на яго імя. Тэрмін даўнасці не распаўсюджваецца на ваенныя злачынствы — гэта ён добра ведае. Але ёсць нейкае іншае, чалавечае, ці што, вымярэнне даўнасці. Трыццаць пяць гадоў? Яго не было яшчэ на свеце, а ён ужо лічыць сябе немаладым чалавекам. Над такой даўнасцю нельга не задумацца.

Нарэшце, трэцяе, суб'ектыўнае, але не менш істотнае: з усіх відаў сваёй разнастайнай работы ён больш за ўсё не любіць чытаць судовыя справы — пратаколы допытаў, абвінаваўчыя заключэнні, прыгаворы, часам напісаныя не вельмі пісьменна і юрыдычна, і граматычна, што яго асабліва раздражняла. А тут ён уявіў, якая можа быць справа суда над паліцэйскімі — тысячы старонак! — і ўсё гэта трэба прачытаць самому, нікому з памочнікаў не даручыць. На гэты яго недахоп — нелюбоў да чытання спраў — указваў яшчэ бацька: «Даследчык ты неглыбокі, дысертацыі не напішаш». Ён не пярэчыў, згаджаўся з гэтым, бо пісаць яму сапраўды не хацелася. У яго другія якасці — добры апаратыўны работнік; сакратар райкома выказаў задавальненне маладым пракурорам, а пра папярэдніка сказаў: «Разумны быў дзядзька, граматны, але кабінетчык».

Што пра яго падумаюць, калі заняўшыся справамі, якія даўно сталі гісторыяй, ён запусціць аператыўную работу?

Але паступова думкі Леаніда Аркадзьевіча пайшлі ў іншым напрамку. Быў позні вечар. Пасля дажджлівых дзён распагодзілася. Лёгка падмарозіла, падсушыла. Неба было глыбокае, чорнае, зоркі пазімоваму буйныя, іх не засцілі нават вулічныя ліхтары, праўда, гарэла іх не многа — гарсавет эканоміў энергію. Было ціха, горад засынаў. З дзённых шумаў застаўся хіба віск тармазоў таксі, удзень на іх не звяртаеш увагі, а ўначы гэты віск проста палохае: здаецца, здарылася аварыя, няшчасце. Не, нічога не здарылася, гэта манера таксістаў так рэзка тармазіць. Ды і гукі ўвечары больш выразныя. Вунь — як за

многа кварталаў чувацьǃ — голасна ляскаюць абцасікі нейкай модніцы, якая, напэўна, бяжыць са спаткання.

Прагуляўшыся, Міхалеўскі скінуў стомленасць, ап'янеў ад марознага паветра, узбадзёрыўся. І тады падумаў: а чаму не даказаць бацьку і ўсім іншым, што ён можа ўсё — і даследаваць, і развязаць складаны вузел, прыняць любое рашэнне? А раптам Драмака мае рацыю — тады не да ўсяго дайшлі, не ўсё інкрымінавалі гэтаму Шышковічу? Можа здарыцца, што ён, малады пракурор, пачне гучны працэс, пра які загаворыць прэса, ён выступіць на ім галоўным абвінаваўцам. Каму не хочацца славы?

Жонка не спала, ляжала ў ложку і пры цьмяным начніку, каб святло не разбудзіла сына, чытала Тургенева.

Раздзеючыся, ён шэптам (зноў жа каб не разбудзіць малога), даволі эскізна, без дэталяў, расказаў ёй сутнасць справы Батрак — Шышкевіч, пра сваю размову з Драмакам і пра яго прапанову.

— Як думаеш, варта заняцца? Мыльнай бурбалкі не будзе?

Яна апусціла кнігу на грудзі і слухала, здаецца, зацікаўлена. Але пасля яго запытання закрылася кнігай і адказала:

— Парайся з бацькам.

Ён не зразумеў — сур'ёзна яна сказала ці з іроніяй, бо не бачыў яе твару, вачэй. Ведаў, што да бацькі Лена таксама яго раўнуе, кпіць, што, апроч частых тэлефонных размоў, ён піша старому пісьмы, хоць больш нікому не піша; ёй, калі была на курорце, ніводнага не напісаў — слаў тэлеграмы.

У пасцелі ён прыйшоў да думкі, што Лена адказала са здзекам, і яму зрабілася да горычы крыўдна, ён доўга не мог заснуць, але ўжо думаў не пра Батрака і Шышковіча, а пра свае адносіны з жонкай. Складаныя яны, нягледзячы на знешні спакой і лад.

19

— Не, у мяне такі не выходзіць з галавы, чаго ён папісаў пракурору. Спужаўся?

— Канечне, спужаўся. Спі, калі ласка, не думай. Зноў прачнешся ў чатыры і не заснеш. Які ты работнік будзеш?

— Работнік я ўжо няважны.

— Ды не заводзься ты. Чым жа ты паганы работнік?

— Я пачаў баяцца машыны

— Сваёй?

— Сваёй і чужой. Я многа думаю за рулём.

— Ды плюнь ты на гэтага гада.

— Я хачу плюнуць. А ўсё роўна думаю. Ты кажаш — спужаўся? Яй-богу ж, не помню, штоб я пагразіў, што заб'ю яго. Не было ў мяне гэтага ў галаве. Я сказаў, дзе я быў тады, гэта помню. Гэтага ён, канечне, спужаўся. Але, знаеш, пра што я сёння падумаў: не ад страху напісаў ён. Ён ўсё прайшоў — ваду, агонь, медныя трубы. Усе законы знае, можа, лепш за таго пракурора. Ёсць у яго які́сь разлік. Наперад закідае, бандзюга.

— Куды ён можа закінуць? Каму?

— Не кажы. Такі пралаза! Да Кананка ж пад'ехаў. І да Лукашова.

— Качанок гэта доўга будзе помніць.

— Кароткая ў яго памяць. Сёння на складзе быў вясёлы, як імяніннік. Па плячы мяне ляпаў. На ордзен, кажа, цябе, чорта, падаём, а ты ўсё недавольны. Усё роўна як ён адзін выдае іх, ардзяны. Лёгка жывецца такім, як Качанок. З яго — што з гуся вада.

— Клава кажа, што на людзях ён такі — усякі раз вясёлы. А дома, кажа, бывае, хмарай ходзіць. Давай будзем спаць, Ваня.

— Спі. Калі ты спіш, тады і мяне цягне на сон. Ты ціха спіш, як дзіця, толькі губамі цмокаеш. Цалуеш каго ў сне, чы шчо?

— Цябе.

Тася ціхенька засмяялася і пагладзіла мужа далоняй па калючай шчацэ.

Іван пацалаваў яе ў плячо.

Абое прытварыліся, што спяць. Аднак заснуць не маглі, кожны думаў пра сваё.

У Івана сапраўды колькі дзён не выходзіла з галавы размова з пракурорам. Спачатку Шышкава скарга здзівіла да ашаламлення. Усяго ён чакаў ад гэтага ваўка. Але каб паліцай сам пісаў у пракуратуру! Сам выдаваў сябе, сваё мінулае. Здзіўленне было настолькі моцнае, што на нейкі час нават прытупіла боль памяці, так Іван называў свае душэўныя пакуты, што пачаліся са зваротам Шышкі. Тут было ўсё: ён зноў, другі раз, са сталым розумам, сілай і ранімасцю дарослага чалавека, бацькі, перажываў трагедыю, якую перажыў у маленстве. Да гэтага перажывання далучылася цяжкая душэўная мука, што ў шчасці ён забываўся на маці, на Аньку, на бацьку і не ўсё зрабіў, так здавалася яму, хоць ён і не ведаў, што можна зрабіць яшчэ для таго, каб яны заўсёды жылі ў памяці яго дзяцей, усіх людзей. Раны гэтыя балелі асабліва моцна ад таго, што іх паліла нянавісць да Шышкі і студзіў мароз уласнай бездапаможнасці, разгубленасці. Безумоўна, прыходзіла думка аб помсце, але ён не мог прыдумаць яе, помсту, ад чаго таксама пакутаваў,— тут помста павінна быць аса-

блівая, якую не ведаў свет. На забойства ён не мог пайсці, аб тым, каб пазбавіць Шышку жыцця, ён ні разу не падумаў, забойства не прымалі яго розум, сэрца, уся яго натура. І калі, магчыма, пагразіў паліцаю ў машыне — сапраўды не помніў, якія словы сказаў, бо задыхаўся ад гневу і нянавісці, у галаве яго памутнела і ў вачах стаяў туман,— то сказаў гэта, пэўна, таму, што іншых слоў не было, іншай помсты ён не знаў і не знае.

Цяпер яму не хацелася, каб боль прытупляўся. Пакуль Шышка побач, пакуль ён ходзіць па зямлі, ён павінен жыць, яго боль. А можа, ён цяпер вечна будзе ў ім? Рабілася сорамна, калі ўспамінаў, што быў час, калі ён жыў без яго, без гэтага болю. Жыла проста памяць, але балела яна толькі ў лесе, у партызанах, ды ў дзіцячым доме. Але той дзіцячы боль — хіба яго параўнаеш з цяперашнім?

Жыццё даецца для радасці, для шчасця. Чалавек павінен адольваць любы боль. Нядобра гэта, што яму захацелася, каб боль застаўся навечна ў ім. Навошта? Але як пазбавіцца ад яго цяпер?

Цяжка было і ад таго, што, акрамя жонкі, ён нікому не сказаў аб размове з пракурорам. Не мог сказаць. Людзі падумаюць: калі спалоханы Шышка напісаў ажно пракурору, то, відаць, ён, Іван, сур'ёзна такі прыгразіў, інакш падумаць нельга. Большасць, безумоўна, зразумее яго і не асудзіць. Але самога яго аблівала халодным потам ад думкі, што добрынцы, суседзі яго, таварышы па рабоце, можа, нават Астаповіч, паверыць, што ён здольны забіць, і што, магчыма, нехта будзе чакаць гэтага, як спектакля якога, сенсацыі. Пойдуць размовы, шэпты, здагадкі. Дойдуць да Карнея, да Валі. Божа мой, каб дзеці паверылі, што іх бацька можа забіць чалавека! Не, ніколі, ніколі ён не заплямiць такой помстай ні сябе, ні дзяцей сваіх!

Павестку ад пракурора паказаў Шчэрбу, і зацікаўлены Хведар чакаў на машынным двары, пакуль ён не вярнуўся з горада.

— Што пракурор? Пра лес пытаўся?

Трактарыст Халяўка прадаў на шашы ўкраінцам бярвенне, якое вёз з лесу. Аферу падгледзеў камсамольскі дазор. Справа пайшла ў пракуратуру. Шчэрба з заўсёднай сваёй шчырасцю прызнаўся, што ён у той дзень добра выпіў з Халяўкам, выходзіць, за крадзеныя грошы. Механізатары кпілі з Хведзькі, што, маўляў, прыйдзецца яму дзяліць адказнасць, і ўстрывожаная Люба выдавала свайму бесталковаму мужу «двайную порцыю», з гэтага таксама кпілі — хлопцам абы пасмяяцца.

У любы іншы час Іван, напэўна, падражніў бы Хведзьку, той сам даваў зачэпку. Але цяпер было не да жартаў.

— Не, не пра лес,— і, убачыўшы, што той чакае — з-за чаго ўсё ж выклікаў пракурор, памкнуўся быў сказаць праўду, але тут жа схамянуўся, упершыню ўдарыла ў галаву: скажы — людзі паверацць, што ён пагражаў, Хведар чалавек бяскрыўдны, але балбатун, пад чаркай можа нагарадзіць такога...— Усё той жа маёр.

— Што ён хоча ад цябе?

— Кампенсацыі.

— З яго мала трыста рублёў?

— Выходзіць, мала,— было брыдка, што нагаворвае нпа невінаватага чалавека.

— Жывадзёр ён! Я з ім, змеем-гарынычам, пагавару! Дай адрас.

Іван крыва пасміхнуўся.

— З адным ты пагаварыў ужо.

— З кім?

— З Шышкам,— Іван некаторы час, таячыся нават ад Тасі, спадзяваўся, што калі-небудзь п'яны Шчэрба пагаворыць з Шышкам так, што таму не захочацца заставацца ў Добрынцы.

Шчэрба, можа, упершыню збянтэжыўся перад Іванам, паскроб патыліцу, ссунуў заечую шапку на вочы.

— Пагавару, Іван. Я да яго такі дабяруся! (Пільную ён абарону, падла, заняў. Абкружыўся, як мінамі, старымі ведзьмамі. Знаеш, мая тройчы праклятая мной цешча ходзіць да яго на малітвы. Святым абвясціў сябе. Раскаяўся, грэшнік... Ну, цярпенне маё лопне!

Іван з сумнай іроніяй успомніў кпіны механізатараў: Хведзька баіцца толькі аднаго чалавека — цёшчы. Але ашаламіла яго іншае: да Шышкі пацягнулася жанчына, муж якой загінуў на фронце. Пліска, Кудлачыха — дурныя бабы, яны ніколі не вызначаліся розумам. Мапінаўка — рэлігійная фанатычка, Аўдоцця Лампадка — дачка кулака, яна і ў вайну нюхалася з паліцаямі, за кухарку ў іх была. Але каб Шчэрбава цешча, жанчына хоць і сварлівая, але недурная, працавітая, справядлівая — нікому не баіцца праўду ў вочы сказаць, самаго Астаповіча неяк секанула на сходзе, што, маўляў, занадта ён добранькі, а таму распусціў такіх п'янюг, як яе зяць... Каб такая знайшла сабе духоўнага настаўніка ў забойцу! Што ж гэта робіцца?

Іван злосна падумаў пра Забаўскага:

«Куды ж ты глядзіш, таварыш парторг? Галовы круціш маладзенькім дурнічкам? Раманы пішаш? Ну пачакай! На другім сходзе пух з цябе будзе ляцець».

А можа, сам ён робіцца падазроным і злым? Падазрае нават Тасю: здалося, што яна астыла да яго перажыванняў, бадай, толькі здзівілася, што Шышка напісаў пракурору. А хіба сам ён не здзівіўся?

Што ён, нарэшце, хоча ад людзей, якія не перажылі таго, што перажыў ён? Тым больш ад людзей, якія вайну толькі ў кіно бачылі?

Тася прытварылася, што спіць. Аднак ён чуў па яе дыханні, што не спіць. Пра што яна думае? Чаму не гаворыць яму пра свае думкі? Раней у іх жыцці не было нічога, чаго б яна не гаварыла яму: кожная думка, кожная трывога, кожнае меркаванне, жаданне, радасць і боль — усё ў іх было агульнае. Але хіба мала ў чалавека можа быць думак такіх, якія цяжка перадаць нават і самаму блізкаму чалавеку? Хіба ён усё расказвае ёй, напрыклад, пра сваю работу, пра тыя хваляванні, турботы ці, наадварот, рабочыя радасці, якія бываюць кожны дзень? Проста іх усе і не ўспомніш пасля. Між іншым, Тася пра свае медыцынскія справы расказвае больш. Ён лічыць, гэта таму, што яна ўвесь час з людзьмі, з жанчынамі, з дзецьмі, з іх болем і бедамі, а ён — з машынай і матэрыяламі. Што раскажаш пра машыну ці пра тых бычкоў, якіх ён сёння завёз на мясакамбінат?

Таіса Міхайлаўна сапраўды думала пра іншае. Пра дачку, пра яе замуства. Злосці на Валю за тое, што пазвала іх «старымі абухамі», хапіла на якую гадзіну, а пасля смяялася з гэтага, і ёй карцела расказаць Івану, каб пасмяяцца разам. Але трохі баялася, што ён не зразумее, не засмяецца і, чаго добрага, узлуецца на Валю і яшчэ мацней настроіцца супраць Забаўскага. А ёй усё больш і больш хацелася, каб у Валі і парторга не разладзілася, каб ён ажаніўся з іх дачкой. У адным Таіса Міхайлаўна была ўпэўнена: Івана яна ўгаворыць, не было яшчэ так, каб не ўгаварыла. Праўда, ён моцна змяніўся пасля звароту гэтага праклятага паліцая. Але якраз можа здарыцца, што Валіна замуства, падрыхтоўка да вяселля — а яго Тася планавала з шляхецкім размахам, каб шумела паў-Гомельшчыны ды яшчэ чвэртка Случчыны,— збліжэнне з Забаўскім ускалыхнуць Івана — вясёлы ж чалавек быў, спявак! — адцягнуць ад цяжкіх думак.

Дні тры назад Таіса Міхайлаўна сустрэла Забаўскага на вуліцы. Ішлі насустрач. Павіталіся, як заўсёды. Але калі размінуліся, яна не вытрымала — азірнулася, і ў гэты ж міг азірнуўся ён, і абое яны, што па камандзе, спыніліся і нейкі момант глядзелі адно на аднаго, хоць яна разумела, што на вуліцы гэта недарэчна, абавязкова якая-небудзь цікаўная баба падгледзіць у акно і невядома што падумае.

Таіса Міхайлаўна пайшла да яго, быццам раптам успомніла, што ў яе ёсць пільная службовая справа. Аднак у той міг яна не ведала, што скажа парторгу, ад хвалявання ў яе адняло голас і памлелі ногі — усё роўна як ёй самой належала пасватацца.

— Як жывецца, Аляксандр Пятровіч?

Забаўскі яўна здзівіўся такому нечаканаму пытанню.

— Добра.
— Што гэта вы не заходзіце?
Ён збянтэжыўся, не ведаючы, што адказаць.
— Дзякую за запрашэнне.
— Хіба вам не хочацца пагаварыць са мной?
Тут — адзначыла Таіса Міхайлаўна — чалавек узрадаваўся, твар яго з афіцыйна строгага зрабіўся добрым, мяккім, асвятліўся ўсмешкай.
— З вамі? Вельмі хочацца мне пагаварыць з вамі.
«Баіцца Івана»,— падумала яна і з хітрым жаночым выклікам спытала:
— Дык чаго ж вы?
Яны стаялі непадалёк ад саўгаснай канторы, і ён глянуў туды і прапанаваў:
— Давайце зойдзем да мяне... пагаворым.
«Во бюракрат, а яшчэ пісьменнік»,— хацелася засмяяцца Таісе Міхайлаўне, але яна толькі пасміхнулася і дакорліва паківала галавой.
— Няўжо я да вас павінна ісці? Ды яшчэ ў кантору.
Забаўскі зноў збянтэжыўся, ажно загарэўся яго твар.
— Прабачце, Таіса Міхайлаўна.
— Дык заходзьце.
— Абавязкова прыйду.
Ехаў на веласіпедзе паштальён, пазваніў, Забаўскі саступіў убок, але так, што ёй здалося: падскочыў ад радасці, і яна, каб не засмяяцца — таксама ад радасці,— павярнулася і пайшла сваёй дарогай, але нейкі час адчувала, што ён стаіць і глядзіць ёй услед.
У той жа дзень яна напісала Валі. Прабрала дачку за дурную запіску, але дала зразумець, што бацька пра яе не ведае, і яшчэ, не адкрыта, праўда, а намёкам, паміж радкамі, паведаміла, што яна не супраць іх шлюбу, упарціцца бацька, але калі яны не будуць блазнюкамі, не будуць называць іх абухамі, ды яшчэ старымі, а праявяць разумную настойлівасць, то бацьку можна пераканаць.
Ведала, што на другі дзень Забаўскі не прыйдзе. Абавязкова параіцца з Валяй. Але прайшло тры дні. За той час мог не толькі пазваніць, але і з'ездзіць, свой жа «Масквіч», сам за рулём. І калі не заўтра, то паслязаўтра, у суботу, з'явіцца. Магчыма, прыедзе Валя. Напэўна прыедзе. А яна ўсё яшчэ ніяк не можа пагаварыць з Іванам. Усё ў яго другія турботы. Няўжо ён не думае пра дачку? Ні разу пасля яе ад'езду не загаварыў пра Валіна замуства, быццам лічыў, што ўласнай нязгодай, непрыняццем Забаўскага ў ролі жаніха адразу і назаўсёды скончыў з гэтым пытаннем. Таісу Міхайлаўну проста па-

лохала такое яго зацятае маўчанне. Не пазнае чалавека, з якім жыве дваццаць другі год. Ці даўно дзеці, іх справы, клопаты, поспехі і няўдачы, іх будучы лёс былі пастаяннай, бадай штодзённай тэмай іх размоў. Як жа не спалохацца маці ад такой змены ў бацькавым характары!

«Калі ты думаеш, што мы так проста адступаем ад свайго, ты дрэнна знаеш нас, жанчын, дрэнна знаеш сваю жонку і сваю дачку. У Валі мой характар».

Не, адкладваць нельга. Забаўскі можа прыйсці заўтра, не чакаючы Валі. Урэшце, ёй не многа трэба, не поўная Іванава згода, не трэба згоду вырываць адразу, рызыкоўна і нецікава, трэба рыхтаваць яго спакваля, а пакуль даволі яго абяцання прыняць Забаўскага з належнай гасціннасцю. У такім разе Аляксандр Пятровіч здолее нямала расказаць і пераканаць Івана, што мае права сватацца да Валі. Сама яна не траціла час дарэмна. Прыкінула, хто мог бы ведаць, што ў яго адбылося з першай жонкай. Ага. Сябруе ён з галоўным аграномам. А жонка асілка Кузі, маленькая Ліяна, саўгасная дыспетчарка, цяжарная, напалоханая лёсам сваёй старэйшай сястры, якая памерла пры родах, часцей, чым трэба, ходзіць на кансультацыі да ўрача і акушэркі. У Кузевай Таіса Міхайлаўна выпытвала ўсё, што трэба. Сабраныя звесткі яе ўзбадзёрылі. Увогуле Ліяна, чалавек дзіўны, ні пра каго ніколі не сказала паганага слова. Пра Забаўскага яна гаварыла з асаблівай сардэчнасцю, з захапленнем. Але найбольш Таісу Міхайлаўну ўзрадавала, што дачка прафесара верыла ў талент маладога пісьменніка, прарочыла яму вядомасць, славу. Здалося, што Ліяна ведае пра каханне Забаўскага да Валі. Але гэта нічуць не знізіла даверу да таго, што расказвала Кузева, наадварот, Таіса Міхайлаўна падумала: раз Аляксандр Пятровіч раіўся з сябрамі, значыцца, намер яго вельмі сур'ёзны. А на сур'ёзны намер трэба сур'ёзна адказаць.

— Ваня, ты не спіш? — прашаптала Тася.

Іван падумаў: адказаць ці змоўчаць, прыкінуцца, што спіць, як ужо добрую гадзіну рабіла яна, нават цмокала губамі.

— Сплю,— буркнуў ён.

Тася крута павярнулася, абняла мужа. Была яна гарачая, і ад яе моцна пахла малаком. Пах гэты здзіўляў і хваляваў Івана: семнаццаць гадоў, як нарадзіла Карнея, а ўсё яшчэ здаецца яму, што яна корміць дзіця. Тася смяялася, казала, што пахне так таму, што памагае маладым парадзіхам сцэджваць малако, каб не хварэлі на застойныя масціты. Але ў апошнія гады бывае, што два-тры месяцы няма ніводных родаў, аднак Тася ўсё роўна пахне сваёй маладосцю, пасля лазні нават мацней.

Іван падумаў, што ён даўно ўжо не чуў гэтага знаёмага паху, і бадай узрадаваўся, што зноў чуе яго.

— Не трэба. Спі.

— А калі гэта любоў, Ваня?

— У каго? — здзівіўся ён, падумаўшы, што Тася надумала даказваць яму сваю любоў.

— У Валі і ў яго... Сашы.

Іван расчаравана адхіліўся ад жонкі, адсунуўся на край ложка.

— Зноў ты за сваё?.. Любоў, любоў... Толькі любоў табе ў галаве! — І хмыкнуў: — Ён для цябе ўжо Саша? Скажы ты, як параднілася! А для мяне ён слабы работнік, хлапчук.

— Раней ты хваліў яго.

— Бо добра не ўзнаў.

— І казаў — стары.

— Для Валі — стары, для пасады сваёй — малады. Аўтарытэт не той.

— А калі ў іх, як у нас з табой? — уздыхнула Тася.

— Параўнала. Як у нас! Так у іх не будзе!

Тася засмяялася.

— Ванечка, ты як дзед Назар: забыўся, што такое любоў і адкуль бяруцца дзеці.

Іван пасміхнуўся з напамінку пра дзеда: дзевяностагадовы дзед Назар прыйшоў да суседа, у якога нарадзіла нявестка, убачыў дзіця, доўга ківаў галавой і здзіўляўся: «Адкуль ета яно ўзялося?» Маленькае здарэнне тут жа абляцела сяло, безумоўна, жартаўнікі дадалі сваё, і ўсе доўга рагаталі з дзедавага здзіўлення.

Тасін выпадковы, да слова, жарт дзіўна адсек, як скальпель злаякасную пухліну, яго нядобрыя думкі і як бы вярнуў Івана да ранейшага жыцця, у якім размовы пра дзяцей, сваіх і чужых, пра тых, што толькі нарадзіліся, і пра тых, што паступалі ў інстытуты, пра тых, хто рабіў у часе канікул у саўгасе, і пра тых, хто бадзяўся з транзістарам і ў модных джынсах, займалі бадай цэнтральнае месца. Праўда, хіба можна жыць без клопатаў аб дзецях? Чаму ж яму расхацелася слухаць, што хоча сказаць Тася пра іх дачку? Нельга не лічыцца, што маці ведае больш. Цікава, ва ўсялякім разе, што яна ведае і як будзе агітаваць яго за Валіна замуства.

— Чаго табе не церпіцца выпіхнуць яе замуж?

Тася зноў падсунулася да яго, горача зашаптала ў вуха:

— Не выпіхнуць, Ваня, не выпіхнуць. Але я думаю... А калі гэта яе судзьба? Яна ж не даруе, калі мы паламаем. Ты знаеш сваю дачку.

— Да знаю.

— Ну во... Трэба, Ваня, пагаварыць сур'ёзна.
— З кім?
— З Валяй. І з ім.
— Як ета я з ім буду гаварыць?
— Ён прыйдзе сватацца. Заўтра ці паслязаўтра.
— Адкуль ты знаеш? Ці не хадзіла сама да яго сватацца?
Тася засмяялася.
— Што ты! Мне Валя званіла сягоння.
— Папругі тваёй Валі трэба даць.
— Позна, Ваня, даваць ёй папругі. Трэба было раней.

Ён пачуў у яе голасе смех, пачуў, што яна радуецца, зразумеў, чаму радуецца: сваёй цікаўнасцю, сваімі пытаннямі і сваімі такімі вось паблажлівымі словамі — «папругі даць» — ён, па сутнасці, здаўся, згадзіўся з тым, чаго спачатку рашуча не прыняў. Гэта кранула яго самалюбства, яго бацькоўскі гонар. Але ён ведаў Тасіну тактыку, яе здзіўляючую праніклівасць, уменне выбраць самы зручны момант, каб дамагчыся свайго. Незадаволенасць сабой, сваёй слабасцю растваралася ў захапленні ёю, яе разумнай хітрасцю і адначасова адкрытай шчырасцю, яе мацярынскай дабрынёй, жаноцкай ласкавасцю.

— Так што ты хочаш ад мяне? — спытаў ён усё яшчэ сурова.

— Каб ты прыняў яго, як... Ты сам знаеш, як трэба прымаць, калі чалавек прыходзіць з такой нагоды.

— Я ні на каго не гыркаў. І нікога не выгнаў з хаты. Прымай, як хочаш.

Тася змоўкла. Ёй можна было радавацца: яна дамаглася Іванавай згоды. Але радасці не было. Зноў з'явілася трывога, што ён не такі, як раней, што сваім «прымай, як хочаш» ён, па сутнасці, праявіў абыякавасць да лёсу дачкі, а гэта для яе, маці, было горка. Але яшчэ больш устрывожыла думка, што Іван сапраўды не такі, якім быў да нядаўняга часу, ён як бы аддаляецца ад яе, ад сям'і, ад іх спраў і клопатаў, замыкаецца ў сутарэнні сваіх чорных думак. Але апошнім часам і аб прычыне свайго настрою ён гаворыць усё больш і больш скупа, як бы нехаця, ва ўсялякім разе, не так, як упачатку, калі паліцай толькі вярнуўся, калі Іван сустрэў яго ў сельмагу. Толькі выклік да пракурора ўскалыхнуў, і ён тры дні ўжо так ці інакш, за снеданнем, за вячэрай, пры Карнею, і ўначы ў спальні вяртаецца да гэтай тэмы, выказваючы не столькі абурэнне, колькі незвычайнае, нейкае горкае здзіўленне, што пракурор так папярэдзіў яго.

— Гэта ў іх называецца прафілактыкай,— з сумнай усмешкай растлумачыў ён у той дзень за вячэрай Карнею.

Дарэчы, ужо тады Таіса Міхайлаўна падумала, што Іван часцей пачаў гаварыць аб гэтым з сынам, чым з ёй. І яшчэ раз парадавалася, што бацька і сын так зблiжаюцца, размаўляюць, як мужчыны, сур'ёзна, ца-даросламу. Яшчэ нядаўна Карней быў яршысты і з усіх праблем хмыкаў, акрамя хіба тых, якія звязаны з бацькавай работай, з тэхнікай. Пра яе, матчыну, работу сын увогуле пазбягаў размоў, пэўна, саромеўся яе прафесіі. А цяпер і пра акушэрства можа паразважаць. Упачатку яна нават спалохалася такой нечаканай сынавай сталасці.

А ў тую бяссонную ноч раптам цюкнула іншая думка: а ці не таму Іван душэўна аддаляецца ад яе, што яна не здолела жыць тым жа, што і ён, гэтак жа перажываць зварот Шышкі? Пасля Іванавага расказу яна, безумоўна, узненавідзела паліцая, кіпела гневам. Калі неяк Шышка прыйшоў да іх на ўрачэбны пункт і Рыма Сяргееўна ўскрыла яму фурункул на плячы і паклікала яе, Тасю, каб забінтавала, бо забінтаваць плячо ўмее толькі яна, так і доктар не ўмее, Тася, убачыўшы паліцая, ажно закалацілася ўся, выскачыла з кабінета і больш не вярнулася. Урач пасля зрабіла ёй заўвагу. Яна адказала не проста з хваляваннем — са страхам: «Рыма Сяргееўна! Не прымушайце мяне лячыць гэтага чалавека! Не прымушайце!»

Ліпская, як і кожны сельскі ўрач, усё ведала, усю гісторыю сяла, узаемаадносіны людзей, па-чалавечы зразумела сваю памочніцу і строга не ўшчувала, аднак, як урач, не згадзілася, што яна, Тася, мае права камусь не аказваць дапамогу: «Наша прафесія, дарагая Таіса Міхайлаўна, абавязвае лячыць кожнага чалавека, хто б ён ні быў. Нашы калегі на вайне рабілі складанейшыя аперацыі палонным немцам, фашыстам».

Так, Таіса Міхайлаўна ненавідзела былога паліцая, але думаць увесь час пра яго не магла. Па-першае, лічыла, што няма ў гэтым патрэбы: падумаеш, шышка! — плюнуць на яго і няхай падыхае сам, старая падла! Па-другое, замнога ў яе было сваіх спраў — такіх, якія напаўнялі жыццё радасцю,— каб сушыць душу думкамі пра нейкага гада.

## 20

Аляксандр Пятровіч Забаўскі таксама не спаў у тую ноч. Але не ад бяссонніцы. Ён не лажыўся. Працаваў, пісаў. Пісаў ён амаль штовечар, але звычайна не так позна. Сваю новую кнігу ён вырашыў зрабіць у форме дзённіка сакратара партыйнай арганізацыі саўгаса. Форма не новая, але Забаўскага захапіла. Перавага дзённіка перад працай над дакументальнай аповесцю (дзве ён ужо напісаў) заклю-

чалася ў тым, што не трэба нікуды ехаць вывучаць жыццё, знаёміцца з людзьмі, з іх справамі, а пасля сачыняць нейкі сюжэт, дыялогі, бо запісаць іх падчас кароткіх сустрэч з людзьмі немагчыма. Занатаваць жа падзеі аднаго дня, размовы з рознымі людзьмі, свае назіранні і роздум над фактамі вытворчай дзейнасці, побытам вяскоўцаў значна прасцей і, здавалася яму, цікавей — для яго цікавей пісаць і для чытача, не сумняваўся, цікавей будзе чытаць такі непасрэдны, шчыры дакумент. Безумоўна, не ўсё ляжа ў кнігу, адбор матэрыялу неабходны і пры дзённікавай форме, трэба будзе добра правеяць, каб адляцела мякіна, а пад рукой засталася горка залатога зерня. Дзённік цікавы яшчэ і тым, што прымушае аўтара пільна прыглядацца да жыцця, да людзей, слухаць іх з большай увагай, чым звычайна, запамінаць трывала, маючы на ўвазе, што ўвечары шмат з таго, што адбылося за дзень, павінна быць запісана. Праўда, гэтая яго павышаная ўвага трохі і замінае: рабочыя, сельскія інтэлігенты, безумоўна, здагадваюцца, што ён вядзе запісы, і адносяцца да яго з некаторай насцярожанасцю, асабліва ў пачатку яго работы стараліся хітра абыходзіць у размове «вострыя вуглы», і яму прыходзілася траціць немалыя намаганні, каб разгаварыць людзей, уцягнуць у спрэчку. Найбольш умела ўнікалі такіх размоў механізатары, усё збівалі на жартачкі, хітруганы, адзін хіба Шчэрба часам мог выказацца шчыра, хоць пры гэтым і блазнаваў, прытвараўся п'яненькім, а п'янаму, маўляў, мора па калена. Жанчыны былі больш шчодрыя на словы, на выказванне і сваіх радасцей, і сваіх бед; відаць, яны не думалі пра тое, што могуць папасці ў кніжку, іх мала займалі думкі пра славу. Пра гэта найбольш прыкметна турбаваліся аграномы, інжынеры, канторскія работнікі, амаль усе яны спачатку набіваліся да яго ў сябры, а пасля некаторыя расчараваліся — мабыць, страцілі веру, што могуць стаць героямі кнігі,— і, захоўваючы знешнюю дружалюбнасць, не заўсёды спрыяюць, памагаюць у рабоце, часам ён адчувае калі не дручкі, то кіі ў колах сваёй «машыны», можа нават не кіі, а каменьчыкі пад каўпаком кола: шкоды не робяць, а палохаюць, прымушаюць спыніцца і паглядзець, што ж там грукаціць. Параўнанне гэтае прыйшло ад успаміну пра свайго былога начальніка — загадчыка аддзела газеты, які набыў «Масквіча» і з якога яны, маладыя, пажартавалі: паклалі пад каўпак каменьчыкі. Машына стаіць — ціха, зрушыць з месца — грукат. Яны глядзелі з акна, як той шукаў «староннi шум», і рагаталі.

Сапраўды, камусь, магчыма, хочацца, каб ён з уключаным маторам стаяў на месцы — рабіў толькі сваю журналісцкую ці пісьменніцкую работу. Маўляў, узяў цябе Астаповіч у якасці летапісца —

пішы: усё роўна чалавек ты тут часовы. Але ён не мог згадзіцца з такой роляй. Яго рэкамендавалі абком і райком, выбралі камуністы, усяго чацвёра прагаласавала супраць, і ён стараўся сумленна выконваць свае абавязкі, апраўдваць давер'е арганізацыі. Акрамя таго, Аляксандр Пятровіч добра разумеў, што калі ён пайшоў на такое вывучэнне жыцця, то сапраўды багаты матэрыял яму можа даць не роля сузіральніка, нават самага ўважлівага, а актыўная работа з людзьмі, работа творчая, новая, незвычайная і для яго, і для ўсіх тых, хто зжыўся, змірыўся са старымі формамі і метадамі. Безумоўна, без вопыту, са сваім журналісцкім максімалізмам, ён напачатку зрабіў нямала наіўнага, магчыма, нават недарэчнага, з чаго за яго спіной пасміхаліся і інструктары райкома, і такія дзеячы, як Качанок, Лукашоў. Яго шчасце, што ўсё, што ён робіць, яго поспехі і яго наіўныя прамашкі, са спакоем алімпійскага бога прымае Астаповіч. Дырэктар — адзіны чалавек, хто загадзя ведаў, што галоўным героем кнігі будзе ён, і аднак жа ні ў чым не іграе гэтага героя, не стараецца паказаць сябе лепшым, чым ён ёсць...

А ўсё пачалося з Астаповіча. Ён, Забаўскі, малады яшчэ журналіст, толькі з універсітэта, таму самаўпэўнены і поўны ружовых надзей, гадоў шэсць назад па камандзіроўцы рэдакцыі прыехаў сюды, у Добрынку, і, як Цэзар, «прыйшоў, убачыў, перамог» — гадзіны тры пагаварыў з Астаповічам і сачыніў нарыс на два падвалы. Нарыс галоўнаму спадабаўся — напісаны смела, востра, нават дасціпна. Яго далі з працягам, у двух нумарах газеты. А потым, не адразу, можа праз месяц, не раней, супрацоўнік рэдакцыі паважанай газеты атрымаў пісьмо ад героя свайго нарыса — Астаповіча. Дырэктар саўгаса, якога ён узняў да нябёс, далікатна і тактоўна разабраў яго нарыс, не пакінуўшы, па сутнасці, ад усяго прыгожага збудавання каменя на камені: адзінаццаць пунктаў памылак, недакладнасцей, агранамічных, эканамічных, бытавых і нават псіхалагічных. Гэта быў самы сур'ёзны ўрок маладому журналісту, больш сур'ёзны, чым заўвагі старэйшых калег, разносы і бязлітасная праўка загадчыка аддзела Багацькі, сівога зубра, які з'еў на газеце зубы і які, мабыць, адчуўшы перспектыўнасць Забаўскага, маладога, энергічнага члена партыі, неўзлюбіў яго і стараўся ўсяляк прынізіць, калі не даказаць яго бяздарнасць (Забаўскі надрукаваўся ў тоўстым часопісе), то даказаць іх несумяшчальнасць і выжыць са свайго аддзела. Дзівакі яны, гэтыя старыя! Здаецца, недурныя людзі былі і раптам у пэўным узросце пачынаюць дарэмны, бязглузды, небяспечны для іх жа саміх занятак: хочуць спыніць машыну бясконцага аднаўлення, не разумеючы, што без гэтага не можа быць не толькі прагрэсу, але і самога жыцця.

У Алеся хапіла розуму і самакрытычнасці правільна паставіцца да пісьма героя, да яго заўваг. Падабалася тактоўнасць Астаповіча: не напісаў рэдактару, напісаў асабіста яму, дарэчы, слова гэтае, «асабіста» дырэктар напісаў на канверце пасля прозвішча адрасата і двойчы падкрэсліў, каб убачыла самая няўважлівая сакратарка, якая будзе разбіраць рэдакцыйную пошту.

Алесь адказаў Астаповічу доўгім і шчырым пісьмом, з большасцю заўваг згадзіўшыся, наконт адной паспрачаўся, адну ці дзве не зразумеў, таму прасіў растлумачыць. З таго часу ялы перапісваліся, не часта, але ніводзін з іх не пакідаў пісьмо другога без адказу, а пасля працяглага маўчання першым не абавязкова адзываўся ён, малады, здаралася, што і стары дырэктар падаваў голас, прытым не якінебудзь віншавальны са святам, а абавязкова ў сувязі з новым Алесевым нарысам аб сяле, аб яго праблемах, якіх заўсёды хапае, бо, пакуль вырашаюцца адны, з'яўляюцца другія. Часта перапісвацца, можа, і не было патрэбы, бо яны разы па два, па тры на год страчаліся, калі Астаповіч прыязджаў на рэспубліканскія нарады, на сесіі Вярхоўнага Савета.

Так яны сустрэліся вясной мінулага года ў фае Дома афіцэраў. Сустрэліся, здаецца, весела, жартавалі. Аднак Алесь адразу ўбачыў, што Хведар Цімафеевіч залішне ўважліва прыглядаецца да яго, а потым узяў пад руку, адвёў убок і з бацькоўскім клопатам спытаў: «Ты што збляжэў? І вочы патухлі. Нездаровіцца?»

Пранікнівы стары. Угледзеў, адчуў. Былі прычыны збляжэць. Перажыў адразу дзве драмы. Па-першае, як сказаў паэт, «разбілася любоўная лодка», а гэта, магчыма, найцяжэйшая з усіх жыццёвых драм, калі не лічыць трагедыі — смерці блізкіх. Другая, ненамнога лягчэйшая драма — у выдавецтве затрымалі кнігу, на якую ён ускладаў значныя надзеі: дакументальную аповесць аб меліяратарах, аб праблемах асушкі Палесся. З крытыкамі сваімі ён не згадзіўся, але «прабіць» не здолеў: занадта цяжкая артылерыя супраць яго была выстаўлена — два навукова-даследчыя інстытуты, вучоныя аўтарытэты і ў дадатак сакратар райкома таго палескага раёна, адкуль быў узяты асноўны канфлікт аповесці. Нарэшце, у сувязі з першай драмай прыйшлося пакінуць рэдакцыю, што таксама было ўдарам.

За абедам у кафэ Дома афіцэраў Алесь даверліва і шчыра, бадай, так не расказваў і сваім равеснікам, прызнаўся, ад чаго ён збляжэў. Астаповіч слухаў уважліва, яго кранула споведзь маладога чалавека, ён нават са смуткам падумаў, што яго дзеці, сын і дачка, бадай ніколі так не раіліся пра свае сардэчныя справы, хоць ён лічыў сябе ня дрэнным бацькам; можа, гэта таму, што ў іх ёсць з кім

пасакрэтнічаць — з маці, на якую, калі быць шчырым, сам ён узваліў усе сямейныя клопаты; непрыкметна адбылося як бы раздзяленне працы абавязкаў па прынцыпу: ты, жонка, педагог — табе клопаты пра душы, я — эканаміст, мне — пра страўнікі. Так у сям'і. А ў саўгасе яго якраз паважалі за тое, што ён, дбаючы пра страўнікі, не забываўся пра душы. Падумаў, што з чужымі лягчэй, чым з уласнымі дзецьмі. Бачыў, што «інжынер чалавечых душ» чакае ад яго хоць якой-небудзь парады ці хаця б спагады, нават не есць, стыне яго добрая адбіўная, пахучая, свежая, якую кухар, таўсцяк у белым каўпаку, прынёс сам: у Забаўскага з ім нейкія асаблівыя адносіны — на «ты». Астаповіч, якому дома рэдка ўжо давалі свініну, з'еў адбіўную з апетытам.

Спачуваць чалавеку ў бядзе — занятак абыякавых, раўнадушных. Астаповіч любіў памагаць, таму, разліўшы рэштку каньяку і трымаючы чарку, як для тосту, сказаў:

«Знаеш, што я табе хачу параіць? Перабірайся да нас у саўгас. Паработай годзік-два... Ох як табе спатрэбіцца багаж, які ты ў нас набудзеш! Гэта будзе такая скарбонка, з якой доўга можна чэрпаць!»

Алесь сумна ўсміхнуўся.

«Вы думаеце, я накапіў ганарары? Што было — аддаў былой жонцы. У адной сарочцы выскачыў, як з пажару. Мне трэба жыць».

«У якасці чалавека свабоднай прафесіі я цябе не запрашаю. Людзям будзе здавацца, што ты боўтаешся... прабач... Я цябе запрашаю на пасаду».

«На якую?»

«А гэта трэба падумаць, параіцца».

Толькі месяцы праз тры, пад восень, калі Забаўскі ўжо ўладзіўся на працу ў часопіс, прыйшло пісьмо ад Астаповіча: не перадумаў — прыязджай.

Нельга сказаць, што ён лёгка ўзняўся: меў добры тыдзень бяссонных начэй. Адны пісьменнікі (цяпер ён больш гарнуўся да Саюза пісьменнікаў) раілі, другія скептычна ўсміхаліся, трэція шчыра адгаворвалі: табе, маўляў, больш трэба літаратурная вучоба, жыццё ты пяць гадоў вывучаў як журналіст, а пойдзеш у глыбінку — на цябе забудуць, прыйдзецца спачатку сцвярджаць сябе, а табе ўжо трыццаць; каб узняцца з перыферыі, трэба мець талент Быкава ці Астаф'ева, ды яны сядзелі не ў саўгасе, а ў рэдакцыях абласных газет.

Аднак чым настойлівей адзін з новых сяброў, які прапісаў яго ў сваёй кватэры, адгаворваў ад «легкадумнага кроку», тым мацней ён пераконваўся, што не можа не паехаць, калі не паедзе — перастане

паважаць сябе, а страціць павагу да самога сябе — гэта цяжэй за ўсе тыя драмы, якія ён перажыў ужо.

Астаповіч узрадаваўся. Адразу павёз на размову ў райком: набліжаўся справаздачна-выбарны сход.

Паставіўшы мэту — за час сваёй працы сакратаром напісаць кнігу ў выглядзе дзённіка, Алесь, безумоўна, меў на ўвазе, што галоўным аб'ектам даследавання і, само сабой зразумела, галоўным героем стане Хведар Цімафеевіч, яго якасці кіраўніка, чалавека, яго вопыт, мудрасць, метода працы. Але напачатку Астаповіч амаль расчараваў. Пра яго мала што можна было запісаць. Дырэктар здаўся зусім не такім, якога ён сачыніў у сваім нарысе шэсць гадоў назад і якім уяўляў увесь час, дамалёўваўшы вобраз па кароткіх, але дасціпных пісьмах і цікавых размовах пры сустрэчах,— не тым кіраўніком, у руках якога, як вобразна кажуць, усё гарыць і на плячах якога трымаецца ўся гаспадарка.

Забаўскі бадай спалохаўся, калі ў мінулую восень (год быў удалы, ураджайны, саўгас меў высокія паказчыкі ў паляводстве і жывёлагадоўлі, добры прыбытак, стаў галоўнай гаспадаркай у вытворчым аб'яднанні па вырошчванні мясных бычкоў) Астаповіч зрабіў на яго ўражанне чалавека старога, стомленага, абыякавага да сваёй славы і да многіх спраў. У рабоце ён больш спадзяваўся на памочнікаў, чым рабіў сам,— на ўпраўляючых аддзяленняў, аграномаў, заатэхнікаў, інжынераў, эканамістаў, бухгалтараў і, безумоўна, на рабочых. Дырэктар зусім не імкнуўся ўнікнуць ва ўсе гаспадарчыя адгалінаванні; пра многія факты, якія парторгу, новаму чалавеку, з павышанай цікавасцю і ўвагай, здаваліся істотнымі ці, ва ўсялякім разе, важнымі, Хведар Цімафеевіч даведаўся ад яго, Забаўскага, часам здзіўляўся, вельмі рэдка абураўся, а ў большасці выпадкаў адмахваўся: «Разбірайцеся самі» ці «Скажы Качанку, Кузю». Праўда, пазней у Алеся з'явілася думка, што Астаповіч хітраваў, прытвараўся, што не знае тых фактаў, што гэтак ён правяраў сакратара і адначасова даваў магчымасць ва ўсім разабрацца самому і прыняць патрэбнае рашэнне без яго, дырэктаравай, дапамогі, без яго аўтарытэту, за які можна схавацца. І цяпер, больш як праз год, Алесь не выключаў, што элементы такога педагагічнага прыёму ў Астаповіча былі і ёсць. Але не яны, безумоўна, вызначаюць сутнасць Астаповічавага характару. Бясспрэчна адно: ён, малады журналіст, у той даўні гастралёрскі свой прыезд у саўгас не ўбачыў гэтай сутнасці і ў нарысе сваім стварыў вобраз не без уплыву літаратурных вобразаў старшынь калгасаў, дырэктароў саўгасаў, хоць пра апошніх пішуць радзей і бадай ніхто з аўтараў не раскрыў вельмі істотнай розніцы ў статусе дырэктара і старшыні, што, безу-

моўна, адбіваецца і на метадах іх дзейнасці. Не пазнаў ён Астаповіча і па яго пісьмах, па выпадковых сустрэчах і прадаўжаў дапісваць яго вобраз усё па тых жа літаратурных трафарэтах.

Цяпер, зразумеўшы сваю прамашку, ён, Забаўскі, стаў больш асцярожны. Праз год сумеснай працы, штодзённых сустрэч у безлічы розных, самых нечаканых сітуацый, ён не адважваецца напісаць, што дасканала вывучыў і ведае дырэктара. Астаповіч нечаканы і загадкавы.

Бясспрэчна хіба адно: першае яго, Алесева, уражанне памылковае. Астаповіч зусім не абыякавы да жыцця саўгаса, да дзейнасці яго складанага арганізма, і якраз тое, што год назад ён палічыў за слабасць,— Астаповічава сіла: вера ў людзей, у іх здольнасці і ніякага жадання каго-небудзь падмяняць у рабоце. Няхай малады работнік зробіць памылку, але павучыцца! Падбірае работнікаў ён сам, ніхто, ні зверху, ні знізу, навязаць нікога яму не можа, тут Хведар Цімафеевіч непахісны, звальняе ён рэдка, але калі ўбачыць, што нехта не цягне, то абараніць такога чалавека ўжо не можа ні прафсаюз, ні партарганізацыя, ніхто. Прытым адносіцца гэта не толькі да саўгасных кадраў, але і да тых арганізацый, якія павінны працаваць на саўгас,— да сельпо, урачэбнага пункта, школы, ПМК, лясніцтва. І гэта не ўладарнае самадурства: «Я ўсё магу». Не. Гэта высокая прынцыповасць. І мэта ў Астаповіча адна: не столькі пакараць нядбайнага работніка, колькі на прыкладзе яго звальнення выхоўваць іншых.

Карацей кажучы, не адразу ён, Забаўскі, сцяміў, што Астаповіч — не рукі і тым больш не ногі жывога арганізма, ён — яго мозг. Ён не працуе — ва ўсёабдымным да бязмежнасці разуменні гэтага слова, ён кіруе, мудра, спакойна, разважліва, з любоўю да справы і, што асабліва кранула маладога гуманіста,— з любоўю да людзей.

Астаповіч не лётае з цямна да цямна па саўгасе, як пісаў ён у сваім нарысе, не дае практычныя ўказанні на кожным полі, на таку, на машынным двары; ёсць людзі, якія адказваюць за свае ўчасткі, і яны ў сваёй галіне, як правіла, больш адукаваныя спецыялісты, чым дырэктар. Астаповіч дае ідэі і дакладна вызначае: якую з яго ідэй хто павінен выканаць; сабе пакідае толькі тыя, якія патрэбны «прабіваць» у высокіх інстанцыях яго аўтарытэтам, яго званнямі.

Не, абыякавым Астаповіч ніколі не быў і не будзе! Стомленасць? Стомленасць, безумоўна, адчуваецца. Узрост — шэсцьдзесят тры. Але і да старасці Астаповіч праяўляе пэўную мудрасць: менавіта з-за ўзросту ён вызваляе сябе ад лішняй работы, ад лішніх эмоцый і болей узвальвае на плечы маладых. Ён аднойчы так і сказаў на парткоме:

«На мяне, калі ласка, не валіце. Каму трэба, каб я хутчэй аддаў канцы?»

Магчыма, што не ўсё было няпраўдай у тым, шасцігадовай даўнасці, нарысе. Само сабой зразумела, што тады, а тым больш пятнаццаць — дваццаць гадоў назад, Астаповіч быў іншы, пра гэта расказваюць; тады само жыццё прымушала круціцца на «павышаных абаротах»: саўгас быў не той, магчымасці не тыя, дыпламаваных спецыялістаў адзін-два, усё цягнулі практыкі. Тады сапраўды дырэктар мусіў везці галоўны цяжар.

Падабалася Алесю яшчэ адна рыса Астаповічавай старасці. Будучы журналістам, ён назіраў некаторых кіраўнікоў пенсійнага ўзросту ў розных сферах і адкрываў у іх адну прымітыўную рысу, якую можна было б назваць «узроставай салідарнасцю». Калі ў такіх людзей было права самім падбіраць сабе памочнікаў, яны абкружаліся людзьмі свайго ўзросту, раўніва і падазрона ставячыся да маладых, як да канкурэнтаў, якія, маўляў, толькі і пільнуюць момант, каб спіхнуць старога і заняць яго месца.

Астаповіч сам шукаў маладых, ды не абы-якіх — самых таленавітых, і перацягваў да сябе, не баючыся, што нехта спіхне яго. Сакратар райкома ў гутарцы з ім, Забаўскім, між іншым сказаў: «Прасачы, каб дзед не пераманьваў людзей з суседніх гаспадарак. Скардзяцца на яго».

Трохі лесціла Алесеваму самалюбству (што зробіш, усе мы грэшныя): значыцца, і яго Астаповіч палічыў чалавекам здольным, патрэбным, раз парэкамендаваў на такую адказную пасаду.

Аўтар будучай кнігі баяўся, як бы ад расчаравання ў сваім герої не перайсці да празмернага захаплення ім, да ідэалізацыі, а то атрымаецца бог, а не чалавек, а таму ў апошні час больш запісваў пра яго слабасці і дзівацтвы, а іх было нямала. Калі не лічыць псіхалагічных, якія праўляюцца ў побыце, то з кіраўнічых слабасцей у Астаповіча была адна, зусім новая, народжаная, напэўна, НТР — празмернае захапленне тэхнічнымі навінкамі: усё, што ёсць у другіх, павінна быць і ў «Добрынскім»! Своеасаблівая праява самалюбства! А часам Алесю здавалася, што гэта ў старога — ад боязі ад нечага адстаць, нешта не паспець зрабіць і пры жыцці не ўбачыць. Але такая пагоня часам адрывае ад рэальнасці.

Прачытаў Астаповіч, што ў саўгасе «Гігант» уведзена АСК, і тут жа загарэўся ўвесці яе ў сябе.

Алесь да АСК нават на некаторых заводах ставіўся скептычна. Не да самой аўтаматычнай сістэмы кіравання, а да непадрыхтаванасці, каб эфектыўна выкарыстоўваць яе. Здаралася яму бачыць,

чуць ад спецыялістаў, ад сваіх калег, якія пісалі аб НТР і праблемах прамысловасці: затраты на ўвядзенне АСК мільённыя, а эфект — капеечны. Ён запісаў у дзённіку: «Магчыма, я кансерватар, невук, трапіў не на сваё месца, але, паназіраўшы работу ў саўгасе, ніяк не магу зразумець той «вялікі эфект» ад АСК, пра які гаворыць Астаповіч». Спрабаваў гаварыць з Астаповічам на гэтую тэму, але дзед як бы прапускаў усе доказы міма вушэй ці жартаўліва адмахваўся, што нават крыўдзіла. Праўда, у апошні час Алесю пачало здавацца, што дзед схітраваў перад міністэрствам, перад іншымі інстанцыямі: эксперымент, якога ён так дамагаўся, памог яму выбіць сродкі і матэрыялы для наладжвання дасканалай унутрысаўгаснай сувязі, што, бясспрэчна, вельмі патрэбна, а да поўнай АСК пачынае астываць, неяк выказаўся, што дорага каштуе ЭВМ. Найлепшы барометр такой перамены — Якаў Качанок. Калі ён перастае быць забеспячэнцам, дасталалам і вяртаецца да сваіх прафсаюзных абавязкаў, значыцца, можна лічыць, што ідэя, якой Астаповіч запаліў Качанка,— а ён загараецца хутчэй за ўсіх,— або вычарпана, высахла, як рэчка пасля меліярацыі, або ажыццяўленне яе завершана і трэба зрабіць паўзу да з'яўлення новай ідэі.

Увогуле ўсімі гэтымі Астаповічавымі ідэямі, вытворчымі праблемамі ён, Забаўскі, узрадаваны, што расчараванне яго памылковае, перагрузіў сярэдзіну свайго дзённіка. Замнога тэхналогіі. І ўвогуле яго гадавых запісаў па аб'ёму на тры кнігі хопіць.

Пачынаць кнігу з таго, што, прыехаўшы па запрашэнні даўняга сябра, ён спачатку расчараваўся ў гэтым чалавеку, як у кіраўніку,— хараша, гэта заінтрыгуе любога чытача. Вытворчасць лёгка скараціць. Трывожыла фінальная частка, дзе галоўны герой яўна адышоў на другі план, яго пачалі адціскаць іншыя людзі, іншыя падзеі, і дзе замнога ўвагі сваім асабістым перажываннямі, думкам, развагам не толькі пра справы сучаныя, але і пра мінулае, пра вайну.

Пра вайну ён пісаў рэдка, толькі калі часам трэба было даць біяграфію героя нарыса, аповесці; для яго, чалавека, які нарадзіўся пасля вайны і мае схільнасць да жанру дакументальнага, да апісання таго, што пабачыў уласнымі вачамі, пачуў сваімі вушамі, тэма вайны здавалася амаль недасягальнай, ва ўсякім разе, такой, якая патрабуе сур'ёзнага дакументальнага вывучэння, а ён не вельмі любіць корпацца ў архівах, займацца гісторыяй, яго больш вабіць жывая дынамічная сучаснасць. І раптам вайна неспадзявана — і калі! больш як праз тры дзесяцігоддзі! — уварвалася не толькі ў яго творчасць, але і ў яго жыццё, у біяграфію.

Месяцы тры назад ён запісаў у дзённіку: «Вярнуўся былы паліцэйскі. Цікава, як сустрэнуць яго вяскоўцы?

Спрабаваў узнаваць, як жа людзі адносяцца да фашысцкага паслугача. Пытаў у розных людзей. Тыя, што помнілі добра вайну, гаварылі абурана: «Гнаць яго трэба, гада!» Але актыўнага гневу, які мог бы прывесці да пэўнай, можа, нават непажаданай дэманстрацыі, Забаўскі не адчуваў.

Маладыя, пасляваенная генерацыя, увогуле пацiскалі плячамі і здзіўляліся хіба таму, што такі дагістарычны выкапень іхтыязаўр, яшчэ жывы і яму нават дазволілі вярнуцца дадому; многія, хоць і чулі пра Шышку, ведалі, што ў сяле жыве сям'я паліцая, бо хадзілі міма яго хаты, сустракалі яго жонку, дачку, аднак самога Шышковіча чамусьці лічылі даўно ў нябыце. Адзін Саша Крупнік, манцёр, зрабіў круглыя вочы: «Фу чорт! А я думаў, яго закапалі разам з Гітлерам».

Гэта ён, Забаўскі, запісаў у свой дзённік і паразважаў на тэму, што некаторай частцы моладзі, якая атрымала ўсё для сапраўды чалавечага жыцця з рук тых, хто заваяваў перамогу, здаецца, што фашызм закапалі разам з Гітлерам. Ён падрыхтаваў і прачытаў у Палацы культуры лекцыю аб тым, што фашызм жыве, у розных краінах, у розных формах, адкрыта, захапіўшы ўладу, як у Чылі, ці расце ядавітым грыбам на целе буржуазных дэмакратый, як у ФРГ, Італіі.

Дарэчы, на лекцыю гэтую сабралася значна менш людзей, чым на яго ж лекцыю, якую ён назваў «Чалавецтва XXI стагоддзя» — аб прагназаванні марксісцкай і буржуазнай навукай сацыяльных і навукова-тэхнічных пераўтварэнняў у свеце.

Якаў Качанок на яго пытанне пра Шышковіча адказаў: «Каб я судзіў, то я яго павесіў бы. Але Савецкая ўлада добрая».

Магчыма, своеасаблівае разуменне дабрыні Савецкай улады і перакананне, што ён, Качанок, увасабляе ўладу, а таму таксама павінен быць добрым, і прывяло яго да думкі далучыць лагернага сувязіста да аперацыі па доставанні дэфіцытных рэле.

Адным словам, мала што сакратара і пісьменніка зацікавіла ў сувязі са зваротам Шышкі, нічога ў яго дзённіку больш не з'яўлялася. Нават сваю размову з Шышкам ён не запісаў, бо не прыдаў ёй асаблівага значэння. З'яўлялася ў яго часам пісьменніцкае жаданне пагутарыць з былым паліцаем. Але ён адганяў яго пытаннем: «А навошта?» Раскрыцца такі тып усё роўна не раскрыецца, пісаць пра яго няма чаго, няхай будзе «закапаны разам з Гітлерам». Можа, правільна робіць народ, што закопвае яго, жывога, апускае ў нябыт. Але неяк інструктар райкома спытаў у Забаўскага: «Што гэта ў вас там за поп з'явіўся? Ты ведаеш, што багамол гэты — былы паліцай?»

Аляксандр Пятровіч мусіў прызнацца, што ён не чуў, што Шышковіч збірае старых баб на маленне. Інструктар уедліва шпігануў: «Глядзі, каб ён не займаўся ідэалогіяй лепш, чым мы з табой».

У Забаўскага было сваё, магчыма, памылковае, стаўленне да тэмы, якую называюць антырэлігійнай. Ён не прызнаваў яе ні ў літаратуры, ні ў прапагандзе, лічыў, што пісаць ці гаварыць на гэтую тэму — дарэмна траціць паперу і час. Сама рэвалюцыя, савецкі лад жыцця, НТР робяць людзей атэістамі, ужо зрабілі на добрыя працэнтаў дзевяноста, не менш; праз адно-два пакаленні чалавек, які верыць у бога, будзе музейнай рэдкасцю. Дасканала ведаў, што на антырэлігійныя лекцыі веруючыя не ходзяць, кніжак, артыкулаў, якія выдаюцца, не чытаюць. Ды і пішуць на гэтую тэму не лепшыя пісьменнікі, журналісты. Неяк знаёмы малады драматург, які піша антырэлігійныя аднаактоўкі, шчыра прызнаўся за чаркай, што не толькі не чытаў бібліі, але нават не бачыў яе, і вельмі здзівіўся, калі пачуў ад сталага паэта, кнігалюба, што той мае некалькі выданняў бібліі, на трох мовах, адно — семнаццатага стагоддзя.

Але аддзел прапаганды патрабаваў і антырэлігійнай работы, і Аляксандр Пятровіч мусіў праводзіць яе. Інструктар пляснуў яму, як кажуць, па вачах, што былы паліцай адкрыў малітоўны дом, а ён, сакратар, нават не ведае пра гэта. Таму Забаўскі палічыў сваім службовым абавязкам пагутарыць з Шышковічам, папярэдзіць яго, што калі той стане весці рэлігійную прапаганду, уцягваць моладзь, дзяцей...

Размова была кароткая. Шышка адказваў цытатамі з бібліі. Адну Аляксандр Пятровіч запомніў: «Многие говорят душе моей: «Нет ему спасенья в боге». Но ты, господи, щит предо мною, слава моя, и ты возносишь голову мою».

Паважаючы пачуцці веруючых, Забаўскі не стаў не толькі высмейваць Шышкавы біблейскія выслоўі, але і аспрэчваць іх. Яму падабалася рытмічнасць моўных інверсій, ён падумаў, што неблагія паэты сачынялі біблію, паспрабаваў перакласці тое, што запомнілася па беларускую мову і прыйшоў да высновы, што рабіць гэта нялёгка, ва ўсялякім разе, чалавеку, які не пісаў вершаў. Іншыя думкі ад размовы з Шышкам у яго не з'явіліся. Перамагла ўсё тая ж перакананасць, што пяць бабуль, якія збіраюцца на малітвы, ніякай пагоды ў такім атэістычным калектыве не зробяць. Больш непакоіла іншае: нядрэнныя работнікі, перадавыя па сваіх поглядах, якія даўно ўжо не вераць ні ў бога ні ў чорта, замнога п'юць. У гэты бок ён скіроўваў сваю сакратарскую ўвагу, але з яго антыалкагольнай актыўнасці кпяць не толькі зацятыя п'янюгі, але і тыя, хто не п'е ці, як кажуць, п'е па-чалавечы —

зрэдку, у свята, на ўрачыстасцях; кпяць нават некаторыя жанчыны: не вельмі цэнзурную частушку сачынілі, і ён чуў, як яе спявалі даяркі.

Выступленне Батрака на партсходзе было для Аляксандра Пятровіча што гром з бясхмарнага неба. Слухаў Івана і чырванеў, думаў, што кепскі ён сакратар, хоць яго і хваліць Астаповіч. Але выходзіць, што і Астаповіч, які, здаецца, ведаў усё і разумеў кожнага чалавека, не здолеў заглянуць у душу лепшаму механізатару, адгарадзіўся тэхнічнымі ды эканамічнымі ідэямі і залішне даверыў ім, маладым, штодзённую работу з людзьмі. Хацеў быў адвесці сваю кандыдатуру і напэўна адвёў бы, каб... каб не Валя. Але яшчэ больш яго здзівіла, што, выходзіць, і Валя не знала пра бацькавы перажыванні. Маючы нябедную фантазію, Забаўскі ўявіў, што творыцца ў Іванавай душы. Застацца абыякавым ён не мог па многіх прычынах і проста ад свайго неспакойнага характару даследчыка. Пачаў распытваць людзей пра мінулае і так апынуўся ў вайне. Амаль зніклі з дзённіка Астаповіч, Кузя, Качанок. Яго засялілі новыя людзі, тыя, многіх з якіх даўно ўжо няма, якіх помнілі толькі старыя, і зусім іншыя падзеі, поўныя такога драматызму, ад якога стыла кроў.

Ён раіўся з Астаповічам, як памагчы Івану Батраку. «Каб не паліла чалавека, як страшны жар хваробы, памяць пра вайну». Сам адчуў, што сказаў па-кніжнаму, можа, таму Хведар Цімафеевіч нахмурыўся:

«Ад памяці сваёй нікуды не дзенешся».

«Але да прыезду Шышкі ён жыў іншым жыццём, вы гэта ведаеце лепш за мяне. А цяпер счарнеў, гарыць чалавек. Я ўяўляю яго пакуты. Пакуты памяці — страшней за любыя іншыя».

Астаповіч амаль узлаваўся:

«Што мы з табой можам? Забіць гэтага гада?»

Па яго раздражнёнасці Забаўскі зразумеў, што дырэктар зусім не абыякавы да лёсу Батрака, што думае ён пра гэтую выключную сітуацыю не менш за яго. Праз хвіліну пацвердзіў гэта:

«Раіўся я з пракурорам, з суддзямі. Усе ківаюць на закон. Адзін Драмака абяцае памагчы. Ды што ён можа?

Адначасова Забаўскі жыў іншымі пачуццямі. І ў тую асеннюю ноч, калі сяло даўно ўжо спала, калі стары Рапях хроп на ўвесь машынны двор так, што яго не разбудзіў бы грукат трактара, каб трактар захацелі яшчэ раз украсці, калі не спалі, можа, толькі Іван і Таіса, пісаў Забаўскі не дзённік — у дзённік падзеі дня і думкі занатаваў звечара... Пісаў ён аповесць... пра каханне. Ніколі не сачыняў нічога лірычнага. Але тут амаль не трэба было сачыняць. Алесь лічыў, што ўпершыню ў свае трыццаць два гады пакахаў ён па-сапраўднаму

і што яму, чалавеку, які піша, будзе недаравальна, калі ён не занатуе гэтыя свае пачуцці, калі яны бясследна забудуцца, а што паўтарыцца яны не могуць — у гэтым не сумняваўся, такое чалавек перажывае толькі аднойчы. Уласна кажучы, пісаў ён не для чытачоў, як свае дакументальныя аповесці, не для літаратурнае славы. Для сябе. І для яе. Для Валі. Ён перажываў тое, што шмат хто перажывае ў васемнаццаць — дваццаць гадоў, калі тайна сачыняюць вершы прадмету свайго захаплення, з той хіба розніцай, што пісаў ён больш сур'ёзна, з вопытам; увогуле проза — жанр сталасці. Акрамя ўсяго іншага, яму, успамінаючы недалёкае мінулае, хацелася разабрацца ў самім сабе, у сваіх прыхільнасцях і асабліва ў сваёй першай жаніцьбе.

21

Адзін калега параіў для перадруку рукапісу машыністку з рэдакцыі часопіса, які размяшчаўся па суседству, у старым Доме друку. Характарыстыку даў інтрыгуючую: «Кулямёт, а не машыністка, браце, і не стары — навейшы, мадэрнізаваны, ззяе кожнай дэталькай. Сярод маладых другой такой машыністкі няма. Ніводнай памылкі. Смела можна здаваць у набор, не вычытваючы».

Алесь пайшоў у часопіс у канцы рабочага дня. Убачыў, што дзяўчыну гэтую ён часта сустракаў і кідаў на яе вока. Эльвіра сапраўды такі рабіла ўражанне. Высокая, стройная, з пышнай капой валасоў, праўда, залішне адбеленых перакісам, што, безумоўна, псавала іх, бо няма нічога прыгажэй за натуральны колер; у яе былі тонкія, інтэлігентныя — так вызначыў ён пры першым знаёмстве — рысы твару, псаваў хіба трохі нос, залішне завостраны, што, калі глядзець у профіль, надавала твару птушыны выраз. Але недахоп гэты, а можа, і іншыя, тануў у бяздані незвычайных вачэй — круглых, як Svіцязь, такога ж, як гэтае унікальнае возера, колеру, якому няма пэўнага вызначэння, таму што возера кожную хвіліну мяняе адценні — ад сонца, ад хмар, ад гайдання дубоў.

Эльвірыны вочы не без густу былі падсінены, і гэта мімаволі падказвала старое, як сама паэзія, тысячу разоў выкарыстанае паэтамі параўнанне іх з возерам. Аднак асляпілі яго не толькі вочы, але і тое, што, здалося яму, належыць да ўнутранага свету чалавека. Мадэрн, як сказаў сябра, ужываўся ў ёй з рабочай прастатой, сціпласцю, нават сарамлівасцю ў адносінах з людзьмі. У адзенні яе — нічога крыклівага, ніякіх цацак. Ці рукі... асабліва падабаліся яе рукі — прыгожыя, з музычнымі пальцамі, і ў той жа час рабочыя, з акуратна абрэзанымі, пакрытымі бясколерным лакам пазногцямі. Калі Эльвіра друкавала, пальцы з такой хуткасцю лёталі па клавішах,

што зліваліся ў нешта суцэльнае, незвычайнае, жывое, але цудоўнае, прыгожае; машынка ў яе не кляцала, скорагаворкай вымаўляла тэкст.

Эльвіра пачырванела, калі Алесь знаёміўся з ёй, і чырванела пасля ад кожнага камплімента, ад кожнага жарту.

Яна была адна ў пакоі. Адразу разгарнула яго папку, праверыла, ці разбірае почырк, уважліва і сур'ёзна прачытала цэлую старонку. Такая сур'ёзнасць таксама падабалася, як і яе запытанне, на якой паперы друкаваць: для першага экземпляра ў яе ёсць добрая папера, фінская. І тут жа зрабіла закладку.

Ён здзівіўся:

«Вы сёння ж хочаце друкаваць?»

Эльвіра зноў пачырванела, быццам вымушана была прызнацца ў нечым, што прыніжае яе:

«Дома ў мяне няма машынкі».

Гэта кранула Алеся. «Няшчаснае дзяўчо,— падумаў ён,— працуе вечарамі, каб сабраць, магчыма, на кааператыўную кватэру». Спачатку ён хацеў прапанаваць ёй плюнуць на машынку і на яго аповесць і пайсці з ім павячэраць у рэстаран, але разважыў, што яна можа дрэнна падумаць пра яго — адразу ў рэстаран! — і нечакана для самога сябе прапанаваў зусім іншае:

«А калі я сам падыктую? Так не хутчэй будзе?»

«Калі вы не шкадуеце свайго часу...»

«Хто пашкадуе вам часу!»

Дыктаваць яму падабалася. Хвалявала блізасць дзяўчыны. Цікава было назіраць яе сапраўды такі віртуозную работу. Больш таго, чытаючы ўголас тэкст, ён пачаў спатыкацца на агрэхах і тут жа выпраўляў іх, часам задумваючыся і даючы ёй паўзу, адпачынак. Разоў колькі яна сама нясмела, далікатна, але трапна падказвала патрэбнае слова.

Спалучылася, як кажуць, прыемнае з карысным — лёгкае хлапецкае заляцанне з сур'ёзнай рэдактарскай работай.

Яна друкавала без адпачынку дзве гадзіны і раптам, дабіўшы старонку, хоць не скончана была фраза, выняла закладку, акуратна склала перадрукаваныя старонкі і накінула на машынку чахол. Алеся трохі шпільнула такая нечаканасць — быццам пачула званок.

«Вас чакае нехта?» — ужо амаль раўніва спытаў ён.

«Тата і мама»,— сур'ёзна адказала Эльвіра, бадай, упершыню не пачырванеўшы ад яго пытання, хоць спытаў ён яўна з іроніяй. На вуліцы запрасіў-такі ў кафэ павячэраць. Эльвіра адмовілася, нават, здалося, пакрыўдзілася, ва ўсялякім разе, у словах яе Алесь злавіў нешта такое: маўляў, я не з тых, што ходзяць па рэстаранах! Яму гэта

падабалася. Ужо трохі нясмела прапанаваў падвезці дадому на таксі. Дзяўчына нечакана ахвотна згадзілася. Яна жыла на Грамадскай, на адной з тых вуліц, якія апынуліся ў цэнтры сталіцы, але выглядаюць забытым сялом — небрукаваныя, гразкія, з драўлянымі дамамі, прыватнымі, забудовы першых пасляваенных гадоў, калі франтавікам давалі лес і пазыку. Гарсавет, архітэктары баяцца гэтых раёнаў — вялікі знос, прасцей і лягчэй займаць пад новыя мікрараёны лепшыя прыгарадныя землі, якія маглі б карміць горад гароднінай; закон марксавай зямельнай рэнты высокаадукаваныя эканамісты забываюць разам са здачай экзаменаў. Не дзіва, бо доўга нам убівалі ў галовы, што яна, рэнта гэтая, народжана праклятым капіталізмам.

Алесь раней наймаў пакой у старым раёне, пасля жыў у новым мікрараёне, адкуль да рэдакцыі дабіраўся больш за гадзіну, таму часта думаў і нават пісаў аб загадках горадабудаўніцтва.

Быў верасень, прайшлі дажджы, і таксіст адмовіўся «плыць па Грамадскай»; таксістам усё дазволена: хоча — едзе, хоча — не едзе.

Прыйшлося ім адно за адным ісці па старэнькім, пабітым, паламаным тратуарчыку, там, дзе ён разрываўся, скакалі, як зайцы, з цагліны на цагліну, накіданых, мабыць, некім з тых, хто згубіў тут у гразі бот.

За высокім парканам, ля якога Эльвіра спынілася, папераджальна гаўкнуў ваўкадаў: маўляў, праходзь міма, не спыняйся!

«Даян! Даян!» — паклікала Эльвіра, загрымеў ланцуг — і сабака побач з імі, з другога боку паркана, кінуў па дошкі лапы і прывітаў гаспадыню іншым голасам — радасна гаўкнуў, пасля як бы жаласліва заскуголіў.

«Даянчык, Даянчык. Разумны-разумны. Як чалавек»,— шчасліва засмяялася Эльвіра.

Дзіўна, але тады яму, рамантыку Забаўскаму, падабаліся ў ёй і гэтая ласкавасць да сабакі. Успомніў, як казалі ў іх вёсцы: сабакі любяць добрых.

Яму хацелася пастаяць з дзяўчынай ля брамкі, гэта нагадвала тое, вясковае, роднае, што ўсе мы пазналі ў юнацтве і па чым часта тужылі ў горадзе, дзе няма калі нават памерзнуць на ветры. Але Эльвіра паспешліва развіталася.

Тады ён, не шкадуючы чаравікаў, перайшоў на другі бок вуліцы і пры святле вулічнага ліхтара агледзеў дом за парканам. Добры дом. Вялікі. Ашаляваны. Пафарбаваны ў жоўты колер. Пад бляшаным дахам. Ацынкаваная, абмытая дажджамі бляха ажно зіхацела. Свяціліся два акны з прыгожымі гардзінамі. Засвяцілася трэцяе — яе акно.

Алесю, апранутаму ў лёгкі плашчык, уявілася, як там утульна, у гэтым доме, дзе, безумоўна, напалена, пахне смачнай вячэрай, уключаны тэлевізар — па ўсім відаць, жывуць заможна.

Нехаця вяртаўся ён у другі канец горада ў свой халасцяцкі пакой. Тады ў яго быў не горшы кватэрны варыянт: малады інжынер з сям'ёй паехаў ажно ў Алжыр, у трохпакаёвай кватэры засталася старая інжынерава цешча, яе аднойчы абрабавалі, і яна дзеля бяспекі згадзілася пусціць у «свой пакой» саліднага чалавека, халасцяка, для праверкі сама прыходзіла ў рэдакцыю і паставіла ўмову: ніякіх гасцей. Пакойчык быў самы маленькі ў кватэры, уся лепшая мэбля з яго была вынесена ў гаспадарскія пакоі, засталіся старая цёшчына канапка і столік-парта ўнучкі. Кніжную паліцу Алесь купіў сам. Адным словам, жыллё — дай бог кожнаму адзінокаму. Старая адносілася да яго хораша, бо ён выконваў усе ўмовы. Але ўтульнасці не было; у верасні, калі ўначы ўжо марозіла, а паліць яшчэ не пачалі, холадна, сыра, а ў холадзе ён не можа выціснуць з сябе двух сказаў — во дурны характар! А галоўнае, праз паўгода павінны былі вярнуцца гаспадары, і яго чакалі новыя кватэрныя пакуты.

У тую ноч Алесь доўга не мог заснуць. Думаў пра Эльвіру. Але — цяпер сорамна прызнацца самому сабе — часцей, можа, чым дзяўчына, перад вачамі стаяла... мансарда, такая, якую ён намаляваў у сваім уяўленні. Крутая лесвіца з калідора. Светлы пакой — шырокае ж акно! Невысокая столь на конус пераходзіць у сцены. Усё ababіта сасновай шалёўкай, «вагонкай», ад таго і пакой — што вагон. Шалёўка не пафарбаваная, толькі прамаслена пакостам, натуральная жаўцізна дрэва, прыгожа вырысоўваецца кожны сучок, і пахне сасной — знаёмы, родны з маленства водар, які ён любіў,— бацька сталярнічаў і яго вучыў і радаваўся, што сын здольны вучань.

Ён начыніў мансарду мэбляй на свой густ: проста і прыгожа. Ах, з якой асалодай, з якім натхненнем яму будзе працавацца там! Урэшце, «бытие определяет сознание». Калі цябе акружаюць прыгожыя рэчы, ты сам робішся прыгажэйшы і пішаш прыгажэй. Вось тады ён напіша не аднадзёнку, не дакументальную аповесць, а добры раман, сур'ёзны, філасофскі!

Ён злавіў сябе на гэтых «мансардных марах», пасмяяўся з сябе, але не асудзіў, не падумаў, што такім чынам часам жэняцца... на мансардах.

Засароміла яго іншая — уяўная здрада дзяўчыне, якую, здавалася яму, ён кахаў. З Таняй ён пазнаёміўся яшчэ ва універсітэце на чацвёртым курсе. Паўтара года яны жылі марамі аб будучым. Цяжка цяпер растлумачыць, нават самому сабе, чаму яны не пажаніліся. Яго,

журналіста, які выявіў сябе за час вучобы, па заяўцы рэдакцыі пакінулі ў рэспубліканскай газеце, а Таню, біялагічку, па размеркаванні накіравалі на Віцебшчыну, у Верхнядзвінскі раён. Таня не патрабавала, як іншыя дзяўчаты, каб ён ажаніўся, і яна мела б права застацца пры мужу. Яна разумела і гаварыла пра гэта — як нялёгка будзе ў Мінску з уладкаваннем на працу. А ёй вельмі хацелася працаваць! І пра жыллё яны гаварылі. Таня радавалася, што паедзе ў сяло, у калгас, дзе для біёлага — найбольшы прастор. Не, тады, пры сустрэчы пасля апошняга экзамена, які яны, дарэчы, здалі ў адзін дзень, ён, бадай, адчуў у яе весялосці нервознасць, стоены смутак, шкадаванне, што яны мусяць расстацца,— залішне гучна смяялася, не заўсёды дарэчы жартавала. Але ў першых пісьмах са школы радасць яе, безумоўна, была шчырая: ёй падабалася ўсё — мястэчка, калгас, школа, калегі, вучні. Пасля, праўда, у пісьмах пачала прарывацца і стоеная рэўнасць — часта ўспамінала мінскіх дзяўчат,— і пэўная незадаволенасць сабой, сваім жыццём, і ім, Алесем; праўда, незадаволенасць ім, жаніхом, яна хавала за — нечакана для Тані — дасціпнымі і нават уедлівымі жартамі, асабліва ў адказ на апісанне ім «кватэрных пакут». Праз год ён паехаў да яе і прапанаваў пайсці ў сельсавет і аформіць іх шлюб, каб яны былі мужам і жонкай. Дзіўна, але Таня адмовілася, ласкава папрасіла: «Сашачка, любы, давай яшчэ пагартуем нашу любоў, каб яна мацнейшая была». Ён, дурань, нават ускіпеў, зрабіў сцэну рэўнасці, бо перад тым дзяўчына прызналася, што да яе заляцаецца галоўны інжынер калгаса. Пасля, калі вярнуўся ў Мінск, Алесю стала сорамна: як па-хлапчукоўску ён паводзіў сябе! Успомніўшы ўсе абставіны, усе словы, якія сказала Таня і ён сам, прыйшоў да думкі, што яго прапанова пайсці ў сельсавет была бестактоўнай, абразлівай для дзяўчыны: Таня не дазваляла ніякай вольнасці, а ён, ёлуп (а яшчэ лезе ў інжынеры чалавечых душ!), зрабіў сваю прапанову так, быццам яны даўно ўжо муж і жонка і толькі юрыдычна не аформілі свой шлюб.

Пасля гэтага ён стаў паважаць Таню яшчэ больш, пачаў пісаць ёй сур'ёзна і ласкава, не зважаў на саркастычныя жарты. Але, мабыць, справядліва нехта сказаў, што чыста чалавечая павага да жанчыны, захапленне, напрыклад, яе розумам, дзелавітасцю, адціскаюць ці зусім гасяць палавую любоў.

Ва ўсялякім разе, прайшло яшчэ паўтара года, двойчы ён сустракаўся з Таняй, але так і не знайшоў новай формулы «предложения руки и сердца». Кожны раз яны сустракаліся, як добрыя сябры, хоць, безумоўна, цалаваліся і чуць-чуць не даходзіла да таго, што, магчыма, без слоў, без асобых прапаноў магло б зрабіць іх мужам і жонкай.

Былі ў яго кароткія захапленні другімі дзяўчатамі, але — дзіўна! — пасля сустрэч з імі не з'яўлялася адчуванне, што ён здрадзіў Тані.

А тут не пацалаваўся нават з дзяўчынай, ды, уласна кажучы, і ў сэрцы яшчэ іскарка не загарэлася, і падумаў не пра самую Эльвіру — пра яе мансарду, а з'явілася адчуванне, што ён здраджвае Тані. Спачатку гэта здзівіла яго, пасля рассмяшыла, як мара пра мансарду.

Эльвіры ён дыктаваў яшчэ вечары тры, хоць яна сама сказала, што навучылася разбіраць яго почырк і друкавала б без яго. Але ён бачыў, што дзяўчыне прыемна яго прысутнасць, і лічыў, што не горшым чынам праводзіць асеннія вечары: не сядзець жа на адзіноце ў сваім халодным пакоі ці, наадварот, у тлумным пракураным кафэ, дзе хочаш ці не хочаш, а ў кампаніі мусіш выпіць, а гэта ён не надта любіў.

Калі аповесць была перадрукавана, Алесь разлічыўся з машыністкай па вышэйшай стаўцы, нават акругліў суму на большую. Эльвіра дзелавіта ўзяла грошы, падзякавала, але акругленне не прыняла — дала рэшту. Схавала грошы ў кашалёк, кашалёк — у кішэню штаноў, хоць мела ёмістую вышытую торбачку; не чакаючы яго запрашэння ні ў рэстаран, ні на таксі, трохі афіцыйна развіталася, ад чаго Алесю зрабілася ніякавата, быццам яго ігнаравалі. Праўда, калі прымаў сваё нечаканае, самае важнае рашэнне, ён і гэтае развітанне пасля заканчэння работы залічыў ёй у актыў.

Не бачыў Эльвіры месяц ці нават больш. Але аднойчы, позняй восенню, сустрэў яе на тралейбусным супынку пасля работы. Абое, бадай, узрадаваліся, разгаварыўшыся, нават прапусцілі колькі тралейбусаў. Ён прапанаваў Эльвіры праводзіць яе, яна ахвотна згадзілася. Зноў яны пастаялі каля яе плота, зноў яна не здагадалася запрасіць яго дадому, хоць ён намякаў на свой плашчык (яна была апранута ўжо ў футра), і зноў ён паставіў плюс: у сям'і строгія норавы.

Пасля яны зноў не бачыліся даволі доўга. З'яўлялася ў Алеся жаданне пазваніць, папрасіць спаткання, але, помнячы, як рашуча яна адмовілася ад рэстарана і кіно, ён не мог уявіць, дзе ў снежаньскія марозы можна сустрэцца.

Пад канец года ў яго была гатова новая работа — вялікі нарыс для часопіса пра рэканструкцыю «Гомсельмаша».

Як заўсёды, хацелася цалкам разлічыцца са старым годам, не перацягваць старую работу ў новы год. Рэдакцыйныя машыністкі былі занятыя, у кожнай перад святам свае клопаты, і Алесь, упэўнены, што Эльвіра не адмовіцца, тым больш што работы ўсяго на два вечары, пазваніў ёй. Яна згадзілася надзвычай ахвотна, нават паабя-

цала ўсе паўсотні старонак зрабіць за адзін дзень, бо часопіс здадзены, рэдакцыйнай работы няма.

Але ў той дзень яго чакаў навагодні і старагодні сюрпрыз — пісьмо ад Тані, самае кароткае з усіх яе пісем:

«Дарагі Саша! Хачу паведаміць табе, што я выходжу замуж. Спадзяюся, ты зразумееш мяне. Даруй. Не памінай ліхам.

Не твая Таня».

У першы міг ён проста спалохаўся, у яго балюча сціснулася сэрца, потым успыхнула пачуццё крыўды, быццам яму публічна пляснулі па твары. Праз пэўны час ён падумаў, што ўся гэтая гама пачуццяў, ад якіх кідае то ў холад, то ў жар,— страсці прыватніка, які нечакана страціў тое, што лічыў сваёй уласнасцю. Тады ён зарагатаў з самога сябе так гучна, што ажно спалоханая гаспадыня без стуку заглянула ў яго пакойчык.

«Што з вамі, Аляксандр Пятровіч?»

«Што? Што са мной? Не бойцеся, Ядвіга Казіміраўна. Проста мая нявеста выйшла замуж».

Старая пільна паглядзела кватаранту ў твар.

«Не падобна, што вы радуецеся».

«Не плакаць жа мне».

«Не бядуйце. Такога дабра — колькі хочаш. Усе яны цяпер такія».

Алесь засмяяўся ўжо зусім натуральна з такога мудрага заспакаення старой жанчыны.

На другі дзень ён дыктаваў Эльвіры свой нарыс. Настрой у яго быў усё-такі паганы пасля Танінага пісьма, на жарты, на флірт не цягнула. Ён быў больш звычайнага сур'ёзны, афіцыйны, і гэта пэўным чынам настроіла дзяўчыну, яна як бы насцярожылася ці трохі спалохалася. Чырванела нават тады, калі ён проста глядзеў на яе.

Разоў колькі Забаўскі змаўкаў на палавіне фразы, і Эльвіра бачыла па твары, што ў гэты міг думае ён не пра нарыс, не папраўляе, не рэдагуе напісанае раней, думкі яго ляцяць некуды вельмі далёка. Пасля яна прызнавалася, што ёй карцела спытаць, пра што ён так задумваецца.

Цяпер Алесь аднаўляе ў памяці, як усё адбылося. У нейкі міг, пагледзеўшы на Эльвіру, ён сядзеў збоку ад століка, падумаў, што яна прыгожая, што ў яе больш тонкія, больш інтэлігентныя рысы твару, чым у Тані, у той у абліччы — сялянская праставатасць, адкрытасць, пасталее — з'явіцца нават грубаватасць. Ён бачыў, дарэчы, Таніну маці: абветраны шырокі твар, у ім ёсць пэўная прывабнасць — для такога народніка, як ён, але наўрад ці хто назваў бы такі твар прыгожым; Таня падобная на маці і, безумоўна, стане такой жа. Карацей

кажучы, гэта была несумленная, хлапчуковая спроба зганіць тую, што дала яму адстаўку, і, накшталт гаспадыні, пераканаць сябе, што не толькі «такога дабра хапае», але ёсць многа і лепшых дзяўчат, прыгажэйшых, што Эльвіра — прыгажэйшая і мае іншыя добрыя якасці — сціплая, сур'ёзная, працавітая.

А потым у другой паўзе чамусьці ўспомнілася, як ажаніўся Джэк Лондан. Успамін гэты развесяліў, ва ўсялякім разе, адагнаў сумныя думкі.

Эльвіра заклала чыстыя аркушы, перакладзеныя капіравальнай паперай, нацэліла свае прыгожыя музычныя пальцы на клавішы машынкі. Чакала дыктоўкі. Ён маўчаў. Ён глядзеў на яе, на пышныя адбеленыя косы, на мочку вуха з залатой кліпсам. Убачыў, што вуха пачынае бранзавець, пад колер кліпсы, а на шчаку як бы ўпаў цень ад невядомага ружовага прадмета. Ён сказаў гэтак жа нечакана для самога сябе і для яе, як у свой час Джэк Лондан сваёй машыністцы:

«Віра, выходзьце за мяне замуж».

Эльвіра апусціла пальцы на клавішы — і машынка выбіла нешта накшталт музычнай гамы, а на паперы засталіся словы: «Не плач, дітя». Вельмі яна пасля здзіўлялася, чаму з'явіліся гэтыя словы, і папракала сябе, што ў трох словах зрабіла ажно дзве памылкі, ніколі не рабіла такіх памылак. Многа разоў, часам з радасным, часам з прымхлівым здзіўленнем, яна гаварыла Алесю пра гэтыя словы і, калі разышліся, успомніла іх: маўляў, калі не сам бог, то нейкае ўнутранае чуццё папярэджвала яе: «Не плач, дзіця, пасля».

Ашаломленая такой нечаканай прапановай, Эльвіра не адразу паглядзела на маладога пісьменніка. Правяла спачатку далонямі па твары, як бы сціраючы чырвань ці адганяючы сон, пасля павярнулася да яго, велічная і яшчэ больш прыгожая ў той міг.

«Вы сур'ёзна?»

«Зусім сур'ёзна. Мяне лічаць чалавекам сур'ёзным».

Не вымаючы закладкі, выключыла машынку з разеткі, як перапрошваючы, сказала:

«Я заўтра ўдзень дапішу».

Паднялася з крэсла, абцягнула жакетку, асцярожна папраўіла капу валасоў, сказала сур'ёзна, дзелавіта:

«Прыходзьце заўтра да нас».

Алесь намерваўся абняць і пацалаваць сваю нечаканую нявесту. Але такая яе дзелавітасць стрымала яго, аднак чамусьці і развесяліла.

«Адзін? Ці са сватамі?»

Тады яна па-дзявочы збянтэжылася.

«Не, лепш адзін. Калі ласка, адзін».

Яму спадабалася і гэта, усё разам,— і строгая дзелавітасць, і цнатлівая збянтэжанасць; палічыў, што крайнасці гэтыя — у адным радзе, яны вынік амаль шокавай ашаломленасці. Яму нават стала шкада дзяўчыны: зваліць на яе белую галоўку такую лавіну!

Ён узяў яе руку і, як у дваранскіх раманах, цырымонна і сур'ёзна пацалаваў.

Праводзіць яе чамусьці не хацелася. Развітаўся з нявестай каля тралейбуса. Эльвіры гэта, мабыць, падабалася: пакуль спускаліся па лесвіцы, пакуль ішлі да супынку, яна была ўсё яшчэ ашаломленая, нават адказвала неўпапад, а ўскочыла ў тралейбус і можа тады толькі ўсвядоміла сваё шчасце, расцвіла ад усмешкі: замінаючы іншым пасажырам, махала яму рукой, ажно пакуль тралейбус не пайшоў.

Алесь адзін забрыў у «Каменную кветку», упершыню, мабыць, без кампаніі, без сяброў выпіў пляшку шампанскага, гарэлкі не любіў і піў яе рэдка. Седзячы ў сумнай адзіноце і гледзячы, як на падсвечаным крузе танцуюць модна непадстрыжаныя юнакі і дзяўчаты ў джынсах, ён не думаў пра Эльвіру, ён думаў пра Таню, чокаўся з пляшкай і піў за Таніна шчасце.

Раніцою ў яго балела галава, а ў душы, як пісалі ў старых раманах, было пуста і холадна, больш пэўна — было нейкае туманнае, так і не асэнсаванае за ўвесь той дзень, адчуванне, што ён зрабіў нешта не так, такое адчуванне бывае, калі мімаволі ўліпаеш у падазроную гісторыю. Аднак Алесь заўсёды трымаў свае слова, гэтаму яго вучыў яшчэ бацька, стары лічыў, што палавіна бед, беспарадкаў, безгаспадарчасці паходзіць ад таго, што людзі не выконваюць сваіх абяцанняў, не трымаюць слова, якое даюць.

Дом сапраўды быў багаты і дагледжаны, адчувалася, што жывуць у ім людзі, якія не шкадуюць уласнай працы, чужымі рукамі такой уладжанасці і чысціні не зробіш. Праўда, абстаўлены, начынены ён быў па законах абывацельскага побыту: мэбля груваткая, рознастылёвая, і замнога яе, у буфетах, за шклом, зноў-такі больш, чым трэба для спажывання, сервізаў, шкла, крышталю. Але гэта Алеся не збянтэжыла: побыт кожнага асяроддзя мае свае адметныя рысы, і зусім не абавязкова, што такое вось накапленне рэчаў робіць людзей абывацелямі; у наш час у гэтых людзей ёсць другое жыццё — у працоўных калектывах. Акрамя таго, набыццё рэчаў стала прыкметай часу, яно ахапіла ўсе пласты, нават сялянства. Ступа, кросны, таўкач засталіся толькі ў музеях.

Заспакоіла яго, што побач з крышталём — нямала кніг, цэлая шафа, і нядрэнных, небезгустоўных.

Мансарду, пра якую Алесь некалі марыў, яму ў той дзень не паказалі, ды ён і не думаў цяпер пра яе. У той дзень яго цікавілі людзі, з якімі ён мусіў парадніцца.

Маці Эльвіры, поўная жанчына, з астматычнай задышкай і хворымі нагамі, адчыніла яму брамку (ваўкадаў пагражальна гырчаў, зачынены ў будцы), сказала прывітальныя словы, заікаючыся. Тады ён з невясёлым гумарам падумаў, што першы сюрпрыз — цешча-заіка. Але пазней выявілася, што заікалася старая ад хвалявання. Больш прыемным для яго адкрыццём чамусьці было тое, што бацькі Эльвірыны старэйшыя, чым ён думаў, хоць і ведаў, што ў яе два старэйшыя браты, жанатыя ўжо, жывуць самастойна, адзін тут, у Мінску, другі — на Урале.

З першага знаёмства спадабаўся Эльвірын бацька, Антон Антонавіч у супрацьлегласць жонцы, высокі, хударлявы, сівы, інтэлігентна апрануты — у чорную тройку, пад гальштукам, трохі старамодным. Спадабаўся сваёй стрыманасцю, памяркоўнасцю, спакоем: ён, безумоўна, не пачаў заікацца ад хвалявання. Сустрэў Алеся, як знаёмага, ніякіх пытанняў з анкеты, спытаў толькі, хто ў іх галоўны рэдактар, і паведаміў, што ён быў знаёмы з ранейшым рэдактарам. Дзе ён? На пенсіі? Прафесар універсітэта?! З разумным чалавекам, значыцца, ён меў знаёмства. Алесь не лічыў былога рэдактара і цяперашняга прафесара журналісцкім геніем, але, каб зрабіць прыемнае будучаму цесцю, пацвердзіў, што той мае вялікі розум і талент. Далей Антон Антонавіч загаварыў пра палітыку — пахваліў прэзідэнта Францыі за рэалістычнасць і асудзіў Картэра за хістанні і непаслядоўнасць у справе скарачэння стратэгічных узбраенняў. Факты і ацэнкі падзей стары бязбоязна блытаў, відно было, што чэрпаў ён іх і са свайго каляровага тэлевізара, і ад тых абывательскіх балбатуноў, якія карыстаюцца інфармацыяй розных «галасоў». Але папраўляць Алесь не адважыўся, лічыў, што гэта нетактоўна. Ды і што можна патрабаваць ад бухгалтара халадзільніка? Добра, што яго цікавіць шмат што іншае, акрамя дэбету і крэдыту.

Стол быў ужо накрыты. Закусь на ім стаяла адменная — слінкі цяклі. Але чакалі сваіх — сына з нявесткай. Тыя затрымліваліся, і маці нервавалася, хоць ужо не заікалася.

Алесь, ідучы сюды, баяўся, што на агледзіны збяруць процьму народу — сваякі, суседзі, супрацоўнікі бацькавы, Эльвірыны. Такое вузкае кола — толькі свае — хораша ўзбадзёрыла, амаль узрадавала.

Сын — Вячаслаў Антонавіч, Слава, быў нізкарослы, падобны на маці, схільны да паўнаты, і нейкі бясколерны, непрыкметны, залішне ціхі — за ўвесь вечар ці сказаў дзесятак слоў. Эльвіра расказвала пра

яго як пра здольнага аўтамеханіка. Чырвоненькі носік-гузічак, круглыя вочкі, якія загарэліся, калі ўбачылі стол, і тое, як насцярожана за сталом пазіралі на яго маці і жонка, калі ён браў чарку, выдалі паклонніка Бахуса. Але за сталом Слава ўтрымаўся ў норме, чым парадаваў маці.

Бацька яўна ігнараваў сына, амаль дэманстратыўна — ніводнага слова да яго і яго слоў не чуў, прапускаў міма вушэй, чым засмучаў маці і сястру. Але затое стары лічыўся з нявесткай, нават — заўважыў Алесь — пабойваўся яе.

Ала Іванаўна — маладзіца прывабная, у меру раздабрэлая ў свае трыццаць пяць гадоў, шумная і смелая. Рабіла яна ў гарвыканкоме, ва ўпраўленні пасажырскага транспарту; пачала з таго, што вельмі ўедліва і дасціпна разнесла «парадачкі на транспарце», ды заадно і многія іншыя недахопы гарадской гаспадаркі; ведала яна ўсіх гарадскіх кіраўнікоў і шмат каму «перамыла косці» ў той вечар.

Спачатку Алесю падабаліся некаторыя Аліны выказванні, акрамя хіба таго, што яна сказала пра яго. Але пазней, у той жа вечар, Ала пачала раздражняць: залішне часта крытыка яе пераходзіла ў мяшчанскае крытыканства. Алесь не вытрымаў і спытаў: у сябе, ва ўпраўленні, на сходах, нарадах яна гаворыць гэта?

Ала паглядзела на яго, як на блазнюка, і адказала: «За каго ты мяне лічыш, пісар?»

Пры знаёмстве яна бесцырымонна агледзела яго, павярнула, як манекен, абняла, адарвала ад падлогі — як паважыла, заключыла: «Добрага, ты, Варка, мужа сабе адхапіла. Але адкарміць яго трэба. А то маслы тырчаць. Мазалі табе натрэ»,— і зарагатала. Алесь убачыў, як успыхнула ад збянтэжанасці і абурэння Эльвіра, зрабіўся спалоханым твар у маці, але відно было, што яны баяліся нявесткі, яе языка.

Алесь любіў і разумеў жарты, цаніў у людзях дасціпнасць, але ад такога жарту яму зрабілася горача. «Адхапіла мужа». Чаму адразу мужа? Гэта запаўзло ў мозг і на працягу вечара варушылася там нечым слізкім і брыдкім, нагадвала, што яго сапраўды прымаюць не як жаніха, а як мужа. Усё ўжо, выходзіць, вырашана без яго, даволі яму было зрабіць сваю нечаканую рамантычную прапанову. Вось табе, Джэк Лондан!

Сапраўды, за доўгай вячэрай, дзе многа пілі і яшчэ больш елі, нічога не гаварылі аб яго жаніцьбе ці Вірыным (Ала ўпарта называла яе Варкай, даючы зразумець, што па метрыках яна Варвара) замустве. Акрамя хіба аднаго. Антон Антонавіч спытаў:

«Ну, а жыллёвае пытанне як вы думаеце вырашаць?»

Алесь быў захоплены знянацку, але разгубіўся не столькі ад нечаканасці, колькі ад таго, што нават Ала змоўкла, а ў Лізаветы Пятроўны зноў у вачах застыў спалох.

Антон Антонавіч, мабыць, убачыў разгубленасць жонкі, дачкі і змякчыў жорсткасць пытання лагоднай згодай:

«Канечне, пакуль што будзеце жыць у Вірыным пакоі».

Алесь адказаў:

«Спадзяюся, кватэру мне дадуць у рэдакцыі».

«Калі?» — настойліва дапытваўся будучы цесць.

«Думаю, што, сямейнага, мяне перасунуць у больш рэальную чаргу. Халасцякоў трымаюць у канцы спіса».

«У такім разе табе не трэба ў нас прапісвацца. Каб ты не меў ніякай плошчы».

Ашаломлены Забаўскі, далікатны па прыродзе, адчуў сябе ў нейкім да дурноты недарэчным становішчы. Выходзіць, яго сапраўды ажанілі ўжо і распараджаюцца, як уласнасцю,— дзе пасяліць, дзе пасадзіць, паставіць. Самае недарэчнае ва ўсім гэтым было тое, што ўсё з-за той жа інтэлігенцкай далікатнасці ў яго не хапіла духу неяк запярэчыць. Магчыма, ён запярэчыў бы, каб не бачыў, як цяжка (бляднела, чырванела, сінела) перажывае гэтую размову Эльвіра, ды і маці яе таксама.

Выручыла ўсіх Ала, сказала бухгалтару смела, амаль злосна:

«Дайце вы чалавеку спярша апомніцца ад шчасця, а потым ужо будзеце вучыць, як жыць. Ды ты, Саша, вучыся ў мяне жыць, а не ў іх,— і наступіла пад сталом яму на нагу.— Чаму старыя могуць навучыць?»

Антон Антонавіч трохі пакрыўдзіўся:

«Што б вы рабілі без старых? — Але, ці то баючыся Алы, ці то сапраўды перакананы ў сваёй нейтральнасці, сказаў: — Я, нявестачка, нікога не вучу, ты гэта знаеш. Старых законаў не навязваю. Захацеў Вячаслаў ажаніцца з табою — калі ласка. Захацела Эльвіра замуж — слова не сказаў, толькі папрасіў паказаць жаніха. Ніхто на калені перада мной не станавіўся, бацькоўскага благаславення не прасіў».

Так, гэта была адзіная размова па сутнасці справы, больш да яе не вярталіся. Але ў Алеся не знікала брыдкае адчуванне, што яго «захамуталі», як называў жаніцьбу адзін з яго старэйшых калег.

Эльвіра, праводзячы яго, адразу ж за брамкай раздражнёна сказала:

«Няхай стары жмінда не мыліцца — галіцца не будзе. Нікуды я са свайго дома не пайду. Што яму, месца мала? Такія харомы! Хопіць, што ён Славу выкурыў у каапэратыўную трушчобу. Але Ала затое

выцягнула з яго на два такія дамы, яна свайго не ўпусціць. Бачыў, як бацька яе баіцца? З ім толькі так трэба!»

Алеся ўпершыню, можа, за вечар развесяліў гэты нечакана выяўлены канфлікт паміж бацькам і дачкой. Ён не меў ніякага жадання ўмешвацца ў такі канфлікт, усялякія мары аб мансардзе канулі, як камень у ваду. Ды і ўвогуле пад канец вячэры ён вырашыў даць сабе час падумаць, паглядзець да таго, як «надзець на сябе хамут». Таму меў намер развітацца з нявестай, як учора ў рэдакцыі, па-дваранску пацалаваць руку. Але Эльвіра раптам абвіла рукамі яго шыю, пачала горача цалаваць: задыхаючыся, шаптала:

«Сашачка, мілы, даражэнькі... ненаглядны мой. Як я люблю цябе, каб ты ведаў! Як люблю! Недарэмна ў мяне адразу затрапятала сэрца, як ты ўвайшоў першы раз. Як хто шаптануў: во ён, абраннік твой, тваё шчасце. Я буду любіць цябе да смерці. Я пайду за табой на край свету».

«А з бацькавага дома ісці не хочаш»,— хацеў быў сказаць, але не сказаў усё праз тую ж сваю далікатнасць, ды і праз нешта іншае. Дзявочы парыў, безумоўна, шчыры, і проста яе такая блізасць, цеплыня вуснаў на яго астылых ад марозу шчоках уміг растапілі той тонкі лядок, якім было зацягнулася возерца яго шчырага намеру, першага пачуцця да будучай жонкі. «Не з Антонам жа Антонавічам, чорт вазьмі, мне жыць!» — падумаў ён, адчуваючы, як ток жадання яе блізасці працінае яго. Пачаў цалаваць яе гэтак жа горача.

Спачатку ўсё было добра, так добра, што ён маральна расслабіўся. Эльвіра, безумоўна, шчыра кахала і хораша па-жаночы, панароднаму клапацілася аб мужу. Упершыню пасля таго, як вылецеў з-пад матчынага крыла, ён, дагледжаны, накормлены, прылашчаны, вызваліўся ад клопатаў, якія забіралі нямала дарагога часу і, было, нават прыніжалі. У яго быў свой кут — невялікі, але ўтульны, цёплы пакой з атрыбутамі побыту самых розных сацыяльных пластоў і часоў: высокі ложак з гарой падушак, пярын, а побач — сучасная паліца, запоўненая найбагацейшым скарбам — кнігамі, набор мармуровых слонікаў — для шчасця і тут жа, на серванце , — транзістар. У дадатак ён атрымаў яшчэ і мансарду. Праўда, мансарда не такая, пра якую марыў, яна не абагравалася, але ён купіў электракамін і наладзіў там месца актыўнага адпачынку — сталярную, дзе сам майстраваў паліцы, палічкі, замест старых шпалераў абшываў сцены дэкаратыўнай рэйкай, каб да вясны зрабіць мансарду такой, якую сніў, якую бачыў на дачы славутага драматурга.

Цешча, праўда, усё яшчэ была як спалоханая нечым, усё яшчэ гаварыла яму «вы», але карміла дачку і зяця смачна і сытна; сялянскі

сын, нядаўні студэнт, ён ніколі яшчэ ў жыцці так не харчаваўся. Праўда, менавіта за снеданнем — яны выходзілі з дому з Эльвірай разам і значна пазней за старога — Алесь часам халадзеў ад думкі: як бы такое жыццё не засмактала яго!

Адчуванне, што ён улез можа ў невялікае, але гразкаватае балотца, з'явілася спакваля, месяцы за тры сямейнага шчасця. З чаго яно вынікала? Усяго і ўспомніць нельга. Гэта — як кроплі са страхі. Яны падобныя адна на адну і самі па сабе не толькі не шкодныя, але прыемныя, звонкія, а з іх накопліваецца брудная лужына, якая не дае трымаць чысціню ў хаце, больш таго, калі лужыну не адвесці, яна можа падмыць падмурак, нарабіць шкоды. Так і тут. Кропля — слова, кропля — учынак, кропля — назіранне, роздум... адна за адной... Сама Эльвіра... Цяпер ён разумее: яна ахвяра свайго асяроддзя ва ўсім — ад інтымнага жыцця да грамадскай сутнасці яе.

У ложку яна была прагная. Спачатку такая страсць цешыла. Пасля гэтая апантанасць здалася нездаровай, не так ён уяўляў адносіны мужа і жонкі; у адносінах сваіх бацькі і маці ён увесь час бачыў нейкую кранальную цнатлівасць, сарамлівасць. Эльвіра не саромелася не толькі маці, але і бацькі. Насцярожыла яе павышаная цікавасць да сексуальных праблем увогуле, пазней ён зразумеў: гэта — ад Алы, у якой не было іншай гаворкі, як на гэтую тэму, і якая спрабавала нават яго правакацыйна спакусіць. Ён, па сваёй наіўнасці і шчырасці, каб цалкам раскрыцца і цалкам даверыцца, прызнаўся ў сваіх выпадковых сувязях. І пра сваё каханне да Тані расказаў. Эльвіра да непрыемнасці падрабязна распытвала пра гэтыя сувязі, але, здаецца, даравала. А вось што датычыць Тані, то не паверыла, што паміж імі нічога не было, як ён ні пераконваў, ні кляўся. Пасля самых прыемных хвілін блізасці яна магла спытаць, як яму было з Таняй. Гэта было абразліва, брыдка, нясцерпна. Ён пачаў адказваць злосна і ўедліва, ад чаго падазронасць яе яшчэ больш расла. Яна раўнавала яго да Тані, потым пачала раўнаваць да дзяўчат і жанчын, з якімі ён сустракаўся на працы. Яна шпіёніла за ім, перачытвала пісьмы, дзённікі, аповесці і... раўнавала нават да гераінь па абсурднай логіцы: усе жанчыны, пра якіх ён піша хораша,— яго каханкі. У той аповесці, з-за якой яны пазнаёміліся, ён напісаў вобраз даяркі — разумнай, абаяльнай жанчыны. Эльвіра і да яе прыраўнавала, хоць жанчына была гадоў на дваццаць старэйшая за яго.

Часам ён кіпеў ад гэтага глупства. Але да шумнага скандалу не даводзіў, лічыў, што сталасць, разважлівасць, спакой не прыходзяць адразу самі па сабе; для таго, каб усё ўлеглося, прыцерлася, каб адбылася псіхалагічная сумяшчальнасць, пра якую цяпер так многа

пішуць, і дзяўчына, якая жыла ў бацькоўскім кубельцы, стала самастойнай жанчынай, жонкай, гаспадыняй з высокім пачуццём адказнасці за сям'ю,— для гэтага патрэбен пэўны час, для Эльвіры можа якраз немалы. Яго калегі, жанатыя не першы год, таксама скардзіліся на рэўнасць жонак, і некаторыя моцна баяліся гэтай рэўнасці. Пра таго ж Багацька расказвалі анекдоты, смяяліся, што прыдзірлівы, злосны на рабоце ён ад таго, што дома, перад жонкай, сядзіць, як мыш пад венікам.

Пасля Забаўскі неаднойчы думаў, што ў іншых умовах — каб яны жылі адны, каб не было штодзённага ўплыву бацькоў, Алы, суседак, сябровак маленства — з Эльвіры, бадай, можна было б выхаваць чалавека і жонку, не горшую за іншых жонак. Яна была бязвольная — мяккая, як гліна, і лёгка ляпілася, але для такога матэрыялу трэба адзін скульптар, а не некалькі розных. А тут скульптараў хапала... Самадзейных. Перад імі быў зусім іншы вобраз — што ляпіць, і свая метода — як ляпіць.

Цесць Антон Антонавіч спачатку забаўляў Алеся сваёй уяўнай глыбакадумнасцю, усёведаннем — пра ўсё ў яго былі свае думкі, пра з'явы бытавыя — часам па-народнаму трапныя, але часцей ён бязбожна блытаў імёны, факты і тлумачэнні многім падзеям, гістарычным і сучасным, даваў, мякка кажучы, базарныя. Пераканаць яго было немагчыма, нават у тым выпадку, калі ён малоў яўную лухту, калі, напрыклад, зусім няправільна вымаўляў замежныя прозвішчы, і Алесь паказваў яму надрукаваны тэкст. Антон Антонавіч не ўніжаўся да таго, каб спрачацца з такім блазнюком, як яго зяць, ён проста ігнараваў усе разумныя доказы, ды і самога пачаў ігнараваць: маўляў, напляваць мне, што ты скончыў універсітэт і робіш у газеце, усё роўна я ведаю больш за цябе, і не дарос ты, каб даказваць нешта мне, вучыць мяне. Гэта, відаць, спалохала Эльвіру, бо аднойчы яна пачала прасіць мужа:

«Саша, не спрачайся ты з ім. Знаеш, які ён? Ён жыцця табе не дасць».

Але, урэшце, на блытаніну і самаўпэўненасць старога бухгалтара можна было б не звяртаць увагі, каб той спакваля не рабіў спробы прышчапіць яму сваю «філасофію» — тую, супраць якой ён, Забаўскі, змагаўся з маладой палымянасцю, усёй сваёй журналісцкай і пісьменніцкай творчасцю, і лічыў, што павінен змагацца ўсім жыццём.

Было так. З'явіўся ў газеце яго нарыс з працягам, у двух нумарах. Антон Антонавіч пасля вячэры, седзячы на мяккай канапе, паміж дрымотай прагледзеў нарыс, не прачытаў — толькі прагледзеў,

разы два звяртаючыся да папярэдняга нумара, як бы падлічваючы літары ці шукаючы памылку.

Алесь, выглядваючы са свайго пакоя, з гумарам назіраў, як цесць «чытае». Хацелася пачуць яго думку. Пачуў.

«Ну і якую суму ганарару адхопіш?»

«Рублёў сто».

Антон Антонавіч задумаўся, пасля заключыў:

«Дурныя грошы вам плацяць».

«Чаму дурныя?»

Не адказаў. А пасля таго, як яны прагледзелі праграму «Час» і абмеркавалі візіт у нашу краіну прэзідэнта Малі і бухгалтар у сваіх вучоных разважаннях зблытаў Малі з Самалі, на што Алесь, трымаючы абяцанне, якое даў Эльвіры, не звярнуў увагі, Антон Антонавіч спытаў:

«Часцей пісаць можна такія стацейкі?»

«Пісаць можна, але друкаваць... Мала месца ў газеце».

«Калі з галавой, то напісанае можна заўжды надрукаваць».

Алеся развесяліла такое веданне цесцем іх прафесіі, магчымасцей друку, і ён, парушаючы запавет свайго жыцця ў гэтым доме, з захаванай іроніяй спытаў:

«Якім чынам?»

«Ганарары ўсе любяць».

Кроў ударыла Алесю ў галаву. На што ён намякае? На хаўрус з рэдактарам? Што ж гэта такое? Куды ён трапіў? І ён, забыўшыся на ўсе абяцанні, зарокі, адказаў:

«Паважаны Антон Антонавіч, у нас іншыя норавы, чым у вашым халадзільніку».

Узлаваўся стары. А злосны ён рабіўся спакойна-ўедлівы і, як ні дзіўна, нават дасціпны.

«Па-мойму, ты, пісар, нядрэнна прыгрэўся ў маім халадзільніку».

Абразіла гэта Алеся. Праўда, ён стрымаўся, каб не сказаць цесцю слоў, пасля якіх наўрад ці можна было б ім заставацца пад адным дахам,— пашкадаваў Эльвіру. Ён сказаў у той вечар, што ім трэба шукаць кватэру і жыць самастойна, што ён не мае намеру ні ля каго прыгравацца. Яна заўпарцілася, як ніколі дагэтуль: нікуды са свайго дома не пойдзе, гэта яе дом, яна мае права на частку яго. Ён гарачыўся, даказваў, што гэта абсурдна — па-мяшчанску трымацца ў наш час за дом, які, дарэчы, хутка будзе знесены, бо вакол ідзе новая забудова. У запале ён сказаў, што набытак у іх доме — не па заробку бухгалтара. Яна расплакалася: няўжо ён думае, што бацька злодзей? Ён трыццаць гадоў гне спіну, вопытны бухгалтар, яго ў міністэрства

запрашаюць рабіць гадавыя справаздачы, у іншыя арганізацыі, за гэта плацяць, прэміі выдаюць, брат працаваў, маці гарод урабляла, і сама яна, Эльвіра, пасля школы, дзе навучылася машынапісу, па начах сляпіла вочы, перадрукоўваючы рукапісы такіх аўтараў, як ён.

Ці то Эльвіра сказала маці пра яго падазрэнні наконт іх прыбыткаў, ці, можа, Антон Антонавіч слухаў пад дзвярамі, але ўжо на другі дзень Алесь адчуў цесцеву варожасць. Аднак выявіў яе бухгалтар не адразу.

Праз нейкі час Алесь вярнуўся дадому позна, гадзіны ў дзве ночы — адсвяткаваў выхад сваёй першай кнігі. Эльвіра сустрэла яго сіняя ад рэўнасці і злосці: дзе быў? Ці не да баб цягаўся? Ён навучыўся яе супакойваць — ласкамі, пацалункамі, доказамі нерастрачанай мужчынскай сілы. Але тут яго ўзлавала, што жонка не хацела слухаць ніякіх тлумачэнняў, а сігнальны экземпляр кнігі — найбольшая радасць для маладога аўтара і пераканаўчы доказ яго затрымкі — зняважліва шыбанула ў кут. Моцна гэта яго абразіла. Толькі што ён ляцеў на таксі, як на крылах, падагрэты віном, віншаваннямі сяброў, спадзяваўся, што Эльвіра дапоўніць яго радасць,— і раптам такая сустрэча. Упершыню ён не стрымаўся і кінуў ёй жорсткія словы. Павышаным голасам прыгразіў, што, калі яна будзе такой, ён тут жа пойдзе з «гэтага мяшчанскага кубла». Крык яго і пагрозы адразу астудзілі і супакоілі Эльвіру. Калі яны памірыліся, яму стала сорамна, што ён так сарваўся. Суцешыла думка, што старыя не маглі чуць яго ўспышкі: з надыходам вясны, цеплыні яны з Эльвірай перабраліся ў абсталяваную ім мансарду, якая цяпер адпавядала яго колішняй мары. Але ён памыліўся. Усё Антон Антонавіч чуў: падняўся, пэўна, па лесвіцы следам за ім і падслухоўваў пад дзвярамі.

Гэтае шпіёнства ўразіла больш, чым словы бухгалтара.

Размова адбылася на другі дзень, як звычайна, за вячэрай. Антон Антонавіч доўга моршчыў лоб, соп, як апоены конь, прычапіўся да жонкі: зашмат наразае хлеба, і скібкі тоўстыя, многа застаецца, няма чаго курэй карміць белым хлебам.

Алесь зразумеў сэнс прыдзіркі — прэамбула да размовы іншай; па спалоханых вачах цешчы і жонкі бачыў, што здагадка яго правільная. Адчуваў, што пасля таго, што скажа зараз яму цесць, наўрад ці застанецца ён у гэтым доме, і ўнутрана сцяўся, загадаў сабе адно: не сарвацца, расстацца інтэлігентна. Каб разрадзіць атмасферу за сталом, паспрабаваў жартаваць. Але Антон Антонавіч перапыніў яго дзіцячы анекдот пытаннем у лоб:

«І колькі ты прамачыў учора?»

«Харошае ў вас слова, Антон Антонавіч,— «прамачыў»! Ёмкае».

«Ты мне зубы не загаворвай».

«Прамачыў» ён многа, бо за сталом сабралася чалавек дванаццаць і шыкавалі па-гусарску: каньяк, шампанскае. Але дух пратэсту супраць такога допыту падбіў на тое, каб суму падвоіць.

«Трыста рублёў».

«Колькі? — у бухгалтара зрабіліся круглыя вочы і, здаецца, ажно заняло дыханне. Ён перапытаў у жонкі і дачкі, быццам не паверыў сваім вушам: — Чулі?»

Яны маўчалі. Алесю чамусьці зрабілася смешна, і ён сцёр з вуснаў усмешку далоняй. Цесць і гэта ўгледзеў:

«Пагу-у-л-я-я-ў! Бачыце? Ажно сягоння аблізваецца. А табе, дачка, колькі ён выдаў са сваіх ганарараў?»

«Тата!» — папрасіла Эльвіра.

«Што вас так хвалююць мае ганарары?» — спытаў Алесь.

«Твае?» — прашыпеў цесць.— Ты мне аддай шэсцьдзесят рублёў за электрычнасць, якую ты спаліў, грэючыся ля каміна... У маім халадзільніку. У мяне за тры гады столькі не нагарала!»

Алесь падумаў з дзіўным спакоем: «Выдаў мешчанін усю сваю сутнасць. Што ж, хвала шчырасці!»

«Я вам аддам. За ўсё».

«Тата!» — бадай панічна крыкнула Эльвіра.

«Антон, Антон,— ушчувала мужа Лізавета Пятроўна,— Во разышоўся, дурны!»

Але той сапраўды ўжо разышоўся.

«Іграеш, сукін сын, інтэлігента, а з жонкай гаворыш, як хам! Што яна, ногі твае павінна цалаваць за тое, што ты цэлую ноч п'янствуеш з курвамі?!!»

Алесь адчуў, што ўсё ў ім напялася і можа вось-вось лопнуць; ён курчыўся, як ад болю, у жываце і праўда забалела, як з'еў патрушчанае шкло.

«Дарагі твой зяцёк,— накінуўся Антон Антонавіч на жонку,— цесця казнакрадам лічыць. Чула? Жыве ў маім доме, п'е, есць маё і за тое, што ў нас на стале бывае кілбаса, а ў тваёй шафе — лішняя ануча, лічыць што я залажу ў халадзільнік. Дык я табе скажу, гаспадзін парцейны пісар... залажу, залажу я ў халадзільнік!.. Кілбаса, што ў цябе на талерцы, адтуль, і ты яе жарэш, уплятаеш за дзве шчакі. Напішы на мяне фельетон! Ганарар палучыш!»

Каб усё ж не сарвацца, Алесь моўчкі і асцярожна, як хворы, падняўся і пайшоў за дзверы, у калідор, адкуль лесвіца вяла ў мансарду.

Унізе ўзняўся вэрхал. Відаць, абураны такім ягоным учынкам, Антон Антонавіч загрымеў на ўвесь дом. Яму глуха пярэчылі Эльвіра і

жонка. Нязгода жанчын з ім давяла старога самадура да шаленства. Загрымелі крэслы. Зазвінела разбітае шкло. Загаласіла цешча.

Эльвіра паднялася да яго расчырванелая, з раздзьмутымі ноздрамі, рашучая і ваяўнічая.

«Во разышоўся, стары дурань. У яго гэта бывае. Так ён выгнаў брата. Але я яму не Слава. Мяне ён не выганіць! Ты пакрыўдзіўся? Недзе я чытала: на старых, як і на дзяцей, крыўдзіцца, нельга. Ім проста трэба паказаць іх месца».

Забаўскі пасля ніяк не мог зразумець, чаму ён застаўся ў тым доме на ноч. Баяўся пакрыўдзіць Эльвіру? Ці не хацеў даць бухгалтару новай прычэпкі, каб абліваць яго граззю, вінаваціць у самых брудных намерах?

Але на другі дзень пад канец работы ён зайшоў да Эльвіры ў яе рэдакцыю, сказаў, што знайшоў часовы пакой (калега паехаў у адпачынак) і яны павінны пажыць там, пакуль не знойдуць сталага жылля.

Эльвіра спалохалася. Угаворвала, што бацька сам перажывае, што так ён перажываў сварку з сынам і гэта хітра выкарыстала Ала, узяла ўладу над старым і бессаромна дагэтуль цягне з яго грошы як кампенсацыю. Даводзіла, што паміж сваімі чаго ні бывае, усе, маўляў, сварацца і ўсе міracца. Няўжо ён, пісьменнік, не разумее жыцця?

Не хацелася нават гаварыць ёй, што сваркі бываюць розныя. У яго ёсць старэйшы брат і старэйшая сястра. І цяпер з маці жыве нявестка, некаторы час жыў зяць, трактарыст, пакуль будавалі свой дом. Шылі тады бедна, цяжка. Бацька, інвалід вайны, таксама нялёгкім чалавекам быў. Мог часам цыкнуць на дзяцей. Але нікога ён так не абразіў, як абразіў бухгалтар яго, Алеся. Пра абразу і свае адносіны да цесця ён не стаў гаварыць Эльвіры, сказаў толькі адно: «Не трэба, Віра, больш я ў той дом не вярнуся».

Сказаў мякка, бадай далікатна, але так, што яна змоўкла і паслухмяна пайшла за ім у сябраў пакой. Гэта быў маленькі пакойчык у агульнай трохпакаёвай кватэры, па-халасцяцку забруджаны, па сутнасці, ніяк не абсталяваны: жалезны, як бальнічны, ложак, нязграбны канторскі стол, адзінае хісткае крэсла. Пасцельная бялізна не мянялася, можа, месяц.

Эльвіра баялася сесці на гэты ложак, грэбліва дакраналася да кожнай рэчы.

Алесь пачаў уборку. Тады яна знікла і неўзабаве вярнулася з новымі прасцінамі і навалачкамі — купіла ў суседнім магазіне. У дадатак да ўсяго — іх няветліва і падазрона сустрэла суседка. Алесь, быццам жартам, паказаў ёй пашпарт, каб пацвердзіць, што яны муж

і жонка. Суседка ад гэтага збянтэжылася і падабрэла, а Эльвіра абразілася і ўзненавідзела гаспадыню кватэры, біятокі гэтай нянавісці, мабыць, адразу ж дайшлі да той, і яны зіркалі адна на адну ваўчыцамі.

Алесь чакаў, што на другі дзень жонка прывязе хаця б пасцель — падушку, коўдру. Не прывезла. А потым яго паслаў рэдактар у камандзіроўку. Вярнуўшыся, ён не знайшоў Эльвіры ў сябравым пакоі. Назаўтра яны вялі перагаворы ў Батанічным садзе. Эльвіра з нечакана злоснай рашучасцю сказала, што ў сабачы закануранак, які ён знайшоў, яна больш не пойдзе, што ў яе ёсць свой дом, і калі ён кахае яе, то павінен вярнуцца ў гэты дом.

«Бацька згодны перапрасіць цябе... калі ты хочаш!»

«Не, я не хачу, Віра, не хачу. Я перастану паважаць сябе, калі прыму яго прабачэнні і вярнуся ў яго дом, бо я ведаю, што гэта скончыцца яшчэ большым прыніжэннем».

Словам, перагаворы былі доўгія, цяжкія і... безвыніковыя.

Пасля яны страчаліся ўдзень, хораша, без узаемных папрокаў, часам выязджалі ў лес, хоць ён бачыў, што гэтае як бы крадзенае каханне Эльвіру абражае, ды і самому яму было не надта прыемна. Блізасць не давала той радасці, што раней. Шыццё такое, як іржа, раз'ядала пачуцці.

А потым у партбюро рэдакцыі прыйшла ананімка, што малады журналіст Забаўскі здзекуецца з жонкі, кінуў яе, не хоча жыць. Загадчык аддзела Багацька схапіўся за ананімку абедзвюма рукамі, з радасцю. Прыйшлося яму перад староннімі людзьмі, большасць з якіх не ведала Эльвіру, даваць тлумачэнні аб сваіх узаемаадносінах з ёй, з цесцем. Безумоўна, сказаць аб сваім падазрэнні, што Антон Антонавіч запускае руку ў халадзільнік, ён не мог — не праверана, не даказана, мала што той у злосці крыкнуў сам. Таму яму цяжка было пераканаць членаў бюро, што жыць у доме цесця ён не можа. Рашэнне было, як і ў большасці такіх гісторый: абавязаць члена партыі Забаўскага наладзіць свае адносіны з жонкай, прасіць галоўнага рэдактара хадайнічаць перад выканкомам аб выдзяленні маладой сям'і аднапакаёвай кватэры. Хадайніцтваў такіх хапае, ды кватэр не хапае.

Да таго, як не бачыў ананімкі, Алесь быў перакананы, што сачынілі яе або Антон Антонавіч, або Ала. А ўбачыў — усумніўся, што яны: ніхто з іх так напісаць не мог, так напісаць магла толькі Эльвіра, яна была не толькі віртуознай машыністкай, але і добрым стылістам.

У вельмі нялёгкай размове з ёю, якая адбылася пасля партбюро, ён, загнаны ў куток безвыходнасцю становішча і яе неразумнай упартасцю, меў неасцярожнасць кінуць ёй у твар сваё падазрэнне. Безумоўна, гэта было жорстка. Але хіба яна абыходзілася з ім не жорстка?

Праз тыдзень, на працягу якога яны ні разу не сустрэліся, Эльвіра інсцэніравала самагубства — пракаўтнула жменю снатворных таблетак. Гэта здарылася ў нядзелю. У панядзелак яго сустрэў Багацька зларадным паведамленнем: «Твая жонка атруцілася». Ударыла яму гэта ў сэрца, спалохала мацней, чым тэлеграма аб смерці бацькі; бацька доўга хварэў, і вестка не была такой нечаканасцю, безумоўна, забалела моцна, але страху такога не было. Ён страшна разгубіўся, не ведаючы, што рабіць, у каго даведацца аб падрабязнасцях. Кінуўся быў лавіць таксі, каб ехаць па Грамадскую, але па дарозе ўспомніў, што ў суседнім доме — яе рэдакцыя і яму там амаль усе знаёмыя.

Увечары ён наведаў Эльвіру ў бальніцы. Яна ляжала ў палаце, дзе было чалавек сем жанчын, рознага ўзросту. Эльвіра ляжала бледная, зблажэлая, з пасінелымі вуснамі, абыякавая да ўсяго навакольнага. Яго прыходу спалохалася ці саромелася — увесь час адводзіла вочы ўбок. І жанчыны настроіліся да яго варожа, кідалі такія слоўцы, што ён не ведаў, куды дзявацца. Можа, праз гэта і ёй, Эльвіры, было сорамна, што яна так расказала пра яго. І ў яго жаласць да яе, з якой ён ішоў у бальніцу, змянілася злосцю і агіднасцю. Зніклі ўсе добрыя пачуцці. Ён адчуў, што жонкі ў яго няма, што ўжо ні ў якіх умовах, ні ў чужой, ні ў сваёй кватэры, ён жыць з ёй не здолее, што яму зусім не хочацца, каб яго сын быў яе сынам, а ён настойліва некалі ўгаворваў, каб яна нарадзіла яму сына; добра, што яна не згадзілася, што ёй хацелася яшчэ пагуляць, так яна казала. Няхай жа яна гуляе сама!

З сумным гумарам падумаў, што джэклонданаўскі эксперымент не ўдаўся.

Мабыць, Эльвіра інтуітыўна адчула гэтую нечаканую перамену ў ім, бо раптам заплакала. Тады жанчыны груба выпіхнулі яго з палаты, адна нават кухталя ў плечы дала.

Забаўскі прыйшоў да галоўнага рэдактара, чалавека разумнага, чулага, і расказаў яму больш, чым на партбюро,— усё пра цесця і пра тое, што адчуў у бальніцы.

Рэдактар сказаў:

«Я цябе, Алесь, разумею. І веру табе. Але абараняць цябе будзе нялёгка. Багацька і іншыя рыхтуюць шумную справу. Нашкодзіць твайму творчаму росту яны могуць моцна. Памагчы табе я магу толькі адным: вызваліць ад працы па тваёй уласнай заяве».

Прыйшлося з болем развітацца з рэдакцыяй.

Разводзіліся яны праз паўгода, заяву ў суд напісала Эльвіра. Але на судзе чуць не стварыла праблему. На пытанне суддзі: «Вы што, расчараваліся ў вашым мужу?» — раптам адказала:

«Не, я не расчаравалася».

У Алеся ажно ўздрыгнула нешта ўсяродку. Выходзіць, не такая яна простая, ёсць у ёй нешта загадкавае.

Суддзя ўгаворвала іх памірыцца. Алесь маўчаў. Эльвіра настойліва прасіла развесці іх.

Яны разам выходзілі з залы. У праходзе Эльвіра, на здзіўленне разявакам, якія любяць слухаць падобныя справы, узяла яго пад руку, трохі збянтэжана папрасіла: «Не ўспамінай мяне блага».

У калідоры іх чакала Ала, таксама прысутнічала на судзе; да Алеся яна выявіла поўную знявагу, не адказала нават на прывітальны ківок. З Алай быў элегантна апрануты — так апранаюцца работнікі гандлю — мужчына з тых пестуноў, узрост якіх на вока нялёгка вызначаецца: такому, як добраму акцёру на сцэне, у залежнасці ад сітуацыі, асвятлення, можна даць дваццаць пяць, хоць у сапраўднасці яму сорак. Па тым, як мужчына ступіў да Эльвіры, Алесь зразумеў, што гэта не сваяк, не аматар судовых спраў, не Алін знаёмы, што гэта ён — заўтрашні Эльвірын муж.

Забаўскаму зрабілася і смешна, і сумна. З прафесійнай цікаўнасцю хацелася тут жа спытаць: хто ён, гэты новы? Што яго прывяло на суд? Ці не жаданне пачуць, што скажа пра жанчыну яе першы муж? Парадаваўся за сябе і за Эльвіру, што расчароўваючы аматараў «клубнічак», абое яны вялі сябе стрымана, інтэлігентна. Выходзіць, Эльвіра верыла ў яго, што адважылася прывесці гэтага, новага? Але яму чамусьці зрабілася шкада былой жонкі, не верылася ў шчырасць яе смеху: ідучы па калідоры следам за ім, яны, усе трое, гаварылі весела, гучна смяяліся, як бы дэманструючы сваю радасць, што нарэшце рассталіся з ім, вызваліліся ад яго.

У яго асабіста радасці не было. Поўная свабода — ад працы, ад сям'і — не давала радасці. Ён перажыў цяжкія дні адзіноцтва, душэўнай спустошанасці.

22

Рабілі ў лесе. Памагалі лясніцтву. Даўняя Астаповічава завядзёнка: калі канчаліся работы ў полі, знаходзіў людзям іншы занятак. Для добрынцаў лес з дагістарычных часоў быў другім карміцелем, а можа, некалі нават першым, недарэмна выраслі дынастыі славутых на ўсё наваколле бондараў. Але і тыя беднякі, што не бандарылі, не гнулі палазоў, толькі на лесе маглі зарабіць капейчыну: украсці пару бярэзін, распілаваць, расколоць і ў зімовую ноч адвезці дровы ў бліжэйшае чарнігаўскае мястэчка, прадаць знаёмым яўрэям. Цяпер, безумоўна, лес таго значэння ў заробку не мае. Аднак палілі яшчэ дрывамі, ды і дошка, шалёўчына, гонта кожнаму былі патрэбны.

Саўгас, па ініцыятыве Астаповіча, меў доўгатэрміновае пагадненне з лясгасам: у асенне-зімовы час памагаў двум суседнім лясніцтвам, у якіх заўсёды не хапала рабочай сілы, выконваць іх планы па нарыхтоўцы драўніны, санітарных высечках, па пасадках.

Пасля летніх саўгасных заробкаў на лясніцкія можа і не вельмі кінуліся б — грошы невялікія, але праца ў лесе давала немалую частку звышлімітнага лесаматэрыялу для саўгаса і — галоўнае — дровы для саміх рабочых. Таму ў лес ішлі ахвотна, за нарад туды ў апошнія гады змагаліся, а тым, хто па ўмовах сваёй працы не мог пайсці з пілой і сякерай, даяркам, напрыклад, ці ўдовам, у хатах якіх не было мужчын,— тым адлічаўся пэўны працэнт, дровы ім шаферы дастаўлялі дадому, па графіку.

Іван працу ў лесе любіў, бо любіў сам лес. А як яго не любіць? У лесе, лічы, нарадзіўся, у лесе вырас, у самую страшную часіну жыцця лес прытуліў яго, ратаваў.

Калі Валя вучылася ў дзесятым класе, то параіла прачытаць яму кнігу з простай назвай «Рускі лес». Валя многа чытала, Карней столькі не чытае, але ён мацнейшы ў матэматыцы, што яго, бацьку, радуе больш.

Кніга здалася цяжкаватай, чытаць яе было працай, а не адпачынкам. Але лекцыю Віхрова аб лесе ён, Іван, перачытваў многа разоў, асобныя мясціны вывучыў на памяць і пасля часам чытаў леснікам, каб дакарыць некаторых за нядбайнасць, за адсутнасць у іх шчырай любові да лесу.

Успомніў ён лекцыю яшчэ ўчора ўвечары, захацелася перачытаць яе. Але кніжку з дому нехта «звёў», пакарыстаўся Карнеевай ці Тасінай дабрынёй. Тут, у лесе, «Рускі лес» успомніўся ад радасці самае работы, ад добрага настрою, якога даўно не было, і ад думак пра дачку.

Рабілі, як сказаў Хведзька Шчэрба, на шырокім фронце: у адным квартале ішла прачыстка маладога сасняку, а воддаль — санітарная высечка ў спелым бары, з сосен якога смакталі жывіцу. Не кожнае дрэва такое высмоктванне перажывае, некаторыя пачынаюць хварэць на сяранку. Руплівы ляснічы спяшаўся іх высечы, каб не даваць прытулку рыжаму пілільшчыку. Заадно ўбіралі частку лісцевых — бяроз, асін.

Іван рабіў у вялікім лесе. «ЗІЛ» яго стаяў на просецы, а ён хадзіў з бензапілой, выбіраў намечаныя тэхнікам дрэвы. Пілаваць — не яго абавязак, у той дзень яму належала вазіць людзям нарыхтаваныя дровы. Але настрой і рукі прасілі работы. Акрамя таго, бензапіла была даручана двум маладым хлопцам, якія нядрэнна вывучылі тэхніку,

але слаба ведалі нораў дрэў, правілы бяспекі такой выбарачнай высечкі. Трэба ўмець пакласці сасну ці бярозу так, каб яна не завісла, не абадрала жывыя дрэвы, а тым больш не крутнулася і не пайшла ў другі бок, што бывае небяспечна для саміх лесарубаў. Тут, як кажуць, варон не лаві, з дрэвам, што набрала інерцыю падзення, не жартуй, сцеражыся. Ён вучыў хлопцаў. Адначасова выбіраў бярозы і сасновыя сухастоіны, з вяршынь якіх можна напіліць лепшых дроў. Першая машына павінна пайсці не з абы-якімі дрывамі.

Дзень быў сухі, хоць і хмарны, надзіва ціхі, бронзавае, зашаршэлае лісце на старых дубах, тое, што застаецца зімаваць і, здаецца, заўсёды трымціць, звініць, маўчала, не гойдаліся верхавіны самых высокіх сосен. Толькі пад нагамі людзей шамацела, шорхала. З тыдзень назад ішоў першы снег, пасля растаў, у полі ўвесь сагнала, а тут, у лесе, застаўся. Лёгкі мароз прыпаяў апалае лісце да сняжку, і пад нагамі гэтая снежна-лісцвяная скарыначка ламалася з мяккім шамаценнем.

Пакуль не зазвінелі пілы, цішыню лесу парушала стракатанне соек — добрынцы дзівіліся, што такое мноства соек сабралася ў адным месцы, выказваліся здагадкі, што іх магло прыцягнуць у стары лес, звычайна яны любяць малады сасняк. Галасы і пілы спалохалі соек, яны ўсе адляцелі. А сарока лятала за лесарубамі і часам садзілася на тую сасну, якую пілавалі. З лесарубамі яна размаўляла як бы лагодна і разважліва. А на трактар, які траляваў бярвенне на просеку, вельмі злавалася: лётала над ім, біла крыламі і, здавалася, ажно пляvalася. Гэта ўсіх забаўляла, смяшыла. На трактары рабіў Шчэрба — машына яго была ў капітальным рамонце. Ён даводзіў, што сарока гэтая — тая самая зладзейка, што жыве ў яго на падворку, яна аднойчы ўкрала і выпіла пляшку «чарніла», якую ён, Хвецька, схаваў ад Любы, пасля чаго адносіны сарокі з ім сталі падобнымі на яго адносіны з жонкай: сарока патрабуе таго, чаго ён не можа даць, бо і сам любіць тое ж.

Нястомны сачыніцель, «залівала», Шчэрба смяшыў усіх лесарубаў. Паказваў сароцы кукіш, і тая сапраўды стракатала з зацятасцю сварлівай бабы. Шчэрба пасылаў ёй услед такія пажаданні, што хлопцы хапаліся за жываты. Іван таксама смяяўся. Івану было хораша. Даўно ўжо ў яго не было так спакойна і светла на душы. Застаўшыся адзін, ссякаючы галлё на паваленай сасне, прагна ўдыхаючы родны пах хвоі, ён думаў... пра Забаўскага і Валю. Учора Аляксандр Пятровіч наведаўся да іх і цэлы вечар, пры Тасі, пры Карнею, расказваў пра сябе. Цэлы раман расказаў.

Спачатку ён, Іван, паставіўся да гэтага своеасаблівага сватаўства, да якога з трывогай і хваляваннем рыхтавала яго Тася, з пэўнай скептычнасцю, хоць прыняў госця ветліва. Слухаючы Забаўскага, думаў: «Давай, давай, залівай, гаварыць ты ўмееш. Я паслухаю, але не думай, што развешу вушы, як Тася». Жонку ў думках папракаў, што яна так аддана, так шчыра «глядзіць у рот» перастарэламу жаніху, але ўпотай і любаваўся ёю — яе нейкай зусім дзявочай трапяткой усхваляванасці — ажно палала ўся, ажно дыханне ёй займала. Нават тады, калі ён, папрасіўшы на дапамогу Яшку Качанка, тагачаснага сакратара сельсавета, прыйшоў сватацца да яе самое, Тася, так не хвалявалася, больш смяялася, жартавала, палохаючы яго, руйнуючы спадзяванні, хоць перад тым яны пра ўсё дамовіліся. А за дачку, якая ў той час, дзесьці ў Магілёве, можа збівала абцасы, выступаючы ў танцавальным ансамблі вучылішча, так, дурная, перадрыжала, што пасля да раніцы заснуць не магла.

Але ўчора адбылося штось незвычайнае і з ім самім. У нейкі момант Забаўскі сваім расказам як разбурыў плот, што адгароджваў пісьменніка, сакратара парткома, чалавека з універсітэцкай адукацыяй ад яго, шафёра. Аляксандр Пятровіч раптам як наблізіўся і стаў сваім, вясковым хлопцам, як усе добрынцы, незалежна ад таго, хто з іх што скончыў, кім стаў у жыцці. Зніклі яго, Іванаў, скепсіс, недавер, насцярожанасць. Невясёлую і, безумоўна, шчырую споведзь Забаўскага аб яго легкадумнай жаніцьбе ён слухаў з уважлівай сур'ёзнасцю, якая Тасю і палохала, і радавала: дарэчы, гэтага ён не бачыў, пра гэта Тася сама прызналася ўначы.

Івану падабалася высакароднасць Забаўскага: ніводнага дрэннага слова пра сваю былую жонку, акрамя хіба таго, што яна ахвяра пэўнага асяроддзя, наадварот, вінаваціў сябе, што ў яго, пісьменніка, псіхолага, не хапіла сілы волі, умення, такту адарваць яе ад гэтага асяроддзя, ад дому і анучак, за якія яна трымалася і без якіх, выходзіць, не ўяўляла жыцця. Івану нават трохі па-бацькоўску стала шкада гэтае незнаёмай яму Эльвіры. Варкі, як называла яе залвіца. Адначасова ён перажыў радасць, гордасць ад думкі, што яго дзеці не такія, бо і яго жыццё не такое, як у таго бухгалтара. Валі не трэба ні дом, ні шмаццё. Валя — як маці: Тася, акушэрка, з заможнай сям'і, модніца, пайшла за яго, трактарыста, сірату, у якога і штаноў добрых не было, пайшла ў хацінку, у якой траім не было дзе павярнуцца. І кахаць Валя будзе, безумоўна, гэтак жа, як маці,— усё жыццё, з усёй жаночай шчырасцю. І ўпершыню, слухаючы Аляксандра Пятровіча, Іван падумаў, што было б недарэчна, недаравальна, каб ён, як кулак

нейкі, самадур, стаў у дачкі на дарозе, загарадзіў гэтую дарогу, можа адзіную, якая вядзе да яе жаночага шчасця.

Праўда, пэўны час ён яшчэ супраціўляўся ўнутрана і, ужо баючыся самога сябе, баючыся, што ён скажа не тое, што трэба, з хваляваннем, якое пачало нагадваць Тасіна хваляванне, чакаў, калі сакратар загаворыць пра сватаўство. Але Забаўскі і тут выявіў сябе разумным чалавекам: не стаў ні сватацца, ні гаварыць без Валі пра свае пачуцці да яе. Гэта таксама спадабалася Івану, хоць спалохала і расчаравала Тасю: тая падрыхтавала сябе да сватання

Пасля расказу Забаўскага пра сябе яны хораша, як блізкія людзі, з поўным узаемаразуменнем пагаварылі пра саўгасныя справы. Толькі Іван асцярожна абыходзіў тэму, ад якой балела,— пра паліцая. Аляксандр Пятровіч, безумоўна, адчуў, зразумеў гэта і таксама не дакрануўся да балючага. Пад канец іх позняга цвярозага застолля — выпілі пляшку віна — Тася зразумела, што адбылося самае важнае — яны паразумеліся, душэўна зблізіліся, Іван прызнаў будучага заця, а таму паспакайнела і павесялела.

А пасля ўначы, у ложку, шчаслівая Тася пачала гаварыць, так, быццам сватаўство адбылося і ўсё ўжо вырашана,— з матчынай клапатлівасцю прыкідвала, што Валі трэба набыць, хоць пра вяселле старалася не ўспамінаць.

Іван разумеў яе жаночую хітрасць, яе боязь, каб ён няўдалым словам не заліў яе радасны агонь, і ашчаджаў гэты агонь і радаваўся таксама — ад Тасінай радасці, у цемры, пасміхаўся, толькі з ласкавай дакорлівасцю казаў: «Спі ты, завадная. Во няма на цябе ўгамону».

...Дрэвы, што прызначаліся на дровы, бярозы і асіны, Шчэрба траляваў з глыбіні квартала на просеку нераспілаваныя, толькі збольшага ачышчаныя ад галля. Тут, на просецы, двое сталых рабочых лясніцтва пілавалі іх на метроўкі і складалі ў шуркі — для замеру.

Іван прасачыў, каб для першай машыны, якую ён павязе, Хведзька падцягнуў толькі бярозы-сухастоіны. Шчэрба ахвотна выконваў Іванавы ўказанні, але, як заўсёды, бурчаў:

— Ета ты стараешся для той заразы, якая мяне ўсюды крыцікуе? Во шчэ адна піла! Не я вязу, а то я прывёз бы ёй дроў, загавелася б яна з імі. Плакалі б яе дровы сінімі слязамі, і яна разам з імі.

«Зараза» — Вольга Даніленка, дачка партызана, лепшая работніца, адна з тых жанчын, якая не праходзіла міма ніякіх непарадкаў і нікому не давала паблажкі. Сам Астаповіч яе пабойваўся. Але якая гэспадыня не хоча мець дровы, з якімі б не ведала бяды? Вольга сама папрасіла Івана: «Карнеевіч, пастарайся прывезці не гнілля і не макроцця».

Іван стараўся з усёй шчырасцю.

Замер дроў, ды яшчэ пры такой рабоце, калі не паспявалі скласці шурку, як яе грузілі ў кузаў, вёўся на вока, да таго ж лесатэхнік цалкам давярэў сваім, саўгасным, гэта не якія-небудзь гараджане, якія па-чалавечы і ўкрасці не ўмеюць. Добрынцаў, калі яны захочуць украсці, усё роўна не ўпільнуеш, хоць выстаў усю лясную варту. Але ўкрадуць яны так, што свайго лесніка, тэхніка ці ляснічага ніколі не падвядуць; у гэтай справе існуе векавая традыцыя — людзі жылі з лесу, таму кража яго дзіўным чынам спалучалася з любоўю да лесу, з ашчаднасцю да яго дароў: ніводзін добрынец, нават самы зацяты парубшчык, не зробіць тае шкоды, якую можа зрабіць іншы гараджанін з-за простай забавы, дурнога марнатраўства.

Іван нагрузіў бярозавых круглякоў, як кажуць, не шкадуючы рысор.

Па лясной дарозе з выбоінамі і карэннем ехаў ціха — усё ж ашчаджаў рысоры і ўсю хадавую частку; машына — што чалавек: не перагружай яе, не тузай — і будзе яна служыць доўга і надзейна.

Любіў ён спяваць на бяседах, дома разам з Валяй. Але найбольш спяваў, калі быў за рулём адзін. З песняй скарачаецца дарога, не хіліць у сон. Ведаў многа народных песень, рускіх, беларускіх, украінскіх, нават дзве польскія і яўрэйскую — аб долі беднай дзяўчыны. Прасіў Валю знайсці, купіць ці запісаць словы новых песень, якія чуў па радыё ці тэлебачанні. Але апошнія месяцы было не да спявання. На бяседы ён не хадзіў, а сон... дык ён не толькі ў кабіне ўдзень, але і ўначы ў ложку не прыходзіў — гналі яго, як злосныя вартаўнікі, чорныя думкі.

А тут ён раптам злавіў сябе на тым, што спявае ціхую, ласкавую песню:

Зайшло сонца за аконца,
За зялёны сад.
Цалуюцца, мілуюцца,
А хто каму рад...

І радасна яму зрабілася ад таго, што захацелася спяваць, і да бацькоўскага замілавання было радасна за тую Ганулечку, што «як розавы цвет», і за патрабаванне маці: калі хлопец хоча яе ўзяці, то на цэлы век.

З вялікага лесу выехаў у малады сасняк, пасадачны гадоў семнаццаць назад пры яго ўдзеле — ён рабіў на трактары разоры. Сасняк гэты як бы абвяргаў сцвярджэнне, што лес расце павольна: тут, на былых пясках, якія Астаповіч, прыйшоўшы ў саўгас, пастараўся спісаць і перадаць лясніцтву, лес рос надзіва хутка, як чужыя дзеці.

Але сосны яшчэ не выйшлі каранямі на дарогу, і была яна, падмёрзлая, прыцярушаная сняжком, роўная — што асфальт.

Іван даў машыне волю; паслухмяная, як жывая істота, яна, здавалася, улаўлівала яго думкі і разганялася ці, наадварот, сцішала ход да таго, як ён націскаў на педаль акселератара ці на тормаз.

Бліснула наперадзе лужына з патрушчаным лядком, Іван быццам бы не варухнуў ніводным мускулам, не збіў рытму песні, а машына асцярожна, што дзяўчына на абцасіках па кладцы, прайшла па лужыне і адразу ж, весела фыркнуўшы, як напоены стаеннік, рванула ўперад з ранейшай хуткасцю.

Расступіўся сасняк, ударыла ў ветравое шкло святло шырокага неба — машына выйшла ў поле. Іх, добрушскае, поле — ладны трохкутнік, сціснуты лесам; некалі самая бедная зямля, таму і хацеў яе Астаповіч спісаць усю, але не дазволілі, і зямля шчодра аддзячвае цяпер; добра ўгноеная, апрацаваная, не баіцца пад аховай лесу ні ўкраінскіх сухавеяў, ні палескіх ліўняў.

Поле было засеяна азімінай, сняжок сышоў амаль увесь, і жыта ярка, па-вясноваму зазелянела, ажно ад яго здавалася пазелянелай нізкая асенняя хмара.

На зялёным фоне, на паваротцы дарогі, вырысоўвалася адзінокая постаць чалавека. Прахожы ішоў у тым жа кірунку, да шашы; са спіны відно — немалады, з рэчавым мяшком за плячамі. Іван падумаў, што гэта нехта з хутаранцаў: толькі ў іх залесную невялікую вёску, бесперспектыўную, як яе называюць у афіцыйных дакументах, не ходзіць аўтобус і хутаранцам, калі няма падарожнай машыны, даводзіцца ісці ажно восем кіламетраў: раней такую дарогу не лічылі за адлегласць, а цяпер — людзі развучыліся хадзіць. Але Іван упікаў маладых, што яны лянуюцца хадзіць, кіламетр які ісці, а яны «галасуюць», старых жа заўсёды падвозіў і ўвогуле любіў падвозіць людзей, пасажыры такія ў знак удзячнасці многа расказваюць цікавага. І тут узрадаваўся, што надарыўся выпадак падвезці чалавека. А калі гэта яшчэ сапраўды хутаранец... Да партызанскай вёскі ў яго асаблівыя пачуцці і ўдзячнасці; хутаранцы пахавалі бацьку, не далі бандытам здзекавацца з яго цела, Іван прыбавіў газу, каб хутчэй дагнаць чалавека.

Прахожы, пачуўшы шум машыны, саступіў з дарогі на рунь, спыніўся, павярнуўся. Іван пазнаў... Шышку. Кроў ударыла ў галаву, у сэрца. Ад нечаканасці Іван спачатку затармазіў, так рэзка, што бярозавы кругляк кінула з грукатам на кабіну і далей на капот, трохі не пабіла ветравое шкло. І ўвогуле дровы загрымелі, абрушыліся, напэўна. Але тут жа Іван сцяміў, што недарэчна спыняцца, што лепш

як можна хутчэй праскочыць міма гэтага выкапня. Даў поўны газ. Ды ў гэты міг здарылася зусім нечаканае: Шышка пабег па полі, па жыце да лесу. І тады невядомая сіла прымусіла яго рэзка развярнуць машыну, з кузава зляцела не адно палена, і кінуць яе ўслед за паліцаем, Чаму ён гэта зрабіў — не мог пасля растлумачыць ні сабе, ні Тасі. Ці то апанавала злосць, што гад топча, паганіць сваімі бруднымі нагамі іх жыта, святое жыта, ці то штурхнула агіднасць да жывёльнага страху паліцая: баязліўцу заўсёды хочацца даць па карку, напалохаць яшчэ больш.

Цяжка нагружаная машына, трушчачы тонкую скарынку намёрзлага грунту, прабуксоўваючы, натужна завыла. Ды ўсё роўна ён дагнаў бы Шышку праз сотню метраў. Але праехаў ён усяго якія тры дзесяткі метраў, бо ў галаву ўдарыла іншае — да болю, да звону ў вушах цвярозая думка: што ж гэта ён робіць? Хіба ён можа забіць чалавека, калі нават гэты чалавек — Шышка?

Іван спыніў машыну, выключыў матор і ў знямозе, абліты халодным потам, адкінуўся на спінку сядзення, чуючы сваё сэрца ў кожнай часціне цела, у кожным пальцы рук і ног, якія спачатку захаладалі, а потым запаліла іх, як агнём.

А Шышка ўсё бег. Без аглядкі. Спыніўся на ўзлеску і... пагразіў адтуль кулаком.

Поле было заснежанае, у высокіх сумётах, вяршыні іх курыліся снежным пылам, і пыл гэты здаваўся не белым, а сінім-сінім, такой сінечы бадай ніколі не бывае, ні зімой, ні ўлетку, ні ў туманным досвітку, ні ў змроку надыходзячага вечара. Але ён, Іван, не думае пра гэта. Ён пільна ўзіраецца ўдалеч, дзе ў сіняве сярод снежных дзюнаў то з'яўляецца на вяршыні вышэйшых гурбаў, то знікае, правальваючыся ў ямы, адзінокая маленькая белая постаць. Ён ведае, што гэта яго сястрычка Анечка, што ідзе яна па зіме, па снезе ў адной сарочачцы, босая, без хусцінкі, здалёк відаць, як вецер бязлітасна рве, кідае ўбок яе косы... Яму трэба дагнаць яе, ратаваць, узяць у кабіну, загарнуць у кажух.

Ён ведае: акрамя холаду, ёсць яшчэ адна смяртэльная небяспека — яна ідзе туды, дзе над снежнымі гурбамі віднеюцца вершаліны абгарэлых таполяў, дзе згарэла іх хата і дзе, ён гэта пэўна знае, яе чакаюць карнікі, чакаюць Лапай і Шышка. Яму трэба хутчэй дагнаць яе! Пакуль не позна. Хутчэй! Хутчэй! Ён ліхаманкава пераключае хуткасці, з усяе сілы цісне на педаль газу... Свішча вецер, страшна раве матор. Колы круцяцца, ажно звіняць, але яны ўгрузлі ў сухім, як пустынны пясок, снезе, і машына буксуе на месцы, нават здаецца, што разам са снегам яна паўзе назад, бо вецер з шалёнай сілай б'е ў

ветравое шкло, урываецца ў кабіну, засыпае снегам шчыток прыбораў.

Іван гукае сястру:

«Аня! Анечка! Сястрычка мая! Не хадзі туды! Не хадзі! Людзі! Дзе вы? Спыніце яе! Спыніце!»

Ён плача ад бяссілля, ад роспачы. Не! На машыне не дагнаць яе! Тады ён выскоквае з кабіны і бяжыць следам. Але ногі яго коўзаюцца на адным месцы, а голас вецер адносіць назад. Маленькая постаць наперадзе знікае, і ён халадзее ад жудасці, што назаўсёды страціць сястру. Ён раптам здагадваецца, што бегчы яму замінаюць валёнкі. Ён скідае іх і з вялікім здзіўленнем адчувае, што снег не халодны — гарачы. Ён радуецца, што можа бегчы і зноў бачыць перад сабой постаць сястрычкі.

«Анечка! Пачакай мяне!»

Яна азірнулася. Спынілася. Мабыць, пачула. О, якое шчасце! Але яму ўсё больш горача, ён задыхаецца, ён увесь абліты потам, зноў ногі коўзаюць на схіле сумёта, і ён спаўзае назад, пад адхон, і перастае бачыць сястру. Зноў здагадваецца: гэта таму, што на ім цяжкі кажух. Скідае яго. І тады вецер робіцца яму памочнікам, падхоплівае яго і ён, бязважкі, ляціць, не датыкаючыся нагамі да гарачага снегу. Вецер студзіць ногі. І ён даганяе сястру. Ён хапае яе на рукі і жахаецца ад таго, што яна мёртва-халодная, як ледзяшык. Ён горне яе да грудзей, хоча захінуць хоць пінжаком, але на ім няма пінжака, ён не помніць, дзе, калі скінуў яго, на ім адна белая сподняя кашуля. Ён ірве кашулю на сабе, каб загарнуць сястрычку.

«Анечка! Замерзла ты? Куды ж ты ідзеш? Няможна туды ісці!»

Яму адказвае незнаёмы, недзіцячы голас:

«Я не Анечка, я тая сястра, што не нарадзілася. Мяне спалілі...»

Тады ён з жудасцю бачыць, што ў руках яго не жывое дзіця, а галавешка, якія застаюцца па пажарышчы; ад таго, што ён сціскае яе, галавешка рассыпаецца на вугалькі, Бутэлькі падаюць у снег, і снег чарнее. Чарнее і... растае... І плыве чорная густая вада.

...Іван закрычаў і прачнуўся. Не адразу сцяміў, дзе ён, што з ім, пакуль не пачуў Тасін голас, не адчуў яе такую знаёмую руку на сваім ілбе...

— Ваня! Што з табой? Што ты сніў? Ты так крычаў. І ўвесь мокры. Ты хворы.

Ён не адказаў. Цяжка дыхаў. Трохі супакоіўшыся, сказаў:

— Ты знаеш... я думаю... мне стала б лягчэй, каб я ўбіў яго.

Тася падхапілася на ложку з распушчанымі косамі, ад рэзкага руху яны ўпалі ёй на твар, учапілася пальцамі мужу ў плечы, скамячыла яму сарочку і ажно адарвала ад падушкі:

— Пра што ты гаворыш? Пра што ты думаеш, дурны! Выкінь з галавы! Выкінь з галавы! Ты хочаш загубіць сябе... нас... наша жыццё з-за якогась гада! Ды няхай ён здохне, сабака!

— Такія не здыхаюць.

— Не думай пра гэта, Ванечка! Выкінь з галавы. Я прашу цябе.

Тася заплакала.

Івану зноў зрабілася цяжка дыхаць. Як было ў сне.

23

Снедаў ён моўчкі і нехаця, пакалупаў відэльцам смажаную бульбу, толькі, як з пахмелля, прагна нагбом выпіў вялікі кубак густой сыраквашы.

Тася, падаўшы мужу снеданне, села насупраць і не ела зусім, хоць талерку перад сабой паставіла. Па-жаночы, пастарэчы падперла рукой шчаку і закахана глядзела на Івана, як хацела нагледзецца перад доўгім развітаннем. Пра начную размову ні ён, ні яна не ўспаміналі, баяліся кранаць гэтую балючую тэму. Толькі яна спытала ўпачатку, калі села за стол:

— Ты куды сягоння?

— Павязём бычкоў на мясакамбінат. Трэба будзе яшчэ прыладжваць да кузава кашару. Астаповіч абяцае: калі ўвядзём комплекс, будзем мець спецыяльныя машыны.

Івана збянтэжыла такое пільнае жончына ўгляданне ў яго.

— Чаго ты не ясі?

— Я пасля. Ты на мяне не глядзі. Сам чаго не ясі? На тым камбінаце зноў да вечара ў чарзе прастаіце.

— Там у іх добрая сталоўка. Суп з трыбухом — шэсць капеек усяго. Адзін з Нівак з палявым тэрмасам прыехаў, набраў етага супу на ўсю радню. А прастаяць можам. Штурмуем план. Качанок, калі штурхачом ездзіў, без чаргі здаваў. І ўсё ў вышэйшую катэгорыю гнаў. Цяпер не ездзіць. Пакрыўдзіўся. Вы, кажа, святыя, а Яшка грэшны, бо дзеля вас, чарцей, стараўся. А цяпер, кажа, па закону буду жыць. Толькі палучыце вы ад етага закона во!.. І паказаў нам кукіш. Хлопцы прыпомняць яму гэту хвігу.

Івану хацелася, каб Тася пасмяялася з Качанковага кукіша, але яна асудзіла яго адным словам:

— Дурны.

— Па закону яму мулка жыць. Душа ў яго камбінатарская.

Калі ён апрануўся і рушыў да дзвярэй, Тася паклікала:

— Ваня,— і ступіла да яго.

Яму здалося, што яна хоча пацалаваць. Раней яна нярэдка цалавала, праводзячы яго на работу. Асабліва любіла рабіць гэта пры Шчэрбу, той па-суседску часам заходзіў, каб разам ісці. Хведзька зайздросна бурчаў: «Усё не наліжашся, ненасытная». Тася весела смяялася: Івана пасля цэлы дзень радаваў за рулём гэты яе дзявочы смех.

Тася не пацалавала яго. Падышла і больш акуратна захутала шалік, як рабіла гэта нядаўна яшчэ Карнею, калі той, неахайна накінуўшы шалік імчаў на сажалку, на каток.

Івана такі просты клопат расчуліў мацней, чым пацалунак, чым, магчыма, любыя словы, якія Тася магла б сказаць.

За ноч зноў добра падмарозіла. Пырхалі рэдкія сняжынкі. Быццам неба пасылала разведчыкаў: паглядзіце, ці ўсё ў парадку на зямлі, ці можна лажыць вялікі снег, прысылаць сапраўдную зіму. Але ў паўзмроку світання разведчыкі не ўсё яшчэ маглі разгледзець.

Іван адчуваў, як на разгарачным твары раставалі сняжынкі, парадаваўся ім — пакуль ішоў па двары на гарод. Выйшаў у сад, зірнуў на голыя, ад таго парадзелыя, як бы адлучаныя адна ад аднае, яблыні, па яшчэ больш сіратлівую грушу ля суседскага плота і, бытта спалоханы нечым невядомым, спыніўся. Пастаяў у глыбокай задуме. Вярнуўся назад у двор. Нейкі міг пастаяў там. Выйшаў на вуліцу і шпарка пайшоў да канторы саўгаса.

Некаторыя маладыя спецы, скептыкі і крытыкуны, паважаючы Астаповіча, прызнаючы яго аўтарытэт, пры выпадку маглі папляткарыць, што, маўляў, дзеда лягчэй знайсці ў Гомелі ці ў Мінску, часам, праўда, можна злавіць па будаўніцтве комплексу, чым захапіць у кабінеце саўгаснай канторы. Хведар Цімафеевіч ведаў пра гэта і без крыўды пасміхаўся: няхай маладыя пераконваюць саміх сябе, што яны і без яго могуць кіраваць. Ад такога пераканання ў разумных і таленавітых з'яўляецца сапраўдная самастойнасць, а неразумныя, кар'ерысты, выскачкі, хутчэй выкрыюць саміх сябе перад рабочымі. Між тым рабочыя, добрынцы, так не лічылі, бо дырэктара свайго заўсёды знаходзілі, калі трэба было. Дваццаць гадоў існаваў амаль непарушны парадак: з сямі да васьмі раніцы, да пачатку рабочага дня, Астаповіч прымаў толькі па асабістых справах, а потым пачыналіся ўжо вытворчыя нарады, лятучкі, пяцімінуткі, якія ў апошнія гады ён перадаручыў памочнікам.

Па вытворчых справах ішлі да галоўнага аграгнома, да галоўнага інжынера, да Качанка. Па асабістых — усе ішлі да яго, да Астаповіча.

Дарэчы, гэтыя штодзённыя прыёмы, даверлівыя споведзі розных людзей давалі дырэктару самую шырокую і дакладную інфармацыю аб падзеях, якія адбываюцца ва ўсіх сямі сёлах і пасёлках саўгаса. А няма такой падзеі, якая так ці інакш не была б звязана са справамі вытворчымі, не ўплывала б на іх добра ці блага — ці то вяселле, ці нараджэнне дзіцяці, ці пахаванне, хвароба, сварка суседзяў, просьба памагчы прадаць старую карову і купіць новую, адрамантаваць хату, купіць матацыкл, просьба жанчыны прывесці да ладу мужа, які «ссабачыўся». Кожны можа падкінуць ідэйку, з якой, як з семечка, вырастае зялёнае дрэва; рашэнні, якія прыходзіцца прымаць, часта датычаць ужо не аднаго гэтага чалавека, а многіх іншых.

У прыёмнай не было яшчэ сакратаркі, але сядзела ўжо чалавек пяць прасіцеляў, усе жанчыны. Іван павітаўся і сеў на крэсла побач з жанчынай з Дунаеўкі. Даўно само сабой усталявалася: да васьмі гадзін трымайся агульнай чаргі, хто б ты ні быў, хіба толькі самыя блізкія памочнікі дырэктара маглі гэта парушыць. Ніхто з жанчын Івана не папракнуў бы, каб ён пайшоў без чаргі, але трэба самому мець сумленне.

Суседка пачала прасіць Івана:

— Карнеевіч, закіньце славечка перад дырэктарам. Дачка з зяцем вярнуліся з етага БАМа, а Цімафеевіч не бярэ яго на работу, дзезярціраў са стройкі камунізма, кажа, нам не трэба. А ета ж я іх перацягнула. Як памёр мой Атрох, не магу жыць адна ў хаце, паверце, людцы. Такая нуда, такая нуда, хоць вяроўку чапляй. Зяць страіцель, яго ў Гомелі возьмуць з дарагой душой, ды забярэ ж ён туды і Надзьку, і зноў я застануся адна адзінёшанька.

— Хто ён, твой зяць,— кіргіз, ці што? — цікаўна спытала Насця Хведарцова, маладзіца з Добрынка

— Башкір.

— Харошы хоць чалавек? — спытала Куліна Гузырова, Шчэрбава цешча; прысутнасць яе тут Івану не падабалася: як успомніў, што яна на малітвы да Шышкі ходзіць, дык ажно перасмыкнула ўсяго. Зноў, мабыць, старая качарга, прыйшла скардзіцца на Хведара.

— Дабрэнны. Не п'е. Не курыць. Надзьку любіць.

— Толькі ж не нашага бога,— уздыхнула Куліна.

— Цяпер, цётка, ва ўсіх адзін бог,— весела, са смяшком, адказала Насця.

— Што мне да яго бога,— згадзілася цешча башкіра.— Абы чалавек быў.

Іван падумаў, што калі добры работнік, то дарэмна яго Астаповіч не бярэ; акрамя ўсяго, не гасцінна, не палітычна не даваць

работы прадстаўніку іншага народа. Што башкір можа падумаць пра іх, беларусаў? З БАМа яго, канечне, сарвала жонка.

«Трэба сказаць Цімафеевічу».

У прыёмную ўскочыў Яшка Качанок. Глянуў на жанчын, прысвіснуў:

— Эх, колькі вас на аднаго старога чалавека! Грахі ён вам не адпусціць, не кайцеся,— і да Івана:— А ты чаго сядзіш?

— Ёсць дзела.

— Дык хадзем! Зязюль етых не перасядзіш. Нам з табой няма калі рассяджвацца. Работаць трэба. Пайшлі. Пайшлі!

Іван сумеўся, не кранаючыся з крэсла. Але яго падбадзёрылі самі жанчыны:

— Ідзіце, Карнеевіч, на нас не глядзіце.

Астаповіч не сядзеў за сваім сталом, які называлі «міністэрскім». Так ахрысціла яго старая прыбіральшчыца канторы Краўчыха, калі стол прывезлі з фабрыкі. «Ой, Цімафеевіч! Ета ж міністэрскі стол! Прыбраць на ім — лягчэй паўканторы прыбраць». Стол блішчаў, хоць глядзіся, як у люстра, і старая дагэтуль баялася папсаваць бляск. У сяле мянушкі прыліпаюць не толькі да людзей, да жывёлы, але і да будынкаў, да рэчаў.

Астаповіч сядзеў у крэсле перад сталом, насупраць старога Капытка, які больш прытвараўся глухім, чым быў такім на самай справе.

Іван і Качанок зналі, з якой патрэбай дзед прыйшоў да дырэктара, не першы раз. Хата Капытка стаяла так, што закрывала фасад новай школы ды і не давала расшырыць прышкольны ўчастак. Хату вырашылі перанесці. Расходы — за кошт райана. Але дзед адразу змікіціў, што на пераносе можа мець выгаду; ведаючы, што Астаповіч зацікаўлены больш за дырэктара школы, ужо месяцы два таргаваўся з ім. Гэта была вясёлая гульня, з якой добрынцы смяяліся. Астаповіч не шкадаваў ні сядзібных участкаў, якіх дамагаўся Капыток, мяняючы іх пры кожнай сустрэчы, ні лішніх грошай, пераканаў бы райана ці знайшоў бы сотню-другую ў саўгасе, каб даплаціць, але, ведаючы людзей, ён не мог дазволіць, каб ганарысты, хітры Капыток, задавака і манюка, пасля пахваляўся, што ён перахітрыў самога Астаповіча.

— А грушку ў што вы, Цімафеевіч, цэніце?

— Пракоп Лявонавіч! — з вясёлым смехам у вачах крычаў у падстаўленае Капыткова вуха Астаповіч.— Што вы, не можце падарыць школе адну грушу? Вашы ж унукі вучацца.

— Каб жа падарыць, а то дырэктар кажа, ссякуць яе, мяшае яна ім.

— Добра, Пракоп Лявонавіч, накінем вам дзесятку за грушу.

Стары замахаў рукамі і асуджальна засмяяўся.

— Шчо ета вы, Цімафеевіч! Такі хазяін — і за такую грушу дзесятку! Ай-яй-яй. На ёй — адзінаццаць пудоў груш было. А пачым яны, такія бэры, на базары? Вы не куплялі. У вас свая вырасла. А хто вам прышчапіў?

Качанок штурхнуў Івана ў бок, прашаптаў::

— Во таргаш! Во хапуга!

Капыток не чуў гучных Астаповічавых слоў, а шэпт Качанкоў пачуў і тут жа агрызнуўся:

— Я сваё хапаю, Яшка. Не чужое. У прафсаюза не прашу,— адукаваны дзед, сакануў, як кажуць, па вачах.

Качанок не любіў, калі яго, як блазнюка, называлі Яшкам, ды і ўвогуле палічыў, што языкатага дзеда гэтага лепш не чапаць, няхай ён спрахне з яго грушамі, а то пойдзе мянташыць па ўсім сяле. Качанкова тактыка была ў тым, каб улашчаваць людзей. На Івана ён дзьмуўся за партсход не доўга, тыдні два, а цяпер зноў набіваўся ў сябры.

Адарваўшыся ад размовы Астаповіча з дзедам — нецікава, даўно вядомыя Капытковы хітрыкі! — паведаміў даверліва, мацуючы гэтым і свой аўтарытэт:

— Слухай, рэкамендуем цябе на старшыню таварыскага суда.

— Мяне? Чаму мяне?

— А каго ж яшчэ? Самы чэсны работнік і чалавек хто ў нас? Ты! Каржоў стары, просіцца, каб асвабадзілі, на пенсію ідзе.

— Хто ета рэкамендуе?

— Партком. Па маёй прапанове.

— Ты ж не член парткома.

Перасмыкнуўся Качанок, на твары выступілі фіялетавыя плямы.

— Я — старшыня рабачкома. Я з цябе дзеяцеля раблю, а ты ламаешся, як дзевачка.

— Дарэмна стараешся. Не дарасту я да старшыні Вярхоўнага Суда.

— А да каго ты хочаш дарасці — да міністра транспарту?

— Во ета па мне якраз.

Астаповіч адным вухам лавіў іх ціхую размову і пасміхаўся, бытта з Капытка, а на самай справе з іх, бо калі нарэшце развітаўся са старым, нагадаўшы, што ў яго поўная прыёмная людзей, і паабяцаўшы дагаварыць іншым разам (а Капытку гэта і трэба было — не столькі груша ці ўчастак, колькі размова з дырэктарам), то адразу спытаўся ў іх з гумарам:

— Ну, хто каго палажыў на лапаткі?

— Паложыш такога казла! — з пакрыўджаным выглядам сказаў Качанок.— Я вам даўно казаў: у наш час зазнаюцца не начальнікі — рабочыя.

— А чаму добраму работніку трохі і не зазнацца? — засмяяўся Астаповіч, з натугай, як радыкулітнік, разгінаючы спіну і масіруючы паясніцу кулакамі. Прайшоўся па прасторным кабінеце — размяў ногі, паскардзіўся:— Даканае мяне, хлопцы, артрыт.

Сеў за свой «міністэрскі» стол, пусты, як поле аэрадрома, толькі з правага краю ляжала адзіная кніга — «Советское законодательство о труде».

— Якаў, з'ездзі ты, калі ласка, на мясакамбінат. Учора машыны зрабілі ўсяго адзін рэйс. Замест трох — па нашых з табой планах. Вялікаватыя накладныя расходы ад такіх прастояў. А яшчэ большы расход нерваў. Во ім,— кіўнуў на Івана.

— Хведар Цімафеевіч! Махінацыямі займацца не буду!

— Чакай. Чакай. Хіба я прымушаю цябе займацца махінацыямі? — і звярнуўся да Батрака з пакутлівым выразам на твары, але з іскрамі смеху ў вачах: — Чуў, Іван Карнеевіч, што пра мяне думае мой бліжэйшы памочнік, мая правая рука? Што я махінатар. Во дажыў да старасці! Ах ты, бог мой!

Качанок падрос ад прызнання, што ён — «правая рука», але збянтэжыўся, што Астаповіч не так зразумеў яго, пачаў апраўдвацца:

— Ды не пра вас я, Хведар Цімафеевіч. Пра сябе. Мне ета кідаюць. Чулі на сходзе? А я хіба для сябе? Для саўгаса стараюся.

— На махінацыі я цябе, Якаў Мацвеевіч, не падбіваю. За махінацыі судзяць. Я цябе прашу паехаць і навесці парадак...

— Там абком не можа навесці парадак.

— Абком займаецца адразу ўсімі. А ты займіся канкрэтна: сваімі машынамі, сваёй жывёлай. Укормленасць каб не заніжалі. Як ты некалі сказаў? Стаячая вада турбін не круціць? Добра ты сказаў, Якаў! Так і Забаўскі не ўмее. Давай крутнём турбінку. А?

Цяпер Астаповіч расціраў адной рукой другую, суставы апухлых пальцаў, моршчыўся ад болю, але вочы яго — бачыў Іван — блішчалі па-хлапчукоўску гарэзліва, весела.

Іван падумаў: «Умее дзед кожнага прымусіць круціць турбінку на ўсю сілу».

А Качанок ужо ў думках быў там, на камбінаце, ужо прыкідваў, з каго і з чаго пачаць, каб выканаць дырэктарава паручэнне, якое ўвогуле яму падабалася, бо аднаўляла яго пераконанне, што без яго Астаповіч абысціся не можа: калі нават на прафсаюзнай канфе-

рэнцыі, вось такія, як Батрак, крытыкуны яго праваляць, то знойдзе яму пасаду.

— Вашаму франтавому дружку прывецік можна перадаць?

Астаповіч уміг уявіў схему Качанковага дзеяння і весела засмяяўся.

— Абавязкова перадай. І на вуха... на вуха шапні яму, лайдаку... Астаповіч, маўляў, хоча памяняцца з табой пасадамі. Няхай пагадуе гавяду, тады прыдумае разам са сваім дырэктарам, як наладзіць прыёмку так, каб галодныя бычкі не раўлі паўдня ў кузавах. Каб я не адрываў Карнеевіча ад вытворчасці і не пасылаў стаяць у чарзе перад варотамі камбіната. Ну, ладна. Мітынгаваць ты там не станеш. І пераварот не зробіш. Дзейнічай па свайму розуму. Што ў цябе, Іван Карнеевіч?

Іван трохі сумеўся, паглядзеў на сябра свайго маленства. Качанок зразумеў, пакрыўджана спытаў:

— Я што — перашкаджаю?

— Я хацеў бы вам аднаму...— сказаў Іван Астаповічу.

Качанок абурана падскочыў.

— Ад каго хаваешся? Ад мяне? Смешна.

— Што ты пазбаўляеш яго права на тайну? — пасміхнуўся дырэктар.— Ад жонкі і то тайны бываюць... і ў цябе, і ў мяне. А можа, мы твае костачкі хочам памыць?

— Ета я знаю. Ён,— зняважліва, сярдзіта кіўнуў на Івана,— міма не пройдзе, шчоб не штурхнуць. Развялі дземакрацію на сваю галаву! — кінуўшы апошняе Астаповічу, Качанок з выглядам абражанага выйшаў з кабінета.

Астаповіч сказаў:

— Добры работнік. Энергіі ў яго — на брыгаду хапіла б. Але...— аднак не расшыфраваў гэтага «але», толькі стоена ўздыхнуў, можа, ад таго, што пасада яго і ўзрост вымушаюць мірыцца з многімі «але». Іван думаў пра сваё, Качанок яго мала цікавіў, таму згадзіўся, не ўхваляючы і не асуджаючы.

— Работаць ён умее.

Астаповіч узняў галаву, усё роўна як устрывожаны, пільна паглядзеў на Івана, які сядзеў каля акна.

— Сядай бліжэй. Каб я вочы твае бачыў. Што ў цябе за сакрэт, што з-за яго мы Якава выгналі?

Іван перасеў у крэсла, у якім нядаўна сядзеў стары Капыток, схіліўся ў нязграбным паўпавароце, узлёг правым бокам на стол, вельмі блізка падставіўшы дырэктару вочы: на, глядзі. Уздыхнуў цяжка:

— З машыны хачу ўхадзіць, Цімафеевіч.

Усяго чакаў Астаповіч, любой самай інтымнай споведзі, але не гэтага, таму вельмі здзівіўся. Нярэдкія гэта просьбы, калі людзі просяцца з аднае работы на другую. Але каб Іван Батрак!

— Ты — з машыны? Што здарылася?

— Баяцца я пачаў, Цімафеевіч.

— Чаго? Каго?

— Наехаць на чалавека. Калі за руль первы раз сеў, трактар, як п'яны, хадзіў — не думаў пра ета. Ніколі не думаў. А цяпер еду і думаю... Усюды думаю, на шашы, у горадзе: не падбіць бы... Ажно рукі пацеюць. І спіну потам аблівае. У вачах мільгае...

— Дрэнна.

— Вельмі пагана, Цімафеевіч.

— Адпачыць табе трэба. Бяры пуцёўку ў санаторый.

— Не паможа. Не паеду я.

Астаповіч нахіліўся над сталом і зусім зблізку вельмі пільна, як урач-псіхіятр, паглядзеў у Іванавы вочы. Іван не апусціў іх. Вытрымаў позірк.

— Калі гэта пачалося? Пасля таго, як вярнуўся ён? — кіўнуў назад, за спіну, па напрамку хата Шышкі была наперадзе, але Астаповіч кіўнуў не ў бок хаты — у мінулае, напэўна.

— Пасля. Я чуць не ўбіў яго, калі дровы вазіў.

Хведар Цімафеевіч мацюкнуўся, рэдка такія словы ў яго вырываліся. Але тут не вытрымаў.

— Прабач. Слоў у мяне другіх няма. На яго.

Паглядзеў на гадзіннік. Івану здалося, што Астаповіч дае зразумець, што ў яго няма часу, гэта яго пакрыўдзіла: не скончана ж размова! Ён памкнуўся падняцца. Але дырэктар працягнуў руку, накрыў даланёй Іванаву руку, зняўшы трубку тэлефона, прыціснуў яе галавой да пляча, набраў нумар.

— Міхалеўскі? Добрай раніцы. Астаповіч. Не думаў, што застану. Не паверыў бы, што пракурор з'яўляецца на работу ў такую рань. Ды не! Чаго гэта я буду правяраць? Пракуратура мяне павінна правяраць. Не, бяды, дзякуй богу, няма... Пакуль што. Але трывожыць мяне. Помніш нашу размову? Слухай, можаш ты памагчы нам пазбавіцца ад гэтага тыпа? Міхалеўскі! Я твой бацька... па ўзросту. І Канстытуцыю я знаю... Ну, можа, не так глыбока, як ты, але знаю... Паважаю і ўсе прававыя законы. Ну, а калі не фармальна, а пачалавечы? Смярдзіць ён, сукін сын! Атручвае атмасферу! Харошую, нашу, савецкую. Не спяшацца? А чаго чакаць? Што? — Астаповіч пачаў слухаць моўчкі.

Іван, зразумеўшы, каму пазваніў дырэктар, успомніў сваю размову з пракурорам і скептычна ўсміхнуўся. Калі ж Астаповіч пачаў моўчкі і, здаецца, зацікаўлена слухаць, што гаворыць пракурор, гучна сказаў:

— Не трэба ета, Цімафеевіч,— і праз пэўны час паўтарыў:— Попусту ета,— і падняўся, намерваючыся выйсці, але дырэктар жэстам загадаў яму чакаць. Калі ён скончыў размову, за штось падзякаваўшы Міхалеўскаму, Іван зноў сказаў:— Не пракурорава ета дзела.

— А чыё?

— Маё. Тут, Хведар Цімафеевіч, толькі адзін пракурор і адзін суддзя — мая памяць. Каго яна асудзіць?.. Можа я сам сябе асуджу. Што забыўся на сваіх...

— Такія думкі выкінь з галавы! — па-бацькоўску строга сказаў Астаповіч. Выйшаў з-за стала, сілком пасадзіў Івана на ранейшае месца. Сам сеў напроціў, як сядзеў са старым Капытком.

— Памыляешся ты, што гэта толькі твая справа! Гэта, знаеш, паклёп на людзей. Думаеш, людзі яму даравалі? І гэта для яго можа самы страшны суд.

— Каму машыну здаць?

— Пракурор чытае яго справу. Судовую.

— Няхай чытае.

— Не падабаешся ты мне.

— Вы за мяне не бойцеся, Цімафеевіч. У мяне — дзеці...

— Во, гэта іншая размова. Майстэрню прымеш?

Іван хвіліну падумаў.

— Загадчыкам — мне трэба будзе садзіцца за руль. Рознае там. Абкатка... Паездкі па запчасці. Дайце слесарам парабіць. Каб цэлы дзень у яме, пад машынай, з ключом...

— Хочаш здаць сёння?

— Сягонні.

— Здай пакуль што Шчэрбу.

Рабіў Іван апантана. Праўда, не ў яме сядзеў. Падняўся высока, пад самы крук крана — збіраў камбайн пасля рамонту. Але не проста збіраў — правяраў кожную дэталь: яму на гэтым камбайне рабіць. Інжынера Капыловіча, які выконваў абавязкі загадчыка майстэрні, заганяў да поту: прымусіў некаторыя дэталі замяніць нанова, хоць той лічыў машыну адрамантаванай.

Капыловіч не стаў спрачацца з такім аўтарытэтам, як Батрак. Здзівіўся хіба, чаму раптам лепшы шафёр пайшоў у слесары. Спытаў трохі ўедліва:

— Няўжо і вы, Іван Карнеевіч, накалоліся на Драмаку?

Іванава з'яўленне ў майстэрні здзівіла шмат каго, падзея гэтая была галоўнай навінай дня. Але што да Капыловіча, то той моцна ўзрадаваўся, што атрымаў не слесара, а вопытнага механіка: Батрак ведае машыны так, як ён, малады механік, будзе ведаць не скора яшчэ. Пры такім слесару няма патрэбы яму, інжынеру, сачыць за разборкай ці зборкай кожнага вузла, можна заняцца сваімі справамі. А ў яго, маладога, халасцяка, хапала спраў апроч майстэрні. Прыемна спалучаць гэтыя справы з выкананнем службовых абавязкаў — машыны былі ўсюды, у кожным аддзяленні, на складах, на фермах. Але там жа былі і маладыя апаратчыцы.

Капыловіч ускочыў на свой новы матацыкл, якім яшчэ не нацешыўся, і, нарабіўшы ляскату на ўвесь машынны двор, пагнаў у «трэцяе аддзяленне»; сказаў, што ў трэцяе, а паехаў у другі бок, з чаго рамонтнікі пасмяяліся: «Не навучыўся інжынер манеўраваць».

Работа Івана радавала — не з'яўляліся тыя думкі, што за рулём, не было ім месца ў галаве, занятай машынай. Таму не хацелася яму адрывацца нават на кароткія перакуры. Напарнік, малады слесар, які толькі мінулай вясной скончыў вучылішча «Сельгастэхнікі», хлопец не з сарамлівых і не з баязлівых, з інжынерам сварыўся, а перад Іванам як самлеў: пабаяўся нават нагадаць пра абед. Слесар другой пары, Дзям'ян Сернікаў, таксама былы шафёр, пазбаўлены за аварыю правоў, крыкнуў:

— Батрак! Мы тут жывём па-гарадскому, па-заводскаму. Па гудку. Не тое што вы, бадзягі. Пайшлі абедаць. А то боршч перапрэе.

Іван нехаця спусціўся з мастка камбайна. Не паспеў выцерці вехаццю рукі, як зазваніў тэлефон. Яго напарнік Коля працягнуў яму трубку.

— Вас, дзядзька Іван. Ліяна.

Звычайная справа, што яму званіла дыспетчар. Іван любіў яе ласкавы, заўсёды як бы перапрашальны галасок, любіў пажартаваць з ёй. Але тое, што дыспетчар, ведаючы, што ён здаў машыну, звоніць яму чамусьці спалохана.

Голас у Ліяны быў незвычайны, перарывісты, сумны:

— Іван Карнеевіч, разбіўся Шчэрба.

Ліяна вінавата тлумачыла, што яна не можа знайсці нікога з кіраўніцтва, але Іван спытаў адно:

— Дзе?

— Ля Кусяёў дзесьці. Адтуль пазванілі.

Іван апусціў трубку, сказаў слесарам, якія адчулі, што перадалі нешта незвычайнае, і глядзелі на яго:

— Разбіўся Хведзька,— і да Колі, які прыязджаў на працу з суседняй вёскі на матацыкле:— Дай матацыкл!

Да Кусяёў было кіламетраў восем. Іван, забыўшыся на паліто, у адным камбінезоне, вылецеў на шашу і ўжо праскочыў чайную, сельмаг, ды раптам развярнуўся, на шалёнай хуткасці, палохаючы вучняў, якія вярталіся са школы, падляцеў да ўрачэбнага пункта, ускочыў туды.

У пакоі ўрача сядзела Тася ў белым халаце, у белай шапачцы, пісала нейкую сваю медыцынскую справаздачу. Убачыла мужа ў такім выглядзе, мурзатага, у камбінезоне — збялела ад спалоху.

— Ваня! Што з табой?

— Збірайся! Бяда!

— Якая? Дзе?

— Хведзька разбіўся.

Яна не стала распытваць, паспешліва сабрала неабходнае для першай дапамогі. Але Івану здалося, што робіць Тася гэта з недаравальным спакоем і павольнасцю, хоць у сапраўднасці яна збіралася з прафесійнай акуратнасцю, каб нічога не забыцца для ўратавання жыцця. Іван узлаваўся, упершыню яго абурыў жончын спакой. Крыкнуў:

— Ды скарэй ты! Рукі ў цябе памлелі, ці шчо?

Але роблены спакой яе ўміг разляцеўся, калі, апранутая ў футра, яна ўбачыла, што Іван збіраецца ехаць на матацыкле ў адным камбінезоне.

— Дзе тваё паліто? Дзе твая машына? Заедзем дадому — апраніся! Запаленне хочаш схапіць?

— Тася! — не сказаў — прастагнаў ён так, што яна адразу сцялася, зніякавела, быццам зрабіла ці сказала нешта непрыстойнае, і моўчкі ўзабралася на задняе сядзенне; трымаючы на правай руцэ саквояж, абхапіла мужа рукамі, прыціснулася — хоць спіну яму грэць футрам.

Іван выціскаў з матацыкла ўсю яго магутнасць. Свістаў ля вушэй вецер, балюча біў у твар сцюдзёнасцю. Страшна ляцелі, здавалася, лоб у лоб, стрэчныя машыны. Але страшней было, калі Іван абганяў грузавікі: праходзіў упрыцірку ля борта. У Таісы Міхайлаўны замірала сэрца. Яна заплюшчвала вочы. Малілася богу, у якога не верыла. Яна заўсёды баялася матацыклаў і рашуча запярэчыла, калі гадоў колькі назад, тады яшчэ не дараслі да мары пра машыну, Іван хацеў купіць матацыкл. Жонка шафёра, яна верыла ў чатыры колы і не верыла ў два.

Можа ўпершыню яна, смелая, рызыкоўная, так спалохалася хуткасці. А яшчэ баялася, што Іван прастудзіцца. Яна не паспела надзець пальчаткі, і яе голыя рукі, скрыжаваныя на мужавых грудзях, адразу заледзянелі. Таіса Міхайлаўна з болем думала, што так жа заледзянелі Іванавы грудзі, бо пад камбінезонам не было нават пінжака — адна фланелевая сарочка. Яна сваімі далонямі засланяла яго грудзі ад ветру. Дакарала: «Ах, які дурань! Ах, які дурань! Як малы»,— але яму не сказала больш ніводнага слова, баялася не толькі паварушыцца — уздыхнуць мацней, каб нічым, ні на адно імгненне не адцягнуць яго ўвагу ад дарогі, ад руля.

З-за страху і клопатаў пра мужа не паспела нават падумаць пра Хведара Шчэрбу. Толькі калі здалёк, можа за два кіламетры, убачыла на шашы скапленне машын, падумала пра аварыю і што ў аварыю трапіў Хведзька, вясёлы сябра іх сям'і, з кім яна нярэдка сварылася і аднак жа любіла яго за шчырасць, праўдзівасць, весялосць, бесклапотнасць — нічога яму не хацелася, акрамя чаркі гарэлкі,— ні адзення, ні машыны, ні мэблі. Што з ім? Ранены? А калі? Таіса Міхайлаўна пахаладзела ад гэтай думкі, і ёй зрабілася сорамна за свой эгаізм, яна зразумела Івана, і сама захвалявалася.

Матацыкл праскочыў паміж машынамі, што стаялі з двух бакоў на ўзбочынах, туды, дзе над вольхамі ўздымаўся густы чорны дым.

Іван рэзка затармазіў, саскочыў з сядзення. Тася не адразу разняла рукі на яго грудзях, так і саскочыла разам з мужам, вельмі недарэчна ў такой сітуацыі абнімаючы яго. Але не таму яна не разняла рук, што яны моцна замерзлі, адзервянелі,— ад здзіўлення, неўразумення, утрапення, што ўдарылі ў сэрца новым, незнаёмым, страхам: гарэла... Іванава машына. З шашы яе занесла ў кювет; скрышыўшы нетрывалы яшчэ лёд, машына праскочыла неглыбокі кювет і радыятарам зламала маладыя алешыны. Гарэлі матор, кабіна, кузаў. Некалькі шафёраў, чэрпаючы вёдрамі ваду, спрабавалі заліць агонь. Але ад вады языкі полымя як бы выскоквалі з абвугленай, ужо згарэлай кабіны на паверхню, так бывае, калі вадой тушаць бензін ці керасін.

Нямала іншых шафёраў і пасажыраў — спыніліся два аўтобусы — стаялі на шашы і давалі парады, кожны выдаваў сябе за вялікага знаўцу, як тушыць машыны.

Збоку пад алешынамі ляжалі два адкормленыя бычкі, адзін мёртвы, другі жывы — ён імкнуўся ўстаць і не мог, канвульсіўна біў нагамі па мёрзлай зямлі, па вольхах і жаласліва рыкаў, як прасіў у людзей дапамогі.

Старэчы жаночы голас гэтак жа жаласліва прасіў:

— Хлопчыкі, прыкаліце вы гэтага бычка. Няхай не мучаецца.

Таіса Міхайлаўна з жудасцю падумала: «Няўжо Хведзька ў кабіне?»

Іван, адарваўшыся ад яе, быў ужо там, каля машыны, прайшоўшы ў чаравіках па вадзе. Але Тася гэтага не заўважыла, не аб яго прастудзе яна думала цяпер. Вядома, калі Хведзька ў кабіне, то Іван кінецца туды. Яна са страхам і з надзеяй сачыла за мужам. З надзеяй — што не можа Хведар быць там: столькі прайшло часу! І столькі людзей навокал! Не маглі яны дапусціць, каб чалавек згарэў.

Тут яе паклікалі — убачылі сумку з чырвоным крыжам.

— Доктар! Доктар! Сюды! Тут ён, вадзіцель!

Клікалі з другога боку шашы, куды яны, пад'ехаўшы, не паглядзелі нават, там стаялі машыны.

На другім баку кювет быў сухі, і за ім раслі старыя дубы. Пад адным з дубоў на грудку ляжаў Хведар Шчэрба. Твар яго быў закрыты мокрым ручніком, дзве клапатлівыя жанчыны стаялі над ім на каленях і стараліся, як умелі, памагчы.

Таіса Міхайлаўна не ўбачыла твару, але ўбачыла згарэлыя валасы на галаве, рукі з крывавымі пухірамі, вялікія прапаліны на штанах, на ватніку, праз дзіркі свяцілася ружовае цела. Тады яна сцяміла, як цяжка чалавек абпаліўся. Здалося, што Хведар мёртвы. Таіса Міхайлаўна разгубілася: што ж рабіць ёй? Душылі спазмы, вырываўся плач, але разумела, што тут, перад людзьмі, яна не мае права заплакаць. Жанчыны глядзяць на яе, чакаюць кваліфікаванай дапамогі. Значыцца, жывы ён. Ды і сам Хведар як бы пачуў яе прысутнасць: задрыжаў увесь і па-здароваму пыхнуў. Абпаленая напратка на ім была ўся мокрая, відаць, тушачы яе, ён увесь акунуўся ў ваду.

Яна ўпала на калені, зняла з яго твару мокры ручнік. Твар быў апухлы, адно вока заплыло... Але другім ён глянуў на яе свядома, пазнаў, і ў воку адбілася радасць, нават знаёмыя гарэзлівыя смяшынкі.

— А-а, кума! Здаравэнька була. Улі ты ў маю вантробу чаго-небудзь гарачага, а то я зварыўся, а цяпер застываю, як студзень.

— Хведзечка, родненькі... Чакай, чакай,— вельмі ўзрадавалася, што Хведар жывы, нават жартуе, і агарнула яе такая пяшчота да яго, што хацелася цалаваць абпалены твар, вочы, распухлыя вусны, сагрэць яго сваім дыханнем.

Яна расшпіляла сумку, але рукі не слухаліся яе, калаціліся, і яна прасіла вінавата і ласкава, як малога:

— Зараз, зараз, Хведзечка. Пацярпі хвіліначку.

— Цярплю, цярплю, кума.

Збіраючы аптэчку першай дапамогі, яна чамусьці думала пра раненне і не падумала, што чалавек можа абпаліцца. Яна ўзяла ўсё і

забылася на навакаін, а гэта ж першае, што яна павінна зрабіць — навакаінавыя прымочкі.

— Дык дасі ты мне сагрэць душу?

Таіса Міхайлаўна, незадаволеная сабою, падумала, што за дваццаць гадоў працы акушэркай, фельчарам яна так і не ўведала ці можна такому абпаленаму даць глыток спірту. А калі ад гэтага будзе горш? Уяўляючы, як баляць яго абпаліны, яна дрыготкімі рукамі разламала ампулу прамедолу, каб зрабіць укол, абязболіць.

— Разарвіце рукаў,— загадала яна жанчыне.

Хведар Шчэрба, непуцёвы балбатун, мацюжнік, які, здавалася, нікога і нічога не саромеўся, раптам вінавата і сарамліва сказаў:

— Тася!.. Маладзічкам етым я не сказаў. А табе... ты доктар... Пашкуматала мне задніцу... Можа галоўнае адарвалася... кроў там хлешча, чую... Горача ў портках.

— Во чалавек! Яшчэ шуткуе! — захоплена сказаў малады, звонкі голас за Тасінай спіной.— Я першы пад'ехаў. На ім усё гарыць... Машына гарыць... А ён бычкоў сцягвае... Яны равуць, упіраюцца, баяцца ў ваду з кузава скакаць, Я акунуў яго самога. Каб не я — згарэў бы ўвесь, да ніткі.

— Памажыце павярнуць хворага,— папрасіла Тася маладога шафёра і жанчын, трэба было агледзець раны, пра якія Шчэрба толькі што сказаў.

Тася не бачыла, як падышоў Іван, а Хведар убачыў сябра і ажно памкнуўся падняцца:

— Карнеевіч! Не думай. Не я! Узарваўся бак. Мяне выкінула, як катапультай. Паляцеў, што твая ракета! І плюхнуўся на шашу. Слухай, ад чаго ён мог узарвацца? Іван! Во дзіва!

Тады да Тасі не дайшоў сэнс Хведаравых слоў. Уся яе ўвага была скіравана на дапамогу яму. Калі Шчэрбу павярнулі і яна агаліла яго са спіны, то з жахам убачыла, што ногі, ягадзіцы і паясніца ў чалавека — крывавае месіва. Цяжкае раненне і апёк. А ён усё жартуе, хрыпіць, уткнуўшыся абпаленым тварам у расталы снег, у прэлае дубовае лісце:

— Кума! Пяць грамаў спірту, зараза, шкадуеш?

— Хведзечка, пацярпі.

— Пацярпі! Я табе не Ісус Хрыстос.

З раненнямі прыходзілася мець справу часцей, чым з апёкам, і ў Таісы Міхайлаўны з'явіліся ўпэўненасць, спрыт, лоўкасць: для апрацоўкі раны, для перавязкі ўсё мелася.

Але Шчэрба, які хвіліну назад жартаваў, раптам страціў прытомнасць. Шок. Таіса Міхайлаўна зноў адчула сваю бездапаможнасць.

— Ці вызвалі скорую?

З тых, што памагалі ёй, ніхто пэўна не ведаў. Яна клікала Івана, але ён быў недзе там, ля машыны.

На яе шчасце, праз колькі хвілін, трывожна сігналячы, падляцела «хуткая дапамога». Пажылы ўрач, без паліто, у бялюткім халаце, глянуў на раненага, нявесела свіснуў, зрабіў свой укол, супрацьшокавы, і, не даўшы скончыць складаную перавязку, каротка загадаў санітарам:

— У машыну!

Тася засталася пад дубамі адна, непатрэбная цяпер нікому, з новым страхам, падобным на той, які яна перажыла аднойчы: некалі трохгадовы Карней захварэў на адзёр і яго, маленькага, з высокай тэмпературай, забралі ў інфекцыйную бальніцу, а яе не пусцілі туды.

Падышла машына ДАІ, з яе праз моцны рупар камандаваў сам Драмака:

— Увага! Увага! Таварышы вадзіцелі! Увесь транспарт, акрамя транспарту саўгаса «Добрынскі», прашу рухацца сваімі маршрутамі. Ачысціць шашу! Ачысціць шашу! Не рабіце затору!

Загудзелі маторы. Засігналілі аўтобусы, склікаючы пасажыраў, якія разбрыліся па лесе. Загад аўтаінспектара выконвалі акуратна і неадкладна, і праз колькі хвілін шаша апусцела. Цяпер на ёй стаяла толькі жоўтая машына ДАІ, з сінім ліхтаром угары, які круціўся і пасылаў сігналы, ды чырвоная пажарная машына, іх, саўгасная. Хадзілі свае людзі — Кузя, Забаўскі, пажарнік Сяргей Хамякоў.

Таіса Міхайлаўна пайшла да іх. У кювеце ўсё яшчэ біў нагамі і ўжо знясілена, хрыпла мыкаў ранены бычок, так ніхто яго і не прыкалоў, нягледзячы на просьбы жанчын.

Цяпер крыкнуў Хамякоў:

— Прыстраліце бычка! Капітан! У цябе пісталет.

Драмака аглядаў згарэлую машыну, якая ўсё яшчэ курэла, ахутаная дымам і парай. Аглядаў пільна, як прафесар хворага. Пачуўшы Хамякова, адарваўся ад машыны, дастаў з кабуры пісталет.

Тася заплюшчыла вочы. Нямала яна бачыла смерцяў, але смерці гэтага бычка ёй чамусьці не хацелася бачыць. Ды замест стрэлу яна пачула голас Хамякова і плюханне вады:

— Ваякі, такую вашу!.. Слюнцяі! Бычка не можаце забіць!

Хамякоў перайшоў кювет, вырваў у разгубленага начальніка ДАІ з рук пісталет і стрэліў бычку ў вуха. Той тузануўся і адразу ж выцягнуўся, спруцянеў.

Убачыўшы, што акушэрка намерваецца пераходзіць кювет у сваіх нізкіх ботах, асілак Кузя падхапіў яе адной рукой, як малую, і перанёс на той бок да машыны.

Іван, задымлены, мурзаты, з мантажнай лапаткай у руках, імкнуўся падняць пагнуты, скручаны, абгарэлы капот.

Драмака спытаў у яго:

— Дык што ж, па-твойму, Іван Карнеевіч, здарылася?

— Шчэрба сказаў, што бензабак узарваўся на ходу. На дарозе. Яго выкінула... а так згарэў бы чалавек. Бачыце, як згарэла кабіна?

Тады толькі да Таісы Міхайлаўны дайшоў сэнс таго, што адбылося. Яе скаланула ўсю, ударыла так, што пачало ліхаманіць. Не зважаючы на людзей, яна кінулася да мужа, адпіхнула яго ад машыны, быццам у ёй усё яшчэ таілася смяртэльная небяспека, потым схапіла за плечы, пачала трэсці.

— Гэта ён! Ён! Ён! Ён хацеў забіць цябе! Ванечка! Ён хацеў забіць цябе!

Разгублены, спалоханы, Іван адарваў ад сябе жончыны рукі, але, убачыўшы, як яе ліхаманку, абняў, прыціснуў галаву да свайго прапахлага бензінам, мазутам і дымам камбінезона.

— Успакойся. Што з табой, Тася? Успакойся, прашу. Пра што ты кажаш!

Але сам толькі цяпер, пасля яе слоў, падумаў пра Шышку, у галаву ўдарыла млосная гарачыня. А потым стала горача ў жываце, пад сэрцам. Тася, як самлелая, павісла ў яго на руках, цяжкая-цяжкая. Відаць, усе прысутныя таксама ўпершыню падумалі, што гэта не звычайная аварыя, не ад таго, што Шчэрба, магчыма, учора перапіў, з пахмелля заехаў у кювет, ударыўся ў вольхі, і машына загарэлася.

Павел Драмака вярнуўся да сваёй «канарэйкі». Выклікаў па рацыі абласную ДАІ, прасіў тэрмінова накіраваць экспертаў па аварыях, крыміналістаў.

— Так, магчыма, дыверсія! — пачулі яго голас.

— Дыверсія? У нас? — здзівіўся Кузя; аграном, чалавек малады, далёкі ад мінулага добрынцаў, магчыма, адзін не зразумеў Тасіных слоў і не здолеў звязаць падзеі ў адзін вузел.— Мы і слова такое забыліся.

— Я табе растлумачу яго,— сказаў Забаўскі, сур'ёзна, панура.

— Дзякую,— Кузя жартаўліва пакланіўся.

Ды ўсім іншым было не да жартаў.

Яны сядзелі за сталом, адно перад адным, і Таіса Міхайлаўна не зводзіла з мужа спалоханых, засмучаных, але і радасна закаханых вачэй. Так можа яна не глядзела ніколі. Так напэўна глядзелі жонкі на мужоў, якія вярталіся з вайны, з фронту. І гэтак жа асцерагаліся адразу гаварыць пра тое, што перажылі — ён там, пад агнём, перад штодзённай смерцю, а яна тут, у вялікай душэўнай трывозе. Каб не спалохаць радасці. І каб сваім шчасцем не абразіць памяць тых, хто загінуў.

Так і яны. Іван ажно разгубіўся ад такіх жончыных вачэй, адчуваў нейкую дзіўную няёмкасць. Быў ён па-дзіцячы бездапаможны, смяртэльна знясілены, а таму паслухмяны, сцішаны. Можа там, ля спаленай машыны, калі Тася закалацілася, закрычала пра Шышку, ён праявіў апошнюю волю, супакойваючы яе. А пасля ўжо ва ўсім падпарадкаваўся ёй. Адчуўшы, што яго ліхаманіць, яна даволі сярдзіта крыкнула сваім, добрынцам:

— Дайце яму надзець што! Ён жа ў адным камбінезоне.

Забаўскі скінуў сваю куртку на штучным футры і накінуў Івану на плечы, а Хамякоў з мацюкамі, не саромеючыся яе, жанчыны, пагнаў іх абаіх у кабіну сваёй пажарнай машыны.

Дома Тася паставіла мужу банькі — для прафілактыкі, дала аспірын, напаіла ліпавым чаем з гарэлкай, прымусіла надзець цёплую бялізну і ажно два світэры. Здавалася, не было ў яе большага клопату, як усцерагчы яго ад прастуды, ад запалення лёгкіх. Але ён разумеў, што такая актыўная дзейнасць, калі яны засталіся сам-насам (Карнея дома не было), ёй патрэбна для душэўнай разрадкі — абы не сядзець без справы і гаварыць не пра тое, галоўнае, што балела і хвалявала, а пра старонняе, другараднае, бытавое: які чай выпіць лепш, ліпавы ці малінавы? Што дадаць у яго — спірт ці гарэлку? Што ён, Іван, хацеў бы з'есці? І яму было так лягчэй — ад гэтай жончынай дзейнасці, ад яе клопатаў; ён не адмаўляўся, не адбіваўся, наадварот, стараўся падтрымаць гаворку пра чай, пра маліну, пра спірт, што выдаецца за рэктыфікат, а пахне сырцом, сказаў, што яму захацелася салёных рыжыкаў, хоць у сапраўднасці яму нічога не хацелася,— сказаў, каб была для Тасі яшчэ адна работа — злазіць у пограб, набраць рыжыкаў.

Праўда, і ў машыне, і ў першыя хвіліны дома Тася яшчэ колькі разоў паўтарыла: «Гэта ён! Ён! Яго зладзейства!»

Іван нават трохі ўзлаваўся, сказаў:

— Пакуль не даказана — няма чаго пра ета гаварыць! Што папустому крычаць?

Але супакоілі Тасю не гэтыя словы. Калі ставіла банькі, ён, уткнуўшыся тварам у падушку, глуха пачаў расказваць, цяжка дыхаючы, усё роўна што нёс вялікі цяжар:

— Ты знаеш, я ўранні выйшаў на гарод — і мяне як у грудзі піхнула. Чую: не магу садзіцца за руль. Бывае ж так. Замест машыннага двара пайшоў у кантору да Астаповіча. А выйшла, бачыш, што? Як падставіў я Хведзьку...

Тады Тася зразумела, як Іван пакутуе ад гэтай думкі. І апусцілася на калені, прыціснулася вуснамі да яго голага локця.

— Ванечка, не думай пра гэта. Не думай. Гэта нейкая вышэйшая сіла цябе спыніла. Хіба можна, каб аднаму столькі гора? Каб ён і нас асіраціў. Мне хочацца паверыць у бога...

— Выдумаеш!

Пасля Тася старалася гаварыць аб усім — аб справах, аб людзях, аб дзецях, аб Забаўскім, што раніцой ён прыходзіў на ўрачэбны пункт, бытта хацеў палячыць зуб, але зубнога ўрача сёння не было, і яны гаварылі пра Валю... Па выразу Іванавага твару ўбачыла, што загаварыла не пра тое, не да месца. Асеклася. Часам яны непрыкметна падступалі зноў да таго, чым жылі, пра што думалі,— і тут жа асцярожна адступалі, адыходзілі.

Так было, пакуль Тася ратавала яго ад прастуды, шукала лекі, гатавала і падавала на стол абед. А селі за стол — і змоўклі, не ведалі, пра што гаварыць. Можа, праз тое, што Тася так дзіўна, так незвычайна разглядвала мужа.

Іван вінавата і сарамліва папрасіў:

— Не глядзі ты на мяне так, Тася!

— А ты еш, ты еш. Ты нічога не ясі, таму я гляджу. Выпі яшчэ чарку. Табе трэба сагрэцца. Ты як малы — дадумаўся, у адным камбінезоне. Хаця б пінжак накінуў.

— Да таго хіба было? Толькі перадаў машыну, і тут звоніць Ліяна: Шчэрба разбіўся... Бывае ж так. Глыбокіх ран хоць няма?

— Раны можа не страшныя. Абпалена многа, Ваня. Апёк страшней.

— Яго бензінам абпырскала.

— Люба паехала ў бальніцу на дырэктаравай машыне.

— Кажуць, для перасадкі трэба скура тых, хто гарэў... Каржоў таварышу ўсё аддасць. Франтавік!

— Пайду праведаю Любіных дзяцей.

— Схадзі,— ён разумеў, што Тасі трэба ўсё яшчэ нешта рабіць, што дома яна не ведае, чым заняцца пасля таго, як дагледзела яго.

— Толькі ты еш. Чай пі. Я заварыла, як ты любіш. Што дзёгаць. У печы чайнік. Каб не астыў. Занесці ім чаго, дзецям?

— Не трэба. Не малыя. І... не сіраты.

Словы гэтыя — «не сіраты» — нарадзілі ў яе новую трывогу, новы неспакой. Але Шчэрбавы дзеці яе расчаравалі. Не малыя. Старэйшая дачка ўжо на ферме робіць, самы малодшы ў чацвёртым класе. Дзеці, глядзелі тэлевізар, нейкі фільм, як бы не разумеючы, што адбылося. Нават не спыталі ў яе, у якім стане бацьку павезлі ў бальніцу.

Таісе Міхайлаўне заўсёды не падабалася, што Люба настройвала дзяцей супраць бацькі. Казала самой Любе і Тамары, старэйшай Шчэрбавай, што так нельга, бацька ёсць бацька. З Іванам неаднойчы гаварыла пра гэта. Цяпер таксама падумала, што нядобра Люба рабіла. У Хведара была слабасць, бадай што хвароба. Але колькі было душэўнай дабрыні, чуласці!

Спакой Шчэрбавых дзяцей яшчэ больш узмацніў яе ўласны неспакой. Яна пайшла на ўрачэбны пункт. Нягледзячы на позні час, Ліпская была там. Напэўна, чакала яе. Рыма Сяргееўна, да педантычнасці акуратная і адданая сваёй прафесіі, патрабавала, каб кожны з іх, падначаленых, дакладваў аб усіх сур'ёзных хворых. Аб такой аварыі, аб такім раненні рабочага яна павінна пачуць ад таго, хто аказваў Шчэрбе першую дапамогу.

Яны доўга званілі ў бальніцу. Але нікога са знаёмых урачоў, хто мог бы паведаміць аб стане раненага падрабязна, не знайшлі, а незнаёмы дзяжурны ардынатар адказаў коратка, шаблонна: «Хвораму зрабілі аперацыю. Адчуванне нармальнае».

Разумей як хочаш. Абураліся з-за гэтай чыноўніцкай казённшчыны; яны, сельскія медыкі, ніколі так не адказваюць, у іх хапае часу і цярпення растлумачыць людзям па-чалавечы аб іх блізкіх.

Снежаньскі дзень кароткі. Пакуль сядзелі ў паўзмроку кабінета ўрача з белай шафай, з белай канапай, пад снежнай беллю за акном, Таіса Міхайлаўна, захопленая размовай, ні аб чым не думала, нават перажытае ў сувязі з аварыяй на нейкі час адышло, перастала балець. А ўключыла Рыма Сяргееўна лямпу — ад святла ў пакоі пачарнела за акном, нібы адразу наступіла глыбокая ноч,— і Таісу раптам апанаваў страх: блікнула думка, што калі бандзюга той, фашыст, не забіў Івана ў машыне, то ён будзе шукаць магчымасці забіць яго іншым чынам.

Яна наспех развіталася з урачом і, абы-як завязаўшы хустку, кінулася дадому.

Сяло жыло яшчэ шумным вячэрнім жыццём. Крычалі і смяяліся на коўзанцы дзеці, стаялі ля водаправодных калонак жанчыны — каб пагаварыць пра навіну дня, рыкалі ў дварах каровы, чакаючы ад

гаспадынь пойла, палілася ў печах, мірна і смачна пахла дымам, салам і дранікамі. А ў Таісы Міхайлаўны ўсё роўна рос страх, і яна, калі не відно было блізка людзей, бегла, задыхаючыся ад такой хады, ад боязі, што нехта можа спыніць яе, як спыняюць часта.

Яшчэ больш спалохалася, калі ўбачыла, што ў зале іх дома цёмна, толькі на кухні гарыць святло. Ускочыла апантана ў дом, адразу ўключыла святло. Здзівілася, што Іван сядзіць там жа — са непрыбраным сталом, перад шклянкай чаю. Яна яго таксама здзівіла такім сваім выглядам, задыханасцю.

— Ты чаго?

— А ты... ты ўсё сядзіш?

— Не знаю... пайшла нейкая бяздумнасць... зморанасць,— вінавата ўсміхнуўся ён.— Можа, я задрамаў. Не помню.

— Табе нездаровіцца?

— Ды не, нічога.

Тася памацала рукой яго лоб, але рукі былі халодныя, таму не паверыла ім, прыпала да лба вуснамі. Так яна амаль беспамылкова вызначала тэмпературу ў сваіх дзяцей, калі тыя былі малыя.

— Ты лёг бы.

— Не, не буду лажыцца. Цяпер я магу заснуць. А потым прачнуся пасярод ночы... Цяжка мне, бяссонніца. Чортведама што лезе ў галаву.

Таіса хутка распранулася і раптам, на здзіўленне мужу, пачала засланяць вокны, адно — Карнеевай чарцёжнай паперай, другое — коўдрай.

— Нашто гэта ты?

— Гад гэты трыццаць гадоў жыў з адпетымі бандзюгамі. Такія што хочаш могуць зрабіць. Прыязджаюць да яго «святыя»...

— Людзі здзівяцца.

— Няхай здзіўляюцца.

Іван перасмыкнуў плячамі. Пярэчыць яму не хацелася. Яму нічога не хацелася ў той вечар.

А пасля Таісу Міхайлаўну апанаваў новы страх — што няма дома Карнея, загуляў пазней звычайнага, цяпер ён больш сядзіць дома — канчаецца паўгоддзе, многа школьных заданняў.

— Пайду пашукаю Карнея.

Цяпер Іван разумеў яе, матчын, страх і не вельмі рашуча паспрабаваў адгаварыць:

— Што ты будзеш яго шукаць, як малога! Нялоўка хлопцу будзе.

— Ад чаго няёмка? Што маці шукае? Пайду. Толькі ты зачыніся, я прашу цябе.

— Добра,— згадзіўся Іван.

Але яна пастаяла на ганку, трывожна ўслухоўваючыся ўжо бадай у начную цішыню сяла, не дачакаўшыся, калі Іван выйдзе ў сенцы, каб зачыніць дзверы, вярнулася, сказала:

— Я з двара зачыню цябе.

Тады ён запярэчыў рашуча:

— Якую дурату ты ўбіла сабе ў галаву! Сорамна перад людзьмі будзе, калі хто прыйдзе... Забаўскі хацеў прыйсці. Можа сам Астаповіч прыйдзе.

Усё-такі яна настаяла, каб Іван зачыніўся: не адышла, пакуль не пачула, як ён ляпнуў засаўкай.

Таіса Міхайлаўна аббегла паўсяла — па Карнеевых аднакласніках. Адных не было дома, другія не зналі, дзе Карней. А страх яе рос, ажно пакуль адна вучаніца не сказала, што хлопцы пайшлі на пасёлак Вербны праведаць хворага таварыша. Вербны быў за шашой, за лесам, кіламетры за тры ад Добрынкі. Ісці туды трэба па лясной дарозе. Не сказаць, што яна была задужа смелая, у звычайных абставінах ісці такой дарогай уначы пабаялася б. Але цяпер не думала пра сябе, кінулася ў цемру, у лес. Ды на шашы ўсё ж спыніла яе думка, што Карнею сапраўды будзе няёмка перад сябрамі, смяяцца пачнуць, што маці шукае яго ажно ў Вербным.

Спынілася пад соснамі насупраць дома раманцёра. Праз вокны падалі на шашу палосы ўтульнага, добрага святла; каля варот стаялі два грузавікі — як звычайна, начавалі шафёры далёкіх перавозак. Часам зімой яны начавалі ў іх доме; Іван разумеў нялёгкі лёс «міжгароднікаў», сам ездзіў у далёкія рэйсы, таму запрашаў да сябе на начлег. І яна ніколі не баялася чужых людзей. І ўсе людзі нічога не баяцца, шафёры гэтыя едуць за тысячы кіламетраў, з каштоўным грузам начуюць, дзе застае ноч, наступае стомленасць. А цяпер яна баіцца. Цяпер яна не пусціла б незнаёмага, няхай і з машынай. І гэта не мніцельнасць. Не. Яна адчувае рэальную небяспеку — Івану, Карнею, ёй самой. Падумала пра Валю — і за Валю ёй таксама стала страшна. Колькі ж можна жыць з такім страхам?

Замерзлі ногі, і ўся яна акалела, бо апранулася не вельмі цёпла, спадзявалася, што знойдзе Карнея ў суседзяў. Але пайсці дадому, не дачакаўшыся сына, не магла. Толькі калі пачула ў лесе вясёлыя галасы хлопцаў, пазнала Карнееў голас, узрадавалася. Але ўсё роўна не пайшла назад у сяло, каб яе не ўбачылі тут. На шашы, у паласе святла з раманцёравых вокнаў, дачакалася хлопцаў.

Карней здзівіўся:

— Мама?

Яна зманіла:

— Дзіця ў Варывончыхі захварэла.

Усіх гэтых хлопцаў яна прымала, калі яны нараджаліся, лячыла малых. Для іх такое тлумачэнне было праўдападобнае, звычайнае. І праз хвіліну яны забыліся на яе, занятыя спрэчкай пра метад стыкоўкі касмічнага карабля і станцыі, колькі дзён назад адбылася такая стыкоўка, на арбіце працавала навуковая станцыя з касманаўтамі.

Яна ішла следам за хлопцамі, рослымі, разумнымі, упэўненымі, у якіх не было і не павінна быць ніякіх страхаў, і ёй раптам захацелася заплакаць, ад чаго — сама не разумела.

Капітан Драмака, пачуўшы ля машыны нервовы крык Таісы Міхайлаўны, ведаючы лепш, чым хто з раённых работнікаў, сітуацыю ў сувязі са зваротам былога паліцая, паверыў, што магла быць дыверсія. І таму падняў на ногі ўсе органы: пракурора, міліцыю, экспертаў ДАІ. Ніводная машына з тых, што траплялі ў аварыю, не абследавалася так, як гэтая. Аварыя сапраўды была загадкавая. Эксперты, якія шмат ведалі і нямала чыталі пра самыя нечаканыя, неверагодныя катастрофы і мала чаму здзіўляліся, паціскалі плячамі. Работу іх ускладняў кювет з вадой: нешта магло апынуцца там, у вадзе. Каўшом экскаватара вычарпалі з кювета пласт зямлі і перагрэблі яе, халодную, якая тут жа замярзала (мароз мацнеў), рукамі. Сам Драмака пераграбаў.

Знайшлі аплаўленую медную пласцінку са слядамі прыпайкі дроцікаў і школьную падкоўку-магніт — з тых рэчаў, што не былі дэталямі машыны. Драмака прыдаў ім значэнне, хоць іншыя эксперты, людзі не менш вопытныя, скептычна ўхмыляліся. Чаго не бывае ў кюветах ля бойкай шашы! Ды яшчэ ў такім лясным месцы, дзе ў летні час, калі было суха, спыняліся сотні машын і на кароткі адпачынак, і на начлег. Пласцінка гэтая магла праваляцца, утаптаная ў зямлю, гадамі. А падкоўка яўна была старая — іржавая і, галоўнае, размагнічаная, не трымалася на жалезе. Аднак Драмака, як вялікія каштоўнасці, з перасцярогай паслаў гэтыя рэчы ў рэспубліканскую лабараторыю.

Але больш, чым лабараторыям, ён верыў паказанням людзей. Верыў у мудрасць старога сялянскага жарту: выйдзі ў самую цёмную ноч са сваёй хаты, пакажы ў прастору кукіш — і раніцой абавязкова знойдзецца чалавек, які спытае, каму ты паказваў кукіш. У сяле існуюць загадкавыя законы начнога жыцця і не бывае тайны, якая не стала б яўнай. Таму Драмака нікога не дапытваў, а проста даверліва гутарыў з самымі рознымі людзьмі — з вартаўнікамі, шафёрамі, з маладымі, што позна гулялі, са школьнікамі, якія па наіўнасці могуць

перадаць падслуханую хатнюю размову. Важна ведаць усе размовы, на гэты конт. Капітан ведаў, што часта зусім выпадкова сказанае, чаму расказчык і значэння не надае, можа даць разумнаму следчаму тую нітачку, за якую размотваюць клубок злачынства.

Іншыя следчыя працавалі афіцыйна. Івана дапытвала прыгожая маладзіца з поўнымі грудзьмі; адразу відно — корміць малое, думае пра яго, таму не надта ўважлівая, паспешлівая. У Івана да яе з'явіўся недавер: што такая можа даследаваць? Але калі яна даведалася, што ён у той жа дзень, за колькі гадзін да аварыі, здаў сваю машыну, у следчай загарэліся вочы, можа ёй здалося, што яна адна зрабіла адкрыццё. Пачала настойліва дапытвацца, чаму ён раптам адмовіўся ад рэйса.

— Я не ў рэйс не пайшоў. Я здаў насаўсім.

— Чаму?

— Доўга расказваць. Ды і цяжка вам будзе паняць.

— Аб гэтым не турбуйцеся. Дык чаму вы здалі машыну?

— Пагана сябе пачуў.

— Што значыцца пагана?

— Галава кружылася.

— Ад чаго?

— Не знаю. Я не доктар. У вас хіба не бывае, што кружыцца галава?

— Батрак! Пытанні задаю я. Вы папіваеце?

— Вы так пра ўсіх мужчын думаеце? У вас што — муж папівае?

Следчая ўзлавалася.

— Я вас папярэджваю, грамадзянін Батрак. Пытанні задаю я.

Некалі пракурорава «грамадзянін» Івана абурыла, а з вуснаў гэтай дамачкі нічога — нават пацешыла.

— Я ўсё гавару, як было.

— Вот і скажыце: чаму вы здалі машыну?

Але Іван раптам успомніў Хведара Шчэрбу, успомніў: раніцой пазванілі, што яму стала горш. У бальніцу разам з Любай паехала Тася. Яму забалела, і ён узлаваўся на неразумную падазронасць гэтай прыгожай жанчыны, маці.

— Што ж вы думаеце, я міну падлажыў пад сваю машыну?

Следчая, здаецца, упершыню збянтэжылася.

— Не, я так не думаю. Але следству трэба знаць, чаму вы здалі машыну.

— Бывае такое, калі чалавек не можа сесці за руль.

— Колькі гадоў вы водзіце машыну?

— Дваццаць.

— Раней быў такі стан?

— Не. Толькі калі радыкуліт скруціў, тады перадаў машыну другому вадзіцелю. Ці калі ў санаторыі быў. Машыны ў нас не стаяць.

Добра, што Іван не ведаў, што дапытвала яго жонка пракурора, а то напэўна раздражняўся б яшчэ больш. І ставіўся б з недаверам, хоць і так падумаў, што не жаночая гэта работа быць следчым, няхай бы жанчына ехала карміць малое, бо яўна ж думае пра сваё дзіцятка, ды і грудзі, відно, набрынялі, баляць.

У той жа момант у канторы саўгаса знаходзіўся і сам Міхалеўскі. Але ён пачаў свой візіт з размовы з Астаповічам. Пракурору падабаліся разважлівасць і асцярожнасць старога дырэктара, яго сумненні наконт дыверсіі. Ні допыт вартаўніка старога Мацвея Рапяха, які кляўся, што за ўсю ноч не заплюшчыў вачэй, хоць добрынцы ў гэта не верылі, ні сабака, што абнюхаў машынны двор, усю дарогу і задворкі Шышкавай сядзібы, ніякіх вынікаў не далі. Міхалеўскі не даў дазволу на вобыск у Шышковіча, чаго хацеў Драмака. Сумненні Астаповіча ўзбадзёрылі пракурора. Ён лічыў свой метад самым правільным: не спяшацца, не фарсіраваць, не наламаць дроў.

Выйшаўшы ад Астаповіча, Міхалеўскі спыніўся ў калідоры, бо за дзвярамі кабінета старшыні рабачкома пачуў жончын голас. Паслухаў, як яна вядзе допыт. Пазнаў голас Батрака. Пра яго яны гаварылі з дырэктарам, з Драмакам, ён адчуваў сябе як бы вінаватым перад гэтым чалавекам, і таму яму не падабаліся жончыны пытанні, яе залішне афіцыйны, як кажуць, «пракурорскі» тон. Не разумее Лена, з кім гаворыць.

Леанід Аркадзьевіч не стрымаўся. Увайшоў без стуку. Алена Макараўна не знала, што муж тут, таму спалохалася, падумала пра сына.

Леанід Аркадзьевіч мякка сказаў жонцы:

— Не трэба, Лена, так,— і да Батрака:— Прабачце, Іван Карнеевіч. Можаце ісці працаваць. З вамі пагаворыць Драмака.

З капітанам Іван паўдня шукаў у згарэлай машыне староннi прадмет і разграбаў вычарпаную з кювета зямлю. Тады яны пагаварылі, як добрыя старыя сябры,— пра ўсё істотнае і неістотнае.

Як ні дзіўна, Івану таксама, на другі дзень, пасля цвярозай мужчынскай развагі, не так ужо верылася ў дыверсію, як пасля Тасіных роспачлівых слоў, яе вячэрняга страху. Страх яе не змяншаўся, ён, бадай, рос. Івана гэта пачало непакоіць. Увечары Тася прыйшла ў майстэрню. Ён зразумеў, прыйшла, каб весці яго дадому, баялася, што ён адзін будзе ісці па загароддзі, паўз сасняк ля фермы і праз алешнік ля раўчака...

У той жа вечар Тася спытала ў Івана, калі ён расказваў пра следства:

— Яго арыштуюць, гада гэтага? — у яе не было і кроплі сумнення, што машыну ўзарваў Шышка.

— Не так гэта проста. У яго — алібі,— магчыма, Іван не дакладна разумеў сэнс гэтага слова. Тася не разумела яго зусім, бо ніколі не мела справы ні са злачынствамі, ні з судамі.

— А што гэта?

— Алібі — калі той, каго падазраюць, даказвае, што ён у гэты час не быў на месцы злачынства,— растлумачыў Карней, які нярэдка здзіўляў бацькоў сваімі ведамі.

Тлумачэнне Карнеева чамусьці ўзлавала Таісу Міхайлаўну. Не, бадай, узлавала яе тое, што бацька і сын абмяркоўвалі падзею спакойна, як нешта староннее, што асабіста іх мала тычыцца. Іван, безумоўна, так не думаў, але з сынам гаварыў з мужчынскай разважлівасцю і спакоем: навошта хлопцу наганяць падазронасць і страх? Даволі іх у маці. Не хапала яшчэ, каб і яны панікавалі.

— Дурні вы! І следчыя вашы дурні! — гнеўна сказала яна і паправіла аркуш чарцёжнай паперы, якім засланяла акно і які нехта з іх, бацька ці сын, мабыць, знарок адсланіў.

Раніцой наступнага дня ашаламіла вестка, што Хведар Шчэрба памёр. Гэта было неспадзявана. Напярэдадні, калі яны з Любай былі ў бальніцы, Хведар яшчэ спрабаваў жартаваць, і Таіса Міхайлаўна з радасцю заключыла, што самае страшнае прайшло, ды і ўрач сказаў, што крызісны стан мінуў. Толькі Люба, скупая на ласкавае слова і на слязу, раптам заплакала ў машыне: «Памрэ Хведзька».

Вестку ў дом Батракоў таксама прынесла Люба. На світанні зімовага дня, калі яшчэ былі дома Іван і Карней, увайшла без «добрай раніцы», у чорнай хустцы, з пачарнелым тварам, простая і суровая, як манумент, застыла ля парога.

Люба маўчала, а Таіса Міхайлаўна раптам заплакала. Гучна, страшна, роспачліва. Быццам страціла самага блізкага чалавека. Калі бацьку тры гады назад хавала, так не плакала. Села ля стала, закрыла твар рукамі і плечы яе сутаргава трэсліся. Ажно Люба разгубілася і пачала супакойваць, так звычайна суседзі супакойваюць аўдавелых жонак, асірацелых матак:

— Ну годзе табе, годзе. Не вернеш.

Карней таксама разгубіўся, бо ніколі не бачыў, каб маці так плакала. Іван паіў яе валяр'янкай. Івану было асабліва цяжка, ён усё яшчэ адчуваў сваю віну, што перадаў машыну Хведару. Але яго пачуцці выявіліся інакш, па-мужчынску: ён змоўк і за два дні не сказаў

двух дзесяткаў слоў — хіба толькі пра тое, што датычылася пахавання. Калі труну з целам Хведара прывезлі і знялі века і ён убачыў сябра, на твары якога як бы застыла здзіўленне, то закрыў вочы шапкай і так стаяў колькі хвілін.

На пахаванне прыйшло ўсё сяло, нямала людзей прыехала з іншых брыгад. Хведара любілі. Часам лаялі за бязладнасць, аднак усе любілі за весялосць, за бяскрыўднасць — нікога не пакрыўдзіў ні п'яны, ні цвярозы, за бескарыслівасць, акрамя чаркі гарэлкі, іншай выгады чалавек не шукаў і не хацеў I памагчы людзям умеў — і справай, і словам.

Жанчыны плакалі. Таіса Міхайлаўна таксама плакала, але ўжо не так, як у тую раніцу. А Люба слязінкі не выраніла. Як акамянела. Старыя бабы раілі ёй:

— Пагаласі, галубачка мая. Пагаласі. Лягчэй на душы будзе.

Галасіла дачка Хведара, Тамара, млела колькі разоў.

Таіса Міхайлаўна давала ёй кроплі, нашатыр нюхаць. І папракала сябе, што зноў нядобра думае пра Любу, ды і пра Тамару таксама. Асаблівым жаночым чуццём адчувала: акамянела Люба ад раскаяння, што так мала давала радасці свайму Хведару, што ў крыклівых бабскіх сварках тапіла любоў сваю, што толькі цяпер непапраўна позна зразумела, як з такім чалавекам можна было б жыць, каб яна менш слухалася маці сваю. Маці яе, старую Гузырыху, Таіса Міхайлаўна ў той дзень узненавідзела: сказала ёй суседка Шчэрбавых, што старая ўчора ўвечары, калі труна з нябожчыкам стаяла ў яго хаце (у дзень пахавання яе перанеслі ў клуб), патрабавала запрасіць для адпявання Шышку. Тамара істэрычна закрычала бабулі ў твар, што, маўляў, людзі кажуць: гэты «святы» падсунуў якісь запал у машыну, хацеў Івана Батрака забіць. А старая агрызалася па-дурному: маўляў, Батрак ведаў, што машына няспраўная, таму не паехаў сам, пасадзіў Хведзьку, а цяпер шукае, на каго віну зваліць, ды «бог усё бачыць і ўсё чуе і не дасць у крыўду таго, хто служыць яму».

Расказ гэты не выходзіў у Таісы Міхайлаўны з галавы. Перш-наперш падумала, што, калі Гузырыха, якая ходзіць да Шышкі на маленне, хацела запрасіць яго, то, значыцца, ведае, што не такі ён хворы, як запісала ў гісторыю хваробы Рыма Сяргееўна і як дала даведку следчаму, мімаволі ствараючы паліцаю тое самае алібі, пра якое казаў Карней.

А потым прыйшла другая думка: Гузырыха напэўна скажа пра ўнуччыны словы Шышку, святошы такія — фанатычныя і адданыя свайму пастыру, і тады той, узнаўшы, што на яго падае падазрэнне, можа ўцячы. Напэўна ўцячэ.

Не падабалася на грамадзянскай паніхідзе выступленне Качанка: Яшка пагражаў, што органы разбяруцца, ад чаго адбылася такая аварыя. Каму ён пагражаў?

На могілкі ішлі міма Шышкавай хаціны.

Таіса Міхайлаўна са сваім медыцынскім саквояжыкам увесь час была каля Любы, каля Тамары: раптам камусьці з іх стане блага.

А на краі вуліцы пакінула сваякоў нябожчыка, адстала ад іх, знайшла ў натоўпе мужчын мужа, узяла яго пад руку.

Яна глядзела на пахілую, з прыплюснутымі аконцамі хаціну. Іван таксама паглядзеў туды. І яшчэ шмат хто павярнуў у той бок галаву. Асабліва мужчыны — Іванавы і Шчэрбавы таварышы.

Таісе Міхайлаўне здалося, што да шыбы прыліпла агідная Шышкава морда. Яе пачало ліхаманіць. Іван пачуў, як яна задрыжала, занепакоіўся:

— Што з табой?

— Ён глядзіць,— прашаптала яна.

Тады ён зразумеў жончын стан, моцна сціснуў яе руку.

— Ніхто не глядзіць. Супакойся. Выкінь з галавы. Выкінь з галавы, прашу цябе,— ён сказаў тыя словы, якія нядаўна сама яна гаварыла яму.

Іван спалохаўся, што яго душэўная хвароба перадаецца ёй. Здарыцца гэта — у доме пагасне радасць. Упершыню пашкадаваў, што так многа расказваў Тасі, усё расказаў — пра мінулае, пра вайну і пра тое, што перажыў, калі ўбачыў Шышку ў сельмагу, калі ехаў з ім і калі той пабег па рунi. І сон свой страшны... Не трэба было жанчыне ўсяго гэтага расказваць! Жаночыя ў яе нервы.

Увечары таго дня прыехала Валя. Безумоўна, на шашы, ля сельмага, ёй расказалі пра няшчасце, і яна прыйшла дадому сцішаная, засмучаная. Калі маці і Карней расказалі, як усё здарылася, у Валі заблішчалі на вачах слёзы: яна была чуллівая. Але маладосць ёсць маладосць, радасць жыцця ў яе не знікае ад смерці не толькі аднаго, але і многіх людзей. Хіба не кахалі, не жаніліся, не радаваліся ў вайну, калі гінулі тысячы і мільёны?!

Прыехала Валя пасля таго, як атрымала матчына пісьмо, яе паведамленне, што нарэшце і бацька не пярэчыць супраць Сашавага сватаўства, што ўсе завалы на шляху да іх шчасця расчышчаны і яны могуць прыходзіць прасіць іх, бацькоўскага, блаславення.

Ад пісьма матчынага ўсё роўна што крылы выраслі. Ва ўсялякім разе, з такім адчуваннем дзяўчына ехала дадому, праклінаючы ў думках аўтобус, які занадта для касмічнага веку павольна ішоў. Ёй не цярпелася.

Гадзіны праз дзве, навёўшы ў доме парадак на свой развіты, як яна лічыла, эстэтычны густ, знішчыўшы сляды матчынай і Карнеевай бытавой анархічнасці (бацьку, акрамя ўсяго іншага, яна любіла за акуратнасць, у яго заўсёды ўсё прыведзена да ладу), Валя са шчырай дзявочай сарамлівасцю і нясмеласцю — разумела, што не лепшы дзень выпаў для трыумфу яе радасці,— сказала маці:

— Мамачка, мы прыйдзем з Сашам...

— Сягоння? — здзівілася Таіса Міхайлаўна,

— А што?

— Валечка, чалавека толькі пахавалі.

— Не свайго ж. Не блізкага.

Маці паглядзела на яе з такім дакорам, што Валя ажно сцялася. Маці не закрычала, не, яна панізіла голас амаль да шэпту; яны гутарылі на кухні, а ў зале сядзелі бацька і Карней. Але які гэта быў шэпт!

— Не, Валечка, свайго, свайго! Самага блізкага! Самага роднага!

Пазней, бачачы, як засмуцілася дачка, пашкадавала яе, суцешыла, сказала ласкава, пахваліла будучага зяця:

— Дурачка, сам жа Забаўскі ў такі дзень не пойдзе. Ён жа разумны, народныя звычаі знае.

25

На ўрачэбны пункт прыехала інспектар аблздрава Еўдакія Міронаўна Бурмістрава. Таіса Міхайлаўна ведала яе ўжо гадоў пятнаццаць; яна прыязджала, калі ў Добрынцы яшчэ быў фельчарска-акушэрскі пункт і маладая яшчэ Тася часова загадвала ім. Інспектарка тады моцна паганяла акушэрку за неакуратны ўлік хворых і неахайныя запісы гісторый хвароб. У Тасі былі малыя дзеці, будаваўся дом, хварэла цётка Хвядора, і яна такі сапраўды трохі запусціла работу. Але ўдзень, паездзіўшы на возе па вёсках сельсавета, строгая інспектарка проста спытала:

— Абедам ты мяне накорміш?

Узрадаваная, Тася з дапамогай санітаркі і суседак за паўгадзіны сабрала ёй «купецкі» абед і накрыла стол не ў Хвядорынай хаціне, а ў сваёй, новай, дзе толькі што былі ўстаўлены і зашклёны рамы, наслана падлога і дзе так пахла сасной, што сама Тася п'янела ад гэтага водару, як ад віна.

Еўдакія Міронаўна аказалася вельмі простай, свойскай жанчынай. Любіла паесці. Выпіць. Песні спявала. Ваенныя і пра жаночую долю. Некаторы час, гадоў колькі, яна, праўда, не прыязджала. Але пасля таго, як стварылі ўрачэбны ўчастак і Бурмістрава сама прывезла ім Рыму Сяргееўну, выпускніцу медінстытута, высокую, нязграб-

ную, худую (чамусьці адразу ўсе жанчыны пашкадавалі маладую ўрачыху), і за абедам, зноў жа ў яе, Тасіным доме, пахвалілася, што гэта яна «выбіла» ім урачэбны пункт, хоць добрынцы не сумняваліся, што «выбіў» Астаповіч,— з таго часу Еўдакія Міронаўна прыязджала па два-тры разы на год; для абласнога работніка столькі ўвагі да сельскага пункта ўжо і занадта. Але інспектарку як нешта зрадніла з Рымай Сяргееўнай, можа агульнасць лёсаў: сама Бурмістрава была адзінокая і ў Рымы Сяргееўны пры яе нежаночай паставе і высокай патрабавальнасці было мала шанцаў выйсці замуж. Можа цётка Дуся, як яе называлі завочна, па-мацярынску шкадавала маладую ўрачыху, бо аднойчы сказала Таісе Міхайлаўне: бог даў Рыме талент урача, веды, душэўную дабрыню, але пашкадаваў, стары хрыч, жаноцкасці — выцягнуў лазіну трохі не двухметровую і не вылепіў па-боску ні твар, ні грудзі, ні бёдры.

Калі інспектарка часам даволі строга прабірала Рыму Сяргееўну за памылкі ў рабоце — а яны заўсёды бываюць! у каго іх няма? — Тасі здавалася, што бабуся проста пастарэла, цяжка ёй ездзіць у далёкія раёны, у глухія сёлы, таму і ездзіць так часта ў іх Добрынку: блізка, роўна, па асфальце, прымаюць сардэчна.

Пра гады свае Еўдакія Міронаўна не любіла гаварыць, але ўвесь час выстаўляла іх — планкай ордэнскіх калодак, якую насіла заўсёды, на любым касцюме і сукенцы. Ды і расказамі пра свой удзел у вайне пацвярджала, што даўно ўжо мае пенсійны ўзрост.

Інспекцыйныя свае абавязкі Бурмістрава выконвала шчыра. Правярала ўсю работу, не даравала прамашак, часам нават грубавата лаялася. Але і памагала шчыра: абавязкова гутарыла з усім медперсаналам, з веданнем расказвала пра новыя метады лячэння розных хвароб, пра новыя формы арганізацыі і абслугоўвання насельніцтва. Чытала лекцыі. Са смехам расказвала, што правяраючы неяк адну школу, яна пажадала пагутарыць з вучнямі старэйшых класаў, асобна — з дзяўчатамі, асобна — з хлопцамі. Загадчыца навучальнай часткі, старая настаўніца, паслухаўшы яе гутарку з хлопцамі дзевяці- і дзесяцікласнікамі, спалохалася да паўсмерці, напісала рапарт у райана. З рапарта таго смяяліся медыкі ўсёй вобласці.

У тую раніцу Бурмістрава пачала інспекцыю гутаркай з персаналам урачэбнага пункта. Два ўрачы (адзін зубны, па сумяшчэнні, фельчарыца, медсястра, дзве санітаркі — і ўся аўдыторыя. Але інспектар выступала, як перад вялікай залай. Прыйшоў загад міністра аб раннім выяўленні сардэчнасасудзістых захворванняў і аб прафілактычным лячэнні хворых на сэрца. Вялікая сістэма франтальных мерапрыемстваў, цэлы комплекс. Каб ён выконваўся, усе людзі былі б

здаровыя. Пасля многіх пастаноў, загадаў, адкрыцця новых лекаў было многа шуму, а хваробы застаюцца, і людзі паміраюць. Гэта, магчыма, адзінае, пра што падумала Таіса Міхайлаўна на лекцыі Еўдакіі Міронаўны. А больш не слухала. Не, слухала, але нічога не чула. Думала пра сваё. Разумела, што Бурмістрава бачыць, што яна не слухае яе, здзіўляецца: заўсёды акушэрка была такая ўважлівая! Але цяпер Таіса Міхайлаўна не магла перадужаць сябе, ды і абыякавая была да таго, што падумае пра яе інспектарка.

Скончыўшы дзелавую гутарку, Еўдакія Міронаўна спытала:

— Ты, Тася, сёння бытта плаваеш у аблоках. Што з табой?

Пасля лекцыі Бурмістрава правярала ўрачэбную дакументацыю і адразу выявіла непарадак. Нідзе — ні ў кнізе назначэнцаў, ні ў гісторыі хваробы — не запісвалася, што хвораму Шышкову зроблены нядаўна пазначаныя ўрачом ін'екцыі.

— Рыма! — строга спытала Еўдакія Міронаўна.— Скажы ты мне, гэта вы лянуецеся пісаць ці лянуецеся працаваць?

Маніць Рыма Сяргееўна не ўмела. На твары яе выступілі фіялетавыя плямы. Яна вылаялася:

— Чортава гультайка!

Словы гэтыя адносіліся да медсястры Лены. Але той не было ўжо на пункце — пайшла выконваць назначэнні, і Таіса Міхайлаўна, якая была ў пакоі, магла прыняць гэтыя словы на сябе.

З Ленай у Таісы Міхайлаўны адносіны былі складаныя. Яна займала пасаду фельчара і акушэркі, але акушэрскіх абавязкаў было мала — колькі тых родаў цяпер, колькі дзяцей! — і яна дзяліла з Ленай абавязкі медсястры. Натуральна, што за ёй, сталай жанчынай, сямейнай, Рыма Сяргееўна замацавала Добрынку, а Лене трэба было абслугоўваць далёкія сёлы і пасёлкі. Маладая, год назад скончыла вучылішча, але ленаватая і самаўпэўненая, Лена лічыла такое раздзяленне несправядлівым. Маўляў, у Батрачыхі муж шафёр, мог бы падвозіць жонку, а ёй, нябозе, часта прыходзіцца пехатой шлёпаць па гразі ў непагадзь, абутку больш падзярэш, чым таго заробку. Ды, вядома, Батракі багатыя, у госці ўрача запрашаюць, частуюць... А калі Таіса Міхайлаўна адмовілася рабіць уколы Шышку, які жыў на яе ўчастку, і Рыма Сяргееўна даручыла гэта Лене, тая зусім надзьмулася. З-за эгаізму, ляноты ці дурноты яна нічога не хацела ведаць, нічога не хацела разумець, акрамя сябе, дакладна ўлічвала толькі сваю працу. Напрыклад, Тасіны абавязкі старшай сястры — загадванне аптэкай, паездкі па лекі, па інструменты, бялізну, іншыя гаспадарчыя клопаты — Лена ўвогуле не лічыла за работу. Падумаеш, з'ездзіць у горад на

машыне з мужам, часта дырэктар і легкавушку дае! Ёй бы такая работа!

Але цяпер, можа ўпершыню, Таіса Міхайлаўна не асудзіла Лену, што тая не выконвала назначэнні Шышку. Можа яна не зрабіла не з-за ляноты, а з-за агіды да паліцая, з-за пратэсту супраць яго.

Бурмістрава абуралася:

— Міністр выдае загады. Уся медыцына ўзнята на барацьбу з сардэчнымі захворваннямі. А вы забываеце сардэчніку рабіць уколы! — Папракнула і яе, Таісу: — А ты, фельчар, што глядзіш? Вопытная работніца! Лена ваша гультайка — сама зрабі. Ох, даўно я цябе ганяла!

Таіса Міхайлаўна ўспыхнула. Рыма пачала яе абараняць:

— Тут, Еўдакія Міронаўна, такі выпадак...

Таісе Міхайлаўне не захацелася слухаць Рыміны тлумачэнні. Выйшла ў другі пакой. Але яе не пакідала адчуванне, што гэта не Лена, а яна падвяла свайго ўрача. Яна першая адмовілася лячыць паліцая. Сабраўшыся на працэдуры, яна вырашыла не мінуць на гэты раз і Шышку. «Чорт з ім, з гэтым гадам! Няхай на хваробу яму будзе гэтая ін'екцыя!»

Ішоў густы сухі снег. Ад такога сухога снегу не пратаптаная яшчэ сцежка паўз хаты не была слізкая. Але Таісе Міхайлаўне яна здалася вельмі слізкай. Ці не ад таго, што ногі яе зрабіліся алавянымі і не неслі ўперад, а як бы цягнулі назад? І ў галаве шумела. Са страхам, якога ніколі не адчувала перад хваробамі, яна думала: хоць бы не загрыпаваць. Быццам грып мог перашкодзіць ёй зрабіць нешта вельмі важнае ў жыцці.

У чамаданчыку звінелі банькі. Трэба будзе паставіць банькі Сернікавай Веры і зрабіць ін'екцыю біяміцыну Даніленкавай унучцы. Заўсёды яна пачынала з дзяцей. Але цяпер прайшла міма Вользінай хаты. Хацелася выканаць хутчэй гэтую, самую цяжкую з усіх працэдур, якія ёй прыйшлося рабіць за дваццаць гадоў работы.

Старалася не думаць пра Шышку, Думала пра іншых людзей — пра добрых. З ласкавасцю падумала пра Бурмістраву. Цікавая цётка. І добрая, і строгая. Трэба будзе на абедзе спытаць: завошта яна так палюбіла Рыму? Як дачку. Раптам прыгадаўся даўні расказ Еўдакіі Міронаўны.

У вайну Бурмістрава рабіла сястрой у франтавым шпіталі. Палкоўніку, начальніку палітаддзела арміі, з цяжкім крупозным запаленнем лёгкіх былі назначаны ўрачом глюкоза ўнутрывенна і страфанцін. Урач напісаў: страфанціні 5-6 к. Урач меў на ўвазе пяць-шэсць кропель: у той час страфанцін быў у флаконах, а не ў

ампулах, як цяпер. Дуся прачытала: пяць-шэсць кубікаў. Палкоўнік памёр — не паспела яна выйсці з палаты. Урача — на перадавую, яе — на перадавую, санітаркай у штрафную роту. «Во як, мілыя мае, трэба думаць над кожнай працэдурай, якую вы робіце,— гаварыла тады Еўдакія Міронаўна.— Шчасце маё: штрафнікі мяне палюбілі, ахоўвалі, раненую вынеслі. Крывёю я змыла сваю віну. А пасля так ваявала, што вось бачыце...» — і пагладзіла ордэнскую планку, яна часта яе ласкава гладзіла, і Таісу Міхайлаўну гэта заўсёды чамусьці кранала.

Прыгадала гэта і ажно спынілася пасярод вуліцы, ашаломленая нечаканай страшнай думкай: «А што, калі і мне памыліцца? Яму назначаны тая ж глюкоза і той жа страфантын». І адчула, што ногі зусім самлелі і цела абмякла, аблітае халодным потам. Галава кружыцца. «Божа, пра што я думаю? Трэба вярнуцца і сказаць Рыме, што я захварэла. Гэта грып. Як недарэчна. Да вяселля Валю трэба рыхтаваць».

Але праз момант заспакоіла сябе: у чамаданчыку ў яе толькі адна ампула страфантыну, якая нікога не заб'е, толькі паможа хвораму сэрцу.

Калі ўзялася за клямку Шышкавай брамкі, зноў абліў халодны пот і падэшвы ботаў прыліплі да свежага снегу, як да расплаўленага бітуму, але яна заспакоіла сябе тым, чаго яшчэ колькі хвілін назад баялася: «Нічога, гэта ад грыпу, ад яго такая слабасць».

І ўсё роўна як баючыся, што грып зваліць яе зусім, тут жа, на вуліцы, хутка адчыніла брамку, новую, да прыезду Шышкі яе зусім не было, уваход у двор загароджваўся жэрдачкай. Праз нізкія дзверы нават ёй, невысокай, трэба было нахіліцца, без стуку прашмыгнула ў хацінку. І захапіла гаспадароў знянацку.

Шышка, мажны, плячысты, у ватніку і валёнках сядзеў ля парога, перад печчу, на калодзе, і калоў сякерай смалісты цурбан на тонкую лучыну. Таіса Міхайлаўна, аслепленая паўзмрокам, трохі не спатыкнулася на яго. Разгубілася. Не павіталася. Праўда, і ў іншай сітуацыі яна наўрад ці стала б жадаць «добрага дня» ў гэтую хату.

Шышка, крэкчучы, падняўся з калоды і прыціснуў руку да сэрца, паскардзіўся:

— Толькі нагнуўся — і ўжо закалола,— і, перахрысціўшыся, сказаў, пэўна, з бібліі: — Истощилась в печали жизнь моя...

Ды на хворага ён не быў падобны. Але яшчэ больш выразна стан яго выдаў ложак. Ён не быў засланы. Але на ім ляжала непамечаная гара падушак. Іншага месца ў гэтай маленькай хаціне, акрамя ложка і печы, для падушак не было. Ганна, ідучы рана на работу ў лясніцтва,

склала падушкі на ложак, узбіўшы іх, і яны не кранутыя з таго часу, а скора поўдзень. Значыцца, не было ў Шышкі патрэбы ляжаць.

Старой адразу не ўбачыла. Толькі наблізіўшыся да стала, каб пакласці на яго свой медыцынскі чамаданчык, адчыніць яго і ўзяць неабходнае для ін'екцыі, Таіса Міхайлаўна ўбачыла Марыну і скаланулася ад яе выгляду. У дзіўнай паставе, за сталом, у самым куце, пад абразамі, сядзела маленькая, згорбленая, бяззубая, сівая і бледная бабулька, яе сухія ручкі ляжалі на белым настольніку, яна варушыла вузлаватымі пальцамі, як бы хацела сціснуць іх у кулакі і не магла сціснуць. Тася даўно не бачыла яе і бадай жахнулася, што Марына так змянілася за апошні час. «Не соладка табе, відаць, з гэтым гадам».

Марына глядзела на Таісу Міхайлаўну шырока расплюшчанымі вачамі, і ў іх бачыўся выразны страх. Ад чаго? Ад яе, Тасінага, неспадзяванага для іх з'яўлення? Ці ад размовы, якую яны вялі да яе прыходу? Можа ад думкі, што яна магла пачуць пад дзвярамі іх размову? Каб не маўчаць, Тася сказала, вяртаючыся да Марыны:

— Снег дабрэнны пайшоў.

Старая ўстрапянулася, яўна ўзрадавалася яе голасу і гэтым простым словам, якія ўвогуле нічога не значылі, а для яе напэўна нешта значылі, падтрымала размову:

— Старыя кажуць, добрая прыкмета, калі на Міколу снег ідзе, на ўраджай ета.

— Ураджай цяпер ад хіміі.

— Без бога ніякая хімія не паможа,— адгукнуўся Шышка, крэкчучы і стогнучы; за спіной у фельчарыцы ён распранаў ватоўку, закасваў рукаў сарочкі.

Але Таіса Міхайлаўна патыліцай бачыла, як пільна, цераз яе плячо, паліцай сочыць за тым, як яна ломіць ампулы з глюкозай, са страфанцінам, набірае ў шпрыц. Чуючы, як Шышка сочыць, яна сказала:

— Уключыце святло.

Шышка ажно з палёгкай уздыхнуў, калі хату ярка асвятліла лямпачка, што вісела пад нізкай столлю. І зусім спакойна заваліўся на гару даччыных падушак. Перавязваючы яму жгутом руку, каб знайсці вену, Таіса Міхайлаўна ажно здзівілася, якія моцныя ў яго мускулы, якая гладкая і маладая скура: рэдка ў людзей яго ўзросту яна бачыла такія рукі. І ёй раптам да болю стала шкада Марыны: вунь хто сапраўды адпакутваў, таму і зрабілася, што мошчы.

Калі павярнулася да стала, каб узяць шпрыц, Марына, падняўшыся, раптам сказала ціха, здавалася, абыякава:

— Не калі ты яго, дзетка. Здаровы ён, як бугай. Ета ён Хведзьку! Ён! Усю ноч майстраваў... А пад ранне... А пад ранне... пайшоў... куды пайшоў?!.

Апошнія яе словы заглушыў звярыны крык Шышкі: усё змяшалася ў гэтым крыку — стогн, выццё, брудная лаянка.

Паліцай падхапіўся з ложка, кінуўся да печы, схапіў сякеру. Ды не паспеў ён замахнуцца, як да яго кінулася Таіса Міхайлаўна і... выхапіла з рук яго сякеру...

Прыйшоўшы дадому, дзе Валя паводзіла ідэальны парадак, верачы, што нарэшце маці згодзіцца, каб яны прыйшлі з Сашам і адбыліся іх заручыны, Таіса Міхайлаўна нічога не сказала дачцэ, толькі папрасіла яе схадзіць па машынны двор паклікаць бацьку.

Валя пырхнула матыльком.

Застаўшыся адна, Тася вырашыла перш-наперш сабраць бялізну, каб усё было гатова, калі па яе прыедуць. Адчыніла шафу, паглядзела на свой набытак, на паліто, плацці, футры, і тут ёй захацелася плакаць. Узлавалася на сябе за такую слязлівасць і нічога не стала збіраць. Перададуць, што можна! Толькі надзела цёмна-сіні касцюм, у якім звычайна ездзіла на нарады, хадзіла на сесіі сельсавета, абула чорныя чаравікі, уключыла тэлевізар і села перад ім, як госця ў сваім доме. Паказвалі нейкі фільм, але ўнікнуць у яго змест яна не магла.

За акном гусцеў снег. Гэта быў снег жыцця — будучага ўраджаю. Але, гэта было жыццё, і яна адчула яго з новай, бадай невядомай дагэтуль сілай і думала пра ўраджай, пра дзяцей, пра здароўе. Радавалася, што ніякага грыпу ў яе няма. Ногі больш не здаваліся алавянымі. І галава светлая. Добрымі цёплымі хвалямі падступалі сіла, бадзёрасць і... спакой. Гэта радавала больш за ўсё — што знік страх, з якім яна жыла апошнія дні, пасля аварыі,— страх за Івана, за дзяцей. Цяпер яна нічога не баялася. Ад таго, што здарылася так нечакана — не паспела яна і падумаць — але, безумоўна, непазбежна, бо толькі так магла яна засланіць старую, сябе, Івана, дзяцей,— ад таго засталося адчуванне забруджанасці рук. Колькі ні мыла рукі на ўрачэбным пункце... спіртам мыла — не адмыла. Напэўна, праз гэта не хацелася ні да чаго дакранацца тут, у сваім доме. Рукі ляжалі на каленях, як чужыя.

Думала яна пра рознае — неяк пра ўсё адразу. Толькі асобна вырывалася думка аб непазбежнасці таго, што зрабіла. Каб застаўся Іванаў боль, боль яго памяці, страшна падумаць, што было б з ім. Яна павінна была ўзяць яго боль! Цяпер у Івана будзе другі боль — за яе. Але ад гэтага болю ёй будзе спакойна, дзе б яна ні знаходзілася.

Аднаго Таіса Міхайлаўна з баязлівай нецярплівасцю хацела: каб Іван прыйшоў хутчэй, чым па яе прыедуць. Дарэмна яна так спакойна сказала Валі паклікаць яго, гэтая закаханая каза паскача, чаго добрага, міма канторы, а там сустрэне свайго Сашу і забудзецца на ўсё. А яшчэ ёй хацелася, каб дзяцей не было ў хаце, калі яе будуць забіраць. Каб быў адзін Іван.

Івану пазваніў Астаповіч раней, чым да яго прыйшла дачка.

— Бяжы дадому, жонка твая, брат, такое ўтварыла...— Але не сказаў — што, бо не мог знайсці слова, як назваць яе ўчынак. Няшчасцем? Бядой? Для каго? Сам Астаповіч да сардэчнага прыступу быў ашаломлены паведамленнем доктаркі і смактаў валідол.

Іван бег праз гароды — як толькі не разарвалася сэрца. Ускочыў у хату, убачыў жонку ў крэсле перад тэлевізарам і... аслупянеў. Ці не жарт? Але ж — сам Астаповіч! Хіба ён будзе так жартаваць? А яна паднялася, стаяла на высокіх абцасах, прыгожая, як у маладосці, ласкава ўсміхалася яму.

— Чаго ты такі спалоханы, Ваня? А я... я, знаеш, якая? Як тыя салдаты, што прыйшлі ў Берлін. Я скончыла яе, вайну... яна вярнулася была да нас... да цябе... да дзяцей...

Івана здзівілі і спалохалі яе незвычайныя, як у вершах, словы. Ён здагадаўся, што яна зрабіла. Тася падышла да яго, абняла і сказала зусім проста, па-бабску:

— Ты ж не забудзеш мяне, Ваня.

— Што ты гаворыш, Тася! Родная мая!

— І Забаўскаму скажы... Каб ён Валечку не пакрыўдзіў. Ён добры. Ён разумны. Няхай пажэняцца скарэй.

Ад гэтых слоў Іван заплакаў.

Таіса пагладзіла яго па галаве, як малога. І адразу пачула, што рукі яе сталі чыстыя. Яна ўсміхнулася. Сумна і радасна.

Шамякін І.

Вазьму твой боль: Раман: — Мн.: Маст. літ., 1982,— 342 с.

Новы раман народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна «Вазьму твой боль» — твор аб нашых сучасніках, аб людзях сённяшняй вёскі. У цэнтры аўтарскай увагі расказ пра лёс таго пакалення беларусаў, якое ў час вайны было дзецьмі і якое яна асіраціла. Але і дагэтуль ваенная трагедыя адгукаецца ў жыцці людзей і нярэдка ломіць іх шчасце, як вось зламала, разбіла яна шчасце Івана Батрака, галоўнага героя рамана.